# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ ПОЛІТЫКІ ЭКОНОМІКІ ГІСТОРЫІ КРЫТЫКІ

ЛІСТАПАД
СЬНЕЖАНЬ

1929

№ 11-12





БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ВОСЬМЫ



ЛІСТАПАД—СЬНЕЖАНЬ
1929




БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1929

# СЫХОДЗІШ ВЕСКА З ЯСНАИ ЯВЫ...

**Янка Купала**

Як сон маркотны, нежаданы,
Сыходзіш вёска з яснай явы,
А твой народ вернападданы
Імкнецца, скінуўшы кайданы,
Да новай долі, новай славы.

У поле выйдуць твае людзі
З інакшым складам і прыладай:
У грамадзе сяўба іх будзе,
Смактаць ня будзе вызыск грудзі,
Адна верх возьме думка—рада.

З жабрацкай торбай твой патомак
Ня пойдзе па сібірным шляху
Шукаць прытулку, як бяздомак:
Жудкі гісторыі абломак
Пад сказ дзён бурных згібне прахам.

Гарбы тваіх нямых курганаў,
Дзе сьпяць нявольнікі і князі,
Парэжа сталь, як нож баранаў,
І спражыць полымя буянаў,
Каб цьвет зацьвіў на гразкай гразі.

Дзе за пасёлкам лёг пасёлак,
Гіганты ўзьнімуць сьцяг бунтарны,
І ў блысках квяцістых вясёлак,
Дым гасячы лучын і смолак
Зайскрыць электрыка ўладарн

Тваіх жалеек сьпеў гарот
Патопча трактарнае кол
А сейбіт твой—дасюл самотны,
Абцёршы сонцам во к потны,
Пад крыж ня пой енчыць квола.

Тваё трухлявыя калёсы
Аўто бэнзынаю спапеліць,
А твой касец проставалосы
Мазольныя паломіць косы,
Гнуць плеч ня будзе ля аселіц.

Твая дзяўчына пры кудзелі
Сьляпіць ня будзе ясных вочак:
З жалеза просьніца надзеліць
Сукном і шоўкавым кужэлям
Сваіх сялян, сваіх рабочых.

Тваё сівыя забабоны
Усьмерціць радыёвы гоман,
І ў тон зайграюць зорнатонны,
Забыўшы крыўды і прыгоны,
Адвечны бор, адвечны Нёман.

Лясун з русалкаю пакіне
Палохаць сонныя сялібы
І вадзянік загіне ў ціне,
Спадзе з хацінаў павуціньне,
Заскача сонца ў срыбных шыбах.

Над вежамі тваіх бажніцаў
Фабрычны комін возьме ўладу,
А звон зьбянтэжаных званьніцаў
Гудка жывучая крыніца
Заглушыць гулкім гудам-ладам.

І будуць ладзіцца год кожны
На новы лад, на новы звычай
Дзяды Кастрычнікавы збожна
А кожны год больш пераможна
Для сьвята волі бунтаўнічай.

Так сыдзеш вёска з яснай явы,
Як сон маркотны, нежаданы,
Бо твой народ вернападданы
Ідзе ўжо, скінуўшы кайданы,
Да лепшай долі, лепшай славы.

Менск,
Лістапад 1929 г.

# ДРАПЕЖНІКІ*)

*Роман у трох частках.*

**Я. Нёманскі**

Частка другая

XII

Даўно ўжо скончыўся ўрачысты збор шляхты, пачалі глохнуць гутаркі па гасьціных аб новаабраным губэрскім маршалку. Шляхта пакрысе пакідала Менск. Злосныя пані, якія дарэмна патраціліся на дарогу і на прыймо губэрскіх кавалераў, запакоўвалі на вазы разам з куфрамі няўдачлівых паненак, якім так і ня трапіла зачапіцца хоць крыху за маладога. Толькі больш багатыя ды зусім няздатныя паненкі-перастаркі цягнулі з ад'ездам, хаваючы ўпарта надзею знайсьці сабе кавалера. Тоўсты пан Вінцусь альбо сварлівая пані Марта вымушаны былі сядзець у нанятых кватэрах, рабіць візыты, знаёмствы, купляць убёры сваім агідным дарагім дачушкам, траціцца на пачастункі. Рабая панна Скальская засталася адна бяз бацькоў. Яна адважна змагалася за ідэю выйсьці замуж хоць за паштавіка, хоць за настаўніка гарадзкога вучылішча. Яна кідалася ў тэатр, кожны дзень бывала на склізгаўцы сярод гімназыстых падпаручнікаў, дамагалася папасьці на больш-менш шляхетныя вечарыны. Іншыя паненкі вучыліся ад панны Скальскай і вялі адчынена паляваньне на мужчын.

Пан Ляскоўскі ня мог адкарахкацца ад запросін. Кожны дзень да яго наведвалася некалькі сурдутаў, некалькі пацёртых мундзераў, некалькі скрыпучых шоўкам хваляў. Кожны прасіў да сябе, выказваў сваю пашану, сьведчыў, што ён альбо яна вельмі ганарыцца такім шляхціцам, як пан Ляскоўскі, дзівіўся на яго гаспадарчыя здольнасьці. Пан Ляскоўскі не адказваўся, усім лісьліў, але рэдка якое запрашэньне здавальняў. Напасьледак і самыя ўпартыя ў жаданьні замужства паненкі зьніклі. Губэрская жыцьцё ўвайшло ў сваю каляіну. Шляхетная грамадзтва зьбіралася па чацьвяргох у губэрнатаршы, па пятніцах—у князя, па аўторках—у старшыні казённае палаты. На рагох вуліц стаялі звычайныя гарадавікі, паліцмэйстар ганяў прыставоў зачыняць прыватныя яўрэйскія школы і накіроўваць дзяцей у эшыбот. Архірэй, разабраўшы ў кансысторыі дзьве справы аб выключаных за вальнадумства сэміна-

*) Гл. „Полымя" № 8—9.

рыстых, прымаў пана Саланевіча, якому даваў кірунак для артыкулу аб задачах „Союза русского народа“ ў заходнім краю. У газэтцы паведамляліся набажэнствы на бліжэйшыя дні, выезды губэрнатара, зьмяшчаліся корэспондэнцыі аб вечары-балі ў Слуцкай гімназіі, аб падарожжы па губэрні інспэктара вучэбнае акругі, аб ахвяры бабруйскіх гандляроў на ўстановы „Императрицы Марии“. Усё было звычайна, моцна; на звычайных мясцох за сталамі сядзелі чыноўнікі ў канцылярыях. Бывалі здарэньні такія, як абвар машыністага на заводзе Ракаўшчыка, альбо атрута ад загаджанага паветра двох рабочых на гарбарні, але гэта, вядома, не магло зацікавіць „грамадзтва“.

Пану Ляскоўскаму ня было чаго рабіць у Менску. Не, не рабіць, бо ён нідзе нічога не рабіў, а нічога цікавага ў губэрскім жыцьці для яго, здавалася, ня было. А тымчасам ён не пакідаў абрыдлых пакояў гасьцініцы. Раніцою ён прыймаў пракурора альбо сьледчага па асобнаважным справам і заслухоўваў іх справаздачы аб ходзе сьледзтва па ляскоўскай справе, пісаў лісты да губэрнатара, патрабуючы большае дзейнасьці ад жандармэрыі па розыску зьнікшага Зыкава. Увечары амаль штодня ён на пары сваіх жарабцоў пад'яжджаў да князёўскага палацу. На палавіне княгіні і ў пакоях князёўны штодня сьвятло не гасілася далёка за поўнач.

Аднойчы, пасьля звычайна зацяжнага візыту Ляскоўскага, у пакой княгіні ўвайшоў стары князь. Ён нават не пастукаў у дзьверы, хоць звычайна свае наведваньні да княгіні ён рабіў вельмі царамонна, пасылаючы наперад з паведамленьнем свайго пакаёўшчыка. Княгіня з лысаю галавою (бо накладныя валасы былі ўжо зьняты), напоўапранутая замятусілася, занепакоілася такім нечаканым наведваньнем мужа і зьдзіўлена пазірала на яго.

— Чаго вы так уставіліся на мяне, княгіня, як быццам я чудзішча якое?—кепска хаваючы абурэньне, запытаўся ён.

— Выбачайце, князь Зыгмунд, вы так нечакана зайшлі сюды і я ў такім выглядзе...

— Вядома, мяне вы не чакаеце, затое, мусіць, зранку чакаеце пана Ляскоўскага.

Княгіня пачырванела ад носа да лысага лба.

— Што-ж, што-ж... ляпятала яна. Пан Ляскоўскі... пан Ляскоўскі зусім здатны чалавек і паходжаньне яго такое, што няма прычын забараняць яму наведвацца да нас.

— Наведвацца—няхай наведваецца, але ня гэтак часта,—жорстка адказаў князь, праходзячы сярод крэслаў, мяккіх зэдлікаў, маленькіх столікаў, якія займалі ўвесь пакой.

Княгіня маўчала і запытальна глядзела на мужа.

— Нават лёкаі, нават вуліца загаварыла аб тым, што князёўна напэўна выйдзе замуж за пана Ляскоўскага, а вы, шаноўная, нічога ня хочаце бачыць у наведваньнях, ды яшчэ штодзённых.

— Князь Зыгмунд, дык мы-ж не ў Парыжы альбо Вене. Тут у гэтым убогім горадзе людзям няма чаго рабіць як толькі займацца плёткамі аб другіх... А ўрэшце, калі-б князёўна і пажанілася з панам Ляскоўскім...

Княгіня хацела скончыць „то было-б ня дрэнна“, але не пасьпела вымавіць. Князь рэзка павярнуўся, два-тры зэдлікі грукнуліся, ён шыбануў іх у бок нагою.

— Ах, вось як!—візгліва закрычаў ён. Дык вы, можа, пасабляеце гэтаму?

— Як вы, князь, недалікатна абыходзіцеся са мною!—спрабавала упікнуць мужа княгіня, папраўляючы зьяжджаўшы з яе халат.

— Далікатнасьць!—гіраічна прамовіў князь. Мы з вамі ня ў залі... Дык вось, я прыйшоў сказаць вам, каб вы зрабілі крокі да прыпыненьня розных там гутарак аб шлюбе.

— Што вы маеце супроць пана Ляскоўскага? горача, з пагардаю запыталася княгіня.

— Нічога!—выкрыкнуў князь.—Пан Ляскоўскі добры гаспадар, прамысловец, мае шмат маёнткаў, грошай—ва ўсіх банках панапіраў. Нічога, пажаданы муж!—выкрыкнуў яшчэ мацней ён.—Усе павятовыя пані і паненкі чапляюцца за яго. Але-ж вы, шаноўная, хочаце, каб і князь Друцкі лічыў пана Ляскоўскага завідным мужам для свае дачкі, так? Так ці не?

— Вы забываецеся аб тым, што ў князёў Друцкіх... пустая кішэня, а па-другое... гэты грэх з Вацею...

Гэтыя словы княгіня прамовіла дрыжачым ціхім голасам, не пазіраючы на мужа. Лысая ксяндзоўская галава яе схілілася долу, і яна захлюпала носам.

— Твая справа, Зыгмунд, як звычайныя слабыя людзі, скрозь сьлёзы загаварыла яна, сьпяшаючыся ня выпусьціць з рук выпадку, але я дзякавала-б богу, каб нам давялося зрабіць гэты шлюб. Пан Ляскоўскі не абы хто.

— Ну, і цацкайцеся з сваім Ляскоўскім,—злосна, але ўжо ціха адказаў князь, паварочваючыся да дзьвярэй.

І Ляскоўскі, як і раней, амаль кожны дзень быў гасьцём у палацы. Калі гаспадыні заставаліся дома, то Ляскоўскі амаль увесь час траціў з старою княгіняю, гуляючы з ёю ў карты альбо з пашанаю размаўляючы аб сваіх продках і іх шырокім жыцьці. Княгіні гэтыя размовы надта падабаліся, яна ўпэўнівалася ў сапраўднай шляхетнасьці пана Ляскоўскага. Князёўна-ж ледзь прыймала ўдзел у гутарцы. Яна бадай кожны вечар наладжвала катаньне, і рэдка калі ў вазку. Ёй больш падабалася язда вярхом. У мужчынскіх нагавіцах і бліщчастых лякавых ботах, у барашкавай з срэбным галуном шапцы і ў цёплай сабалінай жукетцы яна каля дзевятае-дзесятае гадзіны ўвечары заходзіла ў пакой мацеры.

— Ці пану Ляскоўскаму шэсьцьдзесят год, што яму так падабаецца штос?—вясёла, насьмешна пыталася яна, лёгка сьцябаючы па халяве блішчастым стэкам.

Ляскоўскі пасьпешна ўставаў, княгіня дакорнаківала пышна накручанымі на галаву чужымі валасамі, але маўчала.

Далёка за горад гойсалі Ляскоўскі з князёўнаю на тонкіх з вагністымі вачмі конях. Былі месячныя ночы, калі марозная імгла фосфорнымі іскоркамі блішчэла, таўклася ў паветры, як бясконцы рой срэбных мошак, калі блішчастая дарога нязьменна сьлізгала па сьнежнаму полю, быццам прывязаная адным канцом у тым баку, дзе быў месяц. Былі вечары і завірухі, калі вецер круціў сьнег і з хваляў і з зямлі, надзімаў высачэзныя курганы. У такі час князёўна асабліва ўпарта паганяла каня, звонка рагатала, пападаючы ў курган і падымаючы яшчэ большыя хвалі сьнегу. Ляскоўскі быў зусім халодны да такое язды. Ён толькі пакорна гойдаўся ў сядле сьледам за новаяўленаю амазонкаю.

— Чаму вы як у пахавальнай працэсыі едзеце?—дражніла яго Ваця, кідаючы назад задорныя позіркі.—Можа вернецеся гуляць у штос?

Голас яе быў звонкі і халодна-вясёлы, як мароз у месячную лютаўскую ноч. Ляскоўскі моўчкі даваў шпоры свайму каню і ў некалькі скокаў далёка абганяў князёўну, а потым прытрымліваў і чакаў, пакуль міма ня прамільгне злы з зялёна-зьмяінымі вачмі твар яе. Князёўна траціла прытомнасьць, калі хто выпярэджваў яе ў верхавой язьдзе.

Раз, калі коні іх ішлі побач, князёўна запыталася.

— Скажэце, пан Ляскоўскі, ваша вясковая палюбоўніца любіць езьдзіць вярхом?

Ляскоўскі не абразіўся такім двухмысным запытаньнем, нават ня зьдзівіўся анізьваньня.

— Палюбоўніца? Яе ўжо няма, ды і ня было—гэта была проста „жертва вечерняя“,—агідна рагочучы адказаў ён.

— Ха-ха-ха! Дык вы ўжо прагналі яе? І вам ня шкода такое прыгожае дзяўчынкі?

— Ведаеце, пачакаўшы некалькі хвілін і гэтым паказваючы, што ён хоча сказаць нешта надта цікавае альбо важнае, загаварыў Ляскоўскі, ваша запытаньне выклікае ў мяне адзін успамінак. Некалькі год таму назад быў я ў Швэйцарыі. Надакучылі мне прыбраныя Лозанны, Жэнэвы, Цурыхі з іх накрухмаленымі ад каўнера да падвязак кэльнершамі. Я наняў сабе нейкага Вільгэльма Тэля, які ня меў оркебуза, але добры востры кіёк і лёгкую моцную вяроўку. З ім мы дайшлі аж у такія мясьціны, куды не пападае нават цывілізаваная швэйцарская карова. У гэтых мясцох, куды не даходзяць гукі кароўіх званкоў, я прыпыняўся сапачыць. Раз я заўважыў як на сіні неба закружыўся вагромністы арол. Раскрыжаваныя крыльлі яго выпісвалі кругі, якія ўсё зьменшваліся. Раптам ён стаў на адным месцы і каменям кінуўся долу. На момант ён згінуў у чэрні дрэў, якія былі далёка ўнізу, а потым яго крыльлі мякка

зашурхалі ў мяне над галавою. У капцюрох яго слаба тузалася і папісквала нейкая рабенькая птушачка. Зрабіўшы кругі са два, арол цяжка асеў на тарчэўшы высока камень. Птушачка ўжо ня турзалася. Арол нярухома палымянымі вачмі глядзеў у далячыню, быццам ня мог адарвацца ад таго, што ён там бачыў. Можа, там чакала свайго хаўтурнага лёсу новая ахвяра. Хвіліна—другая, і арол, нават не нахіліўшы галавы да таго, што было ў яго кіпцюрох, распластаў магутныя крыльлі і закружыўся пад ясным сонцам... Рабенькая птушка камячком упала з каменю на другі, трэцьці камень і прапала зусім у змроку крэмністае шчыліны, толькі некалькі пёркаў матылькамі круціліся ў паветры... Я з захапленьнем наглядаў гэтую невялічкую драму і памятую да гэтага часу.

— У вас памяць, мусіць, досыць спэцыфічная?—пільна прыглядаючыся яму ў твар, запыталася князёўна.

— Не, тут няма нічога спэцыфічнага. Такія драмы адбываюцца штодня тысячамі, мільёнамі, і ня толькі сярод зьвяроў альбо птушак, а і паміж людзьмі... Ды інакш і быць ня можа, разважна скончыў Ляскоўскі і вясёла скочыў уперад на кані.

— Я ненавіджу бязгрэшных, бязьвінных людзей, прамовіла князёўна, здаганяючы Ляскоўскага. Ваш арол мне таксама падабаецца, але... але я ня буду маленькаю рабою птушкаю.

Ляскоўскі ўстрапянуўся, вочы яго заіскрыліся, рука, трымаўшая повад, турзанулася разы два. Але праз хвіліну ён зусім супакойна адказаў.

— Да вас мая гісторыя і не датычна.

Моўчкі вярталіся яны на гэты раз з праездкі. Ляскоўскі нават ня застаўся вячэраць. Ён хацеў быць адным. Князёўна зусім ня супярэчыла і, застаўшыся аднэю ў сваім пакоі, яна доўга ня скідала мужчынскае адзежы, якую апранала для катаньня. Думкі яе былі заняты панам Ляскоўскім. Калі яна і раней жадала бачыцца з ім, то ў гэтым была простая цікавасьць да зграбнага мужчыны, як тлумачыла яна сабе, абуранасьць на Ляскоўскага, што ён ня выконваў яе прывярэдаў. Пасьля-ж гэтае гутаркі, у добрасумленнасьць якое яна верыла, Ляскоўскі падняўся ў вачох князёўны Ваці на значную вышыню. Яго амаральнасьць, досыць брудны цынізм падвышаў яго вартасьць. Ляскоўскі залічаўся князёўнаю ў ранг „звышлюдзей“, дзеля якіх звычайныя ўмоўнасьці чалавечых адносін ня існуюць. „Гэтыя людзі складаюць вышэйшую арыстакратыю нашага часу“, думала князёўна, „і арыстакратызм па паходжаньню адыходзіць перад гэтым арыстакратызмам на другое месца“. Другое, што задавальняла князёўну ў Ляскоўскім, гэта апраўданьне яго концэпцыяю ўласнага становішча і адчуваньняў. Успамінаючы сваё мінулае, князёўна знаходзіла там адзнакі „звышчалавечага“, хоць палёт яе ня быў падобны да арлінага. Але-ж аб сабе яна не ўспаміналае ў гэты вечар, толькі адчувала вялікую блізкасьць між сабою і Ляскоўскім.

— Толькі ў кіпцюры не давацца, ня быць рабенькаю птушкаю!—шаптала яна сабе, адчуваючы тамленьне ў целе і ўяўляючы ўсю постаць пана Ляскоўскага.

Ляскоўскі быў заняты ў астатнюю часьціну вечару не такімі ўзвышаныні думкамі, як яго спадарожніца. Аб якім там „звышчалавеку“ яму і ў голаў ня прыходзіла. Праўда, амаль усіх гэрояў „звышчалавечага“ тыпу ён ведаў: і байронаўскімі і ібсэнаўскімі і нават Пшыбышэўскага „звышлюдзьмі“ ён захапляўся. Але калі ён пераказваў князёўне сваё нагляданьне птушынае драмы ў Швэйцарскай Юры, то гэта быў проста крыху ўзвышаны адказ на запытаньне князёўны. Свой брудны ўчынак і паводзіны адносна Зосі ён абмаляваў у форму, як яму здавалася, вышэйшае поэтычнае вартасьці. Цяпер ён быў надта задаволены ўдаласьцю свайго апавяданьня. Ён адчуваў, што такія вобразы павінны ўплываць на кабет і дзяўчат вядомага кругу. Але больш за ўсё задавальнялі Ляскоўскага вынікі гэтага вечару. Словы князёўны аб тым, што яна ня будзе маленькаю рабою птушкаю, упэўнялі Ляскоўскага ў тым, што князёўна ўжо думала аб нейкіх блізкіх адносінах з ім. Можа яна будзе спрачацца, але блізкасьць у пачуцьцях, у думках пачалася. Які-б зьмест гэтае блізкасьці ні быў, Ляскоўскі быў задаволены.

Палюбаваўшыся сабою, сваею ўдачлівасьцю, Ляскоўскі паслаў лёкая за панам Ліўшыцам. Поўгадзіны, якія прайшлі ў чаканьні, вельмі надакучылі Ляскоўскаму. Ён хваляваўся, падыходзіў да аднаго, другога вакна, але апроч марозных кветак на шкле нічога іншага ня бачыў. Стукат у дзьверы прагнаў яго нэрвовасьць і лёгкамысны настрой вярнуўся да яго, адбіўся на ўсім твары.

— Здарылася што?—засопшыся пытаўся Ліўшыц, сьцягваючы з сябе шырокую тхоравую шубу.

— Здарылася, шмат чаго здарылася, Масей... Масейчык!

Ляскоўскі, ня гледзячы на прысутнасьць лёкая, абхапіў Ліўшыца за стан і закруціў яго вакол пакою, няпяваючы матыў нейкага вальцу.

— Дайце вы рады, пакіньце! У мяне сэрца ня такое, каб... каб я скакаў як інстытутка на першым балю, альбо як бедны яўрэй, аддаючы дачку замуж за канторшчыка... Ну, кіньце-ж, пане!—ужо са злосьцю прасіў ён.

Крыху адсопшыся і выцершы выступіўшы раптам на лысіне пот, Ліўшыц прыплюшчыў свае лупатыя вочы і пільна прыгледзеўся да пана Ляскоўскага.

— Я сабе думаю, нешта асаблівае здарылася, калі ў такі позьні час кліча пан Ляскоўскі. Папраўдзе кажучы, я ўжо лажыўся.

— Эх, да ці спаць-жа нам сёньня! Броніс, цягні там, што ёсьць, на стол!—жвава сыпаў Ляскоўскі.

— Добра вам ня спаць! А калі ў чалавека і раматус, і пячонка, і сэрца—цэлы фарш з хваробаў, то спаць трэба, і ў свой час.

— Кіньце вы свае хваробы, сьмяючыся, супярэчыў Ляскоўскі. Ваша найдабрэйшая Вера Саламонаўна ніколі ня скардзілася мне, каб вы адхілілі яе абнімкі.

— Гэта ўжо занадта, пане Ляскоўскі, прамармытаў пацямнеўшы Масей Рыгоравіч.

Ляскоўскі прасіў прабачэньня за вольнасьць сваіх слоў, сказаў, што шануе сьветласьць ложка жанатых, што вельмі рады прыходам Масея Рыгоравіча. Ён так жвава і вясёла гаварыў, што Ліўшыц хутка адмяк і пачаў рагатаць разам з ім. Неўзабаве Броніс з дапамогаю другога лёкая заставілі ўвесь стол бутэлькамі, графінамі, талеркамі, блюдамі. Вочы Масея Рыгоравіча запаліліся бляскам, асабліва як ён прыкмеціў блядазалацістую бутэльку з трыма зоркамі на рыльцы.

— Вы толькі за гэтым мяне і клікалі?—незадаволеным голасам, аднак глынаючы сьлюну, запытаўся Масей Рыгоравіч.

— Па-першае—за гэтым, па-другое... ёсьць і другое, але скажу аб ім за чаркаю,—ня трацячы свайго ігрыстага тону адказваў Ляскоўскі.

Ліўшыц яшчэ раз прыжмурыў свае вочы. Яго выгляд паказваў, што ён здагадаўся, добра ведае прычыну такое жвавасьці гаспадара. Але ён, як і заўсёды ў жыцьці, ня выказваў словам, што ён што-небудзь ведае, даючы магчымасьць людзём выказвацца самым. Ня варта, думаў Масей Рыгоравіч, адбіраць у людзей, асабліва вышэйшых, асалоду пахвальбы: і прыяцелю прыемна і сабе карысьней.

Лёкаяў адасладі. Ляскоўскі скінуў жукетку, сьцягнуў сурдут з Масея Рыгоравіча. Зьвякнулі шклянкі. Праз поўгадзіны Масей Рыгоравіч дарэмна нагінаў бутэльку, якая прывабіла яго спачатку. Прышлося ўзяцца за другую. Ляскоўскі расставіў бутэлькі ў шэраг і піў па чарзе з кожнае. Ён кпіў над Ліўшыцам, які не пакідаў аднае бутэлькі, пакуль яна не станавілася пустою.

— Вось дык сталасьць ва ўсім—у занятках, у жонцы, нават у бутэльцы,—рагатаў Ляскоўскі і тонкае шкло чаркі зьвінела, ляскаючы аб яго зубы.

— А вы кідаецеся з аднаго на другое—хутка адурманееце, страціце голаў,—чвакаючы шырокімі тоўстымі чырвонымі губамі адказваў Ліўшыц.

— Галавы хопіць! і Ляскоўскі засаб выпіў чарак з дзесяць розных вінаў, якія толькі былі ў радоўцы бутэлек.

Пазьней Масей Рыгоравіч сядзеў разваліўшыся ў мяккім крэсьле. У аднэй руце ён трымаў шклянку з віном, а другою матаў, як дырыжэр. Ляскоўскі, чуць хістаючыся, хадзіў па пакоі і фальшыва выводзіў:

Плывут по морю ладьи большие,
Ведет к удаче Санта Лючия.

Ня скончыўшы другога куплету, Ляскоўскі раптам абарваў сьпеў і крыкнуў да сябе Броніся і загадаў яму зараз-жа прывезьці Кацьку і Любку з самою бандаршаю Эміліяю Карлаўнаю. Лёкай заікнуўся быў

аб позьнім часе, але, пачуўшы досыць уплыўны рык, мусіў безадкладна кінуцца ў дзьверы. Масей Рыгоравіч быў крыху зьбянтэжаны, калі ў пакоі пачуўся нёнатуральны рогат дзяўчат і басісты голас Эміліі Карлаўны. Але праз хвіліну на яго тоўстым, як калодка, сьцягне сядзела вёрткая Любка з цыгаркаю ў залочаных зубох. Пан Ляскоўскі круціўся з Кацькаю па пакоі, насьвісттваючы мазурку. Эмілія Карлаўна завіхалася каля бутэлек. Броніс прыносіў яшчэ віна, зьбіраў забруджаныя талеркі, ставіў сьвежую закуску...

Чырвоны бляск ужо прабіваўся праз замерзлыя вокны, калі Ліўшыц ачнуўся ад нясперытнасьці ляжаньня. Побач з ім на канапе спала Любка у разбэрсанай копце. Масей Рыгоравіч раптам ускочыў і моцна вылаяўся. Памяць адразу вярнулася да яго.

— Гэй, пане Ляскоўскі! Сонцу брыдка будзе,—крыкнуў ён.

Бляды Ляскоўскі вышаў з другога пакою, ткнуў у бок Эмілію Карлаўну, якая расплылася ў крэсьле і соладка спала, разьзявіўшы рот, як халяву.

— Праз хвіліну, каб духу вашага тут ня было! Ды язык трымаць за зубамі!—камандаваў ён ледзь ачнуўшымся кабетам, падобным да заморaных мух. Шэра-ружовая паперка затрашчэла ў пухлым кулаку бандаршы.

— На халеру даваць ім столькі грошай, пабурчэў Масей Рыгоравіч, завязваючы расшарэйганы гальштук.

— Нічога, спагонім на князёўскім лесе, адказаў Ляскоўскі і адразу жвавасьць ізноў апанавала яго. Пачакаўшы крыху ён дадаў:

— Вось гэта другое, зачым я вас клікаў сёньні, ці лепш—учора. Князёўскі лес ня будзе ўжо забаронным для мяне, гэта мушу я вам сказаць.

— Няўжо-ж вы купілі яго? І колькі купілі?—ажывіўшыся, быццам ён трапіў на лясную біржу, засыпаў пытаньнямі Масей Рыгоравіч.

— Я ня купляў і купляць ня буду—дарэмна атрымаю,—рагочучы адказаў Ляскоўскі на шматлікія запытаньні свайго наперсьніка.

— Вось як людзём шанцуе! Мне-ж ніхто і ніколі не даваў дарэмна нават граша ламанага. Як-жа гэта здарылася?—напусьціўшы на сябе дурнаваты выгляд, запытаўся Ліўшыц.

Ляскоўскі ў хітрых выразах, але досыць зразумела паведаміў аб сваіх плянах адносна князёўны. Далей ён, быццам свае, намячаў да высячкі тыя ці іншыя дзялянкі князёўскага лесу, альбо меркаваў умовы арэнды для сялян пустак, сенажацяй, раскіданых па лясох Росашы, Тур‘ева, Загацьця і іншых маёнткаў князя Друцкага. Масей Рыгоравіч слухаў вельмі ўважліва і патрабаваў сабе на одкуп той ці іншы кавалак лесу. Дапікаючы адзін другога ў скарэднасьці, абмяркоўваючы выгады лясьніцтваў, яны засядзеліся амаль да палудня. Толькі тады хамянуўся Масей Рыгоравіч, што ён зьбіраўся выехаць у гэты дзень ў Бабруйшчыну для нагляданьня за вывазкаю лесу да Бярэзіны, як увайшоў Броніс і паведаміў, што пана Ліўшыца просяць дадому.

Пасьля ад'езду Масея Рыгоравіча Ляскоўскі прасланяўся дзень, а потым надумаў, што яго далейшыя посьпехі патрабуюць, каб ён на нейкі час пакінуў Друцкіх і ня бачыўся з князёўнаю. Толькі маленькую запіску паслаў ён старой княгіні, паведамляючы, што пакідае Менск і едзе гаспадарыць у Ляскаўцы.

Частка трэцяя.

I

На абочыне Менску, на напалову незабудаванай Ляхаўцы, стаялі дзьве прыплюснутыя будыніны,—адна за дрыўляным плотам уздоўж вуліцы, а другая ў двары. Каля дворнае будыніны ўздымаўся ўверх роўны гладкі мэталёвы комін, замацаваны чатырма накрыж драцянымі вяроўкамі да зямлі. І так нялюдная вуліца каля гэтых будынін амаль заўсёды была пустою, несьцярпімы смурод, які дыхаў з двара, ад рыштакоў, заўсёды напоўненых зялёнаю едкаю вадкасьцю, адганяў ахвоту і жыць тут і праходзіць па якім-небудзь справам альбо проста так. Толькі а шостай гадзіне раніцою ды а восьмай увечары Ляхаўка ажыўлялася рухам. Раніцою ў цемры альбо як толькі ўзыдзе сонца нявыспаўшыся блядыя, жоўтыя людзі, пацiскаючыся ад холаду ў забруджаных пінжаках, сарочках, кажушкох, сьпяшаліся паасобку прайсьці альбо ў смуродную браму, альбо ў другія вароты, якія былі праз вуліцу. Увечары, таксама ў цемры, гэтыя-ж людзі высыпалі з абедзьвюх брамаў і павольна, гурткамі накіроўваліся на Сьвіслацкі мост. Гукаў таксама нячутно было: хістаючыя постаці толькі хлюпалі нагамі ў ліпкай гразі, ці рыпаў марозны сьнег пад нагамі.

Будыніны, што разносілі такі смурод, зьяўляліся гарбарнямі Імрота. На другім баку вуліцы ўздымаліся муры дражджавога заводу і бровару Ракаўшчыка. Невялічкія вокны гарбарні, забросьнеўшыя так, што нельга было здагадацца, каб шыбы былі зроблены са шкла, каламутна-зялёнымі чатырохкутнікамі вызначаліся на гразкай шэрані роўных сьцен. На двары ляжалі сьцірты кар'я смуродных адкідаў, якія моклі пад даждажом, сьнегам, прэлі, потым сохлі на сонцы і труха з міязмамі разносілася ветрам ня толькі па ўсяму пляцу гарбарні, але і далёка за яго межамі. Першую частку гарбарні займаў нізкі пакой, са склізкаю, як мылам намыленаю падлогаю. У гэтым пакоі, куды ледзь дасягала дзеннае сьвятло, былі зроблены ўкопаныя ў зямлю цэмантаваныя чапы, дзе сьвежыя скуры кісьлі па тры месяцы. Паветра насычана тут гэткім рэзкім смуродам, што нават старыя гарбары не маглі прайсьці не з заціснутым носам. Толькі васкавы Мойша Крук, як на склізгаўцы, шморгаў супакойна нагамі, абутымі ў дзіравыя галёшы, падвязаныя матузкамі, і жалезным прэнтам памешваў часамі ў чапох. У наступным пакоі паміж двох слупоў на жалезным шворні круціўся без перапынку „барабан“, куды клаліся выквашаныя скуры. З „барабану“ скура выходзіла

вольнаю ад шарсьціньня. Найбольшую частку гарбарні займала даўгое, быццам стадола, памяшканьне, дзе скуры адміналіся, ачышчаліся ад мяздры, тут-жа на вяроўках сохлі, хварбаваліся, глянцаваліся. Калі ў гэтым памяшканьні смурод быў і не такім рэзкім, як у квасільні, дык затое гарачыня стаяла пякельная. Жаднага выйсьця для паветра, апроч дзьвярэй, якія адчыняліся толькі пры праходзе людзей, у гарбарні ня было. Вокны, каб ня зьніжаць цяпла, якое гаспадар захоўваў для сушкі разьвешаных па ўсім памяшканьні скур, ніколі не адчыняліся. Праз гэта гарбарнікі адмячаліся, ад старога да падлетка, жоўкла-апухлымі тварамі.

Сёма Кац ужо шэсьць год працаваў у Імрота. Раней гады тры, падлеткам, ён прайшоў працоўную школу на Смаргонскіх гарбарнях, дзе бацька яго працаваў усё жыцьцё. Нават гэты Сёма Кац каранасты, з шырокімі грудзямі, з доўгімі жылістымі рукамі ў гэты дзень ня вытрымаў да перапынку на сьнеданьне. Мароз стаяў моцны, і ў гарбарні майстры заткнулі ўсе шчыліны запалілі ўсе стаякі-чыгункі, каб даць больш цяпла для сушкі. Каля адзінаццатае гадзіны напруджаныя адранцьвелыя рукі Сёмы аслаблі, скрабец хістануўся і зрабіў зазор. Асавела зірнуў ён уздоўж стала, на роўны шнур нагнутых уперад і ў бок таварышоў, якія мерна гойдаліся галовамі і плячыма ўзад і ўперад. Зараз-жа да Сёмы падскочыў вёрткі, як вугар, майстра Майзэль.

— Ты, трасца тваёй галаве, чаго гэта стаіш? Фальцэтам загаласіў ён. А-яй-яй! а гэта, гэта што, ліха тваей мацеры?—яшчэ званчэй сыпнуў ён у кіслае паветра, тыкаючы сваім гразкім ад ляку пальцам у зазор.

Майстра клікнуў табельшчыка Банадыся і загадаў сьпісаць з Сёмы за папсуцьце. Сёма нахіліўся ўніз, глытнуў больш халоднага паветра, выцер ліпкі пот са лба і, сьцяўшы зубы, узяўся за скарабец. Рукі яго і плечы загойдаліся мерна ўзад-уперад.

Не прайшло і чвэрці гадзіны, як шолах па ўсёй гарбарні зьдзівіў Сёму. Такі шолах здараўся нярэдка, але ён бываў пазьней, пасьля палудня. Звычайна ў такі час заходзіў на гарбарню сам Імрот. А на гэты раз—так рана. Коса кінуў вокам Сёма ўздоўж стала: перагнутыя фігуры, блішчучы матова-потнымі лбамі, загойдаліся яшчэ жвавей.

Zum Teufel! Такой рапота ненужен! Сьпісаць!—гучэў гаспадарскі бас у адным кутку.

— Не смейт разговариват за рапота!—зьвінеў яго голас у другім месцы.

— Вось, пане, Кац зазор зрабіў, раздаўся каля Сёмы салодкі галасок Майзэля.

— А, ты Schneider паршыфы! Тофар рэзат! Фон праганю! Aus! Глыбокія футровыя галёшы Імрота дробна закалыхалі падлогу.

Абкружаны канторшчыкам, Майзэлям і яшчэ двума майстрамі гаспадар абыйшоў усе сталы, выцер хустачкаю сьвежы, як скура маладога апаранага парасяці, твар і, крутануўшы зложаныя сьвідрам вусы, пасьпешна зьнік за дзьвярыма.

— Дык фы-ш наплюдайт! кінуў ён з дзьвярэй майстром, схіліўшым з пашанаю голавы перад мокраю форткаю, якая моцна ляпнула ад цяжару цэглін, прывязаных да перакінутае цераз блок вяроўкі.

Ці было ў каго што сьнедаць ці не, але ўсе гарбары ў час перапынку на сьнеданьне выходзілі проста на двор. Тут на марозе хто сьнедаў, а хто проста глынаў халоднае паветра. Сёма бадай адным з першых выскачыў на двор і палка кінуўся да замурзанага сьнега, соўваючы яго абедзьвюмі рукамі ў рот, за каўнер. Абцэнгі, якія сьціскалі сэрца, пачалі разыходзіцца. Зараз-жа на дварэ паказаліся цэлыя гурткі рабочых хто з кавалкам хлеба, хто з бульбінамі ў руках. Садзіліся на стажкі кар'я, на кучкі мяздры, зацярушанае сьнегам. Але праз некалькі хвілін адзін з майстроў загадаў ісьці канчаць сьнеданьне ў памяшканьне. Нехта запытаўся, што гэта за навіна.

— Цябе не запыталі!—быў жорскі выкрык майстра ў адказ.

Рабочыя хмурна пацягнуліся ў дзьверы смуроднае квасільні. Сёма быў зьдзіўлены нятэрміновым наведваньнем гаспадара на гарбарню, яго наказам „наблюдать“, а яшчэ больш гэтым загадам сьнедаць у памяшканьні, загадам, які атручваў ня толькі паўгадзіны адпачынку, але і астатнюю частку рабочага дню.

— Вінцук, што гэта ўсё значыць? ціха запытаўся ён у таварыша-паляка Гарбоўскага.

— Ведаеш, адвёўшы ў пусты куток сказаў яму Гарбоўскі, Імрот быў у жандарскага палкоўніка, яго выклікалі, мусіць, нейкія інструкцыі дадзены.

— Адкуль ты ведаеш?

Учора фурман пахваліўся вартаўніку, а той сказаў сяму-таму з хлопцаў.

— Трэба сёньні-ж наведацца да... Можа, там ужо ведаюць што-кольвечы аб сэнсе гэтых новых шашляў.

— Добра, я за табою зайду, зьбіраючыся адыйсьці, адказаў Грабоўскі.

— Па сваіх мясцох, там сьнедаць!—камандаваў Майзэль, пранізваючы вачмі Каца і Грабоўскага, якія адны яшчэ ня выстраіліся ў радоўку ўздоўж сталоў і варштатаў.

Сёма абвёў вокал вачмі. Адны з таварышоў сядзелі і стаялі панура, клюючы носам альбо пустымі вачмі глядзючы няма ведама куды; іншыя тапталіся, пераміргваліся, паказвалі смешныя знакі і прыдушана сьмяяліся; іншыя, таксама маўчалі, як і першыя, але вочы іх гарэлі, налівaліся кроўю, губы сьціналіся і кірпатыя пальцы складваліся ў кулакі, як міма праходзіў хто-небудзь з майстроў. Але парадак не парушыўся. Гудок тонка сьвіснуў, і над сталамі, варштатамі заківаліся мерна перагнутыя постаці.

Вышаўшы ўвечары, пасьля работы, за браму гарбарні і далучыўшыся да рабочых з гарбарні Магіда, Сема даведаўся, што і там, а таксама ў

браварнікаў Ракаўшчыка забаронена было ў перапынку зьбірацца па-за сьценамі прадпрыемстваў. Значыць, гэта выклікана чымсь агульным, думаў Сёма. Яшчэ больш ён у гэтым упэўніўся, калі на вуліцы некаторыя з рабочых, што больш кругіліся каля майстроў, хутка разыходзіліся, спасылаючыся на холад. Сёма ішоў, разважаючы аб прычынах гэтых здарэньняў.

Толькі каля самага мосту цераз Сьвіслач Сёма заўважыў, што нейкі чалавек неадчэпна ідзе сьледам за ім. Ён крыху павярнуўшы галаў, азірнуўся назад—чалавек упарта сачыў за ім. Сёма прыбавіў ходу, і чалавек ззаду драбней і часьцей затупаў на гулкіх дошках мосту.

— Няўжо-ж яшчэ і сочка пачнецца?—думаў Сёма, дамагаючыся адчапіцца ад агіднага спадарожніка.

Мінуўшы мост, Сёма Кац шпарка сігануў ў бакавы завулак, хоць ён быў для яго зусім не падарозе. Азірнуўся, а чалавек быў ад яго на тэй-жа адлегласьці. Калі яны зусім схаваліся за крывулінаю пустога завулку, чалавек прыбавіў ходу і ў момант пайшоў побач з Сёмаю.

— Куды ты ўцякаеш, Сёма?—упаўголаса запытаўся незнаёмы.

Кац мімаволі пайшоў цішэй. Голас быццам знаёмы, цёплы, крыху насьмешны. Так ня можа гаварыць вораг, альбо зусім чужы чалавек. Кац павярнуў галаў і, ня прыпыняючыся, пільна разгледаў спадарожніка. Той адкінуў навушнікі лапавухае шапкі і чуць-чуць пасьмейваўся.

— Усё яшчэ ня пазнаеш?—запытаўся такі блізкі голас.

Сёма нахіліўся да самага твару.

— Росяк... Рос... чуць ня крычэў ён, сьціскаючы зашкарупелыя рукі таварыша.

Але крык радасьці адразу заглохнуў. Да губ Сёмы прыціснулася далонь, і нізкі голас, амаль шэпт стрымаў яго:

— Цішэй ты! Памятай, што я цяпер ні Росяк, ні Зыкаў; заві мяне проста па імю, а там будзеш бачыць, якое прозьвішча мне насіць.

Сёма Кац раней добра ведаў Росяка-Зыкава, ведаў таксама, што той працаваў у Ляскаўцах на новых прадпрыемствах, ведаў і аб забойсьцьве там урадніка. Яму было вядома, што Зыкава не злавілі. Бадай ужо месяц як некаторыя гурткі і паасобныя рабочыя, як і сам Кац, пачалі надта непакоіцца, ня маючы ніякіх зьвестак аб зьнікшым Зыкаве. Цяпер Сёма ўвесь тросься ад радасьці: Зыкаў-Росяк, які карыстаўся такім аўтарытэтам сярод партыйцаў—іншых партый, які ўжо ня раз хаваўся пры дапамозе яго, Каца, ізноў стаяў перад ім, як некалькі хвілін назад шмат хто непакоіўся за яго лёс. Кац яшчэ раз моцна пацісьнуў руку таварыша.

— Я хоць і добра помню тваю кватэру, але без цябе на хацеў паказвацца там... Вось і туляўся за горадам, чакаючы пакуль ты скончыш працу і выйдзеш, ціха гаварыў Зыкаў, як яны крануліся ўперад на завулку.

— Рызыкоўна ты робіш, шаптаў Сёма. Цябе, напэўна, шукаюць, а сёньні яшчэ новы прыціск і абмежаваньне пачаліся на прадпрыемствах для рабочых... У чым справа, можа, даведаемся сёньні-ж.

Кружнымі вуліцамі, завулкамі, дзе маленькія дрыўляныя дамы з зачыненымі ўжо ў гэты час наглуха стаўнямі, здавалася дрымалі і прыслухоўваліся пад сваімі белымі сьняговымі шапкамі. Дзе-ні-дзе брахне сабака з-за брамы, занесенае цэлым курганом сьнегу. Перайшоўшы ў паасобку Захараўскую вуліцу, яны ізноў разам пусьціліся бакавымі вуліцамі і завулкамі. Толькі праз гадзіну яны дайшлі да невялічкага дому на Людамантскай вуліцы. У гэтым доме вокны таксама былі зачынены стаўнямі, і нельга было здагадацца знадворку ці жыве там хто, ці не. Толькі вузенькая сьцежка, пратоптаная ў глыбокім сьнягу, паказвала, што ў дом ходзяць, жывуць там. На вузкім, доўгім дварэ, абгароджаным з усіх бакоў плотам, стаяла яшчэ адна халупа, накшталт вясковае лазьні. Гэтую халупу і меў Сёма за кватэру. Гаспадар, шавец у майстэрні Рыўкіна, займаў будынак ад вуліцы і меў кватарантам, апроч Сёмы з сям'ёю, яшчэ каваля з заводу Якобсона.

Сёма прыпыніў Зыкава, завёўшы яго за вугал, а сам прайшоў у халупу. Праз хвіліну ён ізноў рыпнуў дзьвярыма і ціха клікнуў.

— Нікога чужых! Сюды! Сёма залажыў дзьверы завалаю, як толькі яны апынуліся ў сенцах.

— Таварыш... таварыш Росяк... даражэнькі, усхвалявана-радасна зазьвінеў мяккі голас.

— Здрастуй, здрастуй, Лія!—адчуваючы вялікую задаволенасьць, разьвітаўся Зыкаў з сястрою Сёмы, якая ня спускала з яго прамяністых вачэй і нячутно нешта шаптала, чуць варушачы гарачачна-чырвонымі губамі.

— Зьнямогся, сынок, нябось? Распранайся! І Зыкаў адчуў, як дзьве рукі ляглі яму ззаду на плечы.

Ён азірнуўся. Старая Сара плакала з працягнутымі яму на плечы рукамі.

Быццам ён папаў у родную сям'ю. Зыкаў адчуваў сябе ўсхваляваным гэткаю ласкаю. Рэдка яму даводзілася ў жыцьці адчуваць яе і дзеля гэтага ён ніколі ня ведаў, як адказаць на добрасьць, на ласку. Гэта яго сярдзіла, і ён рабіўся вуглаватым, жорсткім. На гэты раз дапамагала яму цесната. Распранаючыся, ён грукаўся аднэю рукою аб крывую печ, а другою аб шуфляду вакна.

— Ну і цесната ў вас, Сара! Я баюся, што раскідаю хату, як пачну распранацца па-настаяшчаму, усьміхаючыся гаварыў ён гаспадыні, якая была яшчэ з мокрымі вачмі.

— Што-ж рабіць, даражэнькі! Ды хто-ж у Менску з рабочых лепш жыве. Лія вось засталася без работы, а Сёма прыносіць шэсьць рублёў на тыдзень,—нарасьпеў гаварыла Сара, бразкаючы на прыпячку заслонкаю, апаноўкамі.

— Чаму-ж ты не працуеш?—зацікавіўся Зыкаў.

Лія пачырванела, як вішня і замешкалася з адказам.

— Цяжка ў наш час працаваць дзяўчыне, калі хочаш захаваць чэсьць, з горачу ў голасе адказала за Лію маці. Нейкі шмугляр там, трасца яго мацеры, прычэпваўся, а Лічка ў мяне... ох, яна высокая душа.

— Мама! гэта глупства аб маёй нейкай душы, надтрэснутым, як абарваная струна, голасам прагаварыла крыху пагадзя Лія. Я пад нож пайду, а не дазволю, каб які там паганы Салавейчык лапаў мяне толькі таму, што ён плаціць мне два злоты за маю працу.

— Так, так, Лічка, у бок Салавейчыкам!—вясёла рагатаў Сёма, скоблячы попелам свае тлустыя чорныя рукі ў ражцы з вадою.

Зыкаў сеў на тапчан, пад якім захадзіла, як палуба карабля ў буру падлога. Але ён мала заўважыў на гэта. Пасьля першага ажыўленьня, якое ахапіла яго пры спатканьні з Сёмаю і яго сям'ёю, на яго напала задуменнасьць і маркотнасьць, якая не пакідала яго з тае начы, як ён так цяжка разьвітаўся з Ляскаўцамі. Яму часта маявалася постаць у шэрым шынэлю, распластаная ў крыві сярод хаты, успаміналася Зося то такою, як ён вызваляў жучка з яе валасоў, то іншаю—палюбоўніцаю пана Ляскоўскага. Абодвы вобразы Зосі—першы канкрэтны, вабячы, цягнучы да сябе сьвятлом, радасьцю жыцьця і другі—ваабражаемы, агідны, вераломны, выклікаючы злосьць, не пакідалі Зыкава ўвесь час. Цяпер, калі ён пачуў словы Ліі, пачуцьцё агіднасьці, адваротнасьці да Зосі ачнулася ў ім з новаю сілаю і зусім засланіла першы вобраз. Вось гэтая бедная дзяўчына, у прадранай на лакцёх кофце, адмовілася ад кавалка хлеба, а не дазволіла нагламу распусьніку ашальмаваць сябе. А Зося, яго Зося з залатымі валасамі,з сінімі палкімі вачыма? Зыкаў трапятаў, малюючы сабе сучаснасьць Зосі. І навошта толькі згадзіўся ён ехаць тады на станцыю за гэтымі машынамі! Каб ён быў ў Ляскоўцах, можа нічога і ня здарылася-б. А цяпер—зьнішчана, мусіць, арганізацыя, якую ён зьбіваў з такімі цяжкасьцямі, ён сам нейкі час ня зможа адчынена працаваць, а то можа і зусім ня трапіць быць тут... і яшчэ... яшчэ загублена Зося. Першы вобраз, яго любае Зосі, прамільгнуў перад вачмі. Зыкаў цяжка ўздыхнуў.

— Ты што, замарыўся? Зараз павячэраем, і можаш на бакавую, абудзіў яго жыцьцёрады голас Сёмы. Пасьцелеш там... ведаеш?—зьвярнуўся ён, пачакаўшы да сястры.

— Добра, адказала тая.

— А, не!—ачухаўшыся прагаварыў Зыкаў. Я ня так ужо замарыўся. Цяпер вось я першы раз мог вольна падумаць, а то месяц, як траўлены зьвер, толькі і думаў, як ашукаць паляўнічых і вызваліць сваю скуру.

— Пранцы-б іх паелі!—быццам сама з сабою гаварыла Сара, выграбаючы качаргою з печы бульбу.

Пасьля кароткае вячэры Сёма справадзіў Зыкава ў сакрэтны „пакой“, так звалася малюпаценькая баковачка локці чатыры ўдоўжкі і локці два ў шырыню. Гэтая баковачка была наглуха аддзелана сьцяною ад хаты. і туды можна было прайсьці праз невялікі прарэз, які закладаўся двума-

трыма калодкамі і застаўляўся камодам старое Соры. Гэтая баковачка ня раз давала прытулак тым, хто вымушаны быў хавацца ад жандараў. Даводзілася раней бываць тут і Зыкаву. Ён ведаў, што ў бакоўцы быў люк на дах будыніны, адкуль была адчыненая дарога ў той ці другі з двох вялікіх садоў, падзеленых высокім моцным тынкам. Бяда ў тым, што бакоўка ня мела нават напамінку вакна, а таксама праз гадзін дзьве-тры станавілася цяжка дыхаць, так мала было ў ёй паветра.

— Ну, сапачывай у гэтай скрыні, а я пайду да таварышоў з гуртка даведацца аб сёньняшніх справах, сказаў Сёма, закладаючы прарэз калодкамі.

Застаўшыся адзін, Зыкаў заплюшчыў вочы. Ён змогся: дзьве начы ішоў ён да Менску, хаваючыся днём у стагох сена на балотах альбо ў лесе пад кучамі хваёвага гальля. Цяпер яму здавалася, што ён адразу засьне. Аднак сон ня прыходзіў, у галаве зьвінела, ногі нылі. Неадчэпная думка аб разбураньні гуртка ў Ляскаўцах, які яму даручана было заснаваць і вясьці, пашыраючы лік у ім рабочых, аб крушэньні ўласнага каханьня да Зосі сьвідравала голаў. Як гэта магло здарыцца, што Зося добраахвотна, як пісаў настаўніку Ляскоўскі, пайшла ў палюбоўніцы да пана ды яшчэ відаць яго, загубіць, можа, Рыгорчыка і іншых? Як гэта магло здарыцца, калі Зося яму першаму паведаміла аб агіднай спробе Ляскоўскага згвалціць яе? Гэтае запытаньне ўжо тысячы разоў задаваў сабе Зыкаў, і ня мог знайсьці адказу. Ён ня мог дапусьціць думкі аб тым, што адносіны Зосі да яго былі проста разьлічанаю гульнёю. Не такая была яна ды і сэнсу ніякага ня было ў гэтым.

Зыкаў увесь аддаўся разьвязаньню гэтага пытаньня Ён пачаў успамінаць да драбніцы ўсе падзеі, якія папярэдня адбываліся да таго вечару, калі ён уцёк з Ляскаўцаў. Сярод усяго, што было, Зыкаў запыніўся асабліва на тым здарэньні, што сам інжынэр выпраўляў яго на станцыю, што ўсё было падрыхтавана да ад'езду, што падганялі яго, каб ён хутчэй ехаў. А потым пяць-шэсьць дзён ён чакаў дарэмна цягніка з машынамі. Здагадка аб тым, што ўсё было падроблена знарок, прарэзала яго думку. Можа, Зося была ўзята Ляскоўскім гвалтоўна? Як ні цяжка было гэта, але Зыкаву хацелася, каб здарэньне з Зосяю, яе адрыў ад яго мелі якраз гэтую падставу. Такі магчымы ход падзей, хоць і выклікаў новыя хвалі абурэньня, але гэтае абурэньне пераносілася ўжо на другога і абуджала больш дзейныя пачуцьці, загойваючыя ўласную боль.

Пад раніцу, а пятай гадзіне, калі Сёме трэба было зьбірацца на завод, Зыкаў ўжо ня спаў. У баковачцы было так душна, што ў вачох бесьперапынку рабіліся зялёныя, ружовыя, жоўтыя кругі, галава ныла. Зыкаў пастукаў, каб яму адчынілі прарэз.

— Чаму ты ня сьпіш, яшчэ занадта рана, гаварыў Кац, вымаючы калодкі.

— Здаецца, я таксама ня пан, каб задаваць храпака да палудня,— спрабаваў адгаварыцца Зыкаў.

Лія і маці таксама былі ўжо на нагах. Зыкава ўстрэлі ветліва, але ён заўважыў, што ў Сёмы нейкі прычынены, нежны выраз у вачох. Звычайна гэта былі чыстыя вочы, якія сьвятліліся радасьцю, любасьцю да тых, з кім ён быў блізкім, з кім быў таварышам. Учора яго вочы блішчэлі натхненнасьцю, сёньні-ж неяк хаваў свой позірк, як вінаваты ў чым. З мацераю, з сястрою ён быў роўна-жартаўлівы, як і ўперад. Значыць, гэтая зьмена выклікалася толькі нечым новым у адносінах да Зыкава.

— Ты нічога ня маеш сказаць мне?—запытаўся Зыкаў у Сёмы выбраўшы хвіліну, калі кабет ня было ў хаце.

Сёма замятусіўся пад упартымі вачмі Зыкава. Потым ён сьмела бліснуў сваімі ліхтарыкамі вачмі.

— Які я дрэнны консьпіратар, усё, мусіць, відаць па мне. Дык вось, браце, ты пытаешся аб сваіх справах, даведаешся мусіць хутка аб іх; я ня маю права сказаць табе—сам ведаеш, дысцыпліна вышэй асабістых адносін ці пачуцьцяў. А вось аб другой справе ўсё скажу, могуць і матка з Ліяю слухаць.

І Сёма паведаміў, што па ўсіх прадпрыемствах гаспадары ўводзяць больш суровы распарадак, вядзецца назіраньне за паасобнымі рабочымі, некаторых звальняюць. Усё гэта робіцца па загаду жандарскае ўправы. Забойства ураднікa ў Ляскаўцы разглядаецца як палітычная справа, а сьляды, праўда не адабранае там нелегальнае літаратуры, сьведчаць для губэрнатара і ўсяго начальства і паноў, што недзе жывуць рэволюцыйныя настроі і арганізацыі. Вядома, што яны жывуць сярод рабочых. І вось загад сачыць прыцікаць, але гэты абавязак поўнасьцю ўзялі на сябе гаспадары. На гэты дзень позна ўвечары склікаецца патаемны сход асабіста вядомых рабочых з розных прадпрыемстваў і ад розных партыяў, каб абмеркаваць становішча і намеціць агульную тактыку.

— Ты кажаш ад розных партыяў? Можа, і Саюз рускага народу будзе прадстаўлены?—насьмешна запытаўся Зыкаў, як Сёма скончыў выкладаць з захапленьнем усе гэтыя навіны.

— Прычым тут, для чаго Саюз рускага народу? Ну, будзем мы—сацыял-дэмакраты, напэўна прыдуць бундаўцы, можа—грамадаўцы...

— А зубатаўшчыны вы тут не аднавілі часам? Аднавіце, будзе больш каго заклікаць!—злосна ўжо насьмейваўся Зыкаў.

— Да што ты такі колкі стаў, як вожык!—нібы вінаваты прамовіў Сёма, страціўшы адразу радаснае захапленьне, якое адчувалася ў кожнай рысе яго твару, у рухах рук, у сьвятле вачэй.

— Што-ж я—нічога!.. Значыцца—дзяржаўнаю думаю вырашаць хоча арганізацыю рабочых... Усе партыі. ха-ха-ха!

Аднак, у момант Зыкаў сьціх, як толькі Сара ўвайшла ў хату з вядром вады. Ён пачаў распытвацца ў Сёмы аб працы на заводзе, аб расцэнках. Звычайная размова з рабочага жыцьця. Ні Сара, ні Лія ніколі не маглі здагадацца аб тэй гутарцы, якая была тут хвіліну назад.

— А я ўсё-ткі пайду на ваш парлямант,—сказаў Зыкаў Сёме, калі той выходзіў за дзьверы ісьці на работу.

Сёма прыпыніўся і пачаў даказваць, што Зыкаву нельга паказвацца пакуль жандары і паліцыя шалеюць, шукаючы яго. Але Зыкаў цьвёрда стаяў на сваім, жадаючы прыняць непасрэдны ўдзел у гэтай справе, а таксама і пабачыцца з некаторымі таварышамі. Сёма ня мог супярэчыць, бо гэта было дарэмна.

Сёма вярнуўся з работы ў гэты дзень шмат пазьней. Ледзь пасьпелі павячэраць, як мужчыны пачалі зьбірацца. Старая Сара была надта зьдзіўлена, калі, увайшоўшы ў хату са двара, куды яна выходзіла па дровы, угледзіла незнаёмага барадатага мужчыну. Яна запынілася з бярэмянем на руках і прыглядалася аж разьзявіўшы крыху рот. Дружны рогат усіх траіх яшчэ больш зьбянтэжыў старую. Яна хацела спытацца, дзе Зыкаў, але пабаялася назваць яго імя пры гэтым чужым чалавеку. Толькі калі барадаты чалавек загаварыў, яна хамянулася і пачала рагатаць, выціраючы вочы падолам спадніцы. Лія прагавітымі вачмі праводзіла брата і Зыкава. Яна сказала, што дачакаецца іх, калі-б яны ні вярнуліся.

У паасобку Зыкаў і Сёма, на нейкай адлегласьці адзін ад другога, абышлі яўрэйскія могілкі, дзьве вулачкі і накіраваліся ў поле, у бок Кальварыі. Сьнег круціўся, падганяемы скавытаўшым ветрам. Сьляды замяталіся праз хвіліну-другую. З вярсту ад гораду прайшлі яны. З боку ад дарогі зачарнелася нешта ў лагу. Вецер быў тут не такі моцны. Па цалявіку, месцам глыбей калень, дарваліся яны да мэты. Пярэсьціны на сьнягу—незасыпаныя сьнегам скосы ям, дзе капалі ўлетку гліну. Чорная будыніна—пустая цагельня. Праз хвіліну яны пайшлі па цьвёрдаму грунту, чапляючыся нагамі за раскіданыя бітыя цагліны. Іх аклікнулі. Сёма адказаў умоўнае слова і вясёлы, усхваляваны ўвёў Зыкава за рукаў у адну з камэр печы.

— Пачнём, пачнём ажываць, гарачымі губамі шаптаў ён. Бачыш колькі народу сабралася і гэ'та толькі самыя дзейныя.

На зложаных адна на другую чатырох шчарбатых цаглінах гарэла стэарынавая сьвечка. Нізкае засклепеньне камэры давала магчымасьць стаяць толькі тым, хто быў на сярэдзіне памяшканьня, астатнія-ж сядзелі альбо проста на зямлі, альбо на карачках, нібы зьбіраліся скакаць у прысядку. Пры ўваходзе Сёмы і Зыкава гутаркі абарваліся, цыгаркі засталіся не данесенымі да губ. Больш дзесятку пар вачэй уставілася на Зыкава.

— Хто гэта,—пачуўся шэпт з усіх знаёмых куткоў.

— Гэта наш таварыш, с.-д. з Вільні,—адказаў на гэтыя шэпты Сёма, папярэджваючы магчымыя запытаньні.

— Можа ад краявога камітэту? запытаўся хрыплы настуджаны голас з цемнаты.

— Гэта справа нашае організацыі,—адказаў Сёма,—ведаць такія падрабязнасьці.

Зыкаў працiснуўся з сярэдзіны, грукнуўся аб цьвёрдую, заіневеўшую столь лбом і сеў на карачкі, як і іншыя. Чыісь цьвёрдыя, як абцэнгі, рукі схапілі яго руку і моцна пацiснулі. Далей яшчэ рука і яшчэ. Зыкаў у цемнаце ня мог разабраць з кім ён вітаецца, але па трапятлівасьці рук адчуваў, што яго вітаюць свае, блізкія людзі.

Пасьля Зыкава і Каца ўвайшло, ці лепш кажучы ўцiснулася, яшчэ чалавек з пяць. Нізкая камэра запоўнілася едкім дымам бакуну, пахамі дзёгцю, алею, дубленай скуры.

— Кіньце вы смактаць гэтую махру, дым паваліць як з коміна, крыкнуў нехта.

— Гаспадар падумае, што цагельня ў ход пайшла—грошы будуць яму зусім задарма, абрадуецца, адказалі з другога канца.

— А праўда, трэба кінуць смаліць. Пара ўжо, бадай, пачынаць,—сказаў нехта недалёка ад Зыкава.

З пачаткам доўга мятусіліся. Хто павінен адчыніць сход? Адна частка патрабавала, каб старшыня быў той, каго яна прапануе, другая высоўвала свайго, трэцьція былі супроць абодвых папярэдніх, прапануючы свайго. Паднімаўся крык.

— Цішэй вы!—грукнуў густы, басісты голас.—Яшчэ, можа, хочаце, каб самы далёкі гарадавік у горадзе пачуў наш шурум-бурум...

На сярэдзіну, бліжэй да сьвечкі працiснуўся высокі з чорнаю барадою мужчына. Нават тут яму даводзілася крыху згінацца, каб не падпіраць галавою столі. Ён абвёў вачмі круг зацiхшых людзей.

— Мы сабраліся сюды не для таго, каб час правесьці ў бязглуздых спрэчках аб старшынсьцьве.

Ён падняў руку і махнуў з пляча магутным кулаком, нібы біў молатам па накавальні. Ды гэта і ўзапраўды быў малатабоец з заводу Якобсона і Ліўшыца.

— Вось, што, таварышы! Гавары, таварыш Тэсьняк,—скамандаваў каваль.

— Гэта насільнічаньне, узурпацыя!—пачуліся з аднаго боку выкрыкі.

Да сьвечкі праслізнуў шчупленькі чалавек у рыжым паліце і лёгкай скамячанай шапцы, якая, мусіць, служыла ва ўсе сэзоны году. Ён прыжмурыў вочы на агонь, адхіліў крыху ў бок каваля і пачаў гаварыць пад выкрыкі паасобных галасоў.

— Таварышы!—слабым голасам пачаў ён і закашляўся.

— Узяў-бы сабе параходную трубу!—злосна пажартаваў нехта з кутка.

— Таварышы! больш звонка ўзяў голас ад сьвечкі, капіталізм з кожным годам мацнее. Мацнее ён і ў нашым краі, на Беларусі. Карыстаючыся моцнаю падтрымкаю з боку паліцэйска-жандарскага ўраду, ён не пакідае нішчыць рабочыя організацыі. Разгром рэволюцыйных партыяў пасьля дзевяцьсот пятага году прыпыніў рабочы вызваленчы рух, і разьюшаная жандарска-капіталістычная зграя ўшчыняе зьдзекі і эксплёатацыю рабочых бяз ніякае перашкоды для сябе. На вёсцы сталыпіншчына

ствярае апору для манархіі ў моцным гаспадарча селяніне, які багацее за кошт вясковае беднаты. Здарэньні, якія мы ўсе наглядаем са ўчарашняга дню на ўсіх прадпрыемствах, паказваюць лішні раз, што гаспадары арганізавана, пад кіраўніцтвам прадстаўнікоў царскае ўлады, робяць новы замах на рабочую клясу, імкнучыся нашчэнт зьнішчыць праявы рэвалюцыйнасьці сярод рабочых. Але з ростам капіталізму, расьце і рабочая кляса. На ўзмацненьне наступу мы павінны адказаць рашучым супраціўленьнем. Даволі нуды, даволі прыдушанасьці! Далоў ліквідатарства! Няхай жыве рэвалюцыйная барацьба пад сьцягам: Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

Апошнія словы таварыш Тэсьняк прамовіў высокім звонкім голасам. Калі ён выклікаў пролетарскі лёзунг на слове „краёў" яму не хапіла паветра, і ён асекся; глынуўшы так, нібы ён набраў у грудзі ў пяць разоў больш паветра, як трэба, слова „злучайцеся" ён выкрыкнуў так, што ў вушох зазьвінела.

Хвіліны дзьве была поўная цішыня. Яе парушыў Сёма. Ён выскачыў з кругу, абхапіў Тэсьняка і звонка пацалаваў яго. Вочы яго блішчэлі сьлязьмі. Тэсьняк зьбянтэжана глядзеў на Сёму і праціраў вочы, як пасьля сну. Някпрыметна пакінуў ён пярэдняе месца каля сьвечкі.

— Ну, дык як вы, таварышы?—загуў ізноў бас каваля. Што надумалі рабіць?

Пакрысе пачалося ажыўленьне, гутаркі. Каваль пакрахтваў, сьцішаў, загадваў гаварыць па парадку. Прадстаўнікі бундаўцаў гаварылі многа. Яны папікалі с.-д. у тым, што новы націск на прадпрыемствах робіцца па віне сацыял-дэмакратаў, якія правалілі ляскоўскі гурток, казалі, што яны самы прыдумаюць нешта для яўрэйскіх рабочых, што яны не падгатаваліся сёньні.

— Я—яўрэй! запальчыва ўскрыкнуў Сёма, пакрываючы гул галасоў, а што вы для мяне прыдумалі ці прыдумаеце? І чаму гэта вы будзеце непакоіцца толькі аба мне, а не аб таварышу Гарбоўскім, які стаіць побач са мною за варштатам? Эх, рэвалюцыянэры!

— А ты рэвалюцыянэр? Перамётчык ты, адцураешся ад бацькоў! закрычэла ў адказ некалькі ўсхваляваных галасоў.

Нейкі чыгуначнік, мусіць грамадавец, як уявіў сабе Зыкаў, казаў, што ўсе арганізацыі яшчэ вельмі слабыя, што рабочыя не аднавілі яшчэ веры ў моц рэвалюцыянэраў, баяцца гаспадароў і начальства і дзеля гэтага праяўляць цяпер якую-небудзь актыўнасьць занадта рызыкоўна: могуць загінуць тыя гурткі і арганізацыі, якія ўжо існуюць, і гэтым справе рэвалюцыйнага руху будзе нанесена, можа, непапраўная бяда.

— Арганізацыі мацнеюць у барацьбе. Хто ўхіляецца ад барацьбы, змаганьня, той ужо загінуў, яго няма,—крыкнуў сусед Зыкава.

Яшчэ з паўгадзіны ішлі беспарадачныя спрэчкі, гэта быў ужо агульны гоман. Адно выявілася, што агульных рашэньняў прыняць нельга будзе: частка зусім ухілялася ад прыняцьця рашэньняў, другія прапанавалі тое,

што супярэчыла прапанове трэцьціх. Разыходзіліся ўсё-ж дысцыплінавана: да чыгункі па два-тры чалавекі, а потым паасобку, хто вуліцаю, хто ў абход.

Зыкаў усхваляваўся і самым сходам і вынікамі яго і не адразу прыкмеціў, што ў цагельні стала зусім вольна. Да яго падышлі два даўных таварышы і пачалі распытвацца аб яго жыцьці, але ў словах іх адчувалася тая-ж стрыманасьць, якую прыкмеціў ён раніцою ў Сёмы. Зыкаву стала яшчэ цяжэй на сэрцы.

— Каму гэта прышла ў голаў такая бліскучая думка склікаць гэты парлямант? Жорстка-насьмешна запытаўся ён у аднаго з гаварыўшых з ім таварышоў, які, ён ведаў, быў адным з кіраўнікоў менскае с.-д. організацыі.

— Ну, а што, калі мне?—напруджана запытаўся той.

—Вынікі кажуць аб гэтым. Што не, ты працягваеш склізгаць па меншавіцкай сьцежцы і вось такія сходы організуеш?—не адставаў Зыкаў.

— Ты адзічаў там у глушы альбо ня выспаўся з дарогі,—спрабаваў адгарадзіцца таварыш.

— Не зварочвай на глупства! Мне гэта хістаньне тваё і іншых, падобных да цябе, заўсёды будзе... агідным, з поўнаю злосьцю гаварыў Зыкаў, вылазячы з цагельні.

— Заўтра мы чакаем цябе ў організацыі. Паслухаем, як працуюць бальшавікі,—жорстка адказаў „камітэтчык“.

Не прамовіўшы больш ні слова, гэтыя старыя прыяцелі разьвіталіся на разкрыжаваньні. Сёма, слухаўшы ўсю размову, вялы, апусьціўшыся цягнуўся ззаду. Ужо недалёка ад дому ён, парушыўшы правіла, здагнаў Зыкава.

— Нічога ня выйдзе ізноў! Цяжка, Зыкаў!

II

Домік гэты нічым не адрозьніваўся ад іншых, раскіданых уздоўж абочных вуліц Менску. Невялічкія ў шэсьць шыбак аконцы выходзілі два на Даўгабродзкую і тры на двор. Перад вокнамі нявысокі плот з шалёвак з прарэзамі ў выглядзе сэрца, як яго малююць на лубачных адкрытках, што пасылаюць закаханыя. На вокнах паліваныя гаршкі з недарослым фікусам, касачом альбо гэраню. Абавязковыя дашчатыя стаўні знадворку і паркалёвыя занавесачкі з фаты. На дварэ хлявок, дзе хрупае сена конь да папіскваюць спрасонку парасяты, якім, можа, цесна ў невялічкім катуху. Два дрыўляных слупцы падтрымліваць паўкруглую бляшаную стрэху над ганкам, які зарос лёдам ад выліваемае з-за дзьвярэй вады, памыяў.

Такі домік звычайна дзеліцца на дзьве часткі: у аднэй жывуць, а ў другой цёмнай, са склепам пад падлогаю, складваецца ўсялякая хатняя драбяза. Стаіць кадушка капусты альбо гуркоў, вісяць каўбасы ўласнага

вырабу, альбо перадок кашэрнага целяці, калі ў доме жыве яўрэйская сям'я. Жылая частка застаўлена ложкамі; на галоўным, гаспадыніным ложку—пяць-шэсьць падушак. Вольнае ад ложкаў месца займае швальная машына з неадменным надпісам „Зінгер“, два-тры столікі пад рознакаляровымі настольнікамі дамашняе вязі; прыцісну́ўшы да сьцяны, як прыбітыя да іх, стаяць нярухома густа нахварбаваныя рудыя дашчатыя крэслы.

Звычайна дом альбо гараджаніна, які мае ці арэндуе некалькі дзесяцін зямлі ў горадзе і займаецца прамысловым гародніцтвам, альбо дробнага гандляра на Ніжнім рынку, які гандлюе салам, мясам, бульбаю, газаю, селядцамі—чым толькі можа гандляваць. Такі дом, яго гаспадар і гаспадыня, не карыстаюцца асобнаю пашанаю на Губэрнатарскай альбо ў цэнтры Захараўскай, але ён і не выклікае там адваротнасьці ці непакойства. Тутэйшы гарадавік таксама прыветна казырае сальніку пану Вінцусю, альбо бакалейшчыку Мендале, як квартальны на крыжаванцы Губэрнатарскай і Захараўскай—пану Шабе Ліўшыцу, які мае вялікую лясную кантору, альбо пану Сьвенціцкаму, уласьніку некалькіх лепшых дамоў.

Вось да такога доміку і накіроўваўся Зыкаў дні праз два пасьля сходу на цагельні. Сажняў з пяцьдзесят ад дому, азірнуўшыся ў бакі і нікога не заўважыўшы, ён зьвярнуў на вузкі тупічок-завулак, які канчаўся каля грудаў цаглін, кучаў рознае брыдоты, якая засталася, мусіць, пасьля пажару і павялічылася яшчэ тым, што сюды скідалі суседзі рознае сьмяцьцё. Пераскочыўшы цераз высокі плот, Зыкаў пайшоў садам да дому, трымаючыся прыкрыцьця ад вуліцы за плотам.

Настрой у Зыкава яшчэ больш панізіўся пасьля таго сходу. Ён бачыў, што ў організацыі рэволюцыйнага руху яшчэ зроблена мала, што не пераможана яшчэ баязьлівасьць, бязьвер'е ў свае сілы. У дадатак да гэтага яшчэ кіраўніцтва ня мае яснае цьвёрдасьці, а можа і само яно толькі шукае шляхоў. Па дарозе да мяшчанскага доміку Зыкаў падабраўся. Вось ён пабачыцца з кіраўнікамі організацыі, скажа ім сваю думку аб наладжаньні работы, асабліва па губэрні, папросіць, каб яго ізноў куды-небудзь паслалі, толькі абавязкова ў гушчу рабочых, на прадпрыемства. „Толькі організацыя і ўздым большага ліку рабочых здольны пасунуць уперад рэволюцыйную справу“, думаў Зыкаў, падыходзячы з агароду да дзьвярэй у задняй глухой сьцяне.

На ўмоўны стук яму адчынілі. Вузкім прагалам між кадушак, скрыняў, пакоў, ён сьледам за тоўстаю кабетаю ўвайшоў у камору, адтуль у невялічкі пакой, які раней быў напэўна кладоўкаю.

— Вось яшчэ адзін кліент з Ніжняга рынку!—сьмяючыся сказала кабета, упускаючы Зыкава ў пакойчык. Ну, а цяпер, ша! Хто б ні зайшоў—гаспадара няма дома, выехаў на вёску за каровамі, можна і патужыць з наведвальнікаў аб дрэнным гандлі, уцешыць яго, калі засядзіцца.

Яна нячутно прайшла назад праз камору і замкнула яе дзьверы. Зыкаў з хвіліну прыглядаўся да людзей. Іх было пяць. Дваіх ён добра ведаў, аднаго нават з Пецярбургу. Астатнія былі зусім яму незнаёмы. Сярод іх быў такі, які асабліва прыцягваў увагу. Надта белы, да няпрыемнасьці твар, тонкія бяз крывінкі губы, некалькі рэдкіх валасоў у русай барадзе, даўгія закінутыя назад і моцна прычэсаныя валасы рабілі яго твар няжывым, быццам вылепленым з папье-машэ. Рукі ляжалі на стале; тонкімі касьцістымі пальцамі ён перагортваў нейкі сшытак. Як Зыкаў ні дамагаўся, але ён увесь далейшы час не перамог няпрыязьні, якая адразу ахапіла яго адносна гэтага чалавека.

Яго знаёмыя таварышы з радасьцю, у якой, аднак, прыкметна была стрыманасьць, асабліва з боку таго, з кім ён паспрачаўся пасьля сходу, павіталіся з ім і пазнаёмілі з астатнімі. Зыкаў сеў на адзінае вольнае месца—пустую кадушку ў кутку.

— Ну, кажы далей,—нейкім скрыпучым голасам прамовіў бляды таварышу, які з хвартухом на досыць поўным жываце і з чырвоным тварам паходзіў на гандляра мясам.

— Дык вось, у апошні час, таварышы, на мяне пачалі глядзець крыху коса. Спачатку ўсе пасаблялі мне парадамі, нават грашыма—я быў для іх новы чалавек, прыехаўшы з Беластоку. Яму трэба дапамагчы, быць ветлівым, бо лісты з Амэрыкі многа значаць. Але цяпер гэтая ўвага і пашана спадае. Мусіць у гандляры ёсьць нешта спэцыфічнае, чаго ва мне якраз няма. Прыкмецілі гэта. Я таксама вывучыў іх і бачу іх адносіны. Ведаеце, і гарадавік ужо ня кажа мне: „здраствуй, Лейба“, а проста матае галавою, як я зраблю яму ўклон. Адсюль вывад: трэба ліквідаваць гэтую кватэру і шукаць новага месца. Іначай—можа здарыцца бяда.

Без асаблівых спрэчак усе сябры камітэту згадзіліся з „мясьніком“ і даручылі другому таварышу організаваць новы прытулак.

— Пераходзім цяпер да справы таварыша Зыкава,—роўна, нідзе ня зьніжаючы і не падвышаючы голасу прагаварыў старшыня.

— Якая мая справа?—думаў Зыкаў. Ён азірнуў усіх таварышоў: тая-ж захаванасьць за апушчанымі вачмі. Гэтае туляньне ўзарвала яго.

Крыху заікаючыся ад усхваляваньня, ён запытаўся ў якім сэнсе ставіцца справа.

— Справа ставіцца так: чаму таварыш Зыкаў праваліў Ляскаўскі гурток і зьмінтрэжыў працу цэнтральнага захоўніка нелегальнае літаратуры,—ізноў роўна, ня выкідаючы ніводнага гуку з слова, прагаварыў старшыня, не мяняючы стану галавы, цела, рук.

Зыкаў паведаміў коратка аб сваёй рэволюцыйна-організацыйнай працы, абрысаваў ролю пана Ляскоўскага, крыху зачапіў свае адносіны да Зосі і намаляваў энэргічны канец—вобыск і неспадзяванае забойства паліцэйскага. Старшыня вынес заключэньне:

— Наколькі я разумею з вашага (ён націснуў на слова „вашага“) паведамленьня ва ўсёй гэтай справе адыграла найбольшую ролю ваша (ізноў націск) слабасьць да жанчыны...

— Няпраўда!—крыкнуў увесь пачырванеўшы Зыкаў.

— Не хвалюйцеся! Вы былі ўсхваляваны і забілі вурадніка, раскрылі гэтым організацыю. Цяпер пайшлі рэпрэсыі і зажым ва ўсіх прадпрыемствах. Вось вынікі вашае дзейнасьці!

— Першы раз чую з вуснаў рэволюцыянэра казань аб непраціўленьні злу,—ужо супакойна, нават з лёгкаю ўсьмешкаю адказаў Зыкаў, абводзячы іншых таварышоў, пазіраўшых на яго ўпарта-неадрыўна. Па-вашаму я павінен быў аддацца ў рукі паліцыі і пана Ляскоўскага, аддаць літаратуру, назваць таварышоў. Я да такога паскудзтва яшчэ не дакаціўся. Літаратура засталася ў нашых руках, ніхто з нашага ляскоўскага гуртка не раскрыты, хоць там і бушавалі з рознымі вобыскамі і допытамі.

— Організацыя ставіць вам у віну падпарадкаваньне партыйных інтарэсаў асабістым пачуцьцям,—мерна выпусьцілі тонкія губы чарговы запас слоў.

— Хто гэта „організацыя“? Усе ці вы асабіста?

Старшыня запытаў думкі сяброў. Адзін з яго старых таварышаў і адзін новы сказалі, што нязгодны са старшынёю і знаходзяць паводзіны Зыкава бездакорнымі. Астатнія згадзіліся з старшынёю. Большасьць асуджала Зыкава. Ён павярнуўся да дзьвярэй, прагучыся як найхутчэй пакінуць сабраных.

— Спадзяюся, мы застанемся добрымі таварышамі,—прагаварыў усьлед яму старшыня.

— Я быў, застаюся і буду рэволюцыянэрам, як кожны бальшавік. Цяжка з вамі працаваць, калі практыка беластоцкае конфэрэнцыі яшчэ да гэтага часу ў вас не памерла, калі на вас нападае талстоўства.

— Правільна, Гаўрыла! Я ім тое самае кажу,—кінуў яму ўздагонку другі яго стары прыяцель.

З дапамогаю гаспадыні Зыкаў выбраўся на вуліцу. Дзьверы бразнулі за ім, грукнуў засоў. Быўшы раніцою і ўдзень мароз раптам згінуў. З поўдня цягнула цёплым ветрам, дамы, прысады былі завінуты, як ватаю, густым туманам; дробныя, як праз сіта, кроплі дажджу зрабілі сьнег вагкім, па нізкіх мясцох боты чвакалі ў сьнежнай кашы. Ад агню змрок здаваўся яшчэ гусьцейшым і Зыкаў вобмацкам за платы выходзіў на Захараўскую вуліцу. Цішыня і туманы змрок абымалі ўсё вакол, ахоплівалі Зыкава, прыцягваючы да яго свае склізкія шчупальцы. Ціха, як у магіле, альбо як у невядомай змрочнай пустыні. Ні аднае зоркі на небе, нават ліхтар каля мосту вісіць жоўтым плямам, яшчэ больш наганяючы нуду. Толькі нявідныя, слабыя яшчэ, захаваныя зьверху тоўстым сьнегам пачынаюць шолах першыя вясновыя воды. Потым яны разьлюцца буйным патокам, зьнясуць сьнег, сарвуць броню лёду, змыюць

гразь; скончацца туманы, пойдуць доўгія ясныя дні з ружовымі зорамі. Цяпер-жа вакол змрок, туман, які лезе ў рот, душыць за горла.

Цяжка перасоўваючы ногі, Зыкаў праз увесь горад ішоў да халупы Сёмы, дзе чакала яго душная ноч у бакоўцы-скрыначцы. Можа стацца, што і такога прытулку ня будзе—нельга-ж рабіць небясьпеку для самога Каца і яго сям'і. А сёньні яму не сказалі нават куды-б маглі паслаць яго.

Сёма ўстрэў яго надта зьдзіўленым. Яго ашаламіў выгляд Зыкава. Запухшыя вочы, пакутна сьціснутыя губы, вабраная ў плечы галава, бясьсільна вісячыя рукі адразу кінуліся ў вочы Сёме.

— Ты ўжо ўсё ведаеш?—з надрывам запытаўся ён, маючы на ўвазе свае думкі.

— Што гэта?—бязцікаўна запытаўся ў свой чарод Зыкаў.

— Можа табе і не сказалі, ад іх можна чакаць... Сёньня павінен быў вызначыцца протэст супроць пагоршанага рэжыму на прадпрыемствах. Там, дзе нашы організацыі ня існуюць альбо прадстаўлены адзінкамі, наогул нічога ня вышла. У нас... у нас-жа яшчэ гор. Вышлі ў перапынак на двор амаль усе, але... але досыць было вокрыку майстра, як усе сагнуўшыся сталі па мясцох і раней, як трэба, пачалі працу. Ох, рабства, паднявольнасьць! І калі, Зыкаў, народзіцца чалавек?

Сёма зарыдаў. Ён скрыгітаў ад злосьці, злосьці на сябе за сваю слабасьць, але буйныя сьлёзы каціліся па яго шчоках.

— Заткніся ты, чыстая душа! Без цябе тут усё драмціць. Сьлязьмі, браток, нікому не пасобіш і нічога ня зробіш. Трэба халодная ненавісьць! Зразумеў?

— Выбачай,—сьціхаючы, прамармытаў Сёма.—Занадта гнусны час мы пражылі. Я ўсё разумею, ты заўсёды праўду кажаш, толькі мне хацелася верыць.

— Папы навучаюць верыць, а не марксыстыя!—злосна перабіў, ня даўшы скончыць, Зыкаў.

На гэту рэзкасьць Кац нічога не адказаў. Толькі яго вочы, цудоўныя вочы былі засланы туманам. Ён і не распытваў Зыкава аб яго справах і настроі.

З гэтага дню пачаўся вялікі правал у жыцьці Зыкава, які потым ніколі ён ня мог падараваць сабе. Пры ясным разуменьні агульных задач, пры разуменьні неабходнасьці далей весьці перш за ўсё палітычную працу, Зыкаў нейкі час ня мог знайсьці ладу з сабою. У адносінах да таварышаў ён стаў недаступна-халодным, Сёме Кацу выказваў адчыненую варожасьць. Па выгляду ён зусім апусьціўся, на жухлым твары яго ніколі нельга было заўважыць цікавасьці да якога хочаш пытаньня.

Часьцей ды часьцей пакідаў ён свой прытулак у Каца. Дзе ён начаваў у гэтыя часы, нікому ня было вядома. Сара і Лія зводзіліся ў непакойсьцьве. Са смагшымі губамі і палячымі вачмі Лія мятусілася па

халупцы, дарэмна прачакаўшы Зыкава далёка за поўнач. Яна будзіла Сёму, патрабавала, каб ён ішоў шукаць яго.

— Згубіце, згубіце вы яго!—надрыўна цьвярдзіла яна ўдзень, увечары, уначы.

Сёма і сам адчуваў вялікую трывогу. Ён некалькі разоў радзіўся з старэйшымі таварышамі, як дапамагчы Зыкаву, вызваліць яго ад гэтага зацямненьня. Ён пачаў сачыць за ім, калі ён не зьяўляўся на кватэру. Тое, аб чым даведаўся Сёма праз гэта, яшчэ больш усхвалявала яго. Зыкаў пакінуў сьцерагчыся. Па вечарох ён праседжваў цэлыя гадзіны па карчмах. У карчмах на Лагойскім альбо на Ігуменскім тракце ён ужо быў нібы сваім чалавекам. Кола расхамастанага люду абкружала яго. Тут вяліся гутаркі аб дробных пакражах, тут п'яны нашчэнт гарбар плакаў аб сваей сям'і, якая сядзіць бяз хлеба, а ён вось п'е; тут біліся на стадоле бутэлькамі, абцасамі, што пападала пад руку; сюды заходзілі гуляшчыя дзяўчаты ў абкружэньні разлахмачаных хлопцаў.

Зыкаў піў з кампаніяю, піў адзін. Раз чуць не пабілі яго хлапцы з хэўры, якая дапамагала гаспадару карчмы спраўляцца з усім п'янымі, альбо тымі, хто не плаціў грошы. Сёма ведаў, што пасьля гэтага здарэньня Зыкава ня відаць было некалькі дзён. Дзе ён туляўся ў гэтыя дні, нікому з таварышоў ня было вядома...

У часе гэтага зацямненьня Зыкаў адзін раз бяз усялякае мэты швэндаўся па вуліцы. Ён трымаўся пустых невялікіх вуліц—не таму, што лічыў у гэты час неабходным хавацца, а таму, што бачыць чалавечы натоўп яму была прыкра. На адным з заваротаў на другую вуліцу мільганула кабечая постаць, якая чамусь пацягнула яго да сябе. Зыкаў кінуў сваю маруднасьць і прыбавіў ходу. Крыху хістаючаяся фігура была ўсё бліжэй ды бліжэй, вось яна і азірнулася, але разабраць яе твару ў змроку нельга было. Зыкаў ужо толькі на крок з-заду.

— Зося!—глуха клікнуў ён, як слабое сьвятло ліхтара ўпала на твар жанчыны.

— Зося!—мацней гукнуў, хапаючы яе за руку.

Пах сьпірытусовага перагару дыхнуў яму ў твар. Глыбока запаўшыя падведзеныя вочы жахліва пазіралі на яго. З-пад ярка-зялёнага капялюшыка-шлычка вылазілі няпрыбраныя пасмы залацістых валасоў. Падмаляваныя чырвоныя губы былі напалавіну раскрытымі і дробна дрыжэлі.

— Зося, як ты сюды трапіла; што з табою зрабілася?

— Ха-ха-ха!—пракаціўся дробным гарохам сіплы сьмех дзяўчыны. Дык гэта вы, пане рэволюцыянэр? Маё шанаваньне, цалуйце руку хутчэй!

Губы яе пакінулі дрыжэць, вочы глядзелі выклікаюча-бессаромна.

—Можа хочаце пакахаць мяне? З вас, як старога знаёмага, танна вазьму, далібог.

Зыкаў да болі прыкусіў губу. Сэрца яго пякло вагнём. Ён шукаў слоў у гарачай галаве, але яны ня зьвязваліся ў выразны сказ. Без разуменьня ён круціў пальцы Зосі, якія ня выпускаў з свае рукі.

— Скажы, скажы мне, як гэта здарылася?—напасьледак зьвязаў ён словы.

— Што здарылася? Нічога і ня здарылася. Дык вы да мяне ня пойдзеце? У мяне чыста!—дыхаючы мешанінаю піва і пудры, бессаромна закідала яна словамі Зыкава.

Першая радасьць, глыбокая жаласьць, якія Зыкаў адчуваў момант таму назад, пачалі раптам глохнуць, злосьць і адваротнасьць занялі іх месца. З гэтым разам і разьвязаліся думкі ў галаве, язык пачаў вольна варочацца на сваім месцы.

— Скажы, ты добраахвотна... пайшла... да пана Ляскоўскага?—пранізваючы яе наскрозь поглядам запытаўся ён.—Я бачыў такую запіску пана ў твайго бацькі.

Дзяўчына ўстрапянулася, вырвала сваю руку з рук Зыкава. У сухіх вачох яе мільгануў зялёны вагоньчык, верхнія зубы ўрэзаліся ў споднюю губу.

— А-а!—застагнала яна.—Гвалтам... гвалтам разарвалі, запэцкалі і выкінулі на сьметнік... Чаго табе трэба ад гуляшчае дзеўкі?—дзіка крыкнула яна.

— Зось, Зосенька!—страціўшы ўсю адваротнасьць, з цяплатою ў голасе прасіў Зыкаў.—Ідзі са мною, я кахаю цябе, як і раней. Зося!

— Ха-ха-ха!—парушаў цішыню вуліцы надламаны сіплы голас.—Дык вы ня хочаце зайсьці на часінку, у мяне чыста! Ня пойдзеце? Шкада, не даеце зарабіць.

Яна адарвалася ад плоту і напяваючы:

Мой мілёнак казаў прыдзе,
І тры разы ашукаў...

Хістліва пайшла на Захараўскую, адкуль нёсься гул гарадзкога ажыўленьня.

— Скончана!—голасна сказаў Зыкаў і крануўся ўніз на Ляхаўку.

## III.

Адшуканьні Зыкава жандарамі і паліцыяю не давалі ніякіх вынікаў. Таксама дарэмнымі былі энэргічныя спробы вылавіць яго ўдзельнікаў у справе організацыі нелегальнага гуртка з рабочых ляскаўскіх прадпрыемстваў. З паказаньняў бухгальтара Пісарэўскага, які разам з ураднікам рабіў вобыск у Зыкава, жандармам было вядома, што там была недазволеная літаратура, і досыць шмат яе. А потым, калі Пісарэўскі ўцёк з перапуду, у час да прыходу на кватэру Зыкава самога пана Ляскоўскага з цівунам і панятымі, уся гэта літаратура недзе загінула. Шукалі сьлядоў яе ў печах, у калодзежах, на столі Кавальчыкавае хаты — нідзе ня было ніякіх адзнак яе знаходжаньня. Узяліся тады-ж адразу за Сымона Кавальчыка і яго сям'ю, але і сам Сымон і яго жонка толькі жагналіся і завяралі, што нібы чэрці схапілі раскіданыя панам ураднікам

кніжкі і зьніклі разам з імі. Кавальчыкаў—бацька і сына схапілі, але жандары добра разумелі, што гэтым не вырашаецца задача. Забойца Зыкаў зьнік, яго ўдзельнікі заставаліся невядомымі.

Як толькі менскім губарнатарам была атрымана тэлеграма ад пана Ляскоўскага аб забойстве вурадніка як тым, што „убийца—известный революционер, бежавший с каторги—Росяк скрылся“, на ногі была паднятая ўся жандармэрыя і паліцыя. Па гарадох, на чыгуначных станцыях пачалося ўзмоцненае сачэньне звычайнае і патаемнае паліцыі, рабіліся налёты з вобыскамі на некаторыя рабочыя кватэры, на кватэры тых, хто значыўся ў сьпісах жандармэрыі як ненадзейны альбо падазроны элемэнт. У гэты час Зыкаў быў недалёка ад Ляскаўцаў, у глухіх лясістых мясцох. Калі-ж ён праз месяц трапіў у Менск, дык увага паліцэйшчыны накіравалася ў бок Ляскаўскага і ваколічных месцаў. Там пераверну́лі ўсё і ўсіх. З Ляскаўскае гуты і паперні захапілі каля дзесятку чалавек, больш па нацыянальнай адзнацы—яўрэяў рабочых, білі іх, вымагаючы прызнаньне; ня мінулі і старога настаўніка Пятруся Мікалаевіча, які, пасьля цяжкага здарэньня з яго незабыўна-дарагою дачкою, бяссмысленна глядзеў на ўвесь сьвет і не разумеў, чаго патрабуюць ад яго гэтыя людзі з блішчастымі гузікамі і з рэвольвэрамі; хапалі і сялян, асабліва тых, хто быў у свой час уперадзе сялянскага руху ў барацьбе з панам за пашу. Але нічога не пасабляла. Прайшоў ужо сакавік з яго сьнягамі, дажджамі, туманамі, пачаліся ясныя дні красавіка, а вынікаў ад пагоні за нявіднаю здабычаю многіх лоўчых і паляўнічых ніякіх ня было.

— Калі да гэтага часу не злавілі, то і ня зловім да наступнае зімы, гаварылі між сабою старыя набіўшыя руку сышчыкі.

Была другая палова красавіка. Дзень быў сьветлы, сонечны, радасны. На сквэры на Саборным пляцу шпацыравалі пані, нянькі вазілі белыя, ружовыя каляскі з дзецьмі, прыбранымі ў брыжовыя чэпчыкі з ружовымі, зялёнымі істужкамі. Звонкі сьмех агалашаў чыстае паветра. Але не да вясёласьці, не да сьмеху было людзям, якія сядзелі ў прыёмнай губарнатарскага дому, які быў супроць сквэру. Тут былі заплаканыя прасіцельніцы, дрыжэўшыя чыноўнікі, прагна вылічаўшыя магчымыя барышы казённыя дастаўшчыкі. Усе яны думалі толькі аб тым, як дагадзіць яго правасхадзіцельству на прыёме, каб дамагчыся ў лепшы для сябе бок вырашэньня справы. Не далучаючыся да асоб, якія чакалі прыёму, ціха расьсеўшыся па крэслах уздоўж сьцен, нэрвова хадзіў па дыягоналі прыёмнае высокі, прыгожы ў добра прыгнаным мундзіры жандарскі палкоўнік. Ён запыняўся на хвіліну каля балконнага вакна, прыглядаўся на ажыўлены сквэр, адварочваўся і пачынаў ізноў хадзіць, залажыўшы вольную ад пальчаткі правую руку за засьцягнутую хвалду мундзера.

— Выбачайце, пане палкоўнік, адну толькі хвіліну,—расплыўшыся, як памазаны маслам, сказаў вылашчаны чыноўнік, выходзячы з-за высокіх дзьвярэй губарнатарскага габінэту.

Праз хвіліну ўсамдзелу з габінэту вышаў нейкі тоўсты генэрал, пазвоньваючы шпорамі. Усе прысутныя ў прыёмнай устрапянуліся, кожны па-свойму прагучыся ўдзяляць увагу праходзячаму генэралу. Толькі жандар паглядзеў на яго таксама роўна-бясьцікаўна, як і на самую жалкую прасіцельніцу. Па кіўку галавы чыноўніка палкоўнік накіраваўся да дзьвярэй габінэту. Адзін з тоўстых дастаўшчыкаў ускочыў, падышоў да чыноўніка і пачаў махаць перед яго носам рукою, на якой зьзялі перстні з каменьнямі, хвалюючыся, што нейкага там палкоўніка пусьцілі без чаргі і раней яго. Але чыноўнік матануў галавою такім чынам, што дастаўшчык адразу завяў і моўчкі сеў на свае месца.

— Спадзяюся, палкоўнік, вы атрымалі маю запіску?—ласкава запытаўся губарнатар, калі жандар сеў у крэсла супроць яго.

— Так, ваша правасхадзіцельства, атрымаў, толькі асьмельваюся далажыць, што...

— Што ў вашых жандараў галава мякчэй, як у гэтага катаржніка,—сярдзіта перабіў губарнатар, адразу наліваючыся кроўю.

— Ваша правасхадзіцельства, дазвольце!—ускочыўшы на ногі, крыкнуў палкоўнік.

— Нічога я не дазваляю! Дзе Росяк і яго кампанія?

— Не магу-ж я далажыць вашаму правасхадзіцельству тое, чаго ня ведаю. Шукаем!

— Шукаеце! Ха-ха-ха!... Чорт ведае, што робіцца, што будзе. Пецербург, міністэрства чакае, грамадзва чакае—а вы ўсё шукаеце. Яго вялічаства, міністар, шляхта, прадпрыемцы могуць палічыць нашы няўдачы за нядбайнасьць, за патураньне соцыялістым. Вы разумееце гэта ці не?—ціха, але голасам, у якім чулася пагроза, гаварыў губарнатар, блізка падышоўшы да жандара і гледзячы яму проста ў вочы. Палкоўнік маўчаў, адхіляючы свой позірк у бок.

— Скажэце, палкоўнік, вы можаце злавіць іх, ну, хаця-б за тыдзень?—мякка, з водценьнем просьбы, працягнуў губарнатар, не атрымаўшы ніякае заўвагі на свае папярэднія словы.

— Я прылажу ўсе сілы, каб як найхутчэй ліквідаваць гэтую справу, але, вядома, сьмешна было-б вызначыць які-небудзь тэрмін для гэтага, асабліва тыднёвы,—прымаючы свой гонар адказаў палкоўнік.

— Ах, так, пане палкоўнік? Ну, дык бывайце здаровы, я вас не затрымліваю.

Асабовы чыноўнік, ведаўшы прыёмам, прасунуў галаву ў дзьверы габінэту, як толькі адтуль досыць пасьпяхова выйшаў жандар.

— Дазволіце, ваша правасхадзіцельства, Стуцэру, дастаўшчыку?—запытаўся ён нясьмела, прыкмеціўшы занадта чырвоны твар свайго патрона і крыху, мімалётам, усьміхнуўшыся пасьпяховасьці палкоўніка.

— Не! Прыём прыпыніць!—скрыпнуўшы на павароце паркетам, загадаў губарнатар. Паклічце да мяне пракурора. Каб прыехаў адразу! Ды няхай сьледчага прывязе... па Ляскаўскай справе.

Чыноўнік умільна схіліў галаву і гатоў быў выпырснуцца за дзьверы ў прыёмную.

— Вось што,—прыпыніў яго начальнік губэрні.—Няхай там хто паважней, чалавекі тры, застануцца—я прыму пасьля пракурора.

Праз некалькі хвілін у прыёмную ўкаціўся худы, з выцягнутым жоўтым тварам, на якім асобна выдавалася ўперад сподняя сківаца з рэдкімі зубамі, пракурор. Прычэсваючы на хадзе з бакоў на лысіну рэдкія валасы і папраўляючы шпагу, ён падышоў да чыноўніка і прылажыў да вуха скручаную рупарам далонь.

— Іх правасхадзіцельства клікалі?—паказваючы ўсе сподція зубы з чорнымі дуплямі, прашамацеў ён.

— Пажалуйце, ваша правасхадзіцельства!—і чыноўнік услужліва адчыніў дзьверы габінэту.—А вы пачакайце!—больш сурова зьвярнуўся ён да ружовага гладкага, як даходжаны бычок сьледчага, які з ашаметкам папераў таксама сунуўся ў габінэт.

Даведаўшыся аб здароўі яго правасхадзіцельства, паважанай Алены Васільеўны, губарнатар перайшоў да справы.

— Ну, як вашы пейзаны?

— Фазаны? Маладых чакаю, хутка вылупяцца, ваша правасхадзіцельства.

— Гэта добра, што вылупяцца... Я пытаюся аб пейзанах, аб мужыкох,—мацней і радзей вымаўляючы словы, гаварыў губарнатар.

— Ах, ваша правасхадзіцельства, вы аб гэтых рэволюцыянэрах? Так, так! Яны здаровы. Я садзіў іх на ваду і чвэртку хлеба, каб прызнаваліся. Ня прызналіся... і здаровы. Жывучы расійскі народ!—зарагатаў, як сыпаліся каменьні, пракурор; устаўленая верхняя сківаца ляскала пры кожным уздрыгу галавы.

— Што-ж яны паказваюць?

— А тое, што і раней. Бяз новых дадзеных няма складу праступку.

— Вы ўпэўнены ў гэтым, ваша правасхадзіцельства? Я ўпэўнен, што пара было-б судзіць.

— Адпусьціць? Не, адпусьціць нельга, пакуль ня стануць перад судом галоўныя злачынцы, якія пасягнулі на сьвяшчэнныя асновы Расійскае імпэрыі.

— Судзіць! Судзіць!—выкрыкнуў, усхваляваны глухатою свайго суразмоўцы, губарнатар.

— Каго судзіць? Гэтых мужыкаў?

— Не мяне-ж з вамі! Трэба хутка наладзіць процэс.

— Гэтых няма за што судзіць. Разам—іншая рэч. Быў-бы процэс, напрыклад, дзесяці. Так-бы і зваўся: Менскі процэс дзесяці альбо пятнаццаці. Больш—лепш.

— Я прапаную вам зараз-жа скончыць сьледзтва і наладзіць процэс,—пільна глядзючы на пракурора, гаварыў загадна губарнатар.

— Я... я падпарадкаваны, ваша правасхадзіцельства, міністру юстыцыі і адказваю за поўнасьць справы. Я лічу, што судзіць можна будзе, калі ўсе мяцежнікі будуць вылаўлены. Дзе Росяк, дзе гэтая паганая літаратура?

Скіўіцы пракурора заляпалі. Вузкая бародка яго тылам паднялася і, здавалася, здольна была калоць. У вачох ускочылі іскаркі.

— Я па-тра-бу-ю ад вас, каб про-цэс над Кавальчыкамі адбыўся да 14 мая. Разумееце?

Пракурор зачыніў сваю ляскаўку. Рукі павісьлі. Ён шмаргануў рукою каля кішэні, адкуль тырчэў эфес шпагі.

— Слухаю, ваша правасхадзіцельства. Больш нічога не загадаеце?

— Нічога. Дык фазаны ў вас вылупляюцца?

— Вылупляюцца, вылупляюцца, ваша правасхадзіцельства! Можа пацікавіцеся, міласьці прашу. Найдалікатнейшыя птушачкі.

У прыёмнай заставаліся толькі дзьве „важнейшыя асобы“, якія ўпарта чакалі прыёму, ды ружовы сьледчы. „Важнейшыя асобы“ разам схавалі свае валовыя каркі за дзьвярыма габінэту. Сьледчы, як на спрунжынах, падскочыў да кійкаабразнага начальніка.

— Злавілі?—радасна, зьзяючы гладка выбрытым падбародавікам і белымі зубамі, запытаўся ён і прыпыніўся перад пракурорам з выглядам самае глыбокае пашаны.

— Канчайце сьледзтва. Будзем судзіць... гэтых мужыкоў,—ціха праскрыпеў пракурор.

— Няма-ж улік!—зьдзіўлена прамовіў сьледчы, трацячы свой бляск.

— У вас яшчэ маецца, калі помню, толькі „Анна третьей степени“. Я ў вашы гады меў „Владимира з бантом“.

— Так, вы зусім правільна кажаце, ваша правасхадзіцельства! Судзіць можна, ваша правасхадзіцельства. Знойдуцца новыя паказаньні сьведак. Ад папярэдніх некаторых, якія не патрэбны для справы, яны адмовяцца, а то мы і проста скасуем.

— Скасуйце, скасуйце. Я заўсёды быў упэўнены ў вашых здольнасьцях. Дасьць бог, вы будзеце некалі старшынёю судзебнае палаты, а то і вышэй... Ну, хадзем, я падвязу вас, галубок.

Творцы судовых спраў пакінулі прыёмную. Асабовы чыноўнік, злажыўшы грудкаю запячатаныя канвэрты, падышоў да бальконнага вакна, прыглядзіўся да лёгка калыхаўшыхся капялюшыкаў, і салодка, як смакуючы торт, прыжмурыў сьвіныя вочкі. Цмокнуўшы два пальцы, матануў рукою...

Праз некалькі дзён пасьля гэтых гутарак у высокіх сфэрах у газэце „Слова“ на першай старонцы вялікімі літарамі быў дадзены аншлаг: „К предстоящему процэссу над убийцами полицейского“. У даўжэразным артыкуле паведамлялася аб забойстве вурадніка ў Ляскаўцах пры выкананьні ім службовых абавязкаў па выкрыцьці рэволюцыйнае організацыі. У гэтай справе, па словах газэты, чынны ўдзел прынялі Кавальчыкі, бацька і сын,—зусім нявартыя гаспадары-сяляне. Яны-ж хавалі ў сябе

вялікі склад недазволенае шкоднае літаратуры. Газэта патрабавала ад імя „грамадзкасьці“ суровага пакараньня злачынцам, якія пагражаюць „священным устоям нашей великой Империи“. Гэта тым больш патрэбна зрабіць, што за сьпіною выяўленых злачынцаў стаяць асобы, якія ня выкрыты, але якія таксама вядуць сваю руйнуючую працу. „З боскаю дапамогаю“, канчала газэта, „органам улады ўдасца выкрыць астатніх існуючых злачынцаў, сеючых ненавісьць і злобу і дамагаючыхся нізьвяржэньня дзяржаўнага парадку“.

Процэс вызначаўся на 10-е мая. Чыноўніцы, афіцэршы, больш знатныя гандляршы пачалі дзейна рыхтавацца да яго. Купляліся ўбёры, бо будзе „ўвесь сьвет“; мужоў прасілі абавязкова-абавязкова дастаць білеты, бо будзе „ўвесь сьвет“; званілі па тэлефонах, пасылалі запіскі з лёкаямі, з пакаёўкамі, бо ізноў-такі будзе „ўвесь сьвет“. За гадзіну да пачатку суду да памяшканьня пачалі пад'яжджаць карэты, фаэтоны, фасоністыя рамізьнікі на дзьмутых шынах: найбольш падкія да відовішч дамагаліся захапіць лепшыя месцы, бліжэй да судзейскага амбону.

Сымону Кавальчыку апавясьціў вастрожны надзірацель аб судзе над ім толькі за гадзіну да пачатку слуханьня справы. Сымон так і застаўся сядзець, спусьціўшы з тапчана брудныя голыя ногі з кароткімі нагавіцамі няведамага колеру, ад якіх зьнізу абрыўкамі віселі махры. З тае самае начы, як яго забралі з малодшым сынам, Міхасём, ён зьдзівіўся, і гэтае зьдзіўленьне не пакідала яго нідзе. З расшыранымі, выедзенымі дымам вачмі, жуючы смагнымі губамі, сеў ён у цягнік, куды вапхнулі яго людзі ў чорных шынэлях з чырвонымі шнуркамі ад шыі да рамянёў, з гэтым-жа выглядам прыпыніўся ён перад жалезнаю брамаю белага вастрогу, а потым пайшоў па гулкіх калідорах-рынах і ўвайшоў у пусты скляпяны пакой, дзе стаялі два голыя тапчаны—для яго і Міхася. Кожны дзень ён з ранку да начы нярухома сядзеў на тапчане, і выцьвіўшыя вочы яго глядзелі ў нязьмерна-далёкую кропку. Прыходзіў разы два „аблакат“, які павінен быў вызваліць яго і Міхася ад бяды. Але Сымон не разумеў, чаго хоча ад яго гэты пахучы пан.

— Татка, абувайся, хутка ісьці!—штурхаючы яго ў плячо, напомніў Міхась.

— Куды ісьці?—трасучы губамі запытаўся бацька.

— На суд, татка... Страхотна мне, татка! Можа нас павесяць альбо застрэляць. Госпадзі, як усьцішна! І за што?

Трасучымі рукамі пасобіў Міхась бацьку накруціць каравыя анучы, абуць распатляныя лыкавыя лапці. Хутка промкнуў замок, і ў склеп увайшлі два салдаты ў белых сарочках з бліскучымі шашкамі ў плячэй. Надзірацель штурхнуў Сымона.

— Ну, ідзі, сіцыліст!

На дварэ да іх далучылі яшчэ двох маладых яўрэяў-рабочых з ляскаўскае гуты. Міхась ведаў іх у твар.

— А вас куды-ж?—крыху адыходзячы ад страху, запытаўся ён.

— Туды, куды і вас,—усьміхнуўся адзін з кручанымі чорнымі, як смоль, валасамі.

— Так, і судзіць будуць? А за што?—цікавіўся Міхась.

— Каб-жа мы ведалі! Судзіць, браце, могуць і ні за што... як вас, напрыклад.

— Не разговаривать!—крыкнуў салдат з двума „лычками“.

Арыштантаў абкружылі салдаты с шашкамі на-гола. Ад варот астрогу аж да пад‘езду прыгожага, ярка-белага на сонцы дому, дзе зьмяшчаўся суд, сьледам за арыштаванымі і канвоем каціўся жывы натоўп хлапцоў, ад зусім малых да падлеткаў. Адны сьвісталі, другія крычалі „арыштанты“, трэція „сяляцца згубіш“, іншыя шыбалі палкі пад ногі „ундзера“.

Заля была паўнюсенька. Страўсавыя, гусіныя, курыныя, паўлінавыя пёры, хварбаваныя конскія валасы, выверчыны вушкі калыхаліся на капялюшох гладкіх кабет, пазьвяквалі шпоры, шапацеў шоўк чорных сурдутаў. Нявыразны гоман стаяў па залі, як да пачатку дзеі ў тэатры, калі дамы разглядаюць адзеньне другіх, дзеляцца плёткамі адна аб другой, а кавалеры дагадліва хваляць убёры сваіх дам і сыплюць, не шкадуючы, камплімэнты аб прыгожасьці сваіх суседак. Раптам заля заціхае: у дзьвярах паказаліся канвойныя, а за імі—злачынцы. Арыштантаў правялі да бакавое сьцяны, за асобную агароджу і пасадзілі на ўслон, які ўзвышаўся над усёю заляю і быў на ўзроўні судзейскага месца. Па бакох сталі салдаты з шаблямі на плячо.

Сотні вачэй—вачэй так сабе, вачэй пад акулярамі, вачэй пад лёрнэтамі—пацягнулі да фігур на ўзвышэньні.

— Шапку, шапку сымі!—стукнуўшы ззаду ў бок Сымона, прашыпеў судзебны распарадчык.—Ці-ж ня бачыш, сукін сын, патрэта гасудара імпэратара?

І не чакаючы, ён сам сарваў лахманку Сымона і гадліва ткнуў яе на сядзеньне.

— Quel misérable sujet!—прамовіла князёўна Друцкая, разглядаючы ў лёрнэт з залатою ручкаю Сымона Кавальчука.

Яна сядзела ў першай радоўцы крэслаў побач з прыехаўшым спэцыяльна на суд панам Ляскоўскім.

— Mais c‘est un mauvis sujet,—адказаў той.

Князёўна Ваця была незадаволена. Яна чакала, як і ўсе гэтыя пані і паненкі ў залі, угледзець нешта нязвычайнае: высокіх моцных людзей, з вагністымі вачмі, з шырокімі бародамі: ад аднаго позірку на злачынцаў павінна быць саладка-жудасна. Гэтае нязвычайнае асалоды і прыехала шукаць на судзе князёўна. Замест гэтага на лаўцы падсудных сядзяць худыя, абадраныя, нямоцныя людзі. „забойца“ Кавальчык з яго моршчынамі, праедзенымі сажаю, з бялесымі выцьвіўшымі вачмі, з жуючымі без перапынку губамі, з калтунаватымі валасамі, у рыжай падранай сярмяжцы быў далёка ад пажаданага князёўне „звышчалавека“

як неба ад зямлі. Хлопец—нічога, але той, так, мусіць, баяўся небарака, што на яго жалка было глядзець. Князёўна Ваця акінула з агідаю вокам усіх падсудных і адвярнулася. Уся заля пасьледвала яе прыкладу. На мясцох пайшлі перамаўленьні.

— Жалкие, а должно быть мерзавцы порядочные!

— Ну, вядома, забойцы!

— И двух жидков удалось поймать! Эти везде, они и наущают!

— Кажуць, галоўнага няма, не злавілі! І чаго глядзіць гэтая паліцыя!

— Лайдакі!

— А бяз віны, панове, іх судзяць.

На гэты чутны шэпт шмат хто з бліжэйшых азірнуўся, але ўстанавіць, хто гэта сказаў, не давялося.

— Суд идет!—усе ўсталі.

— Ты што сядзіш?—Штурхнулі Сымона, і ён зьехаў са ўслону, бо ногі яго не даставалі падлогі.

Усе селі, разглядаючы цяпер старшыню суда пад патрэтам цара, членаў—побач яго, сакратара, пракурора за асобным сталом. Пачакаўшы, пакуль зацiх шолах садзіўшыхся, старшыня адчыніў пасяджэньне. Ён кінуў сярдзіты позірк на прысяжных засядацеляў, якія, спазьніўшыся, толькі цяпер займалі свае месцы, і загадаў сакратару чытаць абвінаваўчы акт. Сакратар, папраўіўшы сурдут і пагладзіўшы і без таго прылізаныя валасы, пачаў роўна зудзіць даўгі акт, які аднаўляў амаль слова-у-слова напісанае тыдзень таму назад у газэце. Сымон бязудзельна глядзеў у далячыню, мусіць, нічога не разумеючы. Толькі ў тым месцы акту, дзе ён абвінчваўся ў забойстве і хаваньні шкодных кніжак, Сымон паказваў адзнакі жыцьця—дакорна ківаў галавою. Яўрэі-рабочыя прагна слухалі: яны зьбіраліся самы абараняцца, у іх ня было сродкаў на адваката. Міхась з цікавасьцю разглядаў такі вялікі натоўп, якога яму не даводзілася бачыць да гэтага часу.

Пасьля заслуханьня акту пачаўся допрос сьведак. Выходзілі двое з сялян, быўшыя панятымі. Яны коратка паведамілі, што бачылі. Жаданага ўражаньньня яны не зрабілі. Пасьля іх вышаў бухгальтар з гуты Ляскоўскага—Пісарэўскі. Уважліва паглядзеўшы на пана Ляскоўскага, які ня спускаў з яго вачэй увесь час прамовы, ён нізка пакланіўся судзьдзям. У сваёй прамове ён адзначыў, што добра ведае Кавальчыкаў. Гэта сяляне-галацьбіты; яны заўсёды горла дзяруць і гатовы пашкодзіць маемасьці ў любы час. Ён, Пісарэўскі, даведаўся аб шкодных кніжках, якія хаваліся ў хаце Кавальчыка. Калі ён з вураднікам пашоў рабіць вобыск, дык Кавальчыкі разам з іх кватарантамі напалі на вурадніка: Кавальчыкі—бацька з сынам трымалі, а кватарант дзёўб, а потым і Сымон Кавальчык біў. Забілі-б і яго, Пісарэўскага, каб ён ня ўцёк. Кніжкі-ж яны захавалі ізноў.

— Яны—непасрэдныя ўдзельнікі забойства,—працягваючы руку ў бок лаўкі падсудных, патэтычна сказаў ён.

— Гад ты, гад печаны!—агаласіў залю звонка-рэжучы жаночы голас,— прадажная шкура!

Уся заля ўстрапянулася. Нават Сымон замаргаў.

— Ганулька!—прамармытаў ён.—Дачушка!

— Лишаю свидетельницу защиты Анну Кавальчик слова. Выведите!— загадаў старшыня судоваму распарадчыку.

Пасьля гэтага парадак судагаварэньня не парушаўся. Сьведак было нямнога. Рашучымі былі паказаньні бухгальтара. З выглядам незаслужана абраджанага сядзеў ён на лаўцы сьведак і жмурыўся, адпусьціўшы губу: ён цяпер меў права нават перад такімі знатнымі панамі, нават перад самым панам Ляскоўскім высокамерна адпускаць губу. Ён гэтае права зарабіў.

Гаварыў пракурор, гаварыў абаронца. Пракурор горача, ляскаючы ўстаўленымі сківіцамі, даводзіў, што Кавальчыкі і гэтыя яўрэі-гутнікі пагражаюць грамадзтву, пасягнулі на падрыў імпэрыі. Забойства вураднiка—цяжкі праступак, але гэта толькі частка той шкоды, якую робяць гэтыя рэволюцыянеры. Пракурор патрабаў самае суровае кары. Абаронца Кавальчыкаў згаджаўся, што яны вінаваты ў абодвых праступках, ім прыпісаных, але ён у імя „человеколюбия и сострадания к низшему брату“ прасіў паслабленьня і выказваў надзею, што яны кінуць навязаныя ім „гнусныя ідэі“ і раскаюцца ў сваім крывавым учынку. Рабочыягутнікі горача даказвалі, што іх пасадзілі на лаўку падсудных бяз усякага праступку з іх боку, што няма жадных доказаў вінаватасьці іх у чым-небудзь. Прысутныя зларадна слухалі іх палкія прамовы і пасьмейваліся.

— Апошняе слова падсуднага Сымона Кавальчыка! — выгукнуў старшыня.

— Гавары, калі хочаш!—падштурхнулі Сымона.

Ён устаў, пераступіў з нагі на ногу, пажаваў чорнымі губамі.

— Ну, гавары!—нецярпліва падагнаў яго старшыня.

— Паночкі! Даражэнькія!.. Забіваць я не забіваў, нічога ня бачыў. Знайшліся добрыя людзі і без мяне... Калі забілі... то... было за што... Дарэмна людзей не забіваюць... Я-ж не забіваў. Потым толькі забітага вывалак... хату паскудзіў... Аб кніжках... У майго пастаяльца было шмат кніжок, але што гэта за кніжкі—ня ведаю... Няпісьменныя мы. Паратуйце паночкі! Калі не мяне, дык хлопца вызвальце, яго і дома тады ня было.

Ён запыніўся і сьляпымі вачмі пазіраў на старшыню ці на царскі патрэт. Ззаду турзанулі. Ён хлёпнуўся на лаўку. Прысяжныя, пасьля кароткае прамовы старшыні, які напомніў, што такія справы ў свае часы вырашаліся вайскова-палявымі судамі, радзіў прысяжным улічыць важнасьць праступка падсудных, удаліліся на нараду. Нават не пасьпелі панове звадзіць сваіх дам да буфэту, як прысяжныя вышлі з свайга дарадчага пакою. Старшыня абвесьціў абвінаваўчы вэрдыкт. Старшыня суду нахіліўся да аднаго і да другога судзьдзяў. Потым ён устаў. Усталі ўсе

ў залі. Імем „его императорского величества“ падсудныя былі засуджаны на пяць год катаргі кожны. Воплескі затрашчэлі, як рассыпаны гарох, з пярэдніх радоў.

Публіка паваліла з залі. Князёўна, перад якою з пашанаю расступалі дамы і мужчыны, гаварыла пану Ляскоўскаму:

— O, mon Dieu! Le suis fatiguée de voir le triste spectacle comme celui-ci.

— Можа дазволіце, князёўна, быць вашым спадарожнікам да мадрыцкіх альбо гранадзкіх пікадораў?—гульліва пытаўся Ляскоўскі.

— Гэта было-б куды цікавей.

Яны селі ў фаэтон Друцкіх, і пара драмцеўшых коняй, як на крылах, памчалі іх па сонечнай вуліцы.

У двары суда канвойныя выстройвалі арыштантаў. Ундзер падаў каманду, і чатыры чорна-шэрыя постаці замятляліся пасярод вуліцы, абкружаныя белымі плямкамі канвойных. Сымон па дарозе некалькі разоў паглядзеў на сына.

— На катаргу,—прамовіў ён,—ранавата табе, хлопча! Міхась, а Міхась! А навошта гэта мы ўсадзілі новую хату і кабылу гэтаму аблакату? Ну, і аблакаты, жывадзёрны народ, трасца іх галаве!

— Што гэта, татка, на гэтай на самай катарзе прыдзецца камень на шыі цягаць?—аб сваім пытаўся Міхась.

— Можа яшчэ што і цяжэйшае за камень, сынку!

— Не разговаривать!

Сымон моўчкі пацягнуў свае старыя ногі да жалезнае брамы астрогу.

IV

Сконцэнтраваньне вядомых абставін, якія патрабуюць вялікае напруджанасьці ў дзейнасьці чалавека, выклікае часта, амаль заўсёды, паслабленьне сілы, памяншэньне волі да дзеяньня. У такія часы чалавек траціць актыўнасьць, адхіляецца ад валодаўшага ім напрамку дзейнасьці, падпадае бязьдзейна-маркотным настроям. Такое становішча канчаецца, калі залішне затрачаныя сілы ізноў адновяцца, калі ўплыў абставін, выклікаўшых упадніцтва, пакіне дзейнічаць на чалавека. Але сілы аднаўляюцца і раней, калі зьяўляюцца новыя фактары, надаваючыя сьвежыя імпульсы.

Так было з Зыкавым. Патаемная рэволюцыйная праца, каханьне да дзяўчыны, вялікая пагроза правалу організацыі, гвалт над любімаю з боку рубэшчанага пана, забойства паліцэйскага, асуждаючыя да яго адносіны таварышоў па супольнай працы, няўдаласьць іх уласнай працы—усё гэта прыгняло Зыкава, хоць ён разумеў добра неабходнасьць змаганьня з тым прыгнечаным становішчам, у якім ён апынуўся. Паскораная падрыхтоўка суду над Кавальчыкамі была тым фактарам, які аднавіў дзейныя імпульсы ў Зыкаве, які скінуў тыя заслоны туману, што зацямнілі яго істоты.

Газэтны артыкул за тыдзен да суду як бізуном сьцебануў Зыкава. З гэтага артыкулу Зыкаў бачыў той лёс, які чакае Кавальчыкаў і абодвых рабочых, якіх далучылі да справы за тое, што яны яўрэі. Вядома было Зыкаву, што якраз гэтыя рабочыя ніякага ўдзелу ў рэволюцыйных організацыях ня прымалі. Было відавочна, што і Кавальчыкі і рабочыя проста зьяўляюцца ахвярамі ў руках прадстаўнікоў улады. Вялікае абураньне Зыкова, выкліканае гэтым процэсам, абудзіла яго рашучасьць, вывела яго з стану заняпаду, у якім ён быў больш месяца. Сёме Кацу не даводзілася ўжо наглядаць за ім. Роўна праз два дні ў трэцці Зыкаў прыходзіў начаваць, правёўшы папярэднія ночы па іншых прытулках у вядомых таварышоў. Першага мая Зыкаў разам з актыўнымі таварышамі наладжваў маёўку ў Ваньковічаўскім лесе і надта хваляваўся, што мала сабралася туды рабочых. Дый нельга было чакаць лепшага: у гэты дзень ня толькі адміністрацыя прадпрыемстваў, але і паліцыя вельмі сачыла за тымі, хто не зьяўляўся на работу. Аднак, і гэтым Сёма Кац быў задаволены.—А што, удалося?—вясёла пытаўся ён кожнага падыходзіўшага.—Вось ужо колькі год ня было маёўкі! як пачаўся гэты прыгон, сталыпіншчына, дык гэта першы раз.

Усе гэта ведалі, але словы Сёмы ўсім здаваліся новымі, нязвычайнымі. Усе радаваліся, хоць заўтра і чакалі іх суровыя допыты аб адсутнічаньні. Дзеля гэтага кожны меў цэлы плян наведваньняў, спраў, каб пры допытах спасылацца на прычыны нявыхаду на работу і даць сьведак, што быў заняты вось такімі і гэткімі справамі. На маёўцы Зыкаў, пад зусім ужо інакшаю фаміліяю, паведаміў аб надыходзячым судзе і заклікаў таварышоў організаваць выступленьні рабочых з протэстам супроць аддачы пад суд Кавальчыкаў і ляскаўскіх гутнікаў. Горача паспрачаліся аб гэтым, але вырашылі зрабіць лятучкі ў Імрота, Ракаўшчыка і Якобсона.

Ціхія патаемныя словы, намёкі перадаваліся на прадпрыемствах. Але лятучак не давялося наладзіць. Майстры не адыходзілі ўвесь час работы, каля прадпрыемстваў узмоцніўся паліцэйскі нагляд. Косыя, з-пада лба кароткія погляды рабочых, урыўкі слоў, якія лавілі горадавікі і адміністрацыя, сьведчылі аб небясьпецы. Ізноў забаранілі рабочым вольна зьбірацца ў часы перапынку, ізноў па пятах некаторых рабочых хадзілі шпікі, праваджаючы іх на работу і з работы.

— Стаяць, сволачы!—кідаўся ў расчыненае вакно на двор, дзе стаяў горадавік, прыдушаны, поўны нянавісьці выбух.

— Ш-ш, падліпала ідзе!—шаптала пры набліжэньні майстра.

— Занадта прызвычаіліся мы маўчаць!—кідаў, як іскры з-пад молата, словы каваль кавалю.

— Судзяць! Судзі скорыя і міласьцівыя!—нібы сам сабе мармытаў гарбар, гайдаючыся разам з суседам над расьцягнутаю скураю.

Прыдушаны няясны ропат, як гул набліжаючагася горнага патоку ў часе навальніцы, нарастаў з кожным днём і прарваўся ў дзень суду.

Няпрэдадні суду Зыкаў позна ўвечары прышоў да Кацаў з досыць вялікім клумкам пад пахаю. Сёма, калі яны засталіся ўдвох у бакоўцы, дзіву даўся: Зыкаў выцягнуў з клумка ладную пінжачную тройку, белую як сьнег сарочку, лякавыя шчыблеты, саломяны капялюш абечкам: нават былі загорнуты ў паперку розныя дробныя прычындалы, як засьцяжкі да манішкі і манжэтаў, скрутак фіксатуары і іншая драбяза.

— Навошта табе ўся гэтая дрэнь?

— Пайду заўтра на суд.

— Да ты мазгі прапіў ці што? Чаго табе там трэба? Лезеш у агонь.

— Ну, што-ж? Цягне мяне туды, паглядзець на камэдыю...

Сёма доўга і горача адгаварваў Зыкава. Нават Лія была прыклікана на дапамогу, але і яе палкія словы нічым не пасобілі.

— Напасьледак, ты маеш дазвол ад партыі?

— Маю, і праз організацыю дастаў вось гэта ўсё дабро,—са сьмехам паказаў Зыкаў на грудку раскіданае адзежы.

— Ну, тагды і я пайду за табою, згінеш ты адзін,—горача прагаварыў Сёма.

Абмеркавалі, што бадай і лепш быць там на ўсялякі выпадак удвох. Лія пачала даводзіць, што ім абодвым папасьці ў памяшканьне суду будзе цяжкавата, могуць выклікаць падазронасьць паліцыі. Яна прапанавала, каб ёй самой пайсьці, ёй здатней дастаць і „приличную“ адзежу. Да раніцы былі гатовы білеты на ўваход, а каля дзесятае гадзіны па Татарскай вуліцы ў бок цэнтру прайшла здатная паненка пад парасонам і вуальлю.

Пасьля вынясеньня прыгавору паненка пад вуальлю сышлася ў людзкой мешаніне каля пад‘езду з далікатна-апранутым маладым чалавекам. Ад яго толькі крыху занадта пахла парфумаю. Карэты, фаэтоны аб‘яжджалі, жвавы гоман нёсься з усіх бакоў. Каля варот, якія выходзілі з двара будынку, дзе быў суд, згрудзіўся натоўп. Адтуль несьліся стогны і енкі.

— Ай, божачка-ж мой, што цяпер будзе!—перарываючыся плачам прычытваў жаночы голас.

— На каго-ж мы сіраты застанемся!

— Пашла ты адгэтуль, пакуль па шыі не дастала!—выкрыкнуў злы мужчынскі голас.—Вось вазьму ў паліцыю—паскавычаш ты!

— Не чапайце ея! На табе, нябона, вазьмі грошай.

Паненка пад вуальлю прагна разглядала гэтае зьявішча. Пані і паненкі, якія некалькі хвілін назад воплескамі сустрэлі прысуд бацькі, соўвалі цяпер залатоўкі ў страмчатыя рукі яго дачкі.

— Не захапляйцеся нічым і ніколі,—шапнуў ёй яе кавалер.—Выведзіце адгэтуль дзяўчыну... Мне трэба будзе бачыцца з ёю,—яшчэ цішэй прагаварыў ён.

Паненка чуць прыкметна матнула галавою і, распусьціўшы парасон, пашла да таго месца, адкуль чуўся плач. Натоўп ужо значна парадзеў.

Адны выканалі сваю хрысьціянскую павіннасьць, другія проста разыйшліся ад угавораў паліцэйскага.

„Паніч“ з парфумаю пайшоў павольна ў другі канец вуліцы. Ён чуў ззаду галасы.

— Пусьці мяне хоць зірнуць на іх!—маліў жаночы голас.

— Кажу, прэч ідзі!—змагаўся мужчынскі.

— Дазвольце яе мне!—зазьвінеў тонкі далікатны голас.—Я з жаночага дабратворнага камітэту.

— Ну, вось і добра, што добраахвотныя памоцнікі знаходзяцца,—прабурчэў задаволены голас квартальнага.

Плач і енкі каля варот прыпыніліся. Азірнуўшыся, „паніч“ Зыкаў угледзіў, што паненка пад парасонам супакойна і не сьпяшаючыся ішла побач з дзяўчынаю ў чырвоным андараку і шэрай суконнай копце.

Зыкаў перайшоў дзьве-тры вуліцы і спусьціўся ўніз на Ляхаўку. Тут часьцей стаялі гарадавікі, каля мосту цераз Сьвіслач быў нават квартальны з двума радавымі. Яны аглядалі, быццам мацалі, рэдкіх праходжых. Квартальны асабліва ўпарта разглядаў набліжаўшагася Зыкава. Уся постаць і выгляд яго былі незнаёмы ды нязвычайны ў гэтым месцы. Сюды не заглядвалі для праходкі людзі ў манішках, а ўсіх служачых на прадпрыемствах ён ведаў як свае пяць пальцаў.

У Зыкава калацілася сэрца: запыняць яго ці не. Не мяняючы кроку, ён павольна ішоў, насьвістваў; дастаў з кішэні срэбны партабак і закурыў. Праходзячы міма квартальнага, бясьпечна азірнуў яго. Квартальны з сваімі памоцнікамі не зварухнуліся з мейсца. Добра прыгнаны пінжак ангельскага сукна і парфума выклікаюць пашану ў добрага палісмэна.

Такім-жа крокам дайшоў Зыкаў да гарбарні Імрота, мінаваўшы яшчэ два паліцэйскія пасты. Як толькі адураюча-смуроднае паветра шуганула на яго з вакна, ён прыбавіў ходу і ўскочыў у двор.

— Таварышы! Прысудзілі на катаргу!—палыхнуў яго голас у атручаным паветры.

Сьпіны разагнуліся. Голыя рукі з закасанымі прасмоленымі рукавамі павісьлі ў паветры. Вочы ўставіліся ў адну кропку. Момант жуткага маўчаньня. Толькі пас, круцячы дарэмна калясо, лупае незапраўленаю добра засьцяжкаю.

— А, гу-гу!—разрывае сьцены, вырываецца праз вокны, дзьверы, гук сотні галасоў. У гэтым адзіным гуку сотні людзей зьдзіўленьне, усхваляваньне, абурэньне, гнеў, пагроза. Паднятыя рукі з вострымі, як брытва, нажамі, здавалася, гатовы абрушыцца на нейчае горла.

— Гэта, што яшчэ за выбрыкі!—ускрыкнуў, хамянуўшыся майстра Майзэль.

— Хто дазволіў прыпыняць працу, маць тваю?—зароў майстра Пачэпка. Разам з тым у паветры трэснула звонка аплявуха, а потым нешта цяжка грукнула аб падлогу.

— Я табе, сволач! Працаваць ня кідай!—урчэў голас Пачэпкі.

— Ах, ты біць! Казьні яго, сабаку!—зароў натоўп рабочых, ужо пакінуўшых месца. Па ўсяму памяшканьню пачалася мешаніна; Пачэпка нейдзе над варстатам цяжка соп, абараняючыся ад замахаў дзесяткаў рук.

— Што ты робіш? Уцякай хутчэй! Вось! Сёма кінуў ахапку ашамецьця.

— На вуліцу, на вуліцу!—напруджана шаптаў Зыкаў.

Ён скокнуў уніз. У квасільні сноўдаўся сярод сваіх чапоў стары Шлёма. Зыкаў схапіў яго за руку і штурхнуў за дзьверы, у другое аддзяленьне. Зашчапіўшыся на кручок, Зыкаў у момант сарваў з сябе панскую адзежу і кінуў у смуродны чоп, перамяшаў яе прэнтам з скурамі. Праз хвіліну з квасільні вышаў звычайны гарбар з скураным хвартухом.

На версе гоман, крыкі яшчэ павялічыліся. Дзьверы з грукатам адчыніліся і па сходках кінуўся чалавек.

— Здаганяй яго, гада!—вырваўся рэў праз дзьверы, і натоўп кінуўся на двор сьледам за ўцякаўшым.

Зыкаў кінуўся з усімі на вуліцу. З абодвых канцоў Ляхаўкі сьвісталі гарадавікі... Квартальны і два-тры паліцэйскія з рэвольвэрамі ў выцягнутых руках трусілі да гарбарні. Пабачыўшы натоўп, яны прыпыніліся і сталі бокам абыходзіць крычэўшых напруджаных рабочых. Баязьлівыя вочы сьвідравалі натоўп, шукаючы там некага.

— Давай штандар!

З сярэдзіны натоўпу, калыхнуўшыся, падняўся чырвоны сьцяг і затрапятаў на шэрым фоне брудных сьцен гарбарні.

— Уперад, таварышы! Ганьба катам!

— Ён недзе захаваўся на гарбарні! Вы помніце яго, як ён праходзіў цераз мост? Ну, дык з-пад зямлі яго выкапаць,—загадаў квартальны.

Зараз на вуліцу высыпалі рабочыя ад Ракаўшчыка. Узьвіўся другі сьцяг. Раздалася магутнае

Вихры враждебные веют над нами...

Паліцэйскія атарапелі і стаялі нярухома блядыя, з трасучымі губамі. Іх было мала, каб трымаць такі вялікі натоўп. За мостам стаў зьбірацца народ па бакох вуліцы.

— Далоў царскіх судзьдзяў! Далоў катаў!—грымела калёна рабочых.

З няслабнуўшаю „Варшавянкаю“ калёна пад чырвонымі сьцягамі перайшла Магазынную, вышла на Губарнатарскую.

— Тэлефоны ўсе там папсаваны?—ціха запытаўся Зыкаў.

— Усе,—толькі губамі адказаў Сёма.

Пад нейкім нахтненьнем натоўп паскорыў ход, хутка праходзячы па Губарнатарскай да Саборнага пляцу. Выклікі абурэньня супроць сёнешняга прысуду ня сьціхалі. Вулічны натоўп зьбіраўся на тротуарах Два

чырвоныя сьцяжкі сьмела і горда прарэзвалі сабе дарогу скрозь гушчу мяшчанства, усыпаўшага вуліцу.

Губарнатар задаволена слухаў проект дакладу міністру аб выніках Ляскаўскае справы. Асабовы чыноўнік, адчуваючы, што стыль спадабаецца начальніку, дамагаўся яшчэ больш выразна і падкрэсьлена дачытаць заключныя сказы.

Раптам пад самым акном

Смело, товарищи в ногу!
Духом окрепнем в борьбе...

Губарнатар пабялеў. Ліст выпаў з рук чыноўніка і, віляючы, паляцеў на кавёр.

— Што гэта?.. Што гэта, я вас пытаю?—стукаючы зубамі, накінуўся губарнатар на чыноўніка.

— Не... не магу знать!—жалка трасучыся, лепятаў той.

— Як вы сьмееце ня ведаць?!—грукаючы абцасамі аб падлогу, піскнуў парасём таўсьценны генэрал.

— Тэлефон... Жандарскае... Царыцынскі полк... на Саборную...

— Далоў царскіх катаў!—грымнула за вакном. Далоў паліцыю з заводаў!

На Саборным пляцы сьцягі калыхнуліся і зьніклі. Сьціхла. Падпарадкаваючыся інстынкту самааховы, калёна, не чакаючы папярэджаньня, у момант рассыпалася па шчылінах старога гораду. Губарнатар, асьцерагаючыся, зірнуў з-за канту сьцяны ў вакно. Пляц быў пусты. З-за вугла дому губэрскага праўленьня выскачыў узвод конных гарадавых з гатовымі да бою шашкамі. Дамчаўшыся да царквы, узвод недаўменна прыпыніўся, аглядаючы роўны брук і звычайныя будынкі—казначэйства, касьцёл, губарнатарскі дом, дзе ня было нічога варожага. Шашкі бліснулі, нібы сорамна ўсьміхнуліся, і апусьціліся ў похвы.

Губарнатар працёр вочы. На пляцу, апроч паліцыі, нікога ня было Ага, уцяклі! Але-ж сярод белага дню асьмеліліся дэмонстраваць. Значыць, нехта кіраваў імі! Губарнатар выклікаў чыноў, аблаяў за нядбайнасьць і аддаў загад вылавіць учыншчыкаў гэтае ганебнае для чэсьці паліцыі справы. Канчаткова рэдагуючы тэкст дакладу міністру аб выніках суду, ён дадаў, што некаторымі ненадзейнымі элемэнтамі—„подонками общества“ была наладжана дэмонстрацыя супроць прыгавору, але яна распалася ў самым зачатку. Трэба было паказаць сябе перад начальствам і ў паграджаемым становішчы і ў той час добрым адміністратарам, пры якім распусты няма і ня будзе.

*(Працяг будзе).*

# НА ШЛЯХОХ ВОЛІ [1])

**Якуб Колас**

XIII

Шумяць на сходзе афіцэры
Сто дваццаць трэцяга палка,
Як поўнаводная рака.
Прыняць якіясь трэба меры,
Каб не распоўзься натоўп шэры
Ды зноў за рогі ўзяць быка.
У войску пала дысцыпліна,
І лейцы выпушчаны з рук.
Салдат глядзіць, як той бірук,
Служыць ня хоча больш айчыне,—
Расшрубавалася машына,
Прапала армія, каюк!
Ня ходзяць роты на вучэньне,
Упаў нашчэнт ваяцкі дух.
Салдат к вайне стаў нем і глух.
Адно няшчасьце і мучэньне
Глядзець на тое разлажэньне,
На дэзэртырскі гэты рух.
Рабіць штось трэба, даваць раду,
Намеціць нейкі сталы плян,
Каб анархічны зьнішчыць стан,
Ці так ці сяк прыйсьці да ладу
І выйсьці з тога заняпаду,
Разьвеяць моташны туман.
Палкоўнік Грун сядзіць суровы.
Ён—камандзір і старшыня,
Сам абвясьціў павестку дня.
Ну, што-ж? такі ўжо звычай новы:
Ня ступіш кроку без прамовы,
Ды бог ня дасьць—ня зьесьць сьвіньня.
Але скрабе яго сумненьне:
Ці праймеш словамі салдат?
Вайну прасьвішча адвакат,
Хоць ён зьмяніў сваё адзеньне

[1]) Гл. „Полымя“ № 6.

І ўзяўся за „аздараўленьне“,
Каб зноў завесьці ў войску лад.

ПАЛКОЎНІК ГРУН

Давайце зоймемся мы справай.
Нам трэба абсудзіць,
Як прынцып вольнасьці
З ваяцкай здольнасьцю,
Са службай пагадзіць,
Як справіцца з распушчанай аравай.
Ня будзем мы граха таіць:
І закрываць на факты вочы:
Мікроб анархіі салдата точыць,
Ня важна справа ў нас стаіць!
Пустуюць каравулы
І з цэлага палка ў нарад
Сабраць ня можам мы салдат,
Пашлі адлучкі і прагулы.
Салдат ня хоча службы несьці,
Не аддае начальству чэсьці.
Няма на фронце папаўненьня,
Бо маршавыя роты
Дарогай сыплюцца ў разьлёты,
А там, на месьце назначэньня,
Звычайным сталася яўленьне:
Замест салдат—
Пусты мандат
І лёзунг куцы:
„Мір без анэксій і контрыбуцый!“
Ня можна далей, гаспада,
Цярпець анархіі такой:
Пад цьвёрдаю рукой
Быць мусіць грамада,
І Керанскі сам гэта зразумеў...

ГОЛАС

Па часе розум дураку
Ці пойдзе толькі на руку?

ДРУГІ ГОЛАС

Каб розум той наўперад меў!

ПАЛКОЎНІК ГРУН

Бярэцца курс на дысцыпліну,
І сам салдацкі камітэт
Павінен тут праклясьці сьлед
І нацягнуць тужэй ляйчыну.

Намацаць трэба сарцавіну,
Каб адабраць, ну, самы цьвет:
Ня дызэртыраў-горладзёраў,
Ня здраднікаў-бальшавікоў,
А дысцыплінованых стралкоў,
Пакласца б можна на каторых—
У іх павінна быць апора!
Вось мэтад наш якоў.

І мой стражэйшы вам наказ:
Я трэбую ад вас,
Ад афіцэраў, свайго брата—
Не пакідаць нідзе салдата!
Быць з ім часьцей.

Усчуцьце—слова
І прамова,
Няхай сьвядомасьць іх расьце,
Парадак мусім мы завесьці:
Пытаньне гэта—справа чэсьці,
Наш доўг і абавязак,
Чакаць ня трэба тут указак,
Бо згіне армія—свабода прападзе,
І Русь утопіцца ў бядзе.

У гэтым вось пытаньні
І выкажам свой погляд, меркаваньне.—

Запалу многа і напору:
З дзесятак рук паднята ўгору,
Бо на хваробу гаварэньня
Хварэлі ўсе бяз выключэньня:
Палкоўнік баявы,
І поўны генэрал,
І прапар, і капрал,
І просты радавы.

ПАЛКОЎНІК ГРУН

Капітан Кунашын!
Слова ваша.

Кунашын строгі і смуглявы,
Старой закваскі капітан.

На рукаве—адзнакі ран,
А на грудзях—прызнаньне славы.
Зірнуў налева і направа,
Адсунуў трохі ў бок наган.

КАПІТАН КУНАШЫН

Бясспрэчна, гаспада:
Парадак—гэта так!
Да толькі вось бяда:
Прамовы—ярунда,
А выбары—пусьцяк!
Ці мысьліма, на чыстую сказаць,
Разьвязаны натоўп ды словамі зьвязаць?
Ня цешцеся ілюзіяй, што вы
Прамовамі адновіце дух войску баявы.
Крычы да хрыпаты,
Аратарствуй, хоць трэсьні,
А фронт напомніў ты—
І скончаны ўсе песьні.
Што тыя камітэты?
На вошта іх паслугі?
Ня пройдзе нумар гэты,
Дарэмныя патугі,
Бо погляд вузкалобы,
Што гэтыя хваробы
Ды вылячыш бяз пугі.
Ну, дзе-ж, скажэце, бачана,
Ёсьць прыклад дзе-нібудзь,
Каб дух ваяцкі страчаны
Прамовамі вярнуць?
Начальства ашальмована,
Разьбіт аўторытэт,
І армія пахована,
Бо—глупства камітэт!
Ці-ж то ня ідыёцтва,
Ня поўнае банкроцтва:
Вайна і... галасаваньне?!.
Куды-ж тут ваяваньне?
Вядуць у войску прапаганду
Супроць вайны і афіцэраў.
Прыняць нам трэба меры
І абясшкодзіць гэту банду!
А пропаведзь братаньня,
Прадажніцкага брацтва!
Ці-ж гэта не вар'яцтва,
Скажэце, грамадзяне?
Няшчасны шпак,
А з ім праступная арава
У войску правіць свае права,

Дзе трэба строгасьць і кулак,
Інача́й тут ня будзе ладу.
Прэч капялюшную ўсю шэльму!
Адно тут трэба: сьмерць за здраду
І вешаць агентаў Вільгэльма:
Бальшавікоў і дызэртыраў
І іхніх камандзіраў!—
Пранёсься шум, як гураган,
І крыкі: „Брава, капітан!“

ПАЛКОЎНІК ГРУН

Я мушу вам зазначыць, капітан:
Ня можам парушаць мы рэчаў стан—
Свабода ўсім дана,
Хоць войску шкодная яна,
А ў час вайны і небясьпечна
І можа нават недарэчна.
Прызналі мы часовы ўрад,
Нам трэба выканаць загад
І ў межах новага закону
Павінна вызнайсьці шляхі,
Каб непарадак зжыць ліхі
І ўсё аддаць на абарону...
Слова мае прапаршчык Грынчар!

ГАЛАСЫ

Зажар, Грынчар, зажар!
Грынчар—юрыст. Быў пракурорам
І старажылам у палку.
Прымаў і важыў тут муку,
За час вайны ня ведаў гора:
Ён акапаўся не са ўчора,
Бо меў за сьпінаю руку.

ПРАПАРШЧЫК ГРЫНЧАР

Ня буду я рабіць ацэнкі
Ні новых форм,
Ні новых норм,
Але ў наяўнасьці ёсьць сцэнкі,
Што ўжо на нашыя пашчэнкі
Замах вядзе салдацкі шторм.
Ня далей, як учора,
Праходжу я таўчок

І чую—землячок
З таварышам гуторыць:
— Па шапцы афіцэраў!
Гнаць вон усіх дачыста:
Яны ня нашай веры,
І ўсе яны, халеры,
Імпэрыялісты
Ды ўсё глядзяць у прызму,
Пад хвост капіталізму!
Адшыць іх тут і баста,
Бо шкодная нам каста.
Ня трэба рэвалюцыі,
Ніякай контрыбуцыі
І нэксіі зубастай!
Вось вам узорыкі настрояў,
Паняцьця масы рэдавой.
Куды вядзе такі развой?
Чым будзеш крыць такіх герояў?
А іх ня двое і ня трое
У абстаноўцы тылавой!
На што іх думка скіравана?
Чаму ім вораг—афіцэр?
Куды глядзіць зьдзічэлы зьвер?
О, гэты зьвер, позна ці рана,
Бальшавіком нашпігаваны,
Ня так завые, як цяпер!
Пакуль што ён глядзіць шакалам,
Трусьліва тоіцца ў цішы,
Здалёк пказвае шышы,
І толькі робіцца нахалам,
Бо ўсё праходзіць дармагалам,
Якіх рашэньняў ні пішы.
Паколькі кара скасавана,
Дык і ня выйдзе ні чарта.
Вот Ахілесава пята!
Ня праймеш словамі балвана,
І згодзен я тут з капітанам,
Што камітэты—суята!
На чым яны ўгрунтуюць права?
Дзе сіла іхніх пастаноў?
Мараль заместа бізуноў?
Лібэралізм—якая слава!
Ідылістычная забава
Ідылістычных сьвістуноў!

Цяпер наконт адданьня чэсьці.
Сказаць, ня новая ўжо весьць...
Пахерыць к чорту гэту чэсьць.
Як непатрэбную, адмесьці
І прах ад ног яе атрэсьці,
Каб ня было таго, што ёсьць.
Глядзіш—махнулі вам рукою—
Ці то салдат ці то матрос,
Нібы руку к ілбу панёс.
І што-ж? З ухмылачкай такою
Састроіў жарцік над табою:
Ты казырнуў—ён длубнуў нос!
Не, гаспада: на голым слове,
На агітацыі адной
Мы селі ў лужыну з вайной.
Парадак будзе пры умове,
Калі закон што найсуровей
Махне па вольніцы блазной.—
Яшчэ прамовы ў тым-жа тоне
Ліліся доўга. Пад канец
Выходзіць прапаршчік Дунец.
Ён у прамоўніцкім разгоне
Аддаў падатак „абароне“,
А далей так казаў блазьнец.

ПРАПАРШЧЫК ДУНЕЦ

На радасным прадвесьні
Новай эры
У паніку ўдаліся афіцэры
І безнадзейныя сьпяваюць песьні.
Ім страшна стала
Свабода пудзілам зьявілася для іх,
Чужынцаў між сваіх,
І выбіла з сядла разгульная навала.
З усіх старон
Я чую тут хаўтурны звон—
Хаваюць армію, Расію
Ды сьлёзы льлюць па дысцыпліне
І па пахованай дубіне,
Чакаюць новага мэсыю
З паднятым кулаком
На страх бальшавіком,
На іх зламаньне шыі.
Спытаюся-ж я вас,

Калегі-афіцэры:
Што-ж вы і ў якой меры
Зрабілі ў гэты час?
Салдаты—
Супастаты,
Адбіліся ад рук,
Яны ўсё вінаваты,
Майстры ўсялякіх штук.

Між намі і салдатам
Ляжыць правал глыбокі.
Чаму-ж мы адзінокі
З няпрызнаным мандатам?
Сайдзеце з вышак на нізіны
І чалавечым языком
Загаманеце з земляком
Бяз злосьці, бяз дубіны.
У нас з ім сувязі няма,
Мы топчамся дарма.
Сьцерці межы
І адзнакі:
Ты—салдат,
Я—афіцэр!
Вецер сьвежы,
Час інакі.
Рад, ня рад,
А фактам вер.
Даволі соваццa ў пацёмку
І скаголіць!

ГІРАНІЧНЫ ГОЛАС

Вуснамі дзіцёнка
Ісьціна глаголе.

У іншы бок пашлі прамовы,
Другі мотыў гучыць у іх.
Што ні прамова—новы штрых.
Тут і моральныя асновы,
І вера ў розум наш здаровы,
У моц традыцый баявых.
Надзеі ёсьць. Ня ўсё прапала
І толькі шчыра ўзяцца варт,
Адкінуць сьмешачкі і жарт,
А падыйсьці да справы стала,
І такіх прыкладаў ня мала,

Калі і слова дае гарт.
Патрэбна сувязь больш жывая
Бліжэй стаць трэба да салдат,
А хто сапраўды дэмократ,
Той больш у іх і выйграваe.
Нам шкодзіць звычка векавая,
Каб на дубіне строіць лад.
Вітаць нам трэба камітэты
І выбіраць людзей сваіх,
Каб націск там рабіць на іх,
Праводзіць, ставіць свае мэты,
Каб прынцып выкарыстаць гэты
У інтарэсах баявых,
Расію мець на відавоку
І здольнасьць войска ваяваць—
Свабоду трэба захаваць.
Карысьці мала, няма клёку
Глядзець з пагардай, стаўшы з боку,
І толькі ўсё крытыкаваць,
А „крытыкі маўчаць сурова,
Хіба хто рэпліку падасьць,
Калі што трапіцца пад масьць“,
І толькі хмураць лоб і бровы.
Ну, што-ж? Старацца ўсе гатовы,
Калі на ўсіх прышла напасьць.

ПАЛКОЎНІК ГРУН

Афармілі меры нашы,
Каб іх выконваць строга.
З нас трэбуецца многа,
Ды гэта нас няхай ня страшыць.
З шэрай масай шынялей
Мы зьвяжамся шчыльней,
Ці люба гэта, ці ня люба.
Разгорнем тэмп работы шwыдкі
Праз гутаркі і чыткі
І абярнём казармы ў клюбы.
Запросім і профэсароў
І дыспуты наладзім,
У лужыну пасадзім
Староннікаў анархіі і іншых вухароў.
Афіцэр ня толькі камандзір—
Ён ёсьць настаўнік, правадыр.

Падцягнем нашы роты
І павядзём іх роўнаю дарогай.
Дык з божай дапамогай
Прыступім да работы!

ПАРУЧНІК ДОЛІН

Я не хачу ламаць камэдый тут,
Абарачаць трагэдыю на фарс.
У гразь зьляцеў бог Марс
І выпусьціў свой жгут.
Ня буду я сябе дурачыць—
Прашу на фронт мяне назначыць!
Я не палітык, не прамоўнік,
Ня будзе тут з мяне карысьці,
Ня бачу я другога выйсьця.
Вось рапарт, гаспадзін палкоўнік!
Я не мастак расхлёбваць куцярму.
І гэту блытаніну.

ПАЛКОЎНІК ГРУН

Вы кідаеце полк у цяжкую часіну.
Як афіцэру і грамадзяніну,
Вам трэба помніць дысціпліну.
Ну што-ж? я рапарт ваш прыму.

4-XI 1929

XIV

Цяплом дыхнуў лагодны вецер,
Вясьне пракладваючы тор
У кожны закутак і двор,
Гусьцей загуў у голым вецьці,
І радасьць волі запрымеціў
Марозам здушаны прастор.
Аселі гурбы на сувеях,
І гаманлівыя раўкі
Пабеглі з гор ва ўсе бакі.
Само паветра ласкавее...
Што-ж за навіны і падзеі
Нясуць вясеньнія дзянькі?
Пытаньне гэта ўсіх цікавіць:
Вайскоўцаў, простых грамадзян,
Інтэлігэнцыю, сялян
І ўсіх, што дотык мелі ў справе

Вайны і міру не ў забаве,
І тых, што песьцілі свой плян.
Было-ж ня мала гэтых плянаў
І меркаваньняў і надзей,
І той ці іншы добрадзей
На свой манер пускаў туману,
Сябе, другіх яшчэ дурманіў,
Хоць і сьмяшыў ужо людзей.
Такім сьмяхоцьцем сталі мары
Наконт Басфору, Дарданэль—
Навекі высьлізнуў тунэль,
І галічанскія абшары
Дарэмна бралі з нас ахвяры—
Ганебна селі тут на мель.
Але настырныя ваякі,
„Айчыны верныя сыны",
У свае веравалі сны.
І расьпіналіся пісакі
На розны лад, на тон усякі
І ня выходзілі з вайны.
Вайна-ж на фронце замірала,
Вайна ў тылу пашла на спад—
Ня тым жыве цяпер салдат:
Патрэбаю надзеннай стала—
Перакаваць меч на арала
Ды йсьці дамоў заводзіць лад.
Ды покі што казарма жыва,
Кішаць салдатамі тылы.
Але з іх толк ужо малы:
Ня цягне возу конік сівы
І час праводзіць дурасьліва
Ды тоіць замысел свой злы.
Салдат аб'ектам стаў увагі,
Вакол яго ня моўкне бой,
Яго ўсе цягнуць на бок свой,
Ідуць з паклонам да сярмягі
І языкамі замест шпагі
Заядла б'юцца між сабой.
У войску рэй вядуць эсэры.
Эсэру ўторыць меншавік—
Кадэт даўно са сцэны зьнік,
Але й эсэрам няма веры:
І іх бракуе гэрой шэры—
Яму больш зручны бальшавік.

У пятай роце наш Сафонаў,
Цяпер эсэр і дэлягат,
Сабраў вакол сябе салдат.
Ён быў на сходзе гарнізону
І сам стаяў за „абарону“,
Але цяпер даў крок назад.

САФОНАУ

Усякіх там было прамоў,
І добрых і благіх—
У конскай галаве ня зьмесьціш іх!
Быў лёзунг кінуты: „Дамоў!“
„Вайна палацам, мір халупам!“
Даволі быць буржуйскім слупам,
За іх машну
Вясьці вайну!
Далоў яе! далоў!“
І што-ж? Каторыя былі там буржуазы,
Кадэты і афіцар‘е,
Ашчэрыліся, як зьвяр‘ё,
Гармідар паднялі, заразы:
„Прадажнік! вон будзь ласкаў!
Далоў, Вільгэльмаўскі халуй!“
Падняўся дзікі алялюй,
Але наш брат у масе пляскаў.

АДЗІН САЛДАТ

О, трасца матары і скула ім у бок!
Ня хочуць міру,
Бо нагулялі сабе жыру.
Не, дудкі, галубок!
Ваюйце самі на здароўе
І сабе на безгалоўе!

ДРУГІ САЛДАТ

Пастой, брат, не фарсі,
Не пераскочыўшы, ня гопай:
Прыпруць—і пойдзеш у акопы,
І хвігу ты зьясі.

ПЕРШЫ САЛДАТ

Затонкая кішка,
Ня вытрымае пуп,
А мір табе ня люб—

Шукай сабе дружка,
Паслушных дуракоў.
А я, брат, не такоў:
Абветраюць дарогі
І—давай бог ногі!

УЗВОДНЫ ТАЛАЛАЙ

Ну, гэта спосаб стараваты.
Ня варт было цара скідаць
Дзеля таго, каб драла даць,
Ды зноў падмазваць салам пяты.

ПЕРШЫ САЛДАТ

А мне то што, вон з іх душа!

САФОНАЎ

Цыц, хлопцы! ша!
Таму, як мы ёсьць грамадзяне,
Павінны-ж мы парадак мець
І ў лес ня перці, як мядзьведзь,
І не хадзіць, як у тумане.
Тут розум трэба і развага.
І лёзунг нейкі мець адзін,
Калі ты ёсьць грамадзянін,
А не даўбешка і ня шляга:
Ты пойдзеш, я пайду і ўсе,
Дык нас паловяць па крысе,
І будзе зноў старая пляга...
Палітыка і тактыка адна:
Ня скончана вайна.
А іхняя дэмократыя
Ня лепш ад той, што носам землю рые:
Заклікалі яе да згоды—
Давайце, моў, вайну канчаць!
Заключым мір, прыб'ём пячаць
І адстаронім перашкоды,
Бо ўсе стаміліся народы.
Яны-ж, як ідалы маўчаць.
Ніякі чорт на мір ня йдзе,
Нам трэба быць у грамадзе,
А ўжо мы самі грамадою
Пакончым з рознаю брыдою.

ГОЛАС

Дык, значыцца, ня будзе міру?
Няма канца, згінь ваша маць?

САФОНАЎ

Пакуль што будзем фронт трымаць.

ГОЛАС

Ды гніць ізноў у жвіру,
Валяцца, як калода,
У брудзе, у гнаю.
Дык чхаць мне на тваю свабоду,
І рэволюцыю тваю!
Падумаеш—знашліся камандзіры
І гэтакія чогі—
За месяц выраські ў іх рогі—
На затычкі для дзіры.
Зьявіліся другія афіцэры
Ды рассусольваюць паперы.
Шалаюцца, як сукіны сыны,
Залезшы ў новыя паны.
Зірнуў Сафонаў зьверавата,
Абразы гэткай ня зьнёс
І чмыхнуў у маскоўскі нос:
Старарэжымным яшчэ матам
Пакрыў сярдзітага салдата,
А з ім і скэптыкаў наўскос.

САФОНАЎ

Ты—долата і квач!
Што-ж мір па твоему, калач?
Ці ліверная каўбаса?
Зарваў капейку, на таўчок
Пашоў, купіў за пятачок?
Пляце, ня змысьлячы ні пса.
Ня ты адзін да міру падак,
Але павінен быць парадак
І форма і закон:
Бяз формы, без закону
І будзеш ты ядроны,
Якім і быў спакон.
А рэволюцыя табе ня цётка—
Расправа тут каротка.
А прыдзе пастанова,
Дык здохні ці памры,

Але чакай свае пары
І ані шэп, ні слова!—
З запалам, нават з абурэньнем
Сафонаў вывергнуў свой гнеў,
Аж нос яго пачырванеў.
Але, заўважыўшы сіпеньне,
Салдацкіх мас нездаваленьне,
Ён тут-жа зараз прысьмірнеў.
Ахамянуўся, што даў маху
І меру трохі перабраў
У дачыненьні сваіх праў.
З ілба ён ссовае папаху
І, каб унікнуць свайго краху,
Ідзе, як кажуць, на ура.

САФОНАЎ

Таварышы! мы—вольны,
Сказаць, і роўнапраўны—
Тут спрэчкі марнатраўны:
Інтэрас наш—супольны.
Дык слухайце, стралкі:
Што ёсьць вайна?
Тут справа ўсім ясна,
І вывад вось які—
Буржуі, імпэрыялісты
І ўсякія яшчэ там брандахлысты,
Каторыя таўсьцеюць ад вайны
І карк нагульваюць двайны,
Псуюць усё яны:
Сказаць тут з пазваленьня,
Разводзяць антымоніі
Аб рознай аўтаноміі
І іншай гегемоніі,—
Дык вось дзе зла карэньне!
Ім, бачыш, ты, выгодна
На карк усьсесьці нам.
Дык бі іх па шэям,
Бо пропаведзь іх шкодна!
А як-жа мы, каторыя
Рабочы і салдат?
Адрозьнены наш брат
Ад іншай катэгорыі.
Мы ёсьць дэмократыя,
І наша цяпер сіла.

Хто супраць нас—магіла,
І мы цяпер ня тыя!
Парадак, так: павінны мець
І слухаць пастаноў,
Вайну-ж—далоў!
Дык вось як разумець!
Грымеў Сафонаў, а прамова
Ніяк ня клеілася ў лад.
Пацеў наш бедны дэлягат,
Бо закідаць ён мусіў слова
Аб гарнізоннай пастанове
Наконт паслушнасьці салдат.

ЛУЗГІН

Дык як-жа разумець:
Калі вайну далоў,
Чаго-ж нам тут марнець?
Пускалі-б нас дамоў!

САФОНАЎ

Ты ёсьць нестрояўшчына,
І розуму ў цябе ні сукіна сына.
Хто пусьціць нас?
Раз!
Хто ўлада, галава?
Два!
Калі народ праз выбарных сваіх
Выносіць пастановы,
Мікіць тут, безгаловы:
Выконваць трэба іх!
Аб міру ёсьць стараньне.
Пакуль яго няма,
Дык ня скулі дарма,
Чакай яго прызнаньня
І кожную часіну
Ты помні дысцыпліну:
Чым больш яна крапчэй,
Тым будзе мір хутчэй.

ГАЛАСЫ

Кадэцкія прамовы!
Далоў!
Ня слухайце іх слоў,
І голасу іх змовы.

Абраць другога дэлягата,
Каб ён стаяў за свайго брата!
Буржуячы
Паслугачы!
Загуў „народ“, ад чыйго імя
Абраны быў наш дэлягат,
І дэлягацтву ён ня рад.
Вось і адчытвайся прад імі,
Перад галовамі пустымі!
Вось і эсэр і дэмократ!
Падняўся шум і крык бязладны,
Аж пена плёскае праз край.
Урэшце ўзводны Талалай
Усё пакрыў камандай ўладнай
І мацюгом прыбіў трохрадным,
Два словы: „сьмірна!“ і „слушай!“
Заціхла ўсё: каманды сіла
Яшчэ жыла дзесь у нутрох,
І грозны ўзводны перамог.
Акінуў роту ён астыла,
Як-бы гатовы даць у рыла
Таму, хто ступіць за парог
Салдацкай службы, дысцыпліны.
Па праву старшага ён сам
У грозьбе зьесьці ўсіх „з кішкам“
Казаў прамову дзьве хвіліны,
Ды слоў насыпаў з поўасьміны,
Хоць з мацяршчынай папалам.

УЗВОДНЫ ТАЛАЛАЙ

Салдаты вы ці зброд?
Чаго дзярэце горла?
Захоўвайце чарод,
Выходзьце напярод,
Калі каму прыпёрла,
І сып тут да адказу,
Але ня ўсе, ня зразу!..
Ваякі! міру хочаце, а самі
Гатовы грызьціся зубамі!

Дык вось выходзь сюды каторы
І на ўсе застаўкі валяй,
Калі найшоў шалтай-балтай,
І языком варочай горы.

Чаго-ж вы змоўклі, горладзёры?
Хто хоча слова? налятай!

ЦІХІ ГОЛАС

Бурдзін, Бурдзін Мікішка!
А ну, брат, секані і—крышка!
Бурдзін з запушчанай чупрынай,
Са зьбітай шапкаю назад
Выходзіць з натаўпу салдат,
Ідзе з зьняважліваю мінай,
А рукі зложаны за сьпінай—
Відаць адразу у ім хват.

БУРДЗІН

Дык вось, таварышы-салдаты,
Аб чым і як гавораць дэлягаты:
Сьпяваюць песьні нам,
Ня горш, як афіцэры,
І іхнія засвоілі манеры,
Што ўжо адкінута як хлам.
Наш брат ім—сівалдай,
Маўчы, не разважай:
Ты быў і ёсьць чорт шэры.
А што да дысцыпліны—
Мазоляць яго вушы
І розум яго глушаць,
Каб мы былі машыны,
Каб нас прыбраць у рукі
І намі верхаводзіць—
Мы ведаем іх штукі,
Усіх іх благародзій!
Нябось аб міру глуха
Вядуць яны размовы.
Выконвай пастановы
Гучковы, Мілюковы
І іншага псяюхі.
На сукінага сына
Далася дысцыпліна,
Каб ёй сьпяваць хвалебны?
Каму яна патрэбна?
Буржуям, генэралам,
Каторыя з дваран.
Пускаюць нам туман,

Выдумваюць пужалы,
Каб воля не прапала.
Хто верыць, той—баран
Ня трэба іх турбацыі!
Далоў іх махінацыі
І іх увесь дурман!
А біцца больш ня хочам мы
З нямецкімі рабочымі
І нішчыць іх сялян!
Далоў вайну праклятую
І шацію брухатую!
Давай нам замірэньне!
Даволі нам крыві!
Як хоча хто, жыві.
Вось наша разуменьне!
Далоў вайну! далоў акопы
І ўсе кадэцкія захопы!--
І рота грымнула, як лава.
„Брава, Бурдзін, брава:
Вось гэта голас! Маладзец!
Далоў Сафонава! Канец!“

УЗВОДНЫ ТАЛАЛАЙ

Так то так—далоў захопы
І акопы!
Але скажы ты мне, Бурдзін:
Ці быў ты ў іх хоць раз адзін?

ГАЛАСЫ

Кадру, кадру гнаць на фронт!
Даволі іх тут песьціць!
Пара ім з даху зьлесьці,
Каб не псаваць тут гонт!

18-XI 1929 г.

# ДАЙШОЎ СВАЙГО

*(З жыцьця Заходняй Беларусі)*

**Л. Родзевіч**

Апанавала цесьляра Гардзея драўляная бяда—толькі аб ёй і маракуе. Чаму драўляная? А таму, што ён сын кутніка і сам кутнік, усякай бяды бачыў, усякага гора зазнаў на сьвеце. А вось драўляная бяда стала царыцай усім бедам і запалоніла, скамячыла самога Гардзея.

Як замуляны конь перабіваецца Гардзей па сваім шляху—абы жыць, абы зарабіць. Рукі мазольныя, агрубелыя, як карэньні выкарчаванага дубка, цела кантаватае, нясkладнае, думкі няясныя, тупыя і непаваротлівыя. Усё прыдушыла непасільная праца аж змаленства, ад якой хрумшчэлі яшчэ неацьвярдзеўшыя дзіцячыя яго костачкі, усё спутала, стаптала гарамычнае жыцьцё—ды і колькі таго жыцьця, а ўжо цэлы век—дваццаць гадоў з гакам.

Бацька Гардзея адвекаваў свой век пастухом у вёсцы і перад сьмерцю прасіў, дабіваўся ў сялян, каб і сына пастухом абралі. Але Гардзей ня ўзлюбіў бацькавага рамёсла і пашоў па цесьлярскай працы. Год—другі і прылаўчыўся—стаў самастойным майстрам з цесьлярскімі навыкамі. Калі пачне бервяно абчэсваць, дык выгане трэску ва ўсю даўжыню бервяна і абчэша гладзенька, як з-пад габэлька. Перш чым палажыць бервяно на ізруб, дык аго абстукае па бакох абухом ад сякеры, прыслухаецца да яго звону-гутаркі, сам штось памармыча і так ужо дагаварыўшыся нажыльваецца, каб ускласьці бервяно на падрыхтаванае месца.

Меў Гардзей і кавалак зямліцы. Перапала яна яму ад сваяка—камуніста, які адышоў разам з Чырвонай арміяй ў Савецкую Беларусь, аставіўшы гэты худы лапік зямлі на карыстаньне Гардзею. Аднак, існаваньне сваёй сям'і Гардзей падтрымоўваў цесьлярствам.

І вось, калі стаў цесьляром, дык і пачалася драўляная бяда ў Гардзея. З гэтага часу яна чым далей, тым горш мучыла і данімала рознымі няўдачамі. Гардзей стаў бачыць такія рэчы, якіх ён перш не заўважваў быў—зжыўся з імі, прывык, а цяпер яны кідаліся яму ў вочы, цяпер ён іх перажываў.

Ён стаў заўважваць, і гэта яму ныла, як рэўматызм, што ён апанаваны драўляным царствам, што дрэва ў яго штодзеннай патрэбе неабходна так як вада, соль, можна сказаць, і хлеб, каб ён яго меў кожны дзень

З самага маленства, і цяпер устаўшы, кожны дзень і на кожным кроку, ён сустракаў драўляныя рэчы, меў драўлянае акружэньне. Лыжкі, міска, салонка, начоўкі, стол, лава, калыска, розгі, лапці, гузікі, плот, хата, усе гаспадарскія прылады нават і цьвік, засаўка ў дзьвярах—усё з дрэва. Усе гэтыя рэчы былі і перш, ні адна з іх даслужылася да мянюшкі „бацьку памятае", аднак, толькі стаўшы цесьляром, стаўшы майстрам па дрэву, Гардзей пачаў адчуваць гэтыя рэчы і балесна перажываць драўлянае акружэньне.

Прабудзіцца часамі Гардзей ноччу, хоча павярнуць руку, каб пачасаць паясьніцу, а рука ані руш, як дзеравяка, ведама пасьля цяжкай дзеннай працы страціць чуласьць і паваротлівасьць, а Гардзею здаецца, што і тут сядзіць драўляная бяда, што ён за рукой можа і сам задзервянець і з перапуду пот халодны кроплямі выступіць.

Калі часам жонка на жыцьцёвае гора не адзавецца, як звычайна плачам і нараканьнем, а ходзе як драўляная тычка сьцяўшы зубы, і з рук у яе ўсё вывальваецца, спатыкаецца на роўнай дарозе, слухае і нічога не цяме, дык Гардзею ўжо страх і сваю трывогу прыкрываў няскладным жартам.

— Ты, жонка, ходзіш як адзервянеўшая, лепш паплач, дык на чалавека станеш падобная.

Няхай што-небудзь сапсуецца з гэтых рэчаў, вядома дрэва, гэта табе не жалеза і не фабрычная работа, псуецца гаручка-б яго, шпарка, дык новую зрабіць, ды яшчэ самадзелкам няма з чаго. Няма лесу, няма матэрыялаў? Колькі хочаш! Ён Гардзей цясьляр вун колькі перапусьце праз сваю адну-другую пецярню, будуючы людзям дом ці хлеў, ток ці сьвіран. Ну, але лыжку выстругаць, тапарышча зрабіць, кіёк вырэзаць няма з чаго: усё панскае, ды казённае. Трэба ня раз пакланіцца і ў руку цмокнуць пана, апошняе аддаць лясному купцу, прадацца з душой і целам, каб залатаць тую ці іншую дзірку ў драўлянай бядзе.

І вось дабярэцца часамі Гардзей у лес, дык паводзіны яго нераўнуючы як на сходцы ці вясельлі. Ні сасонкі яму, а дзяўчаты, ні дубы, а дзяцюкі, а ўвесь лесь—гэта добры барадач. Усе дрэвы знаёмыя і родныя яму, з усімі вядзе гутарку, мерыць узглядам аж да верхавіны, клешча рукой па камлёх. І ўрэшце ўздыхне.

— Эх, каб папасьці калі ў Белавескую пушчу!

Альбо заб'ецца ў гушчар пад цень векавых дрэў і пачне шныраць—углядацца, мо' адкрые сховы паўстанцаў, а не, дык сядзе і давай разматваць свае затаёныя думкі, як гэта лес прыхільны да паўстанцаў, як яны любяць яго—свайго саюзьніка. І расхахочыцца Гардзей, калі прадставе сабе пана, якому трэба ноччу, а хоць-бы і днём ехаць праз пушчу—колькі ў яго страху і нялюбасьці да лесу—ворага.

— Ма' быць дзеля гэтага, гад, і прадае і высякае ў пень лясыбары. Прыдзецца жабраваць нашаму брату, дык і кіёк няма дзе высечы.

Любіў Гардзей хадзіць і на тартак. Доўгімі гадзінамі ачараваны стаяны ён тут адстайваў сярод акуратна паскладаных жоўценькіх, як жаўток, дашок.

— Матэрыял, як золата, а колькі-ж яго ёсьць, вочы разьбягаюцца і душа радуецца—адна любата—гаварыў ён сам да сябе і адмерываў поўнымі грудзьмі смалісты запах.

Часта так заходзіў Гардзей на суседні тартак, бяз дай прычыны, каб пацешыць вока лясным матэрыялам, ахмялець смалістым пахам. А прыдзе да хаты Гардзей, дык драўляная бяда яшчэ больш выпучвалася і дакучала: хата і ўся яго драўляная маемасьць—адно парахно. Асабліва хата разваліваецца, ужо і ўпоркі не памагаюць, ад ветру калышацца. А каб пабагацець, дык няма ніякіх магчымасьцяй—тое-сёе прыдбаеш, прыхінеш якой крамнінай драўляную бяду, а тут наскоча войт, апіша, конфіскуе за падаткі і драўляная бяда ізноў зубы скаліць. Заработкаў няма ніякіх, есьці няма чаго, ну хоць кладзіся, ды памірай.

— Добра, што ўзяліся людзі за камасацыю, пачнуць пераходзіць на хутары, параносіцца з будовай, перападзе якая праца—заработак, разважаў Гардзей.

А на вёсцы Мытлякі каля камасацыі разгарэлася барацьба, скрытая, упартая, зацятая. У вёсцы жыў-быў сапеў-нажываўся багацей Даўбняк, страшэнны жмінда і хітры чалавек. Трымаў ён толькі ня летняга пастушка, які зімой рабіў яму ўсякую работу, як сталы. Сабраць-жа з поля жніво ці памалаціць яго зімой Даўбняк выкарыстоўваў усю вёску. Бо рэдка хто з сялян не сядзеў у яго кішэні, у яго арудзе, а ніхто ня мог грашмі ці даброй выплаціцца скуль яго ўзяць—падаткі, штрафы ўсьлед выпаласківаюць, калі часамі і завядзецца ў хаце злоты—другі.

Даўбняк наскрозь бачыў галечу вёскі, ён вырас на сытым астраўку, сярод бязьмежнай бядоты, бясхлебіцы, охаў і стогнаў вясковых. Ён добра вывучыў капрызы і нораў сялянскай бяды, не раздражняў яе, зрабіў яе ручной і не ў знаку па крысе з кожным разам заціскаў усё мацней пятлю страшэннага вызыску над тым, хто пападаўся ў яго пастку. Склікае талаку, прыкладам на сенакос, частуе гарэлкай, а хто наперадзе ідзе ў пакосе, дае „прэмію"—гатунковай гарэлкі. Сяляне здаволены, што адрабляюць доўг, маюць пачастунак і стараюцца з усіх сіл, каб дабіцца прэміі кулацкай. А Даўбняк толькі рукі паціраe—удаецца інтэрэс—лезе рыбка ў невад.

Даўбняк гібка і ўмеючы карыстаўся дапамогай улады, ён баягся адкрыта заклікаць паліцыю ці войта супроць непаслухмяных і непакорных.

— Няхай на іх бяздоньне, на гэтых бальшавікоў, яшчэ сьпякуць, падпусьцяць чырвонага пеўня—разважаў Даўбняк і нялюбых яму асоб перадаваў скрыта ў дэфэнзыву, інакш кажучы даваў пропуск у вастрог.

Гардзей таксама быў залежны ад Даўбняка. Сталася гэта так. Прыціснуты драўлянай бядой да таго, што і поснай полiўкі няма на чым

зварыць, цясьляр аднаго дня рушыў яшчэ золакам у лес Даўбняка. Там ён ужо даўно нагледзіў стары корч, які тырчай на беразе кручы. Пясок з падкарча асыпаўся і ён тырчэў цыбата, высака на карэньнях бы павук той. Шпарка, як мага цішэй абсекшы карэньні, Гардзей узваліў корч на плечы і павалок да хаты. Трэба-ж ліху здарыцца—на загуменьні сустрэў Даўбняка.

— Во дзякую, браце, што ты яго высек—кажа хітры Даўбняк, я ўжо даўно маніўся яго прынесьці да хаты. Занясі-ж яго ка мне на дрывотню. Пойдзем разам, там мая жонка пачастуе сьнеданьнем. На глусцоў, бачыш сёньня хадзіў, страляў, але хібіў. Сабака сплошыў, бо малады—дурны.

Як нічога ня бывала, павёў зьбянтэжанага Гардзея да сваёй хаты, расказваючы яму аб сваім дурным сабаку. Даўбнячыха дала пасьнедаць гарачых бліноў. Калі-ж Гардзей зьбіраўся адыйсьці да хаты, дык мусіў расстацца з тапаром—Даўбняк забраў яго за пакражу лесу.

— Ты, браце, толькі ня злуйся—казаў да Гардзея. Я бяру тапор у залог, аж пакуль ня выплаціш 15 злотых за корч. Ну, па законе можа выпала-б менш заплаціць, але-ж зразумей, браце, ці ахвота нам, беларусам, путацца з паліцыяй, няхай на яе бяздоньне. Лепш самі па сямейнаму, бяз гэтых чужынцаў разьбярэмся і дойдзем да згоды. Ды ўрэшце мы і не павадзіліся. Праўда, ты зрабіў праступленьне, кражу, за гэта ў вастрог садзяць, ну але ці-ж я на цябе крыўдую, ані трошачкі. Бяда наша, гора наша гоніць на праступленьні. Сьмех адзін, каб нам, суседзям, за гэты корч вадзіцца, судзіцца. Няхай на гэтыя суды бяздоньне. Але бачыш, браце, я таксама не багацей, такі самы мужык як і ты, а галоўнае тут дзеля тваёй карысьці: як заплаціш, браце, штраф, другі раз ня будзе павадна, знаю я нашу мужыцкую натуру. Добра вось цяпер: дзела пачалося з карча і мы дагаварыліся на пятнаццаць злотых, а хайбы табе ўдалося яго сьпёрці, дык-бы і пачаў цягаць, ні адзін бы дубок высек, а там і без паліцыі не абышлося-б, а там: суд, ліцытацыя, вастрог. Зачапі толькі гэтых шэршняў—палякаў, дык пагібель табе. Каму гэта ахвота.

Гардзей слухаў увесь потны і бліны яму каменьнем сталі пад ложачкай, памыкаўся апраўдывацца, урэшце пакляўся Даўбняку, што адпрацуе ўскладзены штраф, толькі каб тапор вярнуў, бо яму трэба ісьці на работу, а без тапара няма як—з яго-ж ён толькі і жывець.

— Ды няўжо ты думаў, што я тапор затрымаю! Дрэнна, браце, суседзі мы старыя, а мяне зусім ня знаеш. Я чулы на людзкое гора і няма мне патрэбы астаўляць цябе бяз працы, бяз хлеба. Вось можа хутка правядзем камасацыю, дык паможаш мне перабудавацца ў вяночак і гэтых некалькіх злотых адробіш, як плюнуць. Толькі вось накручвай там іншых, няхай даюць саглас на камасацыю—яна адзіны ратунак у нашай бядзе.

— Ой, не шанцуе мне ў жыцьці, крыўдзіўся сам сабе Гардзей ідучы

дамоў, а ўсё праз гэтую драўляную бяду. Ну, але пры камасацыі можа крыху і падзараблю.

Калі Даўбняк пачаў намагаць на камасацыю, дык сяляне ўсёй грамадой далі яму супраціў на першай сходцы вёскі. Асабліва востра выступіў бядняк Сьцяпан Шустры. Ён так разжоўваў і ўгаварваў аб шкоднасьці камасацыі, што ўсе сяляне грамадой зацюкалі, загукалі, калі Гардзей пачаў нешта мямліць, што трэба паслухаць добрай рады Даўбняка.

Так сходка і разыйшлася да нічога не дагаварыўшыся. Даўбняк астаўся пры сваім і сяляне не здаліся, хоць на іх і націскала гмінная ўлада і паліцыя. Даўбняк ня здаўся, аднак ён павёў падземную кратовую работу. Хутка без дай прычыны быў арыштаваны Сьцяпан Шустры. Тамашу Канцавому загадалі раскідаць бадай ужо кончаную хату, бо раптам аказалася, што пабудована не на закону—ад яе вельмі блізкі другія хаты. Даўбняк судзіўся з адным з сваіх даўжнікоў—суседзяў і засудзіў яго—ніхто не чакаў такога строгага прысуду. Аднак, наагул Даўбняк стаў прыкідацца добрым і міласэрдным, хоць да раны прылажы, каб гаілася. Таму дасьць гарніц бульбы, таму паабяцае пагутарыць аб яго бядзе, у гміне ці ў пана, бо ён-жа туды мае доступ і паслух.

Праз якісь час можна было ўжо заўважыць, што апрача Гардзея і іншыя пачалі падлабунівацца да кулака. Той—іншы ня ўстаяў, пахіснуўся, быццам уступіў на зыбкі грунт, наехалі каморнікі, камасацыя пачала ажыцьцяўляцца. Толькі некулькі сялян не здаваліся да апошняга, праганялі каморнікаў, пагражалі Даўбняку, лаялі суседзяў і нагаварывалі іх да барацьбы. А тыя хоць і разумелі памылку, аднак, ня мелі рашучасьці выступіць супроць кулака і гміннай улады.

Толькі калі справа дайшла да таго, што трэба было зрушыцца з мейсца, зрушыць сваю спрухнелую будову і калі хто не хацеў, дык насільна раскідвалі абжытыя гнёзды сялян, ды нікому ня было павадна лезьці на выкраіны пясочак, без пашы, без сенакосу,—вось тут многія сяляне і завылі па-воўчаму. К гэтаму часу вярнуўся з вастрогу і Сьцяпан Шустры. А хлапец ён гарачы, зразу крута павярнуў. Падбухтораныя сяляне пачалі раскідываць гранічныя капцы, пастаўленыя каморнікам, пашлі з сохамі на полі і давай заворваць ужо засеянае кулацкае поле, якое перш належыла да сялян. Даўбняк стаў не дапускаць, завязалася спрэчка, дайшло да бойкі, чуць жывы вырабіўся Даўбняк з сялянскіх рук—скамасавалі яму ўсе бакі. Дасталося па вуху і Гардзею ад Сьцяпана Шустрага, калі той пачаў даводзіць, што сяляне шукаюць гузака, лезуць на ражон, хоць у сапраўднасьці пераход на хутары спачатку трудна, але пасьля гэта сьвятое дзела.

Наагул справа не абыйшлася без паліцыі і арыштаў. Шмат хто з сялян быў пабіты, некаторых засудзілі на цэлыя гады ў вастрог, прапаў толькі Сьцяпан Шустры бяз сьледу. Усе парашылі, што яго забілі шпікі ў дэфэнзіве і забойства скрылі.

Гардзей увесь час меў работу. Ён памог кулаку „абстроіцца ў вяночак“, таму памог хату перасыпаць, хляўчук прыстроіць і іншае. Ён крыху падзарабіў грошы і рашыў выбіць грунт з-пад сваёй драўлянай бяды і пабудаваць хату, тым больш, што здарыўся вельмі падхадзячы выпадак.

У гэтым часе жонка Сьцяпана Шустрага атрымала лісты ад яго з Савецкай Беларусі. Піша, што ўцёк ён да Саветаў, каб не загінуць у турме і заклікаў жонку да сабе, а будынкі раіў перапрадаць за дзяшоўку Гардзею.

Асаблівы ліст быў напісаны і да „пралетара таварыша Гардзея“, у якім вельмі выхваліваўся Сьцяпан, што добра працуе на Савгасе, дзе машынамі поле абрабляюць, толькі лёскат жалезны разьлягаецца, працуюць шпарка, зьбіраюць чыста і тут-жа будуюць новыя дамы і фабрыку, а ўсё з жалезы і бетону. „Ты, таварыш Гардзей, пакінь там змагацца за камасацыю, а лепш рэвалюцыю рабі, тады і пра сваю драўляную бяду ня толькі забудзеш, а і пазбудзішся яе. Крыўдна і несамавіта мне цяпер, што тады цябе не паставіў на шлях барацьбы, а аплявушыў, як ворага свайго, бо ў рачавістасьці мы с табою браты аднэй працоўнай сям'і“. Гардзей быў вельмі здаволены перапрадажай будынкаў Шустрага, а што да рэвалюцыі, дык гэта прамігнула міма вушэй, бо справа разыкоўная і далёкая. Пры гэтым ён і без рэвалюцыі ня любіць паноў. Ніхто іншы, як ён, Гардзей, зачахшы ад беспрацоўя, даведзены на адчаю, падпаліў раз будынкі ў панскім двары, каб пасьля мець работу. Ды тут справа ня толькі ў рабоце. Гардзей наогул чуў задаваленьне, калі бачыў панскае гора, любіў насьмехацца з панскіх манераў і дзівосаў, любіў тое ўнутранае хваляваньне ад ненавісьці, калі сэрца гвалтоўна стукаець у грудзёх, і па целе праходзе цяплыня адвагі, а сіла напружвае мускулы і рвецца да чыну.

Аднак глыбака заселі ў думку сказ з лісту „будуем з жалезу і бэтону“. І чым больш Гардзей пачаў разважаць і абмяркоўваць гэты сказ, тым яму выразьней рабілася, што выхад з драўлянай бяды трэба шукаць у жалезе. Бо зусім зразумела, узяць хоць-бы жалезную лыжку, яна цэлы век служыць і хіба толькі яе згубіш ці ўкрадуць, а вось драўляная— вышчарбіцца, прадзіравіцца, а то дзеці возьмуць ды адгрызуць—яна шурпатая і рот дзярэць. Альбо зрабіць заслонку ў печ з тоўстай бляхі, дык яна доўгавечная і выгодная, а драўляных не набярэшся, не наробішся. Ды ці мала што. А галоўнае гэта пажар, во дзе пагібель. Кожны момант ён пасьцерагае, кожны момант грозіць, што ўсё гэтае драўлянае царства аберне ў попел, а цябе ў жабрака-пагарэльца. Тады ўжо на ногі не пастанеш. Кулак смокча сваёй дапамогай, урад зьбівае з ног падатковымі экзэкуцыямі, даядаюць недарод, беспрацоўе, гадоўля і пошасьці. Аднак пры ўсім гэтым яшчэ неяк дыхае, неяк гаспадарыш, чагось спадзяешся. Ну, а няхай пажар, дык нават гэтую апору, гэтую драўляную бяду з-пад ног выбівае, адным словам, складай дуды ў мяшок і марш па сьвеце на ўсе чатыры стараны.

Гардзей панічна баяўся пажару. Няхай выпадкова загарыцца ў бабы кудзеля ці затлее салома ў пасьцелі ад дзяцінных гульняў ці папіросы, як ён бязрадны стаіць аслупелы і пакорны вогненай стыхіі чакае свайго лёсу. Перш чым класьціся спаць, цясьляр як-бы ня быў змучаны выходзіў у сенцы на панадворак, углядаўся ў цемень, мо' дзе блісьне варожы агоньчык, аглядаў комін, каб часамі сажа не гарэла, данюхіваўся ў паветры дыму—а мо' ўжо дзе што тлее.

Гардзей зайздросьціў Шустраму. Вось людзі дык умеюць устрайвацца—меркаваў Гардзей, а ты як ні стараўся, хоць са скуры вылазь і ў канцы-канцоў чорт табе лысы нагу падставіць. Але нічагусенькі і мы тут, братка, неяк зажывём памаленьку, таксама жалезам абзавядземся—казаў як-бы да Шустрага Гардзей. І з большай сілай напружваўся, каб стаць як на ногі і ўзмацавацца настолькі, каб напісаць Шустраму, што ня толькі ён умее прыладзіцца ў жыцьці, што і Гардзей таксама ня лыкам шыты.

Вось ён сабе хату пабудуе і бляхай пакрые, калёсы на жалезных восях і сані каваныя зробіць, клямку жалезную прыстроіць у дзьвярох, машыну—сячкарню завядзе, саху на плуг замене. Гардзей сам сябе ашукваў, ён ведаў, што ўсе яго лятункі незьдзяйсьнімы, бо дзе яму галоце дайсьці да такіх выгад і багацьцяў у такім уціску і паняверы. Аднак драўляная бяда так надакучыла, а лісты Шустрага такую скрытую глыбокую зайздрасьць узьнімалі, што Гардзей чапляўся за лятункі аб жалезе, абы як-небудзь акрасіць сваё жыцьцё—посьніцу. Ніхто яму ня можа перашкодзіць назваць часамі дрэва „цьвёрдым як жалеза“, хоць у сапраўднасьці вінаваты тапор, які ступеў і робіць шуршавай трэску, а то і зусім і адскаквае ад дрэва. Ніхто не даўміцца, чаму Гардзей так марудна косы выбірае, выстукваючы кожнай касой па колькі разоў і абыходзячы ўсе крамкі. І ўсё-ткі ня купіць, бо яму не каса патрэбна, а тая асалода ад яе звону, які віхурыць у калматай галаве Гардзея самыя сьмелыя лятункі, варушыць занямелыя пачуцьці, затаённыя думкі.

Прынадзіўся Гардзей зьбіраць рознае жалезнае ламаччо. Знойдзе зламаную падкову, цвек іржавы, кавалак бляхі нікудышнай—усё валоча дамоў і складвае ў зацішнае месца на столі новай хаты. Нашоў раз ён у лесе ядро трохдзюмоўкі і тое прывалок да свайго жалезнага складу. Жонка нарабіла ляманту, баючыся, каб не ўзарвалася часамі гэтая бомба і выкінула-б яе вон, але баялася, што яшчэ выбухне ў руках. Падаўгу Гардзей капаўся часамі ў сваім жалестве, нібы шукаючы патрэбныя рэчы, у сапраўднасьці-ж ён варочаў гэты лом дзеля яго пошчаку, дзеля прыемнасьці трымаць у далоні цьвёрдую важкасьць жалеза. А каб спытацца, на што яму гэты склад жалества, дык ён і сам ня дасьць путнага адказу,—хіба хоча звонам жалеза пужаць уеўшуюся як клешч драўляную бяду і падтрымоўваць энэргію ў барацьбе за лепшую будучыню.

Ох, гэтая будучыня Гардзейская, паўзе як рак задам наперад—паволі і ня бача куды. Праўда, Гардзей з большага выгнаў новую хату, ці, лепш

кажучы, павыразаў здаравейшыя кавалкі з трухнелых будынкаў Шустрага пастачваў іх (а ён-жа на гэта майстар), ну і выгнаў ізруб хату. Ня лёгка яму здалася гэтая латаніна і шмат яшчэ трэба палажыць трудоў, каб ён мог сказаць Шустраму, што нечага надта пахвальвацца, бо і мы самі з вусамі. Цясьляр гардзіўся: пабудаваць новую хату—гэта значыць праслыць у сваім родзе на колькі пакаленьняў. У вёсцы ня раз пачуеш: дзякаваць дзеду, вечны пакой яго душачцы, пабудаваў хату і жывём.

— Лёгка было там якому дзеду будавацца, калі лес плячом упіраўся ў агароды, а вось спрабуйце цяпер, як я, Гардзей, з нічога зрабіць хату, спрабуйце так напружыць усе свае жылачкі, недаспаць, апошні кавалак хлеба з роту вынуць, каб усё на хату, каб хату мець, спрабуйце дагаварыцца з уладамі і выманчыць у яе дазвол на будову. Ды ці пералічыш усю злыбяду. А вось я, Гардзей, будую і канчаю... Няхай што можа падарваўся крыху, не здаровіцца і сям'я ўся як жывыя мерцьвякі, але памаленьку аправімся, станем на ногі, падужэем, зажывём прыпяваючы, як прыкладам Даўбняк.

Успомніўшы Даўбняка, у пачуцьцях Гардзея запаланела злосьць і смага помсты. Бо чаму Даўбняк заўсёды выкручваецца ў гміне ад шарваркаў— бясплатная праўка дарог,—ні ён калі штраф каб плаціў, ні ў яго вобыск каб быў, з ім усё начальства за панібрат, хоць ён ня раз пагразіць і палаецца з тым ці іншым верхаводам у бліскучых гузіках. А Гардзей ніжэй травы, цішэй вады і годзіць усім, як благой скуле, вось каб бяда спала, вось каб як жыць. Аднак глядзіш і на штраф, на няласку панскую нарвецца, і быдлам збэсьцююць і вобыскі таксама як і ў іншых бываюць.

І тут успомніў Гардзей адзін выпадак і ўсяго як у вагонь кінула ад нянавісьці, крыўды, сораму. Кулак суседняй вёскі на асьвяшчэньне сьвірна, які збудаваў Гардзей, наладзіў банкет. Ксёндз, паліцыя, асаднікі, шляхцюкі і шляхцянкі ўсе пілі, елі, забаўляліся. Быў запрошаны цясьляр,— частавалі і яго як роўнага, як іхняга. Гэта яго вельмі расчуліла і выклікала рабскую ўдзячнасьць. У гутарках панове бесьцілі і наклёпвалі розную лухту на бальшавікоў і Савецкі Саюз. Падтаківаў і Гардзей, каб пападаць у тон банкетуючых, а калі паны ўсё-такі адносіліся з недаверрам да завярэньняў у хамскай мове Гардзея, дык ён стараўся з большай запальчывасьцю і жарам, чым самі панове, праклінаць камунію і пагражаць бальшавіком.

— Брава, брава—крычала п'яным хорам панства і падлівалі раз за разам гарэлку ў чарку Гардзея.

А на заўтра Гардзей нашоў сябе ў хлеве на гнаі паміж скацінай, увесь вымазаны ў сажы, з падсмалянай барадой. А што рабілі з ім у часе банкету, як пасьля людзі расказвалі, дык Гардзей нават сароміўся і ўспамінаць.

Жыў так цясьляр у цяжкай працы, салодкіх лятунках і ў барацьбе за сваю „лепшую долю“ і ня жыў, а ішоў па тонкім сьлізкім лёдзе. А лёд

гэты зыбаецца, не-не ды і праваліцца. Шмат трудоў, здароўя, страху і напружаньня паложыць Гардзей пакуль ізноў выбярэцца на паверхню, на свой шлях бедака-малазямельніка, каб дайсьці да тэй ночы, якую ён пасьля называў гібельнай.

А ноч гэтая была незадоўга перад 1-м маем. На вёску наскочыла паліцыя, каб рабіць труску, бо быццам яны дачуліся, што ёсьць аружжа, камуністычная літаратура і ўсё такое.

Пачалі трасьці і цесьлярову хату. Гардзей быў спакойны, быў пэўны, што ўсё добра кончыцца. Яму ўжо ня раз прыходзілася быць сьведкам гэтых паліцэйскіх аблаў і заўсёды гэтая бура праходзіла міма яго. Таго ці іншага суседа заарыштуюць, ці тут-жа папяруць, а ён выходзіў сухім Ён сам памагаў паліцыі капацца ў яго сховах, бо ведаў, што ён нічога ня мае пярэчучага закону, бо ведаў, што паліцыя абшуквае яго больш дзеля віду, вось так на ўсялякі выпадак.

Быў Гардзей і цяпер спакойным. І калі п'яны паліцыянт пачаў буяніць, дык ён нават паважыўся асадзіць нахабніка, які паступае „не па праву, не па закону". Далейшы вобыск давёў паліцыянтаў да жалества Гардзея, якое ляжала на столі новай хаты і там з вялікім трыумфам знайшлі старое гарматнае ядро і зламаны штых. Тут-жа кінуліся на цесьляра, скумячылі яго пад сабой, закавалі ў кайданы і пагналі на пастарунак, як бандыта, як бальшавіка. Калі-ж абоз з арыштаванымі пад'яжджаў да мястэчку, дык Гардзей увідзеў зарава пажару ў бок сваёй вёскі,—гэта гарэла яго новая хата: паліцыянты, поручыся на столі, закінулі ў пілавінях агонь, ад папіросы.

У вастрозе пачалі мучыць Гардзея чорныя дагадваньні аб пажары. Калі яго цягалі на допыты, ён там як вар'ят марматаў бяз сэнсу і ўсё зводзіў гутарку да пажару. З гэтага астаўбяненьня ня выводзіла і біцьцё дэфэнзыўшчыкаў.

— Бійце мяне, паночкі, енчыў цясьляр, хоць на кавалачкі рэжце, толькі каб мая хата ўцалела. Нічога мне не баліць, нічога я ня ведаю, пусьціце мяне да маёй хаты, закончыць яе пакрыць, а то згіне ад дажджу. Пусьціце да хатачкі маёй, прыхінуцца-б мне да яе, пасядзець на новым парозе...

Гардзей хутка дазнаўся аб тым, што згарэла яго садзіба і аддаўся поўнаму адчаю. Не хачу я вяртацца дамоў—наказваў ён жонцы, хоць мяне тут голадам морадь і ўсяляк зьдзекуюцца. Не хачу мадзець кутнікам, так як бацька быў—наша гэта пагібель. Не чакай ты з мяне работніка,—карміцеля, калі і выпусьцяць на волю, дык альбо зальлю гора гарэлкай, альбо задушуся ў пятлі. Дастукаліся мы да ручкі, няма нам жыцьця, не чакайце, не спадзейцеся на мяне.

Якія там маглі быць спадзяваньні і чаканьні для сям'і цесьляра, калі што ні новы дзень, дык горшы голад, глыбей нэндза. Трэба было, глядзячы сьмерці ў вочы, знайсьці шлях да бытаваньня. Той памёр, іншы пайшоў на службу, той павалокся жабраком па сьвеце. Лішнія едакі

пакінулі зямлянку, пакінулі маці з дробнымі дзяцьмі, якая, чакаючы Гардзея каля году, страціла ўжо надзею яго калі-небудзь убачыць.

Раньняй вясной, калі трэба было ральлю заахвоціць да марцовых запладненьняў, жонка Гардзея пашла ў мястэчка даведацца як справа з мужам і каб перадаць яму жальбу сваю і асірацелага шнура-аблога. Хадзіла, блыталася па ўстановах, кланялася, плакала перад фанабэрыстымі панамі-чыноўнікамі і так з больлю і крыўдай пайшла назад да хаты-зямлянкі. На вялікае зьдзіўленьне і радасьць знайшла дома Гардзея, які дзелавіта чысьціў бульбу на вячэру. То была неспадзеўка!

Жонка зразу пачала супакайваць Гардзея, каб ён ня тужыў па згарэўшай хаце, што цяпер усё добра будзе. Ня з імі аднымі такое гора здараецца, а вось-жа людзі пагаруюць і ізноў абжывуцца.

— Пакінь малоць. Што ты мне хваробу ўгаварваеш. Хто гэта ўбіваецца, гаруе.

— Ведаеш, Гардзейка, усьцешала далей жонка, надойчы мне наказвалі, што паны быццам хочуць нам даць бярвеньні на хату, ты толькі не бядуй і ня ўбівайся.

— Хто дае бярвеньня?

— Ці я ведаю. Хто іх тут гэтых канцэлярыяў запамятае. Солтыс перадаваў.

— Скажы ім, што хай яны лепш сабе дамавіну з гэтага лесу зробяць.

— Я мяркую, што калі даюць, дык і трэба браць. Дармоваму каню ў зубы не глядзяць, а будавацца ўсё-роўна трэба будзе.

— Дурань! Вось цэлы век свой толькі тое і робім, што будуемся. Да вастрогу, голаду і зямлянкі дабудаваліся. Не, лопнуць іх трыбухі, а ўжо я ім сваёй крыві і каплі ня дам.

— Ат, нешта ты па іншаму гаворыш, ну, але пасьля пагутарым. Ты, Гардзейка, тут пабудзь, а я зьлётаю да Даўбнючыхі, мо' якой акрасы пажычу, цябе пачаставаць.

— Пакінь. Нечага туды швэндацца. Хадзі лепш сюды—і Гардзей прыцяг да сябе жонку, сьцісну ў у моцных абыймах. Эх, добрая ты ў мяне баба!

— Ой, костачкі мае паламаеш, ня так моцна.

— Бачыш я ў вастрозе падужэў,—пружыну мне там пругкую уставілі, такую, разумеш, бальшавіцкую машынэрыю. Волю маю на сталь загартавалі, так што цяпер ніякая бяда—трасца не сагне мяне і сажай ня вымажа і ў хлеў ня кіне, як быдла.

Жонка ад доўгачаканых ласк мужа і ад перапуду што ці не зьвіхнуўся з розуму муж, бо гавора такое незразумелае, ахапіла жаласьць і яна пачала плачучы жальбаваць на бяду-бядачку, на тыя мукі, якія прышлося ёй першыць без Гардзея.

— Нічога, родная, пайду куды на заработкі, на шасэ можа, або ў лес. Падзараблю, тады, брат, аладак бульбяных нашкварым, а то засумаваў

я за імі дужа моцна, не раўнуючы як за табой. Ну, а ты тут шашні не разводзіла? Га? Паглядзі мне ў вочы, во, во, так проста. Маладзец ты ў мяне!

Глядзіць жонка праз сьлёзы ў шэрыя Гардзеявы вочы з чырвонымі жылкамі, глытае яго дыханьне з запахам махоркі і радасна сьцьвярджае:

— Ня той стаў Гардзей, іншы мой Гардзейка, дарагі, блізкі...

І сапраўды Гардзей стаў іншым. Перш заўсёды хадзіў пануры, хмарны—ніколі, каб пайсьці па суседзях, каб даць свой голас у грамадзе, а бывала сустрэнецца з кім, дык толькі тэй і гутаркі, што бяда есьць поедам, што ратунку аднікуль няма. А то пачне будаваць незьдзяйсьнімыя пляны, пісаць памялом па вадзе аб сваёй долі-волі. Калі суседзі завядуць гутарку аб агульнай бядзе, ну прыкладам аб камасацыі, дык Гардзей утоўпіць у вадзін пункт вочы, разьвесіць вушы, слухае, слухае ды і зяхаць пачне, а ўрэшце, пацярабіўшы калматыя грудзі, пасунецца да хаты—яму хоць-бы што, да яго гэтая бяда не дакачваецца, ён мае ласку ў Даўбняка, а гэты ў крыўду ня дасьць.

Перарадзіўся Гардзей. Калі ён першы раз вышаў на вёску пасьля таго, як вярнуўся з вастрогу, дык адразу ўзяў навучальны тон, быццам той студэнт прыехаўшы на канікулы. Пачаў хаіць сялян, што яны ня ўмеюць жыць, трымаюцца старых законаў, пакорлівыя перад панамі.

— На якога чорта вам убівацца аб гэтай камасацыі—пачаў упэўнена даводзіць сялянам, калі тыя закідалі яго пытаньнямі аб камасацыі, аб вайне, ці хутка пераварот,—ведама чалавек прыйшоў з вастрогу, значыць ён ад іх у палітыцы на цэлую галаву вышэй.

— Сядзі на месцы і ня рыпайся, а няхай хто спрабуе сілай крануць, дык калом па чэрапе і па баку тэй камасацыі. Даўбняку і іншым, што перайшлі на хутары, чырвонага пеўня трэба падпусьціць.

— Ты сапраўды стаў па іному гутарыць. А памятаеш, як ты...

— Было, сплыло—перабіў жвава Гардзей. Дурны быў, усё думаў пры панох пер'ямі абрасьці, ажно трасцу ў бок. Няма чаго мазгі сушыць і крывавыя мазалі набіваць, усё што ня робіш, ідзе на іх карысьць, на Даўбняка, на пана з двара і ягоную псярню, ваяводаў, паліцыю ды ці пералічыш усіх. Наша мэта—руйнаваць іхняе дабро ды і самім ім адкручваць галовы, бо інакш яны табе адкруцяць.

— Ой, нешта ты, братка, ня так гаворыш. Надойчы ў нас быў камуністы, дзяцюк сабе такі пакладзісты, дык ён па іному казаў. Таксама кажа, што трэба паноў гэтых саміх паскідаць у бяздоньне, але каб толькі ўсіх разам і што гэта, кажа, можна зрабіць, калі мы ўсе гуртам возьмемся за рэвалюцыйную справу. Яно дык гэта падхадзяшча, а тваe пляны штосьці ня так.

— Такі ён мусіць і камуністы, зазлаваўся Гардзей. Я, мае дарагія, у вастрозе з вельмі важнымі палітыкамі гутарыў, адзін з іх быў камуніст над усімі камуністамі. Ён мне, ды пажар маёй хаты адкрылі вочы. Па ягонаму так і выходзіла—жыві, як жывецца, каб як дастукацца да

рэвалюцыі, а будзеш старацца нажыцца—усё пойдзе буржуям, раз іх туды.

Сяляне больш не пярэчылі. Усім напякло ад Даўбняка, дворнага пана ды акупантаў і вялікая ахота іх адціснуць к чорту на рогі, а зямелькай іхняй пашырыць свае шнуры. Але штось ня ўсё тут гладка ў Гардзея. У таго камуністага складней выходзіла. Вось чаму запанавала маўчанка. Нехта з прымусу адазваўся, каб перабіць прыкрае маўчаньне.

— Эх, добры дзяцюк быў Шустры, усё-ткі мы тады лоўка паваявалі.

— Ветрагон ён, сабачы хвост, плюнуць на яго ня варта, раз яго туды—успыліў Гардзей.

Загаварыла ў ім старая зайздрасьць, а цяпер крыўда, што ён, Гардзей, панёс столькі ахвяры і пабілі яго моцна, а ўсё як ён думаў за справу аднасельчан. Цяпер, калі ён за іх ізноў стаіць гарой, яны яму выторківаюць Шустрага.

— А што Шустры зрабіў?! Накаламуціў і хвастом накрыўся. Заслуга, што схаваўся пад апеку саветаў, пашоў на гатовенькае. А чаму гэтаму добраму хлапцу не пастаяць бы за грамаду, чаму ня стануць грудзьмі перад варожымі штыхамі. Няхай-бы за нашу справу вытрымала-б яго сьпіна паліцэйскія ўдары, хай-бы перанёс да канца енкі і стогны сваёй сям'і, голад і зьдзек. А то герой вялікі, схавайся за мяжу і махае адтуль кулакамі на паноў.

Для большага доваду Гардзей расхінаў грудзі, бы перад варожымі штыхамі, пасьля скінуў атопак з босай нагі і тычучы пальцам у аблезлую падошву, тлумачыў усхваляваным голасам і злоснымі аганькамі ў вачох, што падошвы асталіся на распаляных цэглах, па якіх яго ганялі дэфэнзыўныя палачы.

— А ці нам ад гэтага лягчэй, што ён уцёк—падбухторваў далей цясьляр, ці ня мэнчылі і каталі на пастарунку Паўлюка і Габрусёнка, каб дазнацца, дзе Шустры дзеўся. Каму гэткія ўцёкі на руку, якая нам з іх карысьць. Гэта, дарагія мае, толькі шкурніцтва здрада і зьдзек з нашай бяды. Я прапаную напісаць яму і збэсьціць яго, ды сказаць, што мы ня пойдзем сьлядамі здраднікаў. Мы тут самі свае саветы зробім, а яму, дэзэртыру, у нас ня месца. Дык ці ня праўда?

Гарачыя довады папалі ў пераконаньне ўсей бядоты, якой таксама было зайздросна і крыўдна на Шустрага. Зараз-жа нашоўся пісака і пад дыктоўку Гардзея быў напісаны ня ліст, а цэлы акт абвінавачаньня Шустраму.

Гэтая першая ўдача акрыліла цесьляра, яна-ж таксама ўзьняла яго яшчэ вышэй у вачох сялян.

Гардзей палыхаў помстай. Ён шукаў выхаду таму накіпеўшаму, набалеўшаму ўнутры. Аднаго дня разнеслася па вёсцы чутка, што ў Даўбняка на хутары нехта ноччу пасьсякаў дрэўцы ў маладым садочку і што Даўбняк ажно валасы рваў з роспачы. Праз якісь час сяляне таксама даведаліся ізноў навіну: згарэў вятрак у панскім двары і раптоўна здох гатунковы бугай, а то нехта чатыры слупы тэлеграфныя пападсякаў на

тракце, быў вялікі вецер, дык пазвальваў іх вобзямлю. Запалыхалі тамсям пажары. Выкалеіўся цягнік. Пайшлі розныя дагадкі і лягенды, што хутка мабыць будзе нейкі пераварот, што паном ужо не здабравацць. Сяляне смакавалі гэтыя пагудкі, таўклі іх і перамалвалі. Гардзей-жа хадзіў павай і цешыўся ў душы сваімі ўчынкамі, ён гардзіўся тымі асабліва чулымі да яго адносінамі з боку сялян, якія пакрысе, скрытна, дагадваліся, хто гэта пракудзе паном.

Аднак, трыумф цесьляра нядоўга трываў. Давялося яму вытрымаць палітычны паядынак перад сялянамі з камуністым—тым самым пакладзістым дзяцюком. Гардзеяўская: бурыць і біць было ў грузалкі разьбіта камуністым, ягонай арганізацыяй барацьбы і рэвалюцыйнай падрыхтоўкай да рашучага моманту. Захаілі і зацюкалі Гардзея і сяляне.

Цясьляр быў вельмі здаволены, калі, знашоўшы працу на суседняй лесапілцы, мог пакінуць сваю вёску. На лесапілцы з першага дня Гардзей пачаў даводзіць, што кожная дошка, увесь лясны матар'ял з лесапілкі не пападзе „нашаму брату“. Яму калі трэба была дашка, як ён будаваў сабе хату, дык мусіў тапаром вычосваць, альбо дзе-небудзь украсьці. Дык на чорта гэтая лесапілка існуе, калі няма для нас ад яе карысьці, дык хай і ім ня будзе. Былі выпадкі, калі Гардзей зпадцішка псаваў машыну, што моцна абурала рабочых. Ня мог зразумець цясьляр, чаму рабочым шкада машыны фабрыканта.

— Прыхлебнікі, гады, прадаліся з душой і целам пану—вырашыў па-свойму Гардзей.

Больш сьвядомыя рабочыя тлумачылі, што нельга псаваць машыны, трэба захоўваць яе, бо прыдасца пасьля для рабочых, а вось супроць гаспадара трэба пакуль забастоўкай змагацца. Гардзей аказваў маўчалівым пратэстам, бо баяўся сябе выдаць, ён толькі лаяў фабрыканта, злаваўся і наракаў без дай прычыны на рабочых, а як чуў, што слоў ня хапае, што яго не падтрымоўваюць, дык уцякаў.

Уцёк ён і з аб'яўленай рабочымі забастоўкі—ледзь вытрываў шэсьць дзён, а пасьля рашыў, што рабочыя не сядзелі яшчэ ў вастрозе, дык ні чорта не разумеюць у барацьбе, а забастоўкай толькі час марнуюць і шкодзяць самі сабе.

Вярнуўшыся да хаты, Гардзей меў новую няпрыемнасьць: Даўбняк змусіў яго перадаць на якісь час зямлю ў дарэмнае карыстаньне Даўбняку за розныя там старыя пазыкі і за падкармліваньне Гардзеявай сям'і.

— Ты, кажа Даўбняк, давай зямлю і маўчы, бо я з табой яшчэ па добраці, а то такіх як ты, бунтаўшчыкоў, даўно час з дарогі на бок сапхнуць. Абач, Гардзей, паслухай маёй добрай рады, кажу табе, як прыяцель, кінь нюхацца з бальшавікамі, прападзеш за нішто.

— Як хто пасьцеліцца, так і высьпіцца. Адно ведаю, пане Даўбняк, што вам дрэнна будзе спацца,—скрываючы нянавісьць, адказаў цесьляр, а ў думках меркаваў: як падпяку разы са два, дык тады, гад печаны, усю ночку вока не сажмурыш.

Такім чынам Гардзей ізноў стаў кутнікам. Усе яго лятункі, усе труды, усе надзеі пашлі на сухія лясы, пакідалі гаркату на душы, пасеялі нянавісьць і помсту. Цесьляр увесь гатоў быўісьці на іх вайной, на ўсіх гэтых віноўнікаў яго злыбяды, паняверы і гора. Даць пачуць ім як найбольш балюча і як найхутчэй, пачуць яго мазалістую караючую руку, яго пякучую нянавісьць, яго пагардлівае пачуцьцё чалавека іншае косткі і крыві.

Перш Даўбняк быў яму вузорам і прыкладам як трэба гаспадарыць, як трэба жыць, каб багацець і нажывацца, каб выйсьці ў людзі. Цяпер Даўбняк—гэта падкалодная гадзіна, якой трэба абсацам галаву раскрамсаць, гэта сьмярдзючая падла, на якую плюнуць гідка, гэта ашалелы воўк, якому трэба тапаром чэрап разваліць. Радасна тухкала сэрца Гардзея, як успамінаў тую ноч, калі ён адным махам вострай сякеры зрубаў фруктовыя дрэўцы у садзе Даўбняка—яны былі налітыя веснавым сокам і яшчэ такія кволыя і мяккія, бы дзіцячыя храшчаватыя костачкі. Гардзей высякаў іх з такім асьцервяненьнем, бы племя Даўбняка.

Перш бывала Гардзей, укладваючыся спаць на ноч, любіў падлічыць, што ён за дзень зрабіў, якую карысьць, набытак прыдбаў сваёй гаспадарцы. Якісь там знойдзены кавалак чугуннага сагана на шуметніку задавальваў Гардзея, што ўсё-ткі дзень не змарнаваны. Гэткае глупства цяпер яго зусім ня цікавіла. Вось нанясьці сваім ворагам якую ўрону, шкоду, ці перакінуцца на вёсцы, на лесапільцы, на кірмашы бунтарскім словам, альбо самому ад каго пачуць аб тым, што трэба рабіць, каб паны ня зьдзіралі сем скур, аб тым, што ім хутка канец будзе, што толькі з камуністамі можна праўды дайсьці. Гэтым жыў цяпер Гардзей, шукаў барацьбы, гарэў барацьбой, гартаваў сталь сваёй волі ў полымі барацьбы.

Ён кідаўся, як кажуць, галавой усюды, дзе чуў звон змаганьня, дзе разьлягаўся пошчак барацьбы. Але яго не здавальвалі масавыя выступленьні, бо яны па ягонаму не астаўляюць знаку ў панстве, „хоць-бы які шрамок, ці вышчарбілі-б кусочак іхняй сілы, іхняга панаваньня“—казаў з дакукай Гардзей.

Не задавальваўся ён і сваёй работай: біць і руйнаваць, бо тут ён быў у адзіноцтве. Бяз людзей, бяз табалы хадзіў Гардзей як атручаны. Там у грамадзе забываўся аб сваёй галечы і злыбядзе, там запаляўся і іншых запаляў да „вайны супроць паноў“. Апрача таго, у такой падрыўной рабоце была вялікая пагроза, што могуць хутка выявіць яго ўчынкі і засадзіць за к аты. А гэтага бярогся і не хацеў Гардзей, як ніколі—наносячы ўдары і шкоду паном быў спрыцен, як уюн і хіцёр, як ліса. Не хацеў ён папасьці за краты ня дзеля таго, што баяўся катаваньня ці доўгагодняй катаргі, а мо‘ нават і сьмерці, не, яму жадалася быць як найдаўжэй на волі, каб больш і мацней напракудзіць паном.

— Ужо я вам адхрыстосуюся, раз вас туды, капелькі вам сваёй крыві ня дам—гразіўся пастаянна Гардзей сваім гнybіцелям, якіх ён цяпер адчуваў на кожным кроку і якія атручвалі яму кожны дых, усё жыцьцё.

Аднак кроў сваю мусіў аддаваць, ды ці па капельцы нават. Мусіў-жа Гардзей ісьці зарабляць на хлеб, каб не памерці з голаду, ісьці на працу ад зары да зары за жабрачую аплату, а ў Даўбняка часта-густа за ежу. Скрыгатаваў ад злосьці сківіцамі, але мусіў даваць кроў і пот і даваў.

— Ну што-ж бярэце, пейце маю кроў, толькі-ж яна атручана, акалееце ад яе,—усьцешаў сябе цесьляр ідучы на работу.

І ён заўсёды, працуючы на хлеб і соль для сям'і, меркаваў, каб найменш карысьці прынесла яго праца, каб узбунтаваць рабочых, альбо цішком нарабіць шкодніцтва прадпрыемцу, абшарніку, кулаку.

Гардзей нейкі час валэндаецца беспрацоўным, а ў хаце бяда бядой паганяе. Адно збаўленьне, калі жонка дзе што падзаробе на чужым агародзе ці ў полі. Дзеці ад пастаяннага галадамірываньня сталі нейкія страшныя, нялюбыя, красьці пачалі, ажно суседзі ўжо наракаюць. І рашыў Гардзей у горад схадзіць, пашукаць работы, а мо' пашанцуе падзарабіць, каб сям'ю падтрымаць.

— За адным разам меркаваў—і свайго сябру Сідара наведаю ў турме—сядзіць бядак за нішто праз што. Вун, ён Гардзей ня то нарабіў, а вось пакуль што нічога, а то чалавек раскруціў гайкі ў рэйках чыгункі, а нехта вазьмі і дакажы паліцыі. Цягнік, праўда, зваліўся пад насып, паранілася там нейкае начальства. Ну дык што.

Ва ўсім гэтым выпадку ведама прылажыў руку і Гардзей. Ён нагаварыў Сідару як раз у той час, калі асаднік яго засудзіў, зрабіць што-небудзь такое, каб на душы адлягло, а ў іх акупантаў сьмерцяй ёкнулася.

Аднак у горадзе цясьляр доўга не бавіўся. Як вярнуўся да хаты, быў хмарней хмар, чарней ральлі. Узяўшы жонку за рукаў, вывёў на загуменьне, далей ад дзяцей і расказаў, што яго сябру Сідара судзілі і расстралялі, што ён ня шукаў ніякай работы, а памчаў хутчэй да хаты, бо магчыма, што і яго расстраляюць.

— Ты разумееш,—пачаў з жарам даводзіць жонцы, быццам тая яму пярэчыла,—што трэба неяк інакш раскручваць работу, бо падлюгі перадушаць нашага брату. Ты мне не кажы, я тут сам цямлю, што трэба інакшы падыход. Усю дарогу аб гэтым меркаваў. Трэба ўсё так рабіць, каб ім цяжэй было перамагчы. А то забілі і канцы табе тут, а яны тваю могілку яшчэ ўтоптываюць. Я, бачыш, гэта і ўперш разумеў і ты тут нават не памыкайся пярэчыць. Што ім горш, дык нам лепш. Вось забілі Сідара і банкетуюць, а каб мы ўсе разам, дык трасца ім у бок. Ціха, ты, слухай, я хачу табе, дурной, давясьці, што камуністы разумны гэта народ, ты мабыць ніводнага з іх ня бачыла. А вось мне адзін як сказаў, так па ягонаму і выйшла: не гарачыся, кажа, а вось станавіся ў шэрагі, наперад ня вытыкайся, з заду не аставайся, а з намі, кажа, трымайся. Любата!

Ён доўга, блытаючыся, даводзіў жонцы, чаго і сам яшчэ не ўяўляў выразна, але адчуваў сваім бунтарскім нутром. Каб паказацца ёй вельмі дасьціпным у справах палітыкі, стараўся прыпомніць словы вясковага

камуністага і паўтараў іх. Ён чуў канешнюю патрэбу выказацца, уцелаісьціць у словы свае новыя думкі-пераконаньні, пачуць фальш і правату сваіх пачуцьцяў. Бо ад гэтых нахлынуўшых нальлей думак і пачуцьцяў, яму не пад сілу было аднаму, а ісьці з павінным перад вяскоўцамі— надта ўжо канфузна. Урэшце, унадзіўшы момант, жонка пачала аб сваім:

— Ну і лапочаш-жа ты, губы не дасі разьзявіць. Мы тут бабы забастоўку аб'явілі.

— Забастоўку?

— Ну, але! Вось парашылі ўсе ня ісьці да Даўбняка танней двух злотых жыта жаць. Хоць ён тут хай распражэцца, ні адна ня пойдзе.

— Правільна. Хай лепш зярно зямлю тлусьціць, чым пуза кулака.

— Правільна кажаш? А я ўсё цябе чакала, каб параіцца, можа мне пажынаць са два дні, надта-ж у нас у хаце голадна.

— Дурань баба, а не важся ісьці, а ўрэшце даведаюся, пабягу на вёску, як там...

На вёсцы шумелі, як у вульлі—аказваецца, што перш забаставалі парабкі, а пасьля вёска далучылася да іхняй забастоўкі. Кінулі работу ў некалькіх маёнтках. Вёска Мытлякі шумела і грамадзілася, бо забастоўка мелася ахапіць усю акругу. Абшарнікі і кулакі дзіка равуць і пенай плююцца, бо збожжа сыпіцца—золатам, брушть ном укрывае зямлю. А тут што ні момант, што ні дзень новыя весткі, сьвежыя навіны.

У суседні двор прыехаў пепеэсяк з гораду і нагаварваў парабкоў пабаяцца панскіх пагрозаў і стаць на работу. Два парабкі здрадзілі, хацелі пайсьці на работу, але іх ня пусьцілі другія, крыху там паваўтузіліся і абізьбячылі адзін другога. Абшарнік выдаў здраднікам аружжа. Бадай па ўсіх дварох панаехала конная паліцыя, а ў суседнім двары да вёскі Мытлікаў у вежы палацу пастаўлены кулямёт. Сям'я пана выехала ў горад, але, не даяжджаючы да вакзалу, зламалася чамусьці вось і паненкі па шчыкалаткі ў гразі прыйшлі пяхтурой на вакзал.

Даўбняк прывёз жнівярку ад пана, але хлопцы з Мытлікаў прыгразілі кулаку выяжджаць на полі. Прыехаў атрад паліцыянтаў і кулак пачаў жаць. Праехаў адзін-другі загон і раптам: стоп—машына паламалася, бо нехта ў жыта панаторкваў жалезных пруткоў.

Забастовачны камітэт, выбраны з парабкаў і сялян, склікаў мітынг, на якім усьпелі выступіць толькі Яська Лягутка, Гардзей і Міхасёнак. Усе заклікалі стаяць цьвёрда за свае дамаганьні, стаяць адзін за ўсіх і ўсе за аднаго. Наскочыўшая конная паліцыя разагнала мітынг, жорстка некаторых пабіўшы. Сын Даўбняка, які за вуглом падслухоўваў, а як пачалі разганяць, кінуўся на падмогу паліцыі і пакуль распазналіся, паліцыя па абмылцы і яго асьцявужыла нагайкамі. Кпінавалі пасьля з яго, што малавата яму плацяць за паслугі.

Наведаў Мытлякі і пепеэсяк. Солтыс—беларускі хадэк, склікаў яму сялян. Панскі агент пачаў даводзіць, што забастоўка шкодзіць не пану, а дзяржаве. Інтарэсы дзяржавы—гэта інтарэсы ўсіх грамадзан, а разам

з тым і мытлянцаў. Што калі яны згодзяцца спыніць забастоўку, дык ён даб'ецца ў пана двух процантаў надбаўкі. Лепш што-небудзь зарабіць, як час і дабро марнаваць, і „ні пса“ не зарабіць, бо пан можа машынамі сжаць.

Сяляне пачалі падтаківаць:

— І то праўда, разумна мяркуе.

— Проста лапатай у розум кладзе.

— Ну, ну, яшчэ што-небудзь раскажы.

— Ціхай-це, не перапыняйце, гладка ён баіць.

І—пепеэсяк стараўся—думаў, што рыбка клюе. Раптам нехта з грамады кінуў анучу, намочаную ў дзёгці проста ў твар пепеэсяку. Анучка вазьмі ды зачапіся за акуляры. Пакуль пепеэсяк, адплёўваючыся, выблутаў акуляры, пакуль іх абцёр, дык грамада аж клалася са сьмеху. Назьдзекаліся з яго як досыць.

Кроўю залілося нутро, зашчымелі болем у сэрцы, калі сяляне даведаліся аб панскіх зьдзеках. Было так. Захварэла ў парабка дзіця. Пайшла жонка прасіць у пана малака, бо з двара выйсьці ня вельмі пускае паліцыя, а дзіця ўжо колькі дзён нават вуснаў нічым не змачыла. Пан прагнаў парабчанку, а малаком загадаў паіць паліцэйскіх коняў і сваіх сабак. Мала таго, на відавоку галадуючых парабкаў загадаў верным сваім паслугачом падмазаць колы кароўім маслам і паехаў у суседні маёнтак, дзе з паліцэйскімі камандзірамі банкеталі да позьняй ночы. Забастовачны камітэт ураз-жа рашыў сабраць дапамогу батракам, што даручана было зрабіць Габрусёнку і Гардзею.

Даручэньне камітэту было жвава выканана. Габрусёнак і Гардзей, узяўшы мяшкі, пашлі па вёсках і ў незабаве прывалаклі ў мяшкох рознага дабра.

— Гэта ня ласка, а абавязак,—казалі сярмяжнікі і часта дзяліліся з апошняй—падмялі дно ў кадцы, адсыпалі колькі прыгаршняў ад насеньня, жыдчэй зварылі заціркі, зьелі посьніцу,—але далі, бо давала рука каравая, загрубелая катаржнай працай, рука, якая нясе шал абурэньня і сьмяротныя ўдары сытым, чысьценькім беларучкам.

А забастоўка шырыцца, набірае пругкасьці. На полі ідуць сутычкі парабкаў і сялян са здраднікамі і паліцыяй. Зашнырылі па дарогах і вёсках шпікі, нагналі яшчэ больш паліцыі, а як дзе, дык і войска, пайшлі чуткі, што прывезьлі нават труючых газаў. Асаднікі і кулачьё ўзброіліся, абнаглелі, паказваюць воўчы зубы. Па начох ня сьпяць, вартуюць, бо ўдабавак сухмень стаіць і вецер. Вёскі таксама назначылі дазоры і варты.

У паветры чуецца бура, ідзе ўсё больш рэзкае разьмежаваньне паміж забастоўшчыкамі і панствам. Той-іншы ў вёсцы рвецца ў бой; той кажа, адстаньце вы ад мяне, мая хата з краю, я нічога ня знаю; той ноччу шпігуе—да вокнаў прыліпае, каб падслухаць, падгледзіць, той плюе на ўсялякія забастоўкі, бо хоча зарабіць і ня хоча мець гузака ад паліцыі.

Ганьба і байкот здраднікам, а з панскага поля вон іх сілай!—разьлягаецца грозна па маёнтках, вёсках і з жалезнай рашучасьцю праводзіцца забастоўшчыкамі ў жыцьцё.

Забастоўка пружыніцца, збожжа сыпіцца, а па чутках пан гатоў пачаць гутарку аб павялічэньні платы. Найбольш працуе забастовачны камітэт, і сяляне Міхасёнак, Гардзей, Сцёпка Шуйка і іншыя. Голас кампартыі ўсё грамчэй разьлягаецца, усё большы мае послух у масах на мітынгах, пад стрэхамі парабкоў і бядняцкіх хат. Друкаванае слова партыі пераносіцца па нявідзімых падземных шляхох, куды лепш, як загады начальства па тэлеграфу, бо забастоўшчыкі закідваюць драты на тэлеграфны дрот, а другі канец уторкваюць у зямлю і ўсе загады і гутаркі паноў правальваюцца праз зямлю. Пенюцца паны са злосьці і страх за плячмі варушыцца.

Завастраецца барацьба. Два ворагі, ашчэрыўшыся, шкодзяць адзін другому як мага. Паліцыя ўсё часьцей-гусьцей робіць наскокі на вёскі. Нацягваюцца нэрвы ў забастоўшчыкаў. Арганізуюць яны сваю самаабарону, набракаюць энэргіяй. Асабліва радасна ўскалыхнула забастоўшчыкаў вестка, што рабочыя ў бліжэйшай гуце і лесапілцы аб'явілі забастоўку салідарнасьці. Пачалі грамадзіцца забастоўшчыкі і ў адзін голас: ну, значыць, пераможам, наша возьме, стойка трымацца! Рашылі дзеля сувязі з рабочымі паслаць Сымона, быўшага чырвонаармейца і Гардзея.

Запалыхалі чырвоныя, яскравыя палотнішчы над вёскамі і панскімі дварамі. Асьцервянелае панства і яго паслугачы зрываюць, валтузяць, кумячаць крыльля чырвоных птушак, якія гукаюць бальшавіцкімі лёзунгамі і гук гэты бы атручаныя стрэлы колюць, пякуць, кусаюць ашалелае панства.

Залунала падбухторваючая навасьць—прапаў у ночы кулямёт з панскага палацу. Вінавацяць пакаёўку, быццам упусьціла цішком бандытаў. Арыштавалі яе. Але ў пана ёсьць падазрэньне і да тых двух парабкаў, што не бастуюць—шапкі то яны зьнімаюць, аднак у вачох мільгацяць дрэнныя аганькі. Адабраў ад іх зброю. У паліцыі таксама бяда—усе коні пачалі кашляць, нехта кажуць, падсыпаў ядавітых зёлак.

Забастовачны камітэт даведаўся, што ўлада хоча справакаваць на крывавае пабоішча, каб разьвязаць сабе рукі і агнём і мячом усьміраць забастоўшчыкаў, каб паставіць на калені хамаў. Мае пачацца ад павальных вобыскаў і пагалоўнага зьбіваньня забастоўшчыкаў.

Сутычка нямінуча. Вось-вось аж чарэпяцца ў дзікіх жорсткіх абыймах заклятыя запальчывыя ворагі, вось-вось брызьне, пальлецца кроў.

А дасьпелая ніва, апусьціўшы ніц-долу каласы, плача залатымі сьлязамі і ўкрывае зямлю чырвань-золатам і бруштынам. Ня маюць батракі, ня маюць забастоўшчыкі да жальбы нівы ніякай літасьці, бо ня маюць яны і да сябе жаласьці. Што ні момант яны гатовы на самыя страшныя ахвяры. Няхай галодная сьмерць страпае па шыбах вокнаў, няхай бяз-

дом‘е, беспрацоўе пужае мутнымі, як васеньні дзень звар‘яцелымі вачмі— батрак ня пойдзе ў іхні штаб, у палац, не сагнецца перад панам.

Цьфу! на яго

Батрак, напяўшы і напружаўшы мускулы, чакае да сябе прыходу пана шматгаловага, многарукага ў паліцэйскіх мундзірах. Пан прыдзе з катаваньнямі і зьдзекамі, па рабства і пакору.

— Не здамося! з грымотам разьлягаецца па шэрагах забастоўшчыкаў, ажно дрыгаціць вінтоўка ў руках панскае ўлады.

Сутычка нямінуча.

# КАРШУН

*(Поэма)*

**Алесь Звонак**

I

Як вечар цьмяна-пурпуровы
зямлю паціху ахіне,
яна задумана ўздыхне
і сінія падніме бровы...
І ціш такая раптам стане
і далі зьнікнуць у тумане...
Крыху пазьней дзяўчаты выйдуць,
каб запаліць вачэй агні
пад душным подыхам вясны,
каб выплакаць ў песьнях крыўду...
І доўга, доўга ў змрок і далеч
ліецца песьня, песьня жалю:

„Га-а-рыца-ж мая крута-а-я... а-а
Гарыца-ж мая-а-а... крута-а-я...
Долячка-ж мая-а... ліхая-а...
Ніжто-ж гарыцу ня змые...
Ніхто-ж долячкі ня зьмене...
Змые гарыцу вадзіца,
Зьмене долячку сястрыца“...

І колькі ў іх тугі і суму,
і колькі нявымоўных слоў!?.
А рэха плача за сялом,
Як ашуканая красуня...

Тады на гоман, песьні, словы
выходзіць дзед белагаловы...

І сярод моладзі на прызьбе
запаліць люльку дзед стары
і будзе доўга гаварыць,
пакуль заранка ня узыйдзе...
Раскажа дзед пра лютасьць пана,
пра час далёкі старадаўні,

пра долю наскую цяжкую,
пра крыўду вечную і зьдзек...
Раскажа і замоўкне дзед
і люльку зноў сваю закурыць...
Тады ў хлапцоў адвагі стане
забродзіць брагай дух паўстаньня.
І казку дзедаву даканчаць
балоты, пушчы і лясы
і ўзмах паўстанцкае касы
і полыні пажару ўночы...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

А нам здаецца казкай даўняй
і дзед, і зьмест апавяданьня...

І вось:

Як вечар пурпуровы
зямлю ўкахана ахіне,
яна задумана ўздыхне
і сінія падніме бровы...
І ціш такая-ж раптам стане,
і далі зьнікнуць у тумане...
Усё здаецца тым-жа самым,
ды толькі дзед даўно памёр,
ды калыхаецца прастор
ад песьні іншай за гарамі:

— „Эх, за гарырою д‘ гай гыамыоніць,
Ныад гарырою д‘ с‘оныца!
Пак‘ахыала д‘ я сягоньні
Сёмыку д‘ камы‘самоль‘ца...
Гы‘ай зя‘лілёны, д‘ ня тужы
Эх! дзянёчкі ня тыя (уэх!!!)
Буду з камысамольцым жыць
Я ў (эх!) калікатыві!..“

І колькі юнага запалу
ў гучэньні тых няхітрых слоў!?.
Сьмяецца рэха за сялом
і заціхае ў далях...
І вось:

ня дзед белагаловы
выходзіць з люлькаю ў зубах,
а я з аповесьцю суровай,
дзе ў словах—радасьць і журба,
што прыляцелі за гадамі,
дзе ў словах быль часоў нядаўных.

II

...А ў Паддубнага дугамі бровы,
па-казацкаму ўніз вусы,
хоць ён сын беларускіх дуброваў,
хоць бацькі яму—нашы лясы.

А ў Паддубнага голас грукоча
(гаркне—хіліцца долу трава!),
ды арлíныя зоркія вочы,
ды ад шашкі пісяг праз твар.

А ў Паддубнага сэрца суровае—
ці памерці, ці жыць—усё адно,
але цепліць агеньчыкам зоравым
загрубелай душы яго дно...

І вось-вось з-пад навіслых скроняў
праліецца такое сьвятло,
што здаецца і людзі і коні
рынуць ўраз у атаку, ў галёп...
Конь пад ім—кроў гарачая грае
шыя выгнута—сам вараны...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ехаў, ехаў Паддубны з атрадам
праз палі ды сваёй стараны...

— „Ыэх! жыцьцё! ды рразвайсковывае нныша!..
„Ні граша ды не каштуе галава!
„Шэрая шынэлька ды шашка,
„Конь ды разьвясёлая братва!..

— Засьпявай, Сергіенка, песьню
пра „Вкраіну“ сваю і „Дніпро“,
каб ў грудзёх стала сэрцу цесна,
каб жарчэй закіпела кроў!
Сып, брацішка, такую песьню!

Ды грымяць па шашы падковы,
ды разносіцца песьня ў палёх,
ды схілілі прысады галовы,
ды туман над абшарамі лёг...

III

Надыходзіла ноч,
непраглядная ноч.
Паўставалі лясы,
паўставалі сьцяной

І таемна чагосьці
шумяць ды шумяць.
Штось задумаўся раптам
камполк нездарма,
Ды паводзьдзі
на грыву каня апусьціў
І схіліў галаву
і ў раздум'і прыціх...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ой, думы, думы! Мілавіцай
яны запаляцца падчас—
бяз сну далёкае прысьніцца,
спакой парушыўшы ураз:
— Дзе вы, палескія дубровы,—
прытулак даўняе журбы?
Там пад гамонку слоў хваёвых
пазнаў суровай праўды быль.
Пазнаў там крыўду і зьнявагу,
там пазнаёміўся з тугой,
што пад мужычаю сярмягай
расла трывогай агнявой...
Пазнаў... І прэч пашоў адгэтуль
праз зьлітыя сьлязьмі палі,
каб, захаваўшы крыўду гэту,
ў змаганьне сілы пераліць...
Ішлі гады... Ў другім імкненьні
Другі адкрыўся далягляд
праз барыкаднае хрышчэньне,
праз шлях змаганьня, цяжкі шлях...
...Гарэў агнямі Піцер ноччу,
трывога нішчыла спакой,
як ён—пуцілаўскі рабочы,
з другімі йшоў на Перакоп...
...І вось ізноў палі радзімы,
ізноў журлівыя лясы
ў баёх, у порахавым дыме
вітаў узрадаваны сын...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А лясы ўсё шумяць,
а лясы ўсё шумяць
І канца ім няма,
і спакою няма...
Толькі часам
прыціхнуць на момант лясы,

Пракрычыць калі раптам
у цемразі сыч,
Палахліва шарахнуцца
коні ў бакі,
Схамянуцца ў сёдлах
тады вяршакі...
Ды ізноў,
ды ізноў
чорнакрылая ноч,
І лясы навакол —
непрагляднай сьцяной...
А Паддубны задумны
ад думы цяжкой,
Закрадаецца нібы
ў душу непакой...
І тады
з вараным
побач стаў белы конь,
І камполку сказаў
малады ваенком:
— Хоць і цемра вакол,
толькі бачу, бы ўдзень,
Штосьці хіліш
сваю галаву да грудзей...
Ты скажы мне, таварыш,
ад думы якой
Загубіў ты, здаецца,
сягоньня спакой?
Зажурыўся ты мажа
па дому й сям'і,
Ці красуня засела
у сэрцы тваім?
І задумна камполк
ваенкому сказаў:
— Не, таварыш,
ня мне азірацца назад.
Абмінула,
ня знаю, калі і кудой
Мяне ў годы цяжкія
мая маладосьць,
І ня засьціць мне вочы
каханьня туман,
І ў спакоі душа,
і красуні няма...

Але вось
(схамянуўся Паддубны ў сядле):
Бачыш чорны вакол
і задумлівы лес;
Сколькі дрэваў у ім,
сколькі сосен ў ім,
Столькі злыдняў
над краем маім і тваім.
Чорнай зграяй ідуць
бяз пуцін і дарог,
А за імі пажары,
і сьлёзы,
і кроў.
Бачыш?
зоркі над намі...
гарыць іх касьцёр —
Гэта сьлёзы
удоў,
і сірот,
і сясьцёр...
Чуеш?
сыч пракрычаў
у гушчары лясным—
Гэта маці рыдае
па сыне сваім...
Ад таго—
я маўчу,
Ад таго—
сам ня свой,
Ад таго—
абліваецца сэрца крывёй
І нянавісьць гарыць,
залівае душу,
Я пад сэрцам яе,
як атруту нашу...
І для ворага
літасьці ў сэрцы няма,
Будзь ён бацька,
ці брат,
ці матуля сама.
І як просты баец,
як адданы салдат,
За сваю рэволюцыю
ўсё я аддам...

І ў раздум'і
задумны Паддубны заціх,
І такая раптоўна
зрабілася ціш.
К вараному бліжэй
тады стаў белы конь,
І камполку паціснуў
руку ваенком...

IV

Вораг, вораг са ўсіх бакоў,
нібы воранаў чорная зграя.
Вораг злосны нясе для краю
вянок з ланцугоў,

З-пад Варшавы палкі ідуць,
з-пад Варшавы ідуць легіёны
і нясуцца сьмяротныя сконы
у туманную муць...

З-пад Варшавы скачуць уланы
на Барысаў, на Менск, на Бабруйск,
каб на шыі з пятлёй Беларусь
зноў схілілася пану...

А з-пад шатаў палескіх дуброў,
пад надзейнай лясною аховай
выпаўзае з нажом Балаховіч
бандытам вялікіх дарог.

— Трывога!
Трывога!
Трывога! —
з канца ў канец зьвініць.
— Мільёны, ў дарогу!
Мільёны, ў дарогу!
Мільёны, ў дарогу!—
Край бараніць!
І ўстае за грамадай грамада
і грымыць ад палка да палка
— „Умере!..—умереть мы будем рады
С красным зна-а-мене-ем в руках“...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не забудзем мы гэта ніколі,
калі несьлі ў ахвяру жыцьцё й маладосьць,
і рыдаў па асеньняму дождж
над здратованым полем...

V

А ў той час,
як з Паддубным імчаўся атрад,
ад камдыва прышоў
нечаканы загад:
„На захад ад Нёмну, у раёне Азерцаў
апэруе з вялікаю бандай Каршун,
а таму вам належыць зьмяніць маршрут
і зьніштожыць банду на месцы“.

VI

Каршун, Каршун, ці не даволі
гуляць з ліхою галавой?
Ці не даволі ў наскім полі
спраўляць крывавое жніво?

Ці для таго табе бацькамі
былі палескія лясы,
каб ты за пазухаю камень
і востры нож для іх насіў?

Каб галасілі нашы сёстры?
Бацькі аплаквалі сыноў?
Ты на каго сягоньня вострыш
душы прытупленае нож?

Успомні, як вісла хмарай
чорнай пагрозы імжа;
атрад упродкамісара
у вёску тады прыяжджаў.
Бо—голад па ўсёй краіне,
бо—вораг са ўсіх бакоў...
Ты-ж хаваўся тады за сьпіны
прытуліўшых цябе кулакоў...
А яны зачынілі клеці
і з абрэзаў з куткоў ураз
быў дачыста з дарогі зьмецен
упродкамісараў атрад...
Ты пад дудку кулацкай зграі
па лясох тады загуляў
і журылася
маці сырая
зямля.

Дрыжы, Каршун! Адпомсьцяць люта
браты загубленых табой
за кроў, за зьдзекі, за пакуты,
за край, атулены журбой.

Бо над тваёю галавою
расплату грозна носіць ноч...
Каршун, Каршун, ці не даволі
тачыць крывавай здрады нож?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Але дарэмныя дакоры,
хваёвых слоў дарэмны шум—
як толькі ўслалі неба зоры,
тады устаў бандыт Каршун.

І рэхам паўтарылі хвоі
магутны крык з яго грудзей:
— Гэй, малайцы, хутчэй да зброі!
— Гэй, малайцы, сядлай каней!

— Даўно чакае нас здабыча,
— Даўно ізноў сьвярбіць рука!
— Там будуць дзеўкі й маладзіцы
— І самагонная рака!..

VII

І бачу:
скрозь цемру,
скрозь ветравы шум
са зграяй бандытаў
імчыцца Каршун...
І чую:
капытнага грукату град—
з Паддубным імчыцца
дарогай атрад.

VIII

Даўно мінулі лес пануры,
замоўклі коньнікі даўно...
Нічога ў полі ня відно,
і цішыня вакол пануе...

Стаяць задумна пад гарой
бярозкі—белыя паненкі...
Больш не сьпявае Сяргіенка
пра Украіну і Дняпро...

І раптам сталі коні ўраз,
устаў Паддубны ў страмёнах,
да воч прыставіўшы далоні,
зірнуў...
...займаецца зара...

Але ад гэнае зары
паўнеба раптам занялося:
здалёку з ветрам даняслося:
Шалёны лямант, стрэлы, крык...

— Пажар!—
прашалясьцела скрозь
і адгукнулася:
— Бандыты!
Крутнуў Паддубны вус сярдзіты:
— Ра-азьведчыкі!!!—ўпярррод!!!

Пяцёра выехала іх,
ды Сергіенка—аддзялённы
і паскакалі ў змрок халодны,
і стук падкоў у цемры сьціх...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Атрад сяло ўжо абкружаў,
а не вяртаўся Сергіенка.
Расла трывога... Рос пажар,
шалёны лямант, крык і енкі...

І раптам коньнік прыскакаў
і ўпаў з сядла каню пад ногі.
— Хутчэй... хутчэй... на дапамогу...—
Прамовіў і... сканаў...

Тады навалаю—наўскач.
Бліжэй, бліжэй агонь і лямант...
Рыдаў надрыўна над палямі
праклён і плач...

Ужо абкружана сяло,
ужо навокал грук капытны,
але...—
ніводнага бандыта,
Як быццам іх і ня было...

І толькі ўехалі ў сяло,—
каля садка на павароце
вісеў задушаны пятлёй
труп Сергіенкі на варотах...

І супыніўся камандзір,
і зьлез з каня і шапку скінуў:
— Яшчэ таварыш наш адзін...
таварыш слаўны наш загінуў...

І прэч ад'ехаў ад варот,
і ў вус скацілася сьлязінка:
— Ня ўбачыш любай Украіны...
— Не засьпяваеш пра Дняпро...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А там, далей, за Беларусь,
дзе стэп ды белыя хацінкі,
заплача горка украінка,
як выйдзе скардзіцца Дняпру...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

IX

Пагоня,
пагоня!
— Ні кроку назад!
стаміліся коні,
стаміўся атрад...

На Нёман!
На Нёман!
дарога адна:
разьбіць каля Нёмну,
разьбіць Каршуна.

Хай стукаюць сэрцы!
Хай вочы гараць!
Навалаю сьмерці
імчыцца атрад.

X

На захадзе наскай радзімы,
дзе болем у сэрцы мяжа,
гарэў халаджава і дзіўна
зары журавінны пажар...

На захадзе любай айчыны,
дзе горкаю крыўдай мяжа,
як сумная песьня дзяўчыны,
сьпеў ветру надрыўна дрыжаў...

На захадзе роднага краю,
дзе ранай балючай мяжа,
пажарамі дні адгаралі,
адзетыя ў смутак і жаль...

Там слаўся туман па палянках,
як дзіўна расшыты абрус,
і русаю паланянкай
там плакала Беларусь...

Там Нёман павольны і шумны
спрадвеку сьпявае адно.
Там зорныя вочы задумна
ўглядаюцца ў чорнае дно...

І людзі прышлі...
разарвалі
грудзі Нёмну крывавай рукой,
і шпаркія цёмныя хвалі
зьмяшалі з гарачай крывёй...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Сюды, на маўклівы бераг,
Каршун ад пагоні ўцякаў.
Загнаным, затраўленым зьверам
зірнуў навакол і стаў.

— Гэй, хлопцы, усе к атаману!—
вам слова жадае сказаць.
Гэй, хлопцы, усе к атаману!
— Ў бога—душу яго!..
— Маўчаць!

КАРШУН:

Нам болей няма дарогі,
усюды чырвоная сволач!
А ўранку тут будзе падмогай
сам Балаховіч!
І так—
трымацца да раньня!

ГАЛАСЫ:

— Растуды тваю, атамане!..
— Нас ў пастку завёў нашто?

КАРШУН:

Хто сказаў пра здраду? Стой!
Хто сказаў?
Выходзь—пагаворым!

ГАЛАСЫ:

Не сярдуй, атамане...

КАРШУН:

Сорам!
Хто ахвоч да чырвонай шашкі?
Хто жадае жыцьцё разьмяняць?
Бражка,
Заўтра гуляць!
А сягоньня біцца!

ГАЛАСЫ:

Урра! атамане!

КАРШУН:

І так—
Трымацца да раньня!

XI

Калі ветрам павеяла з Нёмну,
ў страмёнах Паддубны ўстаў,
і тады прыпыніліся коні,
і Паддубны сказаў:
— Таррышы Ччранармейцы!
Блізка вораг закляты наш.
Рэвалюцыі грознае сэрца
б'ецца трывожна за нас...
А за намі нашыя сёстры,
а за намі бацькі і браты
заклікаюць да грознае помсты,
за руіны за кроў,
за тых,
што злажылі пад шашкай галовы
на франтох пад асеньні шум,
што па наскіх пушчах хваёвых
панавешаў бандыт Каршун.
Нас чакае закляты вораг,
нам дарогі няма назад!
Дык да бою!
Да бою!
Бадзёрай!
Рэволюцыі кліча загад.

ЧЫРВОНААРМЕЙЦЫ:

...Нам дарогі няма назад—
рэвалюцыі споўнім загад!

ПАДДУБНЫ:

На каней!
На каней!
Да бою!
Усё зьмяцём гураганам ліхім!
альбо ў Нёмане коняй напоім,
альбо голавы зложым над ім!

ЧЫРВОНААРМЕЙЦЫ:

Альбо ў Нёмане коняй напоім,
альбо голавы зложым над ім!

XII

Цішыня навакол, цішыня...
Ноч асеньняя і халодная...
Паплавы затаптаныя сьняць
штосьці любае, штосьці роднае...

Ўсё адно ім, што ўстане дзень
расстраляны і пакалечаны,
што расою на іх падзе
кроў гарачая, чалавечая...

Цішыня навакол, цішыня...
Ноч асеньняя і халодная...
Паплавы затаптаныя сьняць
штосьці любае, штосьці роднае...

Але толькі дзень ноч сустрэў,
толькі цемразь крыху пашарэла,
прагрымеў нечакана стрэл,
адгукнуўшыся сотняю стрэлаў...

Тады з кустоў са ўсіх бакоў
пасыпаліся часта стрэлы...
І зьнікла ноч, туман, спакой,
і людзі азьвярэлі...
І слаўся дым пад паплавамі,
і слаўся перастрэлкі гром...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

А людзі падалі снапамі,
расою пала кроў...

А людзі па траве паўзьлі
і грызьлі дол ў апошніх сконах.
І вось над Нёмнам паплылі
праклящьці, крыкі, стогны...

— Загад рэволюцыі
кліча ісьці!—
Наперад!
Наперад!
Наперад, байцы!

Наперад!
            Наперад!
Ні кроку назад!
— Ў атаку!
            ў атаку!—
па ўзводах загад.

І рынулі грозна,
як бура,
як сьмерч.
Нябачна над полем
пранеслася сьмерць.
Крывёю чырвонай
зямля гарыць,
глытае праклёны
і стогны
і хрып...

. . . . . . . . . . . . . .

І з флангаў раптоўна
навалай ліхой
рынула коньніца,
рынула ў бой.
У буру,
у крыкі,
ў атаку,
ў агонь
імчыцца
            адзін
                  за адным
                        эскадрон...

І бачыць Паддубны,
нібы гураган
імчыцца па полі

Каршун-атаман
У чорнай папасе
на белым кані,
і чорная зграя
імчыцца за ім.
І грымнуў Паддубны:
— Гэй, хлопцы, за мной!
і шашка крывая
бліснула агнём...
Наехаў на белага
конь вараны.
Дзьве шашкі скрыжованы,
ў вочах агні.
Дзьве шашкі мільгаюць,
дзьве шашкі блішчаць.
Камусь не насіць
галавы на плячах...
Дзьве шашкі мільгаюць,
дзьве шашкі гараць...
І раптам спыніліся
коньнікі ўраз.
Прарэзьлівы крык—
ў ім туга і адчай,—
над полем крывавым
тады прагучаў.

. . . . . . . . . . . .

І воч не падняўшы,
прамовіў тады
старэйшаму брату
бандыт малады:
— Ну, што-ж, перамог ты,
прапаў атаман...—
і шашку сваю
ў руках паламаў.
І глуха прамовіў
Паддубны ў адказ:
— Навек разьвітацца
настаў нам час.
За контру,
пагромы,
за ганьбу,
за кроў,
за сьмерць тваіх сёстраў,
за сьмерці братоў

няма табе літасьці
ні перад кім,
ганебна загінеш
ад братняй рукі...

. . . . . . . . . . . .

І камнем на сэрцы
ліхая туга
скрываўленай ценьню
жахліва лягла.

І Нёман спакойны
быў сьведкай, калі
крывавыя хвалі
кругамі плылі...

. . . . . . . . . . .

XIII

Ну, вось і канец... Дасказана
аповесьць суровых часін.
Загоены цяжкія раны,
Разьвеены пыл успамінаў...

Так. Гэта мы век не забудзем,
калі несьлі ў ахвяру жыцьцё й маладосьць,
і крывавіў шрапнэльны дождж
краіны стамлёнае грудзі.

І калі скрозь рыданьні й сьмех
мы ішлі затаптаным полем
скрозь пажары, пакуты і сьмерць
з незаплямленым сьцягам волі.

Каб на нашай стамлёнай зямлі
Па інакшаму дні цьвілі.

Кастрычнік
Менск, 1929 г,

# МЕЖЫ *)

*Аповесьць*

**Сымон Баранаў**

## VIII

Анісь не праслужыў бяз нечага паўтара гады ў царскай і чатырох з паловаю гадоў у Чырвонай. Неяк у жніво праводзячы ў царскую, маці яго прыказвала:

— А мая-ж ты кра-асачка...

— А мой-жа ты ка-а-сачык... А на каго-ж ты на-а-ас пакі-да-э-эеш...

Але ніхто ня браў пад увагу, што гаварыла баба. Каму які быў клопат? У кожнага быў свой клопат.

Анісь папаў у артылерыю. У Петрапаўлаўскую крэпасьць. Там вось і захапіла яго сьвежая навала. Не зразумеў, што такое, калі пачуў слова „рэволюцыя". Па-сваему зразумеў. Быў дзяжурным па кухні, як сказалі. Прыбег на кухню Кавалёў і паведаміў:

— Рэволюцыя... Чаго ты дрэмлеш, разьвесіўшы нюні. Рэволюцыя... дзем.

— Куды ідзе?—устаў з табурэткі. Але выбег Кавалёў, не адказаўшы: мусіць, не пачуў яго запытаньня. А ён думаў, стоячы пасярод кухні... Апраўляў шынэль на сабе. Паправіў гівер шапкі і думаў:

— Сюды мо', на кухню зойдзе... Мо' рапарт прыдзецца аддаваць ёй... Сваячка мо' камандзіра... ці так якісь лысы чорт. Мала іх тут швэндаецца...

Яшчэ, як дома быў—злосьць разьбірала Аніся. Даўно вастрыў зубы, а ня ведаў на каго. Ёкала нешта ў нутры, хацелася гаварыць нешта, а ня ўмеў.

— Чаму яно так на сьвеце,—разважаў часьцяком,—аднаму аж па горла, а другому ані ў зуб? Што-ж ён другі—каторы залепшы? Ці хіба ў яго два трыбухі? Ці хіба ў яго дзьве галавы, два раты?—А тое, што і мне, і дзесятаму, і кожнаму хочацца лепей каб яно ў жыцьці, дык аб гэтым нават нямаш ані якой гавэнды?—Дык як-жа гэта яно: хто вінаваты ў гэтым?

Але не знаходзіў адказу. Ніхто ня мог растлумачыць. Таму і не зразумеў слова „рэволюцыя" ад першага разу. Бо вельмі абыраў цераз меру. Думаў—так трэба мусіць. Мусіць на гэтым сьвет пабудаваны.

---

*) Пачатак гл. „Полымя" № 10.

Але... зразумеў незразумелае. Во, як пакахаў раней незнаёмае. Убачыў чырвань, кінуўся напралом. Нутром адчуў нешта ў гэтым сымбалю. Роднае нешта, сваё ўбачыў. Адчуў братнюю кроў... усё прасмоктанае кроўю. Родную кроўю такіх, як сам. Дык дзіва што будзеш любіць..· адразу ўзьлюбіў чырвоныя штандары. Дзіва што... магнэсам будзе цябе цягнуць. Ты толькі прыслухайся і ўспомні... Успомні і ўбачыш... кожны крок прошлага ў крывавай расе.

...Мілыя мае, дарагія мае, чырвоныя штандары!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Раніла пад Брэстам, але нічавусенькі. Ведаў, за каго рана. А тады зусім іначай, калі ведаеш. Тады радасьць заглушае найбольшы боль. Бо ты ведаеш тады, што тваю рану будуць памятаваць. Таму і не так боль у сэрцы.

Прыйшоў да дому, калі наўкол найбольшыя ўціхлі буры. Застаў шмат непарадку ў гаспадарцы. Маткі не застаў. Жонка не змагла, не хапіла сілы—апусьціла гаспадарку. Адна з сваімі малымі дзецьмі.

Узяўся з новым уздымам, з новым запалам. Не хапала хлеба, да хлеба, а неяк ня чулася голаду. Прывык шмат чаго пераносіць, будучы ў службе. Разумеў, што іначай нельга. Добра запамятаваў словы палітрука. Часта марыў, кладучыся спаць:

— Разам... што значыць разам!

— Гуртам і палец прылажыўшы зрушыш сто пудоў!

— Адзін—што капля ў моры.

— Супроць гурту нішто на сьвеце не ўстаіць.

Увесь час трымаў думкі:

— Прыду да дому і раскажу тое, чаго ня ведаюць... А там яны ў глушы гэтай—ня ведаюць.

Вясёлы сьмех праймаў. Як дзіця, радаваўся, песьціў думку.

А дома,—не зразумелі. На сьмех паднялі бродаўцы, калі загаварыў пра жыцьцё гуртом, пра камуну. Спрабаваў усё сваё разуменьне выкажыць. Во, як хацеў, даказваў. На сям'і пчол даказваў:

— Паглядзеце, як дружна, ахвотна працуюць,—казаў,—паглядзеце колькі астачы ад іх сумеснай працы. І яны, гэтыя, маленькія стварэньні... А вы-ж ткі—людзі...

А яму:

— Што ты, чалавеча, чаўпеш...

— Нашы бацькі век пражылі самі па сабе...

Вельмі-ж на непадзеленых надзелах:

— Цяпер парабком ёсьць прытулак. Ня будзе каторы-другі пухнуць з галадэчы. А ня будзе гаспадароў, дзе дзенецца гэтая галеча?

Карпусь аж пырскаў сьлінаю:

— Усіх хочаш парабкамі зрабіць. Дык тады-ж красьці ня будзе ў каго—з голаду пачэзнуць.

Анісь гіранічна сьмяяўся:

— А і гэта ўжо даброˑ добра што вывядуцца зладзеі.

Карпусь аж цямнеў ад злосьці, не знаходзячы слоў. Анісь не пакідаў свайго: не адыходзіў ані на крок. Ён хацеў знайсьці хоць аднаго, хоць двух—пакуль што—чалавек. Хацеў от гэтакі маленькі распачаць калектыўчык. Каб паказаць, каб даказаць сваё. Ён гаварыў, тлумачыў кожнаму, як разумеў.

— Ты каторы, кожны адзін,—казаў Анісь,—павінен мець плуг, барану, каня, атосу, аглаблю... Табе, катораму, другому ўсё гэта патрэбна мець—нажываць. На ўсё патрэбна праца і грошы. А гуртам не патрэбна будзе табе, трэцяму-чацьвертаму, катораму, мець трыццаць плугоў, трыццаць чалавек, кабісьці за імі. Адзін трактар з адным чалавекам усю ўскоціць аблогу ўраз... рассыпле скібу. Вось што! А гэтых дваццаць дзевяць чалавек другую якую будуць рабіць работу. Таму яно і лягчэй на столькі-то, ось будзе!

Цяжка, ой як цяжка было зрушыць з мейсца! Шмат мяшалі з непадзеленых надзелаў. Але... скрануў такі. Пачаў перш ціха, а потым што раз—мацней і мацней хістаць маятнік забруджанага вякамі гадзіньніка.

У прошлую нядзелю, перад сходам гэта за дзень, каля Міхалкавай хаты на лаўцы вось што гаманілі:

— Усамдзеле:—каб узяў, як кажа гэты Анісь, запісаўся, далучыўся адзін да другога?..

— А жытла-б яно ня ведала?

— Усё-ж-ткі чалавек дзе-кольвек пабываў:—выцерся. Так што, ня тое што—шалду-балду.

— І яно, калі раздумацца,—гутарыць да ладу.

— Аб тым-жа,—што не паказвае на ўзьвей-вецер.

Плячасты Васіль, цёнгле ходзячы босы, ад чаго ступні ног яго падаліся ва ўсе бакі раўнамерна, з цёнгле сур'ёзным тварам, па якім рассаджана рэдкае рыжае шчаціньне,—стаяў, глядзеў на мужчын вострымі вачыма, раз-по-разу сплёўваў, неяк мудра спрунжынячы верхнюю губу, і казаў:

— Адважыцца трудна. Нашаму брату дай! Дай, каб ён табе рукамі абмацаў, вачыма каб агледзеў. І то—ён знойдзе табе прычыну. Прывычка нашага брата, па-маему, заразае. Ён калі ўляпіць у што, дык як...

— Ты, Васіль, праўду кажаш.

А нізкарослы такі, дробны ў твары, з падстрыжанаю рыжа-сіваватаю бародкаю—Лявон Махавік, чалавек найсправядлівы ў Бродзе, чалавек, якому кожны бродавец пазычыць абы што, бо аддасьць Лявон точ-у-точ, як скажа, ня прыдзецца хадзіць—чалавек Лявон Махавік, выпускаючы з-пад цыбука люлькі сінія стружкі дыму, жмурачы свае маленькія шэрыя вочкі, перапыніў суседа:

— Ото-ж-бок-то!—Ты, Васіль, ета, не памыліўся. Мне ета, здаецца, як, ета, я маю тую бацькаўскую зямельку злучу з, ета, нейчаю, чужою?

Мне, ета, думаецца—грэх, ета нават. Ты ета, ведаеш, што, ета, мая тая палоска, мая тая мяжа. Дык як успамянеш—як-жа, ета, тады нават і сьледу не застанецца—ня знойдзеш, ня ўбачыш сваёй роднай зямелькі! Васіль, ета, праўду кажа:—прывычка.

Лявона перапыніў бродаўскі каваль Атрахім Апалонік. Цёнгле з неадмытым тварам, з чорнаю пудраю на твары—нібы і нарадзіўся такім, злажыўшы вітым канатам на грудзёх рукі, з роўнаю вытрымкаю стоячы, чмыхаючы раз-по-разу к сабе ў нос,—казаў:

— Уся наша бяда ў гэтым. Каб знайшоўся хто другі, трэці... Каб адважыўся, дык і пятага катарага-б зайздрасьць узяла. Тут галоўнае—пачаць. Надысь я езьдзіў па вугальле ў Гуту, дык там з'арганізавалася неяк па-за летась, вясною 'шчэ, комуна з сараку гаспадароў... Дык каб бачылі, як дружна ў іх: усёроўна, як і адна сям'я, як адна, тая самая гаспадарка, казаў мне тамашні чалавек.—Пане мой, і быдла тое і коні—як ліны, казаў. Насеялі ў адным полі канюшыны-дзятліку і распасваюць сабе. Трахтар набылі...

Дагэтуль маўчаўшы Яўгень сказаў:

— Дык дзіва, што будуць распасваць.

Ї ўзяўшы свой нос у два пальцы, папнуўшыся і ўзмахнуўшы рукою, а потым патрымаўшыся за штаны гэтымі самымі пальцамі, нібы памацаўшы іх засмуголеную якасьць, Яўгень казаў:

— Дык вось і жывуць людзі. Ня гэтак, як мы—з прывычкаю цацкаемся. Гэта што мой бацька такі, гэта што я пакуль што не хачу яму ісьці наперакор, а то далібог-бы хоць сёньня згодзен у гурт!

— Усамдзеле,—адставіўшы руку і застыўша трымаючы яе,—як той Анісь, казаў:—даволі-б яно таптацца нам на адным месцы. Вось яно што!

IX

У той вечар, калі Яўгень быў на сходзе, старому Пракопу ня спалася. Рана лёг, а сон зьбягае, як вада з гусінага пер'я. Мо' таму (хоць і не перашкаджала гэта ніколі Пракопу), што ў Макрыны былі Гэлька з Аньцяю. Яны прышлі крыху пасядзець з Макрынаю, каб работа ішла ня так надакучліва. Гэлька, Лявонава дачка, рабіла парцяную панчоху—дарабляла пяту, а Аньця шыла. Макрына дапрадала ў гэты вечар кужаль: не хапіла на цэлую губку [1]) на аўток. Гэлька запыталася ў Пракопа:

— Ці мы дзядзьку не памяшаем спаць, калі запяём?

— Пейце сабе, дзяўчаткі,—адказаў стары.—Яшчэ і лепей: пад песьню спацца будзе.

Ї Аньця з Гэлькаю запелі:

У лясочку ды на верасочку,
    Вясна красна на дварэ!
Там хлопчычак ды каня пасе,
    Вясна красна на дварэ!

---

[1]) Губка—мера асновы, пражы,—даўжынёю на звычайную сялянскую хатнюю сьцяну.

Макрына, насьлініўшы кужэльную нітку, далучылася да голасу дзяўчат:

Дзевачка яму ды абедаць нясе,
Вясна красна на дварэ!

Яны сядзелі каля комінку. Макрына падкладала раз-па-разу смалякі. Смалякі тлелі. Смольныя былі, але сырыя—таму і тлелі. Макрына часамі ўзьдзьмухвала, каб гарэлі ярчэй. Іскры зрываліся, калі дзьмухала. Тракоп тады парушаў свой спакой:

— Ня дзьмі ты гэтак, нябож! Асьцярожна... Можа загарэцца сажа.

І зноў пелі дзяўчаты. Другую песьню пелі. І Пракоп чуў, лежачы, тонкі чысты голас Гэлькі. Аньця падхватвала гатовы голас, нібы на далоні на свае, і несла ўгару—высока, высока. А Гэлька цягнула раўнамерна, пералівала чыстым дрыжачым срэбрам:

. . . . . . . . . . . . . .
Вой-да ты ня стой, ня стой
На гары крутой!
Гэй-да ня кідай гальля
Ў мора сі-ыня-е.
Гэй па мору сі-ыня-му
Карабе-эль плы-ыве.

Падскаквала да Макрыны сьвежая хваля ахвоты, і яна ізноў далучалася, гладзячы тонкую нітку:

Гэй-да карабель плыве,
Аж вада-а раве-э.

Хацелася гаварыць Пракопу, лежачы на ложку, але ленасьць нейкая апаноўвала: не хацелася расчыняць вусны, узьнімаць аблежаўшы на сваім месцы язык.

Ня так-то позна сядзелі дзяўчаты,—Гэлька з Аньцяю. Скончыўшы дарабляць у панчосе „нос“, Гэлька сказала да Аньці:

— Пойдзем, сястрыца.

— Пасядзелі-б, дзевачкі,—паспрабавала затрымліваць Макрына.— Ахватней-бы шпуля дапралася.

Але ўсё-ж такі пайшлі: бо ні так, ні сяк сядзець без работы, злажыўшы рукі. Гэлька сказала:

— Заўтра больш работы будзе, больш пасядзім: буду шыць каптан мамцы.

Пракоп запытаўся і раптоўна для сябе:

— Як цяпер—дарагі гэтыя каптаны?

— Па трыццаць дзевяць за мэтру.

— Даўней, бывала, ня зналі,—сказаў Пракоп,—ні гэтае мэтры, ні гэтых, табе, набораў.

Калі пайшлі дзяўчаты, Макрына адна дапрадала шпулю. У хаце было горача. Нейкая тугая, сьціснутая была духата.

Пракоп адкрыў да пояса суконную коўдру. Расхрыстаў грудзіну, падлажыў пад галаву рукі роўнамерна локцямі ў бакі, ляжаў дагары і глядзеў, як спрытна сморгала з кужэльнае барады чыстае, бліскучае валакно.

І аніяк от не хацелася спаць старому. Нейкая ўздрыгваючая бадзёрасьць перабягала па жылах. Глядзеў сьвежымі вачыма—далёка быў, далёка ад дрымоты. А ў думках вярзлося нешта неакрэсьленае, няпоўнае. Пра адно думаў, як не канчаў—другое несьлі думкі, распавівалі прынёсшы, клалі перад вачыма, як на далоні. Не пасьпяваў агледзецца-асвоіцца, пятае, чацьвертае несьлі на зьмену трэцяму. І от гэтак кішэлі, тармазіліся без адхланьня, бяз формы.

— Ці пазаганялі ўсё хаця... ці пазапіралі,—набрыла старому думка і зышла галосна да Макрыны. Бо канешна—ніколі ня было таго ў Пракопа, каб незагнанаю ў хлеў засталася жывёла. У Тадэвуша гэта бывае так. Заганяюць, бывае, дзеці. Дык што яму, дзіцяці? Абы скарэй яму, каб загнаць, каб заперці. І заганяюць і так:—цэлую ноч брэнгаюць па вуліцы і дзе ні папала рохкаюць па чужых дварох незагнаныя парасяты.

— Чаму гэта прышло вам у галаву?—сказала Макрына, кінула на старога свой зірк.—Пазаганялі. Яўгень-жа заганяў.

— Мне пачулася,—сказаў стары,—здаецца, рохнуў наш падсьвінак на дварэ.

А Макрына цяпер у сваіх думках:—На памяць прышло тое... Тады што было ў андрыне, як рэзалі сечку... Не зьлякнулася цяпер, а так толькі, нібы рабінавы холад прабег па целе.

— Брр!

Памысьліла, адышла ў думцы назад: „Чаму не сказала Яўгеню?“—не знаходзіла адказу, ня ведала чаму. „Не сказала от. Так от не сказала“.—„Не магла знайсьці тое, на што-б абаперціся.—„Чаму не сказала“. А было яно недзе вельмі далёка, далёка, неакрэсьленае, незразумелае, бесьсьвядомае. Таму мо' і не сказала, што не змагла дастаць з глыбіні пачуцьця. А мо' так... так от проста не хацела сказаць: каб сваркі ня было ці чаго?—Хоць Яўгень і ціхі і спакойны...

І моцна круціла лісіцу [1]), пускала скручаную нітку ў дзірку шпня, на зубы вілачак, на шпулю.

Па куткох мітусіліся цені. Карабаціліся, гнуліся, расплываліся ў тонкі неаформлены пласт, моргалі ў тахт тлеючым смаляком.

А ў корбе пішчэла нешта. Пры кожным звароце кола, на пэўным месцы—цыліхкала нешта, пішчэла.

— Падлажыла б ты здору, каб не скігітала яно,—сказаў Пракоп.— А то псуецца шпень... аж у вушшу закладае—рэжа. Ды клалася-б ужо: заўтра раней, гэнам, устала-б...

Нічога не сказала.

Пачала дзьмухаць прытухшыя смалякі—саусім стушыла. Тлеў, выскаліўшы чырвоныя дзясны, жар. Ішоў, віўся дым цэлымі густымі пасмам чэсаных плоскуняў.

[1]) Лісіца—дзеравяная дошчачка з прарэзанаю дзіркаю, у якую прадзета корба для перадачы.

Яшчэ і яшчэ дзьмухнула: загарэліся смалякі, лупнуў разам агонь.

— Кладзіся, кажу, а то не гарацьь: сырыя. Казаў Яўгеню, каб насек загадзе: ня дзьмухалася-б цяпер.

— От дапраду зубок...—глянула на шпулю, пачала цісну́ць нагою на падножак.

А стары—ужо ў сьвежых узьвівах дум:

— ...было, як быў маладым. Ні плоту, як кажуць, ні замёту. Усё было пад маімі нагамі. Дзе „Воўчая Града"—дзесяць вёрст, а дапінаў. Дзяўчаты-зводніцы...

Ізноў патухлі смалякі. Макрына пакінула прасьці. Пайшла да свайго ложка. Пачала разьдзявацца, класьціся.

А Пракоп:

— У Пагуляйцы ўсе дзяўчаты ведалі Пракопа. Алеся... Прыдзеш, бывала а, сабакі—каб іх воўк павыразаў—як зьвяры. Так і мяркуй, каб абыйсьці, каб не пачулі. Супроць ветру, бывала, заходзіш. А так—воўчае мяса—шчуюць, як ня ідзі ціха, а шчуюць... Дзе ні павернешся, усюды поўна... Ах, каб цябе агонь!..

І што больш успамінаў, больш захапляў яго малады пыл. Шыбчэй бегала па жылах кроў. Загарваліся і беглі па жылах маладыя іскры. Будзілі, баламуцілі, падбівалі стары імпэт. Маладзілі, бадзёрылі, крынічылі іскры. Расьлі, разрасталіся, поўнілі старое цела.

А калі адплюшчыў вочы, было цёмна. Захапіўся так, што ня чуў, калі лягла Макрына. Нейкая млявасьць ахапіла, апавіла старога. Успомніў пацалунак у андрыне... яе вабныя смуглявыя бровы, яе зьвіслую пасму валасоў. Шчокі—ружовыя, запаленыя, як бурнэлька, дробненькім агоньчыкам...

Яшчэ раз пракацілася па ўсім целе набрэнкшая, узьнятая, поўная да берагоў, крамяная хваля істомы. Хруснуў суставамі пальцаў, падымаючыся з пасьцелі. Падыйшоў, моцна засопшыся, спацеўшы:

— Макрына...—сказаў скрозь гарачыя ўздрыгі.—Ты ту-ут... Макрынка...—Абмацаў рукамі і—адкінуў коўдру.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...разьвязаўся неяк шнурок джгурыка. Сьцёрся джгурык з голага цела, згубіўся. Пачуў адразу і пачаў шукаць вобмацкам. Шчупаў некалькі хвілін і ня мог знайсьці. Запаліў запалку, забыўшыся на ўсё.

X

На Пракопавым двары цэлы гармідар. Усё раскідана, растрэсена. Не пазнаеш, не разьбярэш, дзе што і да чаго. Усё зрушана, скранёна з мейсца. Старая, даўнейшага фасону, каламашка, і тая зьнята з вышак. Яна зусім збуцьвела і стаяла, як непатрэбная. Шашаль даўно паеў яе, патачыў на дзірачкі з усіх бакоў. Нібы штофер пахадзіў машыноваю іголкаю бяз ніткі, так патачыў, на такія дзірачкі пасьвідраваў шашаль старую каламашку.

А бродаўцы... усе зьбіліся да званьня з панталыгу, з трыбу. Глядзяць адзін на другога і не разумеюць. Моргаюць, гледзячы асавелымі вачыма, і не знаходзяць адказу.

— Мо‘ ты што ведаеш?

— Мо‘ што ты ведаеш?

— Не, ня ведаю...

— І я ня ведаю...

А Юстына, забегшы да Антосіхі:

— Дык Ракоп, як скропіў Яўгеню... дык той і абсеў і абсунуўся. Абсунуўся, паляжаў, а потым усё-ж ачучарыўся. Ачучарыўся дый кажа:— „дзяліцца буду. Не хачу, кажа, з табою, арыштантам, разбойнікам, жыць! (Так і кажа на бацьку: вось мой моцны божа!) Ты, кажа, пад злосьць чалавека можаш зарэзаць“.

— За што-ж ён яго скропіў?

— Ня ведаю.

— Ды як-жа ты чула?

— Так вось і чула... Казалі. Ня будуць-жа яны дзяліцца бяз дайрацы...

А Паладзя, забегшы да Мікалаіхі пазычыць густога рэшата—прасеяць мукі на клёцкі:

— Ці чула-ж ты?

— Не, ня чула...

— Гэта-ж Пракоп жаніцца наюдзіўся...

— Няўжо?

— Дзеліцца з Яўгеням. Сёньня з сельсавету прыехалі дзяліць. От каб цябе даў пан-бог безгалоў‘е якое разьдзяліла!

— А матачкі, дай-жа ты рады: на што-ж гэта яму гэтая жаніцьба? Каб яго ўжо трасца абжаніла! Гэта-ж на людзкі сьмех. Дзеці такія то, пане мой... Жонка дзесяць год, бадай, як памерла.

— Дай-жа ты сьвет. Я-ж кажу...

— Каго-ж хоць бярэ?

— Ня ведаю, залаценькая! Уга—ці мала знойдзецца пачы-немачы Як сабе ні кажы, усё-ж такі частка гаспадаркі. А ці доўга тут яму засталося тае жызьні?—Дык дзіва што знойдзецца... Мала хіба зайздрасьці на чужое дабро?—Матруна можа пайсьці з лапкамі, абы браў. От такбы і пачапілася на ўстрэчнага-папярэчнага...

— Ды ёй што: абы штаны...

— Каб ты цямілася. Псіна гэтая старая...

— Далібог. О, гэтакія бываюць ‘шчэ зьядлымі!

А Пракоп, стоячы на сваім гумне, гледзячы, што ўзяць лепей: ці новую—пятнаццаць на восем—андрыну, ці паддзержаны—трыццаць на дванаццаць—ток, казаў мужчынам:

— Надумаўся от хлопец ні з сяго, ні з таго. З глузду зьехаў. Хто яму не дае жыць? Ці я заганяю яго калі,—крый мяне божа,—крыўджу

ў чым? Жылі-ж дагэтуль, жылі-б і цяпер. Эт, сукін сын... Аніся слухае!

— Бяру андрыну!

І старшыня запісаў андрыну.

Дзялілі па выбару бацькі. Бацька што хацеў з любой палавіны, тое і браў. Усё дзялілі на дзьве часткі. Гіляра ня прымалі ў разон. Таму што ён чацьверты год, як на службе. Яўгень казаў:

— Няхай сабе і на тры часткі: і на Гіляра. Я нічога ня маю супраць.

Але бацька, паглядзеўшы на мяккую натуру сына, раздабрыўся:

— На дзьве! Калі што якое—Гіляр маю частку забярэ. А я—пры ём веку дажыву.

Ніхто нічога не разумеў аб раптоўнай дзяльбе. Чаму такая раптоўнасьць, ад чаго—усе былі зьдзіўлены. Жылі цёнгле ў злагадзе. Яўгень ніколі не сказаў на бацьку нават „ты". Яўгень такі спакойны чалавек. Што, бывала, скажа бацька—сьвята і непарушнасьць. І вось раптоўна такая нечаканасьць.

— Чаму ты наважыў дзяліцца?—пыталі бродаўцы, абступаючы Яўгеня.

— Ён-жа цябе ўзгадаваў,—казала Тэкля.—Але?

А Яўгень маўчаў. Ішоў ззаду бацькі. Глядзеў для прыкляпу, што яму, а што бярэ бацька і маўчаў. Во-во зрывалася нібы штосьці з яго вуснаў: хацеў нешта моцнае, моцнае сказаць і ня мог. Адкашляваўся тады і сплёўваў.

Падзялілі будынак і пачалі дзяліць у хаце розную дробязь.

— Мне гэты маленькі пабяляны чыгунчык, гэнам,—казаў Пракоп.— А ты бяры вялікі аплятаны гаршчок. Ён вельмі вытлушчаны і вельмі добра абваран. Аплецен—як камень, вечны.

— Я вазьму дзежачку:—на мяне аднаго. А табе—вялікая дзяжа.

— Вазьмі сабе складаны нож з касьцянымі тронкамі, а мне будзе з дубоваю калодачкаю, што Атрахім надоечы зрабіў.

— Можаш сабе забіраць абедзьве жакеткі, а мне застанецца кажух. Мне старому—я баюся холаду.

Яўгень доўгім поглядам акінуў бацьку. Сьціснуў зубы і праглынуў сьліну.

Увесь час, пакуль дзялілі на дварэ,—Макрына была ў хаце. Нібы гэтая дзяльба яе і ня тычылася. Усё-роўна, як-бы там на дварэ ўсе сабраліся, каб нешта падняць цяжкое гуртам, каб перасунуць з месца. Яна даўно выпаліла ў печы і паролася, перабірала ў плеценым з лучыны кашэліку. Шукала якога-небудзь, ладнага такі, крамнага кавалка—залатаць локаць у Яўгеневай сіняй рубашцы.

Як увайшлі ў хату, вышла на двор. Ніхто не заўважыў на кабеціну. Усе былі затакованы, замаркочаны клопатам аб дзяліцьбе.

Як выходзіла на двор, сустрэлася на ганку з Ярэмаваю Тэкляю.

— Чаго гэта вы не падзялілі з бацькам? Ён-жа і робіць, колькі можа. Чаго-ж гэта ад яго хацець, як той казаў?

— А мая цётачка,—апусьціўшы разам абедзьве рукі на фартух,—гэта-ж Яўгень... Я яму казала, дык і слухаць ня хоча, нават ані блізка! Дзяліцца, крычыць у адзін зваг, ды годзе! Як прышоў пазаўчора з сходу... (я ўжо такі і моцна заснула), дык як узьеўся, як усхадзіўся—радачкі мала. Проста хоць ты ўцякай з хаты. Я, кажа, ня буду на каго рабіць. Я, кажа, не хачу быць пад чыёю-то камандаю. Ці яму мо' гэты Аніс што начоўп, ці мо' на сходзе—я ня ведаю што.

І, махнуўшы рукою ў пусты вецер:

— Мала што выдумаюць людзі, нагутараць. Слухай толькі людзей

Каб на Тэкліным месцы была Юстына альбо Паладзя, другі-б напрамак узяла гамонка. Яны-б здаўмеліся знайсьці канцы, разблытаць іх, разьвязаць і ўзяць у абедзьве рукі іх, як лейцы, каб кіраваць. Яны-б, гэтыя вядомыя на ўвесь Брод жанчыны, узяўшы кірунак, во-як далёка-б заехалі! Але Тэкля была зусім другою. Яна верыла і не прыбаўляла да таго, хто ёй што гаварыў. Перадавала ў меншай меры, як ёй гаварылі. Самае тое перадавала, што было для яе дзіўным. Перадаючы, любіла бедаваць, чаму яно так, а ня гэтак.

— Я-ж кажу,—казала Тэкля, стоячы каля ганку.—Стары... Адзін стары бацька, і ня могуць ужыцца. Сын?—Вот-бок, божухна-бацюхна, сьвет цяперака пайшоў! Бацька з сынам на нажы ідуць. Сваё тое дзіця... То-ж бок ня было-б крыўды, каб хто чужы...

А ў хаце стары Пракоп, дзелячы, бяручы сабе „абы каторы“ з двох роўнай велічыні зэдлікаў:

— Можа ты, гэнам, сынок, абдумаўся? Няхай, можа, мы будзем разам?

Старшыня Патапчык падхапіў пад гэта:

— І сапраўды, Яўгень: на што гэтае драбленьне гаспадаркі? Мы ж імкнемся такі да каляктыву. Пазаўчора ты-ж быў на сходзе—чуў, што гутарылі? Жылі-б, як той казаў...

Яўгень перабіў і вельмі злосна:

— Бацька... Кажу бацька—маўчы! Ня трэба мяне ўводзіць у злосьць. Я ведаю і ты сам ведаеш, што гэтак ня можа быць! Я не магу, каб яно гэтак было... Чуеш, бацька, чуеш?

Вусны яго пачыналі дрыжэць. Увесь зьбялеў і сьціснуў кулакі. Увесь затросься і заскрыгатаў зубамі. З усяе сілы крыкнуў:

— Заб'ю! Заб'ю сьцерву!.. Заб'ю!—кінуўся скрозь натоўп да стала. Пачаў шукаць вачыма і не знаходзіў.

— Заб'ю! Дзе яна, дзе?

Рынуўся ад стала да парога. Хацеў выбегчы на двор, але ня пусьцілі; стрымаў у парозе Аніс. Каб не падсабіў Тамаш, адзін ня даў-бы рады: да чаго рвануўся з усяе сілы. Удзержылі Яўгеня і пасадзілі на лаве.

...Моцна, моцна ўздрыгваючы, заплакаў:

— Жы-ы-зьня мая, жы-ы-зьня...—цяклі па шчоках салоныя, гарачыя, поўныя, як водыр, кроплі сьлёз.

XI

Анісь сказаў Яўгеню:

— Пераносьць дробныя рэчы ў хату. Больш каштоўнае што—у куфар у камору можна пакласьці. Жонка мая ўладуе дзе што. Перанось.

Адным словам, мы першымі будзем. І ня толькі па сьпіску,—казаў Анісь,—а і на справе. Так што няхай далучаюцца, хто хоча. Будзем жыць, як той казаў. Ня горш за людзей. Будзем працаваць, то будзем і мець. Колькі там таго нашага жыцьця бывае цяперашнім векам, і каб мы, можна сказаць, прасьветлае гадзіны ня бачылі. Адзін, як той вол, будзеш пнуцца, пнуцца цэлы век і ані якога адхланьня ня ўбачыш. А тое, што наша ўлада сойміку кажа лепей, значыць, яно лепей. Аб гэтым ня можа быць гавэнды. Бо што ў нашым сойміку, у савеце ў нашым, сто галоў, тысяча галоў—розумаў вырашае і кажа, то гэта не адна галава. А раз табе яно вырашана і гутарыцца, значыць, цябе зблуждаць ніхто ня будзе, значыць, ты павінен першым разумець, як пачуў першым.

Яўгеню на сэрцы лёгка зрабілася. Ён адчуваў, як дыхае на яго нейкая жывая сьвежасьць, поўная сьвежасьць, сочная, расістая.

І на сэрцы ізноў нарастала, пласт за пластам, лёгкая радасьць, чыстая, нефальшывая. Хутчэй, во як хутчэй хацелася пачаць... зрабіць пачатак жыцьцю. Адмысловаму, бойкаму, імпэтнаму жыцьцю. Здавалася Яўгеню, што ня было 'шчэ пачатку, 'шчэ не пачыналася яго жыцьцё. А от так марнеў ён, ліпеў, блытаўся, як у павуціньні—чакаў нейчых рук, нейчага ратунку. І от толькі цяпер адчуваў Яўгень радасьць, адчуваў, што ён будзе старацца, зможа клапаціцца, каб дапячы Карпусю, Ярэму, Аўласу.

У дзень дзяліцьбы пераносіў Яўгень да Аніся сваю частку.

А падзелена было ўсё, да маленькай нават магулінкі-цырубінкі.

Зямлю разьдзялілі папалосна. Было чатыры палосы. Пракоп казаў дзяліць кожную папалам, але Яўгень не згадзіўся з бацькам:

— Бярыце любыя дзьве, а ўзрэхаў рабіць ня буду,—сказаў Яўгень.

Тады бацька абмеркаваў, выбраў любыя дзьве, што на Луцішчы. А дзьве, што на Зьмітраўшчыне, прыпалі Яўгеню.

Уся зямля Бурцелікавых мяжуецца з Анісеваю. Таму і будынкі іх—страха з страхою, таму і радасьць была большая ў Аніся, што спрытней злучацца іх палосы.

Пераходзячы ў Анісеву хату, пачаў растахторваць дзе што. Сёе-тое да часу, пакуль дзе што прыдзецца ўладаваць, злажыў у сенцах. Аплятаны вялікі гаршчок паставіў пад прыпечак разам з анісевымі гаршкамі. Вышла:—нібы-то там ён і стаяў. Дзьве суконныя жакеткі павесіў у шафе. Зэдлік паставіў каля шафы.

Анісева жонка, Наталя, прылажыўшы далонь, нібы-та памацаўшы, як стаіць зэдлік, сказала:

— Мала хто зойдзе, дык вось нечага і сядзе.

Маленькую сякерку, што прышлася Яўгеню, якою мала што можна часаць, у аднэй руцэ трымаючы, заткнуў за лаву. Павесіў на самарослым, выцертым, белым кручку, з масенжнаю спражкаю, на якой стаяць літары „Л. Р. Ж. Д“, шырокую патрэсканую папругу.

Анісь сказаў:

— Усё-роўна, як нідзе нічога і ня было. Усё-роўна, як мы год тут цэлы, вот што знацца.

...А Макрына ня йшла.

Як вышла з хаты, калі зайшлі дзяліць, як пачула лямант, пайшла да бацькоў і ня йшла.

Бацькі—з таго канца Броду, цераз семнаццаць хат. Матка, досыць вёрткая яшчэ кабеціна, сустрэла Макрыну:

— Што гэта ў вас там, дачушка, натварылася? Да чаго гэтая дзяліцьба? Я от толькі думалаісьці да вас, сьвіньням думала замяшаю толькі...

І, гледзячы Макрыне ў вочы, сыплючы сваімі вачыма, маўклівыя пытаньні, бачачы выпаласканыя зрэнкі дачкі, казала:

— Чаму гэта ён нажадаў: бацькі свайго выракацца, ды ісьці ў падсуседзі?

У хату ўвайшоў Макрынін бацька Цімох.

— Дык чаго гэта ты рымстаеш?—сказаў, гледзячы на Макрыніны ўсхліпы. Што ён: мо‘ набіў цябе?

— Не-э...—адказала...—Але хацеў.

— Чаго вы не падзялілі?—пытаў далей.—Я толькі што дачуўся. Ні з сяго, ні з таго—дзяліцьба нейкая?—Ліха вас ведае...

Матка перабіла:

— Казала, ня ідзі, дачушка! Ці-ж ты перарасла, ня дай бог! Ці-ж табе ў бацькі хлеба не хапала! Ці-ж ты загнаная была ў нас!

І, абярнуўшыся да свайго Цімоха, з пералітым цераз край упінкам:

— Вось яны табе, цяперашнія замужы! Абмыдзгуйся! Сэрца бацькаўскае: што-ж яно—камень, што па ём можна гасіць?—Ліха іх матары!

Цімох паварушыў насупістымі брывамі:

— Ты ня бунтуй, старая,—сказаў,—можа сама вінавата?—І гэта больш—як „цяперашні сьвет“?

— Ня дуры галавы ты, з сваім сьветам...

— Гэта-ж ты дурыш.

— Я, як пайду,—казала далей,—дык я, ліха яго матары, я яму чапялу на галаве пашчаплю. Я яму, сукінаму сыну, далібог, пакажу, як церці дзяўчыну ў маладым вяку! Пакажу гаду гэтаму, як марнаваць...

— Сьціхні лапатаць, як той лапацень,—перапыніў Цімох,—з твайго а гэтага крыку, як з пугі па вадзе, якраз. Ты от лепей давай сьвіньням, а то аж глушаць...

А Макрына плакала. Нічога не казала, плакала толькі. І так моцна, моцна—аж ўзрыгвала.

— Ну дык што вышла?—пытаў бацька зноў.—Да чаго дзяльба гэта?.. Што—прагнаў ён цябе? Ну, ну кажы!

— Яму-у нехта на-агавары-ыў на мяне... Дык падшахнула нячыстая,—скрозь узрыгі казала.

— Ты мне не загаварвай зубоў...—ловячы хістаньне ў яе голасе,—бо мне не баляць, пакуль што, мае зубы. Глядзі дачу-ушка... Ніхто бяз дай рацы не нагаворыць. Ой, глядзі-ы...

— Ты мне, калі што,—узяўшы пруткі тон, казаў далей,—калі што на вочы ня ідзі! Я цябе, калі што, на парог ня ўспушчу, такой шэльмы!

— Чаго ты прычапіўся да дзіцяці?—успала матка.—Тая богу душою вінна, а ён—„глядзі, глядзі"! Чаго там на яго глядзець—недаверак гэты!

— Старая, кажу!—ня тыцкай свайго носа, дзе ня трэба! ня твой інтэрас! Я ведаю, што кажу. Мяне нашчот гэтага вучыць ня трэба. Я, дзякаваць, не маленькі. Я навылет бачу, дзе што. Чалавек-жа мусіць неваштa ведае, калі гутарыць. Нябось ня будзе так, на ўзьвей-вецер чапіцца да чалавека. Пры том: я добра ведаю Яўгеня...

— Трасцу ты ведаеш!—перапыніла матка.—Адкуль ты яго ведаеш? З носу ды ў рот ты ведаеш!—Усе яны, ліха іх матары, цацы!

А калі пачало сутоньвацца, калі матка Макрыны за цэлы дзень „штось кольвек" пачула, тады, падышоўшы да дачкі, шэптам запытала:

— Скажы, дачушка, з кім ён цябе застаў?

Макрына нічога не сказала. Уткнуўшы ў падушку галаву, яна залілася сьлязьмі.

Моцна, моцна заплакала.

* * *

Гіляр атрымаў ліст ад бацькі. Вось што пісаў стары Пракоп:

„Гілярка, мой сынок, кінуў мяне Яўгень. І цяпер, як хочаш, так і рабі адзін. Гэтага нашага пустамалота, Анісся, паслухаў. Той падбухторыў яго, што табе лепей будзе са мною (з ім, значыцца) што мы будзем гуртам (яны, значыцца), што яны калякты ўна будуць жыць, і сёе і тое. Дык ён і паслухаў яго. Так што ты, сынок, не сярчай на мяне. Я тут ні пры чым.

Падзялілі гаспадарку напалам. Мне прышлася хата і андрына, а яму хлеў і ток. Ён узяў сабе адну карову і пярэзімка. Тую карову, што некалі ад Квятулі, было, нарадзілася цялё. Ад тае Квятулі, што забралі палякі пры разьвёрстцы. Дык от ад яе:—добрая карова. Па чорным полі белыя плямы на пахвінах і на крыжы, і з лысінаю на ілбе. Ну, я-ж кажу: і пярэзімка. А мне—дзьве каровы засталіся. Узяў ён таксама двое падсьвінакаў, а мне—кнораза і старую сьвіньню пакінуў. Конь мне прышоўся, а яму—стрыгун. Нящікавы будзе конь з стрыгуна. Так што закажанеўшы: ведама, зімою аўса было вобмаль. Так што я не шкадую стрыгуна. Узяў адну авечку з ягнём, і мне таксама адна з малым.

З адзежы—дзьве жакеткі ўзяў, а мне кажух прышоўся. Аўчын было тры вырабленых і дзьве ў вырабатку. Дык мне дзьве выробленыя, а яму—адна, і тыя сыскаць,—я аддаў бірку,—што ў вырабатку. Мае хвацкія аўчынкі: з аднае могуць выйсьці плечы без падточак. Другая таксама ня дрэнная аўчынка: ад старой авечкі і ня стрыжаная воўна. Пасудак падзялілі і так і далей. Абразоў не захацеў дзяліць. Так што ўсе мне дасталіся.

А Макрына мусіць расьсярчала на тое, што падзяліўся Яўгень. Дык пайшла да сваіх і адтуль і вачэй не паказвае. Так што невядома, якая ў іх жызьня будзе. Можа яшчэ яна яго часамі кіне? Дык я пішу табе, сынок, мо' ты кінеш сваю должнасьцю ды прыедзеш на зямлю. Усё-ж такі, як ні кажы сабе, сякая-такая гаспадарка. І нават можна жыць. А мне старому,—ці шмат мне трэба? Пры табе от і пражыву. Дык ты прыяжджай, можа. Я буду чакаць, што ты на гэта скажаш.

Яшчэ: кланяюцца табе ўсе знаёмыя і блізкія. А таксама шле з любоўю нізкі ўклон твая цётка з яе мужам Рыгорам і з іхнымі дзеткамі. І жадаюць усіх благ у дзелах рук тваіх.

Дык бывай-жа здароў, сынок. Напішы мне, што ты на гэта мяркуеш. А я буду пакуль што трымаць гаспадарку.

Твой родны бацька *Пракоп Бурцелік*".

## XII

Дзяліліся ў сераду, а сёньня была субота. Яўгень асвоіўся ўжо і нават зусім, як дома: адзін робіць адно, другі—другое. Скажа толькі, альбо Аніс—Яўгень паслухае, альбо Яўгень—Аніс згодзен. Часамі пасэймікуюцца, памяркуюць і згодзяцца. Канешна, у гэтым шмат натура чалавека робіць. А натуры—разьбітнасьць дапамагае. Для разьбітнасьці, канешна, розум патрэбен. А ў гэтым ня было скупасьці як у аднаго, так і ў другога. Што да чаго тасуецца, кожны з двох ведаў. Бо хоць Яўгень і ня быў нідзе на сьвеце, а чуў што кольвек ад разумных людзей. А тое, што чуў, што да ладу яно, заўсёды прымаў да свайго розуму.

Сёньня Яўгень цяпер мяшаў на авёс. Учора заворвалі і запасвалі. Учора ўвечары, калі пачало сутоньвацца, калі змрок пачаў ахутваць усё ваколічнае ў свае, неабмацаныя чалавечаю рукою, лахманы, Наталя сказала:

— Сёньня ня будзем паліць агню.

Аніс хацеў спрачацца. Але, паколькі змарыўся быў, памысьліў у сваім духу: „Усё-роўна: раней ляжам, раней устанем".

Ніколі, аж спрадвеку, ня паліцца агонь у той дзень, калі заворваюць, запасваюць. У той дзень ня можна паліць, бо „сажа будзе на збожжы, скаціна ня будзе браць цэху. Зьвяры могуць вярзьціся".

Яўгень раскідаў поле ў роскідку. Хадзіў з канём наўкол, прыкідаў да аднае, суседняе мяжы і да другой. Раскідаў запар дзьве палосы: сваю і Анісеву. Злучаў іх у адну шырокую, суцэльную.

Анісь сказаў, калі ішоў Яўгень на поле:

— Дык ты там-жа ведаеш, як і што: ары...

Анісь не дасказаў усяго. Неяк было прыемна больш ад таго, што не дасказаў. Прабегла нейкая дзіцячая ўсьмешка ад цераЗьмернае радасьці. Хацелася проста такі пець. Але не запеў:—пасароміўся сам перад сабою,—палічыў за нейкую нясталасьць.

Яўгень хутка канчаў роскідку—даходзіў да мяжы, да той мяжы, якую патрэбна было раскідаць у роскідку, заараць. От будзеш раскідаць плугам скібы то направа, то налева, будзеш хадзіць, хадзіць наўкол гэтай мяжы, а тады...

Усё бліжэй і бліжэй будзеш падыходзіць. Будзеш падыходзіць і— дойдзеш. Урэшце падсадзіш пад яе бераг востры і шырокі нарог і, калі з усходу будзеш ісьці, скіба направа ляжа, калі-ж з захаду—налева. Толькі зашапоча, загамоніць узрушаная плугам зямля і пераверненца быльнёг дагары нагамі. Прыцісьне яго тоўстая, векавечная задзірванеўшая скарынка. Адны кончыкі яго, вострыя, разгатыя, будуць відаць дзе-ні-дзе з-пад скібы.

О, з якою злосьцю разарве на кавалкі-крыгі сваім вастрыём яе векавечную, скілзаную карэньнямі... з якою злосьцю разарве нарог блішчустага плуга!

Яўгень разважаў, ідучы за плугам:

— От-жа ня ідзе... От-жа сьмешыць людзей... Як толькі не пазырыць бацька: каб аж за дзесятаю гарою апынілася. Яна хоча, каб я па яе прышоў. Сама вінавата і яшчэ кардыячыцца...

— А я не пайду. Няхай таго, сабе, ня думае.

І сам неяк ня ведаў, як яно вышла. Зусім ня так разважаў ён, калі ўбачыў праз вакно, пад сьвятло запалкі. Бацьку абвінаваціў, а не яе. Мо' таму гэта, што прычыну знайшоў. Бо адразу вырашыў: „Ува што-б ні стала—дзяліцца. Інакш—ён маю жызьню змарнуе. Сапсуе маю маладосьць. Мяне будзе цёнгле гнэнбіць думка. Цёнгле будзе калатаніна ў хаце“.

А мо' таму, што раней марыў аб дзяліцьбе. Бо не даваў бацька і словам абазвацца пра калякты.

А калі шукаў яе вачыма, калі крычаў „Заб'ю“—трэбала-ж спагнаць на кім-небудзь сваю зьнявагу. Каб хоць маўчаў тады бацька, ведаючы сваю віну, лягчэй было-б на сэрцы. А то прыкідацца пачаў, „няведаючым“ пачаў прытварацца. Ды яшчэ: кепікі пачаў строіць. Вось і сабралася ўсё разам... А не хацеў, каб ведалі людзі. Не хацеў зьнеunion бацьку. Спатайка, сам-на-сам сказаў бацьку:

— Вам мала, татка...

Гледзячы запаленымі зрэнкамі вачэй, ня мігаючы імі, закасьцянеўшы на адным месцы, падавіўшы-зацісну ўшы аж на самае дно свайго пачуцьця балючую крыўду, стаяў і казаў:

— Вы, татка, пражылі сваю жызьню... Я пачынаю жыць... Дык нашто-ж вы мяшаеце мне? Нашто вы няславіце сябе на старасьць? Нашто вы трыцё маю маладосьць?

Бацька быў папрабаваў супярэчыць. Ён сказаў, што яму, Яўгеню, „нешта здалося“. Але Яўгень сплюнуў толькі і вышаў з хаты. Макрыне толькі-на-толькі заўважыў, кінуўшы неміласэрны зірк:

— Пасаромілася-б... паскудніца...

І гэтага было даволі: у яе набеглі сьлёзы. Каб сварыўся ён, каб кідаўся біцца, ёй лягчэй было-б. А ад гэтых двох кароткіх слоў, з яго калючым зіркам, во як млосна стала Макрыне!

Ніто не давярала Макрына Яўгеню, што ня ішла да яго, ніто хацела выкупаць, сама-на-сам, сваю віну ў маўклівых сьлёзах.

Хутка канчаў Яўгень роскідку. Яшчэ два разы—тры абойдзе і канец полю: на авёс будзе ўзьмешана. Туды зойдзе і адтуль—адна мяжа застанецца.

Ідучы за плугам каля доўгай мяжы, адышоўшы назад, у сваіх думках:

— ... ведама спрадвечная тая, задзірванеўшая. Каменьне панакідана... Во і во... На купальле некалі, як была жыва матка...

— Пппц, н-но.

— ... Як была жыва матка, дык як пачне захадзіць сонца, купалкі, бывала, пасылала рваць сюды. А тут іх шмат расло; яны любяць расьці на падзолістай зямлі. А калі сутоньвалася, матка... матка пасылала, каб дзевяць каменьчыкаў прынёс... З трох межаў па тры каменьчыкі... Парыла імі збанкі. Казала: „малако ніколі ня будзе зьбягацца. Будзе шмат сьмятаны ад купальскіх каменьчыкаў у малацэ. Нацэдзіш у тыя збанкі, што выпараны гэтымі каменьчыкамі...“

— Н-но!—тузануў за ляйчыну і зноў, і зноў...

— Матка апавядала мне малому: „Па межах ведзьмы ходзяць у купальскую ноч. Дояць каровы, у каго не пазатыкана ў варотах жыжка-крапіва, і ходзяць... ходзяць і пырскаюць надоеным малаком па межах... Наўмысьле гэта робяць: выдойваюць і пырскаюць, каб вым'я ў тых кароў не прыбывала... каб было такое дзікае, як межны быльнёг, бескарыснае каб было...

Дайшоў да канца і завярнуў каня. Падвёў плуг пад самы край мяжы: толькі ўзяцца за ручкі і сказаць „но“. Конь пераступіў ляйчыну.

— Ваўкарэзіна!..—крыкнуў Яўгень.—Не ўгамуешся...

— Нагу! На-а-гу, каб цябе...—І конь падняў нагу.

Тады ўзяўся быў за ручкі плуга: хацеў пагнаць каня. Але не пагнаў. Падчапіў толькі пад край мяжы бліскучым жалезам і пачаў закурваць.

— Залетась касіў тут...—глядзеў Яўгень то на мяжу, то на паперу, каб не рассыпаць паджарыстых карашкоў.—Залетась яна палола лён

а я касіў канюшыну... Сядзелі на гэтай мяжы... Вуньдзека, вунь, на сярэдзіне. Колькі часу, а от неяк-жа набрыло на памяць. Чалавек вельмі памятлівы... Яна нейкая тады сарамяжлівая была. Маладая была, як сабе ні гавары. І неяк... я тады першы раз, перш-на-перш пацалаваў яе. З таго часу і ня спускаў з вока, аж пакуль вось... і не ажаніўся. Прывыклі... на сьвеце мусіць нічога няма мацнейшага за прывычку... Ну, і бацькі... Вельмі-ж добрыя бацькі. Я іх во як паважаю! А яна такі моцна кахала... Як хвацка адпрэчыла, была, Юрку Лявончыка. Ні на вока!

Яўгень скруціў папяросу. Дастаў запалкі і, моршчачы твар, угінаючы кончыкі востра закручаных вусоў, пачаў прыкурваць. Ледзь-ледзь маленькі ветрык падхапіў рэдкія пасмы сіняга дыму і збэрсаў яго ў дныск, ушчэнт.

— Колькі мы тады перагаварылі на гэтай мяжы!—Блукалі думкі Яўгеня.—Я тут даў ёй маё слова... Яна тады загарэлася, як парэчка, як іскра... Я не скасіў канюшыны ў той дзень...

— Н-но!—пагнаў каня, не дакурыўшы папяросы. Трымаў яе ў губах; пацягваў яе, жмурачы вочы ад едкага дыму.

*Канец першае часткі.*

# З ЛЯГЕРНАГА БЛЁК-НОТУ

**Ізраіль Плаўнік**

## 1. НА ВАРЦЕ

І я стаю на варце ганаровай,
Сьціскаю моцна стрэльбу у руках...
А прада мной, а пад маёй аховай
Наш палкавы, наш пурпуровы сьцяг.
На гэты сьцяг гляджу ў нямым зьдзіўленьні:
У дні змаганьня, віхраў і баёў
Ён даў байцом і сілу і натхненьне
Ахвяраваць сваё жыцьцё і кроў.
І ён прывёў да эры сьветлай, новай,
А з ёю вырасьлі і шчасьце і краса...
Істужка немая на коліку кляновым
Прабіта кулямі варожымі ўся.
Стаю адзін... І нейкая трывога
Сьвідруе мозаг... Жніveньская ноч...
А мо' падкрадваецца нечаканы вораг?..
Крывёй акропіцца агідны, здрадны нож.
Якая ціш! Чутно, як сэрца лічыць
Сваёй пульсацыяй хвіліны і часы...
І раптам... Ціха... Ша... Выростае абліччa...
І крокі мерныя, як мерны звон касы.
— Стой! Хто ідзе?!
Галосны, грозны вокліч...
„На ізгатоўку“ стрэльба ў руках...
І расплываюцца праверкі хітрай крокі,
І распыляецца сталёвы лязг замка.
Зноў цішыня... Міражы, лятуценьні
Напружнасьць, зморанасьць перад вачыма ткуць...
Але чакай! Зважай! Нябачнае трымценьне
Істужкі немае спружыньвае руку.
Пільней гляджу... Ліхтарні асьвятленьне...
І цені-постаці, і шастаньне травы...
— Стой!..
— Хто ідзе?!—і чую:
— Прыдзе зьмена,—
Гады прышлюць наступных вартавых.

## 2. ТРЫВОГА

Лягер сьпіць... Шатры ў срэбным пыле...
Толькі чутны вартавога крок...
Ціш-ціша... І ветрык лёгкакрылы
Не скалыша гэты сонны змрок.
Лягер сьпіць... Лясы, палі, дарога
Занямелі і застыглі ў сьне...
І блукае месяц вострарогі,
Сыпле кроплі, сьветлыя, як сьнег.

* * *

— Тру-ру-ру!..
Сыгнал, сыгнал трывожны...
— Падымайся, першы батальён!
Шэпт-загад плыве ў палатцы кожнай,
Раздаецца, як нячутны звон.
— Тру-ру-ру!..—
Ражок мядзяны кліча...
— Гэй, хутчэй, таварышы, на збор!..
Хвілі тры... І грознае аблічча
Пакрывае хмараю прастор...
Тупат ног... Прыцішан лязг замковы,
Нават месяц прытаіўся дзесь.
Стой, баец! Ніякае размовы!
Кожны знай—заданьне і разьдзел!
Вораг там—на вышыні сто дваццаць,—
Наступае... баявы паход...
— Полк, зважай! У момант акапацца!
Затрашчэў варожы кулямёт.
Стукат... Гул... Загрукалі гарматы...
Сьвісты куль... Прожэктараў агні...
Пераклічка стрэльбаў і гранатаў,
Да зямлі баец прырос, прынік.
— Полк, зважай! Праціўнік адыходзіць...
Гэй, наперад! Сьмела, як адзін!
Толькі месяц у самоце бродзіць,
Як стары, забыты камандзір.
— Полк, зважай! Ура! ура! Ў атаку!
Не шкадуй набояў і гранат!..
Ня стрымалі гаўбіцы і танкі,
Перамог наш баявы атрад!

Лягер „Чырвонае Ўрочышча“.
Жнівень, 1929 г.

# ТОРФ

*(Конструкцыя)*

**М. Хведаровіч**

Сіла і творчасьць—
Няспынная моладасьць,
Цьвёрдыя мускулы,
Рукі закасаны.
Вясною пяшчотнай,
Восеньню з холадам
Вочы праменныя,
Сьветлыя, ясныя.
Межы імкненьняў
Зруйнованы начыста,
Сіла разгону
Бязьмерна, бясконцая.
Вось і дасяжнасьць
Ўпэўнена значыцца,
Вось і дарогі
Асьветлены сонцамі.
Вось і адшуканы
Скарбы багатыя,
Багнаў, балотаў
І дзікіх імшарнікаў.
Там, дзе нядолю
Нам ворагі сваталі,
Белыя банды
Паноў і абшарнікаў.
Чорнае золата,
Чорнае золата!
Скарбы багатыя
Множаны вечнасьцю.
Новай індустрыі
Волаты, волаты
На Беларусі
Гарацць электрычнасьцю.
Ўсё гэта сіла

Юнацтва бадзёрага,
Ўсё гэта цьвёрдасьць
Сталёвасьці шэрагаў.
Хай сабе шкодніцкі
Погляд у ворага
Мы не адступім
І нат на паўшэляга.
Рэжце рыдлёўкамі
Чорнае золата,
Глыбей і глыбей
Капайце рыдлёўкамі.
Гучным ударам
Стотоннага молата
Куйце жалеза
Індустрыі коўкае.
Кроўю і потам
Здабыткі дасягнуты,
Сілай агульнай
Злажылі фундаманты...
Цьвёрдыя мускулы
Зараз напрагнуты
Хто з нас з рыдлёўкаю,
Хто з нас з атрамантам.
Толькі няспынна
З імкненьнем вытворчасьці,
Ногу трымайце,
Раўненьне з сучаснасьцю!
У муках сьмяротных
Старое ўжо корчыцца,
Нашыя-ж вочы
Адзначаны яснасьцю.
Куйце-ж жалеза
Індустрыі коўкае,
Гучным ударам
Стотоннага молата,
Рэжце рыдлёўкамі
Чорнае золата...

. . . . . . . . . . . . .

Чорнае золата,
Чорнае золата.

14/XI-29 г.
Менск.

## Сяргей Фамін

„... Дзядзька прадаў кабылу. Межы мы распахалі і суседнія вёскі адышлі ў калгас. Адышоў і наш пасёлак, але яшчэ да вясны будзем жыць у асобных хатах. Вясной пераедзем на навасельле ў калектыў“

(З ліста брата).

* * *

Месяц плыў і раптоўна згас.
Зьніклі ў цемры блакітныя вёслы.
... Раскажы!
Мне казалі, ў колгас
Адыходзе за вёскаю вёска...
Раскажы!
Мне казалі—ў палёх
— Трактароў за колёнай колёны,
Што апошнюю песьню быльнёг
Адыходзячай вёсцы звоніць.
Кажуць сталі па-новаму жыць,
Ї ў далёкім колгасе нашым
Марыш ты, каб з ячменяў і жыт
Скасаваць васількі і рамашкі.
Раскажы ты мне ўсё!
Як у нас
На пасёлку зьліліся палоскі.
Я-ж прыеду, як будзе вясна
Асыпаць дымам плёну бярозкі.
Сам я ведаю: зьнікне туга...
Па старэнькай мышастай кабыле
. . . . . . . . . . . . . .
Так.
Мышастай—няма.
Ї яе дуга
Пад павецьцю пакрылася пылам.
А на месцы мышастай—фордзон—
Доўгагрывай—жалезная зьмена.
Сам ты кажаш,

Ня есьць гэты конь,
Ні аўса,
Ні пахучага сена.
Я-ж прыеду, як будзе вясна.
Ах, ня сьмейся!
Ня сьмейся!
Дзівак ты!
Калі трэба—я сяду сам
За сталёвы колгаскі трактар.
Разумею я сам гэты час,
Сэрца дам я шчасьліваму лёсу.
... Пад сірэны машын у колгас
Адыходзе за вёскаю вёска.

1929 г. 4/XII Менск.

# ПА СОНЕЧНЫМ ШЛЯХУ

*(Эскізы)*

**В. Сташэўскі**

## ЗАГЛЕДЗІШСЯ, ЗАЛЮБУЕШСЯ

Выехалі мы з Менску не асабліва ўдачна. Гарадзкая станцыя на чатыры спальных месцы прадала восем білетаў. Прышлося крыху зьдзівіцца, пагутарыць з дзяжурным па станцыі, але, як відаць, на гэтай гутарцы ўсё і скончылася. Чыгунка ў гэтых адносінах мабыць не асабліва „требовательная“. Мы сяк так едзем аж да Старых Дарог.

Ціхая, крышку пахмурая раніца. Абапал дарогі густыя маладыя падлескі, а сярод іх паважна стаяць высачэзныя елкі, хвоі. Ёсьць тут і высокія, стройныя бярэзіны, але ў пахмурае надвор‘е яны выглядаюць нейкімі журботнымі, задуменнымі. Самы невялікі ветрык хістае яе тонкае, мысьліновае ўбраньне. Маладая бярэзінка—маладая, па-летнему адзетая дзяўчынка ў полі. Ціха, сонечна—яна тады вясёлая і бесклапотная і так прывабна паглядае на прахожых. А чуць няхай падзьме нягодаю, няхай маланкай блісьне навальніца—яна тады схіляецца аж да зямлі, здаецца, упадзе, пасьля напружвае ўсе сілы, хоча спрытнай постацьцю стаяць, але ў бясьсільлі зноў схіляецца, і ўжо тады разбэшчаны віхор ня дасьць спакою ёй сваімі пацалункамі, скудлачыць яе косы, пакамечыць тонкае адзеньне.

У лясох ды пералесках сустракаемся з вусатым ячмянём. Ён прымайстраваўся побач з бульбаю і шэпча ёй: „хутчэй расьці“. А стройныя вясёлыя аўсы з ружовай грэчкаю пад ручку спацыруюць.

Заглядзішся,<br>
залюбуешся!

— Зачыняйце вакно, бо мо‘ каму холадна,—падае голас кандуктар.

— Ніхто-ж ня скардзіцца,—адказваю.

— Мала чаго,—і рукі яго ўчапіліся за раменныя петлі і перад вачыма стала потнае, запыленае шкло.

Добра, ці ня добра, але-ж начальства ведае, што робіць. Няма чаго тут „лірыку“ разводзіць.

У Старых Дарогах нашы білеты трацяць сваю сілу. Выходзім. Мястэчка толькі-толькі пачало абуджацца. Бразгалі аканіцы, рыпалі дзьверы, вароты, на вуліцы паказваліся людзі, козы, каровы. Пакуль поезд стаяў,

мы спакойна абышлі ўсё мястэчка, пасядзелі ля школы на лаўцы і зноў вярнуліся на вакзал. Але купляць білеты было позна. Поезд адыходзіў на Ўрэчча. Нам туды і трэба. Што-ж, заплацім крыху штрафу, але выгадаем цэлыя суткі. Ускакваем у вагон і адразу прадстаўляемся кандуктару, як бязьбілетныя пасажыры. Білет да Ўрэчча каштуе капейкі, гэта нам вядома. Галоўны надзеў акуляры, дастаў нейкую кніжачку і прачытаў: „з вас, значыць, за два бязьбілеты належыць восем рублёў і восемдзесят капеек“.

— Нешта-ж вельмі многа?

— Вось, так паказвае.

— Глядзеце, мо‘ крыху менш?

— Не, тут точна сказана.

— А калі-б у нас, скажам, ня было чым плаціць?

— Тады складаецца акт і перадаецца па інстанцыі, а там міліцыя сышча.

— Дык хіба няхай яно так і будзе, бо, як бачыце, мы едзем у дарогу і з грашыма ў нас туга.

— Глядзеце, хлопцы, каб ня прышлося пасьля плаціць больш.

— А колькі больш?

— Можа нагарэць яшчэ па капеек дваццаць.

— Згодны і на дваццаць пяць.

Едзем, пакурваем і мірна гутарым.

— Вы думаеце, хлопцы, мне хочацца штрафаваць вас? Але-ж, браткі, строгасьць у нас такая, якое ня было раней.

— Дык-жа, мо‘, гэта і добра?

— Так, для парадку гэта, канешне, добра.

— А як гэта, скажэце, на чатыры спальных месцы прадаюць восем білетаў?

— А гэта, значыць, непарадак.

Урэчча!

Выходзім. Стралою ляціць начальнік станцыі.

— Вось гэтыя два таварышы бязьбілетныя, канешне,—знаёміць нас кандуктар.

— Ідзеце ў станцыю,—даў голас начальнік, а сам паімчаўся ўздоўж поезда.

Сядзім у габінэце начальніка станцыі пяць мінут, дзесяць, пакінуў нас і кандуктар, засталіся адны. Праходзіць і дваццаць мінут, а начальніка няма. Выходзім на ганак, бегае запараны начальнік і ніякае на нас увагі.

— Таварыш начальнік, давайце падпішам акт.

— Пачакайце, таварышы, бачыце, што я ня маю часу.

І сапраўды, чалавек мо‘ двое сутак чакаў поезду, дык, ці-ж мала яму цяпер клапот, мо‘ дзе што трэба адчапіць, а што і прычапіць, прадаць білеты, бо ён-жа тут і касір. Адным словам, гэта такі начальнік, у якога,

здаецца зусім няма ніякіх падначальных. Ён адзін на ўсю станцыю. Сядзім, чакаем. А тэлефон аж лутуецца, хочацца ўзяць трубку і сказаць, што „никаво нет дома“. Тут-жа цокае тэлеграф. Сядзім, чакаем. Поезд пайшоў. Начальнік прышоў і „составил настоящий акт... пассажир, обнаруженный на перегоне между ст.“ і г. д. Расьпісаліся і папярэдзілі начальніка, што мы таксама прад'явім іск каб, заплацілі нам за ахову станцыі і тэлеграфа...

— Яно можа і так, але-ж самі бачыце, таварышы, адзін не магу разарвацца,—крыху разгублена адказаў ён.

Сяло Ўрэчча выглядае больш зграбным, чым мястэчка Старыя Дарогі. Тут шырыня, прастор, добрыя будынкі, дачная мясцовасьць. Невялічкая хата-чытальня. На сьценах няма „жывога“ месца—усё ўклеена плякатамі, лёзунгамі. Скардзяцца, што вельмі цесна. А работа, відаць, разгорнена нядрэнна. У бібліотэцы малавата беларускае літаратуры, асабліва сучасных маладых пісьменьнікаў.

## ВАРОТЫ НОВАГА ПАЛЕСЬСЯ

Любаньскія балаголы даўно паехалі. Нас вязе ўрэччанскі. Прыехалі ў мястэчка раньнім надвячоркам і маем тут падначаваць. Накіроўваемся да загадчыка беларускае сямігодкі. Пакуль мы з ім гутарылі, зачыніліся коопэрацыйныя крамы, і мы засталіся „пры пікавым інтарэсе“. Зайшлі ў „гасьцініцу“. Нас там лёгенька пакармілі, тады мы зноў пашлі вандраваць па мястэчку. Ходзяць нейкія два хлопцы, паглядаюць на будынкі, на людзей, пастаялі каля рэчкі, зайшлі ў нардом, а што гэта за людзі, ніякі міліцыянэр і ня можа сказаць. Праходзячы паўз будынак Р. В. К., мы разоў два сустрэлі жанчыну, з цьвёрдым жан-дэлегацкім выглядам. Мы не памыліліся ў тым, што гэта актыўная савецкая работніца, але ніколі не маглі падумаць, што гэта старшыня Райвыканкому. Мы яшчэ з большаю ўвагаю пачалі вывучаць жыцьцё гэтага палескага мястэчка. Будучы яшчэ „нелегальнымі“ (пазьней міліцыянэр устанавіў нашу „лічнасьць“), мы зайшлі ў нардом, пагутарылі з моладзьдзю, якое тут было поўна, прачыталі насьценгазэту „Сьветач Палесься“, пазнаёміліся з нораўамі любаньскае „публікі“. У артыкуле „Наша публіка“ чытаем:

„У Любані, калі ставяць спэктакль, дык чакаюць публіку не раней адзінаццатай гадзіны. Шпацыр, гэта—асноўнае ў працы мястэчка. Мястэчка! памятай, што многія вёскі раёну цябе выперадзілі ў шмат якіх напрамках“. Не паддавайся, Любань! дабавіў-бы я і дабавіў-бы, што ў мястэчку ёсьць два „мястэчкі“: адно, якое спацыруе, і другое, якое працуе. Але гэта мо' дэталь. Але той факт, што старшынёю Райвыканкому зьяўляецца жанчына, што ў глухім, брудным Палескім раёне будуецца дваццаць лазьняў, што тут збудаваны: вялікая больніца, яўрэйская сямігодка, крухмальны завод, пашыраецца сетка хат-чытальняў, ліквідуецца няпісьменнасьць, за пяцігодку вырастуць дзьве электрастанцыі,—

гэты факт сьведчыць аб тым, што гэтае, спакон вякоў бруднае, цёмнае „мястэчка“ (раён) будзе сьветлаю, прыгожаю, культурнай часткай Новага Палесься.

Сьвежымі ў памяці любанцаў налёты балахоўцаў. Колькі зьдзекаў, колькі тут ахвяр. Расказвае нам стары яўрэй, які быў прыгавораны да сьмерці і выпадкова выратаваўся, і сьлёзы самі капаюць па яго маршчыністым твары. А ці-ж першы раз ён расказвае, як сотні душ сагналі ў сынагогу і хацелі там спаліць, як перабілі яго старых таварышоў, і кожны раз зрываецца яго голас, і ён ня можа выказаць перажытага ім жаху, і ён канчае: „я не магу расказваць“.

А расказаць аб гэтым трэба. Няхай-жа ведаюць сыны і ўнукі пра ліхую чорную навалу, няхай яны яшчэ з большаю энэргіяй зьнішчаюць сьлед агіднае мінуўшчыны.

## НА ПРОСТУЮ ДАРОГУ

— Вось, праедзем крыху,—кажа наш балагол,—а там будзе простая дарога аж у самыя Сосны. Гэтае „крыху“ складае добрых два дзесяткі кілёмэтраў і ўецца між хмызьняку і лесу, нібы вужака. Мы едзем. Амаль зусім падпяразваем залацісты жытні астравок. Мы зіглядаемся на постаці жней, яны на нас і раптам штось зрывае нашы шапкі. А, гэта дуб сваім гальлём прымушае нас схіліць свае галовы перад ім. Схіляем, схіляем. Пакуль што ён уладар на гэтым шляху да простае дарогі. А колькі-ж яго тут і пагніло! О, як патрэбна простая дарога, каб ня даць яму загінуць тут! Мы едзем і гутарку вядзем з дубамі, бярэзьнікамі, соснамі... Беларускі лес многае можа расказаць. Трэба толькі ўмець слухаць, уважна слухаць. Перад намі сенажаць, стагі. Спакойна стаяць стагі. Тонканогія буслы вартуюць іх спакой. Яны паважна ходзяць, пазіраюць на свае вялізныя абшары. Грукаюць калёсы нашае фурманкі, гукаем мы, а яны нібы зусім не заўважаюць нас.

— Абшарнікі!—крычым.

Нічога. Іншы падыме галаву, а іншы дык зусім адвернецца. Недалікатныя бываюць. А ўсё-такі мы ня злуемся, мы прыемна ўсьміхаемся. Яны песьцяць нашы вочы. Гэта-ж цудоўныя лілеі на зялёна-шэрых прасторах!

Хістаюцца драбіны. Калыша нас палеская дарога. Прыветна, лёгенька хістаецца хмызьняк. А там за імі нясьмела выглядаюць хутары. А мо гэта стагі? Не, хутары. Далей, бліжэй. А-а, здароў! Вось ён знаёмы, белакрылы, на гумне збудаваў сабе хату. І хто адважыцца чапаць яго?! Ніхто. Ён-жа сьмялейшы за гаспадара хутару. А гаспадары тут розныя. Некаторыя, відаць, ніштавата жывуць. Сярод саламяных, гонтавых і дранковых стрэх часам сустракаецца і бляшаная страха. Вядома, гэта зьява зусім нядаўнага часу, значна пазьнейшага, чым песьня „чубарыкі чубчыкі“.

— Ну, што, далёка яшчэ простая дарога?

— А блізка ўжо: за тым ляском будзе масток, а за мастком мы возьмемся ўправа, а там праехаўшы,—налева крыху зьвернем і так паволі выедзем,—адказвае нам балагол.

Калышуць нас драбіны. Выяжджаем за лясок і за масток. На невялічкім астраўку, сярод ячменю, бульбы, жыта і аўса, горда стаяць, у бокі ўзяўшыся, пшанічныя бабкі. Будуць булкі—добрая пшаніца.

— Ды гэта што,—адказвае нам балагол,—пабачыце, што там, у Соснах. А вунь і простая дарога.

Перад нашымі вачыма бярозавая арка. Яна пачынае простую дарогу. Арка, наогул, нагадвае аб урачыстасьці. Арка сярод лесу, на балоце, кажа нам аб нейкай асаблівай урачыстасьці. Мы моўчкі пад'яжджаем. Далей ідзе шырокая, пескавая дарога.

— Цяпер паедзем проста, проста.

— А раней як езьдзілі?

— Ніяк. Тут нават рэдка хто хадзіў.

Перад вачыма шырокія, роўныя прасторы. Здалёк віднеюцца на іх роўненькія, чорныя істужкі. І чым далей мы едзем, тым гэтых істужак становіцца ўсё больш і больш. Гэта—простыя вадзяныя дарожкі-канавы. Палеская вада доўга чакала гэтых дарожак. Гэты час прышоў, і яна рушылася. Гэй, трымайся, Арэса! Да цябе накіраваліся мар'інскія вадзяныя дарогі. Стаячая шматвяковая вада рушылася.

Мы едзем па шырокай простай сухой дарозе. Перад вачыма лясісты востраў. Абапал дарогі, між гэтых вадзяных дарожак, разасланы пышныя аўсяныя, ячменныя, бульбяныя, ільняныя дываны. Гэта ня вузкія сялянскія істужкі, а шырачэзныя, на дзесяткі гектараў, дываны. Ня марыла Мара, былая ўладарка гэтых балот.

Ня верылася многім з нас. Цяпер гэта простая дарога. Дарога ў соцыялістычную гаспадарку. Слава вам, хто ўмее ткаць такія цудоўныя ўзоры!

## У РЭВОЛЮЦЫЙНЫМ ШТАБЕ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

Дарога вядзе проста ў лясісты астравок. Тут цэнтр „балотнага княства“, рэволюцыйны штаб новае балотнае гаспадаркі. Тут саўгас імя 10-цігодзьдзя Савецкае Беларусі. Паказаліся будынкі, далей людзі, коні. Дзесь нехта моцна стукае, і рэха гучна паўтарае гукі. Спыняемся. Нам кідаецца ў вочы вялізны хлеў, на дзьвярох якога захавалася, хоць крыху завяўшая, зяляніна. Мы адразу пазнаем. Гэта—тэатр. Накіроўваемся туды. Тут мы сустракаем экскурсію рабочых з Бабруйску. Яны тут з самае раніцы, пасьпелі ўжо абыйці пасевы, будынкі, пабывалі на кухні, пагутарылі з рабочымі. Частка з іх яшчэ недзе бродзіць па востраве, а частка разьмясьцілася пад навесам, у сталоўцы.

У канцы тэатру мы заўважаем перагародку. Там чытальня. Калі мы ўвайшлі, нам здалося, што мы трапілі ў нейкую мастацкую студыю. На стале вялікія аркушы паперы, фарба. Тры хлапцы ўсёю сваёю постацьцю

нахіліліся над гэтымі аркушамі. Яны цалкам увайшлі ў творчую працу і ні на каго не зварачаюць увагі. Глядзім. Праз нейкі час на белай паперы зьявіліся чырвоныя літары: „падпісвайцеся на 3-ю пазыку індустрыялізацыі“. З-пад пэндзля другога „мастака“ выростае: „крытыка“. Гэта ўстаўкі, баявыя лёзунгі, загалоўкі. А па ўсім аркушы рассыпаны дробныя „скарынінскія“ літары.

Сьвежая газэтка!

Сьвежыя думкі жыхароў гэтага востраву. На сьценах разьвешаны рознакаляровыя лёзунгі, плякаты. І дзіўна, у гарадзкім клюбе гэтыя-ж самыя плякаты не заўсёды спыняюць на сабе ўвагу гледача, там яны набылі нейкі шаблён. А тут, на сьценах гэтага шэрага будынку, яны здаюцца жывымі, яны гавораць. Тут плякат—мэліорацыя, лёзунг—колектывізацыя цалкам увязан з практычным жыцьцём гэтага вострава.

На дварэ ціхі летні надвячорак. Пара вячэраць. А мы яшчэ не палуднавалі. Распытваем у аднаго хлапца: як тут дастаць перагатаванае вадзіцы, ці ёсьць тут Ц. Р. К... Насустрач нам ідзе прызёмісты, смуглы, здаровы мужчына.

— А вось загадчык саўгасу,—кажа нам хлапец.

Чуем прозьвішча—Трызна. Якраз гэты чалавек нам і патрэбен.

— Прысядзем, таварышы, і пагутарым.

Накіроўваемся да навеса-сталоўкі, дзе сядзіць частка бабруйскіх рабочых. Садзімся, абкружаем таварыша Трызну, бабруйчане склікаюць сваіх астатніх экскурсантаў і пачынаем гутарку. Трэба сказаць, што таварыш Трызна распачаў з намі гутарку адразу пасьля звыш трыццацікілёмэтравай „прагулкі“ па балоце.

Ён зьяўляецца начальнікам усяго Мар‘інскага колёнізацыйнага фонду. Гаспадарка не маленькая, работы хапае. Аднак, як партыец, ён атрымаў яшчэ партнагрузачку. Ён—старшыня камісіі па чыстцы, здаецца, Глускае арганізацыі. Гэтая работа адарвала яго на нейкі час ад балота, і таму ён, вярнуўшыся, пачаў рабіць трыццацікілёмэтравыя „прагулачкі“.

Спакойным, упэўненым цьвёрдым голасам, простаю, беларускаю мовою пачынае ён апавядаць: як заваявалі гэты востраў, балоты, як знайшлі Новую зямлю.

Рэволюцыя вымела ўладара гэтага балота, абшарніка Агаркава. Яно ціха стаяла і чакала свайго новага гаспадара—рабочага, селяніна. Заняты непасрэднаю барацьбою з капіталам, з астачаю самаўладзтва, ён ня мог зьявіцца ў першыя гады свайго заўладаньня. У яго былі больш гострыя, больш неадкладныя інтарэсы. Але, паступова перабудоўваючы гаспадарку, утвараючы новае жыцьцё, ён падышоў і да гэтае зямлі.

Гэта быў 1925 год.

Падышоў новы гаспадар да гэтае зямлі, ступіў крок, а каршуны ў крык.

Ціха сьмяюцца пад купінамі жабы. Калоціцца багна і расчыняе рот, каб засмактаць яго.

Але новы гаспадар ня ўмее адступаць.

Ён пашоў...

Цяжка было ісьці, але ён ішоў і на яго сьлядох вырастала простая сухая дарога. Ён прышоў на гэты востраў, а з ім сухая, роўная дарога.

І вось гэты, раней недаступны востраў стаў *рэволюцыйным штабам сельскае гаспадаркі*.

## ПЕРШАЯ БАРАЗНА

Пачалася асушка балота. Вясною 1928 году на гэтым балоце было засеяна трыццаць гектараў. Вясною 1929 году засеяна трыста гектараў. Сёлета-ж павінны ўзараць 2.200 гектараў. І так ад дзесяткаў да соцень, ад соцень да тысяч—вось крокі новага гаспадара.

Тысячы гектараў раней непралазнай дрыгвы становяцца квяцістым, пышным полем.

А вось вам першая баразна на стальным кані.

Вялікдзень. Дзесьці далёка ў глухім сяле на званіцы старое царквы звоніць стары званар. Дзесьці на хутары ў гонар „воскресшего“ разьліваецца самагонка. Гэта рэлігія ўслаўляе сваё сьвята—вялікдзень.

Заіржаў на востраве стальны конь. Гулкае рэха прарэзала лясны гушчар і аддалося ў вёсках.

Слухае Янка.

Слухае Тамаш.

Слухае Лукаш.

Адна за аднэй зьяўляюцца на востраў сялянскія фурманкі.

— Чулі мы: сёньня трахтар пойдзе на балота.

— Пойдзе, браткі, пойдзе.

— Ой, ці пойдзе... Глядзеце, каб не загруз...

Адны верылі і проста з цікавасьці прыехалі паглядзець, а многія з натоўпу ня верылі і як-бы з нейкаю прыемнасьцю чакалі няўдачы, апраўданьня сваіх думак.

Стальны конь пашоў, ззаду засталася шырокая, роўная баразна.

Першая баразна.

Схапіўся адзін за травяністую лусту, разламаў яе.

— Узараць то, як відаць, узарэцца і пасеяць можна, але ці будзе тут што-небудзь расьці?

Такая думка непакоіла многіх з прысутных гледачоў.

## ПЕРШЫ СНОП

Ідзе вясна. Гудуць на балоце стальныя коні. Чарнаватымі палоскамі пакрываюцца балотныя прасторы. Заблішчэлі ў праменьнях сонца дыскавыя бароны і пашлі рэзаць гэтыя доўгія палоскі на дробныя кусочкі. Яшчэ адна, другая прылады, і пад нагамі мяккая, мучная глеба.

Будзе хлеб!

— Калі бог дасьць...

— А многа табе бог даў? Калі-б ты не працаваў?

— Ды яно-ж так, але так гаворыцца.

Ідзе першая вясна. У зялёны аксаміт убіраецца балота. Ды толькі ў новы аксаміт — аўсяны ды ячменны. Якою незялёнаю здаецца нам балотная трава!

— Аўсы, аўсы!

— Добрыя аўсы!

— Бачыш ты, якое пяро!

Дыхнуў мяккі балотны ветрык. Чуць-чуць прыкметна скалыхнуліся аўсы. Здаецца, дыхае ўся зямля. І сапраўды, ступаеш на яе, нібы на мяккае жывое цела.

Струнка, павольна плыве паіржэлая вада. Маршрут ёй грабарамі вызначан. Спакойна, урачыста ідзе яна. А ў вёсцы неспакойна.

Адны:

— Псуецца сенажаць. Сьцягнулі ваду. Ня ідзе трава.

Другія:

— А многа карысьці з гэтае травы. Плаваеш да пупа ў вадзе, ну, назьбіраеш за лета, здаецца, многа, а сытнасьці ў ёй ні званьня.

Так, балотная трава, прывычная заўсёды сядзець у цёплай балотнай вадзе ўсім сваім карэньнем, засумавала ненарокам.

Адны:

— Бачыце, як увачавідкі чахне яна.

Другія:

— Бачыце, як буяюць аўсы, ячмяні.

— Ну, дык што?

— Нічога, дай каню ці карове і сена і аўса, яны табе скажуць, што ім больш да ўпадобы.

— Гэта кожны дурань ведае.

— Кожны дурань ведае і кожны дурань плача па балотнай траве.

— Яшчэ пабачым, што выйдзе з гэтага аўса.

— Авёс і выйдзе.

— Трава мо' з яго і выйдзе, а коласу напэўна ня будзе.

Гутарыць вёска, а аўсы растуць, растуць... Ідзе лета. Абапал канавы высокія аўсяныя сьцены. Праходзяць людзі, а авёс прыветна ківае мільярдамі галовак-каласкоў.

— Будзе зерне!

На балоце ліпеньская сьпякота. У маленькіх зялёных пялёнках спавіта маладое аўсянае зярнятка. Жыватворчыя праменьні сонца купаюць яго, і яно з кожным днём расьце, паўнее, сьпее...

Залацістым робяцца аўсяныя прасторы. Шуміць, шуміць авёс. На дварэ жнівень.

З вострава вышла жняярка, прайшла ўздоўж лесу, зьвярнулася і ўрэзалася сваімі гострымі зубамі ў залацісты аўсяны лес.

Узмахнула машына сваім крылом і выкінула сноп.

Першы сноп!

— Глядзеце, колькі каласоў, якое зерне!

Так, гэта быў вялікі, ростам з чалавека, сноп з купчастымі каласамі і поўным буйным зернем.

Ня марыла Мара, былая ўладарка гэтых балот.

Ня верылася і многім з нас, бо гэта нова, нязвычайна.

## ЖЫВАЯ КРЫНІЦА

Аднак тое, што ўчора было нязвычайным, сёньня здаецца нам зусім простым, і сёнешняя гісторыя з каласкамі, праз невялікі час, у героічнай былі гэтых дзён будзе казачнай устаўкаю, на якой нават суровы твар расплываецца ў дабрадушную ўсьмешку.

Так фактычна было і цяпер, у часе гутаркі з таварышам Трызнам. Экскурсанты бабруйскіх рабочых, якія да гэтага абышлі ўсё засеянае поле, якія ўбачылі каласістую збажыну, успрынялі гэту ўстаўку так, якбы ім сказалі, што яны не з Бабруйску, а з Нямеччыны.

Аднак, у пытаньні адносін сялянства да культурных мерапрыемстваў у сельскай гаспадарцы ёсьць некалькі вельмі цікавых фактараў. Па-першае: у гэтых адносінах мы бачым ступень падрыхтаванасьці, культурнасьці селяніна. І па-другое: часта выразны клясавы, уласьніцкі падыход.

Шляхціцу хутараніну ніколі не спадабаецца такая сельска-гаспадарчая рэволюцыя, і ён, часам, сьвядома можа прыкінуцца дурненькім і, на жаль, сваімі казкамі аб пустакалосьсі, пустазерні яшчэ можа ўплываць на цёмную, забітую мінулым частку бядняцтва. Але творчыя імкненьні перадавых пластоў соцыялістычнай гаспадаркі—саўгасаў, калгасаў, сваёю ўпартаю працаю, сваім наглядным паказам разьбіваюць усе казкі і плёткі і даюць цудоўныя, новыя ўзоры соцыялістычнага грамадзтва.

Саўгас імя 10-цігодзьдзя Савецкае Беларусі на былых дзікіх балотных абшарах зьяўляецца першым, найбольш яскравым узорам.

Дык вось мы ў саўгасе. Плошча яго на сёнешні дзень 4.218 гектараў. А ўвесь Мар'інскі балотны масыў—да 10.000 гектараў. На астатняй плошчы організоўваецца некалькі колгасаў. Але цэнтральнае месца займае саўгас. Гэта ўжо жывы, малады організм, і асабліва ім сёньня цікавяцца экскурсанты. Шэрагам розных пытаньняў высьвятляем далейшы жыцьцёвы шлях гэтага слаўнага дзіцяці. Многага яшчэ не хапае для яго нормальнага росту. Патрэбны добрыя будынкі, а няма блізка каменьня, гліны. Далёка чыгунка. Але праз нейкі час усё будзе здабыта, бо ёсьць выразная пэрспэктыва.

Саўгас бярэ напрамак—жывёлагадоўлі. Адсюль паўстае пытаньне аб пабудове розных заводаў для пераработкі продуктаў свае вытворчасьці. У першую чаргу намячаецца організацыя маслабойнае справы. Далей—пабудова: крухмальні, алейні, пяньковага заводу і г. д. Такім чынам,

савецкая гаспадарка на Мар'інскім балоце будзе прадстаўляць цікавы індустрыйны цэнтр.

Доўга гутарылі мы з таварышам Трызнам. Ён бачыў зацікаўленасьць сваіх слухачоў і, не зважаючы на сваю стомленасьць, даваў падраб зныя адказы на ўсе нашы запытаньні.

Праўда, рабочая экскурсія, гарадзкія рабочыя не зьяўляюцца „любопытнымі“ слухачамі. Не. Яны прышлі, каб паглядзець, сказаць гаспадарскае слова, даць таварыскую дапамогу і пабрацку прывітаць.

Прышлі сюды і пісьменьнікі таксама не як чужакі, не як выпадкова заблудшыя. Для свае творчасьці ім патрэбна жывая, сьвежая крыніца.

Тут, на гэтым балоце, новая праца, тут, на гэтым балоце, сьвежая крыніца новага сьветлага жыцьця. І яны аб ім будуць сьпяваць.

## У САСОНЬНІКУ, ЛЯ АГНЮ

А тымчасам надышоў змрок. Спыняецца гутарка, і я са сваім таварышом Васілём Кавалём адыходзім па невядомаму для нас напрамку. У нас адна думка: трэба павячэраць і паабедаць. Такую дыктоўку дае нам жывот. Тонкая, складаная, між іншым, штука з усіх бакоў. У даным выпадку ў нас адна фізыолёгічная штука. Проста—мы ад раніцы нічога ня елі. А ў нашых скураных торбачках ёсьць дабраваты кусок сала і ніштаваты акраец хлеба. Адышліся крыху, абмеркавалі і накіраваліся проста ў лес. Праходзячы паўз дом, дзе жывуць спэцыялістыя, мы сустрэлі знаёмых. Даведаўшыся аб нашых намерах, яны адразу прапанавалі нам сваю таварыскую дапамогу, у іх ёсьць патэльня, прымус і іншае. Яшчэ з патэльняю можна было-б мірыцца, а з прымусам у лесе я ніколі не прымірuся. Прашумеў ён мне галаву і дома.

Нас вабіў сасоньнік, залацістыя шыпулькі. Праз паўдзесятка ганок мы былі ў сасоньніку. Шыпулек колькі хочаш. Адна хвіліна, і вогненны бляск цалаваў нашы загарэлыя твары.

— Даставай, Васіль, сала.

— Рабі, Васіль, ражны.

Так мы кажам адзін аднаму. Абудва ж Васілі. Абудва расьлі сярод беларускіх лясоў і пералескаў, абудва пасьвілі скаціну, ігралі на жалейках і так, як сёньня, пяклі на ражончыках сала. Перад намі паўсталі жывыя малюнкі нашага дзяцінства. Мы кожны ўвашлі ў глыбіню сваіх успамінаў і моўчкі рыхтавалі сабе вячэру.

Вогненныя вугалькі пачалі смактаць нашы белыя скваркі. Мы час-адчасу адрываем іх і прыкладаем да лусты хлеба. Мы ловім кожную каплю. Але далей гэта нам ня зусім удаецца, дзесяткі капель, нібы цурком упалі на вугольле і ўспалымнілі яго. Увачавідкі белыя скваркі мяняюць свой колер. Мы пакуль што ловім прыемны, смачны пах. Яшчэ дзьвецеры хвіліны, і мы, нейк маргаючы вачыма, асьцярожна адкусваем ражок гарачае скваркі.

О, якая-ж гэта была смачная вячэра! Эх, цэрабкоп! каб ты так смачна мог карміць сваіх сталаўнікоў, дык цябе ніколі-б ня лаялі за твае „патравы“.

Палажылі на агонь яшчэ некалькі сухіх з шыпулькамі галінак, і зыркае полымя абагнала наш рост. Такое полымя мы падтрымоўвалі дзесяткі хвілін. У гэты час мы абмеркавалі пытаньне начлегу. Гэты лес з зыркім агнём найбольш адпавядаў нашым настроям. Але, зірнуўшы на неба, мы заўважылі, што на сьветлыя прасторы ўсходу насоўваецца цёмна-шэрая сьцяна. Апрача гэтага, не зважаючы на агонь, нас абкружыла балотная заядзь—камары. Бараніцца можна, куцьці яны-б з нас не зрабілі, але ўсё гэта паказвала на дождж.

## НА СХОДЗЕ

А тымчасам вечар наш яшчэ ня скончыўся. У тэатры запалілі агні. Там сёньня сход рабочых і служачых.

Мы пакідаем вогнішча і накіроўваемся на сход. У прэзыдыуме сядзяць мужчыны, жанчыны мясцовых партыйных і грамадзкіх організацый Дакладчык інформуе аб падзеях на Дальня-Ўсходняй чыгунцы, аб кітайскіх падзеях, аб політыцы савецкага ўраду.

Кожны з прысутных на сходзе: і мясцовы саўгаскі рабочы, і спэцыялісты, і сэзоньнік, і бабруйскі гарадзкі рабочы, і пісьменьнік адчуваюць, як Савецкі Саюз напружана працуе на пабудове адзінае ва ўсім сьвеце соцыялістычнае гаспадаркі, кожны адчувае вялізную гістарычную ролю компартыі ў справе вызваленьня працоўных, і таму ўся аудыторыя зьлілася ў адзін голас, голас протэсту супраць тых, хто перашкаджае нашаму будаўніцтву. Савецкае грамадзтва адказвае імпэрыялістым сваёю ўпартаю працаю, сваёй падпіскаю на пазыкі, сваімі ўзносамі на пабудову самалётаў і г. д. І ў даным выпадку рабочыя адзін аднаго пачалі выклікаць на падпіску трэцяй пазыкі індустрыялізацыі.

Вельмі карыснымі зьяўляюцца сумесныя вечары гарадзкіх рабочых з сельска-гаспадарчымі. Узаемнае азнаямленьне з вытворчасьцю, таварыская гутарка—усё гэта ўмацоўвае сувязь і спрыяе творчаму ўздыму. Паездка бабруйчан у м. Любань і ў саўгас выразна паказвае гэта.

Вось толькі няхай не пакрыўдзяцца на нас бабруйскія таварышы-экскурсанты, калі мы ў парадку таварыскае самакрытыкі выкажам такую думку: хоць аднаму з вас трэ‘ было сказаць сваю прамову на беларускай мове. Тым больш, што амаль усе мясцовыя работнікі і ў Любані і ў саўгасе выступалі на беларускай мове. Нам здаецца, што, едучы ў вёску на змычку з працоўным сялянствам з рабочымі саўгасаў, варта гэта мець на ўвазе. Гэта пытаньне не формальнага парадку. Гэта пытаньне зьдзяйсьненьня гегемоніі пролетарыяту ў адносінах да асноўных сялянскіх мас Беларусі. Гэта будзе толькі спрыяць найцясьнейшай сувязі.

Хутка разварочваецца белая заслона—экран. Блісьнуў агонь перасоўкі, і на экране знаёмая нам карціна. Усё-такі глядзім тры часткі, ня

хочацца пакідаць гэтае аудыторыі. А на дварэ пачаў пакрапваць дожджык. Да нас пачаў чапляцца сон. Спачатку мы прабавалі бараніцца. Але што ты будзеш бараніцца, калі ён так ласкава, так прывабна абдымае нас і заве ў гумно на пахучае сена. Служачы саўгасу, студэнт менскага рабфаку, запрашае нас да сябе ў невялічкі пакой. Нам успомнілася, як адзін мэліоратар нёс у свой пакой бярэмя палыну. Гэтым ён змагаўся з чорнаю кавалерыяй—скакунамі. Ня маючы такое зброі, мы рашылі ў рукапашную схватку з імі ня ўступаць.

— Вядзі, браток, на сена.

## АДПАЧЫНАК, ДУМКІ І СОН НА СЕНЕ

Начны вартаўнік адчыніў нам дзьверы вялікае стайні, і мы палезьлі на вышкі.

— Паволі там, хлопцы, бярэцеся ўправа,—кажа нам вартаўнік,—бо там ёсьць дзірка, праз якую мы скідаем коням сена. Ды толькі-ж ня курэце.

— Што вы, дзядзька, хіба-ж мы ня ведаем.

— Ну, дык сьпеце на здароўе.

Бразнулі важкія дзьверы. Нас замкнулі. Мы ляжым.

— Ды яно ня дрэнна было-б тут і з дзяўчатамі,—так, па шчырасьці, сказаў адзін Васіль.

— Ды яно-ж так,—па шчырасьці адказаў другі Васіль. А тымчасам сон так абняў нас, што мы больш нічога ня чулі. Кажуць, што сплючы на новым месцы, заўсёды што-небудзь зьвярзецца. Ня ведаю, аб чым я думаў, кладучыся спаць, а толькі прысьнілася мне рэдакцыя „Чырвонае Зьмены“. Праўда, перад адпраўкаю ў падарожжа мы заходзілі ў рэдакцыю „Ч. З.“ і прасілі авансаў. Нам тады не далі, прапанавалі пакінуць заявы з адрасам і абяцалі надаслаць. Наш маршрут ляжаў праз Мазыр, і таму мы ў заяве напісалі: „Мазыр, да запатрабаваньня“. Дык вось бачу я ўва сьне: прыходзім мы ў рэдакцыю „Чырвонае Зьмены“ і просім аванс Нейкі высокі, з кудлатымі чорнымі валасамі хлапец глянуў на нас з-пад ілба, усьміхнуўся і палез у столік. Палез у столік і дастаў шмат ні то пяцірублёвак, ні то чырвонцаў. Патрымае ён іх у руцэ, і, пазіраючы з-пад ілба, з тэю-ж самаю усьмешкаю дае іх мне. Бяру, аж бачу, яны зрабіліся нейкімі цьмянымі, як-бы цьвілымі. Гляджу я на іх і ня ведаю, што рабіць. „Бяры“—кажа мне гэты хлапец. Я намерваюся класьці іх у кішэню, але не пасьпеў я данесьці да кішэні свае рукі, бачу, у руках нічога няма. Пуста. Мацаю тую самую кішэню, куды я іх меўся паласьці—і там няма. „Што ты, сьмяешся, браце?—кажу я. А ён такі сапраўды пазірае з-пад ілба і сьмяецца. Гляджу я на дзьверы, а яны то адчыняюцца, то зачыняюцца, самі, ніхто іх не чапае. Далей, усё шпарчэй і шпарчэй і нарэшце пачалі страшэнна грукаць і зьвінець. Прачынаюся. Чую, бразгае пад намі ў стайні ланцугом конь, грукае аб жолаб. Вакол

цёмна. Значыць, яшчэ трэба спаць. Я засынаў, але, мусіць, не надоўга. Коні, мусіць, ня ведалі, што ў стайні на вышках начуюць госьці, і трымалі сябе даволі разьвязна, хрумалі, пырхалі, грукалі і г. д.

Аднак, мы праляжалі да высокае раніцы. Праз шчыліны шчыткоў праменіла раньняе сонца. Мы ўжо даўно ня сьпім, а проста ляжым і слухаем, ловім гукі абуджанага раніцай востраву. Мы чулі мужчынскія і жаночыя галасы, цоканьне на жалезных восях калёс, іржаньне коняй, трэск жняяркі і безьліч розных блізкіх і далёкіх гукаў. Мы па ўсіх гэтых гуках угадвалі пульс маладога жыцьця гэтага востраву. Мы нібы слухалі своеасаблівую шумавую музыку.

## „БЛАСЛАВЕНЬНЕ“ НА ДАЛЕЙШЫ МАРШРУТ

Позьні вечар прадракаў пахмурую раніцу, але ліпеньская ноч зрабіла пасвойму і дала зыркую сонечную раніцу, якая ўжо відавочна рыхтавала дзенную сьпякоту. Непадалёку калодзеж. Кубкі ў нас свае. Паліваем адзін аднаму на рукі, шыю, галаву і нават на плечы. Халодная вадзіца бадзёрыць нас. Мы шкадуем, што ня ўсталі крыху раней, але цьвёрда рашаем дабрацца сёньня да Арэсы. У сталоўцы пад навесам можна пасьнедаць. І трэба сказаць, што за невялікія грошы нас добра накармілі. Накіроўваемся да т. Трызны, каб яшчэ раз пагутарыць і ўзяць „благаславеньне“ на далейшы маршрут.

У канторы мы сустрэлі мэліоратара т. Ігнатовіча. Ён вельмі гасьцінна разлажыў топографічныя карты і растлумачыў нам увесь балотны рух Савецкае Беларусі. Вось аловак яго абышоў суседні з Мар'інскім Загальскі масыў, які налічвае 60.000 гектараў. Вышукальныя партыі працуюць ужо там. Тав. Трызна якраз зьбіраецца наведаць іх і прапануе нам „прагуляцца“. Але нас вабіць Арэса з землячарпалкамі. Нам хочацца прайці па галоўнай канаве ўздоўж буйных зялёных аўсоў. На старонках нашага блёк-ноту вызначаецца маршрут, і мы адыходзім. Тав. Ігнатовіч шкадуе, што мы, накіроўваючыся ў спэцыяльнае падарожжа, не зайшлі ў Наркамзем, дзе нам маглі-б даць дасканалае тлумачэньне і дапамаглі-б картамі. Зразумела, што мы ўяўляем сабе ўсю Беларусь і паасобныя акругі, але на месцы хочацца больш выразна ўявіць сабе край нашых балот. Гэта-ж сапраўды перакройваецца зямля. Гэта добра ўяўляюць сабе закройшчыкі, гэта трэба ведаць і пісьменьніку.

Тав. Ігнатовіч кажа нам аб Новай зямлі, аб Брагінскім балотным масыве. Ён раіць нам пабываць там. Здаецца, што гэты балотны масыў будзе найбольшым у БССР. Запісваем і гэты маршрут.

— Пішэце-ж толькі аба ўсім падрабязна,—кажа ён нам з усьмешкаю.

— Абавязкова,—адказваем.

— Едучы з Любані, вы, здаецца, некага падвозілі.

— Падвозілі,—адказваем. Мы ехалі, а па дарозе ішла ў сваю вёску з коопэратыву дзяўчынка, ну, дык чаму-ж нам не падвезьці яе.

— Дык вось пра гэта і ўпішэце.

Тым часам сонца ніштавата прыпякае.

— А ваду з сабою бераце?

— Не,—адказваем мы.

— Ой, пасмагнеце, хлопцы, бярэце ваду, а то заскочце на наш склад ды вазьмеце нарзану, там, здаецца, яшчэ павінен быць.

На складзе мы дасталі дзьве бутэлькі нарзану, кусок сала і хлеба. Напакаваўшы свае скураныя торбачкі, мы пакідаем гэты рэволюцыйны балотны штаб і накіроўваемся на галоўную канаву, галоўную артэрыю гэтага новага жывога організму. А востраў—саўгас—сэрца б'ецца і сваёю жыватворчаю сілаю напаўняе ўсе часткі свайго маладога цела.

## УЗДОЎЖ КАНАВЫ

Мы на шырокай канаве. Абапал залёнакудрыя аўсы. Паўз іх, беражком канавы ідуць вузенькія сьцежачкі. Гэта нібы нейкія жывыя істоты, якія балюча ўгінаюцца, калі ступаеш, і толькі перастаўляеш нагу, яны зноў стараюцца выраўняцца. Спачатку нейк дзіўна адчуваеш сябе, здаецца, шкада ступаць па іх. Жывая зямля.

Ціха, урачыста ідзе вада. Спакойна стаяць аўсы. Цішыня. Балотная цішыня. Яна зусім адрозьніваецца ад лясное цішыні. Цішыня ў лясных нетрах часам павявае нейкім неспакоем, нават трывогаю, а тут нейкая лагодная цішыня. Нам здаецца, што і аўсы і вада ў канавах прыслухоўваюцца да кожнага чалавечага кроку. На сьцежцы нязьлічоныя мільярды нейкіх белых мошак. З кожным нашым крокам яны ўзьлятаюць, даюць нам дарогу, але вялікая колькасьць іх прыліпае да нашага адзеньня.

А сонца пячэ. Духата. Праходзім дзесятак кілёмэтраў. Крыху аднастайна. Нейкая стэпавая роўнядзь. Мне ўспамінаецца прошлагодняя паездка з украінскімі пісьменьнікамі ад Дніпропетровську да Запоріжжя. Мы праяжджалі па роўнай, бязьлеснай плошчы, стэпам. Страшэнна было горача. Ад чорнага пылу мы рабіліся нейкімі чорнаскурымі. Мае думкі пераскаквалі ў свой родны лясок, на прыгожыя паляначкі, на грэбелькі і рэчкі з дрыўлянымі масточкамі.

— Не ўяўляю сабе,—кажу я,—як гэта жывуць людзі ў такой пустыні. Нідзе ніводнага дрэўца. Гола, аднастайна.

— Нэ можу увявіть собі, як цэ можно жыть у лісі?—кажа поэта Юры Яновські.—Там нэ мае вока ніякого простору. Всэ зачинено.

Мы доўга не спрачаліся, бо ўсёроўна ніводнаму з нас не ўдалося-б пераканаць другога.

Але наша стэпавая роўнядзь не такая ўжо вялікая. Перад вачыма віднеецца лес. І зялёнае аўсянае мора, замест гнілое балотнае вады і дзікае травы, прыемна ласкае вока падарожніка. Мы перакідваем з пляча на плячэ свае торбачкі, страсаем з ілба каплі поту і ідзем далей. Да нашае канавы справа і зьлева далучаецца яшчэ некалькі канаў, і яна

такім чынам робіцца больш паўнаводнаю і крыху нагадвае рэчку. Прайшоўшы так званы асінавы мосьцік, мы спыняемся, каб адпачыць і закурыць. Прыкурваем і кідаем пад ногі сярнічку. Не пасьпелі мы дакурыць, як заўважылі ля сваіх ног дымок. Ад кінутае намі запалкі загарэлася зямля. Ліквідуем гэты „пажар“, праходзім некалькі крокаў і бачым вялізную, высмаленую лапіну зямлі. Гэта была яшчэ сьвежая лапіна і пахла тысячагодняю расьліннасьцю балота.

Да нас даходзяць далёкія гукі, падобныя да гукаў малатарні. Ідзем далей і ўжо выразна распазнаем гукі стальных коняй. Аўсянае поле засталося ззаду. Абапал нас ляжалі дзірваны ўзадранае травяністае глебы а далей перад вачыма, перад лесам—травяністыя прасторы, па якіх, нібы чорныя жукі, поўзалі трактары. Іх тут было абапал канавы адзінаццаць штук.

Непадалёчку хлопцы з вёскі Кузьмічы пасьвілі свае коні. Забаўляюцца сабе хлопцы, седзячы ў гурце. Памахваюць хвастамі коні, ходзячы ў гурце. Відаць, што яны ніштавата сябе адчуваюць. Яны дачакаліся надзейнае зьмены. На іх цяпер будуць ускладзены больш лёгкія абавязкі. У новай гаспадарцы коні атрымаюць іншае прызначэньне, далёка не такое, якое мелі ў гарэтнага беднага селяніна. Машына вызваляе ад пакуты ня толькі гарэтнага чалавека, а і яго добрага сябра—каня.

— А ці далёка яшчэ да Арэсы?

— А яшчэ каля дзесяці вёрст,—адказвае нам трактарысты, які сядзеў пры канаве і чакаў свайго часу, каб зьмяніць свайго таварыша.

На балоце страшэнная парнасьць. Так і хочацца вылузацца са свайго адзеньня і шабулдыхнуцца ў ваду. Згушчаліся на небе шэрыя хмаркі. Перад намі ўвесь час круцілася ў нейкім шалёным танцы вялікая куча машкары. Пахла дажджом. Апошнімі каплямі нарзану прамочваем свае вусны і набліжаемся да лесу.

Тут ужо канава набыла памеры ніштаватае рэчкі. З густога алешніку выцякала крынічка. Мы, стомленыя духатою, прыселі на паваленае дрэва каб крышку адпачыць, напіцца сьвежае вадзіцы. Арэса недалёка, было каля 3-х гадзін дня. Нам, здаецца, можна было-б і не сьпяшацца, але на гэты лес пачала насоўвацца цёмная хмара. Тут-жа валялася дрыўлянае гнільлё. Распаранае сьпякотаю, яно напаўняла лес страшэннаю задухаю. Гэты балотны лес пад цёмнаю хмараю, пах гнільля і сапраўды мёртвая ціш прыдушваюць чалавека, і яму хочацца вырвацца адсюль на больш прасторную, больш ясную мясьціну.

Мы вышлі на палянку і ўбачылі хутар. Ён быў крышку ў баку ад нашага маршруту, але гэта было пэўнае месца, дзе можна было схавацца ад надыходзячага дажджу. Толькі мы прыпалі да калодзежа, паскідалі сарочкі, каб прыняць халодны душ з вядра, як раптам лупянуў такі „душ“, ад якога мы, не пасьпеўшы адзець сарочак, павінны былі ўцякаць у сенцы. Гэта была тыповая палеская хата з шэрымі, няпрытульнымі сьценамі, з крывымі зэдлікамі і ложкамі на крывой падлозе, з жор-

намі і іншымі прыладамі старажытнага палешука. Аднак у гэтай няпрыветнай хаце знайшлася прыветная гаспадыня, якая накарміла нас вельмі смачным кіслым малаком. Пакуль мы спаражнілі міску, хмара праскочыла, і на дварэ зноў прамянілася ліпеньскае сонца і цалавала сьпелае жытняе калосьсе.

А дробнае на гэтым хутары жыта, рэдзенькае, сьвіціцца. Мы праходзім палянку, гэтую выспу і трапляем на Арэсу, у штаб „вадзянікоў“.

## У ШТАБЕ ВОДНІКАЎ

На правым беразе гэтае натуральнае воднае артэрыі стаяць два новых будынкі, а на самай рэчцы віднеецца сьвежанькая брандвахта. Гэта плывучы, жыльлёвы, нават, двухпавярховы будынак. У ім ёсьць спэцыяльны пакой для прыежджых.

Нам хочацца хутчэй пабачыць машыны, якія кілзаюць Арэсу, часам вызначаюць ёй іншы напрамак. Кантора, у асобе кіраўніка работамі, студэнта нашае сельска-гаспадарчае акадэміі, дае нам мажлівасьць, вызначае аднаго хлапца і прадастаўляе чайку. Мы едзем уверх па Арэсе да бліжэйшае зямлячарпалкі. Босы хлапец, з якім мы ехалі, быў студэнтам Менскага політэхнікуму. Ен тут адбываў сваю практыку, праўда, яшчэ першы год, але, відаць, што ён цікавіцца сваёю работаю і ахвотна расказвае нам абу усім, што ведаў.

Тымчасам з галоўнага рэчышча мы зьвярнулі ў нейкае другое, відавочна, сьвежае. Берагі абапал былі пакрыты шэраю зямлёю. Усё гэта паказвала на сьлед нейкае пераможнае страшыдлы. Калі мы ціха падплывалі да гэтага балотнага жалезнага волата, у гэты момант ён чамусьці змоўк. Мы занепакоіліся, што не пабачым яго рухаў, яго жыцьця. Рабочыя аглядалі яго зубы, шыю і сказалі, што хутка заварушыцца і пачне грызьці зямлю.

Не прайшло 5—8 хвілін, ён сапраўды зварухнуўся, загуў, забразгалі ланцугі, ён расчыніў сваю ляпу і сваімі гострымі трыма зубамі ўрэзваўся ў зямлю і адкідаў яе у бок.

І так пакрысе ён адгрызае і выкідае кускі зямлі і так рытмічнымі крокамі пракладвае ён новае рэчышча.

Ціха плыве наша чайка назад да плывучага дому. Мы дзелімся сваімі ўражаньнямі з кіраўніком работ. Ён малюе нам будучы рух на Арэсе з яе лайбамі і нават караблямі.

Надыходзіў надвячорак. Мы рашаем дабрацца да бліжэйшай вёскі. За кілёмэтраў дзесяць, уніз па Арэсе, ёсьць вёска Убібачкі. Бліжэйшы шлях вадою. Нам далі невялічкую, вузенькую, меленькую чайку. Дагаварыліся з адным рабочым, і ён згадзіўся давезьці нас. Страшнавата крыху садзіцца ў такое карыта, але-ж нашто паказваць свой страх, ды асабліва ля берагу. Мы сьмела ўлазім, але хутчэй садзімся, каб захаваць роўнавагу.

## ВЯЧЭРНЯЯ СЫМФОНІЯ АРЭСЫ

Мы паплылі. Ціха булькае пад вяслом вада і сям-там бліскае рыба, нібы ёй хацелася падскочыць як мага вышэй, каб паглядзець на нас.

Вакол нямая ціш. Які цудоўны быў-бы адпачынак, калі-б замест такое зыбкае чайкі было што-небудзь больш прасторнае!

Збоку, за лесам бліскала маланка і відавочна сунулася хмара. Едзем далей і чуем штосьці ў зарасьніку шаснула. Мы прыглядаемся, і раптам перад нашымі вачыма зьявілася нейкая капа. У канцы яе сядзеў чалавек у белай кашулі і накіроўваў гэтую капу да другога берагу. Мы стрэліся. Чалавек, на крыху большай чайцы, перавозіў сена. Яно зусім закрывала бакі чайкі і зьвісала ў ваду, і такім чынам атрымоўвалася такое ўражаньне, што гэтая капа плыве сама і толькі нейк штучна прымайстраваўся да яе чалавек. Мы прыглядаемся, адкуль усё гэта ўзялося. У бераг урэзвалася вузенькая вадзяная істужка. Прыкрытая густым чаротам, яна нагадвала нейкі таемны ход маўклівае пячоры. Мы абагналі гэтую плывучую капу.

Да нас даносіліся далёкія, але выразна драпежныя гукі. Па гэтых гуках мы адчувалі, што гэта была нейкая вялізарная і вельмі злосная істота. Яна сваім рэвам неміласэрна прарэзвала надвячэрную цішыню Палесься. Загула зямлячарпалка ў Опіне, ёй адгукнулася яе сяброўка з Ніжына. Гэтыя гукі зьліваліся ў магутны акорд цудоўнае балотнае сымфоніі.

Пачаў накрапваць дождж. Мы ўтуліліся ў сваё, даволі лёгкае адзеньне, сьцішыліся і слухалі гутарку вады з вадою. Адна падала зьверху, а другая была пад нашай чайкаю. Праехалі ганок з пятнаццаць і дзіва дзіўнае! Тая ж самая плывучая капа была ўжо наперадзе нас.

— Гэта мусіць нейкая падводная, альбо паветраная чайка,—жартавалімы. Аказваецца, што гэтая рэчка мае шмат фокусаў. Тут ёсьць натуральныя абрэчкі і нават штучныя канавы. Арэса ідзе з выкрунтасамі, каленамі, а яны так, нацянькі. Тубыльцы ведаюць іх добра і шмыгаюць сабе.

Хмара толькі бокам зачапіла нас, дождж скора праходзіў. Шэры змрок пачаў атульваць спачатку дальнія прадметы, пасьля ён набліжаўся бліжэй і бліжэй, захапляў кусты, рабіў іх нявыразнымі, зьліваў у нейкія цьмяныя сілуэты.

Едучы паўз густы чароцісты бераг, калі вы сядзіце ў вядзяной баразьне, якую робіць ваша вузенькая чайка, вы ня ўбачыце, што робіцца на гэтым бліжэйшым беразе, нават калі на дварэ зусім яшчэ відно. А тут-жа шэры змрок. Мы пачулі спакойнае нейкае задаволенае гаганьне гусей і лёгкі гоман людзей. Гэта была вёска Убібачкі.

Перад намі ўпоперак рэчкі пераплывала чайка. У ёй моўчкі стаялі ўзброеныя, у белым адзеньні, людзі. У мяне мільганула некалькі малюнкаў ні то са старажытнае Русі, ні то з рыцарскіх паходаў сярэднявечча.

Чамусьці ўспомніўся сьмешны малюнак з нейкага падручніка па гісторыі з бязглуздым надпісам: „Брат Глеб, вели грести да поможем нашему сроднику Александру“. Я ўглядаюся на гэты таемны малюнак і пазнаю сапраўдных рыцараў, ды толькі не сярэднявяковых крывавых часоў, а рыцараў сёнешніх дзён, рыцараў працы, узброеных косамі Пад'яжджаючы да берагу, мы напаткалі яшчэ некалькі такіх дэсантаў.

На беразе чупырылася вялікая чарада гусей. Нажыраваўшыся за дзень, яны ціха, але вельмі задаволена гагалі. Непадалёчку бліскаў белы агонь і відаць было многа наваленага бярвеньня, а на рэчцы стаяў вялізны, яшчэ ня зусім скончаны пантон. Ля гэтага белага агню—сьлясарнае жароўні—корпаўся хлапец.

Гэта быў малады сьлесар і на сёнешнюю ноч застаўся вартаваць маемасьць частак новае машыны. Яна выпісана з Нямеччыны, яна значна большая, чым тыя тры, якія працуюць, яна мае новую, больш удасканаленую конструкцыю. Цікава, што для яе падрыхтаваны закрыты зьверху пантон. Мы аглядаем часткі, якія тут на беразе ляжалі. Малады хлапец ахвотна нас вядзе на пантон і ў сваіх тлумачэньнях, я сказаў-бы, з захапленьнем накідвае рысунак будучае работы гэтае гіганцкае машыны. Мы дзякуем таварыша і накіроўваемся ў вузенькую брудную вулічку. Таварыш, які нас вёз у чайцы, прапанаваў паказаць хату, дзе можна пераначаваць.

Павінны адзначыць, што на працягу ўсяго нашага балотнага і воднага маршруту з боку рабочых і адміністрацыі Мар'інскага колфонду мы сустракалі самыя ўважныя і таварыскія адносіны. Мы з падзякаю ўспамінаем іх. Далей фортуна нам крыху здрадзіла.

## ЗА СЬВЕТЛЫ ДОМ КОМУНЫ

Дык вось тыповая палеская вёска Убібачкі, альбо, як многія з убібачан кажуць, Бібацкі. Крывыя, шэрыя, дранкамі накрытыя, з маленькімі вокнамі хаты. Брудныя двары з парканамі, безьліч з падпоркамі азяродаў, бруд і няпрытульнасьць—вось узор старое, дзікае вёскі. Такая абстаноўка ня можа выхаваць больш-менш культурнага чалавека, адпавядаючага нашаму часу, часу соцыялістычнай перабудовы жыцьця. Яна можа даць дзесяткі кулакоў і сотні здушаных цемнатою і галечаю сем'яў, яна можа даць старца, злодзея, разбойніка. Хапала-ж тут у часе грамадзянскае вайны сьвядомых і несьвядомых бандытаў. Паглядзіш вось на такую спадчыну мінуўшчыны і хочацца жорстка разбурыць, каб і ценю не засталося; злучыць усе мазольныя рукі і накіраваць іх на адзіную, творчую, колектыўную працу, збудаваць вялікі, чысты, сьветлы дом камуны!

І гэтая работа ў глыбі Палесься пачалася. Гэта будзе зроблена і з Убібачкамі. Там цяпер ёсьць мэдычны пункт, больніца, школа, комсамол. Савецкая ўлада ўзялася за фізычнае і інтэлектуальнае

аздараўленьне цёмнага працоўнага люду. Ён выйдзе на сьветлы Ленінскі шлях.

Начавалі мы ў адрынцы, на вільготным аеры. Нельга сказаць, што мы добра адпачылі, але пракідаліся да раніцы і вышлі на двор, калі ўжо даволі зырка сьвяціла сонца. Пасьнедаўшы, мы наведалі коопэратыў, запасьліся папяросамі і меліся наняць фурманку да Пасталоў. Але гэта была гарачая пара возкі снапоў, і таму загародзілі такую цану, што мы адразу накіраваліся з Убібочак на сваіх уласных. Нам належала прапрамераць ня менш трыццаці кілёмэтраў. Дарога ня зусім вялікая, але калі мы вышлі за вёску і трапілі на пясок, ды калі нам сказалі, што тут будзе скрозь пясок, мы адчулі, што дарога будзе ня лёгкаю. Але куды-ж ты дзенешся - раз вышлі, трэба ісьці.

## СУСТРЭЧА З ПАНАМ КАТЛОМ

А пад нагамі ўсё пяскі і пяскі. Абапал неўрадлівая збажына. На гэтых пескавых прасторах, сярод рэдзенькае збажыны сям-там тырчаць купчастыя, каржастыя сосны. Яны адны змагаюцца з пяскамі і нібы на злосьць ім знаходзяць дзесьці сокі і харчуюцца, і хоць павольна, а растуць.

Палесьсе—дзіўная краіна. Тут лес пакрывае і балотныя і вядзяныя прасторы, і пескавыя выспы. Тут на аднэй невялічкай лапінцы зямлі разам ужываюцца: і бярэзінка, і сасонка, і дуб і многа іншых рознавіднасьцяй ляснога царства. І ўся гэтая разматасьць складае асаблівае хараство гэтае краіны.

Заваяваць балота – гэта значыць атрымаць вялікую перамогу на с.-г. соцыялістычным фронце. Але на гэтым барацьба ў Палесьсі ня скончыцца, патрэбна будзе заваяваць пустынныя пескавыя астравы, якіх тут нямала.

Перад намі быў лес. Міжвольна павялічваліся нашы крокі, і праз некаторы час ён атуліў нас ценьню свае купчастае бярэзіны і сваім лагодным халадком. А сасмаглыя вусны прасілі піць. Тут-жа, пад сасною, прыемна ўсьміхалася буйная чарніца. Мы неміласэрна накінуліся на яе і тут-жа ўбачылі, што вакол нас гэтае чарніцы, як украінцы кажыць, „сыла сылэнна“! Мы ня толькі прагналі смагу, а нават крыху пад'елі. Праўда, пасьля гэтага такая, на яе ліха, уелася аскома, што я дзён тры ня мог есьці хлеба.

У лесе на вузенькай дарожцы мы заўважылі групу, чалавек пяць мужчын. З сякерамі, з рыдлёўкамі яны пашыралі і зараўноўвалі дарогу. Які-ж гэта шырокі пан мае тут праехаць?

Тут мае праехаць сам пан Кацёл. Той кацёл, для якога падрыхтаваны пантон і без якога землячарпалка не распачне свайго жыцьця.

Прайшоўшы так кілёмэтраў са два, мы напаткалі гэтага пана. О, які-ж вялікі, важкі пан! На тройцы вараных-стальных! Тры трактары запрэжаны. Ён з пагардаю сядзеў у сваім вялізным фоэтоне і чакаў,

пакуль працярэбяць яму шырокую дарогу. Дык вось хто ўчора сваімі гукамі прарэзваў надвячорную палескую ціш; гэта іржалі стальныя коні, вязучы такога важнага і важкага пана Катла. А везьлі яны яго з чыгункі, з Пасталоў, куды якраз мы трымалі напрамак. Сярад лесу, пералескаў, дзе часта дарога блытаецца і дае розныя галінкі, лёгка можна схібіць. А тут нам пашанцавала—трактары пакінулі сьляды, і мы па іх ішлі.

## РАШОТНІК І ХУТАР, ДЗЕ „НІКОГА НЯМА ДОМА“

За ўвесь маршрут, фактычна пад канец яго, нарэшце, напаткалі чалавечае жыльлё. Хоць будовы стаялі крыху ў баку ад дарогі, але мы рашылі прайсьці паўз іх. Каля хляўчука сядзеў пажылы гадоў пад пяцьдзесят мужчына і station шырокія палоскі дрэва. Вакол яго, на плоце, на сьцяне хлява вісела многа сьвежанькіх рашотных абечкаў. Мы пытаемся, дзе-б тут можна было вады напіцца. Ен дастаў вялікі бляшаны імбрычак і прапанаваў выпіць перагатаванае вады. Выпілі, пачалі гутарыць. Мы пачулі цікавую, беларуска-украінскую мову. На Мазыршчыне часам сустракаюцца украінізмы, а тут у яго беларускіх словах панавала украінскае вымаўленьне.

— Даўно вы тут жывяце?—пытаем мы.

— А я тут нэ жыву, я сам чэрніговськы.

— Ага, цэ вы, значыть, з Украіны.

— Эге-ш. Була колысь Росія, тэпэр Вкраіна на Чэрніговщыні.

— А що, хіба там нэмае лісу?—пытаем мы.

— Ліс е, та нас богатько.

Зразумела. Там многа рашотнікаў, і ён прышоў сюды, дзе менш людзей занята гэтым рамяством, дзе лепшы рынак збыту. Што-ж, рэшата патрэбная ў гаспадарцы прылада. Я ня ведаю, ці існуюць у нас арцелі рашотнікаў. Калі іх няма, дык саматужна-прамысловаму саюзу варта было-б што-небудзь у гэтым напрамку зрабіць.

У часе нашае гутаркі з дзьвярэй хаты асьцярожна высоўвалася чалавечая галава і паглядала на нас. Каб выйсьці на дарожку прасьцей, рашотнік параіў прайсьці праз двор гаспадара хутара. З хаты на спатканьне нам выбегла, так, дзевяцігадовая дзяўчынка і спужана пачала лепятаць „Нікога няма дома, нікога няма дома“. Мы зусім ня зьбіраліся заходзіць у хату і не зварачалі на яе асаблівае ўвагі. Рашотнік нас папярэдзіў, што тут ёсьць вельмі паганы сабака і, праходзячы праз гэты двор, наша ўвага была скіравана на тое, каб гэты сабака ўпатайкі ня цяпнуў нас за калошу. Але гэты спужаны выгляд дзяўчынкі і яе трывожнае лепятаньне „нікога няма дома“ перавялі нашу ўвагу на яе і на гэтую самую хату, дзе „нікога няма дома“. У вакне мы заўважылі сапраўднага мужчыну. І, як нам здаецца, гэта быў гаспадар гэтага хутару. Але няхай сабе, на здароўе, яго „ня будзе дома“. Нас правёў крыху рашотнік, а далей сабака, і мы пашлі сабе ляском—на Пасталы.

## ПАСТАЛЫ, ДЫ ТОЛЬКІ НЯ ЛАПЦІ, А ЗАВОД

У Пасталох вялікі лесапільны завод.

Быў перадня дзельны, суботні дзень і „іжэ сьвятити“ яго пашлі на адпачынак. Але гэта мо' і ня так важна, у які дзень адпачываць. Адпачынак у працы павінен быць. Але нам не пашанцавала, мы не маглі пабачыць гэтага заводу ў поўным яго руху. Праўда, лесапільны завод на Беларусі вельмі звычайная зьява. Амаль у кожным мястэчку мы знойдзем такое камбінаванае прадпрыемства, як пільня, млын, воўначоска, сукнавальня, крупадзёрка і г. д. Калісьці падросткам даводзілася і мне некалькі разоў за 30 капеек, са сваёю торбачкаю ўвесь дзень складваць латы на аднэй пільні. А то, бывала, прыдзе падзёньнікаў хлапчукоў 30, выберуць пяцёх, а дваццаць пяць—пашлі дахаты.

Мы накіраваліся ў коопэратыў,—каб чаго-небудзь купіць і падсілкавацца, але нічога такога там не знайшлося. Рабочыя параілі нам накіравацца ў сталоўку. Адзін з іх ласкава правёў нас, але гэта быў надвячорак, полудняў ужо ня было, буфэт таксама быў зачынены, і буфэтчык меўся выходзіць. Прыбіральніца разьліла ўжо на падлозе ваду, старэнна шаравала яе і таксама старэнна зычным голасам выводзіла „разукрашу ее, как карцінку, залатую пастаўлю каравацъ“. Дзякуй яму, буфэтчык, даведаўшыся, што мы падарожнікі, даў нам мажлівасьць прагнаць смагу шлянкаю хоць не асабліва смачнага, але халоднага квасу.

На жаль, ня памятаю прозьвішча таго рабочага, які прыводзіў нас у сталоўку, але з гутаркі відаць было, што гэта—перадавы рабочы, добра ведаў жыцьцё заводу, з ім мы і накіраваліся да таго дому, дзе быў пакой для прыежджых. Па дарозе мы напаткалі дырэктара заводу т. Муца, але мабыць ён быў, як кажуць, ня ў гуморы, і на наша запытаньне адносна начлегу працадзіў:—ня ведаю, калі ёсьць там месца... Мы з гэтым рабочым пашлі ў пакой, адпачылі крыху, пагутарылі і накіраваліся ў клюб.

У бібліотэчным пакоі было некалькі маладых хлапцоў. Стаялі шафы, на сьцяне вісела насьценная газэта. Мы прачыталі гэтую, нядрэнную на выгляд, але цалком на расійскай мове, газэту „Голос Труда“, запыталіся ў хлапцоў адносна бібліотэкі, гурткоў і інш. Сярод іх знайшоўся адзін, бібліотэкар. Гэты хлапец працуе проста ў парадку комсамольскае нагрузкі. Ён ахвотна расчыніў шафы, і мы мелі мажлівасьць азнаёміцца з гэтаю культурнаю ўстановаю. Бібліотэка нішатватая, каля 8 тысяч кніжак, але з гэтых 8 тысяч—яурэйскіх 32, беларускіх 22. А на заводзе ёсьць многа беларусаў і нямала яўрэяў. Відавочна, што тут беларусізацыя разгорнута яшчэ недастаткова, недастаткова абслугоўваецца і рабочы чытач яўрэйскае кнігі.

Мы прышлі ў гэтыя самыя Пасталы і меліся сесьці тут у поезд вузка-чыгункі і выехаць на Мазыр-Калінкавіцкую лінію, а адтуль бала-

голам у Петрыкаў. Але мы спазьніліся, і заўтра, у нядзелю, таксама не прадбачылася поезда. Такім чынам, плян нашага маршруту парушаўся. Мы рашаем у пэўны час быць на Прыпяці. Мы маем адзін дзень і амаль пяцідзесяцікілёмэтравую дарогу. Мы распытваем дарогу на возера Князь, і, нарэшце, адзін комсамолец згадзіўся паказаць нам прасьцейшую дарогу, праз кладкі.

## КРЫХУ АКРОБАТЫКІ Ў БАЛОТНЫХ НЕТРАХ

І вось мы на гэтых кладках. Яны пралажаны праз страшэнна гнілое балота і вядуць у вёску Дзякавічы. Ня ведаю, як яны выглядалі новымі, а цяпер гэта ў большасьці падгніўшыя бярвеньні, якія ляжалі адно за адным у густой гразі. Між згніўшае абалоні тырчэлі асьлізлыя сукі. Яны мо' часамі памагалі назе, але затое, неасьцярожна ступіўшы на яго, лёгка можна было зьляцець у страшэнную зеленаватую жыжу. Часамі гэтая кладка на крокаў два перарывалася і тады трэ' было злаўчыцца і скокнуць. Мясцамі гэтая жыжа прыкрывалася нейкім дзікім зельлем, і здавалася, што там будзе цьвёрды грунт, і часта хацелася ступіць, але, неасьцярожна абапёршыся кіем, можна было лёгка пераканацца, што тут нейкая бяздонная прорва. Звычайна вясною і ўвосень тут стаіць вада. А гэта быў час самае сухое пары лета і тут падсохла, вады амаль ня было, але засталася брудная каша, якая дыхала гнільлём.

Мы балянсыруем, бываюць мясьцінамі няўдачы, але ходзяць-жа тут людзі, дык чаму ня можам прайсьці і мы? Праўда, у пасталох [1]) крыху спрытней, чым у гамашах, хоць-бы нават і ў старых. Раптам дзесьці недалёка затрубіў пастух. Стала весялей. Прайшлі яшчэ крыху—запахла дымам. Зараз-жа з кладкі праз рэдкія кусты алешніку мы ўбачылі абрыўкі нейкіх будынкаў, азяроды. Гэта былі Дзякавічы.

## ЗНАЁМІМСЯ З ДЗЯКАВІЧАМІ

За некалькі крокаў ад такое гнілі пачынаюцца хаты гэтае вёскі. Яна мае такі-ж выгляд, як і Убібачкі. Хаты абы-як накрыты дранкаю, часта бяз шчыткоў, а ў некаторых ня відаць было нават камінoў. Каміны мабыць выходзілі на столь, а далей дым сам знаходзіў сабе дарогу. Здавалася, што найлепшаю дарогаю была вялізная дзірка ў шчыце, але дым у большасьці імкнецца ўгару і такім чынам знаходзіць сабе выхад праз шчыліны старое драўлянае страхі.

Выходзім далей на цэнтральную вуліцу, тут ужо значна лепшыя будынкі. Пападаем проста ў коопэратыў. Там было некалькі чалавек мужчын, сярод якіх і старшыня сельсавету. Ён прапанаваў нам прад'явіць дакуманты. Запытаўшы, хто ён будзе, мы ахвотна прынялі гэтую прапанову. Правільна, трэба глядзець, усякіх людзей бадзяецца па сьвеце.

[1]) Так называюцца ў Палесьсі лапці.

Мы запыталі ў яго, ці ёсьць тут школа, настаўнік. Настаўнік стаяў побач з намі.

— А вось і настаўнік,—паказаў старшыня сельсавету на гурт мужчын.

Каторы з іх быў настаўнік, трудна было адразу пазнаць, але, глянуўшы, мы заўважылі, што адзін з іх, у вясковым суконным халаціку, крыху пашавяліўся.

— Вы—настаўнік?—пытаюся я ў яго.

— Я,—адказвае ён.

Знаёмімся і накіроўваемся да школы. Селі мы на ганку школы, пагутарылі пра вёску, пра балоты, пра культасьветныя справы і нарэшце шчыра прызналіся, што мы ад раніцы нічога ня елі і пытаемся, дзе тут можна купіць чаго-небудзь.

— Вось з гэтым цяжкавата,—адказвае нам настаўнік, т. Няронскі. Сам ён чалавек нежанаты і знаходзіцца на поўным пансыёне ў аднэй яўрэйскай сям'і. Пашлі мы па хатах. Таварыш Няронскі працуе тут ня першы год і ведае звычаі гэтае вёскі; цяжкавата тут купіць што-небудзь, нават калі хто і мае. Апрача гэтага, многія з жыхароў часта ходзяць у Пасталы на работу, як пагрузка лесаматар'ялаў, часам падвозка і інш., зарабляюць крыху, самі паглядаюць на коопэратыў і не маргаюць, калі там ёсьць сала ці каўбаса. Адна маладуха параіла нам зьвярнуцца да яе маткі, бо там нядаўна закалолі япрука, ды і старое сала яшчэ ня ўсё вышла. Заходзім, пытаемся.

— Аёй, мае міленькія,—адказвае нам жанчына,—не магу, не магу.

— Чаму?

— Якая-ж я гаспадыня, каб прадала бяз мужыка.

— Чаму?

— Не магу, міленькія, не магу. Ён-жа мяне ўшыбе.

Яна гаварыла голасам прыдушанае нявольніцы і прасілася пазбавіць яе ад пакараньня, ад ушыбаў, якімі мусіць часта нагароджваў яе лепшы сябра ў жыцьці—мужык (муж). Мы не маглі доўга гаварыць з гэтаю няшчаснаю, „ушыбленаю“ цемраю і жорсткасьцю старога быту жанчынаю і накіраваліся далей. На адным двары, ля калодзежа, стаяў здаровы, гадоў пад сорак, мужчына. Відаць было, што гэты чалавек бываў па дарогах, служыў у войску і ведаў розныя здарэньні, якія трапляюцца чалавеку. Мы зьвярнуліся да яго так, як-бы напомнілі яму аб гэтым, і пачулі:

— Сказаць на продаж, дык я ня маю, але раз чалавеку трэба, значыць трэба.—Ён прынёс добры кусок сала і, цікава, ён адмовіўся ўзяць тую плату, якую я яму прапанаваў, а узяў значна меншую.

Вячэрні змрок пачаў абдымаць вуліцу, хаты, дрэвы. З балота, з возера Князь лёгенька наплываў туман. Мяккім вэлюмам атульвалася прырода.

## ГУТАРКА АБ ПАДЗЕЯХ МІНУЛЫХ ДЗЁН

Мы зноў на ганку школы. Тут сядзеў колішні старшыня Дзякавіцкага рэўкому, няўтомны змаганьнік з бандытызмам, цяпер сьледчы Наркам'юсту. Ён тут у адпачынку, на „курорце". Пакуль т. Нярöнскі рыхтаваў дзесьці вячэру, мы гутарылі з т. Савіцкім аб Палесьсі. Ён даў нам некалькі вельмі цікавых, вельмі яскравых малюнкаў барацьбы з бандытызмам. У гэтай глушы яны доўга трымаліся. Тут, сярод балотных і лясных нетраў барацьба ўскладнялася. Тут у любы момант варожая рука магла скасіць лепшага барацьбіта за Саветы. Ад т. Савіцкага, а далей і ад другіх мы пачулі вельмі цікавую гісторыю клясавае барацьбы гэтай мясцовасьці.

Тав. Нярöнскі пазваў нас на вячэру. Мы ўвайшлі ў хату яўрэйскае сям'і Рэзьнік. На прыпечку гарэў агоньчык, і гаспадыня, па імю Малка, пякла сала. Трэба сказаць, што гэтая зьява ў яўрэйскай сям'і ня зусім звычайная. Шмат у якіх хатах, заезных дамох і так званых „готэлях" павятовага тыпу, калі вам даюць ножык, дык абавязкова далікатна папросяць ня рэзаць трэфнага. А тут гэтая гаспадыня смажыць на сваёй патэльні, і хоць-бы што! Вячэраем. Разгаварыліся. О, колькі гэта сям'я пагаравала ў часы бандыцкага разгулу, колькі начэй прасядзела гэтая Малка з малымі дзецьмі ў гушчары вазёрнага чароту. Бывала, што сядзіць яна на вуліцы з жанчынамі, зьяўляюцца бандыты і пытаюць: „Дзе жыды?" Жанкі адкажуць, што „жыды" даўно схаваліся недзе; бандыты адыдуцца крыху, і тады Малка, ухапіўшы каторае з малых, ціханька, крадучыся, уцякае ў чарот. У чароце часта знаходзіў сабе прытулак і рэўком. Расказвае, як аднаго разу прышла ў вёску разьведка чырвоных:

— Увайшлі два ў хату. Ну, думаю, усё скончана. А яны заспакойваюць: „ня бойцеся, хаджайка, не ўцякайце, нас ня трэба баяцца". Адзін з іх быў гэты самы таварыш Савіцкі, я яго тады ня ведала. Ой, думаю, які ён чалавек. Ён хоча адну мяне забіць, а я думаю, як-бы вырвацца дзе больш людзей, дык калі і забіваць будзе, дык мо' ня так страшна. Заб'юць, думаю, іначай у мяне намярэньня ня было.

І цэлы шэраг жахлівых момантаў успамінае гэтая жанчына. Яны ўрэзаліся ёй у памяць на ўсё жыцьцё, і цяпер яна ўспамінаючы кажа:

— Я ня ведаю, як я засталася жыць, а колькі вакол павырэзвалі, пастралялі...

І гэта амаль у кожным мястэчку Мазыршчыны. Жудасьцю павявае ад гэтых крывавых малюнкаў, якія намалявала белагвардзейская рука.

## „ДЗЕ-Ж МЫ БУДЗЕМ ДЫ НАЧАВАЦІ"

Мы накіроўваемся начаваць на сена. Але аказваецца, што ня так гэта проста. Трэба яшчэ пашукаць гэтага сена. У большасьці гаспадароў яго няма. Яно на балоце, у стагох. Тав. Нярöнскі накіраваўся да

Міхеда Чаркаса, у яго сена ёсьць. Ня кажучы аб тым, што ў гэтага Чаркаса добрая хата, з некалькімі пакоямі, ён ня пусьціў нават у адрынку на сена. Бачыце, ён ня ўпэўнены быў у тым, што мы заплацім. Мы адразу адчулі, што мы маем справу з кулаком. Пашлі. Накіраваліся ў Жураўлі (такую назву мае адна вулачка) і заходзім у адну хату, каб запытаць пра сена і пераначаваць. Увайшлі.

— Сядзеце, толькі вячэры не прасеце,—сказаў нам высокі, з доўгімі валасамі, гаспадар.

— Мы павячэралі,--адказваем,—і хочам падначаваць на вашым сене.

— Няма, саколікі, няма, не пашкадаваў-бы.

— Пойдзем далей,—адказалі мы і пачалі выходзіць.

— А пра вячэру я пажартаваў.

— Ведаем, ведаем, дзядзька, гэта нічога.

— У Міхеда напэўна е сена.

— У Міхеда?

— Эге-ж.

— Былі.

Мы вышлі і рашылі нікуды больш не заходзіць, а ісьці ў школу і там у клясе пераначаваць. Мы мяркуем заўтра ранічкаю наведаць возера Князь і выехаць хурманкаю ў Пятрыкоў. З рыбаком мы ўжо ўмовіліся загадзя, ня было яшчэ хурманкі. Заходзім з настаўнікам у невялічкую хатку, да Піліпа Гарачага. Гарачы, гэта мянушка Піліпа, але, як пасьля выявілася, яна стала больш уласнай яму, чым сапраўднае прозьвішча. У хаце міргала маленькая лямпачка, ля печы, у цеснаце, таўкліся жанчыны. На палку ля сьцяны настаўлена было многа канапель.

— Добры вечар. А дзе Піліп?—запытаўся Няронскі.

— Я тут, адазваўся мужчынскі голас.

Адкуль адазваўся гэты голас, мы некаторы момант не маглі ўцяміць.

— Дзе, дзе?

— Ну, тут я,—адказаў яшчэ раз Піліп. На палку ля канапель нешта заварушылася. Мы прыглядзеліся і ўбачылі суровага, сярэдніх гадоў чалавека. Ён выскачыў, як „Піліп з канапель“.

— Можа мы паехалі-б заўтра ў Пятрыкоў?

— У Пятрыкоў?—можна.

— Няма чаго езьдзіць, ёсьць другая работа,—гостра адазвалася яго жонка.

Піліп крыху памаўчаў, а пасьля цьвёрда сказаў:

— Можам паехаць.

Жонка ўсё яшчэ нібы злавалася. Але мы хутка перавялі гутарку на другія тэмы, і яна крыху пачала мякчэць.

— Ну, скакуноў-жа мусіць у вас няма?—нейк да слова запыталі мы.

На суровы твар Піліпа ўскочыла дабрадушная ўсьмешка.

— Ого, кажаце, няма: бараніся толькі.

— Мусіць і прусакі ў вас таксама водзяцца.

Тут Піліп нават зарагатаў.

— Псі-і, бачыце-ж, як гойсаюць па сьцяне.

— Ды хапае гэтага дабра,—дабрадушна адазвалася і гаспадыня.

А прусакі, відаць, задаволены дабрадушшам сваіх гаспадароў, імчацца з-за абразоў у мыцельнік і назад. У гэтым змрочным, цьмяным асьвятленьні яны адчувалі сябе вельмі добра. Мажліва, што за дзень яны крыху прагаладаліся і, калі цяпер зьявіўся пах гарачае бульбы, яны стараліся не прамаргаць гэтага моманту, падмацавацца, каб потым ноччу распачаць сваю шалёную кадрылю.

## ДУМКІ НА ПАДЛОЗЕ

Праз гадзіну мы хоць і ня зусім добра, але затое прасторна разьмясьціліся ў клясе на падлозе. Чамусьці я доўга не засынаў. Перада мною праходзілі розныя малюнкі з нашага падарожжа. Я іх перабіраў, раскладваў, даваў тую ці іншую ацэнку. Перада мною прайшлі і саўгас Мар'іна, і брудная вёска Убібачкі, і клюб у Пасталох, і Міхеды, і Піліпы з прусакамі, і Малка, якая не запальвае на шабас сьвечак, і многа іншых негатыўных і пазытыўных малюнкаў. Наш сёнешні дзень вельмі складаны. Наша сучаснасьць багата самымі яркімі процілегласьцямі, супярэчнасьцямі. Але, маючы на ўвазе адну асноўную думку—перабудова нашага жыцьця, выкараненьне старога і выхад грамадзтва на соцыялістычны шлях, пісьменьніку неабходна больш глыбока вывучаць і больш дасканала разьбірацца ў гэтай перабудове. Мне здаецца, што будзе вельмі аднабока, калі пісьменьнік возьме гатовы, сапраўды цудоўны ўзор нашае новае соцыялістычнае грамады, які-небудзь колгас, і будзе любавацца ім. А ёсьць узоры, якімі сапраўды нельга не захапляцца, але гэта, як-бы сказаць, парадны бок зьявы. Пісьменьніку перш за ўсё неабходна ўважна пазнаёміцца з усімі тымі процэсамі і супярэчнасьцямі, якія сустракаюцца на шляху перабудовы. Мы ведаем, што старая вёска даўно трэснула і з унутранага і з надворнага парадку, але мы павінны ведаць, што карэньні старога, п'янага, рэлігійнага, бруднага быту ў вёсцы яшчэ глыбока сядзяць, што іх трэба рашуча вырываць, а для гэтага, часам, трэба сконцэнтраваць сваю ўвагу мо' нават выключна на гэтым адмоўным зьявішчы. У адным сваім невялічкім апавяданьні я паказаў тыповага вясковага нядбайніка, п'яніцу, і адзін з рэдактараў адзначыў гэта, як нясучаснасьць вёскі. Я згодзен з тым, што больш будзе дасканала, калі пісьменьнік пакажа вёску ў цэлым комплексе процэсаў і зьявішч як станоўчых, так і адмоўных. Але бываюць выпадкі, калі рэдактар не асабліва ахвотна прымае твор, у якім паказаны адмоўныя бакі старога, іменна старога быту, і ахватней прымае твор, у якім часам павярхоўна ўсхваляецца новы быт. А мы ведаем, што і ва ўтварэньні новага быту сустракаюцца шурпатасьці, і гэта

нямінуча, бо гэта сур'ёзная работа. І вось у гэтай сур'ёзнай і адказнай рабоце савецкаму пісьменьніку, які сапраўды павінен дапамагчы партыі і савецкай уладзе ў гэтай складанай соцыялістычнай перабудове, трэба больш глыбока вывучаць процэсы перабудовы (а ня толькі „созерцать“ гатовае), трэба крытычна мысьліць.

Перада мною ўсплывала безьліч малюнкаў героічнае барацьбы Чырвонае армії і перадавога насельніцтва з бандытызмам. Вядома, што бандытызм, асабліва на Беларусі, меў выразна політычны, антысавецкі характар, і барацьба з ім была складаная, яна прыносіла многа ахвяр. Гэта зафіксавана ў розных артыкулах, але гэта вельмі слаба паказана ў творах нашых пролетарскіх пісьменьнікаў. Праўда, паказаць на шырокім палатне бандыцкі рух на Беларусі, гэта значыць даць далёка невясёлы, крывавы малюнак, але-ж воляю працоўных гэты рух быў зьнішчаны, вялася героічная барацьба, і яна павінна знайсьці адлюстраваньне ў нашай літаратуры. І цяпер гэта лягчэй зрабіць, чым тады, як пройдуць дзесяткі гадоў. Цяпер яшчэ ёсьць сьвежыя сьляды, ёсьць жывыя ўдзельнікі гэтае барацьбы.

У дзень нашага прыходу ў Дзякавічы, раніцаю, з гэтае самае вёскі выехала археолёгічная экспэдыцыя нашае Акадэміі навук. Езьдзяць людзі, капаюцца ў мінулых тысячагодзьдзях. І гэта патрэбна. Але ў мяне зьяўляецца думка: а што, каб часам ствараць невялікія літаратурныя экспэдыцыі? Няхай-бы яны ў летні час павандравалі па мястэчках, па вёсках Беларусі, вядома, больш-менш арганізавана. Папершае, яны маглі-б правесьці вялікую культурную работу сярод вясковага пролетарыяту і працоўнага сялянства, падругое—бліжэй падыйсьці да творчых крыніц, пазнаёміцца з процэсамі соцыялістычнае перабудовы. Вопыт паездкі пісьменьнікаў у колгасы і на прадпрыемствы ў гэтым годзе бясспрэчна меў станоўчыя вынікі. Але гэтым паездкам трэба надаць больш шырокі характар. Мне здаецца, што паехаць на завод ці ў колгас на тыдзен-два малавата. Каб напісаць вялікі твор аб колгасным руху, мала пабываць у адным колгасе. Альбо калі ўзяць так званую „проблему мястэчак“. Гэтае пытаньне і сучаснае, і цікавае, і вельмі складанае. Гэтая „проблема“ сёньня вырашаецца практычна. Колькі там усякіх супярэчнасьцяй і клясавых і нацыянальных і рэлігійных. Гэта-ж ня жарты: разбурваецца старое, вякамі скалочанае, з царквамі, сынагогамі мястэчка. Ці-ж можна, пабываўшы ў мястэчку тыдзень-два, ахапіць увесь складаны рух гэтае перабудовы? Нельга. Трэба быць значна большы час і не ў адным мястэчку. А трэба адбіць гэтую перабудову мястэчка. Трэба, і абавязкова. Пісьменьнікам, асабліва маладым, хоць на пэўны час трэба адчыніць свае лябораторыі на прадпрыемствах, у колгасах, у раённых цэнтрах.

Думаў я яшчэ і аб тым, што рад-бы „ў рай“, ды „грахі“ ня пускаюць: часам малавата сродкаў. Трэба „хутчэй“ спаць, а заўтра на возера Князь і далей у дарогу.

## ТРЫ ВАСІЛІ НА ВОЗЕРЫ КНЯЗЬ

Усталі мы даволі рана і чакаем рыбака, каб прайсьці на канаву і зьезьдзіць на возера. Ужо і каровы пагналі ў поле, а рыбак наш ня ідзе. Як яго зваць, дзе ён жыве, мы ня ведаем, і вось мы ходзім па гэтых Дзякавічах і шукаем рыбака. Цікавая, між іншым, вёска. Яна складаецца з аднае цэнтральнае і некалькіх невялічкіх вулачак, якія маюць свае назвы: Залугі, Буслоўскі кут (тут сапраўды многа бусловых гнёздаў), Кудзеліцкая вуліца (тут амаль усе з прозьвішчам Кудзелька), Жураўлі (тут Жураўлевічы і Рагалевічы і Клятцы). Цікава, што ў гэтым раней валасным цэнтры няма царквы. Як гэтыя дзьве ўстановы разлучыліся, хто яго ведае. Нарэшце, мы адшукалі хату рыбака, які абяцаўся паехаць з намі на возера. Яго жонка адшукала свайго Васіля, зьявіўся ён. Ён пасьнедаў, памаленьку сабраўся, і мы накіраваліся на канаву.

Тут мы ўбачылі высадку „дэсанту“. Гэта была мэліорацыйная партыя. Яна пераехала сюды з Пухавіч і зараз рабіла выгрузку свае маемасьці. Мы разуліся, падкасаліся і праз хвілін 30—40 былі ў чайцы і праз густы чарот выяжджалі на возера. Лёганькі ветрык чуць-чуць калыхаў паверхню вады. Мы ад'ехаліся крыху ад густога чароту і плюшніку, разьдзеліся ў чайцы і бухнуліся ў ваду. Тут было няглыбока, прыблізна па-пахі і, на дзіва, дно было белаватае, чыстае і вельмі цьвёрдае. Мы плылі, падходзілі, нібы тыя качкі, якія доўгі час ня бачылі вады, давалі нырца. Пасьмейваецца Васіль у чайцы з двох Васілёў, што ў вадзе. Не хацелася вылазіць. Мы доўга любаваліся гэтымі вадзянымі прасторамі, наша вока спынялі тыя невялікія цёмныя крапінкі, якія віднеліся на небасхіле. На процілеглым беразе крыху відаць была вёска Пухавічы. Хацелася перарэзаць на чайцы возера па ўсёй яго даўжыні і шырыні, але-ж трэба, час.

Мы зноў былі на вузенькай вадзяной сьцежцы, сярод густога чароту, вылазім з чайкі, зноў падкасваемся і выходзім на сухі бераг. Тут нам рыбак Васіль прызнаецца, што яму не хацелася ехаць з намі на возера. Ён лічыў, што мы з Пасталоў, а пасталоўцы яго падвялі, ды яшчэ хто?— міліцыянэры. Узялі аднаго разу чайку і трымалі яе колькі хацелі, ня здалі яму, а нешта на другі ці на трэці дзень перасьлалі ключ; самім, відаць, сорамна было перадаваць.

— Але я памыліўся,—кажа Васіль,—з такімі хлопцамі я люблю паезьдзіць, і каб вы мелі час, маглі-б вазіцца цэлы дзень.

Была якраз нядзелька, на вуліцы асобнымі гуртамі сядзелі мужчыны і жанчыны. На ганку сельсавету, сярод мужчынскага гурту сядзеў т. Савіцкі і, па старой знаёмасьці, гутарыў з імі. Пакуль мы чакалі хурманкі, сымпатычнага дзядзьку Піліпа Гарачага, нам удалося пагутарыць з адным бедняком аб жыцьці і парадках у гэтай вёсцы. Ён сам пачаў з Міхеда Чаркаса.

— Некалі таксама, можна сказаць, бедняком быў, але за савецкаю ўладаю ўжо так аброс, што ад яго нам і дыхаць нельга. Ён і цяпер па

сваёй маемасьці не падыходзіць да кулака, але натуру мае часамі горшую, чым самы заядлы кулак. Сваяцтва ў яго вялікае, заўсёды хто-небудзь то ў сельсавеце, то ў селькоме, ну, а воран ворану ня клюне ў вока, цягнуць адзін за другога. Праўда, цяпер некаторыя крыху пачынаюць падсякаць яго, а што гадоў тры таму назад, дык ён быў самы асэсар.

## НА ПЯТРЫКОВА

Пад'ехаў Піліп, і мы разьвіталіся з Дзякавічамі. Была гадзіна дня. На другі дзень раніцаю маем быць у Пятрыкове. Зырка сьвеціць сонца, але, едучы лесам, пералескамі, мы асаблівае гарачыні не адчуваем. Дзядзька Піліп быў не асабліва разьвіты, але затое вясёлы і, можна сказаць, бывалы чалавек. Напрыклад, ён быў чатыры гады ў Нямеччыне, у палоне і амаль увесь час працаваў на нямецкіх хутаранцаў, і за гэту катаржную працу гаспадары часта кармілі яго горш, чым сваіх сабак.

— Пабачыў гора, такую іх маць з гэтаю вайною!—казаў Піліп, тузаючы пару сваіх невялічкіх палескіх канюкоў. А вось вялікая, ніштаватая на выгляд вёска Грабава. Яна складаецца з двух роўналежных вуліц. Накіроўваемся да коопэратыву. Воддаль яшчэ мы заўважылі, што насустрэч нам з музыкаю і крыкам ехала нейкая вясёлая кампанія. Коні натапырылі вушы. Піліп бачыць, што будзе бяды. Зараз-жа завярнуў іх назад, расчыніў вароты аднаго двара і ўзьехаў туды. Тут спакайней. Мы зьлезьлі і пашлі насустрэч гэтаму вясёламу, як мы думалі—вясельнаму карнавалу.

— Што гэта там, цётка, такое?—пытаем у аднае жанчыны, якая зьдзіўлена паглядзела ў той бок.

— Ліха іх ведае, чаго яны езьдзяць, ці гэта яны пужаюць людзей, ці мо', каб пасьмяяцца з каго... Непадалёка ішла другая жанчына.

— Гэта-ж яны камэдыі прыстаўляюць,—сказала гэтая жанчына.

Наперадзе ехала некалькі конных, а ззаду, на возе былі Чэмбэрлены, папы і яшчэ нейкія „прыяцелі“ савецкіх краін. Хлопцы дасталі даволі цікавыя маскі і наладзілі карнавал. Вядома, што гэта выглядала некалькі прымітыўна, але гэты карнавал зацікавіў і старых і малых. На горцы ля коопэратыву стаяў велічэзны натоўп мужчын, жанчын, дзяцей. Усё гэта сьведчыла аб нейкай урачыстасьці, іх цікавіць гэтае „прыстаўленьне“ моладзі. Карнавал праехаў у другую вуліцу і вярнуўся назад. Мы яшчэ раз спаткаліся з ім і падышлі да свае хурманкі.

— Ня люблю я гэтага паскудзтва,—кажа Піліп.

— Не спадабалася вам?—пытаемся мы.

— Ды я і ня бачыў, але ня люблю—адно толькі пужаюць коні.

## ДУМКІ ПАСЬЛЯ СПАТКАНЬНЯ З КАРНАВАЛАМ

Мы едзем далей. Гэты вясковы карнавал меў вялікія недахопы, але ён цікавіў сялянскія масы; яна любіць такое масавае гуляньне. Я ехаў і ў сваёй думцы па-свойму арганізоўваў шырокія масавыя карнавалы,

якія маглі-б замяніць часта вельмі няўдалыя, з п'янымі „тустэпамі“ вечарынкі. Я думаў аб тым, што ў нас вельмі мала робіцца ў напрамку стварэньня іншых відаў забавы, такое забавы, якая магла-б падмяніць рэлігійныя „шествия“, якая сваім зьместам і формаю адпавядала-б нашаму часу, часу фармаваньня новае грамады. Мы маем у вёсцы мітынгі, спэктаклі, і гэта добра, але гэтага мала. Мне здаецца, што мы часам нашу масавую работу перагружаем, як-бы сказаць, сур'ёзным матэрыялам. У нас вельмі мала такіх элемэнтаў, якія спрыялі-б разумнаму адпачынку і больш-менш весела настройвалі-б. Не ў гарэлцы-ж шукаць весялосьці. Там яе ніколі ня было і ня будзе. Мне зусім зразумела, што ў галіне масавае работы нашы палітасьветныя ўстановы, комсамол і іншыя арганізацыі зрабілі вельмі многа. Там праводзіцца шырокая выхаваўчая работа, там адзначаюцца ўсе кампаніі, але калі мы даходзім да мастацкае часткі, да забавы, тут мы сустракаемся з вялікім недахопам. Аб гэтым недахопе, недахопе матэрыялаў, скажа вам кожны вясковы комсамолец, кожны з вясковых работнікаў, аб гэтым не адзін раз пісалі і будуць пісаць сялькоры. А тымчасам мы ня бачым, каб наш Наркамасьветы, Выдавецтва сур'ёзна ўзяліся за гэтую работу. Хто кіруе драматычнымі гурткамі (ня ў сэнсе, каму яны падначалены), а хто вывучае іх работу, накіроўвае іх, дзе тыя кіруючыя матэрыялы, крытычныя артыкулы і нарэшце фактычныя матэрыялы аб іх рабоце? Іх няма.

Галоўмастацтва ў асобе двух адказных работнікаў, пры трох акадэмічных тэатрах і невялікім ліку мастацкіх навучальных установаў, можа і павінна перакінуць сваю ўвагу на вясковую і клюбную сцэну. Трэба ўзяць у БДВ патрэбны лік аркушаў і па свайму пляну скарыстаць іх. Спэцыяльнае, падрыхтоўчае работы чакаць ад БДВ нельга. Яно выконвае яе тэхнічна, друкуе тое, што будзе, а ня будзе—значыць, ня будзе.

## НАЧЛЕГ У ЛЕСЕ

Быў ціхі і чысты надвячорак. Піліп паганяе коні, каб больш праехаць, пакуль сьцямнее. А нам, здаецца, што ён уцякае ад гэтага надвячорку. Мне не хацелася, каб бязладны грук калёс па карэньні парушаў гэтую ціхую надвячорную ўрачыстасьць. Праменьні далёкага пунсовага сонца разьвіталіся з высокімі, стрункімі соснамі, з меншымі яны даўно разьвіталіся. Сям-там лёгенька, асьцярожна пералятала птушка.

— Не паганяйце, дзядзька, будзем ехаць цішэй.

— Бачыце, кажуць, там, далей у лесе завалена дарога, праімчаўся віхор і шмат палажыў лесу, трэба загадзя праехаць. І калёсы яшчэ мацней грукалі, і коні імчалі нас у начную цемень.

Вось яна, стыхія! Вялізныя жывыя дрэвы ляжалі на зямлі, мясьцінамі па некалькі адно на адным. Шалёны віхор злажыў іх. Ён скасіў ня самых слабых, а тых, якія першымі сталі на дарозе, каб спыніць яго

вар'яцтва. Сьмяртэльная была барацьба. Многа дрэў загінула, але, відавочна, стрымана была разбойніцкая сіла. Далей зноў струнка і горда стаялі сосны, елкі, бярэзіны.

У цемені гушчарняку мы сустрэлі шэраг хурманак, якія зварачаліся з пятрыкоўскага кірмашу. Некаторыя з ехаўшых драмалі і няпрыкметна для саміх сябе пасоўваліся наперад, а некаторыя бліскалі папяроскамі і весела гаманілі.

Разьмінаемся з імі. Дзядзька Піліп пагуквае, каб трымаліся ўправа, і так даволі шпаркаю ступою выбраліся з лесу. У бакох, дзесьці далёка, бліскалі агеньчыкі, а ў адным месцы віднеўся такі добры бляск, электрычны. А, гэта Капцэвічы! Вось тут мы і зробім папаску. Трухануліся крыху і ўзьехалі на нейкі двор. Чмыхае фанэрны лесбелаўскі завод, неспакойна тапырацьконі вушы, ды і нам няма дзе прытуліцца.

— А што, дзядзька Піліп, калі-б мы выехалі адсюль ды спыніліся-б дзе-небудзь у лесе, расклалі-б там агонь, адпачылі-б?

— Ды яно, глядзеце, што так будзе куды лепей.

— Едзем?

— Едзем.

Праз тры хвіліны праз вузенькія завулачкі, праз рэйкі вагонэткі, праз трэскі мы перасякалі тэрыторыю заводу. Тут усюды поўна было моладзі. Гэта быў нядзельны вечар, і яна гуляла тут і гуртам і парамі. Але на-дзіва, здаецца, пары былі толькі жаночыя; ці то хлопцы заняты былі працаю, ці тут наогул недахоп іх.

Шумная мясцовасьць, бляск электрычнасьці засталіся ззаду. Мы зноў урэзаліся ў цемень ночы. Едзем пасекаю, набліжаемся да лесу. Вось ён сухі бор, зварочваем у бок, спыняемся. Дроў хапае тут, і сухое гальлё і падгніўшыя пянчукі. Бліснуў полымем касьцёр. Захрумалі ля возу коні. Мы зрабілі запас дроў і прылеглі. Піліп пачаў успамінаць пра здарэньні з ім у нямецкім палоне. Мы слухалі, але, зьнябыўшыся за дзень, слаба рэагавалі на яго апавяданьні, і ён сам неяк раптоўна схіліўся і моцна захроп. Мы ўсе заснулі. Ня спалі толькі коні. Гэтая жывёліна ня вельмі любіць, калі ноччу гаспадар сьпіць, крыху неспакойна пырхала і тузалася і асабліва тады, калі зводзіўся агонь. Я некалькі разоў уставаў, падкладваў дровы, і пакуль трымаўся агонь, коні былі весялейшымі.

Скора лёгенька пачало займацца на золак.

— Падымайся!

Раскатурхаліся, сьнедаем і едзем далей.

## НАД ПРЫПЯЦЬЦЮ

А сёмай гадзіне раніцы мы былі ў Пятрыкове на рынку. Для летняе пары гэта не асабліва раньні час, аднак мястэчка толькі пачало абуджацца. Да нашае хурманкі падышло тры чалавекі. З насунутымі на вочы кепкамі, яны хітра паглядалі на нас, адзін на аднаго. Гэта-ж была ў сёнешні дзень першая хурманка, зьявіліся нейкія сьвежыя людзі.

Адзін з іх у татарскай ярмолцы (цюбіцейцы). А мо' якія туркмэнскія купцы пад'ехалі... А тут-жа кірмаш цягнецца цэлы тыдзень, і сапраўды тут ёсьць савецкія купцы здалёку. Тры чалавекі ў кепках, як відаць, мелі нейкае дачыненьне да гандлю, мо' ня зусім офіцыйнае, беспатэнтнае, але затое з добрым нюхам. Калі мы адыходзілі ад хурманкі, да яе наблізіліся яшчэ два хлапчукі.

Першы наш візыт быў Прыпяці, гэтай блакітнай красуні зялёных палескіх прастораў. Дайшлі да прыстані, даведаліся, калі адыходзіць параход на Мазыр, вярнуліся да свае хурманкі, разьвіталіся з дзядзькам Піліпам і пайшлі шукаць „гасьцініцы“.

Краскупы пазаймалі ўсё. У адным месцы „зьлітаваліся“ над намі: „можна астанавіцца“. Падымаемся па нейкіх футурыстычных лесках і трапляем у пакой. Сьпяць сабе людзі добрыя—хто на ложку, хто на тапчане, а хто проста пасярод хаты, на нейкіх разгіраках.

— Ну вось, тут вы можаце астанавіцца,—кажа нам пазяхаючы заспаная гаспадыня „готэлю“.

— А дзе-ж мы будзем спаць?

— А вам нада спаць?

— Так, нам трэба крыху паспаць.

Пачухала яна сёе-тое.

— Ну, можна будзе паспаць. Яны скора ўстануць.

Адзін з іх паварушыўся.

— Слухайце, вы-ж скора ўстанеце?—зьвярнулася да яго гаспадыня.

— Нет, пакамісь не собіраюсь,—пачуўся нейкі хрыплы голас.

— Яны скора ўстануць,—сказала нам гаспадыня.

З чаго яна зрабіла такі вывад, вядома аднэй ёй.

Павандраваўшы крыху па „готэлях“ Пятрыкова, мы нарэшце знайшлі сабе сякі-такі прытулак.

Днём мы сустрэліся з адным знаёмым настаўнікам і з ім знаёміліся з мястэчкам. На жаль, гэта быў якраз выхадны дзень. Кірмаш таксама меў перапынак і мястэчка выглядала крыху сонным. Ды наогул дух Палесься адчуваецца даволі моцна. Мне здаецца, што добрую палавіну ўсёй каштоўнасьці мястэчка складае Прыпяць. Тут будуюцца вялізныя лайбы, на беразе чмыхае лесапільны завод. У затоцы прытуліліся плыты, за Прыпяцьцю вялізная зялёная роўнядзь сенажацяй. Мястэчка даволі вялікае. На крамах новыя коопэрацыйныя шыльды. Тут многа розных загатоўчых пунктаў. Бойкае мястэчка, гандлёвае, але і яно патрабуе грунтоўнага ўпарадкаваньня. Уласьніцкі, прыватніцкі душок трэба выдзьмуць. З пераходам гандлю на соцыялістычныя рэйкі, гэты душок траціць „остроту“ свайго паху, але пакуль існуе, хоць-бы, нават, з надворнага выгляду стары рынак, сынагогі, цэрквы,—гэты душок будзе адчувацца. Мне здаецца, што праводзячы ўпарадкаваньне мястэчак, ствараючы з іх альбо сельска-гаспадарчыя, альбо індустрыяльныя райцэнтры, трэба імкнуцца і да таго, каб надаць гэтым новым паселішчам зусім

іншы надворны выгляд. Ня трэба шкадаваць рыначнага пляцу. Трэба расплянаваць яго адразу пановаму, паставіць тут такі будынак (клюб, школу, завод), які-б рэзка вызначаўся сваёю навізною.

У тэатры адбывалася чыстка партыі. Правяраецца судзьдзя, жанчына. Актыўную вясковую жанчыну прынялі ў партыю, паслалі ў партшколу. Скончыла. Яе вылучылі на пасаду судзьдзі. Ня маючы спэцыяльнае падрыхтоўкі, зразумела, у яе былі выпадкі, калі яна, часам, недасуджвала, а часам і перасуджвала. Выступаўшыя таварышы здорава вінавацілі яе. Мажліва, у яе ёсьць шэраг антыпартыйных учынкаў, але відавочна было, што вылучэнства яе на гэтую іменна пасаду судзьдзі было крышку ня зусім абдумана. У яе адказах на запытаньні адчувалася трагічнасьць свайго становішча.

## НА „ПРОГРЭСЕ“

Надвячоркам вышлі на бераг Прыпяці. Лёгенька дыхала яна вячэрнім спакоем. Чырвонае сонца залаціла яе хвалькі. Мы заглядаемся на гэтую красуню, абводзім вачыма яе шырокае ўлоньне, спыняемся на далёкай, далёкай цёмнай істужцы і ўяўляем сабе, якою яна выглядае ў вясеньнюю паводку. З процілеглага берагу ўзьняліся дзьве вялікія птушкі і ў паветры пераплывалі Прыпяць. Гэта былі буслы. Яны сапраўды нейк не ляцелі, а плылі, і ў гэтым нельга не пазайздросьціць ім. Ціхая, паважная, сымпатычная птушка.

Берагам да прыстані накіроўваліся пасажыры. Часу ў нас хапала. Параход меўся адыйсьці праз гадзіны паўтары. Ды яго яшчэ і ня было, ён ішоў з Турава. Пакуль той параход, мы рашылі яшчэ раз у сёнешні дзень паплаваць па Прыпяці і асьвяжыць сябе яе чыстаю, вечна імклівою ўперад, вадзіцаю.

А на беразе прыстані народу ўжо ня мала, а параходы тут невялікія, ды ня часта ходзяць. Мы шпарка наблізіліся да білетнае касы. Але тут не сьпяшаюцца з прадажаю білетаў. Над вакенцам касы павольна запальваюць лямпачку „Міргунчык“, яна міргае, тухне, праз хвілін дзесяць яе зноў запальваюць, праз дзьве хвіліны яна зноў тухне і так паволі... набліжаецца параход.

А народу сабралася многа, ды ўсё больш маладыя ды вясёлыя. Тут зьявіліся і гармонік і „плясуны“. Малады хлапчук „с выражением на лице“ прагульваўся пад ручку са сваёй „мілай“. Гэта была пара лёгкага „жанру“. Ідучы з ім, яна пацепвала плячыма, пакручвала сярэднюю часткаю свайго цела і зухавата напявала: „ад чаго, да пачаму юпачкі ня сходзяцца“. Яе партнёр пстрыкнуў ножкаю і падхапіў: „ад таго, да пачаму—да алімэнт заводзіцца“. У натоўпе ля гарманіста нехта крыкнуў дзікім матам, шугануліся ў бок. Гэта нехта падлічваў зубы свайго „друга“, ці „супэрніка“. Кажуць, што прыстань без шпаны ня бывае. Былі тут і сталыя людзі, яны ціха сядзелі на бярвеньнях, на сваіх пакунках

і цярпліва чакалі параходу. Тры „самастойных“ чалавекі павольна прагульваліся па беразе і жвава гутарылі аб сваіх справах. Ім з гільдыямі было лепш, чым з патэнтам Наркамфіну. Ну, але пакуль параход возіць усіх, дык чаму ім не праехацца з Пятрыкова ў Мазыр, Кіеў і, як украінцы кажуць, „навпаки“ (наабарот).

На дварэ было зусім цёмна. Некаторыя крыху незадаволены былі, што ня зусім упарадкавана прыстань, а некаторым гэтыя поцёмкі зусім імпанавалі. На рэчцы бліснулі агні, пачуўся гудок. Падыходзіў „Прогрэс“. Публіка заварушылася, наблізілася да берага, нарыхтавалася да пасадкі. Дарма, што гэты „Прогрэс“ невялікі, але, на яго дзіва, шуму нарабіў. Выкінуў на бераг некалькі хваль і чалавек чатыры пасажыраў і пачаў набіраць папаўненьне. Калі-б гэтая ўся публіка, што была на беразе, захацела паехаць, дык невядома, дзе-б яна зьмясьцілася, але, на яго шчасьце, ехаўшых тут было мо‘ пятая частка ўсяго натоўпу, а рэшта былі праважатыя і так ахвотнікі „прайцiцца“ на прыстань. Пачалося разьвітаньне, ахі, охі, „пішы“, „прыяжджай“, адным словам, нарабілі столькі шуму, што нібы адпраўлялі ў далёкае акіянскае плаваньне, нібы гэта быў ня Турава-Мазыра-Кіеўскі „Прогрэс“, а нейкі „Титаник“, які ішоў на пагібель. Праўда, і на „Прогрэсе“ бываюць „аварыі“.

З месца ён узяў добра. Залапатаў, павярнуў на сярэдзіну, і хутка ад цьмянае прыстані не засталося і сьледу. Некаторы час яшчэ бліскалі агоньчыкі Пятрыкова, але хутка і яны зьніклі. „Прогрэс“ весела ішоў і раскідаў сваю электрыку на пескавы бераг, рабіў яго бліскучым залацістым. Публіка пачала „ўпакоўвацца“, крыху паспрачаліся за канец лаўкі, але ўрэшце—хто на лаўцы, хто ля лаўкі—разьмесьціліся і ехалі. Ехалі тут і два міліцыянэры. Адзін з іх сядзеў на лаўцы ля вакна, другі прагульваўся.

Я абышоў палубу і накіраваўся ў сваю каюту. Чалавек пяць нашых аднакаютнікаў пачыналі спаць. Меўся і я прылегчы, нават пачаў разувацца, але заўважыў, што параход пачынае зьмяншаць свой ход. Магчыма будзе астаноўка, варта паглядзець яшчэ на бераг, на новых пасажыраў.

„Прогрэс“ такі спыніўся. Выходжу наверх. На абодвых берагох цёмна. Стаім сярод рэчкі. У чым справа? Нешта крышку папсавалася, падрамантуем і паедзем далей. Правільна. Праз хвілін пятнаццаць параход пайшоў і зноў пачаў кідаць абапал сябе бліскучыя срэбныя праменьні. Яны слаліся па хвалістай паверхні вады, урэзваліся ў густую траву, абдымалі вярбу, алешыну і ўсё, што сустракалася на бліжэйшым беразе.

На параходзе станавілася ўсё цішэй і цішэй. Ніхто ні з кім не спрачаўся, а калі дзе-небудзь у кутку і гаманілі, дык іх галасы зьліваліся з гукам машыны, з шумам вады, і распазнаць гэтую гамонку здалёк зусім нельга. На гэты раз мне нішто не перашкодзіла разуцца. Сонная каюта хутка захапіла мяне ў свой палон.

Але нядоўга яна мяне трымала, моʻ крышку больш гадзіны. Праз расчыненае маленькае кругленькае акенца ў гэту сонную каюту раптам уварваўся страшэнны крык. Гэта быў крык не аднае асобы, ня двух, а цэлага натоўпу. Хтосьці нібы прыступам браў наш параход, а моʻ гэта зьявіліся піраты і пачалі распраўляцца са сваёю здабычаю? Мне паказалася, што параход спыняўся. Я быў ласкава атулены сном і развашаў у гэты час так, каб не парушыць гэтае ласкі: напэўна была астаноўка, падсела крыху людзей, стала цясьней, моʻ хто згубіў білет, а моʻ нехта ў некага нешта ўкраў. Я нават апусьціў руку на падлогу і памацаў свае гамашы. Было крыху душна. Я павярнуўся тварам да аконца і пачаў засынаць. Спачатку на мяне дыхаў лёганькі сьвежы ветрык, але мусіць параход крыху ня так павярнуўся, ці што, і ў гэтае ваконца ўскочыў абрывак сярдзітага ветру і жорстка прабег па маім крыху ўспацелым твары. Я ўсхапіўся, каб прычыніць ваконца. На параходзе, чутно, ідзе больш спакойная, але яшчэ даволі ажыўленая гутарка. Пакідаю сваю сонную каюту і выходжу наверх.

Чуць-чуць прыкметна пачаў займацца золак. Самы сонны час, а здаецца ніхто тут ня сьпіць. Каля невялічкага салёнчыку, усьпершыся на жалезныя парэнчы, стаялі і пакурвалі тры хлопцы і так, крыху воддаль,—адна дзяўчына. Я падышоў да іх, таксама закурыў і пытаюся, што гэта за шум быў тут нядаўна.

— Ды тут адзін хацеў страляцца,—адказваюць мне.

— Хто? чаго?

— Ды міліцыянэр.

— Каторы, іх-жа тут два?

— Ды ня наш, а вунь той. Ён вязе з Турава двух арыштаваных, дык адзін улучыў момант, скочыў у вакно і ў ваду. Уцёк. Міліцыянэр усхапіўся, стрэліў; пакуль спынілі параход, дык ён недзе моʻ на беразе ўжо. А міліцыянэр тады: застрэлюся, кажа. Ну, тут яго адгаварылі. Цяпер супакоіўся. А нашаму міліцыянэру, дык хоць-бы што, мы нікуды ўцякаць і ня думаем.

— Як гэта, хіба-ж вы ня самі едзеце, вы арыштаваныя, ці як?

— Мы ўжо і засуджаныя, працуем у Мазыры, але-ж, самі ведаеце, летняя пара, хацелася крыху пакасіць дома. Ну, мы спачатку прасіліся, нас ня пусьцілі, дык мы і рашылі, ні тое, каб уцячы зусім, але каб хоць на дзён два. І пашлі, значыць, дадому. Прыйшлі. Я пераначаваў, сеў раніцаю сьнедаць і меўся ісьці на сенажаць. Падыходзіць да вакна міліцыянэр і пытае: „Голас, ты дома?“ Дома,—адказваю. „Ну, значыць, зьбірайся“. Я сабраўся і пашлі.

— А за што-ж вас судзілі?

— Ды, там, за невялікую, нібы, пакражу,—так, нібы наіўна, але хітравата адказвае малады белакуры хлапец.

Бах!—выпаліў наган.

Застагнаў міліцыянэр. Ён стаяў і крыху хістаўся. На бледным твары тырчэлі дзьве яшчэ бліскучыя, але нярухомыя крапіны-вочы. Рука цьвёрда сашчапіла гарачы наган.

Падбег адзін пасажыр-матрос, выхапіў, адкінуў у бок. Расьперазалі шынэль, разарвалі рубашку. Гарачая кроў вогненымі іскрамі бліснула на целе, на сарочцы. Куля прайшла навылет і спынілася ў дрыўляным слупе. Пасадзілі яго на лаўку, служачы параходу дастаў недзе абрывак бінта і рана на скорую руку была перавязана. Кроў спынілася. Ня спынілася маладое сэрца.

Куля прайшла вышэй, і для мяне зусім было відавочна, што рана не сьмяртэльная, аднак я не адыходзіў ад яго, мне хацелася разгадаць усю трагэдыю гэтага чалавека, які пакінуў дома двое малых дзетак і які ўсё такі хацеў жыць і мажліва сумленна працаваць.

Побач стаяў высокі, сярэдніх гадоў, вясковы мужчына. Ён асьцярожна задзіраў галаву, каб глянуць на гэтага прастрелянага чалавека, але як толькі ўбачыў чырвоную пляму, раптам зьбялеў, ногі яго, нібы протэзы, пачалі складвацца, і ён брыкнуў. Новая бяда. Але гэта пустое: кубак вады, сьвежае паветра, і ўсё.

— Эх, дурак, высока ўзяў,—прастагнаў міліцыянэр.

— Эх, таварыш, нашто вы сябе губіце? –падаў голас арыштаваны Голас.

— Брацішка, дай наган,—просіць міліцыянэр матроса.—Усё роўна мне ня жыць.

— Будзеш жыць.

Другі арыштаваны гэтага прастрэленага міліцыянэра сядзеў на лаўцы і расказваў пра свайго таварыша, які ўцёк. Ён цяпер лічыў сябе зусім не вінаватым. Яго падвёў той, што ўцёк.

— Я зусім не вінаваты,—кажа ён,—а праз яго далі мне восем гадоў.

— А яму?

— Яму дзесяць. Савецкі быў чалавек, у форме хадзіў. Вярнуўся дадому, зьлюбіўся з дзяўчынаю, кінуў яе, а тут зьявілася дзіця. Некаторы час плаціў алімэнты, а пасьля не захацеў. Папрасіў мяне занесьці гэтаму дзіцяці цукеркаў. Просіць чалавек, дык чаму-ж не паслухаць, я і занёс.

— А многа-ж вы занесьлі цукеркаў?

— Адзін цукерак. Яно зьела і атруцілася.

Вось як трагічна разблытваецца клубок. А заблытваўся ён мабыць ціха, лагодна, мо' ў цудоўны вечар, калі месяц мякка пасьцілае на траву кляновы цень. Эх, жыцьцё, жыцьцё! Самая мяккая пуховая падушка, часам робіцца больш жорсткаю, чым самы цьвёрды камень.

А Прыпяць усё ідзе сваёй дарогай. Пержыла дзесяткі і сталецьці, складала дзіўныя мэлёдыі жыцьця, поўныя самых тонкіх нюансаў і самых рэзкіх дысанансаў.

Другое лета я з табою, Прыпяць!

Другое лета слухаю я тваю ўвэртуру, увэртуру новае ўрачыстае сымфоніі, сымфоніі вялікіх нашых дзён.

## УВЭРТУРА

Прыпяць! Блакітная істужка на зялёным аксаміце Палесься. Ціхая, спакойная Прыпяць. Шырокаму ўлоньню ёсьць прастор. Ня цісНуць берагі. Плыві сабе спакойна, ціха, урачыста! Букетамі лазы, ракіты ўпрыгожаны твой стан. Ты, часам, у нягоду злосна рвеш свае адзеньні. Ня злуйся-ж ты, блакітная, бо свавольны вецер пылам будзе абсыпаць цябе, а сонца ў вусны цалаваць цябе і піць вясёлкаю твой сок.

Я ведаю, о, шмат вякоў хадзіла ты ў сваім старым убраньні, а за табою ішлі і радасьць і туга, ліліся песьні бурнага вясельля і сьлёзы ціхае жальбы.

Да цябе прыходзілі са скаргаю нявольнікі жыцьця, і часта ты спыняла іх пакуты—давала ім прытулак вечнага спакою-нябыцьця.

Грымела навальніца, грукалі гарматы, шалёны віхор разрываў тваё адзеньне.

Ты горда і нястрымна ішла з надзеяй напаткаць прыгожы, залацісты шлях.

На пескавых, балотных выспах, дзе шапацелі ціха лозы ніцыя і на балотных багнах, на дрыгве, зьявіліся нябачаныя дагэтуль краскі—ячмяні, аўсы, пшаніца.

Я ведаю, красуня-Прыпяць сёньня хоча апрануцца ў новае ўбраньне з гэтых красак і ціха, урачыста ісьці далей, і там, далей, спаткацца са сваім каханкам дарагім Дняпром.

Абдыме ён яе павеўны стан і пойдуць разам неразлучнай сьцежкай на заручыны ў Дніпрэльстан.

Закруцяцца сталёвыя імклівыя калёсы і запяюць магутны гімн вялікай вольнае краіны і песьню шчырага, сардэчнага каханьня.

## МАЗЫР—ГОРАД НЕВЯЛІКІ

Мазыр—горад невялікі, славушка яго таксама. А галоўнае—ніякіх табе савецкіх гасьцініц. Тут па-эўропэйску,—готэлі: „Эўропа“, „Северная“, „Цэнтральная“, „Марсэль“ і г. д. З вас нядорага возьмуць, прыветна спаткаюць, раскажуць мазырскія навіны. На гэты раз самаю гостраю навінкаю быў процэс славутага афэрыста „інжынэра“ Скаржэўскага.

— „Ух, как он работал! Он всем пустил туман“,—кажа нам нізенькі, таўставаценькі гаспадар „готэлю“,— як раз сёньня канчаецца яго дзела, вельмі інтарэснае.

Накіроўваемся ў залю, дзе адбываюцца суды. Пуста. Учора справа Скаржэўскага скончана, „туман“ разьвеяўся. Ну і добра. Няхай яго больш ніколі ня будзе ні над ціхім Мазыром, ні ў галовах мазырскае „галоўкі“.

Вы, шаноўны чытач, мусіць памятаеце, што мы перад ад'ездам у вандраваньне заходзілі ў адну рэдакцыю па аванс і прыблізна ўмовіліся тэлеграмкаю падкінуць у Мазыр да запатрабаваньня, вы мабыць памя-

таеце і пра мой сон на гэтую-ж „тэму“? Дык вось мы на пошце. Пытаемся. Нічога няма. „Я намерваюся класьці іх у кішэню, але не пасьпеў я данесьці да кішэні свае рукі, бачу, у руках нічога няма. Пуста. Мацаю тую самую кішэню, куды я іх меўся палажыць—і там няма“ (канчатак сну). Сёлетні Мазыр прыблізна такі-ж самы, як і летась. Крыху мяняецца ён і з надворнага выгляду, ёсьць новыя ніштаватыя будынкі. Над берагам рэчкі стаяла белая камяніца. Мо‘ сотні гадоў рабіны „размаўлялі“ тут з Іегавой і талмудзілі голавы прававерным.

А сёньня яўрэйскі рабочы сказаў:—даволі! У сынагогу мы ня ходзім, для старых веруючых хопіць гэтага дабра, нам трэба клюб. І паляцелі ўсе прычындалы гэтае малельні. Зроблена поўнае пераабсталяваньне і прыстасаваньне да культурна-асьветных патрэб рабочага.

Быў поўдзень. Рабочыя будаўнікі пашлі на полудзень, застаўся адзін. Мы падышлі да яго і пачалі гутарыць. Паўз нас праходзілі два старыя, барадатыя мужчыны. Яны паглядалі на гэты будынак так, нібы прышлі на пахаваньне свайго старога рэбэ: „ну, вядома, шкада, але-ж старасьць прышла, мы, здаецца, таксама скора памром“. Малады яўрэйскі рабочы глянуў на іх і спакойна, жартаўліва сказаў:

— Яшчэ крыху ня зусім гатова. Праз месяц скончым усё. Наладзім спэктаклі, концэрты,—вось тады прыходзьце. Адзін з гэтых старых буркнуў нешта пад нос, і яны памаленьку пайшлі беражком.

А Прыпяць ціха ўсьміхалася. Яна-ж таксама неміласэрна падмывае карэньні старое вярбы, якая скоса паглядае на маладыя квітнеючыя сады.

## ТУДЫ, ДЗЕ „АКЦЫЯНІРУЮЦЬ“ АЎТАБУСЫ

Плян маршруту мяняецца. Замест раней вызначанага Мазыр—Менск мы едзем Мазыр—Рэчыца—Гомель—Магілеў—Ворша—Менск. Цікава, што амаль ва ўсе гарады мы прыяжджалі раніцаю. Раніца ў Рэчыцы. Ціхі, тыповы павятовы гарадок, цяпер—раён. Пад‘яжджаем да маладога сквэру. Перад ім нейкі новы дрыўляны, але добры будынак, а на ім як, відаць старая шыльда: „Дом селянина пры Рэчыцкам Акруговам Выканаўчам камітэці“. Дом селяніна, добры, толькі пара паклапаціцца аб новай граматнай шыльдзе.

Пакуль горад абуджаўся, мы прайшліся амаль па ўсіх вуліцах уздоўж Дняпра, зайшлі на прыстань і нарэшце накіраваліся ў „Грандотэль“ (!). Гэта шырокі аднапавярховы стары дом. Калідорам уздоўж ён падзелены на дзьве палавіны, а кожная палавіна падзелена „лучынкамі“ на клеткі— ну, і чым-жа ня „Гранд“? Як прамаргаў такую назву Мазыр, трудна сказаць. На рынку мы наведалі коопэрацыйныя крамы. Яны робяць лепшае ўражаньне, чым мазырскія. Побач з гэтымі коопэрацыйнымі ўстановамі, рознымі арцелямі, сустракаюцца розныя „Варшаўскія портные“, „Парижские парикмахеры“, „Рижские сапожники“. Мала слоў, на малюначак „залюбуешся“—на гамашыкі, на генэральскі мундыр „варшаўского

портного“, на Кацярынскую прычоску „Парижского парикмахера“, на „выраженьица лиц“. Фактычна, з надворнага боку гэта толькі і засталося ад „блеску“ павятовых гарадоў. Архіўным пылам дзьме ад гэтых шыльдаў. Некаторыя гаспадары спрабуюць „рэстаўрыраваць“ сваю „рэкляму“; у прозьвішчы, напрыклад, „Миркин“ (гэта не пра Рэчыцу) замазваюць у літарах „и“ па аднэй палачцы і выходзіць „пад беларускі стыль“, але ніяк не падыходзіць пад стыль нашае эпохі, эпохі колектыўнае працы і соцыялістычнае перабудовы краіны. Ніякая „рэстаўрацыя“ не паможа. Хутчэй здавайце свае рэклямы ў архіў, а бляху—як стары лом. Станавецеся пад новыя шыльды, дзе няма эксплёататараў, эксплёатуемых, дзе ідзе творчая колектыўная праца, і тады вы будзеце роўнымі членамі працоўнае сям'і.

Ціхі, мірны, даволі чысты гарадок Рэчыца. Спакойна стаяць у садкох з белымі вокнамі домікі. З гэтых домікаў вы можаце пачуць і бадзёрую, звонкую піонэрскую песьню: „Мы піонэры працоўнай сям'і“ і ціхае, дрыжачае сопрано: „Годы давно прошли, страсти остыли“.

Мы крыху азнаёміліся з аднэю часткаю гораду і накіроўваемся ў другую. Гэтая другая частка мела зусім іншы выгляд. Над ёю высіліся вялізныя дымары і сьведчылі аб тым, што там адбываецца іншае жыцьцё. Аўтабус давёз нас да рабочага пасёлку і спыніўся на вялікай роўнай плошчы. Мы накіраваліся ў вароты сярнічковае фабрыкі. Мы ведалі, што тут дзьве такіх фабрыкі—старая, са старым абсталяваньнем, і новая, з зусім іншым найноўшым абсталяваньнем. Дырэктар выдаў нам прапускі на абедзьве фабрыкі і параіў пачынаць са старое. Так мы і зрабілі. Агледзелі ўвесь ход гэтае вытворчасьці і дайшлі да ўпаковачнае. Тут мяне зацікавіла ручная ўпакоўка. Рука работніцы наўгад брала запалкі. У момант клала ў карабок, закрывала, і так з-пад яе рук шпарка выскаквалі напакованыя карабочкі. І гэта стоячы ў душным памяшканьні (побач сушылка). За дзень яна ўпакуе гэтых карабкоў тры з паловаю тысячы.

Падышоў дырэктар фабрыкі т. Федаровіч. Ён ведае, што ўпаковачны цэх ня зусім адпавядае нормальным умовам працы. На гэтай фабрыцы адчуваецца агульная цеснага. Ён паказаў нам, як яны пад памяшканьнем клюбу зрабілі паглыбленьне ў зямлі і туды маюць перанесьці фанэрны цэх. Мы яшчэ раз, разам з дырэктарам, абышлі гэтую „старушку“ і ўжо адны пашлі на новую фабрыку. Пачынаем з машыннага аддзяленьня. Чыста, сьветла, прасторна. Ідзем далей і разглядаем увесь процэс вытворчасьці, з самага пачатку, з абрубка дрэва. Тут машына заўладала ўсім. Яна прымае, перарабляе і накіроўвае ў іншую інстанцыю. Простая штука, як паглядзіш на карабок сярнічак, а інстанцый, трэба прайсьці нямала. Мы ўважна сачылі за рухам скрыначкі і нейк у адным месцы згубілі яго; аказваецца, яны трапляюць у вялікае рукаво, і тут ветрам пераганяе іх у другі цэх. Толькі зайшлі туды, дзе запалкі пакуюць у каробачкі, раптам недалёчка здарыўся выбух. Дзяжурны пажарнік кінуўся туды. Мы спыніліся. Глядзім. А работніцы, якія стаялі крышку воддаль, зусім спакойна стаялі і нават

адна з усьмешкаю глянула на нас. Мы зразумелі, што здарылася нешта прывычнае для іх. Так, гэта ўспалымнелася цэлая касета. Работніцы, якія стаялі пры гэтай рабоце, хутка пачалі ліквідаваць гэтую замінку. Усё такі такія выбухі небясьпечны для іх, можна асмаліць і твар і рукі. Мы падышлі бліжэй і гутарылі з пажарным. Не прайшло пяці хвілін, тут-жа пры нас здарыўся другі выбух. Сёньня не пашанцавала. Ды наогул гэта экспартныя сярнічкі, у іх моцнаю масаю намазаны галоўкі. Упакоўку карабкоў дзесяткамі таксама робіць машына. Мабыць толькі пагрузка ў вагон адбываецца выключна рукамі чалавека. Тут-жа праходзіць чыгунка, стаяць вагоны.

Накіроўваемся да аўтобуснае астаноўкі. Проста перад намі быў рабочы пасёлак. У ім выразна віднеецца вялікі, яшчэ ня зусім скончаны будынак, які прызначаецца для вялікае рабочае сталоўкі. Тут вырастае і з кожным годам павялічваецца новая частка гораду, выключна рабочыя кварталы. Невялічкі горад Рэчыца робіцца даволі значным індустрыяльным цэнтрам.

Паўднёвым і надвячорным часам, на залацістым пескавым астраўку, паўнютка народу. Цудоўны пляж! І галоўнае—прастата. І мужчыны і жанчыны—усе ў адпаведным полукупальным адзеньні гуляюць па беразе, некаторыя ляжаць і пачытваюць кніжачкі, купаюцца.

Пакупаліся і мы.

Ідучы з пляжу паўз гарадзкі сад, мы прачыталі афішы, пазнаёміліся з програмаю сёнешняга гуляньня. Па афішах відаць, якое „мастацтва“ прападносяць Рэчыцы розныя шпагаглытацелі. У такіх гарадох ахвотна і не бяз посьпеху выступаюць розныя лектары і вырашаюць розныя проблемы, скажам: „половые вообще и криминальные в частности“.

Вечарам у садзе кіно-карціна. Як палагаецца, іграе оркестр, зьбіраецца публіка. Сядзім на лаўцы, гутарым.

— Вы, канешне прыежджыя?—пытае нас адна суседка, якая бясспрэчна лічыць сябе інтэлігенткаю.

— Так, мы праездам.

— Как вам нравіцца наша Рэчыца?

— Сымпатычная ваша Рэчыца.

— Ну, што сейчас, когда был уезд і было многа служащих, тогда совсем был другой інтерес.

— А цяпер?

— А сейчас если-бы не фабрыкі, так Речицу надо-бы совсем закрыть, а так все-таки *акционируют* автобусы и конечна прогресс идет направо и налево.

Вы думаеце, мо‘ гэта яна жартавала так? Зусім не, гэта была самая сур‘ёзная размова. На лаўцы з другога боку нас сядзела парачка—ён і яна. Ён заўважыў, што яна нібы засумавала і нарэшце рашыў выясьніць:

Ён: вы сегодня что-то не очень?

Яна: (маўчыць).

Ён: как-то не так, как всегда?

Яна: (маўчыць).

Ён: а может быть мне показалось?

Яна: (маўчыць).

Ён: закурыць, что-ли?

Яна: (маўчыць).

Ён: (закурыўшы). Нет, на самом деле, скажите?

Яна: что?

Ён: кажется заскучалі?

Яна: да, знаете, и скучно и грустно и некому в морду набить.

На экране зьявілася частка першая.

На другі дзень, рана-раненька, мы павольна ішлі на вакзал і праз паўгадзіны былі ў вагоне і праяжджалі, паўз новую фабрычную частку Рэчыцы, глядзелі на высокія жывыя дымары, якія горда ўздымаліся над усімі будынкамі і пасылалі сваё вітаньне сваім бліжэйшым, гомельскім сябром.

А вось сівы і вечны малады Дняпро. Ну, з ім яшчэ спаткаемся.

## НА СОЖ

Гомель-Гомель,—чытаем на шыльдзе вакзалу. Здаецца, што ня было-б вялікага граху, каб у тых выпадках, калі словы выглядаюць зусім аднольковa, не паўтараць іх.

Трэба сказаць, што Гомель за апошнія гады настолькі ўпарадкаваўся, падчысьціўся, што ў некаторых выпадках можа стаць узорам і для Менску. Напрыклад, там ад вакзалу і да парку, а гэта значыць праз увесь горад, праходзіць шырокая, гладкая вымашчаная вуліца. Ёсьць многа новых будынкаў, падфарбаваны старыя. Акуратна некалькі разоў у дзень паліваюцца галоўныя вуліцы. У Гомелі значна гарачэй, чым у Менску, гэта сапраўды паўднёвы горад, але тут няма таго пылу, які адчуваецца ў Менску і так няміласэрна душыць сталічнае жыхарства.

Начлежка Дому асьветы перапоўнена, але нам даюць сякі-такі прытулак. Клюбы і куткі асьветнікаў гэта—культурныя асяродкі ня толькі асьветнікаў таго гораду, дзе яны знаходзяцца, а ўсіх акруговых асьветнікаў. Тут знаходзіць прытулак усякі падарожнік-асьветнік і з іншых акруг БССР, РСФСР і другіх Савецкіх краін.

Якое раздольле на Сожы! Колькі тут чаек! Дзьве вялікія чайкі бесьперапынна возяць людзей на славуты Мельнікаў Луг. Там цудоўны пляж, дубовы лясок і чыстая вадзіца спакойнага Сожу. Надвячоркам увесь Сож у гэтым месцы пакрываецца чайкамі. Вось невялічкая „Любовь“ з маладым хлапцом і пажылою „дамаю“, на „Люсі“, цэлая група вясёлых маладых хлапчукоў, а на безназоўнай, нейкай вузенькай, доўгай чайцы сядзіць пахмуры адзіночка. І так ня зьлічыш тут ні чаек, ні людзей. Весела, гульліва пераклікаюцца, сьпяваюць, іграюць на гармоніках, гітарах. Тут вы пачуеце і старэнькае: „Тихо и плавно качаясь“, „Ах, зачем ты меня целовала, жар безумный в груди затая“, і розныя „арыі“ з розных

опэр, і сытаканчыкі гыранёны", часам нават „А ў полі вярба", а то і проста расійскую лаянку. Розны-ж народ тут плавае. Сож усіх прымае на сваіх шырокіх грудзях. Шчасьлівыя гомельчане! Мне здаецца, што лепшага купаньня ў БССР няма.

У Гомелі мы спыніліся да бліжэйшага поезда на Жлобін. За гэты дзень мы наведалі музэй, акруговы інспэктарыят асьветы і мастацкую выстаўку. Між іншым, у Гомелі ёсьць некалькі ня дрэнных мастакоў, але на гэтай выстаўцы асабліва мастацкіх работ ня было. Тут пераважна былі вучнёўскія работы, малюнкі пачынаючых мастакоў і маляроў. Выстаўка, асабліва для маладых мастакоў, вельмі патрэбна, ім патрэбны крытычныя заўвагі; на жаль, у кнізе „впечатлений" такіх заўваг было вельмі мала. Большасьць запісаў сьведчылі альбо аб неразуменьні, альбо аб „патрыотычным" падыходзе да свае гомельскае выстаўкі. А на некаторых выстаўка сапраўды зрабіла вялікае ўражаньне, і яны пішуць: „когда я зашол в Гомельском гудожественом Студии все статуэтки, картинки все тянули к им это значит что выставка очен хорошо разложаны. Мне наравится рысунки, статуэтки Хайкина, Г. Крылова и С. Малкина". І яшчэ: „Посьле этой выставки мне произвело очень большое впечатление" і г. д. Нягладка сказана, але, відаць, шчыра.

## НАДДНЯПРОЎЕМ У МЕНСК

Мінаем Жлобін, Рагачоў, Ст. Быхаў, Шклоў і спыняемся ў Магілеве, у Воршы. Гэта ўсё Наддняпроўскія гарады, на вялікім водным шляху з „Варяг в Греки". Мала гэтага, яны ўсе зьвязаны добраю чыгункаю. Шляхі зносін найлепшыя. З пабудоваю Асінэльстану, яны шпарка пачалі рыхтавацца да прыёму электрыкі. Будуюцца асобныя вялікія прадпрыемствы і цэлыя комбінаты. Растуць рабочыя пасёлкі з паркамі, садамі, фізкультурнымі пляцоўкамі. Асабліва прыкметна ўпарадкаваньне гораду Воршы. Тут у самым цэнтры на пустыры зроблен вялікі прыгожы парк, выбрукаваны амаль усе вуліцы. Збудаваны шэраг кватэрных будынкаў. Чыгуначны вузел, Дняпро, блізкасьць Асінэльстану,—усё гэта як найлепш спрыяе ператварэньню Воршы ў буйны фабрычны цэнтр. Трэба яшчэ мець на ўвазе, што ля Воршы на Дняпры ёсьць яшчэ Кабыляцкія парогі, на якіх у свой час напэўна будзе пабудавана электрастанцыя. Ворша цікава ня толькі сваімі шляхамі зносін, яна багата прыгожымі featureі рознастайнымі ляндшафтамі, багацейшаю „натураю" для (скажам) кіноздымкаў. Мо' пры выбары месца для пабудовы кіно-фабрыкі гэта і ня так важна, а ўсё такі ў Воршы ёсьць усе даныя, каб у часе выбару месца для такой фабрыкі стаць сур'ёзным прэтэндэнтам.

Праяжджаючы праз гэтае Наддняпроўе, я ўважна чытаў афішы, хадзіў у гарадзкія сады, знаёміўся з тым, як і якім мастацтвам абслугоўваюцца рабочыя масы гэтых гарадоў. Возьмем Магілеў. Тут вясною некалькі месяцаў быў БДТ2. Добра. А што Магілеў мае да яго і пасьля?

Тут заўсёдашнім госьцем зьяўляецца „малороссийская“ трупа, адзін за адным зьяўляюцца розныя „сілачы“, якіх на паўгадзіны закопваюць у зямлю, разьбіваюць на грудзях камяні, пераяжджаюць аўтомобілем і г. д.; тут і абрыўкі розных цыркаў і безьліч усякіх „знаменитостей“ з праграмаю:. „даёш сбор“! Яшчэ горш з гэтым у Воршы, Жлобіне, Шклове, Рагачове. А там-жа ёсьць значныя масы чыгуначнікаў. Гасьцюе часам Галубок, але-ж гэтага мала. Ну, а раённыя, местачковыя цэнтры зусім жывуць самапасам.

Ясна, што гэта вялікі недагляд з боку нашага Камісарыяту Асьветы і мясцовых выканкомаў. Помніцца, аднаго разу Ворша мелася заснаваць свой перасоўны рабсельтэатр, але пасьля нешта сьціхла. А між іншым на Украіне амаль усе буйнейшыя райцэнтры маюць свае „робсельтеатры“. Яны забясьпечаны самым сучасным рэпэртуарам, блізкім масаваму гледачу, праз іх праводзіцца вялічэзная політыка-асьветная работа. „Робсельтеатры“ са свайго боку дапамагаюць вясковым драмгурткам. Выдаткаваньні на работу РСТ цалкам компэнсуюцца іх культурная работаю. Большасьць украінскіх РСТ адпавядаюць нашаму БДВТ.

Зразумела, што нашым, параўнальна невялікім сельскім райцэнтрам не пад сілу будзе ўтрымоўваць такі тэатр. А акруговыя цэнтры могуць. А, нарэшце, ці ж нельга ўтварыць „раённы“ тэатр на дзьве акругі? Бязумоўна, гэта зусім мажліва. Утварыць, скажам, раённы рабсельтэатр у Магілеве. Галоўныя яго пункты працы: Ворша, Копысь, Магілеў, Шклоў, Ст. Быхаў, Рагачоў, Жлобін. Вось вам, скажам, Наддняпроўскі раённы тэатр. Полацак і Віцебск маглі-б утварыць, скажам, Наддзьвінскі [1]) тэатр і г. д. Нам патрэбен тэатр так званых малых форм. Вось такія раённыя РСТ павінны мець у сваім рэпэртуары, апрача вялікіх п'ес, і агросуды, і інсцэніроўкі рэволюцыйных поэм і наогул такі матэрыял, які-б лёгка мог быць увязаны з правядзеньнем тае, ці іншае кампаніі. Патрэбу ў гэтым адчувае кожны клюб, кожны нардом і гэтым пытаньнем трэба заняцца сур'ёзна. Галоўмастацтву няма чаго сядзець у Менску і паглядаць выключна на акадэмічныя тэатры, няхай яно выедзе ў раёны і ўважна паглядзіць, якім „мастацтвам“ кормяцца нашы раённыя клюбы і нардамы. Сцэнічнае мастацтва ў наш час, гэта—ня вузка тэатральная справа, ня толькі забава. Наш тэатр зьяўляецца магутным выхаваўчым сродкам, гэта сур'ёзнае зьвяно ў справе культурнае рэволюцыі.

Вось з такімі думкамі я пад'яжджаў да Менску. Мой рэчавы багаж складаўся з аднае невялічкае скураное торбачкі і фанернае палачкі, але затое я нёс вялікі багаж уражаньняў і сьвежых думак.

Ёсьць яшчэ многа адмоўнага ў нашым жыцьці, але вялічэзны ўздым працы, накіраваны Ленінскаю рукою, перамагае ўсе цяжкасьці і вядзе краіну *па сонечным шляху*. Ня будзе крыўд, ня будзе зьдзекаў, ня будзе цёмнай ночы на зямлі—будзе сьветлы, чысты і радасны дзень!

---

*) Назва падаецца ўмоўна.

# НОВАЯ ВЕХА НА ПЕРАМОЖНЫМ ШЛЯХУ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА

**С. Беднарскі**

Сучасная сусьветная сытуацыя характарызуецца рэзкім абвастрэньнем супярэчнасьцяй пасьляваеннага крызісу капіталізму.

Наступленьне капіталу на рабочую клясу, якое праводзіцца ў выглядзе капіталістычнай рацыяналізацыі, жорсткі экономічны і політычны тэрор у дачыненьні да рабочае клясы і асноўных мас сялянства—прыводзіць да сур'ёзнага пагоршаньня становішча працоўных і эксплётуемых мас, абвастраючы клясавыя супярэчнасьці і барацьбу мас супроць капіталу. Усё з большаю рэзкасьцю вызначаецца ўздым рэволюцыйнай барацьбы пролетарыяту і працоўных эксплёатуемых мас усяго сьвету, у першую чаргу ў колёніях і напоўколёніях. Працоўныя і эксплёатуемыя ўсе больш шырокім фронтам пераходзяць ад абарончых, боек да контр-наступленьня, дзе-ні-дзе і ў наступленьне на капітал.

Расьце хваля экономічных забастовак ва ўсіх капіталістычных краінах. Усё часьцей гэтыя бойкі набываюць яскравы політычны характар.

Побач з павялічэньнем рэволюцыйнай актыўнасьці працоўных, растуць прызнакі экономічнага крызісу, які ўсе паглыбляецца і які засасвае ў свой вір найбольш магутныя капіталістычныя дзяржавы. Біржавы крызіс у Амэрыцы выявіў сваё сапраўднае значэньне: справа ня ў біржавым патрасеньні, а ў сур'ёзным экономічным крызісе. Паўночна-амэрыканскі друк, які пасьля вайны з году ў год трубіў аб—prosperity—аб росквіце ўсёй народнай гаспадаркі Злучаных Штатаў і з факту гэтага працяглага „росквіту" рабіў вывад аб новай эры бяскрызіснага капіталізму, у чым яму ўтарылі пісакі жоўта-соцыялістычнага друку,—прымушаны канстатаваць поўную няўдачу. Нават афіцыяльныя ўстановы рэспублікі доляра з уласьцівай ім стрыманасьцю кажуць публічна аб пачатку сур'ёзнай экономічнай дэпрэсіі.

Згортваецца найбольш магутная аўтомобільная прамысловасьць, якая вызначае ход кон'юктуры ў Амэрыцы. Гэнры Форд—кароль аўтомобільнай прамысловасьці—вядзе „благочестивые" гутаркі аб неабходнасьці падвышэньня заработнай платы, каб выйсьці з крызісу шляхам пашырэньня пакупальнай здольнасьці шырокіх мас насельніцтва. На справе—пад сурдынку такіх „благочестивых" гутарак—выкідвае з прадпрыемстваў 35.000 чалавек і пераводзіць свае прадпрыемствы ў Ірляндыю, спадзяючыся, што танныя рабочыя рукі непатрабавальных жыхароў зялё-

нага Эрына дапамогуць яму выйсьці з тупіку. Іншыя каралі амэрыканскай прамысловасьці ідуць па сьлядох свайго шчасьлівага правадыра-супарніка. Цэлы шэраг тэкстыльных прадпрыемстваў пераводзіцца ў ахопленую хронічным голадам Індыю, у Сярэднюю і Паўднёвую Амэрыку і ў цэлы шэраг іншых колёніяльных ці напоўколёніяльных краін, дзе ёсьць танныя рабочыя рукі, няма прафэсыянальных організацый і існуе надзея на бязьмежную нажыву і неабмежаваную эксплёатацыю рабочых.

Трэці пэрыод разьвіцьця крызісу пасьля ваеннага капіталізму знайшоў найбольш яскравае і найбольш закончанае выражэньне ў фашысцкай Польшчы, гэтым, як кажуць тэзісы ЦК КПП, найбольш слабым зьвяне капіталістычнай „стабілізацыі“. Экономічны крызіс ў Польшчы, першыя прызнакі якога афіцыяльна былі прызнаны ўсяго некалькі тыдняў таму назад міністрам фінансаў і тэорэтыкам фашызму—Матушэўскім, няспынна паглыбляецца.

У першую чаргу церпіць тэкстыльная прамысловасьць, у якой большасьць рабочых зноў заняты па 2—3 дні у тыдзень. Колькасьць поўных беспрацоўных ў аднэй толькі Лодзі перавышае 40 тысяч чалавек, што складае амаль палову агульнае колькасьці рабочых, занятых у гэтай галіне прамысловасьці. Такое становішча назіраецца і ў іншых галінах прамысловасьці. Нават мэталюргічная прамысловасьць, якая у значнай меры працуе на патрэбы ваеннай прамысловасьці, згортваецца.

Шалёным тэмпам працуе толькі *ваенная* прамысловасьць, а таксама будаўляная прамысловасьць, што *працуе ў галіне ваенных об'ектаў:* пабудаваньне новых ваенных заводаў, цытадэльных пабудаваньняў, шос, чыгунак.

Калі вылучыць ваенную прамысловасьць, то больш ці менш нормальным тэмпам б'ецца толькі пульс жыцьця ў каменна-вугольнай прамысловасьці. Тут аднак дзейнічаюць спэцыфічныя прычыны. Фашысцкі ўрад шырока ўжывае бросавы экспорт вугалю заграніцу з мэтай атрыманьня валюты і падтрыманьня вугальнай прамысловасьці на ўзроўні, патрэбным для ваеннай прамысловасьці ў пэрыод падрыхтоўкі да вайны ў ваенны час.

Экономічны крызіс у Польшчы даўно ўжо перарос у яскрава выражаны політычны крызіс ўсёй фашысцкай сыстэмы. Буйная буржуазія і польскія ленд-лёрды, якія сумесна праз свой выканаўчы орган—фашысцкую дыктатуру Пілсудзкага—кіруюць с равамі ў Польшчы, спрабавалі знайсьці выйсьце ва ўзмацненьні жорсткага экономічнага, політычнага і адміністрацыйнага націску на працоўныя і эксплёатуемыя масы ў Польшчы і на зьняволеныя і прыгнечаныя Польшчай народы.

Пад аховай лютага тэрору паліцыі, фашысцкіх і соцыял-фашысцкіх баявых дружын, шырока карыстаючыся дапамогаю соцыял-фашысцкага партыйнага і профсаюзнага апарату правячыя клясы павялі наступленьне, у першую чаргу на рабочую клясу і яе партыю. Фашысцкі апарат праводзіць курс на фізычнае зьнішчэньне партыі пролетарыяту—Комуністычнай партыі Польшчы, Заходняе Беларусі і Заходняй Украіны (КПП—КПЗБ і КПЗУ), сьцінаньня галавы пролетарыяту шляхам забой-

стваў, змору ў турмах партыйнага і рэволюцыйнага актыву рабочае клясы. Адначасова правячыя клясы спрабавалі паралізаваць пролетарыят пры дапамозе сыстэмы фашысцкага законадаўства—сутнасьць якога, ня гледзячы на вялікую рознастайнасьць новых законаў, зводзіцца да зьнішчэньня магчымасьці ў рабочае клясы выступаць організавана супроць капіталу. Усе новыя законы маюць на ўвазе або пасеяць ілюзіі ў масах, нібы забастоўка непатрэбная зброя—перажытак, або проста забараніць забастоўкі.

Экономічны ўдар фашызму накіраваны ў першую чаргу па лініі зьніжэньня заработнай платы, павялічэньня рабочага дню, узмацненьня інтэнсыўнасьці эксплёатацыі працы рабочых.

Атака капіталу на экономічным фронце адбывалася, як і ўва ўсім сьвеце, пад сьцягам капіталістычнай „рацыяналізацыі". Аб сапраўдным зьмесьце гэтай „рацыяналізацыі" можна меркаваць па конкрэтных праявах яе. На чыгунках была ўведзена падрадная сыстэма працы. У выніку 10.000 рабочых было выкінута на вуліцу. У падрадчыка-ж яны атрымоўвалі менш на 50 проц. заработнай платы, павінны былі згадзіцца працаваць 10 і 12 гадзін у суткі. Другі мэтод „рацыяналізацыі": да вайны за 10-гадзінны рабочы дзень норма была зьмяняць 8 падкладаў у дзень—зараз „рацыяналізавана" ў 8 гадзін—10 пакладаў.

Жадаючы пасеяць дэмократычныя ілюзіі ў масах, фашысцкі ўрад не касуе заваяванага ў гады рэволюцыйнага ўздыму, закону аб 8-гадзінным рабочым дні, лічачы лепшым, каб яго абыходзілі. Адным з спосабаў абходу зьявіўся прынцып так званага „ўласнага варштату". Варштат гэты як і раней зьяўляецца ўласнасьцю капіталістага, знаходзіцца на яго-ж фабрыцы, сыравіна даецца капіталістым. Але варштат на сваёй фабрыцы капіталісты здае ў „арэнду" свайму наёмнаму рабочаму. Пры дапамозе гэтай нескладанай опэрацыі рабочы становіцца „гаспадаром" і паводле „закону" да яго ня маюць дачыненьні законы аб ахове працы. Магчымасьці эксплёатацыі „самастойнага гаспадара" бязьмежныя.

Усе гэтыя мэтоды прыводзяць да надзвычайнага пагоршаньня становішча рабочых, да абвастрэньня клясавых супярэчнасьцяй і росту рэволюцыйнай хвалі.

Ня гледзячы на аб'яднаныя патугі буржуазіі, апарату фашысцкай дыктатуры і соцыял-фашыстых, рабочыя масы выступаюць усё больш грозна.

Барацьба пролетарыяту ўсё часьцей перарастае простыя політычныя забастоўкі, рабочыя ўсё часьцей выступаюць ня толькі супроць паасобных капіталістых ці паасобных прадстаўнікоў улады, але і супроць усёй сыстэмы фашысцкай дыктатуры. Рэволюцыйным хваляваньнем ахоплены і сялянскія масы. У краіне шпарка нарастаюць элемэнты непасрэднай рэволюцыйнай сытуацыі.

Тая мышыная тузаніна ў сойме і наўкола сойму, у выглядзе лялечнай комэдыі „барацьбы" соймавай опозыцыі супроць ураду, зьяўляецца вынікам і адным з адбіткаў нарастаньня непасрэднай рэволюцыйнай сытуа-

цыі. Барацьба соймавай опозыцыі супроць ураду Пілсудзкага—гэта толькі спрэчкі ў фашысцкім лягеры з-за мэтодаў, якімі можна адтэрмінаваць і ліквідаваць рэволюцыйны выбух,—гэта спрэчка аб тым, якім чынам ў калясьніцу ваеннай авантуры, у якой увесь фашысцкі лягер—ад Пілсудзкага, эндэкаў і канчаючы пэпээсаўцамі—бачыць выйсьце з сытуацыі—упрэгчы мільёны працоўных Польшчы.

Падрыхтоўка вайны! Вось сапраўдны зьмест паняцьця капіталістычнай стабілізацыі.

Гэтую праўду лепш за ўсё можна праверыць на прыкладзе Польшчы, адначасна ўскрываючы замыслы імпэрыялістых, супроць каго накіравана падрыхтоўка ваеннага наступленьня. Польскі фашызм праводзячы колёніяльную эксплёатацыю Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, замацоўваючы за „ўсходнімі крэсамі“ іх экономічную адсталасьць, адначасова будуе там першаклясныя мэханічныя пякарні, разьлічаныя на забясьпечаньне дзесяткаў тысяч спажыўцоў, хоць насельніцтва ні Заходняй Украіны і ні Заходняй Беларусі ў такіх заводах ня мае патрэбы. Гэтыя заводы патрэбны ў прамысловых цэнтрах Польшчы—на Захадзе, але там рабочы прымушаны харчавацца хлебам, прыгатаваным у антысанітарных умовах саматужным спосабам. Тут-жа на окупаваных землях будуюцца першаклясныя фабрыкі штучнага шоўку, якія, як вядома, з мінімальнай затратай часу і рабочай сілы, могуць замест штучнай шоўкавай ніткі выраблясць выбуховыя матэрыялы. На тых-жа „ўсходніх крэсах“ польскія окупанты, руйнуючы гужавой павінасьцю (шарваркі) беднату і серадняцтва, узмоцнена, з шалёнай сьпешкай удзень і ўначы пры электрычных ліхтарох будуюць шосавыя дарогі, якія самымі кароткімі шляхамі злучаюць концэнтрацыйныя пункты польскай арміі з нашай граніцай. Фашысцкая Польшча, увесь яе бюджэт (75 проц.), асьветная праца, пропаганда, царква, друк—усе на службе аднэй мэце—падрыхтавацца лепш і шпарчэй да ваеннага нападу на Савецкі Саюз. Гэтага патрабуе ўнутраное становішча, якое ўсё больш абвастраецца. Правячыя клясы фашысцкай Польшчы ў адцягненьні ўвагі працоўных і эксплёатуемых мас ад унутраных пытаньняў, у заваяваньні новых рынкаў збыту і эксплёатацыі, што зьвязана з зруйнаваньнем і заняволеньнем Савецкіх Рэспублік Беларусі і Украіны, у вайне—бачаць паратунак ад надыходзячай катастрофы. На шлях ваеннай авантуры, накіраванай супроць Савецкага Саюзу, штурхаюць фашысцкую Польшчу чужаземныя яе прыяцелі і апякуны. Гэтыя магутныя імпэрыялістычныя драпежнікі даўно-б ужо „вырашылі“ свае супярэчнасьці новай крывавай бойняй, за перадзел сьвету,—каб ня страх перад сусьветнай пролетарскай рэволюцыяй і яе вогнішчам і організатарам—Савецкім Саюзам.

Жорсткі экономічны крызіс, рост унутраных і знадворных супярэчнасьцяй у капіталістычным сьвеце, нарастаньне ваеннай небясьпекі,—усё гэта зруйнавала ўшчэнт усе тэорыі міжнародных правых опортуністых на чале з Бухарыным—аб організаваным капіталізьме. Гіронічныя за-

ўвагі пасьлядоўцы і вучня тав. Бухарына, швайцарца Эмбэр-Дро, адносна вызначэньня Комінтэрнам капіталістычнай стабілізацыі, як хісткай, гнілой і часовай, гэта, быццам, пустыя словы, бо справа ідзе аб капіталістычнай стабілізацыі бяз двукосьсяў і прыметных, гэтыя заўвагі разьбіты жыцьцём. Расхістка капіталістычнай стабілізацыі—няўхільны факт. Аналіз VI конгрэсу і X пленуму ВККІ аб характары разьвіцьця пасьляваеннага крызісу капіталізму знайшоў поўнае пацьверджаньне ў жыцьці.

Адным з галоўнейшых фактараў расхісткі капіталістычнае стабілізацыі зьяўляецца існаваньне краіны пролетарскай дыктатуры і тыя вялізарныя дасягненьні ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва і рэконструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі, якія мае Савецкі Саюз. За 8 год, якія прайшлі з моманту пераможнага сканчэньня грамадзянскае вайны, Савецкі Саюз здолеў без дапамогі звонку ня толькі аднавіць сваю гаспадарку да даваеннага ўзроўню, але далёка пераступіць гэты ўзровень, сабраўшы сілы і сродкі для таго, каб паставіць перад сабой задачу дагнаць і выперадзіць перадавыя капіталістычныя дзяржавы. Найбольш яскравыя дасягненьні Савецкага Саюзу ў галіне разьвіцьця энэргетычнай базы і будаўніцтва цяжкой прамысловасьці, якая дае краіне сродкі вытворчасьці. Гэта не выпадковыя вынікі, гэта плён сьвядомай і мэтаімкненнай палітыкі комуністычнай партыі—організатара і правадыра Кастрычнікавае рэволюцыі, організатара перамогі і правадыра пролетарыяту ў грамадзянскай вайне і ў барацьбе супроць контр-рэволюцыйнай інтэрвэнцыі сусьветнага капіталу і яго наймітаў, організатара і правадыра пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва ў горадзе і вёсцы.

Ужо ў 1921 г. на зьезьдзе саветаў быў прыняты распрацаваны Дзяржкамісіяй па электрыфікацыі (Гоэрло) гістарычны плян электрыфікацыі СССР. Гэты плян характарызаваўся Леніным, як другая програма нашай партыі. Прыблізна ў той-жа час на конгрэсе Комінтэрну Ленін перадаваў дэлегатам міжнароднага пролетарыяту паведамленьне, што ў руках дыктатуры пролетарыяту накапілася 20 мільёнаў залатых рублёў, як рэзэрв і аснова аднаўленьня і рэконструкцыі народнае гаспадаркі.

Плян Гоэрло, таксама як і памянёныя 20 мільёнаў залатых рублёў, доўгі час былі нявычарпальнай крыніцай злых жартаў і кпінаў для буржуазных борзапісцаў. Плян электрыфікацыі называўся дзіцячай фантазіяй, 20 мільёнаў залатых рублёў мізэрнай латкаю на трышкіным каптане народнае гаспадаркі Савецкага Саюзу. Буржуазныя невукі і сьляпцы ня бачылі, што гэтыя 20 мільёнаў залатых рублёў з'экономлены за кошт недаеданьня ў гады голаду, холаду і найвялікшай экономічнай разрухі, гэтых вынікаў імпэрыялістычнай вайны і контр-рэволюцыйных атак белагвардзейцаў, былі маленькім праяўленьнем тэй новай грамадзкай сыстэмы і тэй найвялікшай энэргіі, таго творчага энтузыязму працоўных мас, уся веліч і цыклёпічная магутнасьць якіх стала яснай толькі сёньня.

Аб пляне электрыфікацыі казалі, што ва ўмовах Савецкага Саюзу, пры тым зруйнаваньні, у якім знаходзілася наша народная гаспадарка,

гэты плян невыканальны нават у тым выпадку, калі нам на дапамогу прыдзе чужаземны капітал. Савецкая ўлада, пад кіраўніцтвам партыі Леніна, вельмі асьцярожна падыходзіла да наметкі пэрспэктыў разьвіцьця гаспадаркі. Меркавалася, што гэты плян будзе зьдзейсьнены ў працягу 10 год, калі Савецкі Саюз атрымае чужаземныя крэдыты, і ў працягу 15 год, калі Савецкі Саюз гэтых крэдытаў не атрымае. Сёньня, з дню зацьвярджэньня пляну электрыфікацыі Савецкага Саюзу, гэтай першай наметкі вядзеньня народнай гаспадаркі на новых соцыялістычных асновах, мінула няпоўных 9 год. Плян намі выкананы *поўнасьцю* і ў такіх разьмерах, што на будучы год, гэта значыць к 10-годзьдзю пляну Гоэрло, Савецкі Саюз будзе мець амаль у два разы больш электрычнай энэргіі, як меркавалася. Мізэрныя 20 мільёнаў залатых рублёў, якімі так справядліва ганарылася рабочая кляса Савецкага Саюзу, сёньня ператварыліся ў тысячы мільёнаў рублёў, якія краіна дыктатуры пролетарыяту аддае на справу разьвіцьця соцыялістычнай прамысловасьці і рэконструкцыю дробнае, індывідуальнае сялянскае гаспадаркі на соцыялістычны лад. Гэта дзівосныя тэмпы, тэмпы, якіх ня ведае гаспадарчае разьвіцьцё капіталістычных краін. Гэтыя тэмпы зьяўляюцца няпасрэдным вынікам пролетарскае рэволюцыі і таго вызваленьня вытворчых сіл, аб якім казалі Маркс і Энгельс. У гэтых тэмпах знайшло поўнае апраўданьне політыкі Леніна ў дачыненьні да асноўных мас сялянства. Толькі цяпер мы можам ацаніць усю глыбіню Ленінскай концэпцыі нэпу:

„Увесь гвозд у тым, каб рухацца цяпер (Ленін меў на ўвазе пэрыод пасьля скончэньня грамадзянскае вайны, калі краіна Саветаў пераходзіла ад ваеннага комунізму да нэп'у) наперад непараўнальна больш шырокай і магутнай масай, ня іначай, як разам з сялянствам, даказваючы яму на справе практыкай, вопытам, што мы вучымся і навучымся яму дапамагаць, весьці яго ўперад. Такую задачу пры даным міжнародным становішчы, пры даным стане вытворчых сіл Расіі, можна вырашыць, толькі вырашаючы яе паволі, асьцярожна, дзелавіта, тысячу разоў правяраючы практычна кожны крок". (Збор твораў, том XVIII, частка 2, стар. 70-71).

Гэта было трэба для таго, каб:

„Самкнуцца з сялянскай масай, з радавым працоўным сялянствам і пачаць рухацца наперад нязьмерна, бяз конца павальней, чымся мы марылі, але затое так, што сапраўды будзе рухацца ўся маса з намі. *Тады паскарэньне гэтага руху наступіць такое,* аб якім мы зараз і марыць ня можам". (Ленін, том XVIII, частка 2, стар. 29).

Прадбачаньні Леніна спраўдзіліся цалкам. Тыя грандыёзныя тэмпы разьвіцьця, якіх мы дамагліся, якія прыводзяць у захапленьне і зьдзіўленьне буржуазных экономістых, зьяўляюцца лепшым доказам. А між тым, нават у нашых уласных шэрагах карысталася прызнаньнем гады 2-3 таму назад „тэорыя" затухаючай крывой нарастаньня тэмпаў экономічнага разьвіцьця нашай краіны. Вучоныя кніжнікі, якія лічыліся толькі з праўдамі, устаноўленымі і асьвечанымі практыкай папярэдніх пакалень-

няў, лічылі, што пасьля сканчэньня аднаўленчага пэрыоду, калі далейшае павялічэньне продукцыі будзе залежаць ад пуску ў ход новых заводаў, скачкі, якія рабіла з году ў год продукцыя нашай прамысловасьці, будуць прыпынены. Паводле іх думкі—паволі, але няўхільна разгон, узяты намі ў пэрыод аднаўленьня, будзе паслабляцца і тэмпы нашага разьвіцьця будуць уваходзіць у капіталістычную норму. Першыя гады рэконструкцыі паказалі, што вучоныя не даўлічылі якіхсьці няважкіх, але вельмі сапраўдных фактараў. Тэмпы разьвіцьця ў пэрыод рэконструкцыі не такія шпаркія, як у пэрыод аднаўленьня. Але гэтыя тэмпы зусім не адпавядаюць прадсказаньням вучоных кніжнікаў. Не 18, 16, а пасьля нават 13 і 12 проц. гадовага прыросту—з году ў год менш, а 21,4,—21,5,—22,1,—23,1 і 25,2 проц. з году ў год павялічэньне тэмпу прыросту продукцыі, прамысловасьці і сельскае гаспадаркі. Калі ў 1922-23 г. продукцыя цэнзавай прамысловасьці складала ледзь 35,7 проц. ад даваеннага ўзроўню, то ў першую аднаўленчую пяцігодку к 1927-28 г. яна дасягнула ўжо 126,6 проц., а ў гэтую пяцігодку яна павінна ўзьняцца, дзякуючы вызначаным тэмпам да 331,5 проц. Вучоныя, буржуазныя каўпакі і правыя опортуністыя, якія ім уторацъ, ныцікі і капітулянты недаўлічылі таго моманту, што мы будуем соцыялізм, значыцца, што рабочая кляса працуе не на эксплёататара, што пролетарская рэволюцыя разьвязала да канца вытворчыя сілы грамадзтва. Таму з году ў год кантрольныя лічбы даюць нам паказаньні ня толькі на сталы рост, але на ўсё што раз больш паскораны рост народнае гаспадаркі. Няпрадбачаныя і няважкія для буржуазных вучоных і для правых капітулянтаў фактары: пролетарскі энтузіязм і творчая актыўнасьць, якія выліліся ў соцыялістычнае спаборніцтва, у бесьперапынны рабочы тыдзень, у новыя рэволюцыйныя тэмпы, далі сябе адчуць. Усе гэтыя фактары даюць магчымасьць партыі сёньня паставіць перад пролетарыятам задачу выканаць пяцігадовы плян у *4 гады.*

Ніхто ўжо з буржуазных журналістых Захаду, ніхто з біржавых заправілаў не называе пяцігодку бальшавіцкімі палацамі з лёду. Буржуазны сьвет пачынае разумець, што ў руках пролетарскай рэволюцыі ёсьць якіясьці падважнікі, якімі не ўладае капіталізм,—падважнікі, якія паскараюць процэсы гаспадарчага будаўніцтва, процэсы гаспадарчагаператварэньня ў такіх разьмерах, што ўсё тое, што адбываецца ў Савецкім Саюзе, здаецца цудам спакушаным рулявым капіталістычнага карабля. Савецкі Саюз пад кіраўніцтвам партыі Леніна ўжо перагнаў вытворчасьць даваеннай Расіі, ня гледзячы на тое, што ўзровень гэтае вытворчасьці к 1921 г. зьнізіўся па лініі прамысловасьці да 18 проц. ад даваеннага ўзроўню, па лініі сельскай гаспадаркі—да 41 проц. (трэба сказаць, што вытворчасьць жалеза к гэтаму часу зьнізілася *да 2 проц.* ад даваеннага ўзроўню). Аб шпаркасьці нашых тэмпаў, аб потэнцыяльнай сіле соцыялістычнай рэволюцыі, якая толькі што пачынае выяўляць сябе ў дзеяньні, можа нам даць уяўленьне той факт, што прамысловая про-

дукцыя нашай савецкай краіны, пад уплывам новых соцыялістычных асноў, дасьць у канцы бягучага гаспадарчага году прыблізна *падваеньне продукцыі ў параўнаньні з даваенным часам*. У мінулым гаспадарчым годзе продукцыя буйнай соцыялістычнай прамысловасьці ўзрасла на 23,7 проц. замест, як гэта меркавалася па пляну,—21,4 проц. Трэба адзначыць, як характэрную рысу разьвіцьця савецкае прамысловасьці, той факт, што выраб сродкаў вытворчасьці, які быў вызначаны у 25,6 проц. у параўнаньні з папярэднім годам, даў на справе 29,8 проц.

Магутнасьць электра-станцый узрасла на 20,3 проц. (супроць прадугледжаных па пляну 14 проц.). Грузазварот чыгунак узрос на 21 проц. (супроць 10,1 проц. па пляну). Гэты рост вытворчасьці найбольш шпарка адбываецца ў галіне электрабудаўніцтва, а таксама будаўніцтва чорнай і каляровай мэталюргіі і машынабудаўніцтва. Больш паволі, ледзь даганяючы пляны, разьвіваецца наша хэмічная прамысловасьць, справа ў Савецкім Саюзе амаль зусім новая. Такія шпаркія тэмпы мы бачым і ў галіне соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Пры росьце засеўнай плошчы на 5 проц., засеўная плошча аграмаджанага сэктару павялічылася на 118 проц., а індывідуальнага толькі на 1,6 проц. Засеўная плошча пад саўгасамі СССР узрасла з 1,1 міл. *га* да 1,8 міл. *га*, г.-зн. 27,4 проц. (паводле пляну мелася на ўвазе 14,2 проц.). Яшчэ шпарчэй растуць засеўныя плошчы па лініі калгасаў. Замест 1,4 міл. *га*, якія знаходзіліся пад калгасамі ў 1927-28 г., к канцу 1928-29 г. мелася 4,4 міл. *га*—рост на 206 проц. (супроць вызначанага па пляну 62,4 проц.).

Саўгасы і калгасы ў зьвязку з бурным ростам соцыялістычнага сэктару прамысловасьці і ў першую чаргу вырабу сродкаў вытворчасьці, сталі за мінулы год *галоўным зьвяном усяе сельскае гаспадаркі*, а ня толькі агрыкультурнымі ўстановамі. Калгасы ахапілі ўжо ў 1928-29 г. звыш *аднаго мільёну сялянскіх гаспадарак*.

*Зьмяняецца характар асноўных фондаў усяе сельскае гаспадаркі.* Пры росьце асноўных фондаў сельскай гаспадаркі ў 1928-29 г. на 3,1 проц., нарастаньне мёртвага сельска-гаспадарчага інвэнтару адбывалася шпарчэй і выразілася ў прыросьце на 14,6 проц. Мёртвы інвэнтар, які складаў 9,4 проц. ад усіх фондаў у 1928 г., у 1929 складаў 9,9 проц. Адносная вага машын за гэты тэрмін узьнялася з 3,8 проц. да 4,3 проц., гаспадарчых будынкаў—з 18 проц. да 18,8 проц., адносная вага жывёлы зьменшылася з 31,1 да 29,9 проц.

Адначасова нарастаньне асноўных фондаў у аграмаджаным сэктары адбывалася ў наступным парадку—па лініі асноўных фондаў наогул на +5,6 проц. (сельская гаспадарка наогул на +3,1 проц.) па лініі мёртвага інвэнтару на +19,8 проц. (сельская гаспадарка у агульным на +14,6).

У мінулым годзе зноў пушчана ў ход 9,7 тысяч трактараў, павялічыўшы колькасьць дзейных трактараў з 30,6 тысяч да 36,5 тысяч. Агульны-ж разьмер машынабудаўніцтва вызначыўся ў 236 млн. руб.,

а г. зн. на 68 проц. больш 1928 г. У гэтым машыназабесьпячэньні доля аграмаджанага сэктару ўзрасла на 41,8 проц. супроць 29,1 проц. у 1928 г.

У выніку гэтых фактаў маем наступныя паказальнікі тэхнічнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, якая разгортваецца на фоне соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі. Ступень забесьпячэньня мёртвым інвэнтаром сельскай гаспадаркі на 1 *га* прыпадала ў рублёх:

| у 1925 г. | у 1926 г. | у 1927 г. | у 1928 г. | у 1929 г. |
|---|---|---|---|---|
| 7,87 | 7,90 | 8,33 | 9,18 | 10,04 |

Прырост за 5 год на 28 проц.

Тэмпы разгортваньня ўсяе народнае гаспадаркі ў тым ліку і сельскае—у прыватнасьці яе аграмаджанага сэктару—сьцьвярджаюць правільнасьць генэральнай лініі партыі наогул і ўстаноўку партыі на стымуляваньне разьвіцьця цяжкой індустрыі, якая вырабляе сродкі вытворчасьці, у прыватнасьці. Толькі шпаркае разьвіцьцё цяжкой індустрыі магло стварыць і стварыла ўмовы для шпаркага ўздыму на новых соцыялістычных асновах сельскай гаспадаркі. У 1929-30 г. Савецкі Саюз мяркуе ўкласьці ў народную гаспадарку ня 20 млн. залатых рублёў, як гэта было ў 1920 годзе, а 13 мільярдаў рублёў, г. зн. у 650 раз больш і на 4,5 мільярда больш, як у мінулым гаспадарчым годзе, перавышаючы лічбы, прадугледжаныя ў 5-гадовым пляне на 2,8 млрд. руб. Гэта значыць, што ў працягу 9 год, мы павялічылі нашы сілы ў галіне разьвіцьця народнае гаспадаркі ў 650 раз і што ў працягу аднаго году мы павялічылі колькасьць укладаньняў у параўнаньні з тым, што мы мелі ў 1920 г., у 225 разоў.

Вынікам гэтых вялізарных дасягненьняў у галіне соцыялістычнага накапленьня к канцу бягучага гаспадарчага году 59 проц. асноўных фондаў усяе народнае гаспадаркі будуць належаць соцыялістычнаму сэктару, які вытварае 51,2 проц. валавой і 75,4 проц. таварнай продукцыі ўсяе народнае гаспадаркі і які ахапляе сваім уласным гандлёва-пасрэдніцкім апаратам 96,7 проц. усяго звароту.

Гэта вялізарныя дасягненьні. Іх нельга пераўмяншаць, але трэба бачыць задачы і цяжкасьці, якія стаяць перад краінай пролетарскай дыктатуры. Задачы, з якімі мы да гэтага часу найбольш нездавальняюча спраўляліся,—было правядзеньне плянаў у галіне зьніжэньня сабекошту, значыцца, у галіне забесьпячэньня росту рэальнай заработнай платы працоўных і ўзмацненьня саюзу рабочае клясы з асноўнымі сялянскімі масамі. Ня можа падлягаць сумненьню, што задача павялічыць у бягучым годзе рэальную заработную плату на 12 проц.—павінна быць намі выканана. У сувязі з гэтым трэба павялічыць усе якасныя паказальнікі народнае гаспадаркі, як у галіне продукцыйнасьці працы, скарыстоўваньня машын, зьмяншэньня накладных выдаткаў, зьберажэньня сыравіны, каб даць зьніжэньне сабекошту і такім чынам стварыць галоўную аснову рэальнага росту заработнае платы на прадугледжаную плянам велічыню.

Гэтыя вялізарныя дасягненьні былі моцным ударам па правых опортуністых, якія прарочылі экономічны і політычны крах нашай краіне ў зьвязку з лініяй партыі і сеялі нявер'е ў рэальнасьць узятых намі тэмпаў, заклікалі раўнацца па „вузкіх мясцох“ і патрабавалі для захаваньня рабоча-сялянскага саюзу праводзіць у адносінах да ўсяго сялянства, у тым ліку і ў адносінах да кулака, політыку пастаяных уступак. Факты зруйнавалі ўшчэнт тэорыі Бухарынскай опозыцыі, што серадняк і бядняк у калгасы ня пойдуць. Бухарын у свой час вяшчаваў, што „калі селяніну нявыгодна вытвараць збожжа, ён ніякіх трактараў, ніякіх агрономаў, не захоча ведаць; ён будзе займацца чым-небудзь іншым,—пчалярствам, пляценьнем лапцей, ізвозам, пойдзе у рабочыя і г. д.“. Гэтае сьцьвярджэньне правадыра і тэорэтыка правай опозыцыі на справе было ні чым іншым, як адмаўленьнем усёй генэральнай лініі бальшавіцкай партыі, адмаўленьнем соцыялістычнага наступленьня на рэшткі капіталізму. Гэтае сьцьвярджэньне, як і ўсякія іншыя сьцьвярджэньні правай опозыцыі, былі зруйнаваны жыцьцём. Опортуністым не засталося нічога іншага зрабіць, як паплесьціся ў хвасьце розных корэспондэнтаў буржуазных газэт, паноў Шэфэраў, Файвэраў і Фарбманоў, якія ў сваіх корэспондэнцыях далі выраз таму зьдзіўленьню, які іх ахапіў ад шпаркіх тэмпаў перараджэньня „коснае сялянскае гаспадаркі“ ў магутную, колектыўную, буйную гаспадарку. Правыя опозыцыянэры на апошнім лістападаўскім пленуме павінны былі прызнаць, што ажыцьцяўляемы Цэнтральным камітэтам тэмп індустрыялізацыі і колектывізацыі зьяўляецца магчымым і ў поўнай меры нормальным.

Апрача таго, Бухарын, Томскі і Рыкаў, таксама як і іх вучні і саратнікі Сьляпковы, Айхэнвальды і інш., прымушаны былі прызнаць, што соцыялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты ў вёсцы выклікае жорсткае супраціўленьне апошніх і няўхільнае абвастрэньне клясавай барацьбы. Гэтае супраціўленьне набывае формы кулацкага тэрору, таксама як і спэкуляцыі збожжам і іншымі продуктамі сельскае гаспадаркі, выліваецца ў шпіёнскія і шкодніцкія праявы, і што надзвычайныя меры, якія партыя ўжыла ў дачыненьні да кулака наўпрэкі крыкам опозыцыі, адыгралі значную ролю ў справе вырашэньня збожжавых цяжкасьцяй. Правая опозыцыя была прымушана прызнаць, што партыя ня можа прынцыпова адмовіцца ад ужываньня надзвычайных мер, што такое патрабаваньне на справе азначае абарону кулацкіх інтарэсаў.

Гаспадарчыя дасягненьні Савецкага Саюзу зьяўляюцца дасягненьнямі і нашай Савецкай Беларусі. Трэба адзначыць, што тэмпы разьвіцьця прамысловасьці ў БССР, таксама як і ва ўсіх акраінных нацыянальных рэспубліках зьяўляюцца больш высокімі, чым па ўсім Савецкім Саюзе. Заняволеныя рускім царызмам нацыянальныя рэспублікі—Беларусь, Грузія, Арменія, Сярэдня-Азіяцкія рэспублікі, Казакстан і інш., зьяўляюцца яскравым прыкладам шпаркага, якое з вялікім посьпехам адбываецца цяпер, ператварэньня адсталых землляробчых акраін, што раней у часы

царызму марнаваліся ў становішчы колёній рускага імпэрыялізму, у магутныя індустрыяльныя краіны.

Гэты процэс ператварэньня адсталых земляробчых акраін у магутныя індустрыяльна-аграрныя раёны Савецкага Саюзу зьяўляецца вынікам ўсёй нацыянальнай палітыкі савецкае ўлады і няўхільным выкананьнем рэзолюцыі XII зьезду РКП(б). У аснове гэтай палітыкі ляжыць імкненьне фактычна, а ня толькі на словах зьнішчыць няроўнасьць нацый, што ўваходзяць у Савецкі Саюз, у экономічным і палітычным сэнсе. Комуністычная палітыка ў нацыянальным пытаньні накіравана на стварэньне ўмоў для ўзмацненьня братэрскага саюзу народаў СССР на добраахвотных асновах. Аднэй з умоў братэрскага саюзу і яго поўнай добраахвотнасьці, зьяўляецца шырокае культурнае і экономічнае разьвіцьцё нацыянальных рэспублік. Гэтае разьвіцьцё зьвязана з узмацненьнем ролі і значэньня пролетарыяту раней прыгнечаных нацыянальнасьцяй, значыцца, з узмацненьнем носьбіта цэнтрабежных сіл пролетарскае дыктатуры, якія ўзмацняюць адзінства і суцэльнасьць Савецкага Саюзу. Аб росьце і аб тэмпах прамысловага будаўніцтва ў нацыянальных рэспубліках лепш за ўсё сьведчаць адносныя вялічыні: Беларусь павінна павялічыць у працягу пяцігодкі сваю прамысловасьць—на 442 проц., Сярэдня-Азіяцкія рэспублікі—444 проц., Казакстан—549 проц,, Якутыя—1.350 проц., Бурато-Монголія—966 проц., Дагестан—500 проц. і г. д., у той час, як павялічэньне асноўных фондаў дзяржпрамысловасьці ў агульна-саюзным маштабе павінна даць у працягу пяцігодкі 331 проц.

Гэта не фантазія, ня пустыя словы, а рэальная сапраўднасьць, моцна на фактах першага году пяцігодкі ўгрунтаваная, лічбамі і фактамі пацьверджаная эпопэя будаўніцтва соцыялістычнае бацькаўшчыны працоўных усяе зямное кулі.

Вось як расьце наша БССР. Хай кажуць лічбы і факты.

Дынаміку народнае гаспадаркі БССР за 1928-29 г. характарызуюць паказальнікі насельніцтва, рост якога складаў 101,4 проц. у адносінах да мінулага году, прычым, як характэрны прызнак прогрэсу індустрыялізацыі нашай краіны, трэба падкрэсьліць, што гарадзкое насельніцтва ўзрасло за гэты час на 2,6 проц.; адносна больш паволі расьце насельніцтва вёскі, даўшы прырост у 1,2 проц. Зразумела, больш шпаркі рост насельніцтва ў горадзе тлумачыцца перасяленьнем з вёскі вялікай масы працоўных у пролетарскія цэнтры. Яшчэ больш шпаркі тэмп разьвіцьця мы маем ў галіне росту рабочай сілы. У гэтай галіне маем паказальнік росту—12 проц. у адносінах да папярэдняга году, прычым гэты рост мае яскрава выражаны пастугальны характар (у 1927-28 г. быў прырост у 7,6 проц.); рост валавой продукцыі—на 12,6 проц. (супроць 8,2 проц. у папярэднім годзе). Трэба зазначыць, што продукцыя сельскае гаспадаркі ўзрасла ў 1928-29 г. больш павольным тэмпам, як ў папярэднія гады. 1927-28 г. даў прырост па лініі сельска-гаспадарчай продукцыі на 8,1 проц., мінулы год даў прырост у параўнаньні з 1927-28 г. на

5,6 проц. Гэта тлумачыцца шэрагам няспрыяючых умоў у нашай сельскай гаспадарцы, у першую чаргу кліматычнага парадку.

Па лініі-ж буйнай прамысловасьці мы маем шалёныя тэмпы. Так, у 1927-28 г. рост складаў 36,2 проц., у 1928-29 г.—50,5 проц. У той час, калі агульны саюзны прырост складае 23,7 проц. За гэты-ж час пасрэдніцкі таваразварот узрос на 27,5 проц. наогул, а па лініі аграмаджанага сэктару—на 38,2 проц.; раздробны таваразварот дае паказальнік +14,6 проц., па лініі-ж аграмаджанага сэктару +28,6 проц. Значыцца, мы маем значнае выцісканьне прыватнага сэктару аграмаджаным сэктарам.

У адпаведнасьці з ростам усяе народнае гаспадаркі шпаркім тэмпам узрастаў і бюджэт. Па лініі выдатковай часткі ўвесь бюджэт узрос на 38 проц. Прычым дзяржаўны бюджэт дае яшчэ больш высокія лічбы, менавіта рост на 40,5 проц.

Па цэлым шэрагу галін прамысловасьці мы мелі перавышэньне прамысловых плянаў. У гэтай галіне выявілася дзеяньне ўзьнятай рэволюцыйнай актыўнасьці мас, найбольш яскравым праяўленьнем якой зьявілася соцыялістычнае спаборніцтва. Вялізарную ролю адыграў і перавод фабрык на бесьперапынны тыдзень і на 2-х і 3-хзьменную працу. Аднак, трэба адзначыць, што задача, пастаўленая перад прамысловасьцю ВСНГБ даць прырост продукцыі за 1928-29 г. колькасьцю ў 50 проц.,— была вырашана ў першую чаргу за кошт далейшага ўзмацненьня нагрузкі старых прамысловых прадпрыемстваў, пашырэньня і рэконструкцыі іх. Практыка барацьбы за шпаркія тэмпы разьвіцьця продукцыі нашай прамысловасьці ў мінулыя гады паказала, што мы невыстарчальна ацэньваем і скарыстоўваем вытворчыя магчымасьці, старых прамысловых прадпрыемстваў. У дачыненьні да новых прадпрыемстваў трэба заўважыць, што нашы надзеі ня спраўдзіліся, бо шэраг з іх (Бабруйскі лесапільны комбінат, фабрыка запалак „Чырвоная Бярэзіна“, Менская швэйная фабрыка, жэлацінны завод, галянтарэйная фабрыка) спазьніліся з пускам; на іншых-жа фабрыках асьваеньне новых машын і прыладаў вытворчасьці было нявыстарчальным. Як характэрны прызнак разьвіцьця прамысловасьці трэба падкрэсьліць больш роўнае разьвіцьцё ходу вытворчасьці на працягу ўсяго году. У 1928-29 г. звычайны летні спад вытворчасьці быў выражаны надзвычайна слаба і ў цэлым III квартал 1928-29 г. даў прырост у параўнаньні з II кварталам на 17,6 проц., у той час, калі папярэднія гады гэты квартал даваў зьніжэньне на 3,7 проц. (1927-28 г.) ці на 2,6 проц. (1926-27 г.).

Надзвычайна цікавыя якасныя паказальнікі нашага росту. Валавы вырабатак на аднаго рабочага ўзрос на 24,3 проц., супроць росту 17 проц. у 1927-28 г. Номінальная заработная плата павялічалася на 11,2 проц. У выніку мы маем амаль поўнае выкананьне пляну ў адносінах продукцыйнасьці працы. Аднак, па лініі заработнай платы ёсьць некаторыя перавышэньні, бо плян прадугледжваў рост заработнай платы толькі

на 8 проц. У выніку гэтага не ўдалося дасягнуць таго зьніжэньня сабекошту, які быў вызначаны плянам. Плян вызначаў зьніжэньне на 7 проц., на справе мы дабіліся зьніжэньня ледзь на 4,5 проц. Гэтае адставаньне зьніжэньня сабекошту ад пляну выклікана не якімі-небудзь неперажожнымі перашкодамі, а ў асноўным зьвязана з невыстарчальна энэргічным правядзеньнем усёй сыстэмы рацыяналізатарскіх мер і невыстарчальным скарыстаньнем усіх рэзэрваў у гэтай галіне. Зьніжэньне сабекошту, якое было дасягнута ў 1928-29 г., у значнай ступені павінна быць прыпісана буйнаму росту прамысловай продукцыі, які аўтаматычна меў уплыў на дынаміку сабекошту.

Па лініі сельскай гаспадаркі дасягненьні нашы характарызуюцца наступнымі данымі: засеўная плошча пашырылася на 1,1 проц., прычым плошча пад збожжавымі культурамі захавалася на ўзроўні 1927 г. Тэхнічныя-ж культуры далі павялічэньне па ільну на 3,5 проц., па бульбе — на 2,6 проц. У горшым стане справа ў галіне жывёлагадоўлі. Тут замест далейшага росту назіралася стабілізацыя росту стада, зьвязаная з павышаным адчужэньнем жывёлы, якое мела месца ў працягу 1927-28 г.

Уся продукцыя сельскай гаспадаркі ўзрасла ў 1928-29 гаспадарчым годзе на 5,6 проц. Прычым земляробства дало 4,7 проц. росту. У складзе земляробчай продукцыі рост расьлінаводзтва выразіўся у 5,7 проц., жывёлагадоўлі толькі ў 4 проц. Таварная-ж маса сельскае гаспадаркі павялічалася на 7,1 проц. супроць 3,7 проц. у 1927-28 г. Апрача значнага павялічэньня фізычных аб'ёмаў продукцыі сельскай гаспадаркі нагогул і яе таварнай часткі ў прыватнасьці, мы мелі сур'ёзнае павялічэньне загатоўчага індэксу і рынкавых цэн. У выніку пакупальны фонд вёскі заметна павялічыўся. Гэты фонд у цэлым узьнімаўся ў больш шпаркім тэмпе, чымся пакупальны фонд неземляробчага насельніцтва.

На фоне гэтых лічб становіцца зразумелым той у агульным здавальняючы ход хлебанарыхтовак, надзвычайна пасьпяховае выкананьне па колькасьці і па часу нарыхтовак бульбы і, нарэшце, досыць роўнае разьвіцьцё ільнонарыхтовак. Аднак, трэба адзначыць, што на гэтым фронце мы маем шэраг вельмі чулых прарываў. У асноўным пляны нарыхтовак хлеба і бульбы выкананы за кошт асноўных мас сялянства — беднаты і сераднякоў, якія ідуць шырокім фронтам насустрач пролетарскай дзяржаве. Кулацкі двор, ня гледзячы на непасрэдныя дырэктывы партыі, быў мала закрануты хлебанарыхтоўкамі. Мелі месца нават выпадкі заяў з боку кулакоў і подкулачнікаў такога прыблізна зьместу: з прычыны таго, што загатоўкі нашай вёскай выкананы поўнасьцю за кошт *усіх грамадзян* (трэба разумець беднаты і сераднякоў), то няма чаго праводзіць далей загатоўкі і вышукваць у вёсцы кулакоў.

Падчас загатоўчай кампаніі энтузіязм бядняцка-серадняцкіх мас ня быў у выстарчальнай ступені савецкім і партыйным апаратам на мясцох скарыстаны, каб у адпаведнай меры выявіць таварны лішак кулакоў і прымусіць напорам грамадзкае думкі здаць лішкі дзяржаве. Гэтае скрыў-

леньне партыйнае лініі ў загатоўках было пасьля выпраўлена і ў далейшым выпраўляецца, у выніку чаго плян хлебанарыхтовак быў з значным перавышэньнем выкананы. У горшым стане справа з загатоўкай лёну. Тут-жа бедната і сераднякі ня толькі выканалі свае абавязацельствы ў адносінах да пролетарскай дзяржавы, але дзе-ні-дзе іх перавысілі, затое кулак здолеў ухіліцца, і перад загатоўчымі органамі і ўсім савецка-партыйным апаратам стаіць задача, мобілізуючы бядняцка-серадняцкія масы і апіраючыся на іх, націснуць на кулака і дамагчыся выкананьня ім сваіх абавязкаў у адносінах да пролетарскае дзяржавы.

Тыя буйныя дасягненьні, якія ёсьць у галіне вырашэньня збожжавай проблемы па ўсім Саюзе і ў галіне падвышэньня вытворчасьці сельска-гаспадарчай сыравіны для прамысловасьці (лён і бульба ў нас), не павінны перад намі затушаваць цяжкасьцяй у галіне вырашэньні проблемы жывёлагадоўлі. Трэба ў адпаведнасьці з пастановамі лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) гэтую проблему паставіць на перадзе ўсяго далейшага разгортваньня сельскае гаспадаркі, асабліва ў БССР. Шляхі разгортваньня жывёлагадоўлі ў агульным ужо вызначаны—гэта мера. прыемствы па лініі захаваньня сялянскага статку, пры ўступленьні ў калгасы і разьвіцьцё ў калгасах жывёлагадоўлі і, па-другое, ухіл у бок жывёлагадоўлі ва ўсёй гаспадарцы калгасаў і саўгасаў, асабліва ў тых якія будуць спэцыялізавацца на вытворчасьці сыравіны для прамысловасьці (ільнаводчыя комбінаты, саўгасы і калгасы).

Кажучы аб нашых дасягненьнях у галіне прамысловасьці і сельскай гаспадаркі трэба адзначыць, што мы маем адлюстраваньне гэтых дасягненьняў і ў галіне працы. Побач з няспынным працэсам падвышэньня адноснае вагі пролетарыяту ў агульнай масе насельніцтва, мы маем сур'ёзнае зьніжэньне беспрацоўных у складзе організованага пролетарыяту Пры росьце ліку членаў профсаюзаў у 1928-29 г. на 15,5 проц. колькасьць беспрацоўных членаў профсаюзаў зьнізілася на 6,2 проц. Рост беспрацоўя ў процівагу мінулым гадом адбываецца за кошт не дарослай рабочай сілы, а за кошт падлеткаў і жанчын (падлеткі складалі 18,7 проц. беспрацоўных, жанчыны—45,3 проц.). У 1928-29 г. *выявіўся востры недахоп кваліфікаванай рабочай сілы,* у паасобных-жа пунктах нават і некваліфікаванай. Недахоп кваліфікаванай рабочай сілы зьяўляецца вузкім месцам разьвіцьця нашае гаспадаркі і патрабуе самых рашучых мерапрыемстваў па лініі стварэньня кваліфікаванай рабочай сілы. Аб задачах, якія стаяць перад намі ў гэтай галіне, можа даць некаторае паняцьце адзін толькі факт пашырэньня ўжываньня трактараў у вёсцы і атрыманьне БССР у гэтым г. дзе некалькіх сот аўтомобіляў з ліку нанова монтыраваных у СССР першых тысяч аўтомобіляў. Таму пытаньне аб падрыхтоўцы кваліфікаванай рабочай сілы, таксама, як і пытаньне аб падрыхтоўцы організатарскіх кадраў для нашай прамысловасьці, якая маланкава разьвіваецца, зьяўляецца надзвычайна сур'ёзнай проблемай. Ва ўмовах Беларусі на выкананьне дырэктыў лістападаўскага

пленуму ЦК УсеКП(б) у гэтай галіне трэба будзе зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу.

Пераходзячы ад фактаў, якія сьведчаць аб росьце нашай гаспадаркі наогул да пытаньня аб соцыяльным характары гэтага росту, трэба зьвярнуць увагу на тое, што ў мінулым гаспадарчым годзе процэс аграмаджаньня адбываўся вельмі інтэнсыўна. У выніку коопэраваньня мы мелі далейшы пераход часткі дробнай прамысловасьці ў разрад буйнай. Па лініі буйнай коопэрацыйнай прамысловасьці мы мелі рост продукцыі прыблізна на 42,7 проц., прычым адносная вага гэтай прамысловасьці ў агульнай суме ўзьнялася з 6,9 да 11,1 проц. Побач з гэтым мы мелі наогул узмацненьне позыцый аграмаджанага сэктару ў галіне дробнай прамысловасьці. Гэты процэс адбываўся пераважна за кошт коопэрацыйнай прамысловасьці, якая ўзрасла ў параўнаньні з 1927-28 годам на 36,6 проц.

Гэты-ж процэс аграмаджаньня дробнае раздробненае гаспадаркі толькі ў надзвычайна бурных формах адбываўся ў сельскай гаспадарцы. Пры гэтым тэмпы росту аграмаджаньня дробных і драбнюткіх сялянскіх гаспадарак шляхам вытворчага коопэраваньня (колгасы) ня толькі перавысілі першапачатковыя наметкі контрольных лічбаў, але нават больш позьнія значна павялічаныя меркаваньні. Плян вызначаў прырост колгасаў на 55 проц., фактычны прырост выразіўся ў 180 проц., прычым колгасы займалі ў канцы 1928-29 г. 3,2 проц. усёй зямельнай плошчы супроць 1,2 проц. у 1927-28 г. Як станоўчае і вельмі сымптоматычнае зьявішча, трэба падкрэсьліць узбуйненьне колгасаў. Нанова організаваныя колгасы ў сярэднім павялічылі свой разьмер з 65 гектараў да 230 г., апрача таго, ўтварылася шэраг буйных колектыўных гаспадарак з плошчаю 500, 1000, 2000 і больш гект. Разгортваецца процес поўнай колектывізацыі цэлых раёнаў.

Увесь гэты шпаркі бег наперад нашай краіны стаў магчымым выключна дзякуючы тэй братэрскай дапамозе, якую аказвае ўвесь Саюз і ў першую чаргу яго найбольш разьвітыя прамысловыя краіны—нашай рэспубліцы і іншым нацыянальным рэспублікам. У гэтым росьце знаходзіць сваё адлюстраваньне правільная лінія комуністычнай партыі ў галіне вырашэньня ўсіх проблем соцыялістычнага будаўніцтва, у тым ліку і ў галіне вырашэньня нацыянальнага пытаньня. Толькі курс партыі на пераможнасьць цяжкасьцяй нашага росту шляхам максымальнага разгортваньня ініцыятывы і творчай актыўнасьці мас, шляхам мобілізацыі самых шырокіх мас гораду і вёскі для барацьбы супроць капіталістычных элемэнтаў у нашай краіне, толькі пераход на новыя формы і мэтоды змычкі пролетарыяту з сялянствам—вытворчай змычкі, мог забясьпечыць дасягненьне гэтых грандыёзных вынікаў і паставіць перад краінай задачу выканаць пяцігодку ў 4 гады.

Усе дасягненьні зьявіліся праяўленьнем нашага наступленьня на капіталістычныя элемэнты і не маглі ня выклікаць у ворагаў соцыялістыч-

нага будаўніцтва жорсткага супраціўленьня. Бо кожнае дасягненьне ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва набліжае момант канчатковае пагібелі эксплёататараў, падрывае іх экономічную базу, зьнішчае магчымасьць эксплёатацыі. У выніку абвастрэньня клясавай барацьбы з боку капіталістычных элемэнтаў, пролетарыяту, які апіраецца на беднату і вядзе за сабой серадняком,—пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, прыпала весьці наступленьне на капіталістычныя элемэнты ня толькі пры дапамозе экономічных, але і неэкономічных мер. Тэрорыстычныя акты, спробы спэкуляваць хлебам з боку кулацтва, шкодніцтва з боку часткі старых спэцаў, прымусілі пролетарскую дзяржаву ўжыць шэраг рашучых мер у адносінах да клясавага ворага. Сярод гэтых мер былі так званыя надзвычайныя меры ў адносінах да кулака. Супроць гэтых мер паўставала правая опозыцыя.

У барацьбе за зьняцьце гэтых мер правыя дэклямавалі аб парушэньні рабоча-сялянскага саюзу, аб звароце партыі да мэтодаў ваеннага комунізму, аб ваенна-фэўдальнай эксплёатацыі вёскі. Правая опозыцыя не хацела зразумець, што не надзвычайныя меры выклікаюць абвастрэньне клясавай барацьбы, а, наадварот, абвастрэньне клясавай барацьбы з боку кулака выклікала неабходнасьць адказу надзвычайнымі мерамі.

Увесь крык правай опозыцыі аб неабходнасьці прынцыпова адмовіцца ад ужываньня надзвычайных мер дэмаскаваў гэтую опозыцыю, як вольнага ці нявольнага абаронцу інтарэсаў кулака. Бо адна справа выпраўляць памылкі, перагібы і скажэньні політыкі партыі пры правядзеньні надзвычайных мер у дачыненьні да кулака, а другая—патрабаваць скасаваньня прынцыпова гэтых мер.

Правая опозыцыя была рупарам кулака ня толькі па гэтай лініі. Яна з насьмешкаю адкідвала ўстаноўку партыі на новыя формы змычкі, на вытворчую змычку. Тав. Бухарын упарта даводзіў, што сутнасьць рабоча-сялянскага саюзу заключаецца ў сувязі паміж пролетарскім горадам і вёскай па лініі гандлёвага звароту. Правая опозыцыя не зразумела, што рост нашай прамысловасьці, яе роль, як галоўнай асновы ва ўсёй народнай гаспадарцы, з няўхільнасьцю патрабуе зьмены форм рабоча-сялянскай змычкі. Наша прамысловасьць ня можа ня быць фактарам перароўкі сялянскай гаспадаркі на новы аграмаджаны лад і абмежавацца ў гэтай галіне толькі ўкосным уплывам шляхам гандлёвай сувязі зьяўляецца для сучаснага моманту памылковым. Гэта мэханічнае паўтарэньне ўжо пройдзенага шляху, гэта—рух не наперад, а назад.

Спрэчкі паміж партыяй і правай опозыцыяй пачаліся ўжо даўно. Разыходзіны паміж партыяй і тав. Бухарыным мелі месца ўжо ў той час, калі партыя галоўны агонь сваёй крытыкі накіроўвала па контр-рэволюцыйным трацкізьме. У гэты час т. Бухарын, у агульным і цэлым правільна праводзячы лінію партыі і барацьбу з контр-рэволюцыйным трацкізмам, дапусьціў шэраг няправільных формулёвак, як, напр. лёзунг „узбагачайцеся“, тэзіс аб мірным урастаньні кулака ў сацыялізм і. г. д.

Партыя на хаду выправіла гэтыя памылкі т. Бухарына, не прыдаючы ім прынцыповага значэньня. Аднак, далейшы ход разьвіцьця пасьляваеннага капіталістычнага крызісу і пераможнае соцыялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты ў СССР, цяжкасьці, зьвязаныя з шпаркімі тэмпамі нашага росту, і супраціўленьне капіталістычных элемэнтаў, якое ўсё больш абвастраецца, урэшце, разгром партыяй контррэволюцыйнага трацкізму выявіў, што ўстаноўкі т. Бухарына былі не выпадковыя.

Ужо на VI конгрэсе Комінтэрну мела месца выяўленьне гэтых рознагалосьсяў па цэлым шэрагу пытаньняў. Гэтыя рознагалосьсі пасьля VI конгрэсу Комінтэрну ня толькі ня зьменшыліся, але ў далейшым прогрэсавалі. Меў месца цэлы шэраг фракцыйных выступленьняў правай опозыцыі на чале з тав. Бухарыным. З боку правых фракцыянэраў вялося цкаваньне партыі і ЦК, раздаваліся крыкі аб распадзе Комінтэрну, шырока пропагандавалася ў артыкулах, „нататкі экономістага“, „Палітычны тэстамэнт тав. Леніна“ сыстэма поглядаў правай опозыцыі. ЦК УсеКП(б), які не адзін раз зварочваўся да гэтага пытаньня, імкнучыся прыпыніць фракцыйную дзейнасьць правадыроў правай опозыцыі і вярнуць іх на шлях партыйнасьці. Усе гэтыя спробы ўспрымаліся групай Бухарына, Томскага і Рыкава, як прызнак сваёй сілы, як заахвочваньне іх фракцыйвай дзейнасьці. Таму лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б) вырашыў скончыць з зруйнавальнай працай правых опортуністых. Лістападаўскі пленум констатаваў, што, „адмаўляючыся прызнаць свае памылкі ў пытаньнях гаспадарчай палітыкі, у пытаньнях індустрыялізацыі краіны, колектывізацыі сельскае гаспадаркі і саўгаснага будаўніцтва, адмаўляючыся прызнаць свае памылкі ў ацэнцы і незразуменьні клясавай барацьбы, урэшце, спрабуючы перайсьці да мэтодаў фракцыйнай барацьбы супроць партыі, Бухарынская група канчаткова выкрывае сваю анты-ленінскую, анты-бальшавіцкую істоту. *У сувязі з гэтым пленум ухваляе прызнаць пропаганду поглядаў правага опортунізму і прымірэнцтва да яго нясумяшчальным з знаходжаньнем у шэрагах УсеКП(б).*

Апрача таго, пленум ухваліў вывесьці аднаго з лідэраў правых ухілістых, ідэолёга правага ўхілу тав. Бухарына з складу Політбюро ЦК УсеКП(б), папярэдзіўшы рэшту лідэраў правага ўхілу т.т. Рыкава і Томскага, што ў выпадку спробы з іх боку працягваць барацьбу супроць лініі і пастаноў ВККІ і ЦК УсеКП(б), партыя безадкладна ўжыве ў дачыненьні да іх адпаведныя організацыйныя меры.

Ужо на пленуме правыя ўхілістыя пагублялі ўсё сваё рабочае ядро. Т. т. Котаў, Міхайлаў, Угланаў і Кулікаў заявілі пленуму аб сваім разрыве з правымі ўхілістымі. Пад уплывам дасягненьняў соцыялістычнага будаўніцтва, дасягненьняў, якіх ня мог замоўчыць нават буржуазны друк, адчуваючы на сабе вялізарны ўплыў партыйнае масы, якая, як адзін чалавек, стаіць за бальшавіцкую, ленінскую лінію ЦК УсеКП(б) разь-

бітыя ідэёва і дэзорганізаваныя разрывам з імі таго нешматлікага рабочага ядра, правыя ўхілістыя прышлі да партыі з павіннай. Т. т. Бухарын, Томскі і Рыкаў падалі ў ЦК заяву, у якой прызнаюць свае памылкі і абяцаюць весьці барацьбу з правым ухілам у тэорыі і на практыцы пад кіраўніцтвам ЦК партыі. Гэтая заява спаткала адпаведную ацэнку ў партыйных масах, якія ацанілі гэтую заяву, як сваю перамогу. Аднак, партыйныя сходы ў рэзолюцыях, ухваленых з гэтай прычыны, падкрэсьлівалі, што аб шчырасьці гэтае заявы яны будуць меркаваць па справах правых опортуністых.

Пленум, ня гледзячы на разгром правай опозыцыі ўнутры ЎсеКП(б), як і ва ўсім Комінтэрне, пацьвердзіў, што на даным этапе „галоўнай небясьпекай застаецца правы ўхіл і прымірэнцтва з ім, ЦК абавязвае партыйныя організацыі ні ў якім выпадку не паслабляць барацьбы з левай опортуністычнымі настроямі і з цярпімымі адносінамі да такіх настрояў. Будучыя перамогі, кажа рэзолюцыя пленуму, соцыялізму ляжаць на тымжа шляху рашучага сыстэматычнага выкрываньня антыленінскай дробнабуржуазнай сутнасьці правых і „левых“ опортуністых і прымірэнцтва да іх і бязьлітаснай барацьбы з праяўленьнямі гэтых ухілаў на практыцы.

Лістападаўскі пленум у сваёй працы даў партыі і рабочай клясе далейшыя пэрспэктывы руху наперад, так, каб „дагнаць і выперадзіць у магчыма кароткі гістарычны пэрыод перадавыя капіталістычныя дзяржавы“. Гэтыя пэрспэктывы дадзены ў дырэктывах пленуму аб кантрольных лічбах народнае гаспадаркі на 1929-30 г., у рэзолюцыях аб ітогах і далейшых задачах колгаснага будаўніцтва, па дакладу ЦК КП(б) Украіны аб працы ў вёсцы, аб Саюзным Наркамземе і аб выкананьні пастаноў ліпеньскага (1928 г.) пленуму ЦК аб падрыхтоўцы тэхнічных кадраў. Усе гэтыя дырэктывы і рэзолюцыі, таксама, як і разгром правай опозыцыі, закончаны лістападаўскім пленумам ЦК ЎсеКП(б)—робяць гэты пленум новай і буйнай вехай на шляху да канчатковай перамогі соцыялізму ў нашай краіне і ўва ўсім сьвеце.

21-XII 1929 г.

# АКТУАЛЬНЫЯ ПРОБЛЕМЫ ЗАМЕЖНАЙ І ЎНУТРАНАЙ ПОЛІТЫКІ ЛАТВІІ ЗА АПОШНІ ГОД

**Observer**

Наш савецкі беларускі друк зьвяртае параўнальна мала ўвагі на жыцьцё і разьвіцьцё нашых бліжэйшых прыбалтыцкіх суседзяў. Беларускі чытач яшчэ больш ці менш орыентуецца нашай штодзённай прэсай аб паасобных выдатных этапах разьвіцьця ўзаемаадносін гэтых краін з Савецкім Саюзам, але вельмі ў малой меры знаёмы з асноўнымі проблемамі замежнай політыкі гэтых краін, ня кажучы ўжо аб іх унутранай політыцы.

Гэтыя краіны, якія яшчэ нядаўна ўваходзілі ў склад былой Расійскай імпэрыі, жывуць вось ужо дзесяць год сваім самастойным жыцьцём праз іх праходзяць транзытныя шляхі, якія злучаюць нас з Захадам і з моманту іх узьнікненьня, яны граюць не апошнюю ролю ў розных комбінацыях імпэрыялістычных дзяржаў, накіраваных супроць краіны працоўных. Таму, больш блізкае знаёмства з гэтымі дзяржавамі і іх політыкай павінна ўяўляць значную цікавасьць.

З усіх так званых малых лімітрофаў (Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндыя), з вышэйпаказанага пункту гледжаньня можна лічыць, што найбольшае ўвагі заслугоўвае Латвія, ужо ў сілу свайго цэнтральнага географічнага становішча на ўсходнім узьбярэжжы Балтыцкага мора. Пакідаючы ў баку Фінляндыю, якая як у політычных, так і ў экономічных адносінах разьвівалася і раней у складзе б. Расійскай імпэрыі сваімі асобнымі шляхамі, мы можам констатаваць, што Латвія, якая ўладае большай тэрыторыяй, чым Эстонія і Літва, якая амаль ня ўступае апошняй па колькасьці жыхароў (тэрыторыя Латвіі 65.790 кв. клм. насельніцтва 1.845.000; Літва—тэрыторыя 54.400 кв. клм., насельніцтва 2.029 тысяч; Эстонія—тэрыторыя 47.550 кв. клм., насельніцтва 1.110 тысяч), у адносінах экономічных паказчыкаў займае першае месца сярод малых прыбалтаў. Абмяжуемся параўнаньнем бюджэтаў і замежна-гандлёвага звароту гэтых краін за 1928 год. Бюджэт Латвіі складаў 29 млн. доляраў. Зварот замежнага гандлю за гэты-ж год 109,6 млн. доляраў (59,5 млн. доляраў імпорт і 50,1 млн. доляраў экспорт). Адпаведныя паказчыкі для Літвы і Эстоніі наступныя: Літва—бюджэт 28 млн. доляраў, замежны гандаль—

54,8 млн. доляраў (29,1 млн. імпорт, 25,7 экспорт); Эстонія—бюджэт—23,4 млн. доляраў, замежны гандаль—69,2 млн. доляраў (35,2 імпорт, 34 млн. доляраў экспорт).

Далей, Латвія мае важнае значэньне для нашага транзыту. Праз яе ляжыць шлях простых савецка-літоўска-нямецкіх таварных зносін, па якому перавозіцца вялікая колькасьць экспортных і імпортных савецкіх грузаў; адносна яшчэ больш значную ролю ў транзытным грузазвароце граюць з 1927 году таксама латвійскія порты, у першую чаргу—Рыга. Але праз Латвію праходзіць ня толькі транзытны шлях, які злучае Ўсход Эўропы з Захадам. Латвія, апрача таго, зьяўляецца ў пэўным сэнсе транзытнай краінай у кірунку з поўдню на поўнач; праз Латвію праходзяць чыгункі, якія злучаюць Румынію і Польшчу з нашымі паўночна-заходнімі суседзямі—Эстоніяй і Фінляндыяй. Гэты „транзытны“ шлях, праўда, мае ўжо ня столькі экономічнае, сколькі ваенна-палітычнае значэньне, што нам у нашым артыкуле пры абгаварэньні проблем замежнай політыкі Латвіі прыдзецца ўлічыць.

Калі прыняць пад увагу толькі што пералічаныя моманты, то ня трэба зьдзіўляцца таму, што заходні капіталістычны сьвет праяўляе нагэтулькі вялікую зацікаўленасьць да Латвіі, у параўнаньні з іншымі лімітрофамі. Латвія мае досыць жвавыя замежныя зносіны. У Рызе знаходзяцца пасольствы і генэральныя консульствы, амаль усіх бяз выключэньня капіталістычных дзяржаў. Латвія-ж у пэўным сэнсе зьяўляецца таксама наглядальным пунктам за жыцьцём Савецкага Саюзу для шэрагу краін, якія ня маюць непасрэдных зносін з намі. Досыць напомніць чытачу сумную сусьветную славутасьць „карэспондэнцый з Рыгі“, якія зьяўляюцца да гэтага часу ў значнай ступені асноўнай крыніцай паклёпніцкай інформацыі пра СССР, шмат якіх заходня-эўропэйскіх і амэрыканскіх газэтных трэстаў. Нарэшце, трэба адзначыць яшчэ і наяўнасьць у Савецкага Саюза найбольш разьвітых адносін з Латвіяй у параўнаньні з адносінамі, якія ўстанавіліся ў нас з іншымі нашымі прыбалтыцкімі суседзямі. Аб транзытных сувязях вышэй ужо гаварылася, пакажам тут толькі яшчэ на заключаны 2/VI-1927 г. гандлёвы дагавор, пасьля якога гандлёвы зварот паміж Саюзам і Латвіяй амаль патроіўся.

Прыведзеныя меркаваньні ў выстарчальнай ступені гавораць за тое, што больш падрабязная інформацыя аб разьвіцьці замежнага і ўнутранага жыцьця гэтай маленькай, маючай з БССР агульную граніцу краіны, павінна ўяўляць пэўную, можна нават сказаць, практычную цікавасьць. Задачай гэтага нарысу зьяўляецца ў агульных рысах ахарактарызаваць асноўныя лініі і тэндэнцыі замежнай і ўнутранай політыкі Латвіі за апошні год. Толькі ў тых выпадках, калі гэта абсолютна патрэбна для разуменьня проблем сёнешняга дня, мы будзем зьвяртацца да ранейшых падзей.

Для таго, каб лепш разабрацца ў тэндэнцыях латвійскай замежнай політыкі за мінулы год, трэба караценька спыніцца на асноўных, пануючых

чых палітычных канцэпцыях латвійскай буржуазіі ў галіне замежнай палітыкі.

Латвія зьяўляецца, ня гледзячы на тую значную ролю, якую грае ў яе эканоміцы транзыт і некаторыя галіны прамысловасьці, як напрыклад, лясная, яскрава выражанай сельска-гаспадарчай краінай з пераважаючым аграрным насяленьнем. Па даным 1928 г. звыш 66 проц. нацыянальнага прыбытку Латвіі (нацыянальны прыбытак вылічаецца ў суме 797 млн. лат) складалі прыбыткі сельскае гаспадаркі. Уся латыская буржуазія, якая паўстала з моманту ўтварэньня самастойнасьці Латвіі, цесна зьвязана з латыскімі кулацкімі гаспадаркамі, якія экономічна ўзмацніліся, дзякуючы правядзеньню аграрнай рэформы і дзякуючы экспропрыяцыі баронскіх маёнткаў. Гэтым-жа тлумачыцца пераважаючы ўплыў латыскіх сялянскіх партый у палітычным жыцьці краіны. У той час, як уся больш ці менш значная прамысловасьць Латвіі, як і раней, знаходзіцца, пераважна, у руках нямецкае і яўрэйскае буржуазіі, у банкаўскім капітале, а часткова і ў гандлі, латвійская кулацкая буржуазія, пасьля таго, як прышла да ўлады, здолела заняць пэўныя камандныя позыцыі, шырока і бессаромна скарыстаўшы дзеля гэтае мэты ў пэрыод „першапачатковага накапленьня" дзяржаўны апарат. Тым ня менш гэтым ня былі парушаны яе цесныя сувязі з сельскай гаспадаркай. Таму, да гэтага часу латвійскія буржуазныя партыі і зараз афіцыяльна прытрымліваюцца лёзунгу аграрызацыі краіны, які ўзьнік у пэрыод, калі латвійскія буржуа з дапамогаю саюзьнікаў, у першую чаргу Англіі, заваявалі ўладу ў барацьбе з баявым латвійскім пролетарыятам. Гэты лёзунг, прадыктаваны ў значнай ступені страхам перад уласным пролетарыятам, разумеўся ў Латвіі ў першыя гады самастойнасьці, і тлумачыцца і ў сучасны момант, у тым сэнсе, што латвійская дзяржава павінна ўсімі сіламі імкнуцца захаваць свой сельска-гаспадарчы характар, будуючы свой дабрабыт на экспорце сельска-гаспадарчых продуктаў, а не садзейнічаць адраджэньню досыць магутнай у царскія часы, прамысловасьці, якая працавала на расійскі рынак. Роля прамысловасьці павінна быць зьведзена да забесьпячэньня ўнутранага рынку. Ідэалам будучай Латвіі ўяўляўся тып дацкае гаспадаркі. Гэта канцэпцыя спаткала поўную прыхільнасьць заходніх імпэрыялістых, асабліва Англіі, якая бачыць у гэтым у першую чаргу паруку таму, што парушаныя пасьля вайны цесныя гаспадарчыя сувязі Латвіі з тэрыторыяй Савецкага Саюзу, пры пасьлядоўным правядзеньні палітыкі аграрызацыі будуць мець найменшыя тэндэнцыі да аднаўленьня. Гэта цалкам супадае з асноўнаю мэтаю саюзьнікаў, якія імкнуліся шляхам стварэньня ўздоўжкі заходніх межаў Саюзу ланцугу самастойных буржуазных дзяржаў, стварыць кардон, які падзяляў бы краіну Саветаў ад заходня-эўропэйскага пролетавыяту. Гэтай тэорыяй угрунтоўваецца традыцыйная лінія, якая падзяляецца афіцыяльна і да гэтага часу латыскімі буржуазнымі партыямі, неабходнасьці заходняй орыентацыі ў замежнай палітыцы Латвіі.

Гэтай заходняй орыентацыі першым латвійскім міністрам замежных спраў, Мэеровіцам, лідэрам кулацкай партыі—Сялянскага Саюзу, былі ў хуткім часе пасьля таго, як незалежная Латвія ўступіла на арэну замежнай політыкі ўсходняй Эўропы, прыданы спэцыфічныя формы. Мэеровіц у цесным контакце з польскай дыплёматыяй пачаў пропагандаваць ідэю стварэньня адзінага політычнага блёку прыбалтыцкіх дзяржаў, накіраванага супроць СССР і Нямеччыны, які-б аб'яднаў усіх Прыбалтыкаў ад Польшчы да Фінляндыі. Літва адразу-жа выпала з гэтага аб'яднаньня, у сілу ўсім вядомага конфлікту з Польшчай, які ўзьнік з-за окупацыі Вільні палякамі. Вядома, што ідэя стварэньня адкрытага антысавецкага блёку Прыбалтаў пад гегемоніяй Польшчы пацярпела поўную няўдачу, пасьля таго, як фінляндзкі парлямант адмовіўся ратыфікаваць славуты „Варшаўскі акорд 1922 году“.

Гэты плян, аб ажыцьцяўленьні якога ня спыняе ўзмоцнена турбавацца польскі імпэрыялізм, не рэалізаваны і да гэтага часу. Часткова ў зьвязку з непопулярнасьцю яго ў шырокіх колах насельніцтва, а таксама часткі дзелавых колаў прыбалтыцкіх краін, хоць бязумоўна, як мы гэта ўгледзім далей аналізуючы замежную політыку сучаснага латвійскага ўраду, пэўныя латвійскія колы гатовы садзейнічаць яго ажыцьцяўленьню.

Гэтай, так званай, „верцікальнай“ концэпцыі зблiжэньня з Польшчай і рэштай Прыбалтаў, у Латвіі з самага пачатку яе самастойнасьці проціпастаўлялася другая так званая „горызантальная“ орыентацыя, прыхільнікамі якой зьяўляюцца латвійская соцыял-дэмократыя і дзелавыя колы меншасьцяй.

Згодна гэтай концэпцыі, якая сустракае спачуваньне ў самых шырокіх колах насельніцтва, разумеючых усю небясьпеку для Латвіі цеснага політычнага саюзу з Польшчай, Латвія павінна ў асноўным падтрымліваць добрыя адносіны з Нямеччынай, у якую накіроўваецца вялікая частка латвійскага сельска-гаспадарчага экспорту, і з СССР, бо толькі пры ўмове атрыманьня магчымасьці збыту продукцыі на савецкі рынак, латвійская прамысловасьць можа адрадзіцца.

Гэтая орыентацыя соцыял-дэмократыі вынікала з тэй позыцыі, якую яны займалі ў пытаньнях унутранай політыкі. Яны зьяўляюцца натуральнымі прыхільнікамі разьвіцьця прамысловасьці, бо ў сувязі з колькасным ростам рабочае клясы яны спадзяюцца ўзмацніць свой уплыў на політыку краіны і зрабіцца патрэбным прыдаткам буржуазнай дзяржаўнай машыны. Пры захаваньні курсу на аграрызацыю краіны ім пагражала страта тэй вельмі значнай політычнай ролі, якую яны гралі ў асаблівасьці ў першыя гады незалежнасьці Латвіі, калі буржуазія вельмі патрабавала іх дапамогі, уяўляючы сабе, што іх здрадніцкая політыка ў шэрагах пролетарыяту ў няменшай ступені чым чужаземнае ўзброенае падтрыманьне садзейнічала стварэньню буржуазнай Латвійскай рэспублікі.

Найбольш яскравым выражэньнем гэтай тэндэнцыі ў замежнай палітыцы Латвіі, якая спаткала, як ужо вышэй было паказана, падтрыманьне гарадзкой, пераважна меншасьцёвай буржуазіі, зьявілася заключэньне ўрадам так званай левай коаліцыі гандлёвага дагавору з СССР.

У змаганьні гэтых дзьвюх тэндэнцый па сутнасьці адбывалася ўся замежная палітыка Латвіі за апошнія дзесяць год. Зразумела, можна прывесьці цэлы шэраг проблем, якія вызначалі замежную палітыку рэспублікі за апошні час, у адносінах якіх проціпастаўленьне паказаных дзьвюх концэпцый, ня мае месца, і дзе пункт гледжаньня абодвых крылаў буржуазіі ў асноўным супадаюць, паддаючыся ўсё-ж пэўнай дыфэрэнцыяцыі. Гэта адносіцца, напрыклад, да ідэі стварэньня малога прыбалтыцкага саюзу, які ўключыў бы Літву, Латвію і Эстонію. Прынцыповымі прыхільнікамі малога балтыцкага саюзу заяўляюць сябе ўсе буржуазныя партыі, а разам з імі і соцыял-дэмократыя. Над ажыцьцяўленьнем гэтага саюзу працаваў у свой час усё той-жа Мэеровіц, пасьля правалу пляну стварэньня вялікага прыбалтыцкага блёку. Соцыялдэмократы, якія разьлічвалі на тое, што ў выніку цеснага палітычнага саюзу паманёных трох краін адбудзецца гаспадарчае зблізэньне, якое абяцала пашырэньне рынку для прамысловасьці гэтых краін і выключыла-б шкоднае з экономічнага пункту погляду, паралельнае разьвіцьцё тых-жа прамысловых галін ва ўсіх трох дзяржавах, горача падтрымлівалі гэтую ідэю. Малы саюз пры Мэеровіцу трапіў лёс вялікага блёку. Літва ўхілілася ад гэтае пропозыцыі, бо ад уваходжаньня ў гэты саюз яна магла чакаць толькі паслабленьня сваёй позыцыі ў конфлікце з Польшчай, улічваючы вялікую палітычнуы залежнасьць кіруючых буржуазных колаў Эстоніі і Латвіі ад Польшчы.

Мэеровіц і яго пасьлядоўцы ў поўным контакце з польскім міністэрствам замежных спраў бязумоўна ўяўлялі сабе малы саюз толькі як пераходную ступень для ажыцьцяўленьня таго-ж вялікага прыбалтыцкага блёку, хоць-бы без прыцягненьня Фінляндыі, але з удзелам Літвы і пад гегемоніяй Польшчы.

Гэты пункт погляду поўнасьцю падцьвярджае артыкул пад назвай „Літва, Латвія, Эстонія“, які зьявіўся ў офіцыёзнай „Газэце Польскай“ ад 27 лістапада г. г. Аўтар артыкулу ўзмоцнена ўгаварвае Літву цясьней зьвязацца з паўночнымі суседзямі, адначасова даказваючы польскаму чытачу, наколькі такое аб'яднаньне карысна Польшчы і будзе садзейнічаць хуткай ліквідацыі літоўска-польскага конфлікту ў інтарэсах Польшчы.

З усіх палітычных саюзаў, якія вызначаліся, зьдзейсьнены быў толькі латвійска-эстонскі ваенна-палітычны абарончы саюз, заключаны ў лістападзе 1923 г., які паклаў асновы досыць цеснаму контакту замежнай палітыкі абедзьвюх краін. У тым-жа 1923 г. Латвія і Эстонія заключылі папярэдні дагавор, які прадугледжваў устанаўленьне свабоднага бязмытнага тавараабароту продуктаў мясцовае вытворчасьці паміж імі. У кра-

савіку 1927 г. у пашырэньне гэтае згоды, да рэалізацыі якой так і ня было прыступлена, абедзьве стораны заключылі новы дагавор аб поўнай мытнай уніі, які прадугледжвае паступовае ўзгадненьне, як мытных тарыфаў, так і экономічнага і падатковага законадаўства абедзьвюх краін з тым, каб поўная гаспадарчая унія была зьдзейсьнена ў пяцігадовы тэрмін. Перагаворы аб ажыцьцяўленьні памянёных дагавароў 1927 г. з гэтага часу займаюць адно з цэнтральных месц у замежнай політыцы абедзьвюх саюзьніц.

Па высьвятленьні асноўных ліній і проблем латвійскай замежнай політыкі, пяройдзем да падзей апошняга году і прасочым, у якім кірунку разьвівалася замежная політыка нашага паўночнага суседа.

## Асноўныя лініі замежнай політыкі Латвіі ў 1929 г.

Пачнем наш абгляд з пытаньня аб ходзе прац па ажыцьцяўленьні мытнай уніі паміж Латвіяй і Эстоніяй, бо гэтая проблема стаіць некалькі асабняком ад вялікіх ліній латвійскай політыкі. Згодна дагавору 1927 г. праца па ажыцьцяўленьні уніі павінна быць праведзена мяшанай парытэтнай камісіяй, складзенай з дэлегацый абедзьвюх краін.

Сумесныя паседжаньні латвійскай і эстонскай дэлегацый, пачынаючы з восені 1927 г., адбываюцца некалькі раз у год, прычым пасьля кожнай сэсіі рэгулярна выяўляліся ўсё новыя рознагалосьсі і цяжкасьці. Пытаньні уніі таксама няўхільна ўключаліся ў парадак дню пэрыодычных нарад міністраў замежных спраў абедзьвюх дзяржаў. Трэба констатаваць, што, як гэта сьцьвярджаецца апублікаванымі афіцыяльнымі паведамленьнямі, ні па аднаму пытаньню, уваходзячаму ў кола прац камісіі, дасягнуць згоды не ўдалося і ўсе прадугледжаныя дагаварам аб уніі, для дасягненьня пэўных этапаў, тэрміны, ня былі захаваны. Перагаворы аб правядзеньні цеснай гаспадарчай уніі, якія так шырока рэклямаваліся абодвымі ўдзельнікамі дагавору, як нельга, яскрава сьведчаць аб тым, што глыбокія супярэчнасьці паміж капіталістычнымі дзяржавамі, заснаваныя на абвостранай конкурэнцыі, нявырашымы нават у малым прыбалтыцкім маштабе. Узаемнае прызнаньне прынцыпаў гаспадарчай мэтазгоднасьці, ня ўхіліла гэтых супярэчнасьцяй.

У чым яны заключаюцца?—Эстонская буржуазія, уладаючы параўнальна больш магутнай прамысловасьцю, зацікаўлена ў першую чаргу ў бязмытным збыце на латвійскім рынку продуктаў сваёй прамысловасьці, галоўным чынам, тэкстыльнай, і таму яна настойвае на хутчэйшым увядзеньні бязмытнага памену продуктамі мясцовае вытворчасьці. Латвійская буржуазія, баючыся для шэрагу галін свае прамысловасьці эстонскае конкурэнцыі, зьяўляецца, абараняючы інтарэсы свайго гандлёвага капіталу, прыхільніцай правядзеньня папярэдняга ўзгадненьня мытных тарыфаў абедзьвюх дзяржаў і поўнага зьнішчэньня мытных граніц, з поўнай падставай разьлічваючы на тое, што забесьпячэньне чужаземнымі імпарт-

нымі таварамі ўсяго поўдня Эстоніі, а разам з тым у значнай ступені і ўвесь гандаль гэтага раёну пяройдзе да рыскіх гандлёвых фірмаў, бо Рыга ўладае лепшай і больш кароткай чыгуначнай сувязьзю з паўднёвай Эстоніяй, чым Рэвель. Да гэтага-ж і фрахты з заходняй Эўропы да рыскага порту ніжэй, як да рэвельскага. Супроць гэтага ў сваю чаргу пярэчаць эстонскія купцы. Да гэтых рознагалосьсяў далучаецца агульны жах буржуазіі абедзьвюх краін перад тымі вынікамі для паасобных галін гаспадаркі, якія цяжка ўлічыць, ад ажыцьцяўленьня поўнай эканомічнай уніі.

Мінулы год зьявіўся рашаючым для гэтых бясплённых перагавораў. Увосень 1929 г. эстонскі ўрад зрабіў Латвіі пісьмовую, складзеную ў досыць ультыматыўнай форме і ў хуткім часе ім апублікаваную прапанову: у бліжэйшым-жа часе ўзаемна правесьці скасаваньне мыт для продуктаў мясцовае вытворчасьці. Выражаючы згоду абгаварыць з Латвіяй сьпіс тавараў, на якія часова, да прыстасаваньня адпаведных галін латвійскае прамысловасьці да новага парадку рэчаў, гэтая мера не павінна быць распаўсюджана, эстонскі ўрад падкрэсьлівае, што ў прыняцьці гэтае прапановы ён бачыць адзіную магчымасьць-вывесьці пытаньне аб уніі з тупіку.

Адказ Латвіі ў адпаведнасьці з позыцыяй, якую яна ў той час займала, быў, што ўсякае частковае скасаваньне мыт, зробленае да таго ж у інтарэсах толькі аднэй стараны, толькі адцягне і зробіць больш цяжкім увядзеньне поўнай мытнай уніі ў адпаведнасьці з дагаворам 1927 г., на грунце якога Латвія, быццам, непарушна стаіць. Разам з тым Латвія выказала згоду абгаварыць магчымасьць пашырэньня часовага гандлёвага дагавору, які быў заключаны памім абедзьвюмі краівамі ў 1928 г. Латвійскі адказ эстонскім друкам быў кваліфікаваны, як „пахаваньне уніі“; у сваю чаргу і латвійскі друк не паскупіўся на прывядзеньне доказаў таму, што эстонскі ўрад не жадае уніі і што ад далейшых перагавораў вынікаў чакаць нельга.

Для пастароньняга гледача не падлягае сумненьню, што нежаданьне уніі абаюднае. Усё пытаньне для абедзьвюх краін у сучасны момант у тым, каб знайсьці „прылічнае“ выйсьце з становішча. Да гэтага часу кожная з старон не жадаючы, між іншым, з-за ўнутрыпалітычных меркаваньняў, узяць на сябе ініцыятыву аб скасаваньні дагавору аб уніі, чакае, каб гэта зрабіў яе контр-агент. Такім чынам, калі афіцыяльнае пахаваньне ідэй уніі ў 1929 г. яшчэ і ня мела месца, усё-ж можна з упэўненасьцю сказаць, што з уніяй пакончана.

У яе ажыцьцяўленьне ўжо ніхто ня верыць, наадварот, абедзьве стараны імкнуцца да таго, каб як найхутчэй вызваліцца ад гэтых няспрыяючых перагавораў, якія робяць няспрыяючы ўплыў на ўсе латвійска-эстонскія адносіны. Латвійска-эстонскія-ж экономічныя адносіны будуць урэгулёваны на падставе, звычайнага для дзьвюх буржуазных краін, гандлёвага дагавору.

Было б памылкова думаць, што няўдача уніі пахістала ваенны саюз абедзьвюх краін. На гэтым фронце клясавая солідарнасьць буржуазіі істотна не адбілася. Штабы абедзьвюх дзяржаў ня спыняюць свайго цеснага супрацоўніцтва. Мелі месца пагоджаныя адначасовыя манэўры абедзьвюх армій. Можна было назіраць і далейшае зблізкэньне паміж нацыяналістычнымі фашысцкімі організацыямі абедзьвюх краін—латвійскімі айсаргамі і эстонскай самаабаронай. У выпадку барацьбы супроць пролетарыяту сваёй краіны кожная з саюзьніц можа быць упэўнена ў падтрыманьні і дапамозе свайго партнёра па саюзнаму дагавору.

Зьвернемся цяпер да пытаньняў „вялікай політыкі“. У Латвіі ў сучасны момант у ўлады знаходзіцца буржуазная коаліцыя, у якой пераважаючую ролю грае кулацкая партыя сялянскага саюзу і фашысцкія нацыяналістыя, якія ў замежнай політыцы офіцыяльна прытрымліваюцца заходняй орыентацыі. Прасачым, на падставе знадворных паказчыкаў, „за посьпехамі“ латвійскай замежнай політыкі ў гэтай галіне за апошні год.

Самай помпэзнай і гучнай знадворнай падзеяй у галіне латвійскіх замежных зносін зьявіўся візыт у маленькую Латвію, усьлед за наведваньнем Эстоніі „сапраўднага“ караля швэдзкага монарха Густава V— 29 чэрвеня 1929 г. Гэты візыт зьявіўся адказным на зроблены ўвосень 1928 г. латвійскім прэзыдэнтам візыт у Стокгольм. І няма чаго зьдзіўляцца і таму, што латвійскія дробныя буржуа ад „аказанай“ ім „высокай чэсьці“ зусім страцілі пачуцьцё меры. Славасловы латвійскай прэсы ня ведалі меры. XVI сталецьце, у працягу якога сучасная Латвія знаходзілася пад швэдзкім панаваньнем, праслаўлялася як „залаты век“ латыскага народу. У сваіх прамовах латвійскія дзяржаўныя мужы падкрэсьлівалі, што гэты візыт сьведчыць аб тым, што Латвія канчаткова ўключана, як роўная ў кола культурных заходніх дзяржаў. Наогул, больш за ўсё трубілі аб тым, што гутарка ў першую чаргу ідзе аб культурным зблізкэньні латвійскага і швэдзкага народу. Адначасна ўсё-ж досыць адкравенна выказваліся надзеі і на політычнае зблізкэньне з Швэдыяй. Латвійскі буржуазны друк з захапленьнем загаварыў аб новай швэдзкай орыентацыі замежнай політыкі Латвіі, які зьяўляецца, быццам, новым фактарам у справе ўзмацненьня міру і культуры на ўсходзе Эўропы. На тэндэнцыю зблізкэньня з Швэдыяй, якая вызначылася з нашымі прыбалтыцкімі суседзямі, трэба зьвярнуць увагу. Нас ня цікавіць сам факт каралеўскага візыту, апошні зьяўляецца толькі знадворным праяўленьнем больш глыбокіх і сур'ёзных інтарэсаў швэдзкае буржуазіі. Справа, зразумела, ня ў тым, што Швэдыя імкнецца да „экспорту“ сваёй культуры, а латвійскія і эстонскія буржуа раптам адчулі непамернае жаданьне далучыцца да гэтае культуры. Да буржуазных гутарак аб культурным супрацоўніцтве мы добра прывыклі і ведаем, што пытаньні так званай „культуры“ карыстаюцца асаблівай увагай з боку буйнейшых імпэрыялістычных драпежнікаў. Ці-ж ня культурнай місіяй заходня-эўропэйскай цывілізацыі апраўдваецца ўладаньне колёніямі і мандатнымі тэрыторыямі?

Уся гэтая швэдзкая шуміха мае вельмі простую матэрыялістычную падкладку. Швэдзкая буржуазія ў вялікай меры разбагацела за час свайго нэўтралітэту. Пасьля вайны Швэдыя ператварылася ў краіну, якая вывозіць капітал. Пасьля разгрому Нямеччыны, былой уладаркі на Балтыцкім моры, Швэдыя здрадзіла таксама сваёй традыцыйнай германскай орыентацыі, пачаўшы збліжацца з Англіяй. З другога боку, ператварыўшыся ў імпэрыялістычную дзяржаву, яна пачынае цясьней зьмяняць і другой сваёй традыцыі—прынцыповага нэўтралітэту і неўмяшаньня ў эўропэйскія справы. Швэдзкі капітал і швэдзкая прамысловасьць маюць патрэбу ў рынках збыту; самым блізкім з даступных рынкаў зьяўляецца ўсходняе ўзьбярэжжа Балтыцкага мора. Швэдзкі капітал ужо зрабіў свае першыя і сур'ёзныя крокі ў паказаным кірунку, напомнім вядомы факт дачы ў 1928 г. швэдзкаму запалкаваму сындыкату запалковай монополіі ў Эстоніі і Латвіі, за дадзеную ім сындыкатам пазыку. Такім чынам, кароль па сутнасьці выступаў у ролі комівояжэра швэдзкага капіталу.

Швэдзкая імпэрыялістычная буржуазія і ваеншчына загаварыла цяпер аб жыцьцёвай зацікаўленасьці Швэдыі ў захаваньні „незалежнасьці" малых прыбалтыцкіх дзяржаў. У Швэдыі з гэть'х-жа колаў раздаюцца патрабаваньні аб неабходнасьці вядзеньня актыўнай замежнай палітыкі, што ў сваю чаргу практычна павінна адбіцца на... ваенным бюджэце.

У зьвязку з гэтым ня будзе лішнім успамянуць аб меўшай месца ўжо пасьля каралеўскага візыту паездцы палкоўніка швэдзкага генэральнага штабу ў Прыбалтыку дзеля азнаямленьня з арміямі гэтых дзяржаў.

Гэткая сапраўдная падкладка швэдзка-прыбалтыцкага збліжэньня. Разьлік латвійскай буржуазіі таксама просты. Латвіі патрэбны чужаземныя капіталы, якія да гэтага часу слаба ідуць у краіну: пэрспэктыва падпасьці пад высокі протэкторат швэдзкага імпэрыялізму таксама да густу яе буржуазіі, няўпэўненай у непарушнасьці і доўгавечнасьці сваёй клясавай улады. Апрача таго збліжэньне са Швэдыяй упаўне супадае з асноўнай вышэй-паказанай лініяй замежнай палітыкі заходняй орыентацыі і ніколькі не супярэчыць полёнафільскаму курсу. Інтарэсы Польшчы і Швэдыі ў Прыбалтыцы ня проціпастаўляюцца, а хутчэй супадаюць. Экономічна Польшча зацікаўлена ў Прыбалтыцы, галоўным чынам, як у рынку для свайго вугалю. Складаныя вырабы прамысловасьці, якія Швэдыя можа экспортаваць у Прыбалтыку і ўвоз капіталаў, не сустракае перашкод з боку польскае конкурэнцыі, тут хутчэй можна чакаць сутычкі швэдзка-нямецкіх інтарэсаў.

У сьцьвярджэньне гэтаму тут досыць будзе спаслацца на вельмі спачувальныя водгукі, якія спаткаў „аўгусьцейшы" візыт і зьвязаныя з ім пэрспэктывы ў органах пілсудчыкаў. Аналізуючы сытуацыю, якая стварылася, можна сказаць, што швэдзкая орыентацыя, гутаркі аб „паўночнай Антанце" накіраваны ў канцовым ліку да стварэньня наўкольным шляхам таго-ж шырокага анты-савецкага прыбалтыцкага блёку.

Асаблівую цікавасьць уяўляе, бязумоўна, разьвіцьцё польска-латвійскіх адносін. І пасьля няўдачы славутага варшаўскага акорду не магло падлягаць сумненьню, што цеснае супрацоўніцтва паміж польскім і латвійскім генэральнымі штабамі не паслабла. Латвійская ваеншчына, у якой і да гэтага часу першую скрыпку грае фашысцка-настроенае афіцэрства і бышшыя царскія ваенныя ўдзельнікі белагвардзейскіх армій, у гэтых адносінах заўсёды вяла сваю самастойную політыку. Але за апошні год гэтыя сувязі набылі асабліва адкрыты і бессаромны характар. Звычайныя ўзаемныя ваенныя візыты, у працягу лета 1929 г., ператварыліся ў хронічнае зьявішча. Шматлікія дзесяцігадовыя юбілеі розных вайсковых часьцей абедзьвюх армій зьявіліся прычынай для памену шматлікімі ваеннымі дэлегацыямі. Адно пералічэньне іх забрала-б многа месца. У тым-жа 1929 г. адбыўся паход польскага вайсковага флёту ў Гдыню. Не адстаў і паветраны флёт; у адказ на прылёт польскіх самалётаў, у Польшчу вылятала латвійская ваенная эскадрыльля пад камандай начальніка авіяцыйнага палка. Усе гэтыя шматлікія вайсковыя ўрачыстасьці праводзіліся пад лёзунгам братэрства па зброі і непарушнасьці дружбы і адзінства мэтаў польскай і латвійскай арміі. З поўнай падставай літоўская газэта „Ліетува Айдас“ назвала нядаўна друкаваны орган латвійскага ваеннага міністэрства „Латвіяс Карэвіс“ афіцыёзам польскага ўраду. Той, каму прыпадала чытаць гэтую газэту, павінен згадзіцца з слушнасьцю гэтае ацэнкі. У Рызе, наўрад ці зьяўляецца сакрэтам, што рэдактар органу ваеннага міністэрства капітан Мэдніс знаходзіцца на ўтрыманьні польскага генэральнага штабу, якое і атрымлівае ў выглядзе гонарару за артыкулы, якія зьмяшчае ў часопісі „Польска Збройна“.

За вайскоўцамі пацягнуліся і цывільныя. У верасьні—кастрычніку 1929 г. Польшчу наведалі па рознастайных афіцыйных прычынах (наведваньне пазнанскай выстаўкі, экономічныя перагаворы і інш.) наступныя латвійскія дзяржаўныя дзеячы: міністар земляробства Альбэрынг, міністар фінансаў Петрэвіц, старшыня рады дзяржаўнага банку—Цэльме, дырэктар дзяржаўнае статыстычнае ўправы—Скуенэк, таварыш міністра фінансаў—Бакальдэ і, нарэшце, віцэ-міністар земляробства—Эгліт. Аб прычынах шырокай польскай гасьціннасьці мы ня будзем многа гаварыць. Зьвернемся лепш да іншых фактаў. Спраўдзім, наколькі гэта відавочна афішыруемая блізкасьць знаходзіць свае падставы ў экономічных ці політычных выніках разьвіцьця польска-латвійскіх адносін.

Вядома, што 12 лютага 1929 г. у Рызе быў заключаны латвійска-польскі гандлёвы догавар і адначасова падпісана конвэнцыя аб непасрэдных чыгуначных зносінах паміж пагранічнымі станцыямі латвійскай Земгале і польскай Турмонт. Да гэтага Польшча не жадала заключэньня такой конвэнцыі, не жадаючы ў афіцыяльным акце прызнаць станцыю Земгале латвійскай пагранічнай станцыяй з-за сваіх дамаганьняў на шэсьць валасьцей Іллукскага павету Дзьвінскае акругі. Фактам заключэньня памянёнай конвэнцыі, па латвійскаму тлумачэньню, Польшча, праўда, у

вельмі няяснай форме, адмовілася ад гэтых сваіх тэрыторыяльных дамаганьняў на карысьць Латвіі. Мы ня маем даных, наколькі адпавядаюць сапраўднасьці весткі, якія паведамляліся ў той час латвійскім соцыялдэмократычным друкам аб тым, што ў компэнсацыю за гэта латвійскі ўрад абавязаўся заплаціць значную суму польскім абшарнікам, якія пазбавіліся сваіх маёнткаў у зьвязку з праведзенай у Латвіі аграрнай рэформай. Займемся лепш вынікамі гандлёвага дагавору, які па водгуку латвійскага і польскага офіцыёзнага друку павінен быў пакласьці аснову экономічнаму зблiжэньню абедзьвюх дзяржаў.

Знаёмячыся з офіцыяльнымі латвійскімі статыстычнымі данымі аб замежным гандлі з Польшчай за першыя 8 м-цаў 1929 г. і параўноўваючы іх з данымі за тыя-ж месяцы папярэдніх год, мы назіралі наступны навучальны малюнак:

Польскі экспорт у Латвіі складаў за першыя 8 месяцоў 1927 г.—9.028.000 лат,—за той-жа час 1928 г.—10.373.000 лат і 1929 г.—20.568 тысяч лат.; латвійскі экспорт у Польшчы за тыя-ж адцінкі часу тых-жа гадоў складаў у 1927 г.—4.150 тысяч лат, у 1928 г.—4.937 тысяч лат і ў 1929 г.—1.977 тысяч лат.

Такім чынам Польшча мае ўсе падставы быць здаволенай вынікамі дагавору. Пасьля заключэньня дагавору яе ўвоз у Латвію павялічыўся амаль што ў два разы. Як-жа аднеслася Латвія да гэтага гаспадарчага „збліжэньня“, якое носіць, мякка кажучы, некалькі аднабаковы характар, бо яна ў адносінах свайго і так вельлі нязначнага экспорту, можа наглядаць якраз адваротнае зьявішча? Дарэмна мы сталі-б шукаць у латвійскім буржуазным друку, гэтак шчодраму ў нападках на савецка-латвійскі дагавор, на якім мы яшчэ спынімся, пэўныя прызнакі нездаволеньня гэтым сваеасаблівым становішчам рэчаў. Поўны росквіт латвійска-польскай дружбы такога роду матэрыялістычнымі паказчыкамі не затуманьваецца. Латвійскі друк пераважна саромліва замоўчвае балянс свайго замежнага гандлю з Польшчай пасьля заключэньня новага догавару, і здавальняецца ўсякімі абяцанкамі з польскага боку павялічыць увоз рыбных консэрваў з Латвіі.

Такім чынам не ў абаюдных посьпехах на экономічным фронце трэба, як відна, шукаць прычыны, гарачай дружбы і наўрад ці гэтыя вынікі меў на ўвазе латвійскі міністар замежных спраў Балодыс, калі ён ў сваёй нядаўняй прамове, сказанай на банкеце, які быў наладжаны ў яго гонар чужаземнымі корэспондэнтамі, з такой цеплатой выказваў упэўненасьць у далейшым разьвіцьці польска-латвійскіх адносін „на грунце агульных інтарэсаў і солідарнасьці“.

Прыходзіш воляй няволяй да вываду, что польская дыплёматыя, якая імкнецца да пэўных чыста ваенна-політычных мэтаў, здолела ў значнай ступені падпарадкаваць сабе кіраўніцтва латвійскай замежнай палітыкай, скарыстоўваючы ў першую чаргу свой бясспрэчны ўплыў на фашысцкія ваенныя колы. Недарэмна таксама ў лістападзе 1929 г. у Рызе ў зьвязку

з „інспэкцыйным аб'ездам польскіх місій ў Прыбальтыцы“, прыяжджаў досыць вядомы загадчык усходняга Дэпартаманту польскага міністэрства замежных спраў Галуўко, нездарма ў тым-жа лістападзе месяцы пасыпаўся цэлы дождж польскіх ордэноў на латвійскіх міністраў і некаторых грамадзкіх дзеячоў, якія асабліва выслужыліся перад Польшчай. Вышэйшы польскі ордэн „Полёнія Рэстытута“ першай ступені атрымалі ўсе латвійскія міністры, а сярод грамадзкіх дзеячоў, паміж іншым, ідэолёг латыскага фашызму, правадыр фракцыі нацыянальнага цэнтру ў сойме Бэрг. Шэраг чыноўнікаў, газэтчыкаў, і іншых асоб, атрымалі той-жа ордэн ніжэйшых ступеняй. Досыць цікава ўспамянуць аб прамове, сказанай польскім пасланьнікам у Латвіі, Арцішэўскім, пад час цырамоніі раздачы аднэй з партый гэтых ордэноў. У сваёй прамове Арцішэўскі вытлумачыў, што ордэны выдаюцца за садзейнічаньне, якое зроблена асобамі, якія атрымалі ўзнагароду, справе польска-латвійскага зьбліжэньня, якое выявілася ў *шматлікіх* дагаварох і згодах, заключаных паміж абедзьвюмі краінамі за апошні час. Пасланьнік далей падкрэсьліў, што ў сучасны момант закончыўся *першы этап* гэтага зьбліжэньня і выказаў надзею, што выпрабаваныя сябры Польшчы і Латвіі пакладуць свае сілы на паскарэньне дасягненьняў другога этапу.

Думаем, што мы ня будзем далекімі ад сапраўднасьці, калі выкажам упэўненасьць у тым, што ў 1929 г. паміж Польшчай і Латвіяй ужо заключана ці, прынамсі, насьпела патаемная ваенная-палітычная згода.

Актыўнасьць Польшы ў Латвіі, якая павялічылася, нас ня можа ня цікавіць і з пункту гледжаньня разьвіцца літоўска-польскага канфлікту. Агульна вядома, што польская дыплёматыя песьціць сур'ёзную надзею на тое, што новы літоўскі ўрад зьменіць традыцыйную палітыку Літвы ў адносінах да Польшчы. Польшча з выстарчальнымі падставамі разьлічвае ў асобе Латвіі атрымаць прыладу ваўздзеяньня на Літву. Бо не ўпяршыню латвійскаму міністру замежных спраў Балодысу прыпадае выконваць „заказ“ Польшчы: досыць напомніць яго выступленьне на пасяджаньні Пленуму Лігі Нацый у верасьні 1928 г. па пытаньні аб быццам-бы „жыцьвёва-патрэбным для Латвіі адчыненьні зносін па Лібава-Роменскай чыгунцы“. Гэтае выступленьне об'ектыўна зьяўлялася ўдарам па Літве, якая адмаўляецца да звароту ёй окупаванай Віленшчыны ад аднаўленьня зносін па гэтай чыгунцы.

Ужо па гэтаму аднаму факту можна меркаваць аб тым, наколькі сучасны кіраўнік замежнй палітыкі Латвіі нэўтральны ў літоўска-польскім канфлікце. Спробы, якія робіць цяпер Латвія дзеля зьбліжэньня з Літвой, павінны таму расцэньвацца з гэтага пункту гледжаньня.

Канчаючы наш агляд замежнай палітыкі Латвіі за апошні год, пярэйдзем да ўзаемадносін яе з Савецкім Саюзам.

Агульна вядома, што Латвія разам з Польшчай, Румыніяй і Эстоніяй удзельнічала 7-II—29 г. у падпісаньні маскоўскага пратаколу аб дачасным

увядзеньні ў дзеяньне пакту Келёга, якім падпісаўшыя яго дзяржавы адмаўляліся ад ужываньня вайны, як прылады нацыянальнай політыкі.

Сам факт падпісаньня Латвіяй гэтага пратаколу, моральнае значэньне якога ня трэба недаацэньваць, можна толькі вітаць.

Вядома, што савецкі ўрад яшчэ задоўга да ўзьнікненьня ідэі антываеннага пакту ў сваім нязьменным імкненьні садзейнічаць забесьпячэньню міра, неаднакраць даваў доказы сваёй мірнай політыкі. Напомнім чытачу два моманты, яскрава ілюструючых політыку СССР у Прыбальтыцы — скліканую па ініцыятыве Савецкага ўраду ў 1922 г. у Маскве конфэрэнцыі па разброеньні і прапановы, зробленыя Савецкім Саюзам у 1926 г. усім прыбалтыцкім урадам—заключыць двухстароньні дагавор аб ненападзе і нэўтралітэце. Конфэрэнцыя 1922 году скончылася на нічым, бо дэлегацыі прыбалтыцкіх дзяржаў, якія кіраваліся Польшчай, адхілілі сур'ёзныя прапановы Савецкага ўраду, прадэмонстраваўшы лішні раз, што разброеньне ці абмежаваньне ўзброеньняў супярэчыць самой існасьці капіталістычнае дзяржавы. Анолёлічны лёс падзяліла і другая паманёная мірная прапанова Савецкага Саюзу. У працягу доўгіх перагавораў, якія цягнуліся яшчэ і ў 1927 г., урады прыбальтыцкіх дзяржаў, любімым канём якіх зьяўлялася спасылка на быццам-бы пагражаючую гэтым краінам небясьпеку савецкага нападу, якая прымушае іх узброіцца, рабілі ўсё магчымае для таго, каб пад рознымі прычынамі ўхіліцца ад заключэньня дагавароў з СССР аб ненападзе. Праўда, 9-III—27 г. пры так званым „левым" урадзе Скуэнека, паміж членам колегіі НКЗС т. Аралавым і міністрам замежных спраў Латвіі—Цэленсам быў парафіраваны асноўны тэкст гарантыйнага пакту, але да падпісаньня дагавору ні пры гэтым урадзе, ні пры яго праемніках, справа не дайшла.

Трэба ў двух словах спыніцца на асноўным аргумэнце, якім Латвія, а разам з ёй па трафарэту ўсе Прыбалты ад Польшы да Фінляндыі, опэравалі даводзячы немагчымасьць безагаворнага прыняцьця мірных прапаноў СССР.

Пакт, які быў прапанаваны Саюзам і прадугледжвае бязумоўны ўзаемны нэўтралітэт і адмову ад нападу, як бачыце, супярэчыць статуту Лігі Нацый, членамі якой прыбалтыцкія дзяржавы зьяўляюцца. У гэтым статуце ёсьць славуты артыкул 16, які прадугледжвае ўдзел усіх членаў Лігі ў эвэнтуальных санкцыях супроць „нарушыцеля" міра, прычым пытаньне, каго лічыць „нарушыцелем", вырашае таксама Ліга Нацый па свайму пагляду. Сапраўдны сэнс гэтага аргумэнту не патрабуе комэнтараў. Нічога не зьмяняюць таксама запэўненьні прыбалтыцкіх дыплёматаў аб тым, што яны, зразумела, ня мысьляць сабе, што ім прыдзецца калі-небудзь удзельнічаць у „санкцыях" супроць СССР, што справа, быццам, толькі у пажаданасьці захаваць максымальную юрыдычную стройнасьць у сваіх дагаворных абавязацельствах.

Сапраўдныя адносіны буржуазнай Латвіі да гэтага пункту статуту Лігі, як нельга лепш выказаў міністар замежных спраў Балодыс, аб якім

мы неаднакрацьь ужо казалі. Пасьля свайго звароту з Жэнэвы з апошняга асеньняга пленуму Лігі, ён зрабіў інтэрв'ю латыскаму друку, у якім з незахаваным здавальненьнем падкрэсьліваецца, што па сканчэньні працы, якая праводзіцца апаратам Лігі, па ўзгадненьню статуту Лігі з пактам Келёга, ні адна краіна ня здолее заставацца нэўтральнай у выпадку якога-небудзь конфлікту і павінна будзе прыняць удзел ва ўсіх санкцыях, прадугледжаных статутам па ўказаньні Лігі Нацый.

Пры гэтых умовах наўрад ці прыходзіцца зьдзіўляцца таму, што савецкая прапанова аб безадкладным увядзеньні ў сілу антываеннага пакту адразу-ж была спаткана спачатку варожа ў Латвіі. Але латвійскі ўрад, які зразумеў, што простым адхіленьнем савецкае прапановы вельмі ўжо скомпромэтуе сябе нават і ў вачох непатрабавальных латвійскіх абывацяляў і дробных буржуа і выкрые свае агрэсыўныя намеры, прымушаны быў пайсьці на падпісаньне Маскоўскага пратаколу.

Такім чынам пачатак 1929 г. даў Латвіі доказ нязьменнасьці мірных і дружаскіх адносін СССР да краін Прыбалтыкі. Пяройдзем цяпер да разьвіцьця гаспадарчых сувязяй паміж абедзьвюма дзяржавамі. Як ужо ўпаміналася 2 VI-27 г. паміж СССР і Латвіяй быў заключаны гандлёвы дагавор тэрмінам на пяць год. Гэтым дагаворам была рэалізавана так званая „Прыбалтыцкая клаузула“, якая ўключалася намі пасьлядоўна ва ўсе гандлёвыя дагаворы, якія заключаліся з чужаземнымі дзяржавамі, і „савецкая клаузула“, якая таксама агаварваецца Латвіяй у сваіх гандлёвых дагаворах. Сэнс гэтых агаворак зводзіцца да таго, што абедзьве стораны пакідалі за сабой права, улічваючы старыя цесныя экономічныя сувязі паміж імі, прадставіць адзін другому большыя ільготы, чым усякай трэцяй дзяржаве. У зьвязку з наяўнасьцю гэтых агаворак ва ўсіх савецкіх і латвійскіх гандлёвых дагаворах, ніводная трэцяя дзяржава ня мае права на падставе прынцыпу найбольшага спрыяньня патрабаваць аўтоматычнага распаўсюджаньня на яе ільгот, якія прадстаўляюцца Савецкім Саюзам і Латвіяй адна другому. Само сабой зразумела, што пры наяўнасьці паказаных прадпасылак палягчаўся шлях да заключэньня больш цеснае, чым звычайна, гаспадарчае згоды.

Латвія, між іншым, зьяўляецца першай з прыбалтыцкіх краін, з якімі СССР заключыў гандлёвы дагавор. Дагавор быў падпісаны, калі ў Латвіі ў улады знаходзіўся ўрад так званай левай коаліцыі. Гэты ўрад, зьяўляючыся прыхільнікам разьвіцьця латвійскай прамысловасьці, натуральна павінен быў прысьці да неабходнасьці ўрэгуляваньня гаспадарчых адносін з Савецкім Саюзам. У гэтым імкненьні Савецкі ўрад пайшоў яму насустрач.

Мы тут ня можам удавацца падрабязна ў аналіз дагавору, бо ў такім выпадку мы вельмі далёка адышлі-б ад непасрэднай нашай тэмы. Напомнім толькі, што гэты догавар быў адразу-ж ўзяты ў штыхі правымі латвійскімі партыямі, галоўным чынам, па мотывах унутранай політыкі, бо зыскоўнасьць догавару для Латвіі ўжо ў момант падпісаньня яго

была відавочнай. Але, зразумела, не малую ролю адыграла і „заходняя орыентацыя“ пэўных колаў латвійскай буржуазіі. Шалёная кампанія ў латвійскім друку, якая пачалася пасьля падпісаньня дагавору і якая дасягнула свайго апогэю у момант ратыфікацыі догавару латвійскім соймам, ня прыпынілася і пасьля ўступленьня догавару ў сілу.

Якія-ж вынікі гандлёвага договору для Латвіі?

5 лістапада 1929 г. мінуў другі год з таго часу, як пад савецка-латвійскія экономічныя адносіны была падведзена дагаворная база, так што можна падсумаваць некаторыя вынікі.

Карыстаючыся офіцыяльнымі данымі латаійскай статыстыкі, мы абмяжуемся прывядзеньнем даных аб гандлёвым звароце і аб транзыце за першы і восем месяцаў другога дагаворнага году. Для параўнаньня возьмем таксама адпаведныя лічбы за 1927 г.

| | Вываз Латвіі ў СССР у 1000 лат. | Латвійскі ўвоз з СССР у 1000 лат. | Савецкі транзыт праз Латвію ў 1000 тон. |
|---|---|---|---|
| З 5/XI-26 г. па 5/XI 1927 г. | 3.100 | 19.100 | 486 + 32000 шт. скаціны |
| 5/XI-27 г.—5/XI-28 г. | 20.042 | 16.980[1]) | 562 + 65000 шт. скаціны |
| За 8 месяцаў 1929 г. | 25.125 | 11.812 | каля 500 (бяз сплаву[2]) |

Гэтыя лічбы бяз слоў гаворାць самі за сабе. Пакажам у дадатак, што СССР зьяўляецца амаль адзінай краінай, з якой Латвія мае актыўны гандлёвы балянс; што СССР па замежна-гандлёваму звароту знаходзіцца на трэцім месцы сярод краін, з якімі Латвія падтрымлівае гандаль; што экспорт у СССР складае ў 1929 г. 16 проц. усяго латвійскага экспорту і 40 проц. прамысловага экспорту, нарэшце, на працягу 1929 г., які для замежнага гандлю Латвіі характарызуецца рэзкім павялічэньнем імпорту і скарачэньнем усіх звычайных сельска-гаспад. відаў экспорту, узрос толькі прамысловы экспорт, накіраваны амаль выключна ў СССР, значна зьмягчаючы вялізарны пасыў латвійскага замежна-ганддёвага балянсу.

Паводле даных Гандлёвага Прадстаўніцтва СССР ў Латвіі ў працягу першага, так і другога дагаворнага году, латвійскай прамысловасьці былі перададзены заказы на 40 млн. лат (15 млн. рублёў), штогодна. Нельга таксама не данцэньваць вялізарнае значэньне патоку савецкіх транзытных грузаў, які дае прыбытак латвійскім чыгункам і портам.

Цяпер застаецца парэкомэндаваць чытачу параўнаць паказаныя даныя з вышэйпрыведзенымі статыстычнымі весткамі аб разьвіцьці поль-

[1]) На зьмяншэньне савецкага экспорту зрабіла ўплыў выпаданьне збожжа-фуражных тавараў.

[2]) Апошняя лічба па транзыту ўзята за ўвесь другі дагаворны год (з 5/XI—28 году па 5/XI—29 г.

ска-латвійскіх экономічных адносін і самому адказаць на пытаньне, якую выгаду ўяўляе для Латвіі гандлёвы дагавар ад 2|VI-27 г.

Мы-ж зьвернемся да дасьледваньня пытаньня, якім-жа чынам гэты экономічны балянс адбіўся на адносінах офіцыяльных латвійскіх колаў да Савецкага Саюзу.

Нападкі на гандлёвы догавар з боку друку партый, якія ўдзельнічаюць у сучаснай урадавай коаліцыі, ня спыняюцца, ня кажучы ўжо аб тым, што ў пашырэньні ілжы і паклёпаў пра Савецкі Саюз, такія кіраўнічыя, напоўофіцыяльныя органы, як „Брыва Земе" (орган Сялянскага Саюзу) „Латвіс" (газэта нацыянальнага цэнтру), пасьпяхова конкуруе з „усясьветна" вядомым у гэтых адносінах, брудным белагвардзейскім лістком, рыскім „Сегодня". За апошні год зноў мелі месца двухсэнсоўныя заявы членаў латвійскага ўраду пра савецка-латвійскі гандлёвы дагавор. Сапраўдныя вынікі гэтага дагавору старанна абходзяцца маўчаньнем паказанай часткай латвійскага друку, якая або лічыць за лепшае ўздымаць лямант з прычыны савецкага імпорту цукру, бэнзыну і інш. тавараў, якія выціскаюць з латвійскага рынку іншых чужаземных конкурэнтаў і зьніжаюць цану на гэтыя патрэбныя для Латвіі імпортныя тавары, што ідзе на карысьць у першую чаргу латвійскаму спажыўцу, ці якая ўбіваецца з прычыны страт фіска, ад зьніжкі мытных пошлін, якая даецца ў сілу таго-жа дагавору Латвіяй савецкім імпортным таварам страт, якія дасягнулі за апошні год „страшэннай" сумы ў 900 тысяч лат (пры 40 млн. лат савецкіх заказаў і каля 7 млн. лат латвійскіх даходаў, па латвійскіх-жа даных ад савецкага транзыту ў 1928 г.). Зразумела, раздаюцца цьвярозыя галасы і з буржуазнага лягеру, але яны нясьмелыя і гінуць у асноўным патоку нападак і прыдзірак, якія сустракаюць бяз сумненьня згоду у сучасных урадавых колах. Зусім нядаўна, у лістападзе 1929 г. на паседжаньні сойму латвійскі віцэ-міністар земляробства Эгліт, знаёмы ўжо чытачу, як адзін з падарожнікаў у польскую Мекку, пад час інтэрпэляцыі аб беспрацоўі, меў нагласьць заявіць, быццам-бы СССР ня выконвае сваіх абавязацельстваў па гандлёваму дагавору. Гэтая заява не атрымала адпаведнага адпору.

Разам з тым трэба паказаць, што латвійскі ўрад да гэтага часу „не знайшоў часу" прыступіць да перагавораў па шэрагу конвэнцый—вэтэрынарнай, консульскай і інш., заключэньне якіх прадугледжана ў гандлёвым договоры, ня гледзячы на тое, што Савецкі ўрад ужо больш году таму назад перадаў латвійскаму міністэрству замежных спраў проекты ўсіх чатырох падлягаючых заключэньню конвэнцый.

Пасьля ўсяго вышэйсказанага ня лішнім будзе дадаць, што савецкія гаспадарчыя організацыі не сустракаюць патрэбнага садзейнічаньня ў сваёй знаходзячайся цалкам у інтарэсах Латвіі, дзейнасьці. Пытаньне аб параўнаньні транзытных чыгуначных тарыфаў на латвійскую тэрыторыю ў Віндаўскім і Лібаўскім кірунках з тарыфамі ў рыскім кірунку, даўно абгаварваецца ў нетрах латвійскіх устаноў і да гэтага часу не ажыць-

цёўлена гэтая мера, якая садзейнічала-б прыцягненьню савецкіх транзытных грузаў, бо рыскі порт у зімовы час не спраўляецца з савецкім транзытам, чым часткова можна вытлумачыць частковае скарачэньне нашага транзыту праз Латвію за апошні год. Гэтая акалічнасьць лепш за ўсё сьцьвярджае, наколькі латвійскі ўрад турбуецца аб гаспадарчым адраджэньні Лібавы. Успомнім, што міністар Балодыс іменна гэтымі меркаваньнямі ўгрунтоўваў неабходнасьць адчыненьня зносін па Лібава-Роменскай чыгунцы ў разьліку на больш чым проблематычны польскі транзыт з Віленшчыны.

У лістападзе м-цы мела месца чарговая спроба перашкодзіць нормальнаму разьвіцьцю савецка-латвійскіх экономічных адносін.

Пад націскам міністра фінансаў Петрэвіца так званая „Гаспадарчая Рада“ гэтага міністэрства, у якім прадстаўлены розныя гаспадарчыя аб'яднаньні Латвіі, ухваліла рэзолюцыю, якая выказвалася за ўвядзеньне ў законадаўчым парадку пастановы, якая абавязала-б усе латвійскія фірмы, якія атрымоўваюць савецкія заказы, рэгістраваць гэтыя зьдзелкі ў прымусовым парадку ў міністэрстве фінансаў. Гэтая спроба дыскрэмінацыі савецкага замежнага гандлю, якая мела на мэце як контроль над дзейнасьцю гандлёвага прадстаўніцтва, так і ўмяшаньне міністэрства ў адносінах да ўмоў зьдзелак, якія заключаюцца латвійскімі прамыслоўцамі з апаведнымі гаспадарчымі органамі, спаткала рашучы адпор, ня толькі з боку Саюзнага Гандлёвага Прадстаўніцтва і латвійскіх прамыслоўцаў, але ў пэўнай меры і латвійскае грамадзкае думкі, і, як відаць, так і застанецца толькі спробай. Але ўжо адно тое, што такога роду спроба магла быць зроблена адказнымі членамі ўраду, прымушае задумацца над пытаньнем далейшага разьвіцьця савецка-латвійскіх адносін.

Савецкі Саюз, стоячы нязьменна на прынцыпе права народаў на сваё самавызначэньне, зацікаўлены ў разьвіцьці дружаскіх адносін і ў паглыбленьні гаспадарчых сувязяй на аснове ўзаемнай выгады з Латвіяй, як і са ўсімі іншымі нашымі суседзямі. Мінулыя гады далі ў выстарчальнай меры доказаў гэтаму. Але мы ні ў якой меры ня можам згадзіцца з такім становішчам, калі гэтыя добрыя адносіны набываюць аднабаковы характар. Мы схільны думаць, што захаваньне адносін, якія ўсталяваліся, ляжыць у першую чаргу ў інтарэсах самога латвійскага народу. Тлумачэньне-ж позыцыі, занятай сучасным латвійскім габінэтам у гэтым пытаньні, трэба відавочна шукаць у адкравенных словах польскага пасланьніка ў Латвіі Арцішэўскага, якія ён выказаў у першым інтэрв'ю для латвійскіх журналістых пасьля таго, як ён быў прызначаны на пост пасланьніка ў Рызе. Выказваючы сваю радасьць з прычыны нападак на савецка-латвійскі дагавор, Арцішэўскі досыць празрыста даў зразумець, што асноўную сваю задачу ён бачыць у процідзеяньні савецка-латвійскаму зблiжэньню.

У гэтым ён якраз бачыў паруку разьвіцьця дружаскіх адносін паміж Польшчай і Латвіяй.

Гэтымі асноўнымі матэрыялямі вызначалася замежная палітыка нашай суседкі за апошні год.

Робячы агляд латвійскай замежнай палітыкі, мы павінны зрабіць наступны вывад. У замежнай палітыцы Латвіі за апошні год адбыліся значныя ўзрухі, якія патрабуюць нашай стараннай увагі. Бязумоўна таксама, што ўзаемаадносіны Латвіі з Савецкім Саюзам перажываюць вельмі сур'ёзны крызіс, вырашэньне якога ў той ці іншы бок, будзе ў значнай ступені залежаць ад жаданьня самога латвійскага ўраду.

## Унутраная палітыка Латвіі ў 1929 г.

Азнаёмімся цяпер у асноўных рысах з унутраным становішчам Латвіі за 1929 г. Мы ўбачым, што ў зьявішчах унутранага жыцьця і расстаноўкі клясавых сіл у Латвіі мы знайдзем тлумачэньне многім разгледжаным намі тэндэнцыям замежнай палітыкі.

Трэба агаварыцца, што на пытаньнях латвійскай экономікі, мы, з-за адсутнасьці месца і маючы на ўвазе тое, што гэтая тэма заслугоўвала-б спэцыяльнага нарысу, спыняцца ня будзем.

1928 год у шмат якіх адносінах зьяўляўся выдатным годам. У гэтым годзе ў Латвіі быў сур'ёзны неўраджай, вынікі якога цяжка адбіліся на жыцьцёвым узроўні працоўных Латвіі. У канцы 1928 г. адбыліся выбары ў сойм, які выбіраецца кожныя тры гады. Перадвыбарны пэрыод павінен быць адзначаны, як пачатак той хвалі рэакцыі ў Латвіі, паступальны рух якой яшчэ не закончыўся і ў працягу 1929 году. У жніўні 1928 г. урад Юрашэўскага закрыў да таго часу больш ці менш легальна існаваўшае левае профсаюзнае аб'днаньне, якое стаяла на позыцыях клясавае барацьбы, так званае „Цэнтральнае Бюро Рыскіх Профсаюзаў", аб'яднаўшае 13 профсаюзных організацый, якія таксама былі абвешчаны распушчанымі. Але 1928 год быў разам з тым пераломным годам уздыму рабочага руху. Хваля забаставак, адход асноўных рабочых мас ад соцыялдэмократыі, крывавыя сутычкі з паліцыяй пад час разгону шматлюднай рабочай дамонстрацыі, протэсту з прычыны зачыненьня левых профсаюзаў у жніўні 1928 году паказала, што ў Латвіі мы маем справу з новым рэволюцыйным уздымам.

На гледзячы на ўрадавы тэрор, выбары 1928 году зьяўляліся таксама яскравым доказам палявеньня рабочае клясы Латвіі. Упяршыню за час існаваньня незалежнай Латвіі, рабочая кляса правяла ў сойм шэсьць прадстаўнікоў, якія стаяць на прынцыпе пасьлядоўнай клясавай барацьбы і якія ўтварылі ў сойме новую фракцыю „левых профсаюзьнікаў" (як вядома, Латвійская Комуністычная партыя знаходзіцца ў глыбокім падпольлі і з самастойным сьпіскам на выбарах выступаць не магла). Да гэтага трэба дадаць яшчэ аднаго дэпутата, так званай „незалежнай соцыялдэмократычнай партыі", маленькай групы, якая адкалолася ад соцыялдэмократаў і прайшла ў сойм пры дапамозе галасоў лева-настроеных

рабочых у аднэй з акруг, дзе сьпісак „левых профсаюзьнікаў“ ня быў зацьверджаны выбарчай камісій.

Цяжкія страты панесьлі соцыял-дэмократы, якія згубілі з 33 мандатаў, якія яны мелі разам з прадстаўнікамі Бунду ў папярэднім сойме—8. Нязначныя перасоўкі мандатаў паміж буржуазнымі фракцыямі наогул узмацнілі правае крыло за кошт цэнтральных груповак. Трэба адзначыць посьпех нямецкае меншасьці, якая заваявала шэсьць мандатаў сваёй выключнай організаванасьцю на выбарах і ўмелым скарыстаньнем усіх магчымасьцяй, якія прадстаўляюцца выбарчым законам. Лік нямецкіх дэпутатаў перавышае ўдзельную вагу нямецкага насельніцтва Латвіі.

Беларусы не атрымалі ніводнага мандату, калі ня лічыць прайшоўшага па сьпісу латвійскіх соц.-дэмократаў вядомага прыяцеля заходнябеларускіх нацыянал-фашыстых—Пігулеўскага.

Наш чытач звычайна вельмі мала знаёмы з унутраным політычным жыцьцём, парляманцкай сыстэмай і паасобнымі шматлікімі партыямі і політычнымі групачкамі нашых малых суседзяў. Для лепшага зразуменьня далейшага зьместу ўнутры-політычных проблем Латвіі трэба сказаць, што латвійскі сойм налічвае 100 дэпутатаў, якія прадстаўляюць 23 розныя політычныя партыі, групы і групачкі. З гэтага відаць, што „хвалёныя“ перавагі буржуазнай парлямэнтарскай сыстэмы разьвінуліся ў маленькай Латвіі махровым цьветам. Гэты вялікі лік груповак, палягчаючы, з аднаго боку, ашукваць выбаршчыкаў, з другога боку, зьяўляецца лепшай глебай для разьвіцьця зьявішчаў самай агіднай корупцыі і бяспрынцыповых комбінацый, якімі так багата політычнае жыцьцё Латвіі.

Чытач згодзіцца, што ў межах гэтага нарысу немагчыма, хоць-бы нават у самых агульных рысах, паспрабаваць ахарактарызаваць політычны твар і клясавую сутнасьць усіх гэтых молекул латвійскага парляманта рызму. Правядзем толькі мяжу паміж левым, правым крылом і цэнтрам. Аб левых профсаюзьніках і соцыял-дэмократыі мы ўжо казалі. Цэнтр складаюць групы, якія прадстаўляюць латвійскую шовіністычную інтэлігенцыю і дробную буржуазію, чыноўніцтва і „дэмократычныя“ меншасьці (руская, яўрэйская, якія ў адзнаку ад немцаў у сойме распадаецца кожная на тры групы). Бяспрынцыповасьць і няўстойлівасьць цэнтравых груп нават для латвійскіх умоў вайшла ў прыказку. Правае крыло складаюць розныя сялянскія партыі, якія праўстаўляюць інтарэсы кулацтва, з іх самая буйная—партыя сялянскага саюзу (15 дэпутатаў у сойме), па сутнасьці зьяўляецца кіруючай буржуазнай партыяй Латвіі, аб ёй мы некалькі разоў упаміналі, робячы агляд замежнай політыкі. Крайняе правае фашыцкае крыло нешматлікае, але вельмі актыўнае. Таксама зьвязанае з сялянствам, яно пераважна прадстаўляе інтарэсы гарадзкой буржуазіі, домаўласьнікаў і лютаранскага клеру. Да правага крыла трэба прылічыць і немцаў, якая зьяўляецца партыяй экспропрыяваных нямецкіх баронаў і досыць уплывовай у гаспадарчым жыцьці краіны нямецкай гарадзкой буржуазіі. Пры крызісах, якія адбываліся ў часе

сойму ранейшых склiканьняў, ня менш аднаго разу ў год, у ўлады знаходзіліся папераменна розныя коаліцыі, у якіх неаднокраць удзельнічалі і соцыял-дэмократы. Рашаючае слова заставалася амаль заўсёды за цэнтрам, які заўсёды хістаўся, і нацыянальнымі меншасьцямі, граючымі ў зьвязку з гэтым досыць значную ролю ў сойме. З зьяўленьнем у сойме фракцыі „левых профсаюзьнікаў“, адкідваючай у прынцыпе ўсякі ўдзел у буржуазных коаліцыях ці іх падтрыманьне, сытуацыя стала больш складанай, звычайная арытмэтыка парлямантарызму парушылася. Да таго-ж соцыял-дэмократыя, адчуваючы заняпад сваіх уплываў у масах і з-за прысутнасьці ў сойме левай фракцыі, рашылася граць у „прынцыповую“ опозыцыю, маскуючыся ў левую позу. Пры гэтых умовах на зьмену досыць бясьцьветнаму цэнтра-праваму габінэту Юрашэўскага да ўлады прыйшоў рэакцыйны ўрад Цэльмінша (аднаго з лідэраў сялянскага саюзу), у якім першую скрыпку пачалі граць дзеячы крайня-правых колаў, якія атрымалі портфэлі ваеннага міністра і мініністра фінансаў. Актыўную ролю ў новай коаліцыі забясьпечылі сабе і немцы, у фракцыі якіх, якая ўзмацнілася, кіраўніцтва перайшло да баронскіх элемэнтаў. На падставе рэакцыйнага курсу згода паміж былымі баронамі і латыскімі нацыяналістымі была лёгка дасягнута. Гэтая коаліцыя распалажылася ўладарстваваць „усур'ёз і надоўга“, разьлічваючы на ўсю цяжкасьць для соцыял-дэмократыі стаць на чале, ці садзейнічаць утварэньню другой коаліцыі. Галоўным цэмантуючым момантам гэтай коаліцыі быў страх перад узрастаючай актыўнасьцю рабочае клясы.

Урад Цэльмінша хутка паказаў свой твар ва ўсіх галінах. Абмяжуемся тут упамінаньнем двух законаў, праведзеных коаліцыяй у пачатку 1929 г. Гэта—закон, які забараняе дэпутатам быць адказнымі рэдактарамі газэт, спэцыяльна накіраваны супроць друку „левых профсаюзьнікаў“. Пасьля гэтага закону ўрад атрымаў магчымасьць бесцырамонна арыштоўваць рэдактароў рабочых газэт, не патрабуючы клапатлівай процэдуры правядзеньня праз сойм пастановы аб пазбаўленьні дэпутацкай недатыкальнасьці „левых“ дэпутатаў, рэдагаваўшых газэту. Гэтымі мерамі, а таксама простымі забаронамі ўрад зрабіў амаль зусім немагчымым легальнае зьяўленьне выданьняў профсаюзьнікаў. Другім законам прадстаўлялася пэнсія ўсім латвійскім грамадзянам, якія служылі ў дзяржаўных ці земскіх установах царскага часу. Гэты закон, абдарыўшы былых чыноўнікаў царскай Расіі аж да ахраньнікаў і баронскіх станавых установаў, асабліва яскрава абрысоўвае клясавую сутнасьць і махрова-рэакцыйны курс габінэту, тым больш, што адначасова зьменшылася дапамога беспрацоўным і ўрэзвалася і без таго „ублюдачнае“ соцыяльнае законадаўства (новы закон аб больнічных касах, аб якім гутарка будзе ніжэй).

Уздаражаньне жыцьця, спробы прадпрыемцаў зьнізіць заработную плату, рэпрэсіі ўраду—усё гэта спаткала энэргічны адпор рабочых мас, кіруемых компартыяй.

Забастоўкі ў латвійскай прамысловасьці ня прыпыняліся ў працягу ўсяго 1929 году. Адзначым тут асабліва ўпартую забастоўку латвійскіх тэкстыльшчыкаў у канцы жніўня і пачатку верасьня, якая абхапіла амаль усе тэкстыльныя прадпрыемствы. Разам з тым, расла і палітычная актыўнасьць рабочых, аб чым сьведчаць арышты, якія не прыпыняюцца, і амаль штомесячныя шматлюдныя комуністычныя процэсы, бурныя дэмонстрацыі 1-га мая, дэмонстрацыі протэсту ў сярэдзіне ліпня ў сувязі з галадоўкай палітычных зьняволеных рыскай цэнтральнай турмы, якая цягнулася, як протэст супроць нечалавечных адносін да арыштаваных з 11 да 20 ліпня, посьпехі анты-ваеннага дню 1-га жніўня. Рух перакінуўся і ў вёску, асабліва ў бядняцкія раёны Латгаліі.

Здрадніцкая роля соцыял-дэмократыі, можа быць, упяршыню за апошнія дзесяць год так яскрава выявілася перад латвійскім пролетарыятам. Ня кажучы ўжо аб штрэйк-брэхэрскай ролі соцыял-дэмократычных профсаюзаў, напомнім толькі факты пабояў соцыял-дэмократычнай організацый „спортыстых“ сумесна з паліцыяй левых рабочых у дзень 1-га мая, аб чым паведамлялася ў савецкім друку, што з удзячнасьцю адзначыў нават фашысцкі друк. Факты пабояў і выдачы левых рабочых паліцыі на соцыял-дэмократычных мітынгах усё тымі-ж спортыстымі не пералічыць. Гэтымі дзеяньнямі соцыял-дэмакраты даказвалі сваю міністэрыябельнасьць. Усё гэта выклікала ў рабочай клясе стыхійнае імкненьне да компартыі, рост уплыву якой павінен быў прызнаць у трывожнай перадавой „Соцыял дэмократа“ ад 14-V „сам“ старшыня ЦК соцыял-дэмократаў — Рудэвіц.

Пяройдзем цяпер да рознагалосьсяў і трэньняў у самым буржуазным лягеры. Дробныя цэнтравыя групоўкі, якія ўваходзяць у коаліцыю, нездаволеныя зьмяншэньнем сваёй ролі ў урадзе перад тварам кулацка-фашысцкай гегемоніі, сталі па традыцыйна-латыскаму ўзору пагражаць крызісамі, усё часьцей і часьцей высоўваць паасобныя патрабаваньні шкурнага характару, якія ўраду пры напружанасьці бюджэту цяжка было задавальняць.

Моцна заснаваўшымся ў коаліцыі немцам удалося правесьці шэраг сваіх запаветных патрабаваньняў, у прыватнасьці, дабіцца сякіх-такіх ільгот шляхам сэнацкіх растлумачаньняў (міністэрства юстыцыі было замешчана нямецкім стаўленікам) для былых уласьнікаў экспропрыаваных маёнткаў, і для былых ваеннаслужачых баронскай нямецкай вайсковай організацыі „Ландэсвэр“, якая прымала актыўны ўдзел у грамадзянскай вайне ў Латвіі. Гэтую акалічнасьць скарысталі соцыял-дэмократы, якія ўжо даўно сумавалі аб міністэрскіх крэслах для таго, каб пад шовіністычнымі лёзунгамі дабіцца ўрадавага крызісу. Яны організавалі збор подпісаў пад ініцыятыўны законапраект, у якім удзельнікі вышэйпамянёнае організацыі „Ландэсвэра“ пазбаўляліся права на атрыманьне зямельных вучасткаў з дзяржаўнага зямельнага фонду, утворанага пасьля аграрнае рэформы. Цэнтравыя партыі і без таго ня зусім здаволеныя часткай дзяржаўнага

пірага, якая ім дасталася, не маглі дазволіць каб у адносінах шовінізму ў іх аспарвалася першае месца і падтрымлівалі гэту кампанію. Соцыял-дэмократы, імкнучыся скарыстаць сытуацыю, якая стварылася, патрабавалі скліканьня тэрміновай сэсіі сойму (справа адбывалася ў чэрвені—ліпені 1929 г. пад час сэймавых канікул), якая была назначана на сярэдзіну жніўня.

К гэтаму часу адбылася новая падзея: 30|VII ваенны міністар Озолс, ня спытаўшыся ні ваеннай камісіі сойму, ні згоды прэзыдэнта, падпісаў загад аб рэорганізацыі арміі. Асноўны сэнс гэтае рэорганізацыі, якая прадугледжвае злучэньне галоўнага штабу і штабу камандуючага арміяй у адзін „Штаб Арміі“, пашырэньне разьведывальных органаў і іншыя організацыйныя зьмены ў структуры латвійскай арміі, заключаўся ў тым, каб па тых ці іншых прычынах зьвярнуць на кіруючыя армейскія пасады шэраг фашысцкіх генэралаў і штабных афіцэраў (у першую чаргу былога камандуючага арміяй генэрала Радзыньша), якія згубілі свае пасады пры двух папярэдніх урадах, бо яны былі вельмі яўна замешаны ў няўдалай спробе ваенна-фашысцкага перавароту. Гэты загад выклікаў цэлую буру ляманту ў дробна-буржуазных колах. Здавалася, што гэтае абвастрэньне ўнутрыкоаліцыйных рознагалосьсяў канчаткова вырашаць лёс ураду. Але нацыяналістыя, падтрыманыя сялянскім саюзам, нядвухсэнсоўна далі зразумець, што не дадуць умяшацца парляманту ў справы арміі, якую яны лічаць сваёй недатыкальнай „вотчынай“. Рашучасьць фашыстых зрабіла адпаведны ўплыў на дробных буржуа, якія адразу-ж напалохаліся невядомых у данай сытуацыі пэрспэктыў урадавага крызісу.

Такім чынам, выстрал соцыял-дэмократаў—скліканьне тэрміновай сэсіі, якая скончылася 20|VIII,—не дасягнуў мэты, коаліцыя не раскідалася. Фашыстым, якія адчулі сваю сілу, у хуткім часе пасьля гэтага удалося правесьці другую рэакцыйную меру. Яны настаялі на выданьні ў парадку урадавага ўказу за некалькі дзён да адчыненьня чарговай соймавай сэсіі новага закону аб больнічных касах. Гэтым законам, па-першае, зьніжаўся процант адлічэньняў прадпрыемцаў у два разы, па-другое—праведзена рэорганізацыя кіраваньня касамі, якія да гэтага часу кіраваліся самімі застрахаванымі. У сілу новага закону пераважаючы ўплыў у кіраваньні атрымалі прадпрыемцы і дзяржава. Гэтай мерай коаліцыя імкнулася, паміж іншым, вырваць з рук соцыял-дэмократыі апарат, якім карміліся шматлікія соцыял-дэмократычныя чыноўнікі і актывістыя. Мера гэта ўгрунтоўвалася яшчэ небясьпекаю росту ўплыву левых рабочых у больнічных касах, якія адваёўвалі асабліва ў пролотарскіх раёнах адну соцыял-дэмократычную позыцыю за другой. Так, напрыклад, на конфэрэнцыі больнічных кас, якая адбылася ў Рызе 29—30 ліпня, да левых прымыкалі 40 проц. дэлегатаў, а ў некаторых гарадох, як, напрыклад, у Віндаве, левыя распалагалі абсолютнай большасьцю ў кіраваньні кас.

На гэты ўдар социял-дэмократы былі вымушаны рэагаваць абвяшчэньне аднадзённай забастоўкі протэсту, вызначанай на 18|X. Забастоўка пачалася фактычна часткова ўжо 16|X па заклiку компартыі, якая выбіла ініцыятыву з рук соцыял-дэмократаў, якія ў сваю чаргу рабілі ўсё для таго, каб дэзорганізаваць забастоўку і не дапусьціць забастоўкі „жыцьцёва-неабходных прадпрыемстваў“ (электрастанцыі, чыгуначных дарог і інш.). Забастоўка ператварылася з аднадзённай фактычна ў трохдзённую, выявіла цьвёрдую рашучасьць пролетарыяту даць адпор дамаганьням фашызму і соцыял-фашызму. Урад адказаў на забастоўку ўзмоцненымі рэпрэсіямі. Для аховы прадпрыемстваў ад забастоўшчыкаў і для прымусу да працы былі прыцягнуты рэгулярнае войска і часьці фашысцкай організацыі самаабароны—айсаргаў. Пабоі, арышты і судовыя прыгаворы былі ўзнагародай для многіх удзельнікаў забастоўкі.

Тымчасам зноў закруцілася парляманцкая машына. Зноў пачалі ўзважвацца розныя комбінацыі. Сэзон політычнага шантажу ў поўным разгары. Ініцыятыўны закон аб „Ландэсвэры“, які сабраў на папярэднім галасаваньні патрэбную колькасьць галасоў, паступіў у сойм. Па сутнасьці, усе латвійскія партыі лічылі пажаданым прыняцьце закону соймам, каб ухіліцца пастаноўкі яго на народнае галасаваньне, з боязьні таго, што комуністыя скарыстаюць гэтую кампанію ў сваіх мэтах. Большасьцю опозыцыйных галасоў і цэнтравых партый, закон быў зацьверджаны. Немцы ў зьвязку з гэтым вышлі з коаліцыі, як быццам соцыял-дэмократы дамагліся свайго, але немцы ня спыняюць аказваць коаліцыі падтрыманьне. Урад Цэльмінша ня бачыць падстаў падаваць у адстаўку. Соцыял-дэмократы робяць адчаянныя спробы схіліць цэнтр на свой бок, даючы абяцаньні яму свайго падтрыманьня пры прэзыдэнцкіх выбарах, якія павінны адбыцца вясной 1930 году. Сялянскі саюз думае аб пашырэньні коаліцыі. Узважваюцца розныя комбінацыі. Зараз яшчэ цяжка прадбачыць формы вырашэньня крызісу. Усё па сутнасьці залежыць ад сялянскага саюзу, ці палічыць ён выгадным зьмяніць сваё цеснае супрацоўніцтва з фашысцкім крылом. Ня выключана магчымасьць нават так званай вялікай коаліцыі, якая аб'яднала-б соцыял-дэмократаў і „сялян“. Што-ж, соцыял-дэмократы ў выстарчальнай меры даказалі сваю міністэрыябельнасьць, яны могуць прыдацца Ульманісу (правадыр сялянскага саюзу), як сродак супроць рашучага абурэньня рабочых мас.

Як-бы то ні было, ясна, што ў выпадку адраджэньня цэнтра-левай комбінацыі пераважаючым уплывам соцыял-дэмократаў, рабочай клясе няма чаго чакаць палепшаньня свайго становішча. У апошнім выпадку толькі ўзрасьце магчымасьць фашысцкага перавароту.

Фашызм паволі, але верна рыхтуецца да выступленьня, чакаючы спрыяючай сытуацыі. Гісторыя з рэорганізацыяй арміі была добрым узорам фашысцкіх мэтодаў. Апрача таго, прыклад Вольдэмараса і Пілсудзкага заразьлівы. У асобе камандаваньня арміі і яшчэ ў большай сту-

цені у айсаргах, добра ўзброенай шматлікай організацыі буржуазнай самаабароны, якая ўтрымліваецца на дзяржаўныя сродкі і комплектуецца ў асноўным з кулацкіх элемэнтаў вёскі і спэцыяльна прызначана для прыдушэньня ўнутраных хваляваньняў, фашызм уладае солідным кадрамі. Толькі рэволюцыйны пролетарыят можа даць сапраўдны адпор будучаму фашызму.

Савецкая грамадзкасьць мае ўсе падставы ўважна сачыць за разьвіцьцём падзей у Латвіі, тое, што адбываецца ў самых нашых межаў, для нас далёка не абыяка.

4 сьнежня 1929 г.

## СЯЛЯНСКІЯ РУХІ НА БЕЛАРУСІ ПАСЬЛЯ АГРАРНАЙ РЭФОРМЫ 1861 г.[1])

**Проф. У. Пічэта**

II

### НОВЫЯ ЎКАЗЫ І АДНОСІНЫ ДА ІХ СЯЛЯНСТВА ДЫ ПАМЕШЧЫКАЎ

Сялянскія рухі на працягу 1862 г., у якіх вельмі выразна выявіліся адмоўныя адносіны сялянскага насяленьня да палажэньня 19 лютага, былі задушаны. Урад, стаўшы на бок інтарэсаў памешчыцкага зямляўласьніцтва і прымусіўшы сялянскую масу рабіць на памешчыкаў нянавісную паншчыну і плаціць досыць высокія аброкі, прымусіў сялянскае насяленьне быць на варце і заняць варожую пазыцыю як да ўраду, так і да памешчыкаў.

Першапачатковая палітыка расійскага ўраду ў адносінах сялянскай масы звонку нібы ідзе насустрач інтарэсам сялянства, а, з другога боку накіравана проці памешчыцкага зямляўладаньня. Сапраўды-ж новыя законадаўчыя загады не супакоілі колы сялянскага насяленьня, хоць і выклікалі вялікае раздражэньне сярод дваранскага стану. Можна сказаць, што загады ўраду не далі тых вынікаў, якія меліся на воку пры апублікаваньні першых новэль, з дапамогаю якіх пачыналі рэвізію Палажэньня 1861 г. 19 лютага.

Расійскі ўрад прыняў пад увагу настрой сялян, які так выразна адбіўся ў сялянскіх рухах папярэдняга году. Урад прымаў пад увагу абурэньне сялян тым, што яны па-старому былі абавязаны адбываць зьдзельную павіннасьць і плаціць памешчыку аброк куды большы ў параўнаньні з папярэдняй эпохай. Ужо ў лістападзе 1862 г. расійскі ўрад апублікаваў новыя правілы дадатковага характару, у дачыненьні праверкі павіннасьцяй часова-абавязаных сялян. Гэтыя правілы пашырыліся на заходнія губэрні Беларусі: Віленскую, Горадзенскую, Ковенскую і Менскую і на чатыры паветы Віцебскай губэрні, у якіх сялянскае насяленьне было надзелена зямлёю, паводле тых самых прынцыпаў, як і ў паказаных чатырох губэрнях[2]). Правэрачныя камісіі, зразумела, яшчэ не маглі даць ніякіх рэзультатаў, бо работа толькі пачалася. Па сутнасьці, яны і не маглі даць

[1]) Гл. „Полымя“ № 8-9.

[2]) ПСЗ XXXVII, № 38, 954.

ніякіх дадатных рэзультатаў, бо, у крайнім выпадку, яны толькі маглі зьменшыць тыя павіннасьці, якія былі вельмі высокія і наяўнасьць якіх можна было тлумачыць відочнымі злоўжываньнямі з боку памешчыцкай улады. Праверка павіннасьцяй мела на мэце супакоіць усхваляванае сялянства і падштурхнуць апошняе як хутчэй скласьці з памешчыкамі ўстаўныя граматы і тым самым не стварацъ новых хваляваньняў, нямінучых пры тым настроі сялян, калі апошнія гаварылі, што праз два гады пасьля апублікаваньня Палажэньня сяляне будуць вольнымі і ніякіх павіннасьцяй на карысьць памешчыка адбываць ня будуць. Такія погляды сялянства ня былі выражэньнем настрою якой-небудзь аднэй воласьці, аднэй вёскі, а былі выражэньнем настрою ўсяго беларускага сялянства. Зразумела, такі настрой для памешчыцкага зямляўласьніцтва быў пагрозным. Гэта павінна было адбіцца вельмі адмоўна на памешчыцкім зямляўласьніцтве, на яго матэрыяльнай базе. Беларускія памешчыкі ў тагачасных умовах гаспадаркі не маглі перайсьці на капіталістычны спосаб гаспадараньня. З другога боку, расійскі ўрад не жадаў раздражняць памешчыкаў, і, пачынаючы праверку павіннасьцяй з мэтай зьнішчэньня вельмі ясна выражаных злоўжываньняў, зразумела, ня зьбіраўся і ня мог падкапаць аснову памешчыцкага зямляўласьніцтва, аснову матэрыяльнага забясьпечаньня,—абавязковую работу і абавязковыя павіннасьці часова-абавязаных сялян на карысьць памешчыкаў. Усякая другая пастаноўка пытаньня магла кінуць у паўстанцы нават тых памешчыкаў, якія адносіліся адмоўна да рэволюцыйнага руху, што пачаўся ў Польшчы.

Паўстаньне, якое пачалося ў Заходняй Беларусі, ясна паказала, што супакоіць сялянскую масу аднымі паверачнымі камісіямі, рэзультат працы якіх быў яшчэ невядомы, немагчыма. Трэ' было стаць на шлях больш радыкальных законадаўчых загадаў, якія са знадворнага боку павінны былі зрабіць радыкальныя зьмены ў становішчы часова-абавязанага сялянства. З другога-ж боку, гэтыя новыя загады павінны былі праводзіцца так, каб памешчыцкая гаспадарка не адразу адчула ўсе тыя перамены, якія павінны былі адбыцца ў дачыненьнях сялян да памешчыкаў. Улічваючы агульнае нездаволеньне сялян сваімі абавязковымі павіннасьцямі ў стасунку да памешчыкаў за карыстаньне тым надзелам, які быў ім даны, расійскі ўрад указам 1 сакавіка 1863 г. перавёў часова-абавязаных сялян на абавязковы выкуп у вышэй названых Заходніх губэрнях і ў чатырох паветах Віцебскай губэрні. Адначасна, 31 мая таго самага году сяляне пераводзіліся на аброк, прычым аброчная плата зьмяншалася на 20 капеек з рубля ў параўнаньні з нормай аброку, вызначанай ва ўстаўных граматах. Сялянская маса павінна была плаціць усю сваю плату ў казначэйства, якое, з свайго боку, выдавала грошы памешчыкам. У гэты-ж час паверачныя камісіі павінны былі заняцца праверкай павіннасьцяй сялян і калі выкупны акт зацьвярджаўся ў адпаведнай інстанцыі, то выплата памешчыкам грошай з казначэйства спынялася, і памешчыкі мелі права атрымаць выкупную плату. Такі характар за-

кону 1 сакавіка 1863 г. [1]). Зразумела, гэты закон толькі знадворку ішоў насустрач сялянскай масе. Ён касаваў зьдзельную павіннасьць толькі з 1 мая. Значыць, да 1 мая, калі ў сялян шмат працы на полі, сяляне былі абавязаны хадзіць, як і раней, на паншчыну ды араць памешчыку яго зямлю. Абавязак сялян плаціць аброчныя грошы ў казначэйства, якое зьяўлялася перадавальнай інстанцыяй паміж сялянамі і памешчыкамі, не вызваляў сялян ад павіннасьцяй у стасунку да памешчыка, а з другога боку, правільнае атрыманьне аброчнай платы праз казначэйства давала памешчыкам той абаротны капітал, якім яны маглі карыстацца з 1 мая для найманьня рабочых на сельска-гаспадарчыя работы. Нельга ня бачыць у гэтым законе дзіўныя клопаты пра матарыяльныя інтарэсы зямляўласьніцтвам, і было-б дзіўна разглядаць гэты закон так, як яго разглядалі раней, а іменна, як закон, накіраваны вельмі рэзка проці памешчыцкага зямляўласьніцтва. Апошняе, можна сказаць, ад гэтага закону толькі выйграла: спыніліся ўсякія непаразуменьні з сялянамі, а казначэйства ды адміністрацыя бралі на сябе абавязак спаганяць з сялян адпаведную аброчную плату. Значыць, уся злосьць сялянства пры спагнаньні падаткаў ішла не на памешчыкаў, а на адміністрацыю. Шмат якія памешчыкі вельмі добра разумелі соцыяльна-экономічнае значэньне гэтага ўказу і, бязумоўна, віталі яго.

Што да пераводу сялян часова на аброк з памяншэньнем 20 кап. з аброчнага рубля, то закон пашыраўся і на тых сялян, якія перайшлі на аброк да 1 мая 1863 г. [2]). Пашырэньне гэтага закону на больш раньні час лёгічна вынікала з тае палітыкі, якая тады праводзілася расійскім урадам. Закон 1 сакавіка ня мог супакоіць сялянскія колы. Ён вызваляў сялян ад зьдзельнай павіннасьці, але не вызваляў ад платы за павіннасьці. Закон вызваляў сялян ад аднэй формы эксплёатацыі памешчыкамі і даваў памешчыкам магчымасьць ускосным шляхам патрабаваць з сялян значнай часткі іх прыбытку ад рэалізацыі продуктаў свае гаспадаркі. Патрэбнасьць плаціць аброк грашыма таксама ставіла сялянскую масу ў больш цяжкае палажэньне. Сяляне пад націскам адміністрацыі, якая строга спаганяла павіннасьці, павінны былі як хутчэй, часамі на нявыгодных для сябе ўмовах, рэалізаваць продукты на рынку, каб мець у руках грошы, патрэбныя на аброк. Пераход сялян на абавязковы выкуп ставіў перад урадам другую задачу—патрэбнасьць разьмежаваць сялянскія ўжыткоўнасьці ад памешчыцкіх, што да гэтага часу ня было зроблена, і на глебе чаго адбываліся непаразуменьні і злоўжываньні з боку памешчыкаў [3]). І гэты ўказ усім сваім цяжарам быў накіраваны проці сялян. Разьмежаваньне ўжыткоўнасьцяй было роўназначным вызваленьню сялян ад карыстаньня сэрвітутамі, якія для сялянскай масы мелі вялікае значэньне. Для памешчыкаў-жа такі ўказ быў выгадны, бо

[1]) ПСЗ XXXVII № 39337.
[2]) ПСЗ XXXVIII. № 39.392.
[3]) ПСЗ XXXVIII. № 39.570.

цалкам ішоў насустрач іх інтарэсам—ён канчаткова выдзяляў памешчыцкую гаспадарку ў самастойную гаспадарчую адзінку, нічым нязьвязаную з сялянамі. Толькі з аднаго боку разьмежаваньне ўжыткоўнасьцяй магло быць карысным для сялян. Тая вакханалія пераводаў сялян з аднае сядзібы на другую дзеля акругленьня памешчыкам сваіх маёнткаў павінна была спыніцца. Гэтыя пераносы сядзіб, зразумела, выклікалі зусім законную неспагаднасьць і злосьць з боку сялян. Зразумела, разьмежаваньне ўжыткоўнасьцяй зусім не гарантавала сялянам таго, што ў іх ня будзе адабрана іх лепшая зямля і за гэта яны атрымаюць, як нагароду, зямлю куды горшую, што часта практыкавалі памешчыкі ажыцьцяўляючы ўстаўныя граматы.

Паўстаньне 1863 г. перакінулася з заходняй часткі Беларусі на ўсходнюю. Трэ' было і тут сьпяшацца з мерамі проці памешчыцкага землеўласьніцтва, каб прывабіць на свой бок сялянскую масу. Па прыкладу закону 1 сакавіка для губэрні Віцебскай і Магілеўскай быў апублікаваны ўказ 2 лістапада 1864 г., паводле якога 1 студзеня 1864 г. спыняліся абавязковыя адносіны паміж сялянамі і памешчыкамі ў Магілеўскай губэрні і ў рэшце паветаў Віцебскай губэрні [1]). Агульнае значэньне гэтага ўказу было аднолькавае з указам 1 сакавіка 1864 г. Гэты ўказ таксама ішоў насустрач інтарэсам зямляўласьніцтва, але памешчыцкая гаспадарка ўсходняй часткі Беларусі была больш адсталай у параўнаньні з гаспадаркай заходняй часткі Беларусі. Памешчыкі гаспадарылі неахайна, часта ня мелі свайго інвэнтару. Яны не маглі абыходзіцца бяз зьдзельнай павіннасьці сялянства, і зусім зразумела, што памешчыкі ўсходняй Беларусі лічылі гэты ўказ для сябе вельмі разбуральным і выступалі проці ўказу, як указу, які падкопвае аснову іх матарыяльнага палажэньня.

Якія-ж былі настроі сялянства і дваранства, гэтых дзьвюх соцыяльна-экономічных кляс, якія на аснове ўказу павінны былі стаць у крыху іншыя адносіны, праз што і сама організацыя памешчыцкай гаспадаркі павінна была быць пастаўлена інакш? Ня гледзячы на тое, што сяляне Віленскай губэрні прайгралі ў леташнім годзе ўсе свае выступленьні і павінны былі падпарадкавацца адміністрацыі, гэта падпарадкаваньне было надворнае, і сялянская маса па-старому хвалявалася. Віленскі генэрал-губарнатар пераслаў віленскаму жандарскаму штаб-афіцэру 7 сакавіка 1863 г. пратакол Віленскага міравога зьезду [2]), у якім зазначалася, што ў Вілейскім павеце шмат якія сельскія таварыствы рашуча адмаўляюцца ад выкананьня павіннасьцяй, азначаных устаўнымі граматамі, бо паміж сялянамі пануе пераконаньне, што пасьля 2 год з дня абвяшчэньня маніфэсту ўсякія павіннасьці ў стасунку да памешчыкаў за зямлю, якая знаходзіцца ў іх карыстаньні, павінны спыніцца. Міравы зьезд паведамляў, што ніякія ўгаворы земскай паліцыі не даюць ніякіх рэзультатаў,

[1]) РСЗ XXXVIII. № 40173.
[2]) III отд. 4 эксп. № 191—1863, л. л. 5—9.

і што, калі хутка ня будуць прыняты меры да аднаўленьня парадку і да пакорнасьці сялян, то ўся памешчыцкая гаспадарка будзе даведзена да канчатковага разбурэньня. Міравы зьезд пастанавіў давесьці аб гэтай пастанове да ведама адпаведных інстанцый і не разыходзіцца, чакаючы пэўнага загаду. Назімаў, загадваючы жандарскаму штаб-афіцэру накіравацца на месца хваляваньняў, прапанаваў яму склікаць сялянскі сход і пры членах земскай паліцыі, міравым пасрэдніку і папу абвясьціць сялянам указ аб спыненьні з 1 мая абавязковых адносін паміж сялянамі і былымі ўласьнікамі. Копія ўказу павінна быць перадана ў сельскае праўленьне, папу і памешчыку. Склікаючы сялян на сходы, штаб-афіцэр «павінен быў выкласьці сялянам іх сапраўдныя абавязкі ды прывесьці іх да яснай сьвядомасьці, што толькі дакладным і няўхільным выкананьнем загадаў ураду яны могуць давесьці, што ўмеюць, як сьлед, цаніць міласьці, якія ім робіць гасудар імпэратар». Разам з гэтым штаб-афіцэр павінен быў прапанаваць усім членам міравога зьезду падаць у пісьмовай форме формальнае тлумачэньне на наступныя пытаньні:

«1) Ці вядома было памешчыкам, што летась члены рэвалюцыйнай партыі пашыралі абуральныя праклямацыі і адозвы па вёсках ды мястэчках, а таксама, што па вёсках з розных повадаў, езьдзілі злоўмысьнікі, падазроныя асобы, якія няправільна тлумачылі сялянам загады ўраду і падбухторвалі іх да непаслушэнства ды непарадкаў.

2) Ці ўжывалі члены зьезду і міравы пасрэднік меры, і якія іменна, каб спыніць падобныя злачынствы, што рабіліся на іх вачох, а таксама, што было ўжыта пасрэднікамі памешчыкамі і ўсімі другімі асобамі, на якіх ляжыць абавязак наглядаць за захаваньнем супакою і парадку ў валасьцёх, каб засьцерагчы сялян ад няправільных тлумачэньняў і недарэчных чутак, якія пашыраюцца злоўмысьнікамі.

3) Ці асьведамлялі члены міравога зьезду, пасрэднікі і памешчыкі пра ўсе пералічаныя вышэй злачынствы і дзе знаходзяцца сьляды гэтых афіцыйных паведамленьняў.

4) Патрабаваць ад міравога зьезду формальнага паказаньня, якія, паводле яго думкі, у даны час могуць быць прыняты меры да прывядзеньня сялян у паслушэнства».

Штаб-афіцэр адразу накіраваўся на месца свае камандыроўкі і паведаміў аб выніках свайго абсьледваньня. Паводле ўражаньня жандарскага штаб-афіцэра пытаньні, прапанаваныя членам міравога зьезду, вельмі збаламуцілі апошні. Яшчэ большае непаразуменьне апанавала іх, калі яны азнаёміліся з указам 1 сакавіка. Гэта навіна была для іх нечаканая. Наведаўшы воласьці, у якіх было заўважана адмаўленьне ад выкананьня павіннасьцяй, штаб-афіцэр зачытаў указ, які быў прыняты сялянамі, на яго думку, «з асаблівым захапленьнем і пашанай». Але калі зайшла гутарка аб выкананьні сялянамі паншчыны да 1 мая, то сяляне катэгорычна заявілі, што «памешчыкі непамернымі павіннасьцямі прывялі іх у такое жабрацтва і крайнасьць, што яны ня маюць сілы адбываць

зьдзельную павіннасьць, што яны гатовы выконваць усякія загады цара, але працаваць на сваіх паноў больш ня будуць. Яны гатовы заплаціць хоць за 6 тыдняў, што засталіся да 1 мая, але на паншчыну ня выйдуць». З тае прычыны, што, на думку жандарскага штаб-афіцэра, сяляне ня могуць гаварыць спакойна слова «паншчына», штаб-афіцэр наважыў перагаварыць з адміністрацыяй маёнткаў адносна выплаты памешчыкам грошай замест паншчыны. Перамаўленьні далі наступныя вынікі: сяляне згадзіліся заплаціць памешчыкам за 6 тыдняў такую суму, якая была прызначана Губэрскім па сялянскіх справах «присутствием» за прагульныя дні. Штаб-афіцэр быў вельмі рады канстатаваць, што памешчыкі «ўсьвядомілі сваё адзіноцтва ды слабасьць і што яны адчуваюць ды разумеюць усю нянавісьць да сялян, якія пры кожным зручным і нязручным выпадку не цырымоняцца выказваць сваю нянавісьць да памешчыкаў». Даклад жандарскага штаб-афіцэра быў прасякнуты оптымізмам, і гэта цалкам зразумела, бо сяляне і памешчыкі не разабраліся яшчэ ў сапраўдным сэнсе ўказу 1 сакавіка, які нібы знадворна-формальна даваў палёгку сялянам. Як сапраўды стаяла справа з ажыцьцяўленьнем указу 1 сакавіка, аб гэтым можна меркаваць на аснове дакладной запіскі горадзенскага жандарскага штаб-афіцэра за 26 сьнежня 1863 г. У сваёй запісцы [1]), названай ім «Аб нагляданьні па сялянскім пытаньні», жандарскі штаб-афіцэр канстатаваў вялікую злосьць сялян проці памешчыкаў, нежаданьне сялян прымаць устаўныя граматы і поўнае недавер'е да міравых пасрэднікаў, якія пры складаньні ўстаўных грамат нічуць не клапаціліся пра будучы дабрабыт сялян, а думалі толькі пра карысьць і выгады сваіх пабрацімаў. Праўда, пасьля таго, як пасылалася войска для экзэкуцыі, сяляне, відаць, рабіліся паслухмянымі, але «трывожны іх стан ды раздражальнасьць больш і больш узмацняліся». Калі-ж пачалі работу паверачныя камісіі, то сяляне нецярпліва чакалі вынікаў гэтае работы, будучы пераконаны ў тым, што агульная сума як аброчная, так і выкупная, значна зьменшыцца. У склад паверачнай камісіі былі прызначаны чыноўнікі выключна расійцы, якія правяралі зямлю і, ацаніўшы яе справядліва, набылі поўнае давер'е сялянства. Калі на аснове работы паверачных камісій былі складзены ў некаторых маёнтках акты, то сяляне засталіся задаволенымі зьмяншэньнем платы ды аброкаў, а памешчыкі ў некаторых маёнтках адмовіліся падпісаць акты, мяркуючы іх апротэставаць на працягу 2 месяцаў. Другая частка памешчыкаў падпісала гэтыя акты. Разам з тым паўстала цікавае пытаньне, па якой ацэнцы сяляне павінны плаціць аброк памешчыкам, па ўстаўной грамаце ці па новых актах да зацьверджаньня паверачных актаў? Генэрал-губарнатар пашоў насустрач інтарэсам памешчыцкага земляўласьніцтва, і загадаў, каб плацілі аброк па граматах, якія ўжо існуюць. Такі загад політычна зьяўляўся небясьпечным. Жандарскі штаб-афіцэр быў пераконаны ў тым,

[1]) III отд. 4 эксп. № 191—2863, л. л. 10—12.

што «знойдуцца соткі людзей з нядобрымі замерамі, якія саб'юць з панталыку сялян». У некаторых мясцовасьцях, дзе памешчыкі зьбіралі грошы па старых устаўных граматах, сяляне рашуча адмовіліся плаціць і, калі ўжыць проці сялян у даным пытаньні строгія меры, то на думку жандара, вынікі могуць быць самыя сумныя. У Берасьцейскім павеце адзін памешчык заявіў паверачнай камісіі, што ён не жадае браць з сялян ні аброку, ні выкупных грошай і што ён дасьць сялянам зямлю бяз жаднае платы». Гэта зрабіла на сялян вялікае ўражаньне. Апошнія пачалі прыходзіць у камісію з просьбай, што калі іх ранейшыя ўласьнікі не пажадаюць выканаць гэта, дык мо' цар па сваёй добрасьці аддасьць ім зямлю дарма. Гарадзенскі штаб-афіцэр зусім правільна ахарактарызаваў дваістую позыцыю адміністрацыі ў сялянскім пытаньні. Зусім было немагчыма весьці палітыку так, каб задаволіць інтарэсы дзьвёх соцыяльна варожых кляс. І зусім зразумела, што Назімаў стаў на бок памешчыцкага зямляўласьніцтва, пэўны ў тым, што гэта павінна супакоіць памешчыцкую масу, і ня выкліча таксама абурэньня проці ўраду. Жандарскі штаб-афіцэр добра разумеў небясьпеку палітычнай меры, якая можа быць багата на вялікія вынікі.

І паверачныя камісіі стаялі паміж двух агнёў: сялянамі і зямляўласьнікамі. Становячыся на бок адных, паверачныя камісіі баяліся ўнесьці абурэньні ў другую групу. Работы паверачных камісій у Менскай губэрні даюць аб гэтым яскравае ўяўленьне[1]). Паверачныя камісіі ў Менскай губэрні, паводле паведамленьня прыватнай асобы, былі настроены на карысьць сялян. Яны зьменшылі ацэнку зямлі з 30 руб. да 6 руб., згодна інструкцыі з Вільні. Але расійская адміністрацыя перапалохалася такіх вынікаў, мяркуючы, што такая ацэнка выкліча вялікае нездавальненьне дзяржаўных сялян, якія плацілі згодна люстрацый вышэйшы аброк за свае надзелы. Вось чаму, ідучы насустрач інтарэсам зямляўласьнікаў, павышалі выплаты зямляўласьніцкіх сялян, тлумачачы гэта празьмернае павышэньне аброку патрэбнасьцю параўнаньня аброкаў дзяржаўных сялян з аброкам за панскую зямлю. Зусім зразумела, што такая абарона зямляўласьніцкіх інтарэсаў магла ўнесьці вялікае нездавальненьне ў сялянскую масу і выклікаць вялікія хваляваньні. Адзін з даносчыкаў у жандарскую ўправу выказаў магчымасьць такіх сялянскіх хваляваньняў, так небясьпечных у той цяжкі палітычны момант, калі ўся Беларусь была ахоплена полымем паўстаньня.

Як адносілася дваранства ўсходняй часткі Беларусі да абавязковага выкупу зямель сялянамі на аснове закону 2 лістапада 1863 году, аб гэтым у пэўнай ступені можа сьведчыць запіска аб абавязковым выкупе зямлі сялянамі Магілеўскай губэрні, прысланая ў III аддзяленьне[2]). Аўтар запіскі выказвае перакананьне ў тым, што напэўна гэтаю мераю ўрад ня меў на ўвазе разбурыць зямляўласьнікаў, а тым больш расійскіх,

[1]) III отд. 4 эксп. № 203—1863 г., л. л. 1—2.

[2]) III отд. 4 эксп. № 203—1863 г., л. л. 6—9.

якія ў Магілеўскай губэрні складаюць абсолютную большасьць. Для зямляўласьнікаў абавязковы выкуп зьяўляецца разбурэньнем. Яны ня толькі пазбаўляюцца часткі выкупной сумы, «якую маглі-б атрымаць з прычыны даплаты ад сялян у казённай пазычцы пры добраахвотным продажы сялянамі надзеленай у іх карысьць зямлі, але пазбаўляюцца яшчэ значнай часткі сваіх прыбыткаў ад страты выключнага права продажу «питей» на землях сялянскага надзелу і звыш таго ад страты права патрабаваньня абавязковага для сялян разьмеркаваньня панскіх зямель з мірскімі, пазбаўляюцца карыстаньня тымі землямі, якія знаходзяцца ў цераспалоснасьці з сялянскімі землямі». Зьнішчэньне права продажу гарэлкі абшарнікам на сялянскіх землях прынясе вялізныя страты памешчыкам, якія раней здавалі шынкі ў арэнду, а зараз лёгка можа атрымаць дазвол на адчыненьне ў вёсках продажу гарэлкі кожны гандляр. Праз гэта будзе конкурэнцыя паміж шынкамі, адчыненымі на сялянскіх землях і памешчыцкімі шынкамі, якія знаходзяцца ў арэндзе. Разьмеркаваньне-ж зямель паставіць памешчыкаў у самыя варожыя адносіны, і на гэтай глебе могуць пачацца шматлікія процэсы з сялянамі за межы ўладаньня. Вось чаму ўсе гэтыя абставіны прымушаюць памешчыка баяцца, што абавязковым выкупам яны будуць вельмі разбураны, калі ўрад ня ўвойдзе ў іх палажэньне і ня дасьць ім наступныя ільготы: «1) Каб рускім і тым польскім зямляўласьнікам, якія давялі сваю аддансьць прастолу і Расіі, выдана было з казны 90 к. за 1 рубель, капіталізаванага за 6 проц. сялянскага аброку замест 80 к., вызначаных указам 2 лістапада. 2) Каб за зямляўласьнікам па меншай меры на 20 год было пакінута права (якім яны карыстаюцца зараз) мясцовага Палажэньня, г. зн., каб на працягу гэтага тэрміну на мірской зямлі маглі быць адчынены крамы і карчмы ня іначай, як з дазволу зямляўласьніка і са згоды сельскага сходу. 3) Каб за зямляўласьнікамі на які-небудзь вызначаны тэрмін было пакінута права патрабаваньня абавязковага для сялян разьмеркаваньня панскіх зямель з мірскімі». Гэта запіска ярка характарызуе настроі дваранства ва ўсходніх губэрнях, асабліва рускага, якое спадзявалася за захаваньне спакою ў часе паўстаньня атрымаць пэўныя ільготы і па магчымасьці ліквідаваць указ 2 лістапада 1863 году, які ў пэўнай ступені закранаў і матарыяльныя інтарэсы.

Настроі зямляўласьнікаў у Віцебскай губэрні вельмі выразна відны з аднаго прыватнага ліста 27 кастрычніка 1863 году [1]). Гэты ліст ярка абмалёўвае тое нездавальненьне, якое перажывалі зямляўласьнікі ў часе работы паверачных камісій. Апошнія былі складзены з рускіх чыноўнікаў і ня былі зьвязаны з мясцовымі зямляўласьнікамі, атрымаўшы пэўныя дырэктывы з цэнтру, яны абыходзіліся з памешчыкамі даволі рашуча, ня прымаючы пад увагу ніякіх заяў апошніх. Такая палітыка была зусім зразумелай, бо адміністарцыі краю трэба было абавязкова ўтры-

[1]) III отд. 4 эксп. № 191—1861 г., л. л. 6—9.

маць сялянства ад удзелу ў паўстаньнях і прыцягнуць яго на свой бок дзеля барацьбы з тымі памешчыкамі, якія былі на баку паўстаўшых. Аўтар ліста выказвае вялікае нездавальненьне тым, што паверачная камісія бяз усякіх падстаў, супроць Палажэньня 19 лютага і інструкцыі, данай паверачным камісіям, адрэзала 20 дзесяцін зямлі для батракоў, прычым гэта зямля была засеяна памешчыцкай пшаніцай і жытам. Той-жа памешчык вельмі абураны тым, што другога селяніна надзялілі зямлёй у 15 дзесяцін, а апроч таго, з трох незанятых вучасткаў, якія знаходзіліся паміж сялянскімі палямі і тымі, што пуставалі гадоў 15 таму назад, былі нарэзаны надзелы па 3 дзесяціны кожны. Памешчык асабліва абураецца тым, што гэта землі, на якіх стаіць кузьня. Апроч таго, паверачная камісія аддала 1 агарод за броварам і сьлёсару старую хату, у якой ёсьць кузьня. Аўтар ліста асабліва абураны тым, што ўсе гэтыя землі знаходзяцца пры самых дваровых пабудовах, праз што нельга будзе нават пабудаваць дом для работнікаў, «якіх пры цяперашняй сыстэме гаспадаркі, кожны зямляўласьнік павінен трымаць, незалежна ад падзённага найму працоўных сялянскіх рук».

Аўтар ліста не разумее сэнсу тэй соцыяльнай політыкі, якая праводзіцца праверачнай камісіяй, і дзівіцца тэй экономічнай няпісьменнасьці, якую выяўляюць прыехаўшыя чыноўнікі. Усе гэтыя «ліцэістыя і канцылярскія чыноўнікі ня маюць і маленькага ўяўленьня аб сельска-гаспадарчай справе». Пад уплывам ахапіўшага абурэньня аўтар ліста нават выказвае радыкальную думку: «Ці ня лепей падараваць сялянам зямлю, якая лічылася дагэтуль у іх карыстаньні, чымся весьці процэс і на кожным кроку сустракаць нясумленнасьць і несправядлівасьць?» Такі настрой аўтара ліста зусім зразумелы. Работы праверачных камісій крыху закранулі інтарэсы памешчыкаў, з чым, вядома, апошнія не хацелі мірыцца.

Такім чынам, указы 1 сакавіка і 2 лістапада 1863 году выклікалі ў памешчыкаў недаўменьне і абурэньне. Такое-ж недаўменьне яны выклікалі і ў сялян. Па сутнасьці абурэньне памешчыкаў можна толькі растлумачыць тым, што апошнія не адразу разабраліся ў сапраўдным значэньні гэтых указаў, якія па сутнасьці ішлі насустрач інтарэсам зямляўласьнікаў, хоць і паніжалі на 20 проц. выплаты ўстаўных грамат, бо абаранялі на пэўны час правільнае паступленьне аброкаў на карысьць памешчыка, а потым давалі ім праз выкуп зямлі, патрэбныя сродкі для гаспадараньня на капіталістычнай аснове. Сельскае-ж насяленьне, разумеючы ўказы як канчатковую ліквідацыю прыгоннага права і ўсіх абавязковых адносін, зусім не разумела, як гэта могуць сялян прымушаць да пэўнага часу несьці павіннасьці па-старому, а ткасама плаціць аброкі і выплаты па старых нормах непасрэдна да зацьверджаньня паверачных камісій. Усе гэтыя палавінчатыя меры не маглі супакоіць сялянскую гушчу.

Сялянскія хваляваньні ў 1862 годзе былі з надворнага боку ўціхамірады адміністрацыяй. Пад пагрозай вайсковай экзэкуцыі сяляне павінны былі згадзіцца на ўсе патрабаваньні, якія былі пастаўлены грамадзянскай

і вайсковай адміністрацыямі. Адміністрацыя, здавалася, была спакойнай і ўпэўненай у тым, што ўсе непаразуменьні скончыліся, а тымчасам такое пераканаНьне, бязумоўна, было вялікай памылкай, бо хваляваньні ў 1863 годзе на грунце нежаданьня сялян выконваць старыя павіннасьці і прымаць устаўныя граматы ішлі далей. У пачатку 1863 году ў Ашмянскім павеце ў Якунскай сельскай грамадзе сяляне не хацелі падпарадкавацца міравому пасрэдніку і ўвесьці ўстаўную грамату [1]). Толькі тады, калі зьявіўся жандарскі штаб-афіцэр з ротаю салдат і калі сялянам жандарская адміністрацыя зрабіла адпаведныя «внушения», сяляне, як характарызуе жандарскі палкоўнік, «выслухаўшы ўсё, ідаць з поўнай увагай і пакорнасьцю, выказалі згоду прыняць устаўную грамату, што тады-ж было выканана міравым пасрэднікам пры мне і ў прысутнасьці памешчыка». Маючы на ўвазе, што сельская грамада выявіла «бязумоўную пакорнасьць і абяцаньне выконваць на будучы час дакладна ўсе абавязкі», жандарскі штаб-афіцэр загадаў, каб рота салдат вярнулася на старыя кватэры. Зусім зразумела, што паслухмянасьць сялян толькі можна было растлумачыць умешваньнем вайсковай сілы. У сакавіку 1863 году сяляне Вілейскага павету адмовіліся выконваць тыя павіннасьці, якія на іх ляжалі, а таксама прыняць устаўную грамату. Праўда, і гэты рух сялян быў спынены пад націскам вайсковай сілы і жандарскай адміністрацыі і, ў прыватнасьці, публікацыяй указу 1 сакавіка, які сяляне зразумелі як поўную ліквідацыю прыгоннага права [2]). Горадзенскі штаб-афіцэр паведамляў у канцы сьнежня 1863 г., што сяляне Горадзенскае губэрні ня прымаюць устаўныя граматы, і гэта, ня гледзячы на тое, што ім быў знаёмы ўказ 1 сакавіка [3]). Сялянская маса правільна ацаніла значэньне ўказу 1 сакавіка, які фактычна ня ўносіў нічога новага ў яе палажэньне, зусім зразумела, што публікацыя ўказу не змагла супакоіць сялян. Такія-ж хваляваньні былі ў пачатку 1863 году ў Віцебскай губэрні. Найбольш значным было непадпарадкаваньне Ліксьнянскага маёнтку графа Зібэра Плятэра, які знаходзіўся ў Дынабурскім павеце [4]). Уначы на 1 студзеня 1863 г. некалькі сот часова-абавязаных сялян, сабраўшыся на мызу Луксну, абвясьцілі кіраўніку маёнткам, што ня будуць больш адбываць памешчыкам ніякіх павіннасьцяй і пры гэтым прымусова забралі з мызы ўсіх работнікаў. У тую-ж самую ноч, амаль адначасова, паўтарылася тое-ж самае ва ўсіх фальварках Ліксьнянскага маёнтку. Атрымаўшы паведамленьні аб хваляваньнях, міравы пасрэднік накіраваўся ў Кірупскую сельскую грамаду, дзе, па яго загаду, быў скліканы сельскі сход. На сходзе былі спраўнік і станавы прыстаў. Ня гледзячы на ўсе ўгаворы, пераканаць сялян, адбываць павіннасьці да 23 красавіка 1863 г. міравому пасрэдніку не ўдалося. Сяляне заставаліся пры сваіх пераконаньнях. Тады міравы пасрэднік склаў акт у прысутнасьці ўсёй сельскай

[1]) II Отд. 4 экс. № 190—1863 г., л. л. 1—2.
[2]) III Отд. 4 эксп. № 190—1863 г., л. л. 5—9.
[3]) III Отд. 4 эксп. № 191—1863 г., л. л. 10—12.
[4]) III Отд. 4 эксп. № 191—1863 г., л. л. 1—2.

грамады «аб адмаўленьні і непаслушэнстве сялян». Гэты акт быў прачытаны некалькі раз сялянам; міравы пасрэднік растлумачыў ім, «якія вынікі чакаюць сялян за ўпартае непаслушэнства, якое імі аказвалася». Але гэта не пераканала нежадаўшых падпарадкавацца міраваму пасрэдніку сялян. Павінен быў прыехаць сам губарнатар. Місія апошняга ў маёнтку Ліксны мела посьпех, але ў Кірупскай сельскай грамадзе і губарнатар меў поўную няўдачу. Селяне не жадалі выконваць памешчыку зьдзельную павіннасьць. Калі-ж губарнатар загадаў арыштаваць галоўных праваdыроў, дык іх прымусова вызвалілі. Губарнатар павінен быў прыслаць тры роты салдат, якіх разьмясьцілі ў вёсках па загаду спраўніка. Яшчэ да прыходу салдат сяляне пачалі прыходзіць у валасьць, выказваючы «поўнае каяньне», а ўсе батракі сталі на працу. Але «самыя галоўныя праваdыры і падбухторшчыкі сялян», якіх было 12, яшчэ да прыходу салдат зьбеглі ў суседні лес. За зьбегшымі была паслана пагоня. Скора 8 з іх добраахвотна вярнуліся, а трое былі затрыманы ў вёсцы, куды яны зьявіліся для спатканьня з сваякамі. Арыштаваць-жа дванаццатага селяніна Раснача не ўдалося. Апошні, бягучы ў лес, узяў з сабою стрэльбу і пры прасьледваньні яго стрэліў няўдала ў памочніка старасты. Усіх, хто вярнуўся, чакала суровая кара. Частка з іх была пакарана ў адміністрацыйным парадку, 4 чалавекі, якіх адміністрацыя лічыла галоўнымі падбухторшчыкамі сялян, былі адданы пад суд. Часова адпускны салдат Магілеўскага палка Адам Усьцінаў, які таксама падбухторваў сялян да непаслушэнства, быў адпраўлены да камандзіра Віцебскага гарнізоннага батальёну для адпаведнага пакараньня. 8 студзеня ў маёнтку настаў поўны спакой. Сяляне пачалі адбываць зьдзельную павіннасьць і дакладна выконваць усе ўскладзеныя на іх абавязкі. Гаспадары выставілі ўсіх батракоў. З гэтае прычыны пастаўленыя на іх экзэкуцыю роты былі адпраўлены назад у Дынабург. У сакавіку месяцы пачалі ўзьнікаць непарадкі з поваду публікацыі ўказу 1 сакавіка. Так, сяляне вёскі Пакуміна, Люцынскага павету, маёнтку абшарніка Стаўроўскага адмовіліся адбываць паншчыну да 1 мая[1]). Дзеля супакаеньня сялян была паслана рота Вялікалуцкага запаснага батальёну. Начальнік роты, капітан Белаводзкі, пачаў перамовы з памешчыкам і сялянамі. Абодва бакі прышлі да згоды—замест паншчыны заплаціць абшарніку аброк. Такія-ж непарадкі ўзьніклі ў Віцебскай губэрні, у маёнтку паноў Львовых і Верашчынскага[2]), дзе сяляне адмовіліся ад павіннасьцяй у пераканаyньні, што «яны не павінны служыць нікому, што ім на тое даравана воля, якая абвешчана, і што паны, вырваўшы лісты з правіл, самачынна прымушалі сялян да работы». Ня гледзячы на пераканьні міравога пасрэдніка і прысутнасьць роты салдат, сяляне заявілі, што яны ня пойдуць на паншчыну, хочучы царскага выкупу. Адміністрацыя пакарала некаторых сялян і арыштавала двух найбольш упартых. Аднак, гэтай мерай усхваляваныя сяляне былі супакоены толькі часова. Пасьля вываду вайсковай каманды

[1]) III Отд. 4 эксп. № 191—1863 г., л. 3.
[2]) III Отд. 4 эксп. № 191—1863 г., л. 5.

ў другія вёскі, сяляне адмовіліся слухаць памешчыка і адправілі двух павераных у Пецярбург для падачы скаргі.

Такія-ж хваляваньні былі і ў Магілеўскай губэрні. Найбольш характарным было хваляваньне сялян маёнтку Сароніцы [1]), Сеньненскага павету, паноў Глушаноўскіх. Для заспакаеньня сялян на месцы адправіўся Магілеўскі віцэ-губарнатар, які, прыбыўшы ў горад Сенна, загадаў выклікаць валаснога старшыню і ўсіх сельскіх старастаў, а таксама па 6 чалавек «благанадзейных» гаспадароў ад кожнае грамады, каб «пераканаць сялян у патрэбнасьці падначальвацца мясцовай уладзе, прыняць устаўныя граматы, а таксама сказаць ім, што чаканьне волі—дарэмнае». Аб гэтым гаварыла прамова імпэратара ў Маскве, да старшынь сельскіх грамад. Аднак, Сорніцкія сяляне ня выканалі загаду віцэ-губарнатара і ў горад Сенна не зьявіліся. Віцэ-губарнатар, камандзіраваўшы міравога пасрэдніка і прадстаўнікоў земскай паліцыі «для перакананьня непакорных сялян», спадзяваўся гэтым дабіцца пакорлівасьці. Але сяляне не хацелі скарыцца перад начальствам і слухаць не хацелі аб увядзеньні ўстаўных грамат. Толькі тады, калі было паслана войска і калі 8 чалавек было пакарана «паліцэйскімі мерамі», сялянам прышлося скарыцца, прыняць устаўную грамату і выдаць усіх тых асоб, якіх яны лічылі падбухторшчыкамі. Такімі аказаліся: кандыдат валаснога старшыні гэтай воласьці—Іван Аляксееў, часова-абавязаныя сяляне: Сьцяпан Пятроў, Хама Фёдараў і адстаўны унтэр-афіцэр Гарасім Іваноў. Апошні прывёз з Пецярбургу навучальнае слова народу, ухваленае цэнзурай і надрукаванае ў Пецярбурзе. У гэтым слове гаварылася аб вольнасьці, даравaнай сялянам па царскаму слову, аб паважаньні паноў, аб пакорнасьці ўладзе. Сам-жа Іваноў прапанаваў сялянам гэта настаўленьне, як грамату, даную царом пры вызваленьні сялян ад прыгоннага права і растлумачыў, што ў гэтай грамаце няма ўспаміну аб 40-дзеннай паншчыне. З гэтае прычыны Іваноў лічыў граматы, якія ўводзіліся міравым пасрэднікам, несапраўднымі і даваў параду іх ня прымаць. Усе асобы, западозраныя ў агітацыі, былі арыштаваны. Вайсковая каманда, калі сяляне скарыліся, была адведзена на сваё сталае месца.

Усе сялянскія непарадкі надзіва аднакія па свайму характару. Сяляне адмаўляюцца несьці паншчыну і прымаць устаўныя граматы. Перакананьні адміністрацыі ў асобе міравога пасрэдніка, паліцыі і нават жандарскага афіцэра ня робяць ніякага ўражаньня. Толькі тады, калі прыводзіцца для экзэкуцыі войска, пад уціскам апошняга і пагрозай разьмясьціць для экзэкуцыі па вёсках, сялянская маса была прымушана падпарадкавацца абшарнікам і адміністрацыі. Зразумела, што змагацца з вайсковай сілай сялянская маса ня мела ніякай магчымасьці. Вельмі характарна тое, што ў асяродзішчы сялянскай масы знаходзіліся свае організатары, свае агітатары, і пераважна з ліку адстаўных салдат. Складаньне ўстаўных гра-

[1]) III Отд. 4 эксп. № 203—1863 г., л. л. 4—5.

мат і перавод сялян на выкуп адбываўся ў вельмі нэрвовай атмосфэры. З аднаго боку Беларусь была ахоплена паўстаньнем. З другога боку, сяляне правільна разумелі сэнс указу 1 сакавіка і 2 лістапада і не выяўлялі асаблівага жаданьня добраахвотна прымаць устаўныя граматы. Урадавая адміністрацыя, імкнучыся ўсімі спосабамі як найхутчэй ліквідаваць абавязковыя адносіны сялян да памешчыкаў, прагнулася з усіх сіл скласьці ўстаўныя граматы і абярнуць сялян ва ўласьнікаў з тым меркаваньнем, што сяляне-ўласьнікі будуць больш адданы ўраду.

Памешчыкі Беларусі дарэмна хваляваліся з прычыны апублікаваных урадам указаў. Памешчыкі дарэмна думалі, што ўрад становіцца на бок сялян. Такая палітыка не адпавядала інтарэсам дваранскае дзяржавы і магла-б шырока закрануць інтарэсы рускага дваранства. Вось чаму сялянская палітыка патрабавала вялікай асьцярожнасьці. Пры відочной абароне інтарэсаў сялянскае масы, гэта палітыка фактычна абараняла інтарэсы дваранства. Калі ўзяць вынікі гэтай зямляўпарадчай палітыкі, то акажацца, што сяляне Віленскай, Горадзенскай і Ковенскай губэрань будуць забясьпечаны зямлёй лепш за сялян іншых губэрань. Пролетарызацыя сялянства ў губэрнях Віцебскай, Смаленскай і Магілеўскай ярка сьведчыць, у якім кірунку вялася зямляўпарадчая палітыка і якой соцыяльнай групе гэта палітыка больш за ўсё адказвала. Калі падзяліць сялян па ступені забясьпечаньня па надзелах на тры групы: на добранадзеленых, выстарчальна надзеленых і невыстарчальна, то агульны малюнак надзяленьня сялян зямлёю будзе відзен з наступнай табліцы [1]):

| Губэрні | Лік прыгонных у тыс. | Добранадзеленых | Выстарчальна надзеленых | Невыстарчальна надзеленых |
|---|---|---|---|---|
| Віленская . . . | 193,1 | 10,3 | 74,2 | 15,5 |
| Віцебская . . . | 211,4 | 2,6 | 47,1 | 50,3 |
| Горадзенская . . . | 178.3 | 11,9 | 52,6 | 35,5 |
| Ковенская . . . | 180,0 | 13.9 | 38,1 | 48,0 |
| Менская . . . | 286,0 | 37,0 | — | 63,0 |
| Магілеўская . . . | 264,4 | 34.7 | 48,1 | 17,2 |

Даныя гэтай табліцы паказваюць, у якім кірунку вялася зямляўпарадчая палітыка, і чые інтарэсы абараняліся. Калі звыш 60 проц. сялян Менскай губэрні і звыш 50 проц. сялян Віцебскай губ. былі надзелены зямлёю невыстарчальна, то зусім зразумела, што расійскі ўрад абараняў клясавыя інтарэсы зямляўласьнікаў, у ахвяру якім былі прынесены інтарэсы

[1]) Ходский. Земля и земледелец т. II стар. 245—246.

сялянскай масы. Апошняя выяўляла здаровае клясавае пачуцьцё, калі не згаджалася прымаць устаўных грамат, якія да сялян зьяўляліся новай формай запрыгоненьня, заменай старое формы эксплёатацыі на другую форму. Калі да гэтага дадаць яшчэ, што сяляне за надзеленую зямлю і сядзібу павінны былі плаціць яшчэ выкуп па значна высокіх расцэнках, то малюнак нязносна цяжкага палажэньня сялянскай масы выступае зусім ярка. Прымаючы пад увагу, што дваранства заходняй часткі Беларусі было больш уцягнута ў паўстаньне, урад пастанавіў пакараць памешчыкаў тым, што вызначыў выкуп шмат меншы за банкаўскую ацэнку зямлі. Што да выкупу ва ўсходняй частцы Беларусі, то тут, дзе сяляне былі спакойнымі і памагалі ўраду лавіць паўстанцаў, дзе большая частка памешчыкаў была рускага пахаджэньня, тут ня трэба было цацкацца з сялянамі, а трэба было пайсьці насустрач жаданьням памешчыкаў і даць ім павышаную расцэнку за зямлю з тым, каб яны мелі магчымасьць, разьлічваючы капіталамі, організоўваць сваю гаспадарку на новых падставах. Наступная табліца ярка паказвае вынікі гэтай політыкі ўраду, які з надворнага боку быццам абараняў інтарэсы сялян, а на практыцы рэзка стаяў на баку шляхецкага зямляўпарадкаваньня, за выключэньнем памешчыкаў Заходняй Беларусі, як галоўнай тэрыторыі, дзе адбывалася паўстаньне [1]).

| Губэрні | Банкаўская ацэнка дзесяціны | Лік усёй выкупленай зямлі | Выкупы за дзяв. сялян выкуп. па- зыку | Выкупы па банкаўскай ацэнцы зямлі | Розьніца банкаўскай ацэнцы зямлі і са- праўднай выплаты | % адносіны роз. да сапр. выкупу |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Руб. | Дзес. | Руб. | Руб. | Руб. | |
| Віленская . . . | 28.70 | 728.491 | 535.607 | 1.254.462 | — 718.855 | —134,2 |
| Віцебская . . | 15.45 | 859.554 | 1.008.268 | 797.322 | + 210.146 | + 20,9 |
| Горадзенская . . | 26.71 | 653.543 | 438.518 | 1.047.368 | — 608.850 | —139,1 |
| Ковенская . . . | 38.71 | 709.874 | 1.012.503 | 1.648.753 | — 636.250 | — 62,7 |
| Менская . . . . | 13.99 | 277.418 | 745.107 | 1.319.144 | — 574.037 | — 77,0 |
| Магілеўская . . . | 13.01 | 1.221.999 | 1.528.080 | 957.795 | + 570.285 | + 37,3 |

Праўда, гэта гаворыць ня так аб прынцыпах політыкі, колькі сьведчыць аб ахапіўшым урад раздражненьні. У канцы канцоў расійскі ўрад павінен быў стаць на абарону шляхецкага зямляўладаньня і недатыкальнасьці прыватнай уласнасьці, нават у тым выпадку, калі гэта ўласнасьць

[1]) Ходский. Земля и земледелец, т. II, стар. 65.

належала абшарнікам, якія варожа адносіліся да расійскага ўраду. Праўда, здавалася часамі, што Мураўёўскія загады імкнуцца ў корані падарваць шляхецкае зямляўпарадкаваньне ў Заходняй Беларусі, але гэтыя загады былі пераважна дэмагогічнага характару і рэальнай значнасьці ня мелі. Аднак, палітыка Мураўёва паказалася ўраду небясьпечнай, вельмі агітацыйнай супроць шляхецтва, закрануўшай інтарэсы дваранства наогул, і з гэтае прычыны люты кат паўстаньня 1863 году павінен быў пакінуць сваю пасаду. Расійскае дваранства не магло дапусьціць нават слоўнай агітацыі Мураўёва супроць дваранства.

# ВОРАГ У ДОМЕ

## С. Будзінскі

Наша краіна знаходзіцца ў стане бурнага соцыялістычнага будаўніцтва.

Пролетарыят на чале асноўных мас сялянства, пад кіраўніцтвам Ленінскай партыі бальшавікоў, разгортвае наступленьне па ўсім фронце на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі. Гэтае наступленьне суправаджаецца вялізарным абвастрэньнем клясавай барацьбы, у выніку жорсткага супраціўленьня капіталістычных элемэнтаў нашаму наступленьню. Адным з падважнікаў наступленьня соцыялістычных элемэнтаў, якое ўсё ў большай меры разгортваецца, зьяўляецца вялізарны культурны і політычны ўздым працоўных мас, а таксама рост іх рэволюцыйнай актыўнасьці. Праяўленьнем росту рэволюцыйнай актыўнасьці мас і росту іх соцыялістычнай сьвядомасьці зьяўляецца соцыялістычнае спаборніцтва, масавы водгук бяднейшага і серадняцкага сялянства на заклік партыі пролетарыяту ісьці ў колектывы, і, нарэшце, рост політычнай нецярпімасьці мас у адносінах да праяўленьняў варожых справе пролетарыяту буржуазных ці напоўбуржуазных тэорый.

На нашым кніжным рынку зьявілася, дзякуючы клопатам Белдзяржвыдавецтва, кніжка М. Зарэцкага пад назвай „Падарожжа на новую зямлю". Гэтая кніжка, якая зьяўляецца перадрукам фэльетонаў у „Савецкай Беларусі", не прыцягнула ўвагі прысяжных літаратурных крытыкаў. Затое яна знайшла вельмі жвавы водгук у нізох і ў першую чаргу сярод тых, хто жыў у мясцовасьцях апісаных аўтарам. Комсамольская ячэйка саўгасу, організаванага на Мар'інскім балоце, у спэцыяльнай рэзолюцыі, прынятай пасьля прачытаньня кніжкі Зарэцкага, ускрывае кулацкі, антыпролетарскі характар гэтай кніжкі. Да чэсьці нашых партыйных органаў трэба сказаць, што рэзолюцыя закінутай у глушы комсамольскай ячэйкі знайшла адпаведную політычную ацэнку і адпаведным чынам была выпуклена на старонках „Чырвонай Зьмены". Гэты сыгнал нізавой ячэйкі быў безадкладна ўспрыняты Цэнтральным органам нашай партыі, які ў артыкуле т. Якаўлева даў падрабязны аналіз гэтай кніжкі і політычную ацэнку кулацкім тэорыям і ідэям М. Зарэцкага.

Зразумела, пытаньне не абмяжоўваецца антыпартыйнымі поглядамі, пададзенымі Зарэцкім у „Падарожжы на новую зямлю". Пытаньне неабходна паставіць у сувязі з усёй літаратурнай творчасьцю Зарэцкага. Трэба гаварыць аб антыпартыйным і антысавецкім характары творчасьці М. Зарэцкага і аб несумяшчальнасьці поглядаў, якія пашыраюцца на

старонках яго романаў—асабліва ў „Крывічох“, з прыналежнасьцю Зарэцкага да бальшавіцкай партыі. Так іменна было пастаўлена пытаньне ў рэзолюцыі бюро ячэйкі, членам якой быў Зарэцкі. Рэзолюцыя бюро ячэйкі БДВ, аднагалосна ўхваленая на сумесным сходзе 4-х ячэек у цьвёрдых рашучых і простых, не пакідаючых месца ні для якіх сумненьняў і тлумачэньняў выражэньнях, зьвязвае апошнюю брошуру Зарэцкага з усёй яго творчасьцю і з усімі яго палітычнымі выступленьнямі апошніх год. Аб'яднаны сход 4-х ячэек правільна кваліфікуе гэтую творчасьць Зарэцкага, як глыбока-антыпартыйную і антысавецкую і робіць правільныя організацыйныя вывады з гэтай кваліфікацыі.

Чаму мы лічым патрэбным затрымаць увагу чытачоў „Полымя“ на выключаным з партыі пісьменьніку Зарэцкім і падрабязна аналізаваць соцыяльны характар яго творчасьці і палітычныя імкненьні самога Зарэцкага? Зразумела, ня толькі з-за 5—6 кніжок, у якіх сабраны яго апавяданьні і романы. Нават не таму, што Зарэцкі спрабуе захаваць свае антыпартыйныя, антыпролетарскія, антымарксыцкія тэорыі за цытатамі, надзёрганымі з Маркса і Леніна. Талент Зарэцкага таксама не зьяўляецца рашаючым аргумэнтам, хоць Зарэцкі пісьменьнік бязумоўна таленавіты. Прычынай, якая змушае нас зьвярнуць на Зарэцкага асаблівую ўвагу зьяўляецца факт, што гэты чалавек з партбілетам у кішэні скажаў лінію партыі і, прыкрываючыся годнасьцю члена партыі, прапаведваў погляды, варожыя рэволюцыі і савецкай краіне. Толькі дзякуючы партбілету яго творы маглі набыць сілу атруты, якая разлагае нашу ўласную рэволюцыйную моладзь.

Аналіз творчасьці і палітычных выступленьняў Зарэцкага, гэтага дробнага буржуа, які вылазіць з скуры, каб стаць правадыром і пачынальнікам антыпролетарскіх плыняй у беларускай літаратуры, важны для таго, каб даць навочны ўрок нашай рэволюцыйнай моладзі і выхаваць нашу зьмену ў духу марксызму-ленінізму, каб у барацьбе з нэобуржуазнымі тэорыямі, якія знайшлі на глебе БССР найбольш яскравы выраз у творах Зарэцкага, выкаваць новыя кадры будаўнікоў соцыялізму—будаўнікоў БССР, гэтай складанай часткі СССР—вялікае бацькаўшчыны пролетарыяту і працоўных, прыгнечаных мас усяго сьвету.

**Сьветапогляд Зарэцкага ў люстры яго мастацкіх твораў**

Якое-б мы ня ўзялі ў рукі апавяданьне ці роман Зарэцкага ў кожным лейтмотывам гучыць тэзіс аб змаганьні чалавека (у Зарэцкага гэта зьбіральнае імя) з прыродай. Змаганьне чалавека з прыродай зьяўляецца домінуючай нотай і філёзофскім каменем яго творчасьці і ўсюды Зарэцкі з яе дапамогаю выціскае з свайго сьвету ці падмяняе барацьбу клясаў. Гэты лейтмотыў зьяўляецца аднолькава характэрным і пануючым у найбольш прыемлемых для пролетарскай дыктатуры апавяданьнях Зарэцкага, як і ў яўна антысавецкіх („Крывічы“, „Падарожжа на новую зямлю“).

У адным з першых зборнікаў яго апавяданьняў „У віры жыцьця“ ён апісвае з шчырым і падкрэсьленым спачуваньнем прыгожую паненку, дачку абшарніка, яўную контр-рэволюцыянэрку—каханку афіцэра-бандыты. Адначасна ў гэтым апавяданьні ён сутыкае яе з чэкістам Гуторскім, якога Зарэцкі рысуе размагнічаным інтэлігентам, сьлюньцяем. Гуторскі—сябра дзяцінства паненкі, не абы-які да яе. Пасьля разгрому ў панскім палацы і захопу ў палон контр-рэволюцыйнай афіцэрскай банды і арышту бацькі паненкі, паміж Нінай—так звалі панну,—і Гуторскім адбываецца, паводле Зарэцкага наступны „сэрцашчыпацельны“ разгавор:

„...Мы пайшлі рознымі шляхамі—кажа Гуторскі—і вось спаткаліся, спаткаліся, як ворагі...

— Ворагі,—задумленна працягнула Ніна. Так... Вы праўду кажаце, цяпер мы ворагі... я знаю, што стары лад ня вернецца, ня можа вярнуцца, бо ён несправядлівы, злачынны... і я не хачу яго... прынамсі мой розум ня хоча. *Але ёсьць нешта глыбачэйшае, падсьвядомае, што ўкладзена прыродай* і гэта нешта спавівае мяне, кіруе маімі ўчынкамі. Я знаю, што гэта дрэнна, хачу перадалець сябе, але... не змагла... так і прыдзецца застацца ў варожым вам лягеры... пакуль ён ёсьць... а там... з вамі пайсьці не змагу, ня пускае „тое нешта“.

Твар гэтай контр-рэволюцыянэркі паводле Зарэцкага вызначае не клясавы інтарэс, не жаданьне працягнуць сваё бястурботнае існаваньне за кошт эксплёатацыі, нэндзы і ўціску мільёнаў, але „тое нешта“, за якое адказвае прырода. Зразумела, аўтар, выпісваючы ў назьве цяжкае слова „Ворагі“, ня думаў аб тым, каб прадставіць Гуторскага прадстаўніком варожае Ніне клясы. Тут проста ўмяшалася Ananke—(грэцкае—фатум):—Ніна і Гуторскі ворагі выпадкова, з-за трагічнага зьбегу акалічнасьцяй. Аб гэтым можна мяркаваць па тэй лёгкасьці, з якой яна пераканала ў сваёй праваце прапараванага аўтарам з рэдкага кісялю „чэкіста“ Гуторскага, які невядома якімі шляхамі папаў ня толькі ў шэрагі пролетарыяту, які вядзе змаганьне, але нават у працаўнікі слаўнай ДПУ. Гэтая гутарка заслугоўвае таго, каб праслухаць яе да канца. Дык вось ацэнка сьветапогляду „далікатнай“ паненкі і „облагороженного“ аўтарам на ўзор кавалера Д' Артаньяна—чэкіста:

— У часе яе гаворкі Гуторскі ўважна разглядаў яе твар і яго зьдзівіла тая шчырасьць, з якою яна гаварыла...

І Гуторскі міжвольна працінаўся павагай да яе, яму падабалася гэтая самасьвядомасьць, гэткі аналіз самога сябе...

Яму была шкада гэтай ніклай кветкі, гэтага хваравітага адскёпку старога ладу“. („У віры жыцьця“, Белдзяржвыдавецтва, Менск, 1925 г., стар. 37—38).

Зразумела ў словах Гуторскага выражана ўстаноўка і адносіны аўтара да гэтай паненкі і да яе мышленьня. Аўтар ня толькі апраўдвае, але падымае на шчыт гэты выстарчальна банальны аўтааналіз паненкі з шляхоцкага маёнтку.

У 1925 г. такога гатунку творы пяклі нам, як бліны на скаварадзе, папутчыкі, якіх захапіла жаданьне „зьмяніць вехі“—прыручыць бальшавікоў, якія паводле адукаванага погляду папутчыкаў, рабілі дрэнна тое, што рабіў вельмі добра калісьці Пётр Вялікі. Зьменавехаўцаў пры гэтым бадзёрыла надзея, што ў сувязі з нэпам бальшавікі ўступілі на шлях, які вядзе ў капіталістычную Каносу, г. зн. назад у абдымкі буржуазнага грамадзтва.

Гэтым-жа сьветапоглядам прасякнуты і ўсе наступныя працы Зарэцкага аж да тэй, якая, дзякуючы ўважлівасьці і дбайнасьці комсамольцаў з Мар'інскага масыву, зьвярнула на сябе ўвагу ўсёй савецкай грамадзкасьці. Апошнюю кніжку аўтар канчае параўнаньнем двух мэтадаў вынаходкі новых зямель: першы—гэта мэтад сярэднявяковых заваёўнікаў: Колюмбаў, Васко-Дэ-Гамаў, якія адкрываюць новыя землі, уздымаюць адпаведны сьцяг і пачынаюць біць тубыльцаў. Чым адрозьніваецца вынаходка новых зямель у нас, у нашу эпоху?

„Цяпер падобныя справы робяцца зусім іначай. Цяпер людзі ўзброеныя дружнай воляй, сталёвай энэргіяй і ўпартасьцю, уступаюць у зацятую барацьбу з прыродай і крок за крокам, гоні за гонямі, забіраюць тэрыторыю яе дзікага царства.

Вось, як цяпер адкрываюцца новыя землі...“ („Падарожжа на новую зямлю“, стар. 67).

Вось вобраз таго, што будзе пры комунізьме, але так ня было і ня бывае ў пераходную эпоху паміж імпэрыялізмам і соцыялізмам у нас, ні тым больш у капіталістычных краінах. Змаганьне чалавека з прыродай пераплятаецца і знаходзіць свой выраз у клясавым грамадзтве, у клясавай барацьбе эксплёатаваных супроць эксплёататараў. Зарэцкі пасьлядоўна на працягу гадоў ня бачыць і не жадае ўбачыць гэтай жорсткай клясавай барацьбы. Для яго ўціск прыносяць толькі чужакі, Колюмбы, якія пачынаюць біць тубыльцаў. Аб тым, каб сярод тубыльцаў існавала якая-небудзь барацьба, аб гэтым у яго няма нідзе гутаркі. І гэта невыпадкова. Зарэцкі прыхільнік тэорыі, што беларускі народ ня ведаў клясавай барацьбы, што клясавую барацьбу, соцыяльны ўціск насадзілі ў „богаўгоднай“ Беларусі чужакі: польскія паны, рускія чыноўнікі і баяры. У той-жа самай кніжцы на стар. 10 Зарэцкі піша:

„Некалі генэрал Жылінскі па загаду царскага ўраду праводзіў у Палесьсі шырокую „мэліорацыю“. Ён накапаў шмат канаў і па гэтых канавах паны-драпежнікі ганялі ў чужыя краіны беларускі лес“.

...Паны драпежнікі... беларускі лес... для кожнага ясна, што ў гэтым контэксьце генэрал Жылінскі і паны-драпежнікі—гэта чужакі, гэта наноснае, эксплёатаваўся-ж імі ўвесь беларускі народ і сымболем гэтай эксплёатацыі зьяўляецца ў Зарэцкага вываз беларускага лесу заграніцу Ні слова аб тым, што генэрал Жылінскі зьяўляўся прадстаўніком тэй дзяржаўнай улады, якая стаяла на варце інтарэсаў ня толькі рускага

абшарніка і бюрократа, ня толькі польскага ці апалячанага беларускага магната, але і эксплёататара—„шчырага беларуса“.—

Зарэцкі не арыгінальны і ў гэтай галіне. Гэта скажэньне асноў марксызму, якія ён, як член комуністычнай партыі, прэтэндуючы на годнасьць пролетарскага пісьменьніка, павінен ужываць у сваёй працы і ў сваёй творчасьці,—зьяўляецца перанясеньнем мэтодаў рэвізіёнізму ў галіне беларускай мастацкай літаратуры. Зразумела, Зарэцкі і ў гэтым праяўленьні сваёй дробна-буржуазнай тупасьці бачыў, як і яго папярэднікі з-пад сьцягу Бэрнштэйна, бязьмежнасьць шырыні сваіх поглядаў, уласную самабытнасьць гістарычнага разьвіцьця беларускай нацыі. Але-ж Зарэцкі ў даным выпадку паўтараў толькі зады даўно ўжо пройдзеныя буржуазнымі апашляльнікамі марксызму, якія сваю кар'еру пачалі выступленьнем непараўнальнага пана Аўгена Дзюрынга, заслужона і хлёстка высьмеянага Энгельсам і прадаўжаюць яе сёньня пад выглядам тэорытычных“ практыкаваньняў соцыял-фашыстых, таксама як і ўсякага роду правых і „левых“ опортуністых і рэнэгатаў. У даным выпадку Зарэцкі толькі з фанабэрлівасьцю, характэрнай для дробна-буржуазнага напоўінтэлігента, праходзіць міма прыказак старога Бэн Акібы, і горда лічыць сябе пачынальнікам новых ідэй.

Каб апраўдаць сваё ўяўленьне ён з старога хламу буржуазных тэорый, даўно ўжо забытых з-за непатрэбы буржуазіяй, выцягвае тэорыю „самабытнасьці разьвіцьця беларускага народу“. І ў гэтым, як і ў сваёй спробе падмяніць клясавую барацьбу змаганьнем з прыродай, Зарэцкі неорыгінальны і паўтарае зады больш шчасьлівай часткі буржуазіі, якая пасьпела раней выйсьці на гістарычную арэну, яшчэ да таго, як пролетарыят паставіў, як актуальную задачу, пытаньне аб заваяваньні ўлады і аб нізрынуцьці капіталізму.

Усе квасна-патрыётычныя і шовіністычныя тэорыі буржуазіі расьлі ў вытоках тэорыі аб самабытнасьці. У самабытнасьць польскага народу дробна-буржуазныя патрыёты Польшчы бачылі паруку адраджэньня яе незалежнасьці, у ёй яны хавалі галаву перад пытаньнем аб клясавай барацьбе ўнутры польскага народу, у ёй знаходзілі нявычарпальную крыніцу ілюзіі аб мэсыянскай ролі польскага народу. Гэтай-жа самабытнасьцю яны апраўдвалі свае паражэньні ў змаганьні з царызмам і „отечественными“ заможнымі клясамі за буржуазна-дэмократычнае ператварэньне і дзяржаўную незалежнасьць Польшчы. „Самабытнасьць“ разьвіцьця польскага народу, якая па думцы сваіх пасьлядоўцаў—рэакцыйных мяшчан, павінна прывесьці да таго, што буржуазная Польшча будзе створана не ў прыклад Англіі і Францыі, дзе буржуазія атрымала перамогу, у выніку жорсткай клясавай барацьбы, а ў выніку адзінства „польскай шляхты з польскім народам“. Гэтая тэорыя „самабытнасьці“ была на справе праяўленьнем трусасьці з боку дробна-буржуазнай інтэлігенцыі перад пагрозай плебейскай рэволюцыі сялянства, перад пагрозай падрыву гэтай рэволюцыяй прынцыпу „сьвяшчэннай прыватнай уласнасьці“.

Тую-ж тэорыю самабытнасьці рускага народу разьвівалі і рускія рэакцыйныя бюрократы, каб апраўдаць існаваньне царскага рэжыму, прыгоннага права і абшарніцкай эксплёатацыі. Тую-ж тэорыю „самабытнасьці“ прапаведвалі дробна-буржуазныя інтэлігенты народніцкага тыпу, гаворачы аб самабытнасьці шляхоў разьвіцьця Расіі ў абход капіталізму. Тэорыя самабытнасьці ў руках народнікаў была такім-жа праяўленьнем рэакцыйнасьці і дробна-буржуазнай трусасьці перад плебейскім рэволюцыйным паўстаньнем мас, як і ў польскіх „мэсыяністых“.

Гэтая тэорыя „самабытнасьці“ па меры высьпяваньня буржуазіі пераваралася і дапаўнялася тэорыяй нацыянальнага эгоізму, якая знайшла найбольш закончаны выраз у окупацыйнай практыцы польскага фашызму і ў аб‘яднаньні рускай меншавіцка-эсэраўскага тыпу дробнай буржуазіі і дробна-буржуазнай інтэлігенцыі наўкола Кутэпавых пад лёзунгам „адзінай і непадзельнай Расіі“. Ад тэорыі „самабытнасьці“ беларускага народу да ідэі нацыянальнага эгоізму, крок адзін. Гэты крок публічна яшчэ не зрабіў Зарэцкі. Але людзі, якія карыстаюцца на старонках „Крывічэй“ поўным спачуваньнем Зарэцкага і знаходзяцца ў Польшчы ў спрыяючых для разьвіцьця фашысцкіх ідэй умовах,—беларускія нацыянал-фашыстыя ў Заходняй Беларусі і гэты пасьлядоўны крок зрабілі. І тэорыя змаганьня чалавека з прыродай і тэорыя „самабытнасьці“ зьяўляюцца аксэсуарамі буржуазнага сьветапогляду і фундамэнтам нацыяналізму, глебай, на якой рунеюць лёзунгі нацыянальнага адзінства, лёзунгі, якія зьяўляюцца зброяй буржуазіі ў барацьбе супроць пролетарыяту і эксплёатуемых мас за сваё клясавае панаваньне, за большую монопольную долю ў эксплёатацыі працоўных мас.

Адным з праяўленьняў гэтага буржуазнага нацыяналізму ва ўмовах БССР зьяўляецца ідэалізацыя нашаніўскага пэрыяду і буржуазнага нацыянальна-адраджэнскага руху, на чале якога была „Наша Ніва“, якую праводзіць пасьлядоўна і з вялікім напорам Зарэцкі ў сваіх творах і палітычных выступленьнях. Прычым, Зарэцкі спрабуе скарыстаць для гэтых мэт паасобныя вырваныя з контэксту словы Леніна. Зарэцксьцьвярджае, што Ленін „Нашу Ніву“ і буржуазны рух, на чале якога яна была, лічыў рэволюцыйным рухам. Гэта сапраўдная мана. Словы Леніна тычацца беларускай Соцыялістычнай Грамады, якая дзейнічала напярэдадні рэволюцыі 1905 году і ў першыя месяцы рэволюцыі 1905 г., калі ўзрастала рэволюцыйная хваля. Беларуская Соцыялістычная Грамада—організацыя дробна-буржуазнае інтэлігенцыі была ў гэты час сапраўды рэволюцыйна-дэмократычнай організацыяй і носьбітай рэволюцыйных настрояў шырокай мала дыфэрэнцыраванай масы беларускай дробнай буржуазіі, у тым ліку і ў першую чаргу, беларускага сялянства. Да гэтай партыі, таксама як і да соцыял-рэволюцыянэраў, пэпэсаўцаў (у сучасны момант соцыял-фашыстых) датычацца словы Леніна, што клясавыя супярэчнасьці паміж пролетарыятам і дробнай буржуазіяй пры капіталізьме, пры панаваньні рынку, ня могуць быць вырашаны. Таму,

патрэбна організаваць кожную клясу, асобна намацваючы ў чым інтарэсы гэтых кляс сходзяцца ў даны момант, каб ідучы рознымі шляхамі, разам біць агульнага ворага—царызм і абшарнікаў. Зазначэньне задач пролетарыяту, дадзенае Леніным, не датычыцца да „Нашае Нівы“, якая ўвабрала ў сябэ цэлы шэраг дзеячоў Беларускай Соцыялістычнай Грамады, але апрача гэтай фізычнай сувязі нічога супольнага ня мела з БСГ. Нашаніўскі рух быў лібэральна-буржуазным рухам, ён разьвіваўся на фоне падаючай рэволюцыйнай хвалі: „Наша Ніва“—разам з кадэцкімі органамі вітала сталыпінскую рэформу і насаджэньне моцных фэрмэрска-кулацкіх сялянскіх гаспадарак за кошт разбурэньня і пролетарызацыі асноўных мас сялянства. Дзяржаўна-прававым ідэалам нашаніўцаў і кадэцкай буржуазіі была лібэральна-монархічная ангельская констытуцыя. Мяжой іх дзяржаўна-адраджэнцкіх лятуценьняў у гэты час было становішча доміniёнаў перабудованай па ангельскаму ўзору расійскай імпэрыі. Зразумела, гэты рух лібэральнай буржуазнай інтэлігенцыі ў дачыненьні да беларускіх працоўных і эксплёатуемых мас насіў яскрава контр-рэволюцыйны характар. І сапраўды рэволюцыйныя элемэнты беларускага руху, ня кажучы аб пролетарыяце, не маглі ісьці пад сьцягам адзінага нацыянальнага фронту, пад гегемоніяй нашаніўскай буржуазнай інтэлігенцыі. Сваіх нацыянальных і соцыяльных мэт беларускія рэволюцыйныя элемэнты маглі дасягнуць у цесным саюзе і пад кіраўніцтвам пролетарыяту шляхам бязьлітаснага выяўленьня лібэральна-контррэволюцыйнай згодніцкай сутнасьці нашаніўскіх ідэолёгаў буржуазіі. Лепшым доказам правільнасьці гэтага шляху была перамога пад кіраўніцтвам ЦК РКП(б) працоўных і эксплёатуемых Беларусі ў Кастрычніку 1917 году і стварэньня БССР.

Трэба адзначыць, што контррэволюцыйная, по сутнасьці, буржуазія—і яе рух, можа ў пэўных гістарычных умовах адыграць *об‘ектыўна* рэволюцыйную ролю. Прыкладам гэтага можа паслужыць барацьба заходняукраінскай буржуазіі з польскай окупацыяй у 1920-21 г. Гэтая барацьба контррэволюцыйнай буржуазіі Заходняй Украіны за монопольнае права эксплёатацыі працоўных Заходняй Украіны, паслабляла сілы польскага імпэрыялізму вядучага наступальную рабаўніцкую вайну супроць СССР і ўзмацняла шансы перамогі пролетарскай рэволюцыі ў Польшчы. Таму гэтая вайна контррэволюцыйнага ўраду Петрушэвіча была на гэтым этапе нацыянальна-вызваленчай і об‘ектыўна рэволюцыйнай. Заходнаукраінскія бальшавікі павінны былі змагацца з польскімі імпэрыялістымі за Савецкую Украіну, выкрываючы адначасова контррэволюцыйны твар сваёй буржуазіі і мэты яе барацьбы.

Для беларускіх рэволюцыянэраў ня было гэтай дылемы. Нацыянальна-адраджэнцкі рух з першага моманту ішоў супроць пролетарскае рэволюцыі, супроць БССР. Ён пасьля Кастрычніка нават ва ўмовах польскае окупацыі не заслугоўвае на назву „об‘ектыўна“ рэволюцыйнага, бо па сутнасьці гэты рух быў згодніцкі, ня гледзячы на ягоную „незалежніцка-опозыцыйную“ фразэолёгію.

Каб давесьці, што тэорыя аб пазаклясавым характары беларускага народу, якую абвяшчае Зарэцкі, не зьяўляецца анты-партыйнай тэорыяй, Зарэцкі спрабуе прыкрыцца спасылкамі на т. Кнорына, прычым, бессаромна фальсыфікуе і падтасоўвае думкі і ўстаноўку аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў Комуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі. Зарэцкі спасылаецца на артыкул т. Кнорына „Аб рашаючых дробязях у вялікім пытаньні“. Ён цытуе наступныя словы:

„Кастрычнікавая рэволюцыя застала Беларусь у пэрыодзе яшчэ незакончанага буржуазна-дэмократычнага нацыянальнага адраджэньня, у пэрыодзе... калі яшчэ нацыянальна не аформілася беларуская гарадзкая буржуазія“.

Гэтыя словы Кнорына зусім правільна канстатуюць тыя факты, якія мелі месца ў пэрыод Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі і даюць правільны аналіз клясавых адносін у нас. Так, беларуская буржуазія ў гэты час яшчэ не пасьпела канчаткова аформіцца, як нацыянальная беларуская буржуазія. Але гэта ня значыць ні ў якім выпадку, што яе ня было. Тав. Кнорын на другой старонцы гэты момант разьвівае з поўнай выразнасьцю, якая не пакідае месца ніякаму сумненьню і не патрабуе ніякіх ні дадаткаў, ні тлумачэньняў.

„...Беларусь (у пэрыод Кастрычнікавай рэволюцыі—*С.Т.Б.*) заставалася заняпалай аграрнай провінцыяй, у якой гарады адыгрывалі пераважна ўсё яшчэ ролю паменных пунктаў са слабымі зачаткамі мясцовай прамысловасьці. Дзякуючы гэтаму процэс „беларусізацыі“ пануючых кляс „сьвятлейшых“ і „шляхетнейшых“ Даніловічаў і Скірмунтаў і іхных буржуазных колег, *якія пачынаюць усьвядамляць свае „нацыянальныя“ інтарэсы і сваё пераважнае „права“ на эксплёатацыю беларускіх рабочых, толькі што вызначаўся*“. (В. Кнорын, „За культурную рэволюцыю“, БДВ, 1928 г., стар. 67—68).

Як бачым, спробы Зарэцкага апраўдаць свае, варожыя пролетарыяту, буржуазныя тэорыі, сваю пропаганду контррэволюцыйных ідэй і ўстановак, шляхам спасылак на Леніна, ці на Кнорына, зьяўляюцца замахам з нягоднымі сродкамі. Гэта толькі праяўленьне свае асаблівай мімікрыі, якую ўжываюць вольна ці ня вольна агенты буржуазіі, каб за сабой захаваць права гаварыць публічна ў краіне дыктатуры пролетарыяту. Зарэцкі выкладае буржуазную ідэолёгію, прыбраўшы яе ў слоўны „пролетарскі“ гарнітур. Гэтая мімікрыя характэрна для тых буржуазных „адраджэнцаў“, якія, як кажа т. Кнорын, „зразумелі, або пачынаюць разумець, што спазьніўшыся выхадам на сцэну гісторыі, адсталая нацыя, у пэрыодзе вострых клясавых конфліктаў, у пэрыод міжнароднай пролетарскай рэволюцыі, можа сапраўды самавызначыцца і адрадзіцца толькі зьвязаўшы свой лёс з адзінай рэволюцыйнай клясай—пролетарыятам і вырашаючы свае нацыянальныя задачы разам з задачамі соцыялістычнай рэволюцыі“. Тав. Кнорын тут-жа дапаўняе сваю думку, заяўляючы

„між іншым толькі рэдкія адзінкі з былых адраджэнцаў маглі ўсьвядоміць і пайсьці цалкам за задачамі соцыялістычнай рэволюцыі“.

Зарэцкі—эпігон буржуазнага адраджэнцтва, быў сярод тых, якія не маглі „ўсьвядоміць і пайсьці цалкам за задачамі соцыялістычнай рэволюцыі“, які спрабаваў ашукаць гістарычны процэс фразамі аб пролетарскай культуры, які спадзяваўся, што ён ня будзе прыладай у руках пролетарскай рэволюцыі, для будаўніцтва пролетарскай культуры па зьместу і нацыянальнай па форме, але што яму ўдасца ў сваіх мэтах скарыстаць нашу партыю і пролетарскую рэволюцыю, каб пабудаваць нацыянальную культуру па форме і па зьместу, г. зн. культуру буржуазную, значыцца—эксплёататарскую.

Соцыяльны характар і мэты гэтай мімікрыі эпігона асуджанае клясы, раскрываецца поўнасьцю ў яго мастацкай творчасьці і яго публіцыстычных выступленьнях. Роман Зарэцкага „Голы Зьвер“, у якім Зарэцкі выступае, як пасьледыш Ніцшэонізму. Мы ня ведаем, ці чытаў ён Пшыбышэўскага „Homo Sapiens“, але „Голы Зьвер“ зьяўляецца асколкам і перафразай роману Пшыбышэўскага. Зразумела, ніякага значэньня ня мае тое, што Зарэцкі ў гэтым романе пераймае ці паўтарае шлях пройдзены да яго ідэолёгамі ваяўнічай буржуазіі. Ня мае значэньня ў данай сувязі і той вельмі нізкага гатунку, эротызм, якім напоўнены многія старонкі „Голага зьвеpу“. Важна другое, і для зазначэньня гэтага мы скарыстаем словы Міхася Чарота, які нашай думцы дае ясную вычарпальную фармулёўку ў сваім вершы, зьмешчаным у 8—9 нумары „Полымя“.

„Можна пець пра каханьне і здраду,  
Пра вясёласьць жыцьця і сумоту,  
Толькі ў песьні дазнацца мы рады  
*Для каго ты сьпяваеш, і хто ты*“.

Зарэцкі на гэтае пытаньне адказвае адмаўленьнем клясавае барацьбы, ідэолізацыяй нашых клясавах ворагаў, уяўленьнем комуністых ці ў вобразе стыхійнай, усё зьнішчаючай сілы (матрос з „Ворагаў“) ці сьлюнцяёў Гуторскіх, альбо кідае ў нас зьбіральным імем Хамелевічаў (у „Крывічох“). Гэтыя свае адказы ён здобрывае квасным, поўным мяшчанскага словаблудзьдзя патрыётызмам, цесна пераплеценым з шалёным і ні ў якім разе не самабытным шовінізмам.

Найбольш яскравае выражэньне гэты адказ Зарэцкага знайшоў у „Крывічох“, гэтых беларускіх „Вальдшнэпах“ і „Падарожжа на новую зямлю“. Гэта апофэоз нацыяналізму, гэта самае злое, хоць і трусьлівае выступленьне супроць пролетарскае дыктатуры і соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР. Зарэцкі трусьліва мармыча пра галоўліт і пра тое, што галоўліт перашкодзіў яму ў наступных частках выявіць усю гніласьць гэрояў „Крывічоў“ і загубіць іх. Бедны Зарэцкі, жорсткі Галоўліт, які забараняе Зарэцкаму „загубіць“ сваіх гэрояў. Ну, што-ж, прыдзецца меркаваць аб романе „Крывічы“ па тым, што было ўжо надрукавана

у „Полымі“ за красавік 1929 г. Па тым, ад друкаваньня чаго „Полымя“ адмовілася.

Тое, што надрукавана і што аўтар падрыхтаваў да друку, заключае ў сабе бессаромную ідэалізацыю нацыянал-дэмократызму і нацыянал-фашызму. Мы маем паклёп на комуністычную партыю, якая ў адзнаку ад „адмоўных“ гэрояў Зарэцкага, апісаных з любоўю і пачуцьцем найвялікшай ідэёвай блізкасьці да іх,—атрымала зьбіральнае імя „хамаў“—Хамелевічаў. Аб намерах Зарэцкага можна меркаваць і па лёгкасьці, з якой Зарэцкі дае перамогу сваім „адмоўным“ гэроям над Лявонам Шырвічам, які хістаецца ў бок бальшавікоў. Калі Лявон прыходзіць захоплены з канфэрэнцыі пісьменьнікаў, дзе ён чуў прамову прадстаўніка савецкае ўлады і комуністычнае партыі, да Зені, галоўнай гэроіні роману Зарэцкага „Крывічы“. Зарэцкі некалькімі пустымі словамі дае перамогу Зене і ўстанаўляе мір і згоду паміж Зенай—сымболем беларускага буржазнага нацыяналізму,—і Лявонам, які хістаецца ў бок пролетарыяту.

Адносіны аўтара да роману лепш за ўсё зазначае ён сам ва ўступнай частцы „Крывічоў“. Зарэцкі піша:

„Сьмерць Андрэя Беразоўскага ёсьць дата, ад якой пачынаецца ўся гісторыя, апісаная ў гэтым романе. Беразоўскі не рэальны гэрой роману, як ня жывы персонаж—ён пройдзе праз усе раскрытыя тут сытуацыі толькі сваімі думкамі, сваёй філёзофіяй і найгалаўней, сваім пачуцьцём—палкі як жар і неабсяжны як мора“. (Полымя“, красавік, 1929 г., стар. 5).

Адосіны аўтара да пэрсонажу свайго роману. Мы ўжо вышэй паказвалі адмоўнае апісаньне і ўяўленьне комуністых, захопленае любона е апісаньне нацыянал-дэмакратаў. Ніводнага тыпу станоўчага, моцнага, які змог-бы быць супроцьстаўленьнем нацыянал-дэмократам Аржановічам, Зенам, Сьляпнём, ніводнай рэмаркі аўтара, якая-б адмоўна характэрызавала яго гэрояў і ідэі, якія ён разьвівае. Мог гэта аўтар зрабіць па прыкладу Сямёнава, які ў апошняй сваёй аповесьці ў другой частцы Натальлі Тарпавай, сутыхнуў адмоўны тып комуністага з беспартыйным спэцам Гарбухам, варожасьць якога соцыялістычнаму будаўніцтву аўтарам падкрэсьліваецца і падсумоўваецца ўсё, што аўтар сказаў адмоўнага аб дырэктары-прайдзісьвеце—„комуністым“, усё тое, што павінна адштурхнуць чытача ад такіх лякіраваных комуністых наступным чынам:

„Аляксей Іванавіч хітра, разумеюча, зірнуў на Гарбуха, як-бы цалкам згаджаючыся з тымі нясуменнымі думкамі, якія павінны былі быць у галоўнага інжынэра, што пытаўся пра сакратара фабкому“. „Благаслаўляю вас“,—„гаварыў кемлівы погляд Аляксея Іванавіча“.

„Агіднік—думаў Гарбух,—выходзячы з габінэту“...

Як бачыце, Зарэцкі, калі-б захацеў, меў магчымасьць тым ці іншым прыёмам літаратурнае творчасьці падкрэсьліць і выпукліць свае адмоўныя адносіны да гэрояў свайго роману. У гэтай справе ніхто ня стаў яму папярок горла, апрача яго цьвёрдага жаданьня пець і абкружыць орэолам гэройства нацыянал-дэмократаў: людзей і ідэі.

Пяройдзем да конкрэтных фактаў. Андрэя Беразоўскага, „філёзофія якога, яго пачуцьцё, палкае і бязьмежнае як мора“, павінны прайсьці па ўсім романе, Зарэцкі характэрызуе наступным чынам:

„Галоўнай рысаю характару Андрэя Беразоўскага была магутная, бяз меры гарачая любоў да свае гаротнае бацькаўшчыны. Яна прашла чырвонай ніткай праз усе яго ўчынкі, яна фактычна і вызначыла асноўны кірунак усяго яго романтычна прыгожага жыцьця“. („Крывічы“, ч. III, не апублікаваная—падкрэсьлена мною—*С. Т. Б.*).

Пасьля сьмерці Андрэя Беразоўскага засталіся, ужо ва ўмовах Савецкае Беларусі, яго вучні і пасьлядоўцы яго справы. Адзін з іх,—Сьляпень,—найбольш яскравая і закончаная фігура нацыянал-дэмократа—чалавек, які ненавідзіць усё тое, што мы творым у Савецкай Беларусі, чалавек, які губляе роўнавагу і становіцца няпрытомным ад аднаго слова „беларусізацыя“, бо яго беларусізацыя гэта адрыў нацыянальнай формы ад нацыянальнага зьместу, гэта скарыстаньне формы супроць буржуазна-нацыянальнага зьместу. Дык вось, гэтага незахаванага і яскравага нацыянал-фашыстага, чалавека, які прапагандуе погляды контррэволюцыйных атаманаў, якія ў сучасны момант жывуць на ўтрыманьні ў Пілсудзкага, ідэолёга Слуцкага паўстаньня кулакоў, аўтар характэрызуе наступнымі словамі:

„Дачка Андрэя Беразоўскага ў яго (Сьляпня—*С. Т. Б.*) парываньні бачыла неспакойны дух свайго нябожчыка бацькі і шчасьлівая гордасьць напоўніла яе сэрца. У гэты момант яна шчыра любіла гэтага разьюшанага злосьцю чалавека; яна гатова была, як і там з Аржановічам, кінуцца на грудзі яму і плакаць—ад гора і шчасьця“. („Крывічы“, „Полымя“ красавік 1929 г., стар. 15).

Зена хацела кінуцца на грудзі Сьляпню ў адказ на яго шалёную нацыяналістычную тыраду супроць політыкі нашае партыі, супроць беларусізацыі. А сама Зена, кім яе робіць аўтар,—з нязвычайным пачуцьцем аўтар апісвае нам вобраз Зены:

...„З малых дзён ёй (Зене) Беларусь—родная краіна, бацькаўшчына,—была той канвой, па якой вышываўся ўвесь узор яе духоўнага „я“. Прычым, Зена для Зарэцкага ня проста жанчына-чалавек, гэта сымболь Беларусі. Такі погляд аўтар укладае ў вусны свайго alter-ego Аржановіча..

„Мне здаецца, Зена, што гэтае каханьне маё больш нават сур'ёзнае, чымся я сам меркаваў да гэтага часу... Ведаеш, Зена. Вось гэта наша... самае галоўнае... чаму я прысягаўся служыць... яно таксама злучана з табой... *Беларусь і ты...* Я не магу падзяліць Вас... Вы адно... Ты для мене, Зена, вобраз Беларусі... Калі я думаю пра яе, яна ўстае жывая ў маім уяўленьні,—прыгожая, любая... Гэта ты, я цябе тады бачу... Мне здаецца, што без цябе ня будзе ў мяне Беларусі,—такой вось... любай, калі я згублю цябе, я згублю і Беларусь...“ Зразумела, такая дэклярацыя аўтара, прымушае нас з асаблівай увагай прыслухоўвацца да зазначэньняў, думак і размышленьняў гэтай жанчыны-сымболю. У гэтай сувязі адна-

часна мы ня можам не зрабіць аднаго карыснага для чытача адступленьня. Калі чытаеш творы беларускіх нацыяналістых, нельга перамагчы навязчывай ідэі, што ўсё гэта мы даўно ўжо чыталі, што ўсё гэта зьяўляецца паўтарэньнем нечага добра-вядомага і надаеўшага. Сапраўды, польскі рэволюцыйны марксызм, які з першых момантаў пролетарскага руху ў Польшчы, вёў няпрымірымую барацьбу з нацыяналізмам, якім дробна-буржуазная інтэлігенцыя заражала рабочую клясу і пры дапамозе якога яна спрабавала падпарадкаваць рабочую клясу Польшчы, волі і плянам „отечественной“ буржуазіі меў справу з падобнага роду палітычным сюсюканьнем. Гэтая патрыётычнае сюсюканьне надаела і польскай буржуазіі, калі яна ўзмужнела і ўзмацнілася. Нават буржуазныя сатырыкі Польшчы высьмейвалі гэтае патрыётычнае сюсюканьне. Нам здаецца, што ня лішнім будзе зацытаваць верш вядомага буржуазнага польскага сатырыка Боя-Жэленскага, які пра вядомага польскага поэта, Красінскага, ідэолёга адміраючай фэодальнай Польшчы, зло заўважыў, што для яго:

„Każda kobieta,
Co ją ujrzał bez bielizny,
Była symbolem ojczyzny,
A łóżko ofiarnym stosem!..“

„Кожная кабета,
Калі яе ўбачыў без бялізны,
Была сымболем айчыны,
А ложак афярным аўтаром!..“.

Як бачым, Зарэцкі і тут аказваецца далёка не самабытным і гэтая яго несамабытнасьць фатальным чынам зьвязана з тым, што беларуская буржуазія, апявальнікам якой па сутнасьці зьяўляецца Зарэцкі, не пасьпела прайсьці тых гістарычных фаз, якія прайшла буржуазія іншых нацый, вышаўшы на арэну гісторыі раней. Таму асколкі разьбітай буржуазіі ў Беларусі ў сваім эмбрыёнальным разьвіцьці паўтараюць даўно мінулыя ў іншых фазы.

## Палітычныя погляды Зарэцкага

Палітычныя погляды Зарэцкага, якія ён разьвівае ў сваіх романах у іншасказальнай форме і ад імя трэціх асоб, знаходзяць поўны, хоць і прыстасаваны да патрабаваньняў савецкае сапраўднасьці, выраз.

Вось ацэнка беларусізацыі беларускім нацыянал-фашыстым Сьляпнём, з якім згодзен Аржановіч—Зарэцкі.

Ва ўрыўку з „Крывічоў“ (ненадрукаваная частка).

„Аржановіч запытаў у Ліпіна, адкуль ён прыехаў. За яго адказаў Сьляпень.

— Прыехаў з вёскі ў Менск шукаць Беларусь. З ліхтаром у руках, як некалі Дыоген—чалавека. І вось... шукаў Беларусь, а знайшоў бе-ла-ру-сі-за-цы-ю...

„А вы ведаеце, што такое бе-ла-ру-сі-за-цы-я, га? Охо-хо! Гэта, брат хітрая, ой хітрая, штука. Гэта стаўка на форму: так... так, на форму... аўладаць формай, адлучыць яе ад зьместу, вылегчыць яе, выкруціць, высушыць... і выкінуць вон. Ах-ха-ха!.. што хітра? га?.. тонка!

А вось што кажа ўласна асабіста Зарэцкі—Аржановіч на гэтую тэму ў „Падарожжы на новую зямлю“:

„Мне стала сумна, сумна. Я падумаў: дакуль мы будзем жыць гэтым пазадзьдзем чужой культуры, якое з тупым салдацкім самаздаволеньнем „прэпадносілі“ нам нашыя суседзі і якое мы прыймалі як чыстае збожжа? Дакуль мы будзем зьбіраць з чужога стала ўбогія брудныя аб'едкі, аддаючы сваё дабро на агульную пагарду і зругу?“ („Падарожжа на новую зямлю“, стар. 58).

Усю гэтую дэкларацыю, якая зьяўляецца літаральным паўтарэньнем славутых формулёвак Глыбоцкіх і іжэ з імі пад час тэатральнай дыскусіі ў 1928 г., нацыяналістычныя ўстаноўкі, якія былі выйсьцёвым пунктам для контррэволюцыйнага ліста трох пісьменьнікаў—Зарэцкі ўключае свае дарожныя ўражаньні ў сувязі з тым, што на колфондзе адваяванай у балот зямлі дзяўчаты сьпявалі з „тупой стараннасьцю“ ўсякага роду дрэбядзень накшталт нікчэмных романсаў „Накінуў плашч“, „Ах зачем эта ноч“ і г. д. Зарэцкі не паўстаў і не паўстае супроць „пазадзьдзя“ буржуазнай культуры наогул. Бо гэтае „пазадзьдзе“ аднолькава характэрна для рускай буржуазнай культуры, як і для нямецкай, польскай, французскай, у тым ліку і беларускай буржуазнай культуры. Ці Зарэцкі ня ведае, што ўся буржуазная Варшава, Бэрлін, Парыж сьпяваюць найагіднейшыя рэчы, накшталт „Цэлую тваю длань мадам“, што пачынаючы з вулічнага газэтнага хлапчука, які вісіць на падножцы трамваю, і канчаючы солідным бюргэрам, усе сьпяваюць: „Што вы імееце мадам пад рубашкай“, што ў благаславенай Вільні гэтыя нахабныя, модныя песенькі пяюцца на беларускай мове, і што буржуазная беларуская культура ўбірае іх у сябе, як патрэбнае, сваё, роднае. Што проці пастаўляе Зарэцкі гэтаму „пазадзьдзю“ буржуазнай культуры? Ці пролетарскую культуру наогул, у тым ліку і пролетарскую беларускую культуру? Не, гэтае „пазадзьдзе“ чужое беларусу наогул, яго прыносяць „суседзі“, у іх крыніца зла. Беларуская-ж культура якая стваралася рукамі ці пад кіраўніцтвам і на патрэбы эксплёататарскіх кляс Беларусі—пазаклясавая, агульна-народная культура, культура нявольніцкай народнай песьні, культура мужыцкай пакорлівасьці—вось гэтая культура выдаецца Зарэцкім за дабро і ідэал.

Зарэцкі ня спыняецца на гэтым, ён разьвівае далей зганьбеныя партыяй пад час тэатральнай дыскусіі погляды:

„Яшчэ я падумаў: як часта і цяпер у нашае мастацтва—у літаратуры, у тэатрах, у кіно—пападае замест праўдзівых дасягненьняў братняй культуры, пустое, бруднае „пазадзьдзе“ і мы з рабскай пакорай прымаем яго, мы яго ўзвышаем, мы кідаем пад ногі яму праўдзівыя пэрлы сваіх

уласных дасягненьняў (хіба можа быць што-небудзь добрае з Назарэту). І знаходзяцца яшчэ ішакі (аслы), якія, вульгарызуючы і прафануючы праўдзівыя думкі правадыроў, у тупой абмежаванасьці сваёй, заяўляюць, што гэта ёсьць наша правільная орыентацыя". („Падарожжа на новую зямлю", стар. 59).

Заявы „Аб дасягненьнях братняй культуры"—гэта вайсковая хітрасьць. Калі „пазадзьдзем" братніх культур ён лічыць агідныя песенькі, то ён мае на ўвазе культуру рускую, украінскую і г. д., братнюю яго беларускай культуры, гэта значыць культуры буржуазнай. Бо пролетарскай культуры, якая ў агні Кастрычнікавай рэволюцыі ўзмацнілася і ў процэсе соцыялістычнага будаўніцтва расьце, бруднага „пазадзьдзя" буржуазнай культуры цытаванае ім, няма. Пролетарская культура можа быць яшчэ дзіцяча наіўнай, яна ставіць першыя крокі, яна яшчэ не аформілася, але яна чыстая і прыгожая, як дзіця. Усё, што створана ў галіне пролетарскае культуры братэрскіх рэспублік, усё гэта прысвоенае мове беларускіх працоўных мас узбагачае беларускую пролетарскую культуру, зьяўляецца нараўне з творчасьцю працоўных мас БССР падвалінай грандыёзнага будынку пролетарскае культуры ў БССР, пролетарскай па зьместу і нацыянальнай па форме.

Выказаныя ў романе „Крывічы" бяз глушыцеля і паўтораныя ў затушованай форме ў „Падарожжы на новую зямлю" думкі ўслух Зарэцкага—Аржановіча не выпадковыя. Зарэцкі ня раз зьвяртаўся да гэтага пытаньня і ня раз формуляваў свае адмоўныя адносіны да мэтодаў будаўніцтва беларускае пролетарскае культуры, складанай часткай якіх зьяўляецца беларусізацыя. На зьезьдзе БелАПП'у Зарэцкі сказаў вялікую програмную прамову. У гэтай прамове ён сказаў:

„У нас бываюць такія разлады, хіба расійскія творы, перакладзеныя на беларускую мову, не зьяўляюцца ўкладам у беларускую пролетарскую літаратуру, хіба п'еса расійская, рэволюцыйная, добрая п'еса, ня ёсьць уклад у беларускую пролетарскую літаратуру. Вось таварышы, мы павінны разам з вамі конкрэтна і раз на заўсёды сказаць, не. Гэта ня ёсьць уклад у пролетарскую беларускую літаратуру. Гэта ёсьць уклад у пролетарскую літаратуру наогул, але не ў беларускую".

У другім месцы гэтай-жа стэнограмы мы чытаем:

...„Большасьць нацыянальных сэкцый (Усесаюзнай Асоцыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў—*С.Т.Б.*) зьяўляюцца падгалоскамі часткі расійскай пролетарскай літаратуры. Справа ня ў тым, што нас пусьцяць у Маскву на зьезд, што вы там прабудзеце некаторы час, а справа ў тым, каб быў іншы погляд на беларускую літаратуру, каб беларускую літаратуру лічылі нараўне з іншымі літаратурамі, справа ў тым, каб быў падыход у сэнсе большай самастойнасьці, каб больш выражалася гэтая „злачынная *самабытнасьць*".

Супроць чаго ратуе ў гэтых словах Зарэцкі? Ці беларуская літаратура не роўнапраўна ў параўнаньні з іншымі нацыянальнымі літарату-

рамі ў нашым Савецкім Саюзе? Ці рускі пролетарыят не цягнецца прагавіта да маладых паросткаў пролетарскай літаратуры нацыянальнасьцяй нашага Савецкага Саюзу, а таксама да пробліскаў пролетарскае літаратуры на Захадзе? Ці Савецкі Саюз не забясьпечвае поўнага роўнапраўя ў галіне разьвіцьця нацыянальных літаратур шляхам дачы паперы, сродкаў друкаваньня і стварэньня спрыяючых умоў для працаўнікоў нацыянальнай літаратуры? Гэта-ж просты паклёп на нашу комуністычную партыю, на яе політыку ў галіне нацыянальнага пытаньня. Комуністычнай партыяй праводзіцца цьвёрда курс на стварэньне і забесьпячэньне асабліва спрыяючых умоў для разьвіцьця нацыянальнай па форме, пролетарскай па зьместу культуры прыгнечаных пры царызьме народаў, якія ў выніку царскага ўціску былі ў загоне і адсталі ў сваім разьвіцьці і ў галіне экономікі і ў галіне культуры. Аб якой роўнасьці кажа Зарэцкі, маючы на ўвазе беларускую літаратуру? Толькі сьляпы ці шовіністы ня бачыць таго грандыёзнага поступу, які беларуская літаратура зрабіла пад уплывам умоў, створаных Кастрычнікавай рэволюцыяй. Дзе вы бачыце ў буржуазных краінах, якія пасьля вайны ў выніку дыплёматычных комбінацый імпэрыялістых атрымалі так званую дзяржаўную „незалежнасьць“, такі росквіт літаратуры як у нас? І польская, і чэская літаратуры перажываюць жорсткі крызіс. Аўтары плачуцца на адсутнасьць чытача: лепшыя творы буржуазнай літаратуры ў Польшчы разыходзяцца ў ліку 300 да 1000 экзэмпляраў і толькі бруковыя выданьні порнографічнага парадку знаходзяць больш шырокі збыт. Ну, а такія краіны, як Баўгарыя, Паўднёвая Славія, ці яны не ўяўляюць малюнак жаху і заняпаду ў галіне разьвіцьця нацыянальнай літаратуры?

Што разумее Зарэцкі калі ён гаворыць аб роўнасьці? Зразумела, ларэц проста адчыняецца: Зарэцкі ставіць пытаньне аб роўнасьці для буржуазнай літаратуры—вось сапраўднае значэньне пытаньня аб „самабытнасьці“, якое ўздымаецца Зарэцкім.

Адсюль і ўсе гэтыя гутаркі аб тым, што пераклад рускіх твораў і п‘ес не зьяўляецца ўзбагачэньнем беларускай пролетарскай літаратуры. Зразумела, калі гутарка ідзе аб п‘есе контррэволюцыйнай, то яна не ўзбагачае ні расійскай, ні беларускай, і ні якой-небудзь іншай пролетарскай літаратуры. Але гэта такая-ж праўда, як і тое, што Нёман цячэ ў Балтыцкае мора. Зарэцкі не нагэтулькі наіўны, каб такія прапісныя ісьціны гаварыць без задняй думкі. „Расшыфроўваючы“ сваю думку, ён заяўляе, што творы расійскае рэволюцыйнае літаратуры зьяўляюцца ўкладам у пролетарскую літаратуру наогул, калі яна будзе перакладзена на беларускую мову, то яна ўсё-такі ня ўклад у беларускую пролетарскую літаратуру. Зарэцкі ўскрывае гэтым сваю патаемную думку. Пытаньне не ў пролетарскай беларускай літаратуры, а ў нацыянальнай беларускай літаратуры, бо калі руская, польская, ці нямецкая рэволюцыйная п‘еса ўзбагачае пролетарскую літаратуру наогул, то яна ўзбагачае і беларускую пролетарскую літаратуру, асабліва калі яна перакла-

дзена на мову, зразумелую для асноўных мас Савецкае Беларусі, г. зн. на беларускую мову. Тады гэты твор становіцца сапраўднай падвалінай і беларускай пролетарскай літаратуры.

Памылку зрабілі-б толькі тыя людзі, якія абвясьцілі-б, што трэба абмежавацца наогул перакладам у справе стварэньня беларускай пролетарскай культуры и беларускай пролетарскай літаратуры. З кім аднак ваюе нацыянал-дэмакратычны рыцар сумнага аблічча, дзе гэтыя людзі, па кім страляе ў сваіх публіцыстычных і мастацкіх выступленьнях Зарэцкі? Калі ён мае на ўвазе русацяпаў, вялікадзяржаўных расійскіх шовіністых, ці іх памоцнікаў—русыфікаваных беларусаў, яўрэяў, палякаў, латышоў, то яны ня робяць пагоду, не яны вызначаюць лінію партыі, наадварот, партыя па іх б'е жорстка, вядзе барацьбу да поўнага зьнішчэньня такіх поглядаў, установак і тэорый.

Агонь, які адкрывае Зарэцкі, гэта заслона для палягчэньня наступленьня на нашу політыку ў нацыянальным пытаньні, нацыянал-дэмократычным, буржуазным элемэнтам.

Праца Зарэцкага тым больш небясьпечна, што яна адбываецца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы і шалёнага супраціўленьня капіталістычных элемэнтаў гораду і вёскі нашаму соцыялістычнаму наступленьню. Гэта лёгка ўстанавіць на падставе позытыўнай програмы Зарэцкага, якую ў выкрытым выглядзе формулюе на старонках „Крывічоў" той-жа славуты Сьляпень:

„Беларускае адраджэньне будзе ісьці з карэньняў беларускага народу. Усякія штучныя формы, у якія-б захацеў хто-небудзь укласьці яго, адпадуць, рассыплюцца ў прах. У сваім магутным поступе яно знойдзе свае асаблівыя формы, якія органічна вырастуць з самое сутнасьці гэтага гістарычнага процэсу... Разумееце вы мяне, хлопцы, га?.. Усякія апякуны беларускага руху, хто-бы яны ня былі і з якой-б, ці добрай ці дрэннай мэтай яны над намі не апекваліся, усе яны адмятуцца гісторыяй. Зьнізу, з зямлі вырасьце наш рэнэсанс... І ён расьце ўжо, узьнімаецца, ён бушуе ўжо такімі магутнымі хвалямі, якія многа чаго могуць пазьмятаць па сваёй дарозе і пазьмятуць яшчэ, пазьмятуць... пачакайце толькі... („Крывічы", неапублікаваная частка).

Ну, што-ж, мы ўмеем уважліва глядзець і бачым, як у нас зьнізу пруць бядняцкія і серадняцкія масы ў колгасы, як расьце беларускі буйна-заводзкі пролетарыят, як ён разам з яўрэйскімі, польскімі і рускімі пролетарамі, якія не на словах, а на справе праводзяць політыку партыі і беларусізуюцца, як гэты пролетарыят кіруе бядняцкімі і серадняцкімі масамі ў справе грандыёзнай перабудовы СССР з краіны аграрнай у краіну індустрыяльна-аграрную, з краіну ў якой дробна-буржуазнае мора, мора індывідуальных дробных раздробненых гаспадарак захлёствала шляхі прогрэсыўнага разьвіцьця, і ператвараецца ў краіну аграмаджанае буйнае машыновае гаспадаркі. Мы бачым, больш таго, мы ўдзельнічаем у гэтым грандыёзным змаганьні, у якім Савецкая Беларусь, пад

кіраўніцтвам пролетарыяту і яго партыі, разам з усім Савецкім Саюзам даганяе, каб перагнаць передавыя капіталістычныя краіны.

Гэта наша жыцьцё, нашае сёньня і гэта сьмерць Сьляпнёў і зруйнаваньне ўсіх іх надзей на адраджэньне нацыянальнай буржуазіі. Сьляпнём, гэтым старэйшым пісарам для асобых даручэньняў пры жывадзёрах тыпу Булак-Балаховіча, застаецца адна надзея на беларускія балоты: а мо' крывая вывязе! Вось што Зарэцкі вуснамі Сьляпня гаворыць у „Крывічох“:

„Малайцы, хлопцы, працуйце, ліха на вас, працуйце! Зьнізу браць трэба, зьнізу!—З зямлі, *з балота*... Ага! Растуць, брат, растуць, *як грыбы*... Нічога, Мікола, не бядуй. Тысячы ёсьць ужо, будуць дзесяткі тысяч і сотні... Толькі ўзварушыць трэба, кліч клікнуць на ўсю нашу сонную Крывію... („Крывічы“, неапублікаваная частка).

Што датычыцца „соннай Крывіі“, то хай Зарэцкі заспакоіцца, яна ня сьпіць, а проста ў труне ляжыць. Адносна-ж Беларусі працоўнай, Беларусі пролетарыяту і асноўных мас сялянства, то да яе слова „сонная“ не падыходзіць. Трамвай у Менску крычыць громкім голасам аб новым тэмпе жыцьця ў нас, вялізарныя машыны, пакорлівыя, як дзеці, у руках чалавека, якія ў імшыстых балот адымаюць тысячы і тысячы гэктараў зямлі, зьяўляюцца пасьведчаньнем таго, што Беларусь працоўных ня толькі ня сьпіць, але чуйна, у шалёным размаху разам з усім Саюзам імкнецца наперад да новага жыцьця—да соцыялізму. І ня затрымаюць яе ў гэтым бегу ні хрыплыя крыкі Сьляпнёў і Зарэцкіх, ні кулацкія абрэзы, ні падпалы. Шалёнае супраціўленьне асколкаў буржуазнага мінулага гэтая новая ўздыбленая намі Савецкая Беларусь, зьнішчыць у сваім парыўчым руху наперад.

Быць можа, аднак, мы ня зусім справядлівы да Зарэцкага, быць можа ў гэтай стаўцы на балота, Зарэцкі не солідарны з Сьляпнём? Паслухаем самога Зарэцкага ў яго „Падарожжы на новую зямлю“ (стар. 16),

„І,—дзіва дзіўнае!—Пачуў я ў гэтых балотных абшарах, у гэтым панурым *бязплодзьдзі* магутную фатальную *сілу Беларусі,*—сілу, якая вырасьце некалі з гэтай бруднай твані, з гэтай багны, якая парве некалі путы трагічнага свайго акамяненьня і паўстане перад вачмі асавелага сьвету ў *грознай сваёй непарушнасьці*“.

Пустая і глупая мара „фатальная сіла бясплодзьдзя не паўстане“ бо мы, тварцы соцыялістычнай Беларусі, „гэтую брудную твань“, гэтыя багны парушылі мільёнамі лапат і дзесяткамі замяняючых гэтыя мільёны вялізарных машын, якія пакорлівы ў нашых руках, адціснуць балоты і іх жыхароў, таму, што землі адваёваныя ў балот мы пакрыем колектывамі, таму, што мы іх уключым у магутнае будаўніцтва пролетарскай соцыялістычнай культуры.

Не, ня ўдасца Зарэцкім і Сьляпнём з „бруднай твані“, з балот, выклікаць тую грозную фатальную сілу адсталасьці, якая здолела-б пад кіраўніцтвам і ў інтарэсах кулацтва, процістаўвіцца наступленьню

соцыялізму І ня ўдасца Зарэцкаму і яго гэроям з „Крывічоў“, а ў іх ён пэрсоніфікуе ўсю буржуазную беларускую інтэлігенцыю, адыграць ролю правадыра і кіраўніка нацыі. Гэтую ролю зваяваўшы пад кіраўніцтвам партыі Леніна, уладу ўзяў моцна і трывала ў свае рукі пролетарыят. Зарэцкім застанецца толькі бясплённа марыць, што:

„Вось ён пачынае працаваць, ён ня ўяўляе яшчэ, што ён будзе рабіць, але гэта будзе нешта сур'ёзнае, важнае, неабходнае для бацькаўшчыны. Вакол яго зьбіраюцца людзі, ён організуе, кіруе імі, злучае ў адну дружную сям'ю. За імі ўзьнімаюцца ўсё новыя людзі, яшчэ і яшчэ бяруцца ў магутныя наабсяжныя калёны і ідуць, і ідуць, наперад, да шчасьця... І ён перад усім... Ён вядзе іх... Ён правадыр...

І вось... адроджаная Беларусь, вялікая слаўная бацькаўшчына... перад ёй схіляюцца ў пачцівым зьдзіўленьні народы, яна ўзыходзіць маладая, сьвежая, на свой законны пасад і пачынае новае сваё, поўнае сонца і шчасьця, жыцьцё“. („Крывічы“, неапублікаваная частка).

Ідуць мільёны, але за компартыяй, каб пабудаваць соцыялістычную Беларусь, каб закладваць фундамант сусьветнага Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, дзе ў братэрскім саюзе і бяз усякага „зьдзіўленьня“ працоўныя будуць весьці поўнае сонца і шчасьця жыцьцё. Для гэтае шчасьлівае будучыні патрэбна адна ўмова: перамога ва ўсім сьвеце пролетарыяту і асноўных мас сялянства, што ідуць пад яго кіраўніцтвам, братэрскі саюз усіх народаў, прототыпам і асновай якога зьяўляецца наш Савецкі Саюз Соцыялістычных Рэспублік. Буржуазная Беларусь, якая павінна па думцы Аржановіча—Зарэцкага заняць „законны“ пасад, для таго, каб зьдзіўляць іншыя імпэрыялістычныя дзяржавы, зьяўляецца перашкодай на шляху да соцыялізму і братэрскага адзінства народаў. Носьбітаў такіх ідэй беларускі пролетарыят і бядняцка-серадняцкія масы вёскі павінны бязьлітасна адхіляць з свайго шляху. У гэтай бясплённай мары Аржановіча—Зарэцкага знаходзяць водгук ідэі буржуазнага лібэральна-адраджэнцкага сталыпінскага нашаніўскага руху. Гэта тая-ж мара аб Беларусі, пабудаванай на ўзор ангельскай конституцыі, гэта тая-ж ідэя, якая зьяўляецца пляцформай, аб'яднаючай беларускую буржуазію з ідэолёгамі „адзінай і непадзельнай Расіі“,—якая аб'яднала беларускіх і украінскіх нацыянал-фашыстых пад крыльлямі і пад камандай фашысцкай дыктатуры ў Польшчы для ваеннага наступленьня на Савецкі Саюз з мэтаю аднаўленьня шляхам ігры va banque сваіх „законных прыроджаных праў“ на эксплёатацыю працоўных мас Савецкае Беларусі і Савецкае Украіны. Аб такой менавіта Беларусі марыць Зарэцкі ў „Падарожжы на новую зямлю“. Шпацыруючы разам з Прышчэпавым па заваёваных пролетарыятам і асноўнымі сельскімі масамі пад кіраўніцтвам партыі і пролетарыяту новых землях, Зарэцкі пачаў лятуцець:

„Я таксама выказваю вельмі цікавую думку аб тым, што каб туті разоў у колькі ўзьняць культуру гаспадаркі, каб правесьці ва ўсе бак шосы, ды абсадзіць іх фруктовымі дрэвамі, каб пабудаваць новыя вёскі—

з каменнымі будынкамі, з чырвонымі стрэхамі, з электрычнасьцю—дык гэтая мясцовасьць была-б падобна на Нямеччыну...“

Вось яна зьдзейсьненая мара Зарэцкага! Нямеччына! Да гэтае свае мары ён на працягу сваіх падарожных нататак ня раз зьвяртаецца „Я бачу чыстыя, гладкія дарогі абсоджаныя цяністымі дрэвамі, я бачу зграбныя, вясёлыя масты і мосьцікі ў розных кірунках перакінутыя праз канавы, я бачу гэтыя цудоўныя—роўныя і чыстыя канавы, аблемаваныя пышнай зелянінай, напоўненыя стадам срабрыстых рыбак, я бачу высокія задорныя антэны, я бачу цэлыя сеткі тэлеграфных і тэлефонных правадоў, я чую працавітае пыхканьне трактароў і сырэны аўтомобіляў, я чую гудзеньне машын і я чую...

Я чую звонкія поўныя радасьці і шчасьця, песьні людзей *перамогшых прыроду*“. („Падарожжа на новую зямлю“, стар. 29, падкрэсьлена мною—*С. Т. Б.*).

Такія прыгожыя беспартыйныя малюнкі з кудравымі барашкамі і далікатнымі пэйзажамі і „любвеабільнымі пэйзанамі“ апявалі прыдворныя пііты караля Сонца. Новае, што дадаў Зарэцкі да ідылійных малюнкаў сваіх папярэднікаў не ад яго,—гэта вонкавае: радыё, тэлеграф, трактар. Людзей, грамадзкіх адносін, адносін да прыладаў вытворчасьці, жорсткай клясавай барацьбы, супраціўленьня клясавага ворага нашаму будаўніцтву,—гэтага няма. Нямеччына!.. вось ідэал! Гэта ўвесь адказ! Так, як відаць так, бо на старонцы 27, Зарэцкі кажа:

„На гэтай высьпе будзе саўгас. Пад саўгас будзе вылучана, мабыць тысячы паўтары гектараў, а рэшта пойдзе *пад індывідуальныя гаспадаркі*“. („Падарожжа на новую зямлю“, стар. 26, падкрэсьлена мною *С. Т. Б.*).

Індустрыяльная краіна не пад густ Зарэцкаму. Ён-бы хацеў, каб як у Нямеччыне ці ў Англіі захаваць для панскага паляваньня вялізарныя абшары няскарыстанае зямлі. Таму ён слухае, як пад уплывам ветру шуміць чарот на балоце, і ў гэтым шуме ён чуе „крык поўны журбы, поўны балючае крыўды“...

„Ён кліча, ён просіць літасьці, просіць ратунку. Яго здушаны голас мае дзіўную выразнасьць,—у ім чуваць жывыя чалавечыя словы,—ратуйце, я гіну... А калі мацней падыхне ветрык, крык чароту пераходзіць у жудасны лямант, і тады, чамусьці, здаецца, што ня толькі крыўдаю і смуткам поўніцца гэты лямант, што чуваць у ім цьвёрдыя ноткі славеснага гневу, гневу роджанага апошнім напруджаньнем гора і роспачы, гневу, якому мяжа—сьмерць“ (Падарожжа на новую зямлю“, стар. 56).

І гэты вобраз чарота, які гіне ад нашых рук і пагражае помстаю, у Зарэцкага не выпадковы. Ён зьвязаны з вобразам таго балота, фатальнай сілай якога пагражае нам Зарэцкі. Чарот, гэта зноў сымболь:

„Я слухаў шопат чароту і чуў у ім *здушаны горам і роспачну крык Беларусі*, многапакутнай краіны, над якой бязьмерным цяжарам вісіць

спадчына векавага прыгнёту, якой так трудна ісьці да сьветлае будучыні". (Падкрэсьлена мною—*С. Т. Б.*).

Пісьменьнік з партбілетам, у пэрыод гарачага соцыялістычнага будаўніцтва, пераробкі балот у квітнеючыя сады, плача па чароце—балотнай траве, у яго суме чуе „здушаны горам і роспаччу крык Беларусі". Ня цяжка нават акцябронку дадумацца, якую гэта „Беларусь" апявае Зарэцкі, якая гэта „Баларусь" адступае перад нашым соцыялістычным наступленьнем, шалёна супраціўляючыся і агрызваючыся. Гэта буржуазная, кулацкая Беларусь, адступаючая перад наступленьнем пролетарыяту, вядучага за сабой пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі асноўныя масы сялянства, беднату і сераднякоў.

У гэтым сваім лірычным адступленьні ад тэмы ў нетры кулацкага суму і зьвярынай нянавісьці—сымболізуемай чаротам, Зарэцкі нястолькі мастак, колькі політык, які добра скарыстоўвае сродкі мастацкага ўзьдзеяньня для антысавецкіх мэтаў. Гэты вобраз балотнага чароту. якому пагражае наша наступленьне на балотныя масывы, яму патрэбны для таго, каб умацаваць і правесьці дыфэрэнцыяцыю ў нашым савецкім лягеры і нават сярод членаў нашай комуністычнай партыі. Ён спрабуе скарыстаць хістаньні, якія выяўляў у пачатку барацьбы з нацыянал-дэмократызмам, член нашай партыі і адзін з буйнейшых пролетарскіх поэтаў Беларусі тав. Чарот. Таму сваё лірычнае адступленьне ў балотныя багны ён увязвае з імем поэты Міхася Чарота. Зарэцкі піша:

„Я ўспамінаў нашага Чарота, нашага любага слаўнага Міхася, і думаў, які ён шчасьлівы, што сваю буянную творчасьць здолеў зьвязаць адзіным магутным, поўным *нацыянальнае самабытнасьці* нормальным вобразам шумлівага чароту". („Падарожжа на новую зямлю", стар. 57).

Політычны сэнс гэтага звароту да тав. Міхася Чарота кідаецца ў вочы. Хочацца моцна сказаць Зарэцкаму: прычым тут аўтар „Босых на вогнічшы", які полымем сваёй творчасьці дапамагаў і дапамагае партыі выпальваць коснасьць старога быту, зьнішчаць карэньні буржуазнай Беларусі і ствараць новую, соцыялістычную Беларусь. Аўтар „Босых на вогнішчы", зжыў пад уплывам няўхільнай бальшавіцкай, але чуткай таварыскай крытыкі з боку партыі, усе нездаровыя хістаньні, якія былі вынікам ціску на яго дробна-буржуазнага абкружэньня, таго абкружэньня, у якім Зарэцкі і яго сябры і саратнікі граюць не апошнюю ролю.

Нельга не адзначыць, характэрнага для публіцыстычных выступленьняў Зарэцкага, славабуду. Зразумела, усюды пустыя фразы аб нацыянальнай самабытнасьці—Чарот таксама зачэпка для практыкаваньня ў гэтым монотонным зубрэньні задоў—у гэтым грубым ідэалізаваньні буржуазна-кулацкай Беларусі. Бяз гэтага літургічнага слаўца нацыянал-дэмократаў Зарэцкі ня можа „тварыць". Усюды на гэтым самым месцы ён спатыкаецца.

Аб якой тут самабытнасьці можна гаварыць? Вазьмеце ўсякага украінскага буржуазнага пісьменьніка, вазьмеце песьню польскіх шляхецкіх

поэтаў, скольki там знойдзеце тонкіх перажываньняў і мастацкіх вобразаў, створаных за кошт не беларускіх, а запароскіх і іншых „очэрэтаў". Зарэцкаму і яго нацыянал-дэмократычным сябром пара забыцца на Міхася Чарота. З моманту зьмешчаньня ім у „Савецкай Беларусі" ліста трох пісьменьнікаў прайшло многа часу, і Чарот ня толькі прызнаньнем сваіх памылак,—але і ўсёй сваёй творчасьцю даказаў, што ён з партыяй, з пролетарыятам, што ён баец на фронце нашага соцыялістычнага будаўніцтва, што яго ліра пяе пераможныя песьні нашаму наступленьню і заражае энтузыязмам і воляй да перамогі мільёны творцаў новай зямлі, якія яе ствараюць і адстойваюць у жорсткай і пераможнай барацьбе супроць тых „балотных абшараў", гэтага панурага бясплодзьдзя, у якім Зарэцкі бачыць „магутную фатальную сілу Беларусі (буржуазнай—*С. Т. Б*), сілу, якая вырасьце некалі з гэтай бруднай твані, з гэтай багны, якая парве некалі путы трагічнага свайго акамяненьня і паўстане перад вачмі асалапелага сьвету ў грознай сваёй непарушнасьці".

## Індустрыялізацыя—жупел для Зарэцкага

Часта і справядліва пролетарская крытыка абвінавачвае сучасных літаратараў у тым, што яны ўцякаюць ад жыцьця, уцякаюць ад сучаснасьці. Гэта зьявішча ня новае. Ужо ў даваенны час у літаратуры вызначылася цэлая плынь, прыхільнікі і творцы якой уцякалі ад жыцьця.

Адны ўцякалі ў сівую старажытнасьць, ідэалізуючы мінулае, апяваючы прыгоды „мужных рыцараў і прыгожых дам" і забываючыся на такія падрабязнасьці эпохі, як спэцыяльныя кавадлы і срэбныя малаточкі для біцьця вошай у носьбітаў культуры, як жорсткія нечалавечыя адносіны гэтых „шляхетных рыцараў і дам" з сялянскімі масамі, за кошт выміраньня якіх „шляхетныя творцы культуры" жылі ў роскашы і распусьнічалі;—забываючы сялянскіх матак, якія былі прымушаны карміць сваімі грудзямі панскіх шчанят, гледзячы поўнымі жаха вачыма, як корчацца ад голаду і паміраюць іх уласныя дзеці.

Іншыя ўцякалі ад жыцьця, ад той грозна-нарастаючай хвалі ненавісьці да эксплёататараў і іх культуры ў завоблачныя лятуценьні аб будучым, уяўляючы сабе гэтае будучае ці ў выглядзе веку аўтоматаў, ці заганяючы пролетарыят і соцыяльнае пытаньне ў падземныя катакомбы і фабрыкі-турмы. Сёньняшнія пісьменьнікі з буржуазіі паўтараюць старыя рэчы, нясугучныя эпосе, прыдумаўшы толькі новае адзеньне.

У Зарэцкага ёсьць мужнасьць глядзець небясьпецы проста ў вочы. Ён бачыць няўхільную пагібель тых грамадзкіх адносін, якім ён жадае працягнуць жыцьцё і спрабуе павярнуць старно гісторыі так, каб выратаваць усё, што можна выратаваць. Заводы, фабрыкі гэта для Зарэцкага чужое. Ён ім не давярае, ён ня ведае, пакольki можна будзе скарыстаць у сваіх мэтах гэтую грозную сілу, свае сумленьні ён укладвае ў вусны гэроіні свайго роману „Крывічы" Зене.

— „А праўда, Мікола,—усё-ж гэта больш надворнае, дэманстрацыйнае. Я зусім ня бачу туг нічога сур'ёзнага (гэта Зена аб нашым соцыялістычным будаўніцтве—*С. Т. Б.*).

Аржановіч ухіліўся ад такога простага вырашэньня пытаньня.

— „Яны, бязумоўна, маюць сваё месца ў гісторыі. Яны многа карыснага робяць.

— „Я ўсё-ткі,—адказвае Зена, люблю не такую... я люблю сваю Беларусь, хай сабе—лірычная, ціхая. Я люблю песьні нашы... хоць сумныя... а можа таму і люблю, што яны сумныя. Калі сьпяваюць нашы народныя песьні, я адчуваю, што сэрца маё неяк ціха, ціха плача... Нявіднымі такімі, маўклівымі сьлязьмі... І мне здаецца, што некалі даўно, даўно я плакала так...

— Я, Мікола, ня люблю заводаў... у іх ёсьць нешта ня нашае, нешта жорсткае, чорнае. Я баюся іх... сапраўды...

... Ведаеш—адказвае Аржановіч—чаму табе заводы нашы чужыя здаюцца? Таму, што там мала каго ёсьць беларускага—рабочыя больш, чымся сяляне, падпалі пад русіфікацыю.

Зена капрызна насупілася і прашаптала:

— А ўсё роўна... Ня люблю я заводаў, яны няпрыгожыя..."

(„Крывічы", неапублікаваная частка).

Аўтар не пакрывіў душой, калі зрабіў рэмарку, што „Аржановіч ухіліўся ад такога простага вырашэньня пытаньня". Так, Аржановіч—Зарэцкі не жадае проста гаварыць. У нашу эпоху надзвычайнага палітычнага росту мас гэта вельмі цяжка—але ён ўсё-ткі прагаварваецца. У „Падарожжы на новую зямлю", апісваючы Мар'інскія балоты, Зарэцкі кажа:

„Я слухаю і фізычна адчуваю нейкі востры падзел гэтае спрадвечнае дзікасьці, адчуваю яе сьвежую романтыку, яе неабдымную жорсткую веліч. *І з нейкай трывожнай цікавасьцю, я стараюся ўявіць сабе тое новае, што прынясе ў гэтыя нетры культура, што створаць тут сьмелыя ўпартыя людзі*". („Падарожжа на новую зямлю", стар. 27. Падкрэсьлена мною—*С. Т. Б.*).

Дык вось для Зарэцкага „спрадвечная дзікасьць" пахне сьвежай романтыкай, а не ванючай старасьцю загніваньня. Ён з трывогаю чакае таго новага, што твораць настойлівыя людзі. І гэтая трывога, гэтая ідэалізацыя балотнай гнілі ў яго невыпадковы, ён інакш, чым Зена,—больш асьцярожна, у менш простай форме падзяляе яе няпрыязьнь да машын, заводаў. Машына для яго,—гэта „дзівосны зьвер-машына", гэта не пакорлівая, дысцыплінаваная, падначальная волі чалавека, родная яму, створаная ім прылада вытворчасьці. Гэта—ня друг, ня бліжэйшы таварыш, ня любае стварэньне, якое дапамагае чалавеку ў працы і барацьбе за лепшую будучыню, гэта зьвер, страшны, палохаючы зьвер, сіле якога Зарэцкі здольны толькі зьдзіўляцца, але не давяраць і зьвязваць з ёю свае надзеі. У гэтых адносінах у Зарэцкага да машыны выяўляецца

ўся чужацкасьць гэтага дробнага буржуа пролетарыяту і рэволюцыі. Зарэцкі не разумее машыны і яе ролі і гэтае неразуменьне пакрываецца з неразуменьнем ім гістарычнай місіі і сіл пролетарыяту. Вось Зарэцкі быў і ў сялянскіх курных хатах на Мар'інскім балоце. Яму здавалася, што ён зьвярнуўся на некалькі сталецьцяў назад і акунуўся ў абкружэньні серэднявяковай дзікасьці і тады ў яго „міжвольна ўнутры... шавяльнуўся цень трывожнага сумненьня. Ці можна пагадзіць, злучыць у адно той магутны творчы размах, тое шырокае будаўніцтва новага шчасьця з гэтым адвечным жудасным брудам і цемрай". („Падарожжа на новую зямлю", стар. 49).

А хто-ж жадае прымірыць і аб'яднаць сярэднявяковую дзікасьць, спадчыну соцень і соцень год эксплёатацыі і ўціску з тым, што мы цяпер будуем? Да гэтага вядуць прадстаўнікі буржуазнай ідэолёгіі, прадстаўнікі інтарэсаў варожых пролетарыяту кляс. Пролетарыят жадае не прымірыць і ня злучаць спадчыны мінулага з парасткамі будучыні, наадварот, ён жадае мобілізаваць ўсе тыя мільённыя масы, якія воляй гістарычнага лёсу затрыманы былі ў барбарскім царстве, „старажытнага дзікунства" для барацьбы супроць гэтага барбарства, для яго зьнішчэньня і стварэньня новай соцыялістычнай культуры, новага жыцьця і пераможна праводзіць у жыцьцё гэтае жаданьне.

Трывожныя сумненьні Зарэцкага азначаюць нявер'е ў сілы пролетарыяту, што гэтая кляса здолее падняць асноўныя масы сялянства,—беднату і сераднякоў—і павесьці іх па новаму шляху. Гэтыя сумненьні, ня раз выказвалі прадстаўнікі дробнай буржуазіі, якія зацясаліся ў шэрагі нашай партыі. Невыпадкова ва ўсіх палітычных выступленьнях нацыянал-опортуністых, якія скатваюцца на позыцыі контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, Зарэцкі прымаў самы дзейны і актыўны ўдзел. Успомнім толькі хаця-ж бы лісты трох пісьменьнікаў, напомнім яго прамову на організацыйным зьезьдзе БелАПП'у, дзе ён заклікаў беларускую пролетарскую літаратурную моладзь не ўваходзіць ва Ўсесаюзнае аб'яднаньне пролетарскіх пісьменьнікаў, каб ня згубіць свайго „нацыянальнага аблічча".

## Выкрутасы Зарэцкага ў галіне літаратурнай тэорыі

Ня менш характэрным зьяўляюцца і літаратурныя „тэорыі" Зарэцкага якія ня блішчуць арыгінальнасьцю і выконваюць толькі утылітарную задачу тэорэтычна апраўдаць і ўгрунтаваць яго літаратурныя творы, зрабіць іх больш прыймальнымі для савецкае і пролетарскае грамадзкае думкі. У сваіх літаратурных тэорыях, Зарэцкі параўновае і разьвівае думкі аб тым, што стылем „пролетарскай літаратуры павінен стаць романтычны стыль", выразьней, стыль эмоцыянальнага романтызму.

Каб замаскаваць контррэволюцыйную сутнасьць сваёй тэорыі, ён хаваецца за Горкага і за правільную думку гэтага апошняга ў тым, што

поэта павінен ня толькі адбіваць жыцьцё такім, як яно ёсьць, але і даць ідэал новага лепшага жыцьця, каб запаліць свайго чытача жаданьнем сёнешняе жыцьцё зьмяніць на гэтае лепшае. Горкі гэты стыль называе позытыўным романтызмам. Патрэбна адзначыць, па-першае, што Горкі не абвяшчае романтычны стыль стылем пролетарскай літаратуры і ня творыць канонаў для пролетарскай літаратуры, а па-другое, Горкі ўсёй сваёй творчасьцю голасна адказвае на пытаньне „для каго ён пяе і з кім ён“.

Гэтага нельга сказаць пра Зарэцкага, пра яго можна сказаць, што ён пяе для варожае нам клясы і што ён з варожаю нам клясаю. Адсюль казуістычныя выкрутасы Зарэцкага, што ён стварае адмоўных гэрояў нібыта для таго, каб у чытача-рабочага ўзбудзіць нянавісьць да свайго гэроя і на падставе закону аб контрастах выклікаць творчую ініцыятыву ў галіне стварэньня рабочым чытачом свайго ідэалу—станоўчага гэроя.

Штучнасьць гэтых разважаньняў б'е проста ў вочы, асабліва калі ўзяць пад увагу конкрэтныя рэчы, створаныя Зарэцкім. Бязумоўна, тыпы паненкі з „Ворагаў“ ці чакістага з таго-ж апавяданьня, вобраз Зены, Аржэновіча, Сьляпня, з „Крывічоў“ і дзесяткі іншых вобразаў створаныя і любоўна выпешчаныя ім—адмоўныя тыпы з пункту гледжаньня пролетарыяту. Але патрэбна цьвёрдая палітычная ўстаноўка ці вельмі абвостранае клясавае чуцьцё, каб узьненавідзець гэрояў Зарэцкага, бо ўся сіла таленту Зарэцкага накіравана на тое, каб размагніціць волю пролетарскага чытача, каб у дробна-буржуазнага працоўнага чытача ўзбудзіць сымпатыі да гэтых гэрояў, да іх ідэй, каб такім чынам тую дробную буржуазію, за кіраўніцтва якой пролетарыят вядзе заўсёды барацьбу супроць буржуазіі, штурхнуць у абдымкі буржуазіі.

Так выглядае аголены зьмест конкрэтных вобразаў, якія стварае Зарэцкі ў процівагу да яго тэорыі, раючай толькі ролю дывэрсыйнага манэўру. Пра тое, што мы маем справу з палітычна-граматным пісьменьнікам, які абмяркоўвае ўсе свае хады, можна зразумець і па заяве Зарэцкага, якую ён даў у друк, з прычыны провакацыйных чутак, якія пашыраюцца польскай фашысцкай і беларускай нацыянал-фашысцкай прэсай Заходняй Беларусі пра тое, што быццам Зарэцкі сасланы ў Салаўкі. Калі маўчаньне Зарэцкага з прычыны гэтага паклёпу выклікала абурэньне сярод пролетарскіх пісьменьнікаў Савецкае Беларусі, Зарэцкі коратка канстатаваў, што ён нікуды з Менску ня выяжджаў, што ніхто ня мае намеру яго высылаць з Менску. Паміж радкоў Зарэцкі ўкліньвае адну вельмі цікавую думку, што ён з партыяй ніколі, ні па якіх пытаньнях не разыходзіўся. Зразумела, першая частка заявы Зарэцкага была пазбаўлена ўсякае каштоўнасьці, бо Зарэцкага ўсе і без таго бачаць на вуліцах Менску. Польскі фашысцкі друк, разам з сваім саюзьнікам беларускім нацыянал-фашысцкім друкам не таму пашырае няверагодныя чуткі, каб ён ім верыў. Пашыраючы гэтыя чуткі, яны толькі запісвалі сабе ў сваю карысьць тое скажэньне партыйнай лініі, якое рабіў Зарэцкі,

яны толькі лоўка скарыстоўвалі той факт, што Зарэцкі ганьбіў палітыку партыі ў нацыянальным пытаньні. Яны заўсёды крычаць аб прасьледваньні беларусоў, нават беларусоў-комуністых, маскалямі ў Савецкай Беларусі. Ілжывая выдумка аб высылцы Зарэцкага—гэта быў вельмі эфэктны выкрут, які быў магчымы толькі таму, што Зарэцкі выступаў супроць палітыкі партыі, супроць пролетарскай дыктатуры і Савецкай Беларусі. Двурушная-ж заява Зарэцкага, што ў яго ня было разыходзін з лініяй партыі, была палітычным шантажом.

## Зарэцкі—як соцыяльны фэномэн

Нас цікавіць Зарэцкі ня столькі як пісьменьнік, сколькі, як соцыяльнае зьявішча, у якім перасякаюцца лініі клясавай барацьбы, якая абвастрылася на даным этапе ў выніку супраціўленьня соцыялістычнаму будаўніцтву і наступленьню варожых да пролетарыяту клясаў. Таму для нас больш важнае пытаньне пра тое, адкуль узяліся Зарэцкія ў нашай партыі. Нам здаецца, што калі пытаньне разглядваць з пэрсональнага пункту гледжаньня, то сам Зарэцкі дае ня дрэнны адказ на тое, якім шляхам людзі, падобныя Зарэцкаму, могуць быць у партыі. Вось прасачэце шлях дробнага буржуа да рэвалюцыі ў апавяданьні „Сьмерць" (зборнік апавяданьняў Зарэцкага „Пад сонцам").

„Што штурхнула яго на гэты шлях.

Гэта ён добра помніць. Гэта было зусім проста і нават недарэчна троху. Была дзяўчына. (А ў Зарэцкага без дзяўчыны справа не абходзіцца)—прыгожая такая, разумная, добрая... Ён кахаў яе моўчкі. Уцішку. Ёй не казаў ані слова пра гэта, чуў, што гэтым абразіць яе, адштурхне.

За ёю ён пашоў. А яна завяла яго на гэты цяжкі, але прыгожы шлях. А потым, як дзяўчыну павесілі, *помста засталася*. Яна штурхнула на змаганьне. Ды і зацікавіла самая праца, *небясьпека, рызыка*. А пасьля ўжо, як гады загасілі пыл захапленьня юнацкага, зьявілася *ўпартасьць, хацелася дасягнуць таго, на што аддаў столькі гадоў*".

(„Пад сонцам" стар. 68. Падкрэсьлена мною—*С. Т. Б.*).

Дык вось. Спачатку каханьне да дзяўчыны пяцягнула гэроя апавяданьня на рэволюцыйнаю барацьбу. Пасьля жаданьне помсты штурхнула яго і ў дадатак жаданьне рызыкаваць. Далей упартасьць. А клясавыя моманты, а людзі, з якімі ён працаваў і дзеля якіх ён афяраваў сябе? Пра гэтых людзей толькі ў канцы аўтар успамінае: „Ды яшчэ бачыў на кожным кроку гаротных няшчасных людзей".

Нам здаецца, што мы ня зробім памылку, калі гэтым радком прыдамо аўтобіографічнае значэньне.

Такім шляхам да рэволюцыі прышоў не адзін Зарэцкі. Шмат дробных буржуа ў часе юнацтва шалелі, імкнуліся палохаць сваіх буржуэных бацькоў, убіраліся ў жоўтыя камізэлькі, гаварылі страшэнна р-р-рэволюцыйныя словы, пагражаліся спаліць Акадэміі і сусьветныя кнігасховы

і рабілі шмат іншых гэстаў, накшталт таго, што абясьмерціў шаўца з Эфэса, які спаліў храм багіні Дыяны. Назавем больш гучныя па месцы, якое яны займаюць у літаратуры, ці па актуальнасьці справы. Вось Панскі-Сольскі, калісьці ў гады Кастрычніка і ў першыя гады пролетарскае дыктатуры шырока вядомы ў Менску рухлівы малады чалавек, вельмі радыкальны, заўсёды на баку тых, хто выступаў „лявей здаровага сэнсу". Мінула некалькі год, Панскі адрасьціў і выгладзіў бародку, закругліў жывоцік, і застаўся на тым баку барыкады, у абдымках сваіх клясавых татаў і мамаў, якія са сьлязьмі заміласаньня прынялі блуднага сына. Нельга ня ўспомніць і аўтара „Вальдшнепаў", украінскага пісьменьніка Хвілёвага,—яго гісторыя ў шмат чым напамінае гісторыю з Зарэцкім. Ён таксама дакаціўся на пэўным этапе свае творчасьці да таго пункту, дзе пачынаюцца акопы сьвятой тройцы буржуазнага нацыяналізму, эксплёатацыі і казацкае нагайкі. Праўда, ён павярнуў назад і не пераступіў праз Рубікон.

Гэты сьпіс можна было-б яшчэ ў больш значнай меры пашырыць, хоць-бы імем беспартыйнага папутчыка Пільняка.

Шлях Зарэцкіх, Панскіх да бальшавікоў вызначаўся хваляй пэўнага соцыяльнага руху. Іх прыход да нас быў зьвязаны з пэўнымі зрухамі ўнутры паасобных вярхушачных пластоў дробна-буржуазнай інтэлігенцыі, якая з прычын нацыянальнай варожасьці да захопніцкага царызму, была гатова падтрымаць кожнага, хто вядзе сапраўдную барацьбу за зьнішчэньне царызму. Апрача таго, у пэрыод пераходу нашай краіны пад кіраўніцтвам партыі ад ваеннага комунізму да нэпу ў шырокіх пластох буржуазіі і ў вярхушцы дробнай буржуазіі, асабліва ў буржуазіі прыгнечаных пры царызьме нацыянальнасьцяй, не знаходзячы здавальненьня сваім імкненьням стаць дзяржаўна-незалежнымі, знайшлі шырокае пашырэньне ілюзіі аб магчымасьцях перараджэньня бальшавікоў і перараджэньня савецкае дзяржавы ў звычайную буржуазную. На гэтым грунце ў першы аднаўленчы пэрыод нэпу сярод гэтай буржуазіі (у першую чаргу гэта датычыцца заходня-украінскай і заходня-беларускай буржуазіі) панавалі pro савецкія настроі. Нацыянал-дэмократычны буржуазны украінскі і беларускі друк у гэты час з здавальненьнем пісаў пра нацыянальную політыку савецкай улады, пра політыку ў галіне ўзьняцьця культуры раней прыгнечаных нацый, у галіне індустрыялізацыі народнае гаспадаркі нацыянальных рэспублік. Гэты друк у той час крытыкаваў толькі соцыяльны характар політыкі савецкае ўлады і яе пролетарскі соцыялістычны, супроць капіталістычны зьмест. Гэты пэрыод характарызуецца „зьменай вех" і сярод буржуазіі зьняволеных пры царызьме народаў і сярод рускай дробнай буржуазіі. Зьменавехаўства становіцца сьцягам усіх гэтых элемэнтаў. Пад гэтым сьцягам яны спрабуюць унядрыцца ў савецкую грамадзкую тканку з надзеяю на паскарэньне процэсу перараджэньня савецкае ўлады, якое і ўдзень і ўночы ім сьнілася. Вось на гэтым фоне людзі, апісаныя Зарэцкім у яго апавяданьні „Сьмерць", пранікалі ў савецкую грамадзкасьць і нават у партыю-

Пераход пролетарыяту, які вядзе асноўныя масы сялянства пад кіраўніцтвам партыі ад аднаўленьня народнае гаспадаркі ў савецкіх рэспубліках да соцыялістычнай рэконструкцыі гаспадаркі, тыя вялізарныя перамогі, якія атрымлівае пролетарская рэволюцыя ў гаспадарчай і культурнай і політычнай галіне, тое няўхільнае выцісканьне прыватна-капіталістычных элемэнтаў гораду і вёскі з экономічнага жыцьця, якім завяршае ў нашы дні пролетарыят сваю Кастрычнікавую перамогу, усё гэта зьнішчыла дашчэнту ілюзіі аб буржуазным перараджэньні краіны саветаў. Да гэтага трэба дадаць тую расхістку часовай адноснай капіталістычнай стабілізацыі на Захадзе, што ня толькі зьнішчае ўсякія ілюзіі наконт буржуазнага перараджэньня савецкае краіны, але ставіць на парадак дню пытаньне аб непасрэдна рэволюцыйнай сытуацыі. Варожыя нам сілы ва ўсім сьвеце пераходзяць да свайго апошняга і рашучага бою. У нас яны з-падваротні забіваюць актыўных працаўнікоў рэволюцыі і будаўнікоў соцыялізму, яны паляць калгасныя гумны, яны ў Шахтах, на Балтыцкім заводзе, у Акадэміях Навук організуюць контррэволюцыйныя выступленьні ў выглядзе экономічнага шкодніцтва, ваеннага шпіёнажу, яны на фронце літаратуры з папутчыкаў ператвараюцца ў адкрытых апявальнікаў буржуазнай рэстаўрацыі.

Зразумела, гэтага нельга сказаць пра ўсіх. Ёсьць шмат папутчыкаў, што, за час свайго папутнічаньня бальшавікам, навучыліся разумець вялікі гістарычны сэнс таго перавароту, які ўстрасануў ушчэнт увесь сьвет і зьмяніў яго твар. Гэтыя папутчыкі ад лёйяльнасьці ў адносінах да савецкае ўлады пераходзяць да актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве. Гэтых папутчыкаў мы маем і ў нас у Савецкай Беларусі. Хто ўважліва сочыць хоць-бы за нашай часопісьсю „Полымя“, той бяз усякай цяжкасьці ўстановіць шмат і шмат каго з іх. Зарэцкі ня ў ліку гэтых папутчыкаў. Зарэцкі, ня гледзячы на партыйны білет, ад папутніцтва, ад лёйяльнасьці ў адносінах да пролетарскае рэволюцыі адышоў на позыцыі буржуазнай рэстаўрацыі.

### Некалькі ісьцін з політграматы

Шлях Зарэцкага—гэта шлях многіх дробна-буржуазных папутчыкаў. Таму мы некалькі спынімся на іх. У Беларусі, у краіне, колькасна-пераважаючай дробнай буржуазіі, галоўным пастаўшчыком таго прамежнага пласту, які прынята называць інтэлігенцыяй, і які ў слове і пісьме афармляе імкненьні, інтарэсы грамадзкіх клясаў, зьяўляецца ў першую чаргу вясковая дробна-буржуазная стыхія. Невыпадкова, што большасьць мастакоў Савецкае Беларусі пачынаюць свой творчы шлях, як поэты сялянскія, як пясьняры долі і гора гэтага дробнага гаспадара, які ў адной асобе і працаўнік, і гандляр, і работнік, і ўласьнік прыладаў вытворчасьці. Яны апяваюць яго рэволюцыйную барацьбу супроць паноў, супроць баяр, супроць абшарнікаў, за зямлю, за волю, у іх песьнях знаходзяць сваё

адлюстраваньне вялікія дні 1905 і 1917 году; часта і дні грамадзянскай вайны. На першых стадыях свайго разьвіцьця шмат хто з гэтых мастакоў адбівае ў сваіх творах той факт, што ў барацьбе гэтай дробнай буржуазіі супроць сваіх паноў і эксплёататараў у 1905, у 1917—правадыром, застрэльшчыкам і кіраўніком быў фабрычна-заводзкі пролетарыят. Гэтыя мастакі несьвядома даюць у сваіх творах выраз тэй ісьціны, якую Ленін формуляваў наступнымі словамі.

... „Толькі пэўная кляса, менавіта, гарадзкія і наогул фабрычна-заводзкія рабочыя, прамысловыя рабочыя, у стане кіраваць усёй масай працоўных і эксплёатуемых у змаганьні за нізрынуцьце іга капіталу, у ходзе самога нізрынуцьця ў змаганьні за ўтрыманьне і ўмацаваньне перамогі“... (Ленін, том XVI, стар. 248).

Аднак, толькі ня многія з іх, па меры разьвіцьця сваёй творчасьці і сваёй мастацкай індывідуальнасьці ўмеюць узьняцца да ўсьведамленьня гэтай ісьціны да канца. Толькі невялікі лік з іх умеюць ад стыхійнага канстатаваньня фактаў перайсьці да філёзофскага абагульненьня іх і да ўсьведамленьня, што толькі пры руху асноўных мас сялянства да соцыялізму пад кіраўніцтвам пролетарыяту можа быць замацавана перамога гэтых мас над эксплёататарамі і прыгнятальнікамі. Толькі невялікі лік разумее, чаму Ленін не перарваў сваёй думкі ў тым месцы, дзе мы перарвалі яго цытаваць, а прадаўжаў:

„У справе стварэньня новага соцыялістычнага грамадзкага ладу ва ўсёй барацьбе за поўнае зьнішчэньне клясаў“.

Наадварот, перамога над абшарнікамі, пераход зямлі ў рукі сялянства, шмат каму з гэтых песьняроў рэволюцыйнае барацьбы сялянства, здаецца канцом справы вызваленьня працоўных мас. Яны не заўважаюць, як у выніку гэтага іхная ліра зьмяняе свой тон і яны на справе робяцца песьнярамі буржуазіі, а ў нашай краіне, дзе пролетарыят зьнішчыў уладу капіталу, уладу буржуазіі,—гэта значыць песьнярамі буржуазнай рэстаўрацыі. Яны ня бачаць, што ва ўмовах нашае эпохі, па словах Леніна, дробная буржуазія ня можа граць самастойнае ролі. Ва ўмовах нашае эпохі, калі машынная тэхніка і мэтоды масавае буйнае вытворчасьці вызначаюць ход грамадзкага разьвіцьця, калі прамысловасьць зьяўляецца спажыўцом продуктаў сельскае гаспадаркі, пастаўшчыком прылад працы,—вызначае тэхніку, шляхі і кірунак разьвіцьця сельскае гаспадаркі, вёска ня можа весьці горад. Горад заўсёды вядзе вёску. І ўсё пытаньне ў тым, якая гарадзкая кляса вядзе вёску, буржуазія ці пролетарыят.

Гэтым пісьменьнікам сьніцца рэакцыйны сон аб сялянскім царстве, аб царстве дробнае саматужнае вытворчасьці ў горадзе і вёсцы. Гэтыя песьняры дробнае буржуазіі не заўважваюць, што яны хочуць на справе пачаць зноў той процэс разьвіцьця, які прывёў і прыводзіць няўхільна, на грунце зруйнаваньня мільённых мас дробнае буржуазіі, на глебе жорсткай нечалавечай эксплёатацыі пролетарыяту, да імпэрыялізму, да стварэньня магутнейшых трэстаў, да вылучэньня паасобных мульці-міль-

ярдэраў, якія зьяўляюцца сапраўднымі гаспадарамі буржуазнага сьвету. Для таго, каб сялянскі поэт застаўся сапраўды песьняром працоўных мас сялянства, а не песьняром эксплёататараў сялянства, каб ён з'арганізаваў волю асноўных мас сялянства—беднаты і сераднякоў, для зьвяржэньня эксплёататараў, ён павінен зразумець і запомніць тое, чаму вучыў Ленін у адносінах да сялянства:

„Вы ведаеце, якая гэта сіла з пункту гледжаньня яе політычных настрояў. Гэта—сіла хістаньня... Гэта сіла хісталася паміж кіраўніцтвам пролетарыяту і кіраўніцтвам буржуазіі. Чаму ж гэта сіла, якая ў вялізарнай большасьці сама сабой не кіравала? Таму, што экономічныя ўмовы гэтай масы такія, што аб'яднацца сама, згуртавацца сама, ня можа... Усюды і заўсёды вынік быў менавіта такі: усе спробы дробнай буржуазіі асабліва, сялян у прыватнасьці, усьвядоміцца ў сваіх сілах, па свайму накіраваць экономіку і політыку,—канчаліся крахам. Або пад кіраўніцтвам пролетарыяту, або пад кіраўніцтвам капіталістых—сярэдзіны няма". (Ленін, том XVIII, ч. I, ст. 178).

Таму-та Ленін казаў аб адносінах пролетарыяту да сялянства, гэтай апошняй капіталістычнай клясы, якая засталася існаваць у СССР пасьля політычнага і экономічнага зруйнаваньня буржуазіі, наступнае:

„Як выражаюцца практычна ў разьвіцьці рэволюцыі адносіны пролетарыяту, які трымае ў сваіх руках уладу—да сялянства. Першая форма—*саюз, цесны саюз.*

Як мы практычна падыйшлі да гэтага пытаньня. *Мы заключылі саюз з сялянствам*, мы разумеем гэты саюз так: пролетарыят вызваляе сялянства ад эксплёатацыі з боку буржуазіі, вызваляе яго ад кіраўніцтва і ўплыву буржуазіі, ён прыцягвае яго да сябе, каб сумесна перамагчы эксплёататараў. Меншавікі кажуць так: сялянства складае большасьць, мы—чыстыя дэмократы, большасьць павінна вырашаць. Але дзеля таго, што сялянства ня можа быць самастойным, то практычна гэта азначае ні што іншае, як *аднаўленьне капіталізму.* Лёзунг той-жа самы: саюз з сялянамі. Калі мы аб гэтым кажам, то мы разумеем пад гэтым *узмацненьне і ўмацаваньне пролетарыяту*". (Ленін, т. XVIII, ч. I ст. 321-326).

Нашым маладым мастаком, якія ў большасьці выпадкаў выходзяць з вёскі і нясуць на сабе груз дробна-буржуазных уяўленьняў і перажыткаў, трэба моцна задумацца над гэтымі словамі Леніна, удумацца ў наступную задачу, пастаўленую Леніным перад пролетарыятам.

„Каб вырашыць другую, найцяжэйшую частку задачы (зьнішчэньне клясаў,—значыцца, пабудаваньне соцыялізму—С. Т. Б.), пролетарыят, перамогшы буржуазію, павінен няўхільна весьці наступную асноўную лінію сваёй політыкі ў адносінах да сялянства: пролетарыят павінен *падзяляць, разьмяжоўваць* селяніна,—працоўнага ад селяніна ўласьніка, селяніна работніка ад селяніна гандляра, селяніна гаротніка ад селяніна спэкулянта. У гэтым разьмежаваньні *ўся сутнасьць соцыялізму*" (Ленін том XVI, стар. 352—1-я разрадка мая—*С. Т. Б.*).

Вось у гэтым уменьні падзяляць сялянства, у гэтым вылучэньні з сялянства асноўнай бядняцка-серадняцкай масы, у якой пры дыктатуры пролетарыяту няма карэнных рознагалосьсяў з пролетарыятам, якіх соцыялізм можа поўнасьцю здаволіць, у адлучэньні іх ад эксплёататарскай часткі сялянства, ад вясковай буржуазіі, гарантыя перамогі пролетарыяту—у гэтым-жа гарантыя, што сялянскі пісьменьнік ня стане пісьменьнікам буржуазным, што ён, апісваючы вёску, апяваючы барацьбу і долю асноўнай масы сялянства, стане пісьменьнікам сапраўды пролетарскім.

Пісьменьнік, які апявае змаганьне асноўнай масы сялянства пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго партыі, які паказвае змаганьне гэтых мас у саюзе і пад кіраўніцтвам пролетарыяту, з пачварнасьцю, ідыётызмам сялянскага жыцьця, за новае жыцьцё, які сродкамі мастацкага адбіцьця і прадбачаньня будучыні, заражае гэтыя масы творчым энтузіязмам і ўзмацняе саюз гэтых мас з пролетарыятам, пад кіраўніцтвам партыі пролетарыяту, які мобілізуе сілы гэтых мас для пабудаваньня соцыялізму, для зьнішчэньня клясаў,—той пісьменьнік зьяўляецца пролетарскім пісьменьнікам, ня гледзячы на тое, што ён вышаў з вёскі і ў сваіх творах адбівае жыцьцё і долю сялянства. Калі пісьменьнік не ўсьвядоміў гэтых простых элемэнтарных ісьцін ленінізму, то як-бы ён ня імкнуўся быць блізкім нашай сучаснасьці, як-бы ён суб'ектыўна не жадаў ісьці поруч з рэволюцыяй, ён няўхільна саб'ецца на бездарожжа Зарэцкіх і стане, хоча ён гэтага ці ня хоча, ня ў гэтым сутнасьць пытаньня, служыць інтарэсам эксплёататарскіх кляс, стане іх рупарам і прыладай барацьбы супроць пролетарыяту і супроць асноўных працоўных, не эксплёатуючых чужое працы мас сялянства.

Гэтаму вучыць справа пісьменьніка Зарэцкага, які, маючы ў кішэні партыйны білет комуністычнае партыі, па лініі свае творчасьці ня меў нічога супольнага з партыяй. Вось чаму вучыць адлучэньне ў пісьменьніку члена партыі Касенкова ад мастака Зарэцкага. Партыйная ячэйка і Фрунзэўскі райком, які зацьвердзіў пастанову бюро ячэйкі аб выключэньні Зарэцкага, канстатавалі гэтым, што ня можа комуністы мастак раздвайвацца. Комуністы і мастак павінны складаць адзінае цэлае. Тое-ж самае прыходзіцца сказаць і аб пісьменьніках не комуністых, якія жадаюць ісьці нага ў ногу з нашай эпохай і дапамагаць соцыялістычнам будаўніцтву. Ім цяжка адбіваць у сваёй мастацкай творчасьці сьветапогляд нашае партыі, але яны могуць і павінны—калі жадаюць быць савецкімі, адбіваць адносіны паміж пролетарыятам і сялянствам, з пункту погляду Ленінскае навукі.

15-XII-29 г.

# ДА ПЫТАНЬНЯ АБ ПРОБЛЕМЕ МАСТАЦКАГА СТЫЛЮ

*(Фізыопластычныя ды ідэопластычныя тыпы мастацкіх стыляў)*

**П. Даркевіч**

У дасьледчай працы знаўцаў мастацтва проблема мастацкага стылю застаецца ў цэнтры ўвагі. Літаратура апошніх гадоў па гэтым пытаньні пераконвае нас у гэтым і служыць паказьнікам большай увагі да пытаньня стылю. У 1927 годзе вышла з друку кніга В. Фрычэ «Социология искусства». Яна ў некалькіх сваіх разьдзелах закранае данае пытаньне. У 1928 годзе зьяўляецца праца Іофэ «Культура и стиль», цалкам прысьвечаная пытаньню культуры і стылю, як паказвае ўжо назва кніжкі. Я не адзначаю тут цэлага шэрагу артыкулаў у зборніку. «Проблема портрета», выданьне Гамн, артыкулу Тарабукіна «Портрет, как проблема стиля» ды інш. Зьяўленьне пералічаных прац, ад ацэнкі якіх мы ў гэтым артыкуле ўстрымліваемся, паказвае нам на глыбокую цікавасьць да пытаньня стылю, ня толькі мастацкага, але і стылю цэлых культур. Такую зацікаўленасьць мы назіраем ня толькі ў мастацтвазнаўстве, але і ў літаратуразнаўстве. Так, напрыклад, у першым нумары часопісу «Литература и марксизм» за 1927 год у програмным артыкуле новага рэдактара В. Фрычэ мы сустракаем наступную думку: «Калі прыгледзецца да таго, што ў апошнія гады робіцца ў галіне літаратуразнаўства, дык няцяжка ўбачыць, што з вялікай настойлівасьцю, са значнай адназгоднасьцю высоўвалася і яшчэ высоўваецца на пярэдні плян дасьведчай работы, як карэнная і цэнтральная проблема—проблема стылю.

Вырашэньне энэргіі колектыву ў стварэньні стылю—вось галоўнае месца сучаснай цікавасьці. Навуковае паказаньне ўскладняецца яшчэ тым, што пытаньне аб стылі, аб яго сутнасьці, аб законах яго разьвіцьця і зьмен вырашаецца не апісальным статычным мэтодам, але дынамічна, г. зн. ва ўсёй яго рознастайнасьці. Генэтычны мэтод, які толькі і можа даць здавальняючае вырашэньне данай проблемы, з аднаго боку ўскладняючы задачу, абагачае яе—з другога. Толькі генэтычны мэтод і надае такую актуальнасьць для нашых дзён пытаньню аб проблеме стылю.

У адным артыкуле мы маем замер закрануць толькі адно пытаньне—пытаньне аб двух тыпах мастацкіх стыляў, якія можна наглядаць як у далёкіх мінулых вякох, так і ў наш час.

У прыродзе ёсьць розныя кветкі. Формы і афарбоўка кветак разнастайная. Адны з іх нам блізкія і прыемныя, а другія—дзіўнай формы і перад імі мы стаімо з пытаньнем. Таксама і ў гісторыі мастацтва ёсьць пэрыяды, калі помнікі мастацтва, якія захаваліся да нашага часу, зразумелы; ёсьць-жа загадкавыя, дзіўныя, для разуменьня якіх у нас не хапае цярплівасьці і ўдумлівасьці, і мы праходзім міма іх. Я разумею тут наступнае: ёсьць эпохі ў гісторыі мастацтва, дзе выяўленыя прадметы (чалавек, прырода, жывёла і г. д.) паказаны рэальна. Слова рэальна я разумею ў тым сэнсе, што даны мастацкі твор стварыўся пры наяўнасьці вывучэньня рэчаіснасьці і падабенства апошняй. Можна сказаць іначай, што мастак, раней чым створыць мастацкі твор, уважліва вывучаў праз назіраньне і практыку рэчаіснасьць і потым пераносіў яе ў мастацкі твор. Гэтае мастацтва, створанае на аснове назіраньня і практыкі, мы будзем называць рэалізмам. Нашы эстэтычныя погляды на працягу доўгага часу скlаліся так, што мы больш разумеем і ацэньваем эпохі рэальнага мастацтва, у той час, як існуюць вялікія эпохі мінулых культур, даўшых нам суцэльныя вялікія стылі, дзе помнікі мастацтва ствараліся зусім адваротным шляхам, чым паказана было вышэй. Гэты другі тып мастацкага стылю ствараецца тады, калі формы рэчаіснасьці трацяць сваю вартасьць для мастака. Для мастака гэтага тыпу мастацкага стылю рэчаіснасьць ня мае ніякай каштоўнасьці. Пры стварэньні мастацкага твору ён выходзіць не з назіраньня і практыкі, а з уласнага тэорытычнага ўяўленьня рэчаў, і таму мастацкі твор атрымліваецца не рэальнага характару, а стылізаванага. Стылізаваны мастацкі твор гэтага тыпу мастацкага стылю паддаецца разуменьню з большай цяжкасьцю. Ён своеасаблівы, але створаны па пэўнай законамернасьці. Выкрыць гэту законамернасьць—гэта і значыць зразумець эстэтычны элемэнт і сыстэму творчасьці ў стылізаваных мастацкіх творах.

Я падзяляю ўсю гісторыю мастацтва на два паказаных тыпы мастацкіх стыляў. Іншы раз гэтыя два стылі сустракаюцца аднячасова, але часьцей яны разьвіваюцца па чарзе, зьвязаныя з агульным разьвіцьцём культуры. Для яснасьці трэба тут-жа паказаць, што гутарка пойдзе галоўным чынам аб скульптуры і малярстве, як аб мастацтвах, зьвязаных з мастацкім і рэальным вобразам. Між двума паказанымі вышэй мастацкімі стылямі існуюць пераходныя тыпы стыляў, якім будзе аддавацца менш увагі, бо задача гэтага артыкулу ў тым, каб хоць трошкі вызначыць шлях да разьмежаваньня абодвух стыляў. Як соцыолёгічны нарыс, ён будзе пабудаваны на прынцыпе шырокай аналёгіі і генэралізацыі гістарычных фактаў у тым сэнсе, як аб гэтым гаворыць Рыкерт.

Абумоўленасьць нашых эстэтычных поглядаў, што аддаюць перавагу рэальнаму тыпу мастацкага стылю, доўгі час перашкаджала разуменьню стылізаваных тыпаў мастацкага стылю. За апошняе дзесяцігодзьдзе шмат зроблена навукай аб мастацтве для больш паглыбленага разуменьня гэтага пытаньня. Праўда, догматычна-акадэмічная эстэтыка і да

гэтага часу займае асобную непрымірэнцкую позыцыю ў гэтым пытаньні. Для нас, у даным выпадку, галоўным пытаньнем зьяўляецца адшуканьне прычыны зьяўленьня рэалістычнага тыпу, мастацкага тыпу і ўмоўна-стылізаванага. Гэта, бязумоўна, магчыма пры разглядзе конкрэтнага гістарычнага матэрыялу.

У туманнай далячыні першабытнай культуры зьяўляюцца ўпяршыню творы мастацтва. З кожным дзесяцігодзьдзем археолёгія дае нам усё большую колькасьць дзівосных рэчаў, якія ў пачатку прымаліся за падробку. І праўда. Было зусім нечаканым зьяўленьне твораў мастацтва, якія адносяцца да першабытнай эпохі. Навука аб мастацтве выяўляе ўважлівыя адносіны да першых вытокаў мастацтва чалавека, бо вывучэньне іх выкрывае тайну пахаджэньня мастацтва. Эпоху першабытнай культуры падзяляюць на некалькі пэрыядаў, з іх для нашай тэмы важнымі зьяўляюцца апошнія два. Першы—палеолітычны і другі—нэолітычны, уключаючы да апошняга, нэолітычнага, і бронзавы.

Супастаўляючы мастацтва гэтых дзьвёх культур, мы можам многае высьветліць у вырашэньні генэзісу двух мастацкіх тыпаў стыляў, паколькі абедзьве гэтыя культуры ў сваім мастацкім выяўленьні дыямэтральна процілеглыя. Эпоха палеоліту ёсьць эпоха надзвычайнага рэалізму ў мастацтве; можна нават сказаць больш, што яна па сваіх формах у шмат чым падобна да імпрэсыонізму. І наадварот. Эпоха нэоліту характарызуецца ў мастацтве ўмоўна-стылізаваным тыпам мастацкага стылю. У чым адгадка такой дзіўнай мэтаморфозы? Здавалася-б, што чалавек паляўнічай палеолітычнай эпохі, зьмяніўшы сваё жыцьцё на жыцьцё земляроба нэолітычнай эпохі, здабыўшы больш культурных звычак і большую забясьпечанасьць, павінен быў-бы разьвіваць пачаты рэалістычны стыль мастацтва. Мы-ж бачым зусім адваротнае. І таму шмат хто гаворыць аб мастацтве эпохі нэоліту, як аб заняпадачнай зьяве, не стараючыся знайсьці генэзісу гэтай дзіўнай зьявы.

Бадай першым, хто прыцягнуў увагу да гэтага пытаньня, быў Макс Фэрворн. Ён уводзіць два цікавыя і надта дакладныя тэрміны, якімі ў далейшым мы і будзем карыстацца. Рэалістычны тып мастацкага стылю ён называе фізыопластычным і ўмоўна-стылізаваны—ідэопластычным. М. Фэрворн дае азначэньне гэтых двух тэрмінаў наступнымі словамі: «Пад фізыопластычным мастацтвам я разумею выяўленьні, якія складаюцца ў аднаўленьні натуральнага об'екту ці непасрэднага ўспаміну аб ім; пад ідэопластычным-жа—выяўленьні, якія аднаўляюць не непасрэднае назіраньне, а ідэі, мысьлі і абстрактныя веды». (М. Фэрворн «Речи и статьи», стар. 298).

Разглядаючы розьніцы мастацкіх стыляў паміж дзьвёма першабытнымі эпохамі, М. Фэрворн прычыну бачыць у зьмене псыхікі. «Палеолітычны паляўнічы ў корані і духу сваім—рэалісты. Розныя ўзвышаныя спэкуляцыі—чужыя яму. Думка пачаць тэорытызаваць аб рэчах, якія вакол яго, ня прыходзяць яму ў галаву. Ён бярэ рэчы, як яны ёсьць,

і па-мастацку з наіўна-практычным сэнсам скарыстоўвае іх у сваіх мэтах. Гэта асаблівасьць палеолітычнага духу знаходзіць сабе надзвычайна добрую ілюстрацыю ў дылювіяльным мастацтве. Мастацтва служыць верным выяўнікам духоўнага жыцьця. Пачаткі дылювіяльнага мастацтва, як мы бачылі, строга рэалістычныя, праўдзівыя, фізыяпластычныя» (М. Ферворн «Развитие человеческого духа», стар. 50).

Чаму палеолітычны чалавек рэалісты? Чаму ён бярэ рэчы, як яны ёсьць? І чаму яго мастацтва фізыяпластычнае? Усе гэтыя пытаньні ў М. Фэрворна застаюцца нявырашанымі.

Аб такім-жа падзеле ўсяго выяўленчага мастацтва на два тыпы стылю гаворыць адзін з нямецкіх сучасных дасьледчыкаў першабытнага мастацтва Herbert Kühn у сваёй кнізе „Die Kunst der Primitioen", 1923 г. Падаю вытрымкі з гэтай кніжкі па артыкулу Л. І. Аксэльрод (Ортодокс) з часопісу «Красная Новь» № 7, 1926 г.: «Кюн разглядае два віды стылю: сэнсорны, які зьяўляецца адбіткам ці аднаўленьнем вакольнага сьвету, як ён успрымаецца нашымі пачуцьцямі». «Сэнсорны стыль,—піша Кюн,—выражае сабой у самай моцнай ступені адносіны пачуцьцёвага ўспрыманьня да вакольнага сьвету, адносіны да таго, што дана нашым пачуцьцям. Гэта азначае зварот да гэтага сьвету да паўнаты ўражаньняў і да формаў выяўленьня гэтых апошніх».

Як М. Фэрворн, так і Кюн выходным азначальным пачаткам мастацкага стылю палеолітычнай эпохі бачыць псыхіку паляўнічага. Хоць і праўда тое, што «ў апошняй сваёй карэннай аснове стыль азначаецца гносэолёгічнымі выточнымі пачаткамі» (Л. Аксэльрод), але застаецца тады няясным пытаньне аб прычыне зьмены гносэолёгічных адносін чалавека. Форма мысьленьня ёсьць аснова і вытока мастацкага стылю. Гэта цьверджаньне Фэрворна і Кюна можна было-б прызнаць правільным, каб да яго дадаць яшчэ тлумачэньне прычыны, якая стварае тую ці іншую форму гносэолёгічных адносін чалавека да рэчаіснасьці. Так. Ад таго ці іншага гносэолёгічнага падыходу чалавека да рэчаіснасьці залежыць стыль, але як-жа тады растлумачыць зьмены гэтага падыходу. Тут вось і прыдзецца разглядзець тую жыцьцёвую абстаноўку, у якой складаўся гносэолёгічны падыход да рэчаіснасьці чалавека палеолітычнай эпохі.

Галоўная жыцьцёвая аснова—гэта паляваньне. Пераходзячы з месца на месца, спадзяючыся выключна на сябе, на сваю сілу і спрытнасьць, у чалавека—паляўнічага гэтай эпохі, выпрацоўвалася пачуцьцё незалежнасьці і поўнай волі. Ён жыў з другімі такімі-ж, як і сам, і ўсе яны ў паляваньні павінны былі спадзявацца выключна на самых сябе. У іх выпрацоўваўся тып незалежнага індывідуалістага, нязьвязанага ня толькі месцам, але нязьвязанага яшчэ і думкамі ні аб продках, ні аб вышэйшых сілах, кіруючых прыродай. Мы не сустракаем у гэту эпоху ў чалавека палеоліту клопатаў аб памёршых. Крамянёвая зброя была яму абаронай; яго сіла і спрытнасьць рабілі яго здольным змагацца за сваё

жыцьцё. «Паляўнічы ў моц свайго гаспадарчага стану прымушаны разьвіваць у параўнаўча высокай ступені індывідуальную трываласьць, індывідуальную ініцыятыву, праніклівасьць індывідуальнага назіраньня і паставіць проці індывідуальных небясьпек... Здабываньне сродкаў гаспадарчага існаваньня азначала ня толькі вонкавыя адносіны аднэй асобы да грамады, але таксама і псыхічныя тыпы адзінкавых асоб і грамады». (В. Гаузенштейн, «Искусство и общество», стар. 36).

Так вырысоўваецца паступова перад намі генэзіс формы мастацтва палеолітычнага паляўнічага. Калі цяпер мы кінем погляд на малюнкі і ўважліва іх разгледзім, то мы ўбачым цэлую сэрыю малюнкаў на касьцях ці скалах, выяўляючых маманта, дзікага каня, паўночнага аленя, рыбу, дзівосных па сьмеласьці, па правільнасьці малюнку і па артыстычнасьці ў кожнай лініі. Той-жа характар натуралістычнага-фізыопластычнага тыпу мастацтва мы назіраем у цэлым шэрагу скульптурных фігур жанчын, зьвяроў. Чалавека цікавіць, галоўным чынам, у выяўленьні—зьвер і жанчына. Невялікі з косьці торс жанчыны вядомы пад назваю «Вэнэры з Брасамуні», зьяўляецца лепшым прыкладам мастацкага стылю скульптуры эпохі палеоліту.

Стыль мастацтва першабытнага паляўнічага створаны на аснове пэўнага гносэолёгічнага падыходу да рэчаіснасьці, які быў у мастацтве аформлены ў характары фізыопластычным (М. Фэрворн) ці сэнсорным (Г. Кюн). Менавіта гэты тып гносэолёгічнага падыходу вызначаўся «здабываньнем сродкаў гаспадарчага існаваньня». Устанавіўшы генэзіс тыпу мастацкага стылю ад формы чалавечага мысьленьня і ад эканомічнай асновы, мы можам зразумець зьмену мастацкага стылю ў нэолітычную эпоху, гаворачы не аб заняпадзе, а толькі аб зьмене.

Зьмена кліматычных умоў пацягнула адыход аленя на поўнач і выміраньне маманта. Чалавек нэолітычнай эпохі пачынае жыць на адным месцы і становіцца земляробам. Эканамічная аснова ў параўнаньні з паляўнічым зьмяняецца ў бок большай забясьпечанасьці. Земляроб зьвязаны з зямлёй і залежыць цяпер ад усякіх зьяў прыроды. Гаспадарчая залежнасьць ад прыроды прымушае яго раздумваць і тлумачыць зьявы вакольнага сьвету. Тое, чаму раней не аддаваў увагі чалавек палеолітычнай эпохі, становіцца для земляроба галоўным яго інтарэсам. Паляўнічы ня зьвязаны з прыродай, ён над зьявамі яе не задумваецца, бо ён сам частка прыроды, што жыве непасрэдна з ёй, ён жыве сярод рэчаў, не адрозьніваючы самога сябе ад іх. Тып земляроба неолітычнай эпохі іншы. Для яго вакольнае становіцца прадметам упартых разважаньняў, тэорытызаваньняў, бо каб быць упэўненым у заўтрашнім дні, ён павінен зразумець і зрабіць уплыў на вакольныя яму сілы. Чалавек нэоліту—першы дуалісты, бо для яго важны клопаты аб памёршых, што паказвае на зьяўленьне ідэі душы; ён будуе магілкі (дольмэны, падобна скрынцы, з ходам); у яго зараджаецца рэлігія. Рэлігія ў гэту эпоху

ёсьць першая спроба растлумачыць сьвет, прывесьці яго ў сыстэму і зрабіць уплыў на яго.

М. Фэрворн наступнымі словамі характарызуе псыхо-ідэолёгічны тып нэолітычнай эпохі: «Жыцьцярады рэалізм палеолітычнага паляўнічага зьнікае і ўступае месца сумна-сур'ёзнаму мысьленьню загадкай веры ў душу і духаў. Наіўнасьць, з якой да гэтых часоў разглядаліся рэчы, зьмяняюцца фантастычнай тэорытычнасьцю... Найважнейшай концэпцыяй гэтага часу зьяўляецца ідэя душы, пачынальніца дуалізму цела і духу. Гэта заключэньне, якое выводзілася са зьяў сьмерці і сну, набывае адразу-ж неабмежаванае панаваньне над усякім іншым тэорытызаваньнем; бясконцае мноства самых фантастычных догмаў бярэ пачатак з аднэй гэтай ідэі. Адсюль-жа вынікае вера ў духаў і культ продкаў, страх перад нячыстымі сіламі і пакланеньне багом; міт і рэлігія. Тут крышталізуюцца цэлыя вялікія сыстэмы рэлігійных вобразаў, якія ў хуткім часе пачынаюць панаваць над мысьленьнем і пачуцьцем, над усімі жаданьнямі і дзеямі чалавека. І тут зноў найлепшым выяўнікам усяго гэтага зьяўляецца мастацтва. У процілегласьць сапраўднаму, фізыопластычнаму мастацтву палеолітычнага паляўнічага, мастацтва пазьнейшых дагістарычных пэрыодаў—бязумоўна не праўдзівае і ідэопластычнае. Об'ектам мастацкага выяўленьня зьяўляецца не рэальны прадмет, а ідэя, якую складае сабе чалавек аб гэтым прадмеце з усім яго фантастычным антуражам» (М. Фэрворн «Развитие человеческого духа», стар. 51).

Такую-ж думку падкрэсьлівае і Л. Аксэльрод, разьбіраючы кнігу Г. Кюна: «Другі стыль—імагітацыйны зьяўляецца перш за ўсё продуктам дуалістычных адносін да вакольнага. Стыль гэты характарызуецца тым, што ён у сабе ўжо адбівае ўяўленьні аб нечым вечным, што знаходзіцца па той бок, ці, як гаворыць сам Кюн, імагітацыйнае мастацтва, у процілегласьць сэнсорнаму, імкнецца ажыцьцёвіць у прадметах мастацтва вечна адзінае, сутнае, закон. Яно шукае містычную сутнасьць у трохкутніку, першасымболь—у крузе, супакойваючы момант—у квадраце».

М. Фэрворн і Г. Кюн тлумачаць зьмену форм стылю мастацтва зьменай формы чалавечага мысьленьня. Палеолітычнае фізыопластычнае мастацтва замяняецца ідэопластычным мастацтвам нэоліту таму, што зьмянілася форма мысьленьня чалавека. Вось асноўная іх думка. Бязумоўна, доля праўды ў гэтым сьцьвярджаньні ёсьць, але нам яно здаецца аднабаковым. Якія-ж тады прычыны прывялі да зьмен форм чалавечага мысьленьня? На гэта зусім законнае пытаньне ні Г. Кюн, ні Фэрворн не адказваюць ані слова. Вырашэньне гэтага пытаньня дае вялікую яснасьць праблеме мастацкага стылю. Яснасьць наступае пасьля таго, як мы зьвяртаемся да вывучэньня жыцьцёвых асноў чалавека палеолітычнай і нэолітычнай эпох. Чалавек палеоліту—паляўнічы, перайшоў у нэолітычную эпоху да земляробства. Зьмена здабываньня гаспадарчых срод-

каў пацягнула за сабой і зьмену гносэолёгічнага падыходу да рэчаіснасьці, а адсюль ужо і зьмену форм мастацкага стылю.

Ідэя душы, рэлігійныя вераваньні, якія зьявіліся,—усё гэта паказвае, што земляроб нэоліту тэорытызуе; гэта-ж тэорытызаваньне ён унёс у формы мастацтва, асабліва навукова мы сустракаем у скульптуры гэтай эпохі, дзе чалавечыя фігуры іншы раз цяжка пазнаць. Скульптурная фігура чалавека надта далёка робіць напамінак нам аб падабенстве да рэальнай фігуры. Форма мастацкага стылю замест непасрэднай, наіўна-рэальнай, як гэта робіць паляўнічы, стылізуецца ў загадкавую форму, якая мае сваю сыстэму і ўстаноўленыя законы. Трэба сказаць, што ў дзіцячых малюнках назіраецца тая-ж сыстэма творчасьці. Дзіця ў сваёй творчасьці выходзіць не з рэальнай рэчаіснасьці, а з свайго ўяўленьня. Сьцены намалёванага дому ня ўтрымліваюць дзіця, каб не паказаць за імі жыцьця ў кватэрах. Пажарны аўтомобіль на малюнках дзяцей іншы раз у некалькі разоў меншы, чым той маленькі званочак, які вісіць на аўтомобілі і абвяшчае трывогу. «Наіўныя і ўродлівыя малюнкі дзікіх пляменьняў і дзяцей стаяць вышэй дылювіяльных выяўленьняў жывёл, бо зьяўляюцца продуктам больш глыбокай рэфлексіі, чым апошнія, аднаўляючыя выключна непасрэдныя ўспаміны аб бачаным аб'екце» (М. Фэрворн, «Статьи и речы», стар. 281).

Такую ацэнку дае М. Фэрворн мастацтву ідэопластычнага стылю. На матэрыяле першабытнага мастацтва мы ўжо сустракаемся з двума падыходамі да рэчаіснасьці і двума падыходамі чалавека да мастацкай формы. Гэнэтычны мэтод павёў нас да разгляду асноўных прычын далей М. Фэрворна і Г. Кюна, мянавіта да жыцьцёвых асноў чалавека, як да вытоку формы гносэолёгічных адносін чалавека да рэчаіснасьці і далей да тыпу форм мастацкага стылю.

Да першабытных эпох прыстасоўваецца тэрмін — дагістарычны. Далейшы наш разгляд будзе закранаць культурныя формацыі гістарычныя. Сюды ўвойдуць фэўдальныя культуры: старога Ўсходу, архаічнага пэрыоду Грэцыі, Эўропэйскае сярэднявечча і эпоха фэўдалізму ў старой Русі. Такая пастаноўка на першы погляд можа зьяўляцца парадоксам, але, аднак, ува ўсіх пералічаных культурах экономічная аснова прыблізна аднолькавая, мысьленьне людзей гэтых культур прасякнута рэлігіяй і ў сваіх мастацкіх стылях яны маюць агульны характар. Ня гледзячы на ўсе нацыянальныя асаблівасьці, ня гледзячы на тысячагодзьдзе, што аддзялялі адну культуру ад другой,—усё-ж мы маем сьмеласьць разглядаць мастацкі стыль даных культур у аспэкце іх падабенства, але ня розьніцы. Гісторыя няхай індывідуалізуе твар кожнай культуры; асаблівасьць-жа соцыялёгіі заключаецца ў генэралізуючым мэтадзе, які парушае хронолёгію і паступовасьць. Соцыялёгія ставіць мэтай улавіць законы разьвіцьця, што дзейнічалі на працягу ўсяго разьвіцьця чалавецтва.

Старая культура Эгіпту, Асырыі, архаічная культура старой Грэцыі, Эўрапэйскае сярэднявечча і культура старой Русі маюць падобныя рысы

социяльна-экономічнага парадку—гэта натуральная гаспадарка і фэўдалізм. Усе пералічаныя культуры зьяўляюцца аграрнымі ў пераважнасьці, ці значыць гэта, што насяленьне не займалася ні паляваньнем, ні лоўляй рыбы, ні рамествамі. Бязумоўна не. Але ўсё-ж апрацоўка зямлі застаецца асновай экономікі, і фэўдалізм, як характар экономічных адносін. «Як старая бабілёнская культура, так і старая егіпэцкая была фэўдальнай. Пераважным элемэнтам вытворчасьці была тая сельская гаспадарка, якая квітнела на берагох Нілу, і жывёлагадоўля, якой займалася насяленьне на вялікіх балоцістых пасьвішчах. Жыцьцё і дабрабыт насяленьня знаходзіліся ў руках цывільных і клерыкальных фэўдальных улад: дзяржава была разьбіта на акругі, якія разьмяркоўваліся між фэўдальным чыноўніцтвам, жрацамі і князькамі краёў. Гэтыя фэўдальныя чыноўнікі знаходзіліся ў адносінах да фараона ў такім-жа стане, як мэравінгскія краёвыя графы і біскупы раньняга сярэднявечча да франкскай дынастыі.

Аналёгічным чынам формавалася гаспадарчае жыцьцё і грамадзкая організацыя ў асырыян і асабліва ў старых пэрсаў, якія ў сыстэме сатрапій пераджылі высокаразьвітую фэўдальную організацыю дзяржавы. Але культура ўсіх гэтых краін ня была чыста аграрнай: усюды актыўна займаліся рамествамі. Эгіпэт разьвіў высокую апрацоўку дрэва і высокую тэхніку выпрацоўкі фаянсу; старая Бабілёнія—тонкую апрацоўку друкарскай гліны; усюды была апрацоўка каштоўных мэталяў і шліфоўка каменьня. Існавалі ўпарадкаваныя гандлёвыя зносіны. Асноўны натуральна-гаспадарчы характар гэтых культур толькі ў малай ступені быў зьменены рамёствамі і гандлем». (В. Гаузенштейн «Искусство и общество», стар. 46).

Форма мысьленьня чалавека фэўдальных культур выяўляе далейшае паглыбленьне ўжо пачатага процэсу ў эпоху нэоліту. Залежнасьць чалавека ад прыроды стварыла першую прадумову дуалізму (паняцьце аб душы і целе) і рэлігіі, як гэта мы разглядалі ў нэолітычнай культуры. Калі чалавек нэоліту яшчэ ня прыводзіў усё гэта ў сыстэму, то ў фэўдальныя культуры рэлігійныя вераваньні прыводзяцца ў цэлую сыстэму. Рэлігія характарызуе ўвесь сьветапогляд чалавека фэўдальных культур. Калі экономічнай асновай для ўсіх вышэйпаказаных краін пераважна зьяўляецца аграрна-натуральная гаспадарка, то ідэолёгічнай формай усе яны характарызуюцца як культурай, наскрозь прасякнутай рэлігіяй. Даволі будзе толькі ўспомніць аб ролі жрацоў царквы ў гісторыі Эгіпту, Асырыі, Бабілёну, старой Грэцыі, Эўропэйскага сярэднявечча і эпохі старой Русі, каб пераканацца ў вялікім уплыве рэлігіі на ўсё жыцьцё як культурнае, так і социяльнае. Форму мысьленьня чалавека фэўдальных культур М. Ферворн надта ўдала называе «схолястычна-рацыяналістычнай спэкуляцыяй». Калі разглядзець мастацтва старых усходніх культур, то ўвесь зьмест яго прасякнуты рэлігіяй—ці ў аднаўленьні фігур фараона, ці цара, выяўленых у боскім відзе. Ёсьць аднаўленьне

сялян і рамесьнікаў, але гэта паказвае толькі на вялічэзны «эксплёататарскі» эгоізм фараона і багатых фэодалаў. Выяўленьне дэмократычнага пласту насяленьня трэба было дзеля таго, каб іх малюнкі зьмясьціць у дамавіну фараона ці фэўдала, каб чэлядзь і сяляне маглі і пасьля сьмерці абслугоўваць свайго пана таксама, як і пры жыцьці. Эстэтычныя патрабаваньні да выяўленьня гэтых фігур з боку фэўдалаў былі зусім іншыя. Форма выяўленьня фігур чэлядзі, пісароў, старастаў, мельнікаў, музыкаў сялян ды інш. носіць больш рэалістычны характар. Самі-ж фараоны і фэўдалы патрабавалі ад мастацтва статуарнага (фронтальнага) выяўленьня. Мастацтва павінна было паказаць уладу і вялікасьць фараона, а таму яго выяўлялі ў некалькі разоў большым, чым усіх іншых на адным і тым-жа рэльефе ці росьпісе. На ўсім эгіпэцкім мастацтве ляжыць адбітак пэўнай эстэтычнай сыстэмы. Прытым сыстэма гэта ўмоўная і паказвае нам на існаваньне пэўнага канону. Адзін з самых што кідаецца ў вочы, канон—гэта закон фронтальнасьці ў выяўленьні фігур. Фігура застыла ў старчаковым стане і ў ёй даны нязьменны вечны характар. Форма рачаіснасьці тут падпарадкавана эстэтычнай норме, ідэі. Гэта і ёсьць сутнасьць і характар ідэопластычнага стылю. Эгіпэцкія скульптурныя фігуры фараонаў прэтэндуюць на вечнае, нязьменнае існаваньне. Час не датычыцца іх існаваньня. Яны ня ў часе па закладзенай у іх статыцы. Калі мастацтва нэолітычнае эпохі створана пад улывам дуалізму і пачатага працэсу рэлігійнага разуменьня рачаіснасьці, дык эгіпэцкую скульптуру можна разумець глыбей, калі мы прымем пад увагу і дуалізм, і рэлігійныя вераваньні і патос улады фараона, даходзячы да прызнаньня яго за бога. Фронтальнасьць фігуры ў іх выяўленьні ёсьць прыналежнасьць ня толькі эгіпэцкага мастацтва, гэта эстэтычны закон усіх фэўдальных культур, які выявіўся мацней за ўсё ў Эгіпце. Ці значыць гэта, што ўмоўнасьць фігур можна тлумачыць тэхнічным няўмельствам, як аб гэтым кажуць некаторыя? Думаеце, што так разважаць могуць толькі тыя, хто мысьліць па прынцыпах акадэмічнанарматыўнай эстэтыкі. Фронтальнасьць у мастацтве Эгіпту і ў іншых усходніх культурах ёсьць вынік эстэтычнага густу, які склаўся ў пэўных соцыяльных умовах. У гэтым нас можа пераканаць параўнаньне выяўленьня асоб, якія высока стаяць у грамадзе, як: фараонаў, цароў, фэўдалаў з выяўленьнем асоб дэмократычнага пласту ці жывёл. Пры такім параўнаньні мы пераконваемся, што справа ня ў тэхнічным няўмельстве, а ў зусім іншай эстэтыцы, якая патрабавалася з боку пануючай клясы да ўласна свайго выяўленьня і да выяўленьня ўсяе рэшты. Цікава тое, што ў аднэй і тэй-жа культуры мы бачым існаваньне двух стыляў у мастацтве: адзін абумоўлены арыстократычным мастацкім густам і таму—ідэопластычны, а другі, які выяўляе не арыстократыю—фізыопластычны стыль. У асырыйскіх рэльефах мы сустракаем прыстасаваньне гэтага прынцыпу падзела на два тыпы стылю на аднэй і тэй-жа роўніцы рэльефу.

Другая характэрная рыса мастацтва фэўдальных культур—гэта адсутнасьць прасторы на скульптурным рэльефе ці ў малярстве. Формальныя асновы малярства—лінія і роўніца. Эгіпэцкія мастакі выяўляюць вялікую композыцыю стужкавата. Адзін шэраг малюнкаў цягнецца за другім, і цікава, што трактуецца чалавечая фігура на роўніцы ў працягу 40 вякоў у адным і тым-жа стане: галава ў профіль, плечы—анфас і ногі зноў у профіль. Такая трактоўка фігуры на роўніцы надае 2-хмерны характар з большай упэўненасьцю. Выключэньні з гэтага правіла даволі рэдкія. Калі яны і сустракаюцца, дык у прыстасаваньні да дэмократычнага пласту насяленьня. Адсутнасьць глыбіннай прасторы ці 3-га вымеру ў мастацтве ўсходніх фэўдальных культур лічыцца таксама шмат кім за недахоп і за пэўную няўмеласьць. Пры гэтым дакоры зусім ня хочуць зразумець самыя стылі, чым азначыўся характар апошняга.

Калі разглядзець мастацкі стыль архаічнай эпохі Грэцыі, дык у асноўных рысах мастацтва гэтага пэрыоду паўтарае тыя-ж стылістычныя рысы, што і ў Эгіпце, толькі ў другой нацыянальнай афарбоўцы. Ня гледзячы на атрыманую рэалістычную па мастацкім стылю спадчыну адкрыта-мікенскай культуры, мастацтва грэкаў у малярстве гэтае эпохі характарызуецца гэомэтрычным (ці дыпілёнскім) стылем вазавай росьпісі. Фігуры людзей і жывёл на гэтых росьпісях настолькі стылізаваны, што першы пагляд на вазу схоплівае цэлы шэраг геомэтрычных трохкутнікаў, ліній, рысачак, што чаргуюцца. Чорна-фігурнае вазавае малярства ў канцы архаічнага пэрыоду прадстаўляе сабой ідэопластычны стыль, і толькі чырвона-фігурная вазавая росьпісь паказвае на зьмену ідэопластычнага стылю фізыопластычным. Той-жа шлях праходзіць і скульптура. Пачатак скульптуры зьвязаны з фігурамі, дзе прыкметны моцныя ўплывы дрэва. Потым мы сустракаем шэраг фігур, так званых Аполёнаў, з якіх фігура Аполёна Тэнэйскага лічыцца лепшым выяўленьнем у скульптуры архаічнай Грэцыі. Гэта строга фронтальная фігура са стылізаванымі валасамі. Канец ідэопластычнага стылю ў мастацтве Грэцыі ў VI веку зьвязаны з фронтонамі царквы Атаны ў Эгіне. Тут сустракаюцца адначасна два стылі ў формах чалавечых фігур. Звычайна архаічнаму пэрыяду аддаецца месца ў вывучэньні толькі пастолькі, паколькі з параўнаньня ён выгодна вылучае эпоху V веку. Пры гэтым не разумеецца, што архаічная эпоха ёсьць зусім другая і што да яе падыходзіць з меркай у веку—значыць нічога неразумець у самай сутнасьці мастацкага стылю гэтага пэрыоду. Зусім нядаўна, у сувязі з так званымі левымі плынямі ў нашым сучасным мастацтве, пачалі аддаваць ўвагу архаічнаму пэрыоду. Жыцьцёвай асновай людзей гэтага пэрыоду было земляробства. «Значэньне земляробчай культуры, якая расла і мела сваім вынікам стварэньне замкнёнай і адасобленай натуральнай гаспадаркі, з другога боку, абумоўлівала сабой і ўсю соцыяльную структуру гомэраўскага грамадзтва» (А. Тюменев «Очерки экономической и социальной истории древней Греции», том першы, стар. 12).

Для Грэцыі архаічная эпоха зьяўляецца эпохай фэўдалізму, якая абумовіла форму мысьленьня, адсюль-жа і зьявіўся ідэопластычны стыль грэцкай архаікі.

Які-ж мастацкі стыль эўропэйскага фэўдалізму? Варта толькі азнаёміцца хоць-бы з романскім стылем, які лепей за ўсё характарызуе мастацтва гэтай эпохі, як мы ўбачым тыя-ж характэрныя рысы. Мастак пры стварэньні твору мастацтва ідзе ня шляхам назіраньня і вывучэньня рэчаіснасьці, а тэорытычна, г. зн. выходзіць з свайго рэлігійнага ўяўленьня. Форма выяўленых рэчаў стылізаваная, зьмест наскрозь прасякнуты рэлігіяй. У скульптуры характэрным зноў становіцца закон фронтальнасьці. Як на прыклады такой скульптуры, можна паказаць на расьпяцьце, зробленае з дубу і цяпер захаванае ў Браўншвэцкім саборы. Лініі вопраткі, у якую адзета фігура хрыста, падкрэсьліваюць старчаковасьць. Яшчэ больш цікавы страшны суд у Аўтумскім саборы, дзе пасярод яго сядзіць богбацька без галавы. Галаву замяняе крыж. Мастак замяніў рэальную частку чалавечага цела тэорытычнай часткай уласнага свайго рэлігійнага мысьленьня. Формальная аснова малярства тая-ж самая, як і ва ўсходніх фэўдальных культурах. Мініятура, мозаіка і фрэска—двухмерныя. Лінія і роўніца вось формальныя рысы стылю малярства. Лінейна-орнамэнтальны роўнічны стыль малярства існуе да творчасьці Джото. Прасторы няма і мастак не задаецца мэтай распрацаваць яе. Яму важна выказаць сваё пераконаньне ў формах, але ня ў рэальных формах, а ў адцягненых, падобна яго ўласнаму адцягненаму мысьленьню.

Да такога-ж ідэопластычнага стылю можна аднесьці стары расійскі абразапіс і фрэску. Сярод расійскіх знаўцаў мастацтва ёсьць шмат вялікіх імён, якія займаліся пытаньнем аб старым расійскім абразапісе. Па гэтым пытаньні існуе вялікая літаратура, і ўсё-ж думаецца, што пытаньне аб генэзысе формы абразапісу вырашана мала. В. Фрычэ ў сваёй популярнай кнізе «Социология искусства» зусім абыходзіць пытаньне аб абразапісе. Іофэ ў кнізе «Культура и стиль» аддае пытаньню абразапісу ня больш дзьццацёх радкоў. Усё гэта паказвае, што соцыолёгічным вывучэньнем стары расійскі абразапіс не закрануты. Не прэтэндуючы на вырашэньне гэтага пытаньня, мы закранем толькі тое, што датычыцца нашай тэмы. Што кіруе намі пры аднясеньні старога расійскага абразапісу і фрэскі да ідэопластычнага стылю мастацтва?

Ідэопластычны стыль мастацтва ёсьць выяўленьне фэўдальнай землеробчай культуры. Разгледжаныя намі вышэй ідэопластычныя стылі мастацтва фэўдальных культур упэўніваюць нас у гэтым. Абраз і фрэска старой Русі—зьявы, абумоўленыя натуральна-землеробчай гаспадаркай з усімі фактарамі, якія адсюль вынікаюць, г. зн.—соцыяльнай структурай і ўплывам рэлігіі. Калі раней у гістарычнай навуцы быў пашыраны погляд, што эпоха старой Русі ня перажывала фэўдалізму, дык цяпер, пасьля Н. Паўлова-Сільванскага, Рожкава і Пакроўскага ніякага сумненьня ў існаваньні фэўдалізму няма. Праўда, фэўдалізм у старой Русі мае і свае

асаблівасьці, але ўсё-ж асноўныя рысы яго тыя-ж, што і ў разгледжаных вышэй фэўдальных культурах. М. Пакроўскі ў сваёй працы «Русская история с давнейших времен» у першым томе на старонцы 32 наступнымі словамі дае азначэньне асноўным адзнакам фэўдалізму: «Гэта сучасная навука надае фэўдалізму, галоўным чынам, тры асноўныя адзнакі. Гэта: па-першае, панаваньне буйнага земляўладаньня, па-другое, сувязь з земляўладаньнем палітычнай улады—сувязь настолькі моцная, што ў фэўдальнай грамадзе нельга сабе ўявіць зямляўласьніка, які ня быў-бы ў тэй ці другой ступені царом, і цара, які ня быў-бы буйным земляўласьнікам, і, нарэшце, па-трэцяе, тыя своеасаблівыя адносіны, якія існавалі паміж гэтымі зямляўласьнікамі-царамі: наяўнасьць вядомай іерархіі зямляўласьнікаў, так што ад самых буйных залежалі больш дробныя, ад тых яшчэ больш дробныя і гэтак далей, і ўся сыстэма ў цэлым выяўляла сабой нешта падобнае лесьніцы». Далей на старонцы 52 піша: «Першае з асноўных адзнак фэўдалізму—панаваньне буйнай уласнасьці можа быць даказана для старой Русі дамаскоўскага пэрыоду уключна столькі-ж здавальняюча, як і для Заходняй Эўропы XI—XII вякоў».

Вялікія зямельныя багацьці аб'ядналі ў эпоху старой Русі манастыры. Манастыры ў пачатку зьяўляліся тымі асяродкамі, дзе квітнеў абразапіс і фрэска. Гэты факт нам шмат чаго тлумачыць у пытаньні аб зьмесьце і форме абразоў.

Рэлігійны падыход да сьвету—вось што характарызуе ў першую чаргу формы мысьленьня чалавека старой Русі і гэта «псыхо-ідэолёгічная» база, як гаворыць Фрычэ, вызначала сабой і стыль мастацтва, у даным выпадку малярства. Для характарыстыкі сыстэмы творчасьці гэтай эпохі асабліва каштоўныя для нас абразапісныя арыгіналы. «Гэты вялікі помнік расійскай народнасьці вядомы пад імем «Иконописного подлинника», г. зн. кіраўніцтва для абразапісцаў, які зьмяшчае ў сабе ўсе патрэбныя весткі для напісаньня абраза, тэхнічныя і багаслоўскія, г. зн. ня толькі практычныя паказаньні, як падрыхтаваць для абраза дошкі, як яе загрунтаваць ляўкасам ці белаю мастыкай, як накладваць золата і расьціраць фарбы, але і весткі гістарычныя і царкоўныя аб тым, як выяўляць сьвятыя твары і здарэньні адпаведнага сьвятому пісаньню і паданьням царквы» (Ф. Буслаў, том І, выданьне акадэміі навук, стар. 42).

Абразапісны арыгінал зьяўляецца сыстэмай тэхнічнага ды ідэолёгічнага кіраўніцтва для мастакоў старой Русі. Тут прадугледжваецца ўсё: і фарбы, і кампазыцыя, і зьмест. Я падам адзін урывак з абразапіснага арыгіналу, дзе гаворыцца, як трэба пісаць абразы на тэму «Нараджэньне хрыста»: «Три ангела господня зрят на звезду: переднему риза лазарь, второму бакан, третьему прозелень, а четвертый ангель господен пастырю благовестит; риза пра нем киноварь, исход лазарь; на пастухе риза бакан. Волги принесоша ему дары: на старом волхве риза вохра с белилы, на втором риза лазарь, испод бакан, на третьем киноварь, испод прозелень. Колпаки на них аки на трох строках. На другой стороне

вельмі наклонен Ангел Господен, рукой благословляет пастыря: риза коноварь, испод лазар, а под ним стоит пастырь с трубою: риза на нем бакан пробелена лазарью» і г. д. (Буслаеў, т. I, стар. 59).

Усюду паказваецца раз назаўсёды ўстаноўлены прыём як фарб, так і композыцыі. Як далёка сыстэма творчасьці, паказаная абразапісным орыгіналам мастаком-абаразапісцам ад сыстэмы Леонардо-да-Вінчы, выкладзенай у яго «Кнізе аб малярстве». Як розны падыход да рэчаіснасьці. Пэўны астэтычны канон вісіць некалькі вякоў над стара-расійскім малярствам. І ўсё-ж, якое багацьце формы і фарбы, якая дзівосная монумэнтальная сіла выходзіць ад майстэрства гэтых мастакоў. Асноўныя формальныя рысы абразоў і фрэскі падобны да малярства эўропэйскага сярэднявечча і ўсходніх культур. Дзеяньне на абразох адбываецца па-за часам і рэальнай прасторай. Усё адцягнена, як само мысьленьне гэтага часу. Усё існуе вечна, нярухома. Сюжэт даны не ў процэсе разьвіцьця, а ў гатовым статычным выніку. Усё гэта ўражаньне даецца адсутнасьцю пэрспэктыўнай прасторы і роўнічным вырашэньнем. Лінія, роўніца, адсутнасьць ўпэўніваючай прасторы—вось асноўныя формальныя рысы абраза і фрэскі старой Русі. Гэтыя-ж самыя рысы зьяўляюцца асноўнымі ў мастацтве фэўдальных культур Усходу, архаічнай Грэцыі і Эўропэйскага раньняга сярэднявечча. Сыстэма стварэньня мастацкага стылю ўсіх гэтых культур характарызуецца тэорытычным мэтадам, а не аналітычным мэтадам вывучэньня рэчаіснасьці. У Ленінградзе, музэі расійскага мастацтва ў аддзеле абразапісу ёсьць некалькі драўляных статуй, прывезеных з Ноўгараду, якія адносяцца да XVI і XVII в. в. Гэтыя статуі сьвятых упэўніваюць нас у тым, што закон фронтальнасьці ўласьцівы таксама расійскай старой скульптуры ня менш, як і мастацтву іншых фэодальных культур. Скульптура старой Русі—ідэопластычная па сваёй форме.

У гісторыі расійскага мастацтва зьмену ідэопластычнага стылю фізыопластычным можна бачыць у другой палове XVII в. Абразапісца Сымон Ушакоў са сваёй школай—яскравы паказьнік гэтых зьмен. В. Фрычэ ў сваёй кнізе «Социология искусства» ў X разьдзеле, калі ён супроцьпаставіць ідэопластычны стыль мастацтва рэалістычнаму ў расійскім мастацтве, дык супроцьпаставіць школу акадэмізму школе «передвижников», робячы гэтым вялікую памылку, бо як у школе акадэмізму, так і ў «передвижников» форма мастацтва застаецца аб'ёмна-датыкальнай, а значыць і фізыапластычнай. Больш правільна будзе супроцьпаставіць акадэмізм абразапісу. Толькі ў такім супроцьпастаўленьні мы можам праўдзіва ахарактарызаваць ідэапластычны і фізыапластычны стылі мастацтва. Як востра адчувалася зьмена стылю і як на гэту зьмену рэагавалі сучасьнікі, мы можам пераканацца са слоў вядомага абаронцы старасьвецкіх звычаяў і старасьвецкай абразапіснай творчасьці протопопа Авакума Пятрова: «По напущению божию умножишася в нашей русской земле иконного неподобного изуграфы. Пишут спасов образ Еммануила—

лицо одутловато, уста червонная, власы кудрявые, рукі у мышцы толстые—тако же и у ног бедры толстые, а весь яко немчан брюхат и толст учинен, лишь сабли той при бедре не написано... А все то кабель борзой Никон враг мыслил будто живые писать. А утроят все то по фряжкому сиречь, по немецкому, вот и никониане учнут писаць богородицу чревату в благовещеньи, яко и фрязи поганыя. А христа на хресте раздуговато: толстехонек, миленький, стоит и ноги те у него, што стульчики. Ох, ох, бедная Русь, чего то тебе захотелось немецких поступков и обычаев». (И. Грабар «История русского искусства». «История живописи», том, I, стар. 424).

Плач Авакума сьведчыць, як няпрыхільна быў спатканы XVII в. новы аб'ёмна-датыкальны стыль ці фізыопластычны. «Мышцы толстые, бедры толстые, як у немчан брюхат, толстехонек» ды іншыя эпітэты паказваюць, што мастакі пачалі фігуры сьвятых на абразох ствараць па рэальным падабенстве, а не па рэлігійным уяўленьні, дзе яны былі паказаны худымі. Конфлікт з прычыны спатканьня двух падыходаў да выяўленьня ў мастацтве тут асабліва яскрава можна назіраць.

Так мы падыходзім да апошняй часткі нашай працы—да ўстанаўленьня тыпаў фізыопластычных мастацкіх стыляў, якія зьвязаны з зусім іншай культурнай формацыяй ды іншым гносэолёгічным падыходам да рэчаіснасьці. Вывад у адносінах да ідэопластычнага стылю наступны:

Па-першае, экономічнай і соцыяльнай асновай ідэопластычнага стылю зьяўляецца земляробчая натуральная гаспадарка і тое, што мы разумеем пад фэўдалізмам з усімі, якія вынікаюць з яго, формамі.

Па-другое, форма мысьленьня чалавека ўсіх паказаных вышэй фэўдальных культур ці «псыхо-ідэолёгічная база» характарызуецца рэгілійна-пабожным падыходам да рэчаіснасьці, як вызначыў, урэшце, і форму ідэапластычнага стылю.

Па-трэцяе, трэба мець на ўвазе, што ідэапластычны стыль мастацтва толькі таму, што яго формы не падобны да формаў прыроды, а створаны з чалавечага ўяўленьня—зусім не зьяўляецца паказьнікам заняпаду формы мастацтва данай культуры. Зьняважлівыя адносіны да ідэапластычных стыляў ёсьць паказьнік неразуменьня асноўных законаў разьвіцьця мастацтва і законамернасьці данае зьявы.

Па-чацьвертае, на асновах экономічных, соцыяльных, гносэолёгічных вырас ідэапластычны стыль мастацтва з яго асноўнымі характэрнымі рысамі: адсутнасьцю прасторы, нярухомым характарам фігур, лінейна-роўнічным вырашэньні ды інш. Формальная сыстэма творчасьці ідэапластычнага стылю мае сваю законамерна-лёгічную вытрыманасьць і паступовасьць. Пазнаўшы гэту законамернасьць сыстэмы творчасьці, мастацтва ідэапластычнага стылю, гаворыць красамоўна аб сваёй монумэнтальнай прыгожасьці і аб пачуцьці мастацкай формы.

Наіўны натуралізм у мастацтве першабытнай эпохі ёсьць вырашэньне пачуцьця мастацкай формы чалавека паляўнічага, які не адрозьніваў

сябе ад рэчы. Чалавек фэўдальна-рэлігійных культур організуе рэчы і бачаны сьвет па свайму ўяўленьню. Ён зьмяняе форму рэчы, укладаючы ў яе свае ўласныя ўяўленьні.

Нам застаецца яшчэ разглядзець тып мастацкага стылю, які вырас на ўлоньні іншай культурнай формацыі і іншай сыстэмы мысьленьня—я гавару аб культурах буржуазна-гарадзкіх, дзе капіталістычная аснова афарбоўвае ўсе жыцьцёвыя праявы ў другія колеры. Тып буржуазна-капіталістычнай культуры ў гісторыі чалавецтва паўтараецца два разы. Першае выяўленьне данага тыпу культуры мы сустракаем у Грэцыі з VI—V вв. да нашае эры. Другі раз гэты-ж тып пачынае сваё разьвіцьцё ў Эўропе з XIV, XV, XVI вв.—гэта так званая эпоха адраджэньня (Рэнэсанс) У адносінах да старой Русі гэты пэрыод можна хронолёгічна ўстанавіць з канца XVII і пачатку XVIII вв. Зусім зразумела, што ў паказаных вышэй краінах усюды процэс пераходу ад фэўдальных соцыяльна-экономічных форм да гандлёва-капіталістычных адбываўся сваясабліва з рознымі нацыянальнымі і соцыяльнымі водцянямі. Нас у даным выпадку цікавіць гэта сваясаблівасьць, для нас важней тое агульнае разьвіцьцё сацыяльна-эканамічнага пласту, зьмяніўшага ўсе формы грамадзкага ды ідэолёгічнага жыцьця.

Жыцьцёвая аснова з пераходам ад фэўдалізму да гандлёвага капіталізму зьмяняецца. Разьвіцьцё гарадзкое буржуазна-грашовай гаспадаркі як у Грэцыі, так і ў Эўропе зьмяніла соцыяльную групоўку грамадзтва. З малярухомага фэўдальнага быту нараджаецца культура з іншымі жыцьцёвымі імкненьнямі, задачамі, проблемамі. Чалавек пачынае адносіцца да вакольнага не пасыўна, а актыўна. Калі асноўнай тэзай чалавека фэўдальнай культуры зьяўляецца—верыць, дык чалавек буржуазна-грашовай гарадзкой культуры думае іначай, для яго важна—пазнаць. Пазнаньне канечна патрэбнае, бо на ім угрунтоўвае сваю жыцьцёвую аснову чалавек буржуазна-гарадзкой культуры. Гэты працэс зьмены форм чалавечага мысьленьня асабліва яскрава можна назіраць на прыкладах з грэцкай і эўропэйскай філёзофіі. Сапраўдным становіцца толькі тое, што пазнае шляхам практыкі. «Разам з духоўным адраджэньнем XV і XVI вв. пачынаецца апошні пэрыод доўгага веку тэорытызуючага духу, пэрыод крытычна-экспэрымэнтальнага мысьленьня, які мы перажываем і цяпер. Чалавек прывучаецца правяраць свае тэорыі на аснове практыкі. Калі некаторыя элемэнты гэтага крытычна-экспэрымэнтальнага мэтоду і адносяцца да глыбокай старасьветчыны, да філёзофіі і дасьледчыкаў прыроды александрыйскай эпохі, дык усё-ж гэты мэтад пасьля доўгага перапынку, выклікаyага сярэднявяковай схолястыкай, набыў агульнае значэньне толькі разам з росквітам прыродазнаўства і філёзофіі. Натуральна-навуковы экспэрымэнт, якім карыстаюцца на кожным кроку для плянамернага кантролю тэорытычных вынаходак, аказваецца сродкам, якім зусім сьвядома падтрымліваецца цяпер і робіцца хутчэйшым падбор мысьляй. Натуральна-навуковы экспэрымэнт становіцца, урэшце, у наш час узорам

для ўсяго нашага мысьленьня. Наша мысьленьне становіцца экспэрымэнтальным» (М. Ферворн «Развитие человеческого духа». 1913).

Зьмена гносэолёгічнага падыходу чалавека да рэчаіснасьці стварае ў мастацтве зусім іншы тып мастацкага стылю. Творы малярства і скульптуры ствараюцца мастакамі на аснове вывучэньня форм рачаіснасьці. Для абразапісцаў старой Русі важным было паданьне, традыцыя, адпаведнасьць абразапіснаму орыгіналу і г. д., мастак буржуазна-гандлёвай культуры стварае творы, давяраючы выключна сваёй практыцы, свайму вывучэньню.

Адлегласьць паміж рэчамі і выяўленьнем у эпоху фэўдальных культур настолькі вялікая, што рэч у мастацтве пазнаецца з вялікімі цяжкасьцямі. Гэта-ж адлегласьць становіцца ўсё меншай і меншай у культурах буржуазна-гарадзкіх. Аналіз, як процэс работы мастака, і сынтэз, як завяршэньне, вось той шлях, па якім праходзіць творца мастацкіх помнікаў буржуазна-гарадзкой культуры. Жыцьцёвая аснова буржуазна-гарадзкіх культур ставіла перад чалавекам задачу пазнаньня вакольнага сьвету, як аснову яго ўласнага дабрабыту. Пазнаньне праз практыку ўсяго сутнага настолькі стала агульнай задачай, што мастацтва ўзяло ў аснову свае сыстэмы творчасьці той-жа мэтод—мэтод навукова-пазнавальны ці, як гаворыць М. Фэрворн—экспэрымэнтальны. Сыстэма новага творчага мэтоду стварае формы мастацкага стылю.

Назіраць паступова пераход ад культуры фэўдальнай буржуазна-грашова-гарадзкой мы можам у гісторыі ўпяршыню ў Грэцыі ў VI ці V вв. да нашай эры. «Сёмае і шостае сталецьце ў грэцкай гісторыі адпавядаюць у разьвіцьці новага часу XIV і XV вв. пасьля нараджэньня хрыста, пятае—XVI».

Такую аналёгію між культурамі эўропэйскай і грэцкай устанаўляе Эд. Мэйер у кнізе «Экономическое развитие древности».

У гэтай аналёгіі ляжыць глыбокі сэнс. Як у Грэцыі, так і ў Эўропе пачынае разьвівацца гандлёвы капіталізм, пацягнуўшы за сабой зьмены ўсёй сацыяльнай структуры, а таксама і сьветапогляду.

Што-ж робіцца з формай мастацкага стылю, у чым адбываюцца зьмены? Першае і асноўнае—зьмяняецца сыстэма афармленьня. Падыход мастака да выяўленых рэчаў процілеглы культуры фэўдальнай. Рэчы, перад тым як іх выявіць у мастацкім вобразе, вывучаюцца. Адбываецца паказанае вышэй набліжэньне мастацтва да рэчы. У мастацтве распрацоўваецца цэлы шэраг проблем [1]).

Проблема руху, проблема аб'ёмнай формы, проблема прасторы ды іншыя—усе гэтыя проблемы вырашаюцца ў мастацтве з дапамогай вывучэньня сьвету. Скульптар у веку да нашай эры Мірон распрацоўвае

[1]) Тут мне хацелася-б паказаць, што мастацкія проблемы сапраўды існавалі і існуюць як зусім усьвядомлены самымі мастакамі факт. Гэта паказваецца таму, што шмат хто ўпэўнівае нібы мастацкія проблемы выдуманы формальнай школай мастацвазнаўства. Формальная школа толькі ўсьвядоміла гэтыя проблемы і выкрыла іх.

праблему руху і ў гэтым нас упэўніваюць творы, якія прыпісваюцца яму, як: Дыскобол і групавая кампазыцыя Атэны і Марсія. Асабліва характарна фігура Дыскобола, дзе няма ўжо ранейшай фронтальнасьці і застыгласьці. Уся фігура жыве ў часе і ў мімалётнай напружанасьці. Другі скульптар пэлёпонскай школы ў V веку Поліклет піша трактат «Канон чалавечага цела», дзе стараецца ўстанавіць закон формы чалавечага цела. Поліклет шукае сярэдняе між усімі адхіленьнямі ў чалавечых фігурах. Свае вынаходкі ён аформіў у скульптурнай фігуры «Коп'еносца» (ці т. зв. Дорыфора), якая была школай для цэлага шэрагу грэцкіх скульптараў IV в. да нашай эры. Экспэрымэнтальны мэтод у мастацтве асабліва характэрны ў творчасьці Поліклета. У наступныя сталецьці мы бачым паглыбленьне гэтага працэсу. У малярстве V веку да нашай эры адбываецца цэлы пераварот. Аполёдорам Атэнскім упяршыню ўводзіцца сьветацень. Чалавечая фігура на выяўленьні паказана не орнамэнтальна-дэкарацыйна, ня лінейна, як гэта мы бачым у фэўдальных культурах, а аб'ёмна-датыкальна ці фізыопластычна. Ня толькі фігура чалавека мысьліцца ў выяўленьні аб'ёмна-датыкальна, так мысьляцца ўсе рэчы. Калі выяўленьне рэчаў і людзей у мастацтве фэўдальных фігур жыло абстрагаваным жыцьцём, дык фігуры і рэчы, пачынаючы з гандлёва-гарадзкой культуры, жывуць рэальным жыцьцём. Грэцкія маляры ведаюць пэрспэктыву і ў тэатральных дэкарацыях ужываюць яе. Трэцяя прастора—глыбіня—вось яшчэ адзін шлях набліжэньня мастацтва да рэчы. Калі пералічаныя праблемы ў пачатку VI веку ставяцца ня сьмела, дык у V і IV вв. мастацтва аддае ім чуць не галоўную ўвагу. Архаіка Грэцыі стварае застыглую фігуру, V в. стварае фігуру ў часе вечна зьменную, ці, іначай сказаць, ад кожнай можна чакаць зьмены. Гэомэтрычнаму і чорна-фігурнаму стылю вазавага малярства супроцьпаставіцца малярства сьветла-ценявое, аб'ёмна-датыкальнае. Калі разглядзець далейшае разьвіцьцё грэцкага мастацтва—IV век, эліністычнай эпохі, рымскае мастацтва, дык мы можам заўважыць, што аснова творчай сыстэмы застаецца тая-ж, г. зн. вывучэньне праз практыку ўсяго, што выяўляецца. Да ўсіх формальных проблем, паказаных вышэй, дадаецца шэраг іншых. Так, напрыклад, Лізіп прыдворны скульптар Аляксандра Македонскага, заняты распрацоўкай так званай накрыжляжачай кампазыцыі (ці хіастычнай), дадаючы да гэтага яшчэ псыхолёгізм; проблема руху, зьвязаная з патосам, распрацоўваецца скульптарам Скопасам. Усе гэтыя проблемы ў эліністычную эпоху ў Александрыі, Пэргаме і Радосе атрымліваюць канчатковае вырашэньне. Мы ведаем цяпер, што эліністычная эпоха перажыла стыль бароко і рококо. Нам вядома, што малярства канца эліністычнай эпохі блізкае да імпрэсыянізму. Усе гэтыя зьмены толькі ўпэўніваюць нас у тым, што сыстэма творчасьці не зьмянялася, але паглыблялася па шляху набліжэньня мастацтва да рэчы. Сыстэмай стварэньня мастацкага твору застаецца практыка; зьмяняецца толькі афарбоўка, але ня форма фізыопластычнага тыпу мастацкага стылю. Калі

мастацкі стыль ёсьць ні што іншае як агульнасьць мастацкіх форм, дык ясна, што гэта агульнасьць створана ўсёй сыстэмай творчасьці. Такой сыстэмай быў эмпірызм, які пачаўся з VI веку да нашай эры і скончыўся з канцом Рымскай імпэрыі.

Гістарычнае разьвіцьцё мастацтва на працягу цэлых тысячагодзьдзяў становіць сабою зьмену тыпаў мастацкіх стыляў. Ідэоплястычны зьмяняецца фізыоплястычным і г. д. Таксама як зьмяняюцца грамадзкія формацыі, цэлыя вялікія культуры, так адбываецца і ў зьмене мастацкіх стыляў. Грэцкая культура, стварыўшая дзівосныя мастацкія каштоўнасьці, зьмяняецца ў эпоху эліністычнай і рымскай. Апошнія-ж, з тымі ці іншымі зьменамі, захоўвалі мастацкую аснову, атрыманую ад грэкаў. Зьнішчэньне Рымскай імпэрыі і перамога хрысьціянства азначала зьмену, як формы чалавечага мысьленьня, так і формы мастацтва. Усе жывыя, органічныя (фізыоплястычныя) формы, атрыманыя Візантыяй ад грэка-рымскай культуры, паступова касьцянеюць, ператвараючыся ў ідэоплястычныя. Заміраньне органічных форм эліністычнага мастацтва асабліва яскрава мы можам назіраць на візантыйскім орнаманце і на мозаіках. Грэцкі жывы аканф у орнамэнце становіцца сухім і мёртвым, фігуры на мозаіках набываюць фронтальнасьць, закаванасьць і жывуць па-за рэальным сьветам і па-за часам. Асабліва паказальныя ў гэтых адносінах Равенскія мозаікі. Імпэратар Юстыніян і яго жонка Хвядора з дваровымі зьяўляецца прыкладам пачатку ідэоплястычнага стылю. У галовах Юстыніяна і Хвядоры яшчэ ёсьць водбліск рымскага натуралізму, а рэшта трактуюцца ў другім стылі. У ідэоплястычным стылі вытрыманы фрэскі, якія захаваліся да нас ад візантыйскай культуры на Балканскай поўвысьпе і часткай у Малой Азіі. Гэты-ж стыль перайшоў у XI і XII в. в. і на глебу старой Русі. Процэс усюды адзін і той-жа. Рост фэўдалізму азначаў і рост ідэоплястычнага стылю замест фізыоплястычнага грэцка-рымскай культуры. Вышэй мной разгледжаны характар скульптуры і малярства романскага стылю і раньняй готыкі, як мастацкіх стыляў фэўдальнай культуры. Тып мысьленьня, прасякнуты рэлігіяй, патрабаваў выяўленьня вобразаў сьвятых па-за часам і прасторай, па-за рэальнай рачаіснасьцю. Паступова, у процэсе доўгага разьвіцьця, экономічная аснова фэўдалізму зьнішчаецца гандлёвым капіталізмам. Для Эўропы процэс паступовага разьвіцьця гандлёвага капіталізму адносіцца да XIV, XV, XVI вв. Рост гарадоў, рост гандлёвай буржуазіі і рост памены—вось тыя харктарныя рысы, якія могуць быць заўважаны ў экономічна-соцыяльнай структуры. Разам з гэтай зьменай адбываецца зьмена і ў мысьленьні. Догматычна-схолястычнае мысьленьне фэўдальнай культуры паступова зьмяняецца больш жывымі і больш паглыбленымі адносінамі да рэчаіснасьці. Калі ў эпоху сярэднявечча веды падпарадкаваліся рэлігіі, дык з XIV—XV вв. веды ўсё больш адасабляюцца ад рэлігіі і шукаюць шляхам практыкі сапраўднасьці. Процэс адасабленьня ведаў ад рэлігіі мы асабліва яскрава назіраем на паступовым разьвіцьці эўро-

пэйскай філёзофіі. Ужы Рожэр Бекон (1274—1308 г.) больш аддае ўвагі прыродазнаўству і матэматыцы, чым тэолёгіі. На працягу XV, XVI і XVII вв. цэлы шэраг філёзофаў б'ецца над проблемай адасабленьня ведаў ад рэлігіі. Практыка становіцца шляхам праўдзівасьці. Такі-ж процэс адбываецца і ў мастацтве. Ідэопластычны стыль фэўдальнай культуры, які грунтаваўся на рэлігіі, пачынае замяняцца стылем фізыопластычным, аснова якога—вопыт. Зноў адбываецца набліжэньне мастацтва да рэчы, што мы і назіралі ў Грэцыі і чаго ня было прыкметна ў эпоху сярэднявечча. Італія, дзе раней за ўсё разьвіўся гандлёвы капіталізм, зьяўляецца краінай, дзе раней за ўсё мастакі пачалі вывучаць рэальны сьвет для сваёй творчасьці. Мастак Джото здаецца нам першым піонэрам фізыопластычнага тыпу мастацтва ў эўропэйскай культуры. Джото ў XIV веку першы распрацоўвае аб'ёма-датыкальную форму, ён першы сьвядома распрацоўвае прынцыпы рытмічнай композыцыі; яго фігуры пачынаюць жыць рэальным жыцьцём, у творчасьці Джото мы бачым зьдзейсьненай проблему адзінства дзеяньня і псыхолёгічнага ажыўленьня пэрсонажаў. Прастора ў яго малюнках базуецца на практыцы без прыстасаваньня тэорытычных угрунтаваньняў. У Джото яшчэ многа ёсьць ад ідэолістычнага стылю, як схэматызм, абагульненасьць і другія рысы, але ўсё-ж ён зьяўляецца пачынальнікам фізыопластычнага стылю, бо ён першы паставіў цэлы шэраг проблем, над якімі на працягу XV і XVI вв. будуць працаваць мастакі з дапамогай практыкі і навуковага вывучэньня.

У кнізе «Социология искусства» ў разьдзеле 10 на старонцы 103 Фрычэ, разглядаючы нараджэньне рэалістычнага мастацтва ў Эўропе, супроцьпаставіць творчасьці Джото і Фра-Анджэліка, як прадстаўнікоў XIV веку—мастацтву XV веку Італіі. Ён гаворыць наступнае: «Мастакі трэчэнто XIV веку, як Джуто, як Фра-Анджэліко ў сваіх рэлігійных малюнках-абразох, выяўлялі вядомую ідэю—ідэю хрысьціянскай рэлігіі, ня імкнучыся ні да індывідуалізацыі вобразаў, ні да портрэтнага падабенства, ні да таго, каб выяўлены імі сьвет быў як-бы паўтарэньнем сапраўднага сьвету, каб іх выяўленьні давалі ілюзію рэальнасьці. У XV веку адбываецца ў італьянскім мастацтве тая-ж стылістычная рэволюцыя, якая ў Грэцыі мела месца ў пачатку V веку».

Такое-ж супроцьпастаўленьне нам здаецца няправільным па цэламу шэрагу меркаваньняў. Там, дзе мы бачым пачатак рэалістычнага стылю, Фрычэ бачыць ідэопластычны стыль. Думаецца, што больш правільна было-б супроцьпаставіць пачаты рэалістычны стыль Джото мастацтву візантыйскаму (якое ў той час у Італіі было моцнае) і романскаму. Што-ж да індывідуальнасьці і портрэтнага падабенства, якіх няма ў Джото і Фра-Анджэліка, дык, паводле нашай думкі, гэтага яшчэ мала, каб адносіць іх да ідэопластычнага стылю. Джото і Фра-Анджэліка не зьяўляюцца яшчэ мастакамі тыпова-рэалістычнымі, але ў асобе іх мы бачым наватараў новага стылю—рэалістычнага (фізыопластычнага), якія ства-

раюць аб'ёмна-датыкальную форму, большую прастору, а таксама зусім сьвядома абдуманую адзіную композыцыю. Усё гэта пераконвае нас больш, чым портрэтнасьць ці індывідуалізацыя твору ў іх творчасьці, што яны першыя пачынаюць вывучаць сьвет.

Каб не зьвяртацца ў далейшым да памылковага 10 разьдзелу ў працы Фрычэ, я хачу паказаць яшчэ на адзін факт. Разглядаючы пачатак рэалістычнага стылю на поўначы Эўропы—у Нідэрляндах, Фрычэ зноў паўтарае няправільныя супроцьпастаўленьні. На 105 старонцы мы знаходзім наступныя думкі: «Тая-ж зьмена ідэалістычнага стылю рэалістычным паўтараецца ў голяндзкім мастацтве між XV—XVII вякамі. Тымчасам як у малярства XV в. у братоў ван-Эйк, Мэмлінга ды іншых ужо прабіваецца скрозь умоўнае выяўленьне хрысьціянскіх багоў і сьвятых, рысы рэалізму ў форме портрэтнасьці фігур ці пэйзажаў, у голяндзкім малярстве XVII веку рэалізм сьвяткуе поўную перамогу. Выяўляць будзённае зямное жыцьцё з максымальнай дакладнасьцю і з шырокім ахопам яго зьяў—вось задачы, якія ставілі сабе голяндцы XVII веку».

Супроцьпастаўленьне няправільнае ўжо па аднаму таму, што творчасьць братоў ван-Эйк, асабліва Яна становіць самы яскравы прыклад рэалістычнага стылю, нават больш натуралістычнага. Як на яскравы прыклад фізыяплястычнай трактоўкі аголенага цела варта паказаць толькі на фігуры Адама і Евы з Гецкага аўтара. Ды й увесь Гецкі аўтар ёсьць прыклад самага яскравага фізыяплястычнага стылю. Да гэтага часу яшчэ застаецца некаторай загадкай такая рэзкая зьмена ў мастацкім стылі, як гэта мы назіраем у творчасьці братоў ван-Эйк. Будзённаму, зямному жыцьцю аддана ўся творчасьць Яна-ван-Эйка і Мэмлінга. Ніводным словам Фрычэ не гаворыць аб малярстве і скульптуры романскага стылю і раньняй готыкі, каб менавіта гэтым стылем, як ідэаплястычным, супроцьставіць рэалістычны стыль братоў ван-Эйк і Мэмлінга. Што-ж да голяндзкага мастацтва XVII веку, дык нам яно ўяўляецца паглыбленьнем ужо той сыстэмы творчасьці, асновы якой распрацавалі ў XV веку браты ван-Эйк. Пасьля гэтага адхіленьня мы працягваем разгляд нашай тэмы.

Творчасьць Джото стварае аснову фізыяплястычнаму стылю. Разам са зьменай гносэолёгічнага падыходу да рачаіснасьці зьмяняецца і сыстэма стварэньня мастацкага твору. XV век у італьянскім і паўночнаэўропэйскім мастацтве ёсьць век паступовага заваяваньня мастакамі рэчаіснасьці для больш дакладнага выяўленьня апошняй. Сыстэма творчасьці распрацоўваецца з навуковай дакладнасьцю. Высоўваецца цэлы шэраг проблем для захаваньня магчыма дакладнага выяўленьня рэчаістасьці. Проблема ўладаньня правільным выяўленьнем прасторы нараджае навуковую пэрспэктыву. Пэрспэктыве вучацца ўсе, хто хоча стаць мастаком. Пэрспэктыва становіцца навукай, патрэбнай для стварэньня эстэтычных каштоўнасьцяй у выяўленчым мастацтве. Мазачыо першы ўнёс прынцыпы навуковай пэрспэктывы ў малярстве. У «Кнізе аб малярстве» Леонардо-да-Вінчы для нас ёсьць вельмі каштоўнае прызнаньне: «І сапраўды маляр-

ства ёсьць навука і законная дачка прыроды ці, гаворачы больш дакладна, яе ўнучка, таму што ўсе бачаныя намі рэчы народжаны прыродай, і з іх узьнікла малярства». Выяўленьне аголенага цела чалавека вядзе мастакоў, захопленых вывучэньнем, на шлях анатоміі. Анатомія сваім разьвіцьцём шмат абавязана італьянскім мастаком. Мастакі прэпаруюць трупы, вывучаючы мускулатуру, пішуць цэлыя досьледы аб анатоміі, аб прапорцыях чалавечага цела і верх дасягненьняў—вынаходка чалавечага крывабегу Леонарда-да-Вінчы. «Мастак павінен мець веды аб «касьцёх» і г. д. У другім месцы: «І таму я раю табе вывучаць анатомію цягліц, жыл і касьцей, бо бяз гэтых ведаў ты мала чаго зможаш зрабіць—гаворыць Леонардо ў тэй-жа «Кнізе аб малярстве». А. Дзюрэр у Нямеччыне піша, пад уплывам італьянцаў, падобна Поліклету «чатыры кніжкі аб чалавечых пропорцыях». Проблема композыцыі для мастакоў становіцца навуковымі вынаходкамі матэматычных адносін. Леонардо карыстаецца пры композыцыі гэомэтрычнымі формуламі. Гэта прыстасаваньне мы можам бачыць на вядомых нам карцінах і малюнках Леонардо, Рафаэля, Мікель Анджэла і цэлага шэрагу іншых. Проблема сьвятла і цені мяжуецца з оптычнымі вынаходкамі. Ніколі эўропэйскае мастацтва ня было так насычана навуковасьцю і практычным падыходам да рачаіснасьці, як у эпоху адраджэньня (Рэнэсанс).

Добра характарызуе В. Гаўзэнштэйн у адным месцы гносэолёгічную аснову Рэнэсансу: «Агульнай уласьцівасьцю выяўнікоў духу Рэнэсансу да вядомай ступені зьяўляецца рацыянальная перамога над быцьцём. Спыняецца сярэднявяковая дваістасьць; чалавек высока разьвітога буржуазнага сьвету ганарыцца сваім разуменьнем сутнасьці рэчаў. Ён пазнае законамернасьць жыцьця розумам, з насьмешлівай перавагай, амаль з гіроніяй, і з прычыны таго, што розум так шмат паслужыў яму ў справе вызваленьня душы, ён узвышае яго да ролі распарадчыка ўсяго жыцьця» «Искусство и общество» (стар. 108).

Рацыяналізаваньне проблемы формы адбываецца па лініі навуковага вывучэньня і вырашэньня ўсіх мастацкіх проблем, паказаных вышэй, як: проблема прасторы, композыцыі, агаленьня чалавечых фігур, сьветацені і інш, якія і стварылі мастацкую форму. Рэнэсанс, пачынаючы з Джото, стварае на зьмену сярэднявяковаму фэўдальнаму ідэопластычнаму стылю—стыль фізыопластычны. У далейшым у эўропэйскай культуры, ня гледзячы на зьмену розных стыляў, эмпірычная аснова стварэньня твораў мастацтва застаецца тая-ж. Малюнак разьвіцьця мастацкіх стыляў эўропэйскай культуры ў шмат чым аналёгічны антычнаму сьвету. Маючы ў аснове сыстэмы творчасьці практыку вывучэньня рачаіснасьці з XIV і XV в. в., мастакі аздаблялі толькі па-рознаму мастацкую форму тымі ці іншымі водценьнямі перажываньняў. Ці будзе гэта спакойная клясыка, ці патэтычнае мастацтва бароко, ці эротычнае мастацтва стылю рококо, ці ўсе плыні мастацтва XIX і пачатку XX в. в., пачынаючы ад клясыцызму і канчаючы імпрэсыянізмам,—аснова сыстэмы стварэньня мастац-

кай формы тая-ж самая, зьмяняецца толькі псыхолёгічная афарбоўка і зьмест пад уплывам тых ці іншых грамадзкіх перагруповак.

Фізыопластычны стыль у расійскім мастацтве пачынаецца з творчасьці Сымона Ушакова ў канцы XVII веку. У абразох Ушакова мы назіраем зьяўленьне аб'ёмна-датыкальнай формы. Орнамэнтальна-дэкарацыйная форма ранейшага абразапісу страчана. У XVIII веку чужаземныя мастакі і расійскія портрэтыстыя канчаткова замацавалі фізыопластычны стыль малярства. На працягу XIX веку і пачатку XX разьвіцьцё мастацтва ідзе на тэй-жа эмпірычнай аснове, як і на Захадзе. Зьмена акадэмізму школай «передвижников», а потым апошніх «мир искусством» не зьмяняе асноўнай сыстэмы стварэньня мастацкай формы, г. зн. вывучэньня форм рэчаіснасьці. У Віцебскім музэі ёсьць больш дзесятка цікавых драўляных скульптурных фігур, узятых з цэркваў. Уважлівы разгляд гэтых фігур наводзіць мяне на думку, што ў беларускім мастацтве можна бачыць тыя-ж два стылі. Гэта-ж адносіцца і да некаторых твораў малярства ў гэтым-жа музэі. Ад якіх-небудзь абагульняючых вывадаў я ўстрымліваюся, паколькі многа яшчэ ня вывучана, але зьвярнуць увагу на старыя помнікі беларускага выяўленчага мастацтва, у якіх можна ўбачыць ідэопластычны і пачатак фізыопластычнага стылю, даўно час.

У мастацтве нашых дзён, як у Савецкім Саюзе, так і на Захадзе мы можам назіраць барацьбу фізыопластычнага і ідэопластычнага стыляў. З першага дзесяцігодзьдзя XX в. у так званых левых плынях вывучэньне рэальнай сапраўднасьці для выяўленьня ў мастацтве моцна крытыкуецца. Мы сустракаем усё часьцей і больш упарта тую думку, што час мастаку вызваліцца з-пад форм прыроды і што мастацтва можа абыйсьціся ў сваім выяўленьні і бяз рэальных форм прыроды, зьяўляючыся сродкам выражэньня духоўнага перажываньня мастака. Усе заваяваныя мастацкія проблемы з эпохі Рэнэсансу падупадаюць крытыцы, а часам зусім адмаўляюцца. Адным з першых наватараў, якія парвалі сувязь з рэальным вобразам рачаіснасьці ў духу фізыопластычнага стылю, зьяўляецца францускі мастак Пікасо. Ён першы на сваіх палотнах launches пераўтварыў прадмет з аб'ёмна-датыкальнай формы ў орнамантальна-дэкарацыйную. Гаворачы аб гэтым, я маю на ўвазе творы Пікасо, якія знаходзяцца ў Маскве, у першым музэі новага заходняга мастацтва (былая Шчукінская галерэя). Як-бы ні адносіцца да творчасьці Пікасо, але ідэопластычны стыль яго—відавочны. Аб новым падыходзе мастацтва да рачаіснасьці гаворыць творчасьць цэлага шэрагу іншых мастакоў.

У творчасьці Поля Гогена, Ходлера, Маціса на Захадзе і ў Пятрова-Водкіна ў расійскім мастацтве назіраем мы пераход маляўнічых форм ад фізыопластычнага да ідэопластычнага стылю. Орнамэнтальна-дэкарацыйныя формы пачынаюць гаварыць аб творчасьці паказаных мастакоў усё больш пераканальнай моваю. Прадмет выяўляецца не рэальна, не фізыопластычна, а падпарадкаваны ў сваім выяўленьні вядомай, а іншы раз

даволі моцнай, стылізацыі. Адлеглясьць між мастацтвам і рэччу зноў павялічваецца.

З сучасных мастацкіх плыняй на Захадзе ў нямецкім экспрэсыянізьме і ў Францыі ў мастацкай плыні пурызму мы назіраем, як розна адбываецца аддаленьне мастацтва ад прадмету. Педрабязна спыняцца на гэтым пытаньні я ня буду. Той, хто зацікавіцца гэтым, няхай зьвернецца да нашага артыкулу, зьмешчанага ў часопісу «Полымя» за 1927 г. № 8 «Сучасныя мастацкія плыні і машына». Трэба толькі адзначыць, што ў шмат чым ідэоплястычны стыль у сучасным мастацтве абавязаны машыннай тэхніцы. Агульныя прынцыпы індустрыяльна-тэхнічнай эстэтыкі, як: конструкцыйнасьць форм і мэтазгоднасьць зрабілі надта моцны ўплыў і на выяўленчае мастацтва. Як-бы ні адносіцца да сучасных левых плыняй у мастацтве, але трэба прызнаць, што яны шмат чаго далі сучаснаму мастацтву. Многа з таго, што лічылася вар'яцтвам, цяпер скарыстана як каштоўнае заваяваньне. Для пацьверджаньня я пакажу на адну галіну вобразнага мастацтва, дзе скарыстоўваюцца шмат якія проблемы, распрацаваныя левымі плынямі. Я маю на ўвазе сучасны плякат, які вырас, як дзіця сучаснай індустрыяльна-гарадзкой культуры. Росквіт плякату, які адбываецца на нашых вачох, упэўнівае нас, што ідэоплястычны стыль з кожным днём атрымлівае вялікія посьпехі. Я гавару ідэопляістычны таму, што сутнасьць плякату менавіта ў ідэоплястычным стылі. У гэтым пераконвае нас невялікая гісторыя плякату. Формы плякату, паколькі яны ўсьвядомлены сучаснымі мастакамі, орнамантальна-дэкорацыйныя і на гэтай глебе базуецца сутнасьць плякатаў, як выяўленчага мастацтва нашых дзён. Пры гэтым трэба адзначыць, што плякат у сваёй масавай вытворчасьці зьвязаны з машынай».

Шмат якасьці ўнесла-б у сучасныя спрэчкі аб мастацтве здаровае ўсьведамленьне дзьвёх сыстэм мастацкай творчасьці, разгляду якіх прысьвечаны гэты нарыс. У нашы дні мы назіраем адначасовае існаваньне дзьвёх сыстэм творчасьці, а значыць і двух стыляў. Фізыоплястычны і ідэоплястычны стыль існуюць роўналежна. Які з іх атрымае перамогу? Пытаньне, якое вырашыцца ў будучыні. В. Гаўзэнштэйн у сваіх працах аб мастацтве трымаецца погляду, што таксама, як будучая грамада будзе колектывістычнай, таксама і мастацкі стыль гэтай грамады будзе орнамэнтальна-дэкорацыйны. З гэтым, напэўна, можна згадзіцца.

Пастаноўка пытаньня аб ідэоплястычным і фізыоплястычным стылях паказвае, як у вырашэньні, здавалася-б, прыватнага і даволі спэцыяльнага пытаньня, на матар'яле гісторыі мастацтва можна ўсьвядоміць сутнасьць мастацкай формы і зьместу як далёкіх ад нас культур, так і мастацтва сёньнешняга дня, з якім мы жывем.

# КНІГАПІС

**Ян Скрыган. Новая зямля (пра ардель „Бальшавік"). Выд. Наркамасьветы і Ц.Р.Т-ва „Прэч няпісьменнасьць"**. Менск 1929 г. 40 стар.

**Ул. Паскрэбка—Трактар будзіць раньее.** Белдзяржвыдавецтва. Менск 1929 г. 68 стар. Цана 10 кап.

Апошнія гады мы прысутнічаем пры значным росквіце беларускай літаратуры і асабліва прыемна адзначыць, што расьце і мацнее яе пролетарская частка. Поэты і пісьменьнікі пераходзяць да буйных твораў. Раманы, поэмы, аповесьці—вось сёньнешняя продукцыя беларускай літаратуры.

Але поруч з гэтым жыцьцё акрэсьлена ставіць пытаньне аб новым, амаль не закранутым у нас жанры—пытаньне аб мастацкім нарысе.

Шырокія кругавіды нашага будаўніцтва, вялізарныя дасягненьні, упартасьць рабочае клясы ў барацьбе за індустрыялізацыю краіны, соцыялістычнае спаборніцтва, калгаснае будаўніцтва—усё гэта патрабуе пэўнага адлюстроўваньня. І адлюстроўваньня ня толькі ў форме тыпізаванага паказу гэтага жыцьця, але і ў форме мастацкага нарысу, які дае не індывідуальную псыхолёгію, ня драму асобы, а факты грамадзкага жыцьця.

На старонках нашага друку высоўваецца цэлы шэраг здольных таварышоў, якія працуюць над нарысам: М. Гольдбэрг, Каліта, Ц. Зарэчны, Я. Паўлоўскі і інш. Але паасобным выданьнем выйшла толькі кніжка М. Гольдбэрга «Пабягуць слупы». Ня гледзячы на вельмі прыхільнае спатканьне крытыкай, яна ўсё-ж да апошняга часу зьяўлялася адзінай ластаўкай гэтага жанру.

Дзьве кніжкі, якія разглядаюцца зьяўляюцца спробай у форме нарысаў пазнаёміць чытача з сучасным калгасным рухам.

Першая з іх належыць белапрпаўцу Я. Скрыгану (Відку), які вядомы як прозаік (зборнік апавяданьняў «Затока ў бурах»). Другая—газэтнаму работніку У. Паскрэбку, які працаваў сёлета з выязной рэдакцыяй «Савецкай Беларусі» ў акругах і здолеў добра пазнаёміцца з жыцьцём калгасаў.

Кніжачка Скрыгана прысьвечана арцелі «Бальшавік», што на Меншчыне. Перад вачыма чытача паўстаюць рэальныя людзі нашага Сёньня. Аўтар апавядае, як 8 сем'яў парабкоў на руінах старога панскага гнязда заклалі калгас. З нязначнай маемасьцю прыйшлі яны туды. Мелася ўсяго 1 конь ды 7 кароў. Ці як кажа Скрыган: «увесь жывы і мёртвы інвэнтар членаў складаўся з 1439 р.» (стар. 8).

Але дзякуючы ўпартай працы і дапамозе ўлады, дзякуючы цьвёрдай веры ў перамогу, змагары «Новае зямлі» дабіліся лепшага жыцьця. Сёньня «Бальшавік» ужо «мае 2 жняяркі, 2 касаркі, радавыя і расьпныя сеялкі, бораны, драпачы, малатарню, што разам і малоціць і арфуе, і трактар «Фордзон» (стар. 12). Замест ранейшых 7 кароў сёньня ўжо іх 55 штук. Значна ўзрос і асноўны капітал. Калі ў 1924 г. ён быў 1439 руб., то ў 1928 г. 21.354 руб. Чысты леташні прыбытак быў 6.174 руб.

Толькі калгас змог даць беларускай вёсцы цэлы шэраг новаўводзін у працы і побыце. Чаго варты сьвінух, аб якім аўтар кажа на стар. 13—14. Чысты, з цэмэнтовай падлогай, з спэцыяльнай кухняй ён сусім ня вяжацца з ранейшым уяўленьнем аб вёсцы.

Малюнкі працы, працы колектыўнай, калі замест ранейшых 16—18 гадзін працуюць 8—10 улетку ды 6—7 узімку, запамінаюцца чытачу.

У кніжцы Паскрэбкі «Трактар будзіць раньне» мы маем замалёўкі падарожжа аўтара разам з двума сялянамі в. Гарочыцы (Калінкавіцкі р. Мазыршчына) у комуну імя К. Лібкнэхта (Быхаўскі р. Магілёўшчына).

Мовай лічбаў аўтар паказвае значны рост комуны «За 10 год комуны, дзе мы былі, на 200 душ мае 100 тысяч рублёў накапленьня» (стар. 11). Гэта комуна, як лікам членаў, так і аб'агульненьнем усіх сродкаў жыцьця і вытворчасьці стаіць вышэй за «Бальшавік». Вялікая добра-наладжаная гаспадарка, сад з тысячай дрэваў, гадавальнік на 10.000 сажанцаў яблынь і груш, 3 трактары, паравы рухавік.

Некалькі дзён побыту сялян, якія ня зусім веручы прыехалі ў комуну паглядзець і павучыцца, пададзены аўтарам досыць яскрава. Трапна падмечана рыска сялянскае псыхалёгіі ня верыць на словы, а самому паглядзець і памацаць.

Перад чытачом праходзіць пачатак рабочага дню, калі «трактар будзіць раньне», далей разгортываецца рабочы дзень з усімі яго разнастайнымі праявамі. Дадзены і шэраг лічбаў, якія падмацоўваюць дасягненьні комуны.

Апошні дзень свайго побыту сяляне разам з аўтарам аддалі азнаямленьню з гісторыяй комуны. З вуснаў старога комунара Рыгора яны пачулі звычайную і ў той-жа час глыбока захапляючую гісторыю змаганьня за зямлю, змаганьня за новыя формы землякарыстаньня.

Гэты пераход бядняцкіх і серадняцкіх пластоў сялянства да новае гаспадаркі спатыкае шалёны адпор з боку кулацтва. Падпалы, забойствы з-за вугла звычайная форма барацьбы з іх боку. Перайшлі цераз гэта як «Бальшавік» (стар. 9), так і комуна К. Лібкнэхта (стар. 60).

Асаблівасьць рэцэнзуемых нарысаў гэта іх мэтаімкненасьць. Тут мы маем не апісаньне з «вакна вагону» ці нагляданьні паміж іншым у часе летняга адпачынку на вёсцы.

Аўтары наглядаюць за жыцьцем калгасаў не для таго, каб толькі наглядаць. Адчуваецца іх імкненьне перадаць свой настрой захапленьня і чытачу. Яны, праўда, ня згушчаюць фарбаў і ня выдумываюць... Але ўсё-ж адчуваецца некаторае замаўчаньне аб адмоўных (ценявых) баках. Трэба не баяцца расчыняць рэчаіснасьць так, як яна ёсьць. Бо нам трэба дакладна ведаць гэту рэчаіснасьць, ведаць дзе і што ў ей у непарадку, каб лягчэй з гэтым змагацца.

Проблема новых кадраў, кадраў будаўнікоў новае вёскі, сваеасаблівых энтузіястых зусім не зачэплена аўтарамі.

Бязумоўна, гэтыя кніжкі прынясуць пэўную карысьць.

Неабходна, каб нашы пісьменьнікі ўзяліся за гэты патрэбны і ўдзячны жанр. Мы ведаем, што цэлы шэраг поэтаў і пісьменьнікаў сёлета былі на заводах і фабрыках, у калгасах, на Сталінбудзе, на Мар'інскіх балотах. Неабходна сваімі ўражаньнямі аб новым жыцьці, аб новых людзях, якія твораць гэта жыцьцё, падзяліцца з працоўнымі масамі.

**Мік. Аляхновіч.**

**Контрольные цифры народного хозяйства СССР на 1929—1930 год.** *Стр. 565. Тир. 1.000. Издательство „Плановое хозяйство“. Цена 6 руб.*

Кантрольныя лічбы народнай гаспадаркі СССР на 1929-30 г.—народа-гаспадарчы плян, на другі год пяцігодкі — дакумант выключнага зна-

чэньня. Пяты раз складаюцца і публікуюцца ў Савецкім Саюзе кантрольныя лічбы. Аднак, адлегласьць, якая аддзяляе першыя кантрольныя лічбы Дзяржпляну Саюзу — на 25-26 гас. год ад апошніх—дыстанцыя вялікага разьдзелу. «Юбілейныя» кантрольныя лічбы паказальна падсумоўваюць работы па плянаваньню народнай гаспадаркі і ў пэўнай меры замыкаюць цэлую паласу гаспадарчага разьвіцьця Саюзу. Нават знадворна, кантрольныя лічбы на другі год пяцігодкі істотна адрозьніваюцца ад першай нясьмелай спробы плянаваньня на год наперад—заместа шчуплай брошуркі невялікага памеру вялікі том больш за 35 друкаваных аркушаў з больш чым 100—статыстычнымі табліцамі.

У прадмове да кантрольных лічбаў Г. М. Кржыжаноўскі падкрэсьлівае, што «другі год пяцігодкі зьяўляецца і па размаху сваіх колькасных паказальнікаў і па тых запатрабаваньнях, якія прад'яўляюцца ім да якасьці ўсіх галін народнай працы, выключным, хрыбтовым годам». Запраўды кантрольныя лічбы на 29-30 г., складзеныя на падставе зацьверджанага пэрспэкцыйнага пляну народнай гаспадаркі, даюць надзвычайную па сваей глыбіні праграму работы на год уперад. Тут ня месца колькі-небудзь поўнай характарыстыцы багатага зьместу народа-гаспадарчага пляну на другі год пяцігодкі. Мы можам толькі прывесьці асноўныя становчыя паказальнікі—дырэктывы.

У галіне дзяржаўнай буйнай прамысловасьці кантрольныя лічбы намячаюць 32 проц.—уздым валавой продукцыі (у т. л. 45 проц. па вырабу сродкаў вытворчасьці), 25 проц. падняцьця прадукцыйнасьці працы. 11-процантн. зьніжэньне сабекошту. Праграма будаўніцтва прамысловасьці выражаецца ў суме 3,4 млрд. руб. супроць 2,3 млрд. руб. пяцігодкі. Разгортваецца будаўніцтва такіх волатаў, як Дняпроўскі электра-прамысловы комбінат, Магнітагорскі мэталюргічны завод. Ніжагародзкі аўтозавод, тры буйнейшых заводы па будаваньню трактараў і г. д. Ня менш значныя заданьні, накіраваныя кантрольнымі лічбамі да сфэры сельскай гаспадаркі. Гэтыя заданьні поўнасьцю адпавядаюць таму гістарычнаму процэсу выкарчоўваньня каранёў капіталізму ў вёсцы, які з выключнай сілай разгортваецца ў сучасны момант. Неабходна адзначыць, што разрахункі кантрольных лічбаў у галіне аграмаджваньня сельска-гаспадарчай вытворчасьці—18 млн. пасяўной плошчы ў соцыялістычным сэктары к канцу 1929-30 г., ужо цяпер вызначаюцца, як пераўменшаныя. У сучасны момант можна ўжо разьлічваць, што да канца 29-30 г. пасяўная плошча соцыялістычнага сэктару ахопіць ня менш 1/3 усяе пасяўной плошчы.

Кантрольныя лічбы даюць даволі конкрэтную і абаснаваную праграму работ ува ўсіх галінах народнай гаспадаркі. З абагульняючых паказальнікаў асаблівай увагі заслугоўвае лічба росту народнага прыбытку. Рост яго ў нязьменных цэнах выражаецца ў выключна высокай лічбе 20 проц. супроць 13—15 проц. уздыму, намечанага пяцігодкай. Нельга не згадзіцца з Г. М. Кржыжаноўскім што «мы, відавочна, неадацэньвалі рэсурсы сваеасаблівых сіл нашай плянавай соцыялістычнай гаспадаркі,—рачавістасьць уносіць паказальную папраўку». Але адзначым, што згодна з разьлікам штогодні рост народнага прыбытку на душы насельніцтва ў ПАЗШ да вайны складаў усяго толькі 1,2 проц. у Прусіі—0,2 проць.; у Англіі—0,0 проц., а ў Францыі нават мінус 0,8 проц.

Ці можа пасьля гэтага ўзьнікнуць сумненьне, што ленінскі лёзунг «дагнаць і перагнаць узровень індустрыяльнага разьвіцьця перадавых капіталістычных краін»—будзе рэалізаваны сапраўды ў «гістарычна мінімальны тэрмін». Выкананьне кантрольных лічбаў на 29-30 гас. год значна паскорыць дасягненьне СССР больш высокага тэхнічна-эканаміч-

нага ўзроўню параўнаўча з найбольш перадавымі капіталістычнымі краінамі.

Далей, з сэрыі абагульняючых паказальнікаў, выключнае значэньне маюць паказальнікі, якія стасуюцца да дынамікі працэсаў аграмаджаньня ў народнай гаспадарцы СССР. Роля прыватнага сэктару ў выніку выкананьня пляну 29-30 г. павінна зазнаць істотнае паніжэньне ўва ўсіх галінах гаспадаркі: у валавой продукцыі прамысловасьці з 15,2 проц. да 11,8 проц., сельскай гаспадарцы—з 98,3 проц. да 96,3 проц., у таварнай продукцыі сельскай гаспадаркі—з 95,3 проц. да 91,0 проц., у гандлёвапасрэдніцкім звароце—з 6,6 проц. да 3,3 проц., у асноўных фондах—з 45,9 проц. да 40,9 проц. і ў капітальных укладаньнях—з 33,4 проц. да 22,7 проц.

Зварочваючыся да характарыстыкі, кантрольныя лічбы на 29-30 г. пабудаваны на базе падрахункаў 1928-29 г.—першага году пяцігодкі. Таму зусім натуральна, што ў іх у якасьці асобнага разьдзелу ўключаны аналіз выкананьня першага году пяцігодкі. Асноўны вывад агляду падрахункаў 1928-29 г. формулюецца наступным чынам: «асноўныя ўстаноўкі пяцігодкі на працягу 1928-29 г.—першага гадавога адрэзку пэрспэкцыйнага пляну—выкананы ў галіне разьвіцьця вытворчых сіл, тэхнічнай рэконструкцыі, індустрыялізацыі і аграмаджаньня» і далей: «Значны рост асноўных фондаў аграмаджаньня сэктару на працягу году, сыстэматычнае пераўзброеньне рабочай клясы, больш рацыянальнае і інтэнсыўнае выкарыстоўваньне абсталяваньня, істотны зрух у тэхнічнай перабудове сельскай гаспадаркі, рост продукцыі прамысловасьці, які перавысіў наметкі кантрольных лічбаў і проэктыроўку пяцігодкі—усё гэта стварае прадпасылкі для паскоранага прасоўваньня наперад у працэсе выкананьня вялікіх і цяжкіх задач, сформуляваных у пэрспэкцыйным пляне».

Значна паўней, чым у кантрольных лічбах папярэдніх гадоў, у цяперашніх кантрольных лічбах прадстаўлены разьдзелы, якія характарызуюць соцыяльную програму пляну. Асаблівую цікавасьць тут мае разьдзел аб народных прыбытках. Урэшце, больш поўнае адлюстраваньне знайшоў у кантрольных лічбах раённы і рэспубліканскі разрэз пляну.

З вялікай колькасьці табліц, якія маюцца ў кантрольных лічбах, асаблівую ўвагу павінна зьвярнуць табліца, якая дае супастаўленьне кантрольных лічбаў на 29-30 г. з пяцігадовым плянам. З прычыны выключнай цікавасьці, якую выклікае гэта табліца, паданы тутака найбольш істотныя паказальнікі.

| | Тэмп росту па пяцігодцы ў 29/30 г. | Намячаецца рост кантрольнымі лічбамі на 29/30 г. |
|---|---|---|
| 1. Вырабка плянаванай прамысловасьці . . . | 921,5 | 32,1 |
| У т. г. лёгкая індустрыя. | 18,1 | 21,9 |
| Цяжкая „ | 26,2 | 45.1 |
| 2. Лік рабочых у плянав. прамысмовасьці . . . | 4,1 | 5,7 |
| 3. Капітальныя ўкладаньні па аграмадж. сэктару | 40,7 | 80,0 |
| У т. г. капітальныя ўкладаньні ў прамысловасьць. . . . . | 40,5 | 90,4 |
| У сельск. гаспадарку . | 71,7 | 146,4 |
| 4. Бюджэт . . . . . | 21,2 | 43.6 |
| 5. Народны прыбытак (у нязьменных цэнах). . | 15,8 | 20,4 |

Табліца гэта не патрабуе камэнтарыяў. Падрахуем. Кантрольныя лічбы на 29-30 г. належаць да катэгорыі такой літаратуры, якая павінна стаць набыткам кожнага актыўнага ўдзельніка нашай вялікай соцыялістычнай будовы. У адносінах да іх можна прыстасаваць вядомае палажэньне аб тым, што сама ідэя ста-

новіцца матарыяльнай сілай, калі яна аўладае масамі. Ідэі, канкрэтна ператорраныя ў уёмістым томе кантрольных лічбаў, павінны быць успрыняты шырокімі масамі. Але самі па сабе зьявяцца буйнейшым фактарам у справе выкананьня народна-гаспадарчага пляну на другі, рашаючы год пяцігодкі.

Вялікім плюсам кантрольных лічбаў на 29-30 г. зьяўляецца таксама своечасовы выхад іх з друку. У мінулым годзе спазьненьне ў пэўнай меры зьменшыла сэнс іхнага публікаваньня (кантрольныя лічбы вышлі з друку толькі ў сярэдзіне 28-29 г.).

Сур'ёзным недахопам кантрольных лічбаў зьяўляецца цана выданьня. Пры тыражу ў 13 тыс. экзэмпляраў цана ў 6 руб. надзвычайна высокая.

Ажыцьцяўленьне дырэктывы аб зьніжэньні цэн павінна было знайсьці сваё адлюстраваньне, раней усяго, па лініі зьдзешаўленьня выданьня кантрольных лічбаў.

**А. Шэйнін.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

Падрыхтаваны да друку зборнік ваенных вершаў поэтаў-белапаўцаў пад назваю «Форпост».

У сэрыі «Мастацкае слова—масам» выходзяць наступныя кніжкі белапаўцаў: В. Каваля, Р. Мурашкі—«1905 год», І. Барашкі—«Рыгор Галота», М. Нікановіча і інш.

Друкуецца зборнік крытычных артыкулаў А. Гародні «На літаратурным фронце».

Іл. Барашка выпускае асобнай кніжкай пераклад поэмы У. Сасюры «ДПУ».

А. Моркаўка здае ў друк зборнік вершаў «Далячынь».

Васіль Каваль скончыў новую аповесьць «Маладосьць».

Прыняты да друку ў БДВ зборнік вершаў Міхася Багуна.

М. Хведаровіч здаў у друк зборнік ваенных вершаў.

Выходзіць у БДВ асобным выданьнем поэма А. Звонака «Загай».

В. Казлоўскі апрацоўвае зборнік сваіх вершаў.

БелАПП рыхтуе да друку колектыўны зборнік вершаў, які мае выйсьці ў сэрыі «Мастацкае слова—масам». У зборніку будзе прадстаўлена творчасьць: А. Александровіча, Паўлюка Труса, Валерыя Маракова, Уладзімера Хадыкі, Юлія Таўбіна, Арк. Моркаўкі, Алеся Звонака, А. Вечара, З. Бандарынай, Сяргея Фаміна, Ізраіля Плаўніка, С. Шушкевіча і Міколы Хведаровіча.

Зборнік выйдзе пад рэдакцыяй т. т. Галавача, Гародні, Аляхновіча, Маракова і Вечара.

Сход Менскай філіі БелАППу, які адбыўся ў канцы лістападу з абурэньнем асуджае выступленьні украінскага поэты Палішчука ў часопісі «Авангард» супроць пролетарскай культуры, якую будуюць мільённыя масы пролетарыяту і працоўных савецкай Украіны з усім Саюзам ССР.

Сход заклікае ўсіх сяброў БелАППу і ўсю савецкую пісьменьніцкую грамадзкасьць да актыўнае барцьбы з усякай праявай клясава варожай пролетарыяту ідэолёгіі на літаратурным фронце, як-бы яна не выступала—ці пад маскай багемшчыны, ці пад маскай пропаведзі абывательшчыны.

Друкуецца кніжка апавяданьняў Сымона Хурсіка—«Шляхамі навальніц».

Е. Пфляумбаум здае ў друк зборнік сваіх вершаў.

С. Шушкевіч падрыхтоўвае да друку зборнік поэзій «Паходні».

БДзВ прыняла да друку зборнік вершаў С. Ліхадзіеўскага.

Менская газэта «Рабочы» (на расійск. мове) выпускае літаратурныя старонкі, прысьвечаныя беларускай пролетарскай літаратуры.

У першых старонках зьмешчаны ў перакладзе творы Мурашкі, Моркаўкі, Хадыкі, Хведаровіча, Нікановіча, Таўбіна, Багуна, Хадкевіча і інш.

В. Казлоўскі падрыхтаваў да друку поэму «Рахіль».

Міхась Лынькоў друкуе другі зборнік апавяданьняў і піша аповесьць пад назваю: «Трыкатаж».

Хвядос Явар падрыхтаваў да друку зборнік апавяданьняў з жыцьця чыгункі пад назваю «Стрэлачнік Мігай»; піша аповесьць «Перarостак»; урывак з ягонага апавяданьня «Іча» перакладзены на яўрэйскую мову.

М. Нікановіч выпускае ў сэрыі «Мастацкае слова масам» два зборнікі апавяданьняў — «Мяцеліца» і «У палявых дарогах».

У сэрыі «Мастацкае слова масам» выходзіць зборнік вершаў Андрэя Александровіча.

У дзень колектывізацыі выяжджалі ў колгасы яўрэйскія пісьменьнікі: у вёску Захады (Меншчына) т.т. Ашаровіч і Кульбак, у Сьмілавіцкі раён т. т. Рубінштэйн, Аксэльрод, Юдальсон і Доўгапольскі.

Ізі Харык рыхтуе да друку збор сваіх вершаў і поэм на 14-15 друк. аркушаў.

М. Кульбак скончыў роман «Сям'я Зямельлянцаў».

У часопісі «Штэрн» (орг. яўр. сэк. БелАППу) зьмешчаны рэцэнзіі Н. Кабакова пра кнігу Я. Ліманоўскага «Над абрывам» і пра № 9 «Маладняка».

У № 8 часопісі «Штэрн» надрукаваны ў перакладзе на яўрэйскую мову вершы Крапівы.

У лістападаўскім нумары «Штэрн» надрукавана поэма П. Труса «Дзесяты падмурак» у перакладзе на яўр. мову М. Ліўшыца і артыкул аб творчасьці П. Труса А. Кучара.

Сябры Гомельскай Філіі БелАППу выпускаюць літаратурную старонку ў «Палескай Праўдзе». Старонка выходзіць два разы на месяц.

У старонках выдрукаваны: вялікае апавяданьне К. Губарэвіча «Шуміць палын», вершы Сяргея Ракіты і іншыя творы маладых рабочых пісьменьнікаў.

Гомельская філія БелАППу выдае літаратурны альманах, у якім будзе зьмешчана лепшая творчасьць белаппаўцаў Гомельшчыны.

З пісьменьніцкага маладняку Бабруйскай філіі вызначаюцца: у поэзіі— Яўхім Кохан, Алесь Жаўрук, В. Кавалёў, Рыгор Суніца; у прозе—К. Уласюк, С. Тодараў.

Усе яны актыўна працуюць і бяруць удзел у дадатку да газэты «Комуніст» «Вясьне».

Бабруйская філія БелАППу разам з рэдакцыяй газэты «Комуніст» абвясьціла конкурс на лепшае апавяданьне з жыцьця сучаснае вёскі і гораду. Апавяданьне павінна мець 6-7 балонак. Акрамя звычайнага ганарару, за лепшыя апавяданьні вызначаны тры прэміі: першая—25 руб., другая—15 і трэцяя—10 руб.

Сябра Амсьціслаўскай студыі БелАППу Аўген Сінякоў напісаў п'есу «На парозе шчасьця», якая будзе пастаўлена ў час сьвяткаваньня студыяй яе пяцігадовага юбілею—у травені м-цы наступнага году.

А. Куляшоў здаў у БДВ зборнік сваіх вершаў.

Сябра Аршанскай філіі БелАППу Аляксееў склаў інсцэніроўку «Кастрычнік», якая 7 лістапада (г.г.) была з посьпехам пастаўлена ў тэатры Горацкай С.-Г. Акадэміі.

У Полацкім Белпэдтэхнікуме організаваўся літаратурны гурток БелАПП. Гурток налічвае 35 асоб.

Магілеўская філія БелАППу падрыхтавала да друку трэці альманах сваёй творчасьці пад назваю «Удар».

На Кастрычнікаўскія сьвяты выяжджалі ў акругі Беларусі поадстаўнікі БелАППу і «Узвышша». Група пісьменьнікаў: ад БелАППу—Мурашка, Звонак, Хведаровіч, Таўбін і Мысьлінскі (польская сэкцыя), і ад Узвышша—т. т. Лужанін і Кляшторны выяжджалі ў Віцебск, дзе зрабілі выступленьні сярод рабочых і студэнцтва і выпусьцілі літстаронку ў газэце «Віцебскі Пролетары».

Другая група—рэдактар «Савецкай Беларусі» т. Шастакоў, ад БелАППу т. т. Вечар, Фамін, Гараўскі (польская сэкцыя) і ад «Узвышша» т. Глебка і Дарожны выяжджалі ў Гомель, дзе выступалі сярод рабочых, чырвонаармейцаў і студэнцтва.

Вечары праходзілі з вялікім уздымам і посьпехам.

У сьнежні (г. г.) «Узвышша» наладзіла першы свой літаратурны вечар-альманах. Чыталі свае творы: М. Лужанін — поэму «Салімонка» і

А. Мрый — «Апавяданьне Самсона Самасуя». У абгаварэньні прымалі удзел: Сянькевіч, Пушча, Бабарэка, Глебка, Барашка і інш.

М. Лужанін піша поэму «Лёс трактара».

Уладзімер Дубоўка напісаў камбайн «Штурмуйце будучыні аванпосты».

Друкуецца трэцім выданьнем у БДВ зборнік сатыры Крапівы «Крапіва». Таксама друкуюцца ў БДВ тры яго кніжкі ў масавай сэрыі—дзьве кніжкі вершаў і адна прозы.

30 лістападу ў доме пісьменьніка адбылося спатканьне мастакоў г. Менску з пісьменьнікамі. У парадку дня было: 1. Выступленьне «Ромб» з дакладам аб творчых шляхох беларускага выяўленчага мастацтва; 2. Выступленьне загадчыка Галоўмастацтва Наркамасьветы т. Некрашэвіча, пісьменьнікаў, культаддзелу ЦСПСБ, саюзу прац. мастацтва і інш. організацый.

У Доме Пісьменьніка была адчынена невялікая выстаўка выяўленчага мастацтва (творы членаў організ. «Ромб»), прысьвечаныя спатканьню.

Агульны сход пісьменьнікаў г. Менску вызваліў тав. *Коласа* ад абавязкаў старшыні праўленьня Дому Пісьменьніка згодна з яго просьбай у сувязі з перагружанасьцю яго іншай працай. Гэта пасада часова ўскладзена на тав. *Крапіву*.

Складзена спэцыяльная камісія па абароне аўтарскага права (выконваньне выдавецтвам дагавароў, своячасовы адказ на рукапісы, ганарарны закон). У камісію ўвайшлі пісьменьнікі: *А. Звонак. К. Чорны і В. Сташэўскі.*

30 сьнежня г. г. у Доме Пісьменьніка было адсьвяткавана 20-цігодзьдзе літаратурнай дзейнасьці беларускага поэты Алеся Гурло.

У № 51—52 «Нашай Нівы» за 1909 год быў надрукаваны яго абразок (у прозе) «Ласун».

Са сьнежня месяца ў будынку Менскага Дзяржтэатру два разы ў тыдзень будуць адбывацца опэрныя пастаноўкі музтэхнікуму, а таксама беларускага вандроўнага тэатру пад кіраўніцтвам Галубка і концэртныя выступленьні. Першай пастаноўкай музтэхнікуму будзе опэра «Сэвільскі цырульнік» на беларускай мове.

Беларускі вандроўны тэатр першай п'есай паставіць «Зямля кліча».

Колегія НКА зацьвердзіла плян працы дзяржаўных тэатраў на зімовы сэзон 1929/30 году. Першы Дзяржаўны Беларускі тэатр увесь зімовы сэзон будзе працаваць у г. Гомелі.

Другі Белдзяржтэатр і Беларускі Дзяржаўны яўрэйскі тэатр будуць па палове сэзону працаваць у Менску і Віцебску.

Галоўмастацтву даручана высьветліць магчымасьць адначасовай працы абодвых тэатраў у Менску.

У рэпэртуар БДТ—1 уключаны сёлета новыя п'есы: «Салавей»—па аповесьці Бядулі, «Шклозавод»—Лахматага, «Забастоўка»—Бяліны-Падгаецкага і некаторыя п'есы Грамыкі, Рамановіча і Міровіча.

Мяркуецца пастаноўка балету «Сон комсамолкі». У наступным сэзоне будуць зьняты з рэпэртуару 4 п'есы, паміж якімі такія п'есы, як «Крывая аблона» і «Перамога».

9-га сьнежня адбылася скліканая АПА Цэнтральнага Камітэту Комсамолу нарада аб комсамольскай і піонэрскай кніжцы. Такая нарада склікаецца ў Беларусі першы раз. Раней спэцыфічная комсамольская і піонэрская літаратура, тая літаратура, якая патрэбна штодзенна і штохвілінна ў практычнай рабоце комсамольскай ячэйкі і піонэрскага атраду, выдавалася ў нас выпадкова, самацёкам, тыя мізэрныя пляны, якія намячаліся, ня выносіліся на абгаварэньне масы.

Перад нарадаю стаялі дзьве асноўныя задачы: даць установку ў рабоце організаванага ў БДВ юнсэктару і разам з гэтым намеціць круг літаратуры, неабходнай для комсамольцаў і піонэраў у першую чаргу.

Пасьля дакладу аб становішчы беларускай юнацкай і дзіцячай кніжкі тав. Шыпілы, выступалі таварышы: Паваротны (юнсэктар БДВ), Бараш-

ка, Гарбуз П. (рэд. газэты «Піонэр Беларусі»), Маслоўскі (МенАк ЛКСМБ), заг. выд. аддз. БДВ т. Цьвікевіч і інш.

Нарада выказалася за неабходнасьць склікаць ў бліжэйшы час яшчэ некалькі шырокіх нарад з удзелам пісьменьнікаў, пэдагогаў і настаўнікаў па пытаньню дзіцячай кніжкі.

Гэта першая нарада—толькі маленькі пачын у вялікай рабоце па стварэньню юнацкай кніжкі. Каб гэту задачу пасьпяхова выканаць, трэба юнсэкатру БДВ організаваць вакол сябе аўтарскія кадры, прыцягнуць да работы ня толькі тых людзей, што працуюць у Менску, а і працаўнікоў з месц.

Комсамольскія і піонэрскія організацыі павінны ўважліва сачыць за работай юнсэктару, актыўна пашыраць яго выданьні, сваечасова паказваць на дапушчаныя памылкі, даваць парады ў рабоце.

Колегія Наркамасьветы прыняла 5-ці гадовы плян кінофікацыі БССР. Паводле гэтага пляну, прадугледжваецца выпуск Белдзяржкіно 52 мастацкіх фільмаў. Выпуск кіно-хронікі павялічыцца з 10-ці нумароў у год да 24-х нумароў.

У канцы пяцігодкі будзе пабудована кіно-фабрыка.

Сетка кіно-ўстаноў будзе разгорнута так, каб усе найбольш буйныя насельныя пункты і раёны мелі кінотэатры. У Віцебску і Гомелі будуць адчынены курсы на 440 кіно-мэханікаў.

Новыя кіно-тэатры будуць пабудаваны ў Менску, Бабруйску і Воршы.

9 сьнежня ў памяшканьні НКА адбылася шырокая нарада прадстаўнікоў усіх мастацкіх аб'яднаньняў і грамадзкіх організацый па абгаварэньні конкрэтных задач, што стаяць перад мастацтвам у справе популярызацыі пяцігадовага пляну.

СНК прапанаваў Белдзяржбуду на працягу гэтай зімы скончыць распрацоўку ўсіх чарцяжоў, патрэбных для бесьперапыннага ходу работ на пабудове Дому Ўраду.

СНК ухваліў пабудову помніка тав. Леніну перад Домам Ураду.

У Менску па Чырвонаармейскай вуліцы будуецца новы будынак Беларускай дзяржаўнай публічнай бібліотэкі. Будаўніцтва бібліотэкі будзе скончана ў лістападзе 1930 году.

У Баку організавана выстаўка друку нацыянальнасьцяй усяго сьвету. На выстаўцы прадстаўлены друк 182 краін на 147 мовах—у паўтары разы больш, чым на міжнароднай выстаўцы друку ў Кёльне ў 1928 годзе.

Выставачны камітэт зьвярнуўся ў Бел. Акад. Навук з прапановаю прыняць удзел у выстаўцы і прыслаць экспонаты беларускага друку. Акадэмія навук прапанову прыняла.

16 лістападу ў Менску адбыўся ўсебеларускі зьезд працаўнікоў друку. Для ўдзелу ў рабоце зьезду прыяжджаў старшыня ЦБ сэкцыі прац. друку СССР т. Лазар.

Пры Беларускай Акадэміі Навук організуюцца новыя навуковыя інстытуты—гістарычных навук і мовазнаўства. Інстытут гістарычных навук будзе складацца з камісій па гісторыі Беларусі, сусьветнай гісторыі, у сувязі з гісторыяй Беларусі, археографічнай, археолёгічнай і гісторыі беларускага мастацтва.

Інстытут мовазнаўства аб'яднае ўсе ўстановы аддзелу гуманітарных навук, якія займаюцца вывучэньнем беларускай мовы. Дырэкцыя інстытуту мовазнаўства вылучана ў складзе акадэмікаў *Некрашэвіча* і *Лёсіка* і вучонага сакратара праф. *Бузука*.

У 1930 годзе працоўныя БССР будуць сьвяткаваць 10 гадавіну вызваленьня Беларусі ад белапалякаў. Каб увекавечыць памяць усіх тых, хто аддаў сваё жыцьцё за вызваленьне Беларусі ад польскіх акупантаў, Музэй Рэволюцыі распачаў зьбіраньне матэрыялаў, які датычыць рэволюцыйнай барацьбы рабочых і сялян у 1919—1920 г. г.

Беларускі Дзяржаўны Музэй набыў 4 вельмі рэдкія грыўны 10—

11 ст. На грыўнах выбіты славянскі орнамэнт. Грыўны знойдзены ў м. Старобіне.

За даволі кароткі час свайго існаваньня (з 31 жніўня 1923 г.) Музэй стаў вядомы шырокім колам насельніцтва ня толькі ў Менску і яго ваколіцах, але і ўсёй Беларусі. З розных канцоў БССР прысылаюць у Музэй рэчы, якія ўласьнікі лічаць патрэбнымі для Музэю. Асабліва часта пападаюцца скарбы з старых грошай, прылады з каменю (сякеры, малаткі і інш.). У бягучым годзе ў Музэй паступіла 6 скарбаў, з якіх некаторыя складаюцца ў некалькі сот монэт 16—17 ст. Паступіла каля 10 каменных прыладаў і шмат іншых рэчаў. Гэтыя выпадковыя паступленьні маюць вялікую каштоўнасьць для Музэю. Такім шляхам паступаюць часамі вельмі каштоўныя і цікавыя экспонаты. Нядаўна Музэй атрымаў 13 цікавых экспонатаў, якія сабраў настаўнік Гародніцкай школы Сандамірскі сярод насельніцтва м-ка Гарадніцы, Карасьценскага павету. Актыўны ўдзел у гэтым зборы прымалі рабочыя Гарадніцкага заводу, аб'яднаньне саматужнікаў і вучні. Усе рэчы перададзены музэю дарма. 10 красавіка ў Менску знойдзены косьці маманта чэтвэртычнай эпохі, аб чым паведамілі Музэй. Апрача выпадковых паступленьняў, Музэй зьбірае ў плянавым парадку. З кожным годам апошні характар збору набывае ўсё большыя памеры і вагу. Экспэдыцыі мінулага году далі вельмі шмат каштоўнага этнографічнага матэрыялу.

Організован аддзел Сучаснага Беларускага Мастацтва, які плянава папаўняецца па мажлівасьці ўсімі лепшымі рэчамі беларускіх мастакоў. Да гэтага аддзелу выдадзен спэцыяльны праваднік «Сучаснае Беларускае Мастацтва». У гэтым годзе праз Наркамасьветы Музэй набыў цэлы шэраг рэчаў з 3-й Усебеларускай Мастацкай Выстаўкі. Яны часова выдзелены ў спэцыяльную выстаўку. Музэй сабраў ужо многа рэчаў (20.000), ён мае даволі багатыя зборы. Цяпер перад Музэем стаіць цяжкая задача, як лепш выкарыстаць свае зборы, каб агляд іх прыносіў найбольшую карысьць працоўным. На мантыроўку была зьвернута галоўная ўвага (робіцца абсталяваньне, манэкены і інш.). Гэтае пытаньне востра стаіць ня толькі ў нашым музэі, але ва ўсіх музэях СССР.

На апошнім пасяджэньні Навуковае Рады Музэю апошняя пастанавіла лічыць галоўным заданьнем сваёй працы распрацоўку новых прынцыпаў пабудовы музэю. З гэтай мэтай пры бібліотэцы музэю організуецца аддзел музэйнага будаўніцтва. Аддзел гэты ставіць сваёй задачай зьбіраць і вывучаць усё зробленае па музэйнаму будаўніцтву да гэтай пары на тэрыторыі Беларусі, а з другога боку ўважліва сачыць за сучаснай літаратурай па музэйнаму будаўніцтву.

Гэтую вялікую працу музэй можа пасьпяхова зрабіць толькі тады, калі працоўныя сваёй крытыкай паказалі-б на недахопы, і пастаноўкай запатрабаваньняў дапамогуць музэю ў яго цяжкай працы.

Кожны год праз музэй праходзіць некалькі дзесяткаў тысяч працоўных. Трэба, каб яны ня толькі глядзелі, але і выхоўваліся ў напрамку, патрэбным для клясы пролетарыяту. Роля музэю ў культурнай рэволюцыі не малая і яна патрабуе вялікай увагі.

ЦБ краязнаўства распрацавала 16 экскурсійных маршрутаў па БССР. Экскурсійныя маршруты дэталёва распрацаваны па Аршаншчыне, г. г. Віцебску, Менску і інш. Экскурсійныя маршруты праходзяць па мясцох з прыгожымі ляндшафтамі, дзе ёсьць шмат асаблівасьцяй прыроды, быту насельніцтва і дасягненьняў соцыялістычнага будаўніцтва.

У Аршанскай акрузе ёсьць геолёгічны запаведнік, амаль адзін у СССР. У Барысаўскім раёне, каля возера Пелік, знаходзіцца вялікі запаведнік, у якім захоўваюцца ласі, мядзьведзі, бабры, дзікі і інш. У Гомельскай акрузе вызначаны заказьнікі з бабровых колёній. Гэтыя запа-

веднікі і заказьнікі па багацьцю і рознастайнасьці рэдкай дзікай жывёлы зьяўляюцца адзінымі ў Заходняй і Ўсходняй Эўропе.

Сёлета маюць накіравацца археолёгічныя экспэдыцыі на Бярдыж, Дняпро, у Воршу і інш. месцы, дзе будуць праводзіцца сталыя археолёгічныя досьледы.

Апрача таго, будуць праводзіцца і больш кароткія досьледы — па 3—4 дні.

Каля Бабруйску пры капаньні студні выкрыта крыніца саляных вод. Аналіз паказаў, што на 1 літар вады прыходзіцца 15 грамаў солі. Крыніца можа быць скарыстана для лекавых мэтаў. БАН разам з інстытутам санітарыі і гігіены ў тэрміновым парадку камандыравалі экспэдыцыю ў Бабруйшчыну для геолёгічных досьледаў.

У № 8 чэскай часопісі „Slovansky Pżegleg“, якая друкуецца ў Празе, у аддзеле „literatura, vêda, umeni“ надрукавана паведамленьне аб сьмерці Паўлюка Труса, з кароткай крытыка-біографічнай нататкай аб творчасьці поэты.

# ХРОНІКА УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

Тэрэшчэнка Мікола падрыхтаваў да друку драматычную поэму «Парыж Вэрсаль» і на тую-ж тэму здаў у ВУФКУ сцэнары.

Забела Наталя падрыхтавала і здала ў друк новы зборнік поэзій.

Любчэнка Аркадзь выдаў у ДВУ зборнік новэль пад агульнаю назваю «Вока». Гэтыя рэчы ўжо друкаваліся ў розных пэрыодычных выданьнях, але тут яны сабраны па аднаму прынцыпу: усе яны маюць героямі жанчыну. Назвы іх: «Вертеп», «Образа», «Аповіданьня про утечу»„ Via dolorosa“, «Хінская новэля» і «Два листи».

Кіеўская філія інстытуту Т. Шэўчэнка прыдбала архіў украінскай пісьменьніцы Одаркі Раманавай. У архіве ёсьць рукапісы поэзій і апавяданьняў, лісты, аўтабіографіі пісьменьніцы і ўспаміны яе дачкі. У архіве ёсьць рукапісы яшчэ нідзе не друкаваных твораў, якія даюць цікавы матэрыял да характырыстыкі літаратурнага друку, апошніх часоў мінулага стагодзьдзя.

У сувязі з пашырэньнем попыту на украінскую літаратуру па музыцы, а таксама з пашырэньнем тэхнічнай базы нотадруку, Музсэктар ДВУ пачаў выдаваць творы па ўсіх галінах культасьветнай працы: для клюбаў, для школ, для эстрады, для духавых оркестраў, для оркестраў народных інструмантаў і інш. Цяпер Музсэктар пачаў выдаваць поўныя зборы твораў украінскіх клясыкаў. На працягу пяці год павінны выйсьці зборы твораў: Лысэнкі, Стэцэнкі, Стэпавога, Крыжаніўскага, Дэмуцкага, Леантовіча і інш. Рэдагаваньне даручана вядомым музычным дзеячом.

Музсэктар наладзіў сувязь з выдавецтвам пазамежамі УСРР у справе пашырэньня музычных выданьняў. Усе музычныя выданьні ДВУ маюць, акрамя украінскага тэксту, яшчэ падтэкстаўкі ў іншых мовах, у тым ліку і расейскай.

Выд-ва «Украінски Роботнік» умовілася з расейскімі пісьменьнікамі Нікіфаравым і Серафімовічам аб друкаваньні іхных твораў («Борьба» Серафімовіча і «Бунт»—Нікіфарава), у сэрыі «Романи і повести».

У апошні час попыт на выданьні ДВУ на столькі павялічыўся, што іх даводзіцца выпускаць другімі і трэцімі тыражамі. Найбольшым посьпехам карыстаюцца танныя кніжкі, сярод іх творы—Коцюбінскага, Кірыленкі, Косынкі, Галоўкі, Віньнічэнкі, Шэўчэнкі.

Увосень літорганізацыя «Заходня Украіна» сьвяткуе свой пяцігадовы юбілей. Да яго організацыя выпускае спэцыяльны нумар свайго альманаху.

Пісьменьнік Ільля Узгур напісаў моваю эспэранто рэволюцыйны роман пад назваю «У імя жыцьця». Роман гэты меў вялікі посьпех і перакладзены амаль на ўсе эўропэйскія мовы. Нажаль твор Узгура яшчэ не перакладзены на украінскую мову, хоць аўтар жыве на Украіне, у Крэменчугу. Аўтар вядомы грамадзкі і рэволюцыйны дзеяч, пахаджэньнем рабочы, мае званьне «героя працы».

На бягучы год асыгнавана ў распараджэньне Укранавукі 10 тыс. руб. Утвараецца фонд, які пойдзе на рэчы мастацтва, музэі, карціны, помнікі старыны, бібліотэкі і інш.

Пэўная сума з гэтага асыгнаваньня пойдзе на прыдбаньне ад прыватных

грамадзян малюнкаў, лістоў і кніжок з аўтографамі Т. Г. Шэўчэнкі.

У камісію па вывучэньні гісторыі старадаўнасьцяй украінскай літаратуры ВУАН паступілі надзвычайна каштоўныя новыя тэксты літаратурных помнікаў—«Жалоба нищих» і «История семи мудрецов». Гэтыя помнікі цяпер вывучаюць.

Гістарычны адзел ВУАН выдаў зборнік «Стэпова Украіна», гэта матэрыялы агульнага і літаратурнага жыцьця Украіны XIX—XX стагодзьдзя.

Згодна пастановы 1-га аддзелу ВУАН утварылася ў апошні час «Камісія нарматыўнай граматыкі украінскай мовы». У канцы гэтага году камісія распачне выдаваць часопіс «Украінскае слова».

У Кіеве працаўнікі друку і пісьменьнікі распачалі організацыю дома друку. Усеукраінскі Камітэт Друкароў і Бюро сэкцыі друку далі для гэтага ўжо 3500 руб. Дом зьмяшчацца будзе ў колішнім клюбе кіеўскай колегіі абаронцаў. Організацыйная камісія праводзіць запіс членаў. Дом у пляне працы мае таксама працу сярод рабкораў і членаў рабочых літаратурных гурткоў.

У Кіеў прыехаў нямецкі народны настаўнік Ганс Рэмэр, які зьбірае на Украіне народныя бытавыя песьні. Ён сабраў ужо каля 600 песень. Увесь гэты матэрыял ён будзе выдаваць асобных зборнікам.

У верасьні м-цы г. г. у Музэі Рэволюцыі ў Кіеве адкрыты новы аддзел—«Тюрьма, каторга и засланьня». Аддзел мае дужа багата матэрыялаў, асабліва з жыцьця кіеўскіх вязьняў.

У раёне Нікопаля ёсьць дужа багата скіфскіх магіл. Тут, па словах Герадота, жылі ўарскія скіфы, тымчасам, як скіфы — хлебаробы жылі ўздоўж Ніжняга Дняпра ў Богу. Раскопкі нікопальскіх магіл заўжды даюць багаты археолёгічны матэрыял. Вывучэньне гэтага матэрыялу дае магчымасьць азнаёміцца з жыцьцём народаў, што вандравалі ў Надднястроўскіх стэпах. Напрыклад, раскопкі вядомай «Чартамліцкай магілы» ўзбагацілі навуку надзвычайна каштоўным укладам. Тут была знойдзена вядомая «Нікопальская» ваза з малюнкамі з жыцьця скіфаў. Гэтыя малюнкі адзіныя ў сьвеце, якія даюць магчымасьць меркаваць пра жыцьцё скіфаў. 15 чэрвеня г. г. дырэктар Нікопальскага музэю т. Валошын разам з упаўнаважаным па справе аховы помнікаў старыны т. Карановым зрабілі раскопкі скіфскай магілы ў прадмесьці Нікопаля—Лапыці, пры чым раскопвалі магілы вучні мастацкай школы. Раскопкі далі дужа цікавыя вынікі. Пасярэдзіне магілы быў знойдзены шкілет скіфа, а ў кутох магілы яшчэ тры іншых шкілеты. Каля шкілетаў былі знойдзены абломкі і чарапкі хатняга спрату.

Усе знойдзеныя ў час раскопкі рэчы і косьці знаходзяцца ў Нікопальскім музэі.

У раёне Усатава (каля Адэсы) праводзяцца археолёгічныя раскопкі. Кіруе раскопкамі профэсар Балотэнка. Першыя дні працы паказалі, што, акрамя раней вынайдзенага высечанага ў склепе калідору, былі і іншыя, якія стасуюцца да другога тысячагодзьдзя да нашай эры. У бліжэйшыя дні пачнуцца раскопкі двух новых курганаў.

Камянец-Падольскі гісторыка-археолёгічны музэй узбагаціўся новаю надзвычайна цікаваю вынаходкаю— каменнаю труною нэолітычнай эпохі, якая мае вялізную каштоўнасьць для археолёгаў і антрополёгаў. Труну знайшлі ў сяле Кульчыўдах на Камянеччыне.

Труна абкладзена грубымі плітамі сармацкага вапняку. У труне быў чэрап чалавека, каля яго шліфаваная сякера, а пасярэдзіне труны гаршкі, чарапкі посуду і інш. Каштоўнаю вынаходкаю зьяўляецца кавалак чарапка пасудзіны з тыпічным для трыпольскай культуры орнамэнтам.

Аддзел этнолёгіі Музэю Антрополёгіі і Этнолёгіі пры ВУАН устанавіў новыя мэтоды дасьледваньня быту

насельніцтва, заснаваўшы па ініцыятыве А. І. Анішчука першую навукова-дасьледчую этнографічную станцыю ў с. Старасільні. Здабыткі працы выстаўлены ў спэцыяльным аддзеле (аддзел монографічнага досьледу сяла) гэтага музэю.

Галоўнавука СССР, зацікавіўшыся гэтымі мэтадамі, паслала ў Кіеў вядомага спэцыялістага, кіраўніка габінэту краязнаўства ў Маскве проф. М. Фенаменава азнаёміцца з працамі гэтай установы (музэю), каб гэтыя мэтоды прывесьці ў жыцьцё ў іншых рэспубліках Савецкага Саюзу.

Увосень г. г. у Кіеў прыяжджала з Масквы і Ленінграду экскурсія этнографаў, студэнтаў і краязнаўцаў, каб азнаёміцца з гэтымі мэтадамі на месцы.

Кіеўская карцінная галерэя вядзе падрыхтоўчую працу па організацыі выстаўкі «Мистецтва ў побуті». Гэта выстаўка мае на мэце паказаць узровень мастацкіх густаў рабочых і сялян. На выстаўцы будуць—малюнкі, скульптура, рэзьбярства і інш.

Адбылася нарада прадстаўнікоў музэю мастацтва пры ВУАН. Ухвалена пашырыць музэй організацыяй новага аддзелу заходня-эўропэйскага мастацтва. Адначасова ўхвалена ўзмацніць у музэі аддзел мастацтва Ўсходу.

Вядомы украінскі мастак К.О. Трутоўскі пры жыцьці карыстаўся вялікай популярнасьцю, але нязначная частка яго карцін трапіла ў музэі. Ва Ўсеукраінскім Гістарычным Музэі імя Шэўчэнкі з твораў Трутоўскага ёсьць—14 карцін аліваю і 152 малюнкі акварэльлю, алоўкам і пяром, якія выяўляюць тэматыку і своеасаблівую манеру мастака.

У апошні час музэй узбагаціўся яшчэ нізкаю цікавых і каштоўных твораў Труткоўскага. Сярод іх адзначаюцца—альбом з зарысоўкамі краявідаў Кіева і эскізамі мясцовасьцяй каля Кіеўскай лаўры. Між рысункамі на асобных аркушах—этуды і варыянты да карцін, як «Масьленица», «Хворий і сліпа мати» (Севаст. Карцін. Гал.), «Хоровод у Курскай губэрні». (Трэцякоўская гал.), за якую мастак атрымаў годнасьць акадэміка і інш. Цікавы працы, зьвязаныя з жыцьцём самога мастака, і што надзвычайна характэрна для Труткоўскага, працы з выразна грамадзкім ухілам, напрыклад, «Пани и работники в поли», «Сільське начальство відвідуе школу», і інш.

Акрамя малюнкаў, у музэй перададзена яшчэ тры этуды аліваю, некалькі літаграфій, сярод іх дужа цікавая ілюстрацыя да «Бахчисарайского фонтана» Пушкіна, нарэшце нізка фот. здымкаў з карцін Труткоўскага, якія даюць багаты дапаможны матэрыял для студыяваньня творчасьці мастака.

Дзяржаўная украінская опэра (Харкаў) у першым цыкле дасьць тры новых пастаноўкі — балет Оранскага «Футболіст» у пастаноўцы Форрэгера, афармленьне А. Пятрыцкага, новая украінская опэра Вахняніна «Купало», пастаноўка Каргальскага, афармленьне А. Пятрыцкага.

У другім цыклі пойдуць гэткія прэм'еры: новая орыгінальная опэра Ляташынскага «Золотий абруч», напісаная па аповесьці І. Франка «Захар Бэркут», новы украінскі балет М. Вярыкоўскага «Весьняна казка», опэра «Машинист Гопкіно» Макса Бранта. З старога рэпэртуару ідуць: «Аіда», «Кармэн», «Турандот», «Русалка» і інш.

Пад кіраўніцтвам рэжысэра Форрэгера пры опэры працавацьме балетная і экспэрымэнтальная опэрная студыя.

Пры Чырвоназаводзкім тэатры мяркуецца організаваць гурток рабкораў-рэцэнзэнтаў для асьвятленьня жыцьця тэатру і асобных пастановак у заводзкіх насьценных газэтах.

У рэпэртуары тэатру на сягоньня— новая п'еса І. Мікітэнкі «Дыктатура», Я. Мамонтава—«На каменьні горить», Первамайскага—«Комольці», Хаткевіча—«Слово о полку Ігоревом», Кіршона—«Місто вітрів».

Композытар К. Багуслаўскі здаў у ДВУ дзіцячую опэру—«Казак Андрійко».

Нядаўна композытар адсьвяткаваў 10-я ўгодкі сваёй музычнай дзейнасьці.

К. Богуслаўскі атрымаў запрашэньне з Масквы на пасаду дырэктара украінскай капэлі і украінскай драмстудыі, якія організаваны ў Маскве.

Композытор Юлі Мэйтус закончыў другую сюіту для сымфонічнага оркестру—«На Дніпрельстані». Сюіта складаецца з 6 частак, якія характарызуюць асобныя моманты ў гісторыі Дняпра. Сюіта будзе выканана ў адным з першых сымфонічных концэртаў Укрфіла ў г. Харкаве.

У час свайго гастрольнага падарожжа тэатр ім. Франка наведваў Харкаў, Сумы і Днепрапятроўск.

Найвыдатнейшыя моманты гастрольнага падарожжа зьняты для кіно.

На пашыраным пленуме мастацкай рады Адэскай Дзярждрамы пісьменьнік І. Мікітэнка зачытаў сваю новую п'есу «Диктатура». Прысьвечана яна адной з найпякучых проблем нашага часу—узаемаадносінам паміж горадам і вёскаю.

Гэтаю зімою мінае 10 гадоў з часу існаваньня тэатру імя Франка. У Кіеве ўрачыста сьвяткавацьмуць гэты юбілей.

Віньніцкі АВК перадаў тэатру імя Франка Віньніцкі тэатр для эксплёатацыі ў працягу году і дае тэатру 25000 руб. датацыі. Тэатр ім. Франка мяркуе заснаваць у Віньніцы другі тэатр таго-ж імя. Тэатр гэты будзе абслугоўваць Правабярэжжа.

У часе свайго падарожжа тэатр імя Франка наладзіў цесную сувязь з Ленінградзкім тэатрам рабочай моладзі. У працягу гэтага сэзону абодвы тэатры будуць абменьвацца п'есамі.

Укрфіл атрымаў праз прадстаўніцтва Цэнтрпасрэдраб мастацтва (у Бэрліне) паведамленьне пра запрашаньне А. Маргуляна (у сьнежні м-цы) на шэраг концэртаў (Бэрлін, Франкфурт, Кельн), у програму якіх увойдуць творы украінскіх композытараў.

У Харкаў прыяжджала з Кіева кіно-экспэдыцыя групы Дольскага, якая зазьняла фільм пад назваю «Сталіца Украіны». Зьняты будынак ВУЦВК і іншыя наркаматы.

Разам з перасяленскім аддзелам НКЗ ВУФКУ рыхтуе экспэдыцыю на «Зялёны Клін» для здымкаў быту і гаспадаркі украінскіх перасяленцаў на Далёкі Ўсход.

У канцы жніўня вярнулася з Дніпрэльстану група рэж. А. Кордзюка, якая здымала на парогах сплаў плытоў. Група некалькі тыдняў праяжджала парогі на плытох і на чоўнах. Зьняты таксама і агульныя моманты працы на Дніпрэльстане. Фільм пакажа дыфэрэнцыяцыю сяла і распад старой вёскі праз зьнішчэньне парогаў, а з імі і лоцманскага рамяства. Галоўную ролю старога лоцмана Ковбоня грацьме карыфей укр. тэатру—артысты Мікола Карпавіч Садоўскі.

Антырэлігійны фільм пад назваю «Домина чудес», пабудаваны па падзеях 1923-24 г. на Падольлі, па сцэнарыю А. Рутэра—ставіць рэжысэр Я. Пячорык. Сцэнары зачытваўся перад колектывам упраўленьня Паўднёва-Заходніх чыгунак у Кіеве і быў аўдыторыяй ухвалены.

На Кіеўскай кінофабрыцы пачалі свае пастаноўкі рэжысэры опэратары: Г. Александраў—«Зернові фабрики», В. Цэйтлін — «Машынатрактарныя станцыі», П. Гарбэнка — «Торф». Падрыхтоўваюць тэму «Сільськогаспадарське машинобудівництво на Україні».

У пачатку верасьня ў Кіеве адкрылася выстаўка мастакоў-самавучак, якую організавала асацыяцыя філётэлістых. Выстаўка ў огуле стварае глыбокае ўражаньне.

Выдавецтва «Культура», якое дагэтуль было унівэрсальным, выдавацьме цяпер выключна дзіцячую літаратуру. Асноўным выданьнем будзе дашкольная багатафарбовая літа-

ратура: кніжкі — малюнкі, іх выдавацьмуць на двух мовах—украінскай і расійскай.

Акрамя дзіцячых кніжак, намячаецца выпуск дзіцячых гульняў, кубікаў і інш.

У апошнім нумары Праскага часопісу „Slavische Rundschau" («Славянскі агляд») шмат месца аддадзена навуковаму жыцьцю Украіны: зьмешчаны артыкул Пасьцернака пра археолёгічныя досьледы ў Галіччыне, дадзена хроніка культурнага жыцьця Украіны і дакладная бібліографія украінскіх навуковых і пэрыодычных выданьняў за 1929 год.

Нямецкая часопісь „Die Literatur" (№ 11) прысьвячае артыкул дзесяцігодзьдзю Дзяржвыдавецтва Украіны. У артыкуле адзначан нячуваны тэмп разьвіцьця выдавецтва ў цяжкіх экономічных абставінах, падаюцца дзеякія статыстычныя даныя пра колькасьць выданых кніжак з асобных галін літаратуры, пра пашыранасьць некаторых выданьняў.

У № 6 армянскай газэты «Кармір Угі» («Чырвоны шлях»), што выходзіць у армянскай колёніі ў Харкаве зьмешчаны артыкул Лебледжана «Украіна»—кароткі агляд украінскай сучаснай поэзіі і яе значэньне.

У № 8 гэтай газэты зьмешчан пераклад з Шэўчэнкі «Заповіт». Пераклаў т. Гопікян.

Армянскі літаратурна - грамадзкі часопіс «Нор Угі» («Новы шлях»), што выходзіць у сталіцы Армянскай рэспублікі ў Эрывані, прысьвячае багата месца украінскай літаратуры, асабліва поэзіі.

У «Нор Угі» № 4 за красавік г. г. зьмешчаны пераклад поэзій Паўлы Тычыны: «На майрані...», «Енгармонійне», «Лісты да поэта», «Десь надходила восень». Пераклады належаць вядомаму армянскаму поэту Ованэсу Ованісяну.

Грузінскі часопіс «На рубеже востока» пачаў зьмяшчаць хроніку украінскага культурнага пераважна літаратурнага жыцьця.

У г. Вініпэзе (Канада) выдаецца на украінскай мове газэта «Українські робітничі вісті». Газэта выходзіць тры разы ў тыдзень.

Там-жа выходзіць ілюстраваны часопіс (два разы ў месяц) «Робітниця», ілюстраваны популярна-навуковы, літаратурны часопіс «Світло» (The Light).

Сэкцыя моладзі пры Украінскім Рабочым Фэрмэрскім доме ў Канадзе выдае штомесячны часопіс «Світ молоді».

У Бэрліне выходзіць непэрыодычна, на правох рукапісу бюлетэнь для членаў культурнаасьветнага аб'яднаньня украінскіх рабочых у Нямеччыне пад назваю «Воля».

У Буенос-Айрэсе выходзіць некалькі разоў на тыдзень газэта «Пролетар»—орган Саюзу украінскіх рабочых організацый у Аргентыне.

У Парыжы 15 ліпеня г. г. вышаў першы нумар Весьніка саюзу украінскіх грамадзян у Францыі. Заданьне Весьніка, як відаць з перадавой «До наших читачів»—высьвятляць усебакова розмаітае жыцьцё «СУГУФу». Весьнік аддае сваю ўвагу таксама і жыцьцю братніх украінскіх організацый, асабліва жыцьцю украінскай працоўнай эміграцыі. Выходзіць два разы на месяц.

У Балце адбылася першая конфэрэнцыя малдаўскіх пісьменьнікаў «Рэсуры». «Рэсуры»—адзіная організацыя, якая яднае ўсіх прадстаўнікоў маладой малдаўскай літаратуры. Конфэрэнцыя адзначыла рост малдаўскай літаратуры. Значна вырас і павялічыўся літаратурны маладняк. Часопісь на малдаўскай мове «Малдаўская літаратура» мае каля 7000 падпісч.

# КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА РСФСР

Матэ Залка піша роман «Кометы возвращаются». Тэма роману—роль эўропэйцаў у расійскай социяльнай рэволюцыі і грамадзянскай вайне. Роман выйдзе ў Выд-ве «Маладая гвардзія».

Сяргей Клычкоў канчае роман «Серый барын», апошнюю частку трылогіі «Сорочье царство». У выдавецтва «Федэрацыя» выходзіць сёмая кніга яго вершаў пад назваю «В гостях у журавлей».

У ГІЗе выходзіць новая кніга вершаў М. Галоднага. У выдавецтве «Федэрацыя» — зборнік яго аўтобіографічных вершаў. Цяпер М. Галодны працуе над поэмай «Романтическое путешествие».

У Маскве знаходзяцца поэт-гарняк Джо Корры (Шатляндыя), рэдактар профэсыянальнай газэты «Іоркер» Боб Эльсіс і рэдактар славацкай часопісі «Даб» («Народ») Клімэнтыс.

15 лістапада адбылося ўрачыстае адкрыццё мэморыяльнай дошкі, прымацаванай да дому № 15 на Раждзественскім бульвары, дзе радзіўся ў 1745 годзе і жыў да 1763 г. Д. І. Фонвізін. Мэморыяльная дошка ўстаноўлена ленінградзкім саюзам дрампісьменьнікаў і сэкцый т-ва вывучэньня «Старой Масквы». На ўрачыстасьці адкрыцьця дошкі з прамовамі выступалі прадстаўнікі гэтых двух таварыстваў.

Пісьменьнікі: В. Казін, В. Лугоўскі, К. Мінаеў, С. Громан друкуюць кнігу—«Першая пісьменьніцкая брыгада на Урале», пра першую сваю паездку на Урал, дзе яны дасьледвалі 20 заводаў, 5 капальняў, знаёміліся з тэхнікаю вытворчасьці, новым будаўніцтвам, соцыялістычным спаборніцтвам, вынаходніцтвам, культурным і экономічным становішчам рабочых на Урале.

.У выдавецтве «Акадэмія» выходзіць двохтомная монографія «Мэйерхольд», напісаная Н. Д. Волкавым. Гэта гісторыя ўсей тэатральнай дзейнасьці Мэйерхольда, ад пачатку яс ў дзевяностых гадох да нашых дзён. Аўтар выкарыстаў, як друкаваныя матэрыялы, так і ня выдадзеныя дакуманты.

З гэтага году сэкцыя літаратуры мастацтва і мовы Комуністычнай Акадэміі распачынае выдаваць «Гадавік літаратуры і мастацтва». Гадавік мае 5 частак: літаратура, тэатр, кіно, выяўленчае мастацтва, музыка. Заданьне гадавіка сачыць за разьвіцьцём мастацтва, аналізаваць тэндэнцыі яго і побач з тым даваць шырокую інформацыю аб пытаньнях літаратуры і мастацтва.

У Маскву вярнулася з кіргіскай рэспублікі экспэдыцыя навуковай асоцыяцыі ўсходазнаўства пад кіраўніцтвам т. Сьмірнова; дасьледжаны вандроўныя і аселыя раёны. Асабістая ўвага зьвернута на народы, якія прышлі сюды з заходняга Кітаю ў 1921 г.: дунганы і уйгуры. Па рэлігіі дунганы мусульмане, але бытам—кітайцы, хоць становішча жанчын вызначае ў іх каран.

Паўла Лойкаў—Лясьняк выпусьціў у выдавецтве «Федэрацыя» роман «Голубой дым». У чарговым зборніку «Недра» друкуецца яго новая аповесьць «Сотворение земли». У «ЗИФе»выходзіць зборнік апавяданьняў «Клином в землю».

Е. Віхроў працуе над зборам апавяданьняў пад назваю «Радость».

У выд-ве «Недра» друкуецца яго кніга «Палех».

Эдуард Багрыцкі піша п'есу ў вершах для тэатру ім. Вахтангава пад назваю «Кронштадт».

Юры Вярхоўскі канчае кнігу «Анна Петровна Керн, ее жизнь, ее друзья». У аснову кнігі пакладзена багата яшчэ ненадрукаванага матэрыялу. Акрамя таго, Вярхоўскі падрыхтаваў да друку зборнік «Разные статьи о Пушкине» і «Очерки истории гражданской поэзии» (до Некрасова).

Савкіно праводзіць інтэнсыўную падрыхтоўчую працу да вытворчасьці і дэманстрацыі гукавых фільм. Ленінградзкая кіно-фабрыка пачала будаваць спэцыяльнае атэльe для гукавых фільмаў і ўвяла ў плян нізку гукавых фільмаў. Першы гукавы фільм пойдзе «Города и годы» (па вядомаму роману Федзіна).

Татарскае дзяржаўнае выдавецтва распачынае пабудаваньне ў Казані вялікага «Палацу кнігі». Проэкт ужо зацьверджаны адпаведнымі інстанцыямі. Палац будзе каштаваць некалькі мільёнаў рублёў. Ён зьмяшчацьме ў сабе рэдакцыі ўсіх татарскіх газэт і часопісаў, што выходзяць у Казані, увесь апарат Татвыдавецтва, з усімі яго аддзеламі, друкарнямі, рабочы клюб з вялікаю колькасьцю пакояў і вялікай саляй.

Усходні пэдагогічны інстытут у Казані абраў профэсарам катэдры татарскай літаратуры вядомага літаратуразнаўцу Абдрахмана Саадзі. Гэта пасьля рэволюцыі ўжо трэці профэсар, абраны з татар.

Татарскі поэт Алтанлі (Гейх—Задэ) рыхтуе да друку вершаваны роман «Хіжак» з жыцьця студэнтаў. Вышла з друку асобным выданьнем яго поэма «Трактар», якая атрымала першую прэмію на конкурсе да дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі.

Цэнтральны Савет «Кузницы» зацьвердзіў дзьве новыя свае групы: у Растове-на-Дану, пад назваю «Молот» і ў горадзе Зіноўеўску—«Южная кузница», якая аб'яднала маладых пісьменьнікаў.

Група цыганскіх пісьменьнікаў пры «Кузнице» «Ромэнгіро Лав» выпусьціла ў Цэнтрвыдаце дзьве масавыя кніжкі апавяданьняў і нарысаў Н. Панкова—«Кэбуты и джинаибэн» («Да працоўнага жыцьця») і А. Германа — «Нэво Джиибэн» («Новае Жыцьцё»).

Мікалай Ціханаў працуе над сэрыяй дробных апавяданьняў, прысьвечаных савецкаму Закаўказьзю.

Юры Лібедзінскі скончыў роман «Рождение героя» («Любовь Шорохова»), які будзе надрукаваны ў «Октябре».

Міх. Зошчэнка скончыў аповесьць «Сирень цветет», якая будзе надрукована ў № 1 штомесячніка «Альманах».

Роман С. Алымава «Нанкин род» выходзіць у выд-ве «Пролетары» другім выданьнем. Тав. Алымаў канчае роман «Полоса отчуждения» на тэму аб конфлікце на К. У. чыгунцы, узаемаадносінах мукдэнскіх генэралаў з імпэрыялістымі і рабоце савецкіх прадстаўнікоў у Манчжурыі.

Яўрэйскі пісьменьнік Арон Гурвіч піша па прапанове Цэнтрвыдату свае мэмуары пад агульнай назвай «В кругу времен». Мэмуары ахопліваюць пэрыод часу ад пачатку 40 г.г. да нашых дзён. Адначасна мэмуары выйдуць з друку на расійскай мове.

Ул. Лідзін напісаў роман «Битва». Роман выходзіць асобным выданьнем у Дзяржвыдаце. П'еса «Океан», таго-ж аўтара, рыхтуецца да пастаноўкі ў Ленінградзкім перасоўчым драматычным тэатры.

Ус. Іваноў скончыў аповесьць «Путешествие в страну, которой еще нет». Аповесьць будзе надрукована ў першых нумарох часопісі «Красная Новь» у наступным годзе.

Сібірскі аддзел ФОСП намеціў організаваць шэраг сходаў літорганізацый Сібіры з дакладамі: «Пяцігадовы плян народнай гаспадаркі і задачы пісьменьнікаў», «Аб Рэфе і літаратурных групоўках» і інш.

У бліжэйшы час Сібірскі аддзел Федэрацыі прыме ўдзел у організацыі і выпуску літстаронак пры краевых

і акруговых газэтах. Акрамя таго, будзе наладжана сувязь з радыё-газэтай.

Для пачынаючых рабочых—драматургаў і крытыкаў МАПП арганізаваны агульнагарадзкія гурткі. Пры рэдакцыі часопісі «На литературном посту» будзе працаваць крытычны гурток і пры новай часопісі РАПП «Рост»—гурток рабочых, якія пішуць нарысы.

Спаўняецца дваццаць пяць гадоў літаратурнай дзейнасьці поэта Арсенія Альвінга—перакладчыка Бодлэра, рэдактара кнігавыдавецтва «Жатва» (1901—1916), аўтара нядаўна выпушчанай аповесьці «Наденька Артенева». Альвінг зьяўляецца таксама дасьледчыкам творчасьці Інакенція Аненскага. Акрамя таго, ім напісаны шэраг п'ес для сялянскага тэатру.

Сэкцыя драматургаў МОДПИК вядзе падрыхтоўчую працу па скліканьні Ўсесаюзнай конфэрэнцыі драматургаў.

Цэнтральны Савет Усерасійскага Таварыства сялянскіх пісьменьнікаў заключыў умоў з выд-вам «Земля и Фабрика» на выданьне кніг па сэрыі «Новинки крестьянской литературы». У кароткі тэрмін рэдакцыя сабрала шэраг цікавых і значных прац, якія хутка будуць выданы.

Разам з сэрыяй «Новинки» ВОКП організавана выданьне свайго «Альманаху» з мэтаю азнаямленьня савецкага чытача з вялікім уздымам сялянскай літаратуры.

У 1930 годзе часопісь «Молодая Гвардия» будзе выходзіць два разы ў месяц, у новым афармленьні.

Паўла Максімаў (член растоўскай АПП) падрыхтаваў да друку кнігу нарысаў «Кавказ Советский». Кніга прынята ГИЗ-ам для бібліотэкі «Наши достижения».

С. Новікаў рыхтуе да друку аповесьць «Рабінавая ноч». У выд-ве «Федэрацыя» вышла яго аповесьць «К нечаянным берегам».

Стары сялянскі поэта С. Дрожжын скончыў трэцюю частку сваіх дзеньнікаў. Усе тры часткі дзеньніка ахапляюць больш 60 год яго творчай дзейнасьці. Акрамя таго, т. Дрожжын падрыхтаваў некалькі зборнікаў сваіх песень і працуе над успамінамі аб поэце І. З. Сурыкаве.

Дзяржвыдат выпускае зборнік вершаў Ал. Жарава аб соцыялістычным спаборніцтве, пад назваю «Великое состязание». Там жа выходзіць асобным ілюстраваным выданьнем поэма «Сантиментальный друг». У выд-ве «Пролетарий» выходзіць кніга для дзяцей «Чудесная шкатулка».

Выданьне Ленінскіх твораў і популярных брошур пра Леніна і ленінізм на мовах народаў СССР Цэнтр. Выдвам пачалося ў 1925 годзе. Выданы выбраныя творы Леніна і тэматычныя зборнікі на некалькіх перадавых і літаратурна-багатых мовах. Найпаўней выдана Ленінская літаратура на польскай мове. На другім месцы стаіць яўрэйская мова, на якой выпушчана 6 томаў (38) выбраных твораў Леніна, 3 тэматычныя зборнікі і 8 іншых кніжак.

Літаратура пра Леніна і ленінізм выдана такімі мовамі, як ойрацкая, асецінская, карачаеўская, інгуская і інш. У 1929 г. упяршыню будзе надрукавана популярная брошура пра Леніна на кітайскай мове.

# КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА ЗСФСР

## Грузія

Пры галоўнавуцы Наркамасьветы Грузіі організаваны камітэт па наладжаньні выстаўкі карцін вядомага грузінскага мастака Ніко Піросмані. Адкрыцьцё выстаўкі адбудзецца ў Тыфлісе, потым яе перавязуць у Маскву. У склад выстаўкі ўвойдзе 150 карцін.

Па ініцыятыве галоўмастацтва пры Наркамасьвеце Грузіі організавана таварыства грузінскіх драматургаў, композытараў і тэатральных дзеячоў. Мэта яго—абараняць аўтарскія інтарэсы і спрыяць разьвіцьцю мастацтва.

Дзяржаўнае выдавецтва Грузіі выдала кнігу поэзій Йоні Вакэлі.

Вышаў з друку новы роман Д. Кафадзе «Кетры».

Выдавецтва «Шрома» выпусьціла кнігу поэзій К. Лордкіпарыдзе пад назваю «Нове». У гэтым-жа выдавецтве вышла яго апавяданьне «Першая маці».

Выдавецтва «Шрома» надрукавала зборнік поэзій Карла Каладзе.

У выніку соцыялістычнага спаборніцтва на фабрыцы Дзяржкінпрома Грузіі значна павялічылася продукцыя кіно лябораторыі фабрыкі, якая цяпер выпускае 13000 мэтраў плёнкі ў дзень.

Дзяржкінпром Грузіі выпускае культфільму «Кліч зямлі»—на тэму аб соцыялістычным спаборніцтве паміж вясковымі колгасамі і аб паходзе комсамолу за ўраджай.

18 сьнежня спаўняецца 80-годзьдзе з дня нараджэньня грузінскага пісьменьніка Нікашвілі (Інгороква).

У Баку канчаецца здыманьне карціны «Сустрэча». Экспэдыцыя ў хуткім часе едзе ў Тыфліс для павільённых здымкаў.

Рэжысэр Галовані распачаў здыманьне новай кіно-комэдыі «Каўкаскі разбойнік» па сцэнарыю А. Беліашвілі. Месца дзеі—Ленінград і Тыфліс. Карціна высьмейвае абыватэльскі погляд на Грузію, як на экзотычную краіну з кінджаламі, папахаю, чаркескаю, буркаю і інш.

У Эрывані 28 верасьня памёр відны армянскі поэт Іоганэс Іоганісян. Уся спадчына поэта складае тры зборнікі лірычных вершаў (орыгінальн. і перакл.). І. Іоганісян зьяўляецца пачынальнікам армянскай школы 1890—1910 г. г., прадстаўнікі якой Туманяк, Цатрак, А. Ісааняк і інш.

Хутка спаўняецца 50-годзьдзе літаратурнай дзейнасьці буйнага пісьменьніка ССР Арменіі Шырванзадзе. (Аўтар популярнага роману «Намус»).

Спаўняецца таксама 35-годзьдзе пісьменьніка Дэр. Дэмірч'ян.

У Тыфлісе вышла літаратурная часопісь, дадатак да газэты «Пролетар», прысьвечаны памяці вядомага армянскага поэты Іоганеса Іоганісян.

Фэдэрацыя саюзу пісьменьнікаў Арменіі вылучыла пісьменьнікаў Ст. Зор'яна і Гургена Махары для культурна-асьветнай і літаратурнай працы на фабрыкі і заводы.

Пісьменьнік Дэмірч'ян вядзе літаратурную працу ў колгасах.

На трэцім пленуме праўленьня АПП Грузіі ўпяршыню быў пастаўлен даклад «Аб літаратуры сучаснай Асэтыі». Тав. Кулаеў даў характарыстыку гісторыі асецінскай літаратуры, якая доўгі час знаходзілася пад уціскам русіфікацыі.

Пленум вынес рэзолюцыю аб прыцягненьні асэтынскіх пролетпісьменьнікаў у асацыяцыю Грузіі. Абмяркована склікаць аб'яднаны пленум паўночна і паўднёва-асэтынскіх пролетпісьменьнікаў. Ухвалена таксама ўжыць захады да перакладу сучасных асэтынскіх пісьменьнікаў на грузінскую мову.

# ЗАМЕЖНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

## Амэрыка

У бэлетрыстычнай літаратуры Амэрыкі не малое месца займаюць жанчыны-пісьменьніцы. Агульная рыса іх твораў—сантымэнтальнасьць, павярхоўнасьць, што перашкаджае ім карыстацца посьпехам. З больш заслугоўваючых увагі романаў можна адзначыць першы твор зусім маладой пісьменьніцы Кацярыны Бруды „Babe Evanson“, які малюе ў рэалістычных тонах аднастайнае, шэрае жыцьцё нью-йорскай стэнографісткі. Своеасаблівы твор надрукавала Джуна Барнс—кіраўніца модэрніцкага руху. Роман мае назву «Райдэр» пра любоўныя прыгоды містэра Райдэра. Потым вызначаюцца: маладая пісьменьніца Вайн Дэльмар, якая напісала кнігу з жыцьця маладой дзяўчыны з буржуазнай сям'і пад назваю „Bad girl“ і пісьменьніца Зона Гэль, аўтар некалькіх романаў з жыцьця Цэнтральнай Амэрыкі, надрукавала кнігу нарысаў пад назвай „Portage Wisconsin“.

Надрукавана новая кніга вядомага амэрыканскага романіста Гэмліна Гарлэнд „Bock trailers from the middle borde“. Роман аўтобіографічнага характару, малюе жыцьцё фэрмэра Цэнтральнай Амэрыкі.

Амэрыканская крытыка з поэтычных твораў адзначае новы збор поэзій аднаго з найвыдатных амэрыканскіх поэтаў Робэрта Фроста „Westrunning brook“. Замест яго—прырода і любоў да яе.

Зьвяртаюць на сябе ўвагу кніга поэм Франка Эрнэста і поэма пра негра-боксэра Дж. Мюнкюра Марга.

250 амэрыканскіх газэт правялі анкету сярод чытачоў найлепшых твораў ангельскай поэзіі. Атрымана 60000 адказаў. На першым месцы стаіць Лонгфелло «Псалём жыцьця». Потым ідуць поэзіі Фосса, Тэнісона, Кіплінга. Але шостая частка ўсіх адказаў падае на філёзофскія поэзіі Лангфелло.

У выданьні „Actio Press“ вышла антолёгія рэволюцыйнай поэзіі. Гэта першая спроба выдаць на ангельскай мове рэволюцыйную поэзію ня толькі ангельскую, але і іншых народаў. У антолёгіі ёсьць пераклады амаль з усіх моў, у тым ліку і з украінскай. Антолёгія складалася на працягу некалькіх гадоў.

Выд-ва Міфлін і часопісь, «Амэрыканскі легіён» устанавілі нязвычайную нават і для Амэрыкі прэмію ў 25000 даляраў за найлепшы роман пра сусьветную вайну. Нядаўна прэмія гэта прысуджана пісьменьніку Вільяму Скенлу (роман «Бог зьмілаваўся над намі») і пісьменьніцы Мэры Лі (роман «Гэта была вялікая вайна»). Абодвы романы носяць яскрава вызначаны патрыотычны характар.

У выд-ве «Боні» вышла невялікая кніжка Жанэты Марке пад назваю «Трынаццаць дзён». На працягу 100 старонак аўтарка дае яскравыя карціны тых 13 дзён, якія правялі Сако і Ванцэці ў камэры сьмертнікаў да іх сьмерці.

## Аўстрыя

У канцы ліпеня г. г. у Вене памёр вядомы поэт Гуго фон Гофмансталь, адзін з найяскравейшых прадстаўнікоў найноўшага нэорамантызму. Гофмансталь—поэт мінулага. Поэзія яго—гэта яднаньне новых сымболяў з вобразамі, запазычанымі ў антычных пісьменьнікаў, або ў Шэкспіра.

## Бельгія

Барацьба навокал цэнзуры, якая ў апошнія гады асабліва гостра разгарнулася ў краіне, увайшла ў новую стадыю. Кампанія «Лігі барацьбы супроць неморальнасьці ў літаратуры і ў мастацтве» з доктарам Вібо на чале мела свае вынікі. Цэлая нізка літаратурных твораў падпала пад арышт па падозранасьці ў парнаграфічнасьці. Але супраціўнікі цэнзуры падалі апэляцыю ў парлямэнт і хутка справа цэнзуры будзе зноў у дэталях абгаворвацца ў пармямэнце.

Пачаў выходзіць новы часопіс пад назваю „Zes Tentatives" («Спробы»), орган рэволюцыйнай моладзі Бельгіі.

## Гішпанія

Пісьменьнікі Люіс Араквістэн і Альварэц дэль Вайо заснавалі новае выд-ва пад назваю „Espana". Аднэю з першых кніг, што выдавецтва выпусьціла—была кніга Мануэля Менэндэс Вальдэс «Сем месяцаў засуджанага на кару сьмерцю». Мануэль Менэндэс Вальдэс інжынэр з Астурыі быў памылкова палічаны за шпіёна ў час сусьветнай вайны і Францыя прысудзіла яго да сьмерці, а праз сем месяцаў сьмерць замянілі на вечную катаргу ў Гвіяні. Адтуль Вальдэсу пашанцавала ўцячы. У прадмове да гэтай кнігі Луіс Араквістэн хадайніцтвам зьвяртаецца да Анры Барбюса з хадайніцтвам пераглядзець усю справу Вальдэса.

З прац гістарычна-літаратурнага характару, што вышлі ў апошнія часы, гішпанская крытыка адзначае, як найбольш вартыя ўвагі, дзьве кнігі: двохтомную працу выдатнага знаўцы старой гішпанскай літаратуры і культуры Рамана Менэндэса Підоля, прысьвечаную літаратуры гішпанскага сярэднявякоўя, і працу новага члена Гішпанскай Акадэміі Аўгустына Дэ Амэсуа, пад назваю „Forma'ion y elemento de la novele cortesana". Гэта невялікая частка агульнай гісторыі гішпанскага роману, над якой працуе Амэсуа.

У сувязі з «Днём кнігі», які праводзіцца ў Гішпаніі, мадрыдская кніжная палата абвясьціла аб выдачы прэміі: 1) за найлепей надрукаваную кнігу; 2) за найлепшую брошуроўку; 3) за лепшы пераплёт. Об'екты конкурсу—кнігі выпушчаныя ў бягучым годзе.

## Італія

У канцы ліпеня г. г. мінула дзьвесьця гадоў з дня нараджэньня вядомага італьянскага пісьменьніка Джузэппэ Парыні. Джузэппэ Парыні адзін з выдатных поэтаў 18 стагодзьдзя. Найлепшы яго твор—«Дзень», дзе аўтар падае маладых людзей з вышэйшай арыстократыі. Парані доўгі час быў настаўнікам у арыстакратычных сем'ях, добра ведаў іх і падаў у сваім творы бліскучую сатыру на іх жыцьцё і звычаі. Вялікае значэньне Парані ў тым, што ён увёў соцыяльны элемэнт у італьянскую поэзію.

Колькасьць літаратурных часопісаў у Італіі павялічваецца. Так, выд-ва «Эроса „Nuovi" (Мілан) распачало выдаваць тыднёвік, прысьвечаны пытаньням літаратуры, мастацтва і тэатру.

У выд-ве „Ins'i'u'io edi'oriale" вышлі першыя нумары пэрыодычнай часопісі, таксама прысьвечанай літаратуры, мастацтву і тэатру.

У выд-ве „Sora" выходзіць тры разы на месяц вялікая літаратурная часопісь „Rivis'a italiaka di le'etratura dialet'ale".

Нядаўна Міланская опэра La Scala адсьвяткавала 150-ы юбілей свайго існаваньня. У дзень юбілею была пастаўлена новая опэра Джурдана «Кароль», якая зрабіла на слухачоў добрае ўражаньне.

«Здарэньнем» у літаратурным жыцьці Італіі зьяўляецца выхад у Мілане сатырычнага роману 23 гадовага Альбэрт Люравіо «Лы Індзіфэрэнці» («Равнодушныя»). У романе ёсьць элемэнты гострай сатыры на пасьляваенную буржуазію і на дэмаралізацыю сучаснай італьянскай мо-

ладзі. Кніга прызнана лепшым раманам у Італії за шэраг гадоў.

Вялікі посьпех кнігі тлумачыцца ў першую чаргу тым, што італьянская мастацкая літаратура знаходзіцца ў стане поўнага застою.

Кніга Рэмарка «На заходнім фронце без перамен» забаронена італьянскай цэнзурай.

### Нямеччына

У сярэдзіне жніўня ў Бэрліне адбыўся міжнародны конгрэс па справе рэклямы. Конгрэс склікаяы з прычыны 25 годзьдзя існаваньня сусьветнага рэклямнага аб'яднаньня. У конгрэсе прымалі ўдзел некалькі тысяч спэцыялістых у справе рэклямы больш як ад 20 краін. Конгрэс ахапіў усе галіны пропаганды: газэтную рэкляму, плякаты, афішы, пропаганду праз радыё, грамафон і інш.

У пачатку жніўня ў Бэрліне памёр на 71 годзе жыцьця вядомы мастак Гайнрых Цыльле. Паходзячы з беднай сям'і, Цыльле зьбярог на ўсё жыцьцё замілаваньне да рабочых ваколіц, і сцэны з іх жыцьця становяць найчасьцей зьмест яго твораў. Адсюль і яго імя—«Мастак Бэрлінскай вуліцы». Галоўная рыса творчасьці Цыльле—жыцьцёвы рэалізм. Часта карціны яго маюць характар сатыры, але сатыры ня злой, з цёплым здаровым гумарам. Адна з улюбёных тэм Цыльле—дзеці, пераважна дзеці з рабочых ваколіц, якіх ён добра ведаў, талянавіта маляваў. Цыльле быў членам Акадэміі Мастацтваў, профэсарам.

„Die Neue Bücherchau" у жнівеньскім нумары падае цікавы матэрыял аб тым, як адбівалася імпэрыялістычная вайна ў нямецкай поэзіі ў пачатку вайны. Акрамя таго, часопіс падае даволі вялікі агляд сучаснай вайсковай літаратуры Нямеччыны.

„Jnversum Bücherei" у Бэрліне ўстанавіла прэмію імя Франца Мэрынга ў 2.000 марак. Прэмію будуць выдаваць кожны год у дзень інтэрнацыянальнага рабочага сьвята 1-га мая за найлепшы твор, пабудаваны на соцыяльнай аснове. Першую прэмію выдадуць 1 мая 1930 г.

У выдавецтве „Nene Deutsche Verlag" вышла цікавая орыгінальная кніга вядомага нямецкага журналіста Курта Тухольскага пад назваю „Deu schland, Deutschland über alles". Гэта нізка фэльетонаў, якія даюць гостры памфлет на сучасную Нямеччыну. Да тэксту дадана багата мастацкіх фотографій.

У Бэрліне пачаў выходзіць новы літаратурна-крытычны часопіс пролетарска-рэволюцыйнага напрамку пад назваю— „Die Links Kurse". У часопісі прымаюць блізкі ўдзел Іоганэс Бэхэр, Курт Клэбэр, Эрых Вайнэрт і Людвіг Рэн. Часопіс выходзіць штомесячна ў «Інтэрнацыянальным рабочым Выд-ве».

Ілюстраваны штотыднёвік „Die Wochein Bild" друкуе цэлую нізку невядомых дагэтуль поэзій Гайнрыха Кляйста, між іншым драматычны фрагмэнт «Бой пры Мюльбэрзе».

### Партугалія

Ня гледзячы на агульны заняпад літаратурнага жыцьця, які пануе ўжо некалькі гадоў, Партугалія ўсё-ж налічвае некалькі выдатных пісьменьнікаў і поэтаў. У поэзіі адно з першых месц належыць Яўгеніо дэ Кастро. Яго найлепшыя творы сабраны ў кнігу пад назваю «Поэтычныя творы». Ня менш таленавіты ад яго Аўгусто Жыль, найхарактэрнейшаю рысаю творчасьці якога зьяўляецца надзвычайная гармонічнасьць поэзіі.

У галіне роману найвыдатныя імёны: Ахвіліно Рыбэйро, Мануэль Рыбэйро, Мануэль Мана і інш. На першым месцы стаіць Аквіліно Рыбэйро, пісьменьнік з яркім рэалістычным стылем. Найлепшы роман яго «Садбур».

Усе гэтыя імёны належаць да старога пакаленьня пісьменьнікаў. Але побач з імі існуе яшчэ і малодшае пакаленьне ў асобе Рэйнальда Фэрэйра.

Марыю Домінгвэз, Фэрэйра дзі Кастро, Пікто Кварцім і інш. Яны зусім мала вядомы пазамежамі Партугаліі, хаця некаторыя іх творы і заслугоўваюць таго, каб быць перакладзенымі на чужаземныя мовы. Але ўся будучыня літаратурнага жыцьця Партугаліі бязумоўна ў гэтым маладым пакаленьні.

### Францыя

У сэрыі «Жыцьцё славутых людзей» вышаў гісторыка-біографічны роман Жана Кассу «Жыцьцё Піліпа II». Крытыка адзначае ў ім таленавітае адлюстраваньне тагочаснай Гішпаніі.

У той самай сэрыі вышла «Жыцьцё сясьцёр Брантэ», мала вядомых ангельскіх пісьменьніц 19 стагодзьдзя, напісанае Жоржам і Эмілем Ромійо.

Поль Валеры напісаў роман пад назваю „Monsisur Teste“.

Вялікі посьпех мае апошняя кніга Анры Міто „Emador“ — карціны падарожжа ў паўднёвую Амэрыку.

Францыс Міомандр скончыў арыгінальны роман з складанаю композыцыяй і з вялікаю колькасьцю пэрсонажаў. Роман называецца „Baroque“ і друкуецца ў штотыднёвіку „Les Nowellez Sitteraires“.

У сэрыі „Gahier Vert“ надрукаваны новы твор П'ера Жан Жува „Le paradis perdu“.

Вышла з друку кніжка «Поэтычных твораў» Жоржа Шэнэв'ера, якую крытыка спаткала дужа прыхільна. Адначасна вышаў яго і прозаічны твор „Le Teur de France“.

Некаторыя францускія поэты пашыраюць свае творы на грамафонных пласьцінках. Вядомы пісьменьнік Андрэ Рывуар рыхтуе цэлую анталёгію францускай лірыкі для грамафонаў.

Прэмія Брыйо ў 300.000 франкаў, якую штогод выдавала француская акадэмія, у гэтым годзе нікому ня прысуджана. Журы сьцьвярджае, што не знайшлося аўтара, які быў-бы здольны напісаць твор, прасякнуты «высокою и благородною идеей». Старыя пісьменьнікі Францыі ўжо стаяць занадта далёка ад «высоких идей».

Выдавецтва Франца Бернар пачало выдаваць поўны збор твораў Эміля Золя ў 50 томах.

### Швэцыя

У адным з швэцкіх выдавецтваў у г. Мальмэ рыхтуецца да друку багата ілюстраваная монографія аб расійскім мастацтве за апошнія 50 гадоў. Гэта выд-ва выдае цэлую сэрыю монографій аб мастацтве розных краін.

Музэй Мальмэ нядаўна набыў карціну Паўлы Кузьняцова, якая дэманстравалася ў Швэцыі на выстаўцы расійскага мастацтва ў 1914 годзе.

### Японія

Японскі тэатр «Цукідцы», заснаваны некалькі гадоў назад драматургам і рэжысэрам Осанаі, прыхільнікам сыстэмы Станіслаўскага, закантрактаваны цяпер, з прычыны нядаўняй сьмерці Осанаі, буйнейшай японскай комэрцыйнай тэатральнай кампаніяй «Своцыку».

«Цукідцы» заўсёды ставіў на сваёй сцэне расійскія п'есы. У большасьці выпадкаў яго пастаноўкі былі копіяй МХТ.

У новы рэпэртуар гэтага японскага тэатру ўключана п'еса С. Трэцьякова «Рычы Кітай». «Своцыку» заклапочана шуканьнем іншых п'ес савецкага рэпэртуару.

Японскі тэатр «Кабукі» рыхтуе ў гэтым сэзоне пастаноўку «Рэвізор» Гогаля.

Рэдакцыйная колегія: **Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот, І. Шыпіла.**

Выдавец: **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

# ЗЬМЕСТ „ПОЛЫМЯ“ № 11—12



**Кнігапіс:**



**Хроніка:**